№2 (87)
/сакавік-красавік/ 2017

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Васіль Зуёнак



...Як быццам і нялоўка,
Але спытаць карціць:
А слоўка – як салоўка, –
Адкуль яно ляціць?..

# Прыходжу да свяцілішча ляснога...

## *СВЕДКА*

Гэты камень калісьці праз тысячы год
Ледзяною дарогай блукаў,
Супыніўся на ўлонні азёрных вод
І мяне цярпліва чакаў...

Каб сказаць скандынаўскаю сагаю мне,
Што на мове азёр загучала:
– Не губляйся: часовае ўсё праміне,
А вось тут, на гэтых прычалах,
Дзе ступіў гаспадарна крывіч на цвердзь,
Дзе народ сваю долю сцвердзіў, –
Над ягонай душою не ўладная смерць:
Час ягоны яшчэ наперадзе!..
Не ўрадніла мінулае рабскіх акоў –
Значыць, будучыня не ўкрадзена! –

Так сказаў мне крамністы сведка вякоў,
Знак жыцця над магілай прапрадзедаў...

## ПРАМЕТЭЙ

Як з неба агонь выкрадаў,
Не ўстрашыў і Зеўс Праметэя:
Жыццё на пакуты аддаў, –
Але ж на зямлі пасвятлее!..

Не ведаў тады Праметэй,
Што грыфаў кіпцюранне лепей
Трываць, чым на сэрцы пустэль,
Як людзі бязмэтна аслепнуць.

Не ведаў ён помсты багоў –
Пакутнейшай самай на свеце:
Ніхто больш не бачыць яго,
А ён – усё свеціць і свеціць...

* * *

*...Дзякуй, яблынька, дзякуй, белая,*
*За казку...*

З даўняга верша “Вясновая казка”, 1964

Яблыня-бабулька,
Гэта ж колькі год
Звон пчаліны гулькаў
Весніх дзён прыход?

Ты не палічыла?
Не лічыў і я:
Скрозь перад вачыма
Ты – вясна мая.

Хоць жыццё і краму
Блытаў лёс-гандляр,
Ты красу да храма
Несла на алтар.

Хто б і што б ні зычыў –
Не рахунак твой
Яблыняй-наймічкай
Быць у краме той.

Яблыня-сястрыца,
Белае крыло, –
Пражылі, як быццам
Нас і не было.

А было ўсё казкай,
Складзенай жыццём:
Зніч нябеснай ласкі, –
А ці дарасцём?..

Што ж, усіх на свеце
Старыць час нямы, –
Застаемся дзецьмі,
Пэўна, толькі мы...

## ПЕЧ

Апроч карчмы Аброма
Я іншых хат не меў,
Пакуль не з'ехаў з дому
І ў горадзе асеў.

Да Мінска быў Барысаў, –
І дзе прытулак знаў,
Я той карчмы абрысы,
Той, купленай, шукаў...

Здаецца, тыя ж вокны
І дзверы ў свет вялі,
З карчомнымі далёка
Зраўняцца не маглі.

Блуканні па кватэрах
Даліся не дарма,
А ўсё, каб я праверыў
Тваё цяпло, карчма.

Тваёй утульнай печы,
З якой ва ўсе бакі
Мне падстаўлялі плечы
І грэлі лежакі.

Па плане генеральным –
Дзівоснай для сяла –
Асобаю цэнтральнай
У хаце печ была.

Стаяла ў цэнтры самым,
А ля яе, вакол,
Як дзеці каля мамы,
Пакоі ўсе вянком.

Як з вышкі назіральнай ,
Было, дазор вяду:
Ці вечарам ці ўранні
Ўся хата навіду.

Глядзі сабе на залу,
На спальню, а часцей
На кухню, што вітала
Прысмакамі гасцей.

Мяне яна таксама
Пакрыўдзіць не магла:
Падкіне штосьці мама
Дарогай да стала.

Лацвей было малому! –
І праз мільён сустрэч
Удзячны я Аброму,
Што мне прыдумаў печ!

### *І Ў СВЕТ СА МНОЙ ЛЯЦІЦЬ…*

Як быццам і нялоўка,
Але спытаць карціць:
А слоўка – як салоўка, –
Адкуль яно ляціць?

Адкуль яно бярэцца,
Дзе мела тайну жыць?
Загадка застаецца,
А слоўка зіхаціць!..

От не было як быццам –
Прасі, шукай, чакай –
І раптам як прысніцца,
Гукне за небакрай, –

За той, неразгаданы,
Дзе я калісьці быў,
Дзе лёс наканаваны,
Ды я аб тым забыў...

А слоўка засмяецца:
Цяпер нам разам быць, –
Да сэрца прыхінецца –
І ў свет са мной ляціць...

### НА РАДАНІЦУ

Як быццам, што трэба – усё на стале,
І ўсё гэтак шчыра і проста – але
Маўчаннем гнятуць незямныя кругі:
Чаму я не там, ля магіл дарагіх...

Я кволай надзеяй сябе суцяшаў,
Што часу і межаў не знае душа,
Што дзверы адчынены ў доме маім,–
І родных прывеціць чаканне таіў.

З малітвай на сцежкі зямныя глядзеў:
Каго ж сёння памяць сюды прывядзе?..
Ці сцежкі не тыя, ці слоў не знайшоў:
Я клікаў дзядоў... ды ніхто не прыйшоў...

* * *

*Куды вецер вее,*
*туды голле гнецца...*
З народнай песні

А вецер вее
ў старонку тую,
дзе днём я днею,
а ў ноч начую.
Дзе я ў тым свеце
заўжды адсутны...
О вецер, вецер,
мой лёс пакутны...
О вецер, вецер,
пазыч мне крылы,–
нясі сустрэцца
да тых магілаў,
дзе ўсё нязменна
ў душы схавана,
на сто каленаў
наканавана.
Што мне абвесцяць –
Я не зламлюся, –
Галінкай весняй
Да іх схілюся.

### І НАЧА, НІБЫ СЦІКС…

Паўзуць такія дні
І шэпчуць па сакрэту,

Што ўжо і ты з радні
Чаргавікам сусвету.

І Нача, нібы Сцікс,
Два берагі сціскае:
Вось тут і перайсці... –
З абдымкаў не пускае.

Тут шлях на бераг той,
Да прадзедаў, – не ў госці,
І ўжо не на пастой,
А ў вечнасць на пагосце...

Не зрымарыш аброць
І час не зацугляеш, –
Прыпынак насупроць,
З беразняковым гаем...

А покуль беражком
Мой цень насустрач рэчцы –
Яшчэ жывы! – цішком
Упобачкі крадзецца.

Ну дык і я правы
Яшчэ на сонца маю:
Цень ходзіць за жывым –
Іначай не бывае!..

Ідзём, нібы статм,
Рака мой цень люляе, –
Як хто ў ваду па ім
Каменьчыкі шпурляе...

* * *

Прыходжу да свяцілішча ляснога,
Нібы пад усявышнія пакровы,–
Шукаць паразуменне і падмогу,
Апірышча, спагаду і ахову.

Як час раўнуе ўзлёты і падзенні,
Так лес руйнуе першабытным гудам
З сусветам і жыццём несупадзенні,–
Сябры сышлі, а ворагаў – забуду...

## ГРОМ ЛІПЕНЬСКІ…

А ліпеньскі гром не бяжыць напралом,
Як непаседа-майскі,
Паважна праходзіць ён гаспадаром
З наказам: “За неба трымайся!..”

Я сам гэта знаю – я з летніх нябёс, –
Якія тут могуць быць жарты?!
Як ты, браце-гром, так зямны мой лёс
Трывалай разважнасці варты.

Ды толькі яе мне шукаць і гукаць
У гэтым раз’юшаным свеце.
І ўсё ж я выходжу цябе сустракаць, –
Мяне ты хоць раз ці прыкмеціў?

Убачыш – увагаю не абмінай,
А там, у вясёлкавай браме,
Сустрэнемся – шчодра тады налівай, –
Гром ліпеньскі, будзем сябрамі!

## ЯШЧЭ І ЯШЧЭ РАЗ – ГРЫБНОЕ

Калі дажджы, нібы шаўкі,
Зашэпчуць, навясныя,
Схоў пакідаюць масլякі,
Разведчыкі лясныя.
        Выходзяць, прыглядаюцца,
        Па ўзгорках пракрадаюцца...

А ўслед за імі – штрафнікі,
Казлы ахвяры, казлякі.
        Хоць на прарыў кідаюцца,
        Ды ўжо ў адсутных маюцца...
А грыб рагаты, грыб “баран”
Ім б’е натхняльна ў барабан...

А там – за ротай рота –
Грыбная йдзе пяхота:
        І падасінавік, і грузд,
        І з рыжыкам зрыжэлым
        Валуй, нібы на лобе гуз,
        На ўзлобку затравелым,
        І падбярозавікаў строй,
        І махавік плячысты,
        І гурт лісічак – хто сястрой,
        Хто баявой радысткай...

Калі ж адбухаюць грамы,
Развеецца куродым,
Тут самы час – “А от і мы!” –
Дзяліць узнагароды:
    Тылавікі-баравікі,
    Паголеныя, сытыя,
    І мухаморы-штабнікі,
    Нікчэмна-знакамітыя...
Выходзяць моўчкі з бліндажоў,
Каму за прадзеда Яжоў,
Каб выставіць адзнаку,
Хто як трымаў атаку:
Ці пад агонь ірваўся,
Ці бег і азіраўся...
Службіст! Ды стан ягоны
Не выдаюць пагоны:
То ён казляк, то шампіньён,
То выйдзе за апеньку ён...
Але салдат вучоны:
Пазнае й без пагонаў!..

Ды гэта потым. А пакуль
Вунь і адгэтуль і адтуль
Ідзе, ідзе грыбная раць, –
Камусьці ж трэба паміраць...

    Стаю на беразе вайны,
    І ў тым няма маёй віны,
    Што армію ўсю тую
    Нічым я не ўратую.

## *І САМ З СЯБЕ РАГОЧА...*

Пусцілі погалас падлескі-шаптуны:
На дубе, што пад неба ўзвысіў кроквы,
Павесіў Лесавік сушыць штаны,
Да нітачкі ў начной расе прамоклы.

Дачуліся пра тую навіну
Гарэзніцы – русаўкі палявыя –
Штаны сцягнулі і за іх – цану
Прызначылі: дзве ўмовы адкупныя.

Адна: суніц для кожнай наспяліць,
Другая: каб цяпер не быў разявай,
А ў поле бег – душу павесяліць
І пера-ца-ла-ваць усіх русавак!..

Ну і нялюдскі ж нораў у жанчын:
Так зацугляць лесавіковы чын!..
Штаноў шкада, ды галавой панік
Перад загадкай вечнай Лесавік...

Суніцы што! – суніц набраў за дзень.
А вось далей... Паслухайце: штоночы
Ўсё Лесавік збіраецца-ідзе
І сам з сябе – вы чуеце? – рагоча!..

* * *

Спачатку сцежка мяне вяла –
Нібы выводзіла з лесу, –
Так мне здавалася.
А сцежка, як выявілася, была
Ўсяго дарогай да стрэсу:
Нічым абрывалася.

А цемра ўжо засціла далягляд,
І ноч паглынала драпежна
Прасветы-прагалінкі.
Я тут жа памкнуўся ісці назад,
Ды раптам паболела сцежак, –
І ўсе разбягаюцца!..

Ва ўсе накірункі, ва ўсе бакі –
Як быццам выйсце шукалі
З блізкае далечы...
Пэўна, не я быў адзін такі –
І да мяне тут блукалі,
Сцежкі пытаючы.

Якой жа з іх веры дасцё?..
Такое яно, жыццё...

## *СУСТРЭЧ НЕ БУДЗЕ?..*

### *1.*

А ТАМ ніхто й нідзе не заблукае,
Ніхто й нікога не сустрэне там, –
Як рай турэмных адзіночных камер,
Сусвет прарокі абяцаюць нам.

Сустрэч не будзе, – у святым пісанні
Абвешчаны смяротнаму прысуд.

Прастора й час не ведаюць згасання –
Яно для нас: як шлях зямных пакут.

Усіх чакае зорная магіла
І нерухомай вечнасці палёт,
І ў душы будуць угрызацца крылы
Не для сустрэч – для зорных адзінот...

*2.*

А які самы страшны прысуд
Можа быць мне наканаваны?
А такі: не застаўшыся ТУТ,
Быць і ТАМ пакутна нязваным.

Гэта кара: на ўвесь Сусвет
Ты адзін – і пясчынка, і космас,
І ніхто, ні насустрач, ні ўслед,
Не гукне – толькі шлях безгалосы...

Толькі ўсцяж – ланцугі нематы
І хаос – як да першастварэння.
Толькі ты, толькі ты, толькі ты, –
Сам сабе і грэх, і збавенне.

Будзеш міма сябе пралятаць,
Праз усё – як бязісную небыль,
І не будзе ў каго запытаць:
– Што ў вас там... пад зямлёй... ці на небе?..

* * *

Была ж у людзей патрэба,
Што ўзводзілі гэткую вежу,
Каб аж сягнула да неба –
Да Бога, да райскіх сцежак.

Было тое ў Вавілоне –
А ён награшыў нямала! –
І Бог схамянуўся на троне:
– Гэтага мне не хапала!..

І тут жа людскую мову
Змяшаў – і зрабіў рознамоўе.
І зразумець ані слова
Ніхто ўжо не мог на будоўлі.

Было гаманы аж залішне,
А талака як знямела.

І вежа па волі ўсявышняй
Застыла ў руінах змярцвелых.

Шмат моў на зямлі з таго часу, –
Прыдумаў Тварэц адмыслова.
А мне ўсё ж карціць сам-насам:
Якая ж была тая мова –
У дойлідаў-вавілонцаў,
Што будавалі вежу, –
Няхай не да самага донца,
А ўсё ж раскумекаць належыць.

Якая? Што лёс ёй накрэсліў?
І хто адказаць паможа:
Такая, што ўжо не ўваскрэсне?
Ці беларуская, можа?..

* * *

І якая рахуба мне жыць
Так, як верш наравісты дыктуе,
І дакуль яшчэ рыфмы кружыць
Галаву маю будуць сівую?

І які бесклапотнік сядзіць
За сталом маім чатырохстопным,
І які самотнік глядзіць
Рыфмай парнай на сэнсаў шматкроп'е?

І які бессабашнік ляжыць
На радках, як на рэйках сп'янелы,
І які бессабачнік бяжыць –
Сам выжляк! – па слядах вершаў белых?

Дзень і ноч малаток які
Рытмы лёсу майго здабывае:
Хто такі, хто такі, хто такі –
Нібы ў сэрца цвікі забівае?..

## *АСТРЫ*

Цвітуць перадзімнія астры –
Па-восеньску сарамліва,
А з неба космас вачасты
За астрамі сочыць раўніва:

"Таксама мне зоркі знайшліся! –
А зорнасці ж – ані долькі..."
Не чуюць астры тых высяў, –
Цвітуць на зямлі. І толькі.



Віктар Карамазаў



...творчасць для мяне з'яўляецца
справай надта індывідуальнай,
каб ёю цешыцца ў горадзе,
у людскім натоўпе...

# Зямля Фердынанда

***Аповесць***

## 1

Нідзе, толькі тут і нідзе больш, толькі ў Багданаве, у роднай вёсцы, у маёнтку яшчэ з Мамай, з Татам, – абодвух усё жыццё, з маленства, пісаў і называў з вялікіх літар – Фердынанд мог прызнацца:

"Хаджу, гляджу, і так мне тут добра. Забываюся на ўсё, хачу быць дзіцём і цешыцца з таго, што Бог дае мне.

Рыхтую пакоі наверсе ў Муры".

Мурам у сям'і Рушчыцаў называлі старую, ад дзядоў, скарбоўню са склепам, якую ў новым часе перабудавалі пад жыллё, надаўшы ёй выгляд мураванага, на два паверхі, асабняка. Маючы задуму жыць і працаваць у вёсцы на прыродзе, Фердынанд за год да заканчэння Акадэміі мастацтваў пачаў абсталёўваць у Муры наверсе, дзе вокны ва ўсе бакі і шмат святла, сваю творчую майстэрню.

Жаданне вярнуцца з царскай сталіцы ў Багданаў

з’явілася не ад аднае любові да роднага гнязда. Свой шлях у мастацтве ён вызначыў даволі пэўна: “Чакаю, калі можна будзе маляваць з натуры, але і тады буду трымацца абавязковай адзіноты. Творчасць для мяне з’яўляецца справай надта індывідуальнай, каб ёю цешыцца ў горадзе, у людскім натоўпе”.

*Taceo et observo!* (маўчы і назірай!) – яго творчае крэда. Яно, як думаў Рушчыц, патрабавала ад мастака жыць у прыродзе, а прырода, якую любіў і ведаў, была ў Багданаве.

Тут яму заўсёды было добра. Але асабліва моцная туга па вёсцы гнала сюды з надыходам вясны. Яшчэ і снег, ужо шэры, залізаны адлігамі, ляжаў у падлесках ды калдобінах, і маразы наведваліся па начах, яшчэ і сонейка свяціла, не грэючы, а сэрца ўжо шчымела, спакою не давала ў сталіцы.

Гэтай вясною Фердынанд прыехаў у Багданаў перад самым Вялікаднем. З цягніка сышоў, як заўсёды, у Солах і адтуль сорак з гакам вёрстаў калаціўся ў брычцы па няроўнай, з гузамі лёду, дарозе. Як ехаў, суцяшала думка, што адпачне, прыехаўшы, у сваім утульным, мамаю дагледжаным пакойчыку ў старым, з лістоўніцы, доме, а, убачыўшы, як прыбралася да свята вёска, як землякам ужо не сядзелася па хатах, вясну на вуліцы віталі, і ён не затрымаўся ў доме. Якраз выдаўся Вялікі чацвер. З бацькам наведаў касцельную захрыстыю, там захапіўся кантрастным святлом на ялінках і на зялёнай драпіроўцы, як весела яно гуляла ад запаленых свечак, – рабіў замалёўкі.

Дадому ехаў з думкамі яшчэ і пра любімы, за садам у падлеску, ручай.

Неяк сярод зімы, застаўшыся адзін у акадэмічнай майстэрні, сядзеў каля акна, глядзеў на халодную, пад лёдам ды пад снегам, Няву, на высокія крыжы Петрапаўлаўкі, сабора, сумуючы па вёсцы, па бацьках, і пад настрой злёгку настальгічны, па памяці ды ўяўленні зрабіў празрысты, як мара пра далёкае сваё, вясновы, хоць за акном зіма ляжала, эскіз з ручаём, сонечна-зіхоткім паміж лясных пагоркаў. Прыйшлі сябры, Рылоў і Пурвіт, заўважылі эскіз і захапіліся яго святлом, адценнямі, тонам.

Настойвалі, каб паказаў ручай настаўніку. Аж разгубіўся ад нечаканага захаплення сяброў.

Дома, шукаючы супакаення, узяўся чытаць “Чысцец” Запольскай. Была ўжо ноч глыбокая, а ён, пакуль не дачытаў раман, не клаўся ў ложак. З ім мацнелі адчуванні і думка, што ўсё ў жыцці, нават і сэнс яго, ад чысціні ў прыродзе і ў душах у людзей.

На другі дзень у майстэрню завітаў Куінджы. Фердынанд якраз працаваў над эскізам з Фаўнам, лясным міфалагічным богам. Фаўн сядзеў на скале, а пад скалой кіпела мора. Настаўнік узяў пэндзаль, паклаў колькі мазочкаў, даў парады, як пісаць ваду ў шторм, і раптам загледзеўся на эскіз з вясновым ручаём.

– А там у вас штосьці новае? – спытаў. – Вы дзе гэта знайшлі?

– У сваёй вёсцы.

Куінджы пачаў распытваць пра вёску, якая ў ёй прырода, якія людзі, бацькамі пацікавіўся: якой культуры, веры, мовы. Усё, што Фердынанд казаў, слухаў, здавалася, з увагай, а ўражанняў ад эскіза размова не прыглушыла – выбухнуў:

– Ах, які свежы тон! Так, гэта – вясна.

Фердынанд паспяшаўся – нібыта ў чымсьці апраўдацца:

– Пісаў па памяці.

Настаўнік вочы прыжмурыў, бровы звёў, спыніў:

– Тым больш выдатна, што захавалі ў памяці вясновую натуру, тон. Калі карціну пішаце, хавайце ад вачэй натурныя эцюды, пішыце тое, што засталося ў памяці, першае ўражанне. У ім, найпершым, самая краса і праўда. Гэтак і памяць вобразную будзеце развіваць. – Падумаўшы, дадаў: – Тут мне бачыцца ваш будучы дыплом. Я благаслаўляю вас.

Цяпер, жывучы ў Багданаве, Фердынанд кожны дзень у розны час, пры розным асвятленні, нават як сонца хавалася ў хмарах, хадзіў да ручая, бачыў яго не толькі ў натуры, але і ў сваім, на палатне, фармаце, нават у раме будучай карціны, памеры якой таксама падказаў настаўнік. У той раме, якой яшчэ не было, як не было карціны, бачыў вільготнае паветра, высокую засмужаную лінію далягляду, як мякка яна яднала зямлю і неба, адчуванні людской і нейкай таямнічай, напэўна, Божай, радасці.

У Багданаве пражыў тыдзень, а яшчэ праз тыдзень, ужо ў Пецярбурзе, занатаваў у сшытку:

"22. 04. 1897.

Вуглём пачаў "Вясну".

Колькі дзён мінула – прызнаўся ў тым самым сшытку:

"Закончыў ваду ручая. Не ведаю, ці добра атрымалася, ці лепей, як у зімовым эскізе, але задаволены. Былі хвіліны, калі глядзеў на зробленае і адчуваў сябе шчаслівым".

Як радасцю дзяліўся са сшыткам, які заўсёды быў сумоўнікам, бліжэйшым сябрам, хоць разам з тым і хваляваўся: ці атрымалася ўсё, што трэба?

Што ратавала ад сумненняў? Крэда: маўчы і назірай? У ім слоў усяго два, але і ў двух – прастора: шукай мазок. Новы паклаў і не пазбавіўся сумненняў? Знайдзі і пакладзі другі. Не той ізноў? Шукай, кладзі наступны. Усё на палітры ёсць, усе колеры, адценні. Ніяк знайсці не ўдаецца – сябры падкажуць. У кожнага свой талент і свой густ – каму з іх верыць? Рылову, Рэрыху, Пурвіту, Багаеўскаму? Ці Століцы, які і сам, заўважыўшы твае пакуты, наб'ецца ў дарадцы? Ці Урублеўскаму, паляку, гэтым таксама блізкаму – па мове, нібы кроўнаму? Шмат думак – не бяда: ёсць выбар.

А быў яшчэ блізкі дарадца – Эрмітаж. Там класіка, любімыя аўтарытэты: Ван Дэйк, Веласкес, Рубенс, Мурыльё – ніхто з іх не хаваўся ад пытанняў маладога мастака. Яны жылі, тварылі ў іншым свеце, у іх іншымі былі натура, школа? Але аснова ўсяго – прырода, у ёй караніліся ўсе школы і эстэтыкі. Шукай тое карэнне – і знойдзеш сваю крону. А ці заўсёды? З карцінай класіка не паспрачаешся – жывога не хапала голасу.

Вось і зусім трывожны запіс:

"Не ведаю, што мне рабіць з "Вясной". Хачу пачуць чужую думку, але каму работу паказаць? Колькі дзён працаваў у захапленні – што сталася сёння? То вада здаецца занадта сіняй, то дрэвы нейкія пасохлыя, прамыя, карціна выдае стракатай. Часам адвернешся, каб вочы яе не бачылі, але ж у думках яна адна".

Ад гэтакіх настрояў шукаў ратунак яшчэ і ў кнігах сабе па думках, па душы. Цяпер блізка ляжаў Сянкевіч – пра Заля. Адклаў палітру, паглыбіўся ў свет пісьменніка: "Сумненні – вораг спакою чалавека, але разам з тым і фільтр, які не прапускае мутнага асадку. Дрэнна, калі іх зашмат, і дрэнна, калі замала". Перачытаў яшчэ раз – на сэрцы палягчэла. Але не ад таго, што новае адкрыў, усё адчуваў і сам, пра гэта неаднойчы думаў, тыя думкі здымалі страх, цяпер свае і не свае ядналіся і пераконвалі, што гэта так.

Перачытаўшы, зноў узяўся за палітру, а ўжо сябры з’явіліся, прынеслі навіну: на калідоры – Зеўс.

Ледзьве пачуў пра гэта, як Куінджы ў дзвярах – любімы грэк: наросхрыст паліто, у шавялюры, прашытай срэбрам, але яшчэ добра чарнявай, гуляе вольны вецер, вочы блішчаць, усміхаюцца. Усе вучні да яго падбеглі, хто паліто дапамагае зняць, хто ўжо каля стала рыхтуе пачастунак. А Фердынанд стаіць у сваім куточку каля мальберта, як да падлогі прыкіпеў.

У паляка гонар – золата? Але ён і ў грэка – не пясок. Спакойным, нібы ў Бога, рухам рукі Куінджы вучняў, хто ля яго бліжэйшы, адхіліў, рушыў да Рушчыца.

Захваляваўся Фердынанд – успомніў Госпада: “Даруй, не ганарысты я, ну проста іншы, не гэтакі, як сябра Пурвіт, смелы, таму, толькі таму не кінуўся настаўніку насустрач, але люблю яго не менш...”

Куінджы падышоў, спыніўся перад палатном:

– Дзе ваша крэсла? Стаміўся я.

Замітусіўся Фердынанд. Паднёс свой табурэцік.

Настаўнік сеў, глядзеў на краявід, маўчаў, ні словам, ні тварам не выдаючы эмоцый, думак.

– Я помню ваш эскіз гэтай вясны, зімой напісаны. Тады падумаў, што адчуванне вясны ў вас настальгічнае, яго вам цяжка перанесці з эскіза ў карціну, лёгка зацерці цікавы тон, згубіць з ім і дыханне. Але вось бачу, што не зацерлі, не згубілі. Бо сэрца не згубіла. – Падняўся з табурэціка. – Гэтак працуйце і далей. Трымайце ўзяты тон. Ён у вас свой.

Яны стаялі побач, глядзелі на работу. Рука настаўніка знайшла запясце вучня, моцна сціснула.

– Бывае, што гэтакае сэрца, як у вас, заўважыць прыгожы жаночы твар і адразу адчуе ў ім свой ідэал, захопіцца. А потым, праз нейкі час, супакоіцца і ўбачыць, як цьмее золата. Нам, мастакам, заўсёды трэба памятаць, што золата ў мастацтве – гэта гармонія жаданага і рэальнага. Яна, гармонія, прынцэса з норавам, ёю авалодаць ой як не лёгка. Але ў ёй праўда мастацтва. – Настаўнік зняў руку з запясця Фердынанда, зрабіў два крокі да суседняга мальберта, каля якога стаяў Пурвіт, але спыніўся, зноў павярнуўся да Фердынанда, наблізіўся і ўжо нібыта аднаму яму прамовіў: – Я гэтакі і сам, як вы. Жахлівае бывае самалюбства, ну проста д’яблава, і спалучаецца яно з жахлівою, але ад Бога, сціпласцю. – Дабрэйшымі, як прабачэння просячы, вачыма ўсміхнуўся і паўтарыў яшчэ раз: – Я сам... Я гэты вузел ведаю.

Калі настаўнік разглядаў эцюды Пурвіта, Фердынанд падышоў да акна. Там, за шыбаю, стаяла шэрая, нібыта ў гнілой сажалцы, як мёртвая, вада Нявы, за ёю, на тым беразе, грувасцілася халодная, быццам татаршчына з усходу, сцяна Петрапаўлаўкі, у вільгаці паветра раствbooралася пазалота саборных цыбулін, шпіляў і крыжоў. Усё гэта бачылася як штосьці нерэальнае, міраж, рэальнымі ў галаве гучалі адно словы настаўніка ды свае пытанні: навошта ён усё гэта тут пры ўсіх казаў, навошта яшчэ і на сябе спаслаўся? Казаў, нібы ў слова кожнае ўкладаў штосьці большае за слова. А што большае? Тое, што вучань сам павінен зразумець?

Фердынанд нервова адвярнуўся і ад акна, і ад мальберта, ад свае карціны. Нікога не заўважаючы, выйшаў за дзверы.

Праз колькі хвілінаў ён ужо стаяў на набярэжнай, паклаўшы далоні на парапет. Граніт, халодны, нібы лёд, агнём паліў у рукі. Грудзьмі лёг на яго

і ўбачыў пад сабою цёмную, аж чорную, бліскучую, як фарба незасохлая, ваду. Яна санліва калыхалася пад гранітным, яшчэ пятроўскім, блокам, злізвала з яго нарослы за вякі гніласна-іржавы мох, гайдала клочча на дробных хвалях, блішчэла па-рознаму зялёнымі, ультрамарынавымі, вохрыстымі плямамі, паміж якіх хаваўся загадкавы і разам з тым трагічны змрок бяздоння. Углядаючыся праз парапет у тую зменлівую палітру, нібы адтуль, з той глыбіні пачуў знаёмы голас пра самалюбства. А пра чыё – цяпер пытання не было: усіх Рушчыцаў, дзядоў і прадзедаў, шляхетнага іх роду пад гербам “Ліса”. Навошта Куінджы распытваў пра вёску, пра бацькоў, якой яны крыві ды мовы? Хіба праз гэта не чытаў вучня? Ну так, усе Рушчыцы такія былі і будуць, бо спадчына з глыбіняў роду, ад Польшчы і Літвы, ад гордае і годнае да іх любові. А ці не годнасць і ратавала сотні год Літву ды Польшчу? І што тут нечаканага? Паляк ён, Фердынанд, як дзед і бацька, па крыві. Але ён і ліцвін, Літва – радзіма. Настаўнік гэта разумеў, бо сам хоць і ў Расіі, а па крыві ён грэк, радзімаю – хахол з-пад Марыупаля, са стэпу ўкраінскага: вунь як усё пераплялося. Ёсць гэтакая сіла і ўлада – лёс, ад лёсу не ўцячэш, бо лёс – ад Бога. І годнасць – лёс. І самалюбства – лёс. Дзе годнасць – там і самалюбства. У халуёў іх не бывае.

Аж галава нібыта пакаўзнулася і паплыла, змяшаліся ў вачах усе колеры вады і на вадзе малюнкі, усе думкі выйшлі з берагоў.

Граніт у руках быў па-ранейшаму халодны, апякаў агнём. Фердынанд адпіхнуўся ад яго, але адной рукою за яго трымаўся. Спытаў у сябе: навошта збег з майстэрні? Настаўнік што не так сказаў? Ні ў чым не памыліўся. Не папракнуў і не пакрыўдзіў. А што пра самалюбства, сціпласць, дык іх і на сябе прымераў, як на дваіх расклаў, зраўняўся з вучнем і тым наблізіў да сябе. Якая шчодрасць, шчырасць.

Мацней, як у майстэрні, захваляваўся Фердынанд, быццам не Куінджы яго, а ён настаўніка пакрыўдзіў. Ад парапета адышоў, агледзеўся і заспяшаўся назад у майстэрню: яшчэ ён мог быць там.

Але ў майстэрні не было нікога. На стале стаяў цёплы заварачнік, у цукроўніцы ляжалі драбочкі цукру, у прыгожай вазе кітайскага фарфору, якую, пакідаючы Акадэмію, падарыў Шышкін сваім вучням, ляжала пячэнне, стаялі вакол вазы парожнія кубкі. Адзін кубак стаяў асобна з налітай і не кранутай гарбатай.

Яго чакалі.

За дзверы выйшаў, там спыніўся, гадаючы, куды ісці і што цяпер рабіць. Вярнуўся да мальберта. Сеў ля “Вясны”, але глядзеў на стол, на кубкі, вазу, думаў пра тое, як жыць у вёсцы без сяброў, без блізкага настаўніка, з якімі разам пражытыя апошніх пяць гадоў?

*Taceo et observo?..*

Ці хопіць сілы жыць, як патрабуе крэда?

## 2

Яшчэ нядаўна быў Вялікдзень, а ўжо Сёмуха.

У маёнтку Рушчыцаў гэтае свята ўсе любілі. Любіў яго і Фердынанд. Вялікдзень на кожнае жывое каліва браў мерачку, каб шыць па ёй паслязімовыя абновы, а Сёмуха іх апранала і абвяшчала лета. Яна была апафеозам любімых у прыродзе і ў мастака зялёных колераў – жыцця апафеозам. Дык як ён мог на Сёмуху не ехаць у Багданаў?

Але як было ехаць сёлета?

Год выдаўся 1897: сышліся гэтаю вясной дарогі, якія і сам масціў, і за яго масціў ягоны лёс. Яшчэ не ведаў, куды і як яны далей пралягуць, павядуць, сказаць пэўна не мог, мог толькі прадчуваць, жадаць і спадзявацца.

Ён верыў у Бога каталіцкага, у Хрыста, у існаванне лёсу, а лёс – загадка, як і Бог.

Як мог у Багданаў ехаць, калі дзён заставалася так мала да найгалоўнейшай падзеі за ўсе акадэмічныя гады, да абароны дыплома? На абарону акрамя эцюдаў ды эскізаў мусіў выставіць яшчэ і тры карціны, а дзе яны? "Вясну", адну з трох, напісаў, паказваў калегу Урублеўскаму – той прамаўчаў. Не захапіла? Потым яе ўбачыў Рэрых, таксама сябра, талент, і захапіўся. Ды як! З майстэрні выйшаў і праз хвіліну зноў пастукаў у дзверы, зайшоў яшчэ раз паглядзець – усклікнуў: "Што ты са мной зрабіў?" – "А што такое? – не зразумеў яго адразу. – Чым вінаваты я?" – "Ды надта ж прыгожая карціна атрымалася, душу маю дастала..." – Заплёскаў у далоні.

Але адной карціны, хоць і ўдалай, мала, каб даказаць, што ты мастак, дыплома варты. Яшчэ задуму меў пісаць "Вячэрнюю зорку" з Фаўнам і "Трытонаў". Зімой рабіў да іх эскізы. Куінджы тады ўбачыў – насцярожыўся, але і падтрымаў: "Не, я не супраць маладых фантазій, як ёсць задума і настрой, пішыце, але сам тэм гэтакіх пабойваюся. Рэалісту цяжка адрывацца ад рэальнай натуры, а тут прыгожы міф, ён патрабуе асобага натхнення, поўнай свабоды ўяўлення, вялікай творчай смеласці. Вас захапілі Бёклін, Штук? Ну што ж, вы рэаліст малады, паспытайце, чым пахне гэтакая рамантыка". Яшчэ доўга ўглядаўся ў эскіз марскога пейзажа з трытонамі, старым і маладым, спытаў: "Вас, бачу, непакоіць святло? Нам тут, пад шэрым небам у сталіцы царскай, святла заўсёды мала. Свабоды і святла". Узяў палітру, перанёс з яе ў эскіз фарбачку, потым другую, трэцюю, на цёмным месцы зрабіў светлы мазок, шукаючы патрэбны тон. Спачатку асцярожны з фарбамі, ён вельмі хутка адчуў сябе нібыта за сваім мальбертам, мазкі клаў смела, нікога вакол не заўважаючы, нават і аўтара эскіза. Захоплены настаўнікам, ягонай апантанасцю ў працы, Фердынанд адышоў убок, але вачэй не зводзіў з пэндзля, як лётаў ён, гуляў з святлом ды з ценямі на скалах, у моры, шукаючы рухомыя адценні, як высвеціўся раптам далягляд марскі, заззяў у сонечнай смузе. Запанавала амаль містычнае чароўнае святло. Настаўнік ад мальберта адышоў, з іншага боку прыглядзеўся да эскіза, што там на ім зрабіў, палепшыў ці пагоршыў, з усмешкаю, як задаволены, аддаў палітру ў рукі Фердынанду.

– Ну вось, я гэтакім у тоне бачу ваш сюжэт. А вы іначай бачыце. Дык гэтак і павінна быць. Кожны спявае па-свойму.

Як быццам нічога не падказаў, не патрабаваў, не павучаў, быў проста рады папрацаваць з палітрай, і разам з тым даваў урок, як трэба шукаць цікавы тон, як бачыць матыў.

Але чаму пасля таго цудоўнага ўрока шмат дзён не падыходзіў да мальберта? Не натхнілі парады настаўніка? Згубіў імпэт? Стаміўся? Што здарылася?

Аднойчы нейкі студэнт, не вучань Куінджы, не жывапісец нават, паспрабаваў звярнуцца са сваім пытаннем да рэктара, а таму не спадабалася, што студэнт стаяў перад ім як вольны чалавек, – прагучала каманда, нібы ў войску: "Руки по швам!" Яна разнеслася адразу па Акадэміі, усіх абурыла. Студэнты не выйшлі на заняткі, патрабуючы, каб рэктар прасіў

прабачэння ў зняважанага калегі. Тады сабралася кіруючая Рада вучэльні, падтрымала рэктара і выдала пастанову аб звальненні ўсіх, хто не вернецца ў аўдыторыі ды майстэрні. Куінджы быў сябрам Рады, але пастанову, фактычна рэпрэсіўную, не падпісаў. Гэта дало адміністрацыі падставы абвінаваціць яго ў падбухторванні студэнтаў да бунту.

Што адбылося далей, Рушчыц занатаваў у сшытку:

“Куінджы стаяў перад студэнтамі жоўты, на сябе не падобны. Ціхім узрушаным голасам сказаў: “Акадэмію хочуць зачыніць. На мяне глядзяць як на кіраўніка вашых хваляванняў. Я вымушаны падаць у адстаўку. Але гэтага не зраблю, калі вы пачнеце працаваць”. І тут адбылося неверагоднае. Студэнты абступілі настаўніка, абдымалі яго і плакалі. Істэрычны плач авалодаў і мною...”

Віцэ-прэзідэнт Акадэміі граф Талстой наведаў Вялікага князя Уладзіміра Раманава, брата цара Аляксандра III. З’явіўся загад аб звальненні Куінджы з Акадэміі. У адказ на гэта пяцьдзесят сем маладых мастакоў, сярод якіх быў і Рушчыц, абвясцілі аб стварэнні Таварыства Куінджы.

Фердынанд быў не толькі ўзрушаны, але разгублены. Як далей жыць і працаваць, ад каго, калі не ад Куінджы, чакаць цяпер творчай падтрымкі? Адміністрацыя дасць новага настаўніка? А якога? Не іначай, як такога, што скамандуе: “Руки по швам”? Як з галавы і сэрца выкінуць маральную атруту апошніх дзён і супакоіцца, каб падысці да мальберта? Ніхто з сяброў у майстэрню не заглядаў: дзе хто – не ведаў. Хадзіць туды не стаў і ён. Супакоіць магла добрая, з цікавым сюжэтам, кніга? Па вечарах, да поўначы, чытаў “Затоплены звон” Гаўптмана: захапіўся вынаходлівымі сюжэтнымі хадамі, жывымі вобразамі, зменлівымі настроямі. З кнігай пад падушкаю і засынаў. А раніцай прачынаўся – зноў Зеўс у галаве.

Колькі дзён адседзеўшы дома, на вуліцу выйшаў – куды ісці далей? У вучэльню да мальберта ногі не вялі. Адкрылася выстава перасоўнікаў – падаўся па творчае натхненне. А там – ні свежых тэм, матываў, кампазіцый, ні каларыту. Быў Левітан, але не той, што ў мінулыя гады: халодны шэранькі пейзаж, прывезены з Фінляндыі, нібыта мастаку свае, у Расіі, мала шэрані.

З адной выставы выйшаў – паклікала другая, гарадская: там, можа, ратунак ад цяжкіх думак? На конку сеў, паехаў – і там за галаву схапіўся: ля прымітыву – прымітыў. Вяртаўся – думаў: няўжо ўся краіна на гэтакім, як у Акадэміі, вулкане? Спустошаны, прыгнечаны, без святла ў вачах, дадому прывалокся, зваліўся ў крэсла і на стале заўважыў канверт паштовы. Адразу падумаў, што стары, з лістом даўно прачытаным ці без ліста. Але ж уранні яго тут не было?

У акне вісела неба нізкае, цяжкое. Успомніў, загледзеўшыся на яго, фінскі пейзажык Левітана, а ўжо рука намацала канверт, адчула, што нідзе не надарваны. Мо новы ліст з Багданава?..

Пісала маці:

“Сыночак! Мы ўсе цябе віншуем са светлым святам Сёмухі. Ведаем, як шмат у цябе там працы, як цяжка табе да нас прыехаць, а сэрца, на гэта не зважаючы, чакае ўсё роўна, спадзяецца цябе пачуць, убачыць. Дні ў нас цёплыя, сад хораша адцвіў, ужо цвітуць твае любімыя півоні, у духмянай квецені акацыі, набіраюць бутоны ружы. Збіраемся на возера па аер, ім будзем высцілаць дарожкі, падлогу, ганкі. У Муры наверсе, у вялікім пакоі, які мы ўжо называем тваёй майстэрняй, сонейка свеціць і грэе круглы дзень, таксама цябе чакае...”

Усё, пра што пісала маці, кветкі і сваю майстэрню ў Муры, бачыў, чытаючы ліст, у натуры, нібы яно, усё тое, было намаляванае ў фарбах багданаўскім святлом. Цяпер, з лістом у руках, не мог сказаць нават сабе, што яму нельга ехаць, і не ставала толькі чыесьці яшчэ парады. А з кім параіцца, калі побач няма ні Куінджы, ні Пурвіта – бліжэйшых? Наведацца ў акадэмічную майстэрню? А раптам хтосьці там з калегаў?

Назаўтра ў той, ад ранку, час, калі звычайна пачыналіся заняткі ў класах і праца ў майстэрнях, Фердынанд адчыніў дзверы майстэрні і адразу, ледзь пераступіўшы парог, адчуў, што хтосьці ёсць. Агледзеўся – нікога. Але ж гук чуў – ён чый, адкуль? Падышоў да свайго мальберта, зноў агледзеўся і каля апошняга акна, дзе стаяў мальберт Урублеўскага, заўважыў галаву чалавека, які нібыта спаў у старым крэсле.

– Кастусь? – спытаў, бо хто мог быць, калі не гаспадар і крэсла, і мальберта.

Той ўсхапіўся, але – Куінджы? Рушыў, відавочна абрадаваны, да Фердынанда, яму насустрач працягваючы рукі:

– Хто ў вас Кастусь? Я гэтакага не ведаю.

– Прабачце. Я думаў, што тут Урублеўскі. Не пазнаў.

Зеўс усміхаўся.

– Ну так. Што тут цяпер рабіць выкінутаму з Акадэміі?

– Ды што вы, Архіп Іванавіч? – Фердынанд захваляваўся, як вінаваты. – Я рады бачыць вас.

– Рады і я, што вы тут. Але дзе мае астатнія вучні? Чаму ніхто з іх не працуе?

– Як працаваць без вас?

– Я з вамі ўсімі быў і буду. Чыноўнікі пры мастацтве хай думаюць, што мяне няма, што яны вас ад мяне забралі. Але гэта не так. У кожным з вас мая душа, а вы ўва мне. Я вас ім не аддам. – Далей спытаў: – Як вы назвалі Косцю Урублеўскага?

– Кастусь ці Канстанцін – усё адно. У нас у вёсцы гэтак кажуць.

– І ў вас, і ў яго?.. Ну так, абодва вы палякі.

– Па-польску – Костусь. А вёска ў мяне – Літва.

– А не Расія? І не Польшча?.. Літва!

З апошнім на вуснах словам, паўтараючы, нібы смакуючы, Куінджы сеў за стол. Насупраць, з другога боку, сеў Фердынанд.

– Што ў вас з Фаўнам, з трытонамі? Ёсць што паказаць?

Любая думка пра гэтыя работы была нялёгкай Рушчыцу і не было цяжэйшага пытання за тое, што пачуў. Як быццам верагоднае, яно было і нечаканым: не думаў, каб Зеўса цяпер хвалявалі трытоны, Фаўн, калі вышэй за галаву сваіх праблем, нікольկі не лягчэйшых. Што адказаць мог, акрамя горкай праўды?

– Баюся пра іх думаць.

– Але прыйшлі сюды, каб працаваць?

Тут ужо і праўды ўсёй сказаць быццам не мог, маўчаў, і тады Куінджы спытаў, што робіць ён, калі не за станком, на што марнуе дарагі свой час.

– Учора быў на дзвюх выставах.

– Не на выставах, пэўна, коней ці сабак?

– На жывапісных. Перасоўнай і гарадской.

– Што добрае там бачылі?

– Гэтакае бачыць небяспечна. Можна страціць мастацкі густ.

– Ніхто з прыстойных мастакоў не выставіўся?

– У перасоўнікаў ёсць Левітан. Але я люблю іншага Левітана. Цяпер ён выставіў паўночны краявід. Не разумею, навошта ездзіў у Фінляндыю? Каб прывезці адтуль халодны шэры пейзаж, у якім і блізка не пасецца яго душа?

– Не ведаю. Не бачыў. Але... у жыцці ў кожнага мастака бываюць моманты, калі збоку яго цяжка зразумець. Цяпер нам цяжка зразумець, што падказала яму ехаць у Фінляндыю, хоць Чэхаву пісаў, нібы шукае там моцныя матывы. А два гады таму ніхто не зразумеў, што прымусіла яго страляцца ў любімай ім прыродзе пад Удомляй, дзе напісаў свае лепшыя работы, шэдэўры.

– Там жыў з Кувшыннікавай.

– Кувшыннікава адтуль збегла, калі з'явілася вядомая ў вышэйшым свеце Пецярбурга Турчанінава.

– Яна, кажуць, яго кахала, і ён яе таксама пакахаў? Але калі было ўзаемнае каханне, то навошта страляцца? Як ёсць каханне, трэба жыць ды радавацца?

– У каханні, Фердынанд, таксама свае правы і правілы. Ісак Ільіч, як вольны мастак, іх парушыў. У барыні, яшчэ даволі прывабнай, была свая сям'я, былі дочкі, ужо нявесты, не менш прыгожыя за маму. Калі ўжо Левітан у іх на дачы жыў, туды прыехала малодшая. Наш геній закахаўся. А следам за малодшай з'явілася старэйшая – яшчэ адно выпрабаванне для Левітана. Уяўляеце? Тры вельмі прывабныя жанчыны, а сэрца ў Ісака Ільіча адно. А тут яшчэ старэйшая аказалася прыгажуняй вынаходлівай. Каб адарваць яго ад сястры, ад маці, задумала з ім ехаць у Нямеччыну. Таемна ад усіх спакавала чамаданы, і ўжо ноччу пад'язджае экіпаж, каб везці да цягніка на станцыю. Левітан апамятаўся: навошта яму Нямеччына? Схапіўся за ружжо. Добра, што паляўнічым ён не быў, ружжо насіў на плячы, як баба ў вёсцы носіць каромысла.

– Я гэтага не ведаў.

– Не ўсё тады ведаў і я, – прызнаўся Куінджы. – Удомля – кут мядзведжы. Там усё можна схаваць. Але барыня, спалоханая стрэлам у сваім доме, прывезла доктара Чэхава, каб сябра ратаваў, бо кроў была. Ну а ў Чэхава ўсе таямніцы выліваліся ў літаратуру, у тэатр. Вы здзіўляецеся, навошта Левітану спатрэбілася поўнач, Фінляндыя? Вось і спатрэбілася на поўначы астыць пасля гарачага кахання.

– Цяпер едзе на поўдзень у Ніцу?

Куінджы павесялеў.

– А ў вас, малады чалавек, прабачце за маю нясціпласць, каханне ёсць?

Фердынанд не разгубіўся:

– Мастак жыць без кахання не можа.

– Вам вопыт Ісака Ільіча – карысная навука.

– Я Левітана люблю, але вучуся ў вас, Архіп Іванавіч. Ды і каханка ў нас з вамі адна – жывапіс.

– Была адна і ў яго. Але прыходзіць час, калі адной каханкі мастаку мала. А вы яшчэ малады. У вас шмат чаго наперадзе.

Куінджы зноў нахмурыўся, схапіўся рукамі за краі стала, аж жылы ўспухлі на руках.

– Пакуль мне першага кахання дастаткова.

Вочы настаўніка заблішчэлі мацней, як задаволеныя пачутым, хоць вусны недаверліва перасмыкнуліся.

– А калі так, то станавіцеся да мальберта і працуйце. А я пайду да свайго станка. Апошнім часам, прызнаюся, таксама ад яго адбіўся.

Адчуўшы, што настаўнік зараз падымецца з-за стала, Фердынанд успомніў пра ліст у кішэні – паклаў на стол. Куінджы паглядзеў на ліст, потым у вочы вучню і зноў на ліст, асцярожна, як штосьці небяспечнае, узяў двума пальцамі за ражок, паднёс да вачэй і зноў паклаў.

– Не разумею польскай мовы. Але бачу, што ліст напісаны не мне. Я чужых лістоў не чытаю.

Фердынанд адказаў:

– Гэта ліст ад мамы.

– Але не ад маёй, не мне.

– Я вельмі хачу, каб вы пачулі, што тут яна мне піша. Дазвольце, я прачытаю вам?

Куінджы задумаўся, быццам пагадзіўся, і Фердынанд пачаў чытаць. Калі ўжо прачытаў і самы апошні, з двух слоў, радок, пачуў пытанне да сябе:

– А што гэта за свята – Сёмуха?

– Троіца. Бо праз сем тыдняў пасля Пасхі. У нас у вёсцы гэтак кажуць.

– Вам трэба ехаць.

– Але ў мяне дзве ненапісаныя дыпломныя карціны. Я ўвесь рассыпаўся, сабрацца не магу ні з думкамі, ні...

Настаўніку тлумачыць доўга не спатрэбілася.

– З далёкіх падарожжаў вы заўсёды прывозілі цікавыя эцюды. З Балаклавы, Лёхмэ, Бергхольма, Візбы. Там выдатна бачылі мора, горы. Гэта заўважалі і Шышкін, і Айвазоўскі. Але цікавыя карціны вы прывозілі толькі са сваёй вёскі. Задумваліся – чаму так? Ваша вока прыгожае ўсюды заўважае і разумее, але душа выбірае сваё, роднае. Карціна – не эцюд, ёй мала вострага вока, яе трэба пісаць душою. Рассыпаліся, кажаце, не можаце сабрацца ў думках, у пачуццях? Вам не хапае цяпер вёскі. Трэба ехаць. Там вы і маму супакоіце, і засяродзіцеся. І ўсё напішаце.

Куінджы падняўся з-за стала, узяў ліст, быццам сам хацеў прачытаць, з ім памаўчаў, паклаў на стол. На развітанне падаў руку.

– Шчаслівы чалавек вы, – прамовіў, не гледзячы вучню ў твар. – У вас ёсць мама. Я гэтакіх лістоў не меў.

Падышоўшы да дзвярэй, спыніўся, выняў з кішэні пінжака белую хусцінку, прыклаў да вачэй і, схаваўшы яе назад у кішэню, выйшаў за дзверы.

Фердынанд стаяў пасярод майстэрні, глядзеў на дзверы. Нібы праз іх, за імі бачыў Куінджы, якім бачыў у канцы зімы, да бунту ў Акадэміі, калі разам з Пурвітам наведаў хворага. Ён ляжаў тады на кушэтцы каля акна, трымаючы на грудзях блакітнага голуба з белаю, анучкай абматанай, лапкаю. Пра сваю хваробу ні слова не казаў, уся размова была ў яго пра птушку, якую падабраў на сметніку ў двары з перабітаю лапкай.

Наступнай раніцай Фердынанд выехаў у Багданаў.

## 3

“Сяджу ў багданаўскай святліцы мар. Сярод зеляніны, сонечнага святла, дурманлівага водару квітнеючай прыроды з птушыным шчэбетам. Грудзі дыхаюць паветрам жыватворнай крыніцы, якая паралізуе прышчэпленую

жыццём атруту. Тут забываеш на халады, адчуваеш ахвоту браць жыццёвыя сілы ад зямлі, якая цябе нарадзіла, дала свету...”

Фердынанд прызнаецца сшытку ў сваіх пачуццях і думках аб жыцці ўжо на другі дзень па прыездзе. Пазнаючы знаёмыя бары, гаі, блакітныя, яшчэ не вельмі зацененыя маладой лістотай берагі любімага ручая паміж зазелянелых выспаў ды лагчын, штосьці і не пазнаючы, сябе за гэта дакараючы, вяртаючыся з бліжэйшых і не блізкіх сцежак у Мур, яшчэ мала абжыты для працы за мальбертам, ён адчыняе ўсе вокны, з вышыні другога паверха, прызначанага пад майстэрню, радуецца даверлівай пагляднасці глыбокіх краявідаў і зноў ды зноў садзіцца за сшытак перад расчыненымі ў прыроду вокнамі.

“У раскошы абуджанай натуры, перад паўнюткімі надзей праявамі жывой прыроды хто не адчуе ўрачыстага настрою свае душы, адраджэння найлепшай мары? Зялёны колер, у самых розных адценнях, вельмі трапна названы колерам спадзеву, упрыгожвае зямлю”.

Думкі амаль не запыняюцца на тым, што бачаць вочы, на блізкіх, выпадковых дэталях, на прыкрых адчуваннях, перажываннях ад розных дробязяў, ад іх як найхутчэй адлятаюць, спяшаюцца ў далячынь рэальную ці не рэальную, але патрэбную, каб жыць напоўніцу, лятуць не толькі ўперад, дзе жаданае, але і назад, у пражытае і перажытае, каб і тое, што некалі было ды адышло, вярнулася з былога ў Мур сённяшні на ручаі.

Натомлены вандроўкамі па зазелянелых падлесках ды палетках, Фердынанд засынае ў крэсле і бачыць у сне свайго Фаўна. Той, асілак шыракаплечы, падобны на злепак самой прыроды, сядзіць на скале, граючы на свірэлі, глядзіць у далеч мора, над якім ззяе адзіная ў вячэрнім небе зорка. Фердынанд на беразе ў яго за спінаю, пад хвояй, каб той яго не заўважыў, слухае музыку, падобную на плач ветру ў скалах ці ў дрэвах, і пазнае бераг мора, на які раней кожны вечар, пад ужо нізкім кінаварным сонцам, прыходзіў маляваць каля прычала лодкі, куды ў той самы час прыходзіла, каб з ім сустрэцца, паненка Алізабет, ці Ліза Бунк. Яна садзілася на камень, які цяпер аблюбаваў Фаўн, чытала, пакуль ён маляваў, казкі Рыхарда Леандра. Калі гэта было? Ды летась на Балтыцы, на выспе Рукен у час яго першага замежнага падарожжа. Ніякага Фаўна там не было, туды, акрамя яго і Лізы, прыходзілі яшчэ мясцовыя жанчыны з дзецьмі, якія заўсёды з павагай і ўвагай сустракалі мастака і радыя былі бачыць яго мастацтва. Чаму ж цяпер тут раптам аб’явіўся мужык з свірэллю? Ён Фаўн ці не Фаўн – якая розніца? Магчыма, што проста чалавек з Лёхмэ, звычайны селянін, рыбак ці нейкі дзівак? А можа, цяпер ужо ён чакае Лізу?

Фердынанд прачнуўся, цяжка дыхаючы. Што быў за сон? Усхапіўся з крэсла. Чаму падумаў, што Фаўна сасніў? Адкуль на моры мог з’явіцца Фаўн? У моры жылі трытоны, мелі галовы як у людзей, а далей – рыбы, усё як у рыб: жабры, плаўнікі, хвасты, луска блішчастая па скуры. А Фаўн – лясун, як грэцкі Пан, апекаваў жывёлу, пастухоў, палеткі і пашу вартаваў, кахаў жанчын, любіў вясёлае жыццё. Яму навошта мора?

З Мура выйшаў у сад. Цяпер, як ён адцвіў, як дрэвы атрэслі на мурог святло апошняй квецені, было тут зацішна і нават сумнавата. Пад яблыняю сеў – зноў музыку пачуў, нібыта вецер дзьмуў у дудачкі Фаўна. Здзівіўся: чаму думкі пра Фаўна, якога трэба пісаць, абудзілі ўспамін пра леташняе падарожжа, ды і не ўсё, а толькі наймілейшыя з яго тры дні, якія правёў з Алізабет Бунк? Аднойчы яны падняліся на скалу, там ён

маляваў, пасля паказваў ёй свае сямейныя фотаздымкі, знаёміў з мамай, татам, сёстрамі, з домам і садам у Багданаве. Яшчэ быў дзень, калі падаліся з Алізабет у Арконы, на поўнач выспы, дзе шмат славянскіх святыняў. Зранку прайшоў моцны дождж, было коўзка, караскаліся, нібы малыя, на гару, а каўзата скідала ўніз. Хапала жартаў, рогату, і там ужо Фердынанд адчуў, што Ліза яму як сястра, свая душой і думкамі, усё роўна як абое з адной сям'і. Ён ёй малюнак падарыў, а яна пасля яму прынесла кніжачку са сваімі вершамі. Тыя вершы раней нікому не чытала і не паказвала, яшчэ ніхто не ведаў нават з самых блізкіх пра яе кніжачку. Гэта яго вельмі ўразіла, бо атрымоўвалася, што ён ёй самы блізкі чалавек. А перад ад'ездам у іх выдалася цудоўная ноч на моры. Мора колькі дзён штарміла, грозныя хвалі накатваліся і разбіваліся аб скалу, не падпускалі да яе, усё роўна як абаім на зло шалеў Фаўн, і раптам, у тую апошнюю ноч, усе злыя сілы ў моры і на беразе супакоіліся, зрабілася гэтак ціха, аж чуваць было, як сэрца тахкае. Тады заззяла зорка ў небе, адбілася ў моры светлым вокам.

Захоплены ўспамінам тае ночы, Фердынанд не заўважыў, як падышла маці. Пачуў ужо блізкі голас:

– Я, сын, бачу, што ты, калі нечым засмучоны, ідзеш далей ад дому, у лес ці ў поле.

Фердынанд абняў матулю, прытуліў да сябе.

– А ты не памыляешся. Я не хачу вас з татам азмрочваць сваім кепскім настроем.

– Не ладзіцца з дыпломам?

– Яшчэ не ўсё зрабіў.

– Але сёння ты весялейшы.

– Бачыў сон. Памятаеш, як я табе казаў пра Лізу Бунк?

– Я радая, што там, на востраве, дзе Данія, мая радзіма, у цябе з'явілася сяброўка. Там у нас цудоўныя паненкі.

– Але... я казаў табе і пра Фаўна, што пішу яго на дыплом ды не вельмі бачу ў сваім асяроддзі. Гэта мой Пан, бог лесу. Была думка пісаць пад сярпом месяца, а тут, ува сне, я ўбачыў яго на скале ў моры пад першаю вячэрняй зоркай.

– Цудоўна. Так і пішы, як бачыш. На скале пад вечаровай зоркай.

– Не, мама, ты не ўсё зразумела. Як я магу яго гэтакім пісаць, калі ён сядзеў на нашай з Лізаю скале, на якой мы з ёю сустракаліся? Там былі мы, а цяпер там ён, Фаўн.

Тут маці рассмяялася:

– Зараўнаваў Лізу да Фаўна?

– Табе смешна?.. Я згодны – гэта смешна. Але як сэрцам і душой яго пісаць мне на скале, дзе былі я і Ліза?

– Дык ён жа бог, сыночак. Ёй ты патрэбны, а не Фаўн.

Цяпер, абняўшыся, яны да слёз смяяліся ўдваіх. Маці ведала, што смех у сына іншы, як у яе, ён адно ў думках з ёю згодны, але карціну, хоць і эцюд маленькі, піша душою, сэрцам, а сэрцу думка, хай і разумная, не дакажа, хто там, на той скале, бог саламяны або хлапец жывы, чакае менад, лясных каханак, або Лізу.

Свой смех яна раптам суняла. Адразу супакоіўся і ён.

– А ведаеш, як ты зрабі? Пішы так Фаўна, як быццам сябе пішаш. Нібыта гэта ты на скале сядзіш, глядзіш адтуль на мора, у небе бачыш

зорку, у зорцы – Лізу. Тады і сэрца ўкладзеш у вобраз, у карціну, і за Лізу спакойны будзеш.

Думка маці была нечаканай. Адразу Фердынанд не знайшоў, што ёй на гэта адказаць. Спытаў:

– А Фаўн усё ж хто? Бог ці не бог? Ён на каго падобны?

– Табе не трэба выпісваць твар. Ён на скале, глядзіць не на цябе, а ў процілеглы бок на мора, на зорку ў небе, адбітачак якой купаецца ў моры.

– І грае на свірэлі.

– Грай, кліч музыкаю да сябе каханую. Ты мне казаў, што Ліза любіць Вагнера, яго сімфоніі? І ты таксама любіш Вагнера. Цудоўна! Пішы сваю і яе любімую музыку.

Увечары, калі сцямнела і ў матчыным акне свяціла лямпа, Фердынанд пастукаў да яе ў дзверы. Яна сядзела на малой канапцы і колерам, ніткамі "мулінэ" вышывала кветкі свайго саду. Ён падышоў, нахіліў голаў да яе пляча і сказаў, што тут, у вёсцы, яна – ягоны Куінджы, што, калі вернецца жыць у Багданаў, яму не трэба будзе лепшага дарадцы, як яна. Маці прылашчыла галаву сына, расчуленая шчырасцю, што нечакана вырвалася з яго душы, а ён захваляваўся, нібы маленькі, вызваліўся з ласкавых рук і выбег з пакоя.

Да поўначы сядзеў з раманам Заля "Памылка ксяндза Марэта", які вывудзіў у хатняй бібліятэцы, каб перад сном адарвацца ад бясконцых думак пра Фаўна і ўплывы Бёкліна, што не толькі Куінджы заўважыў у яго апошніх эскізах, але і сябры, як пры ўсёй сімпатыі да еўрапейскіх мастакоў пазбегнуць чужых уплываў? З палону гэтых думак быццам выбіўся, хоць, можа, усяго на нейкі час, але трапіў у палон да Заля, іншага еўрапейца, да выпісанай ім гісторыі кахання, падобнага на сад у вясновай квецені. Раней думаў, што мастаку для творчасці патрэбна поўная адзінота, якая не няволіць пачуццяў і поглядаў на жыццё, дае свабоду і з ёю адчуванне рэальнай перспектывы творчага шляху. Але апошнім часам пачало хістаць гэтую ўпэўненасць. Хістаў і Заля. Чым далей чытаў, заглыбляючыся ў ягоны сад кахання, тым мацней адчуваў, як прагне кахання ўласнае сэрца. Акадэмія глушыла гэтае жаданне, там з усімі сваімі пачуццямі ды марамі патанаў у працы на патрэбу дня. Але цяпер, ужо вольным мастаком, адчуў, што аднаго мастацтва, каб быць напоўніцу шчаслівым, мала, што прыгажосць і мудрасць жыцця не толькі ў мастацтве.

Кнігу адклаў і адчыніў акно.

Была ўжо глыбокая ноч. Над садам, над лесам, які на фоне святлейшага неба цямнеў далёкімі хваёвымі вяршынямі, хавалася ў хмарах, зрэдку выбліскваючы, жаўтлявая, як пазалочаная, поўня, вартуючы зямную ціхату і вусціш. Дзіўнае сугучча цішыні і музыкі стаяла ў паветры, уздымалася над садам у зорнае неба. Усё здавалася казкай, хоць і рэальнасцю было, было знаёмым і разам з тым нечым новым. Гэтае ціхаты душа заўсёды жадала як сутнасці мастацтва і жыцця ў мастацтве, шукала і разам з тым пабойвалася. Музыка ў выключна ціхай начной вусцішы хвалявала заўсёды моцна. Успомніў, як некалі яна яго ўсяго размыла, затапіла на Чорным моры ў Балаклаве. Быў сіні-сіні вечар, калі падняўся на гару, пісаў там сіні эцюд, а як зусім сцямнела, з-за бухты данеслася дзівосная мелодыя "Над морам" Шуберта. Сядзеў на камені разгублены, забыўшыся, дзе ён і што яму рабіць. Тое з душою адбывалася цяпер. Там было мора, тут – лес, палеткі, але настроі хіба не тыя самыя? Іх адчуваў і ў Лёхмэ? Дык ці

не там, яшчэ ў Балаклаве, у душы прачнуўся Фаўн? Эцюды мора, адтуль прывезеныя, захапілі Шышкіна, які казаў, патрабаваў, каб пісаў болей мора, што мора яго стыхія. Але не зразумеў стары лясун, што не мора было галоўным у тых эцюдах, а душа Фаўна, туга ў адзіноце, жаданне блізкай жанчыны, музыкі. Туга Фаўна абудзіла сэрца мастака? Яшчэ тады, шукаючы ў гарах над морам цішыню амаль нябесную і адчуваючы ў ёй пакуты, зрабіў у сшытку запіс:

"Я быў шчаслівы. Мне не хапала аднае істоты, якую мог бы прытуліць да сэрца, і калі не словамі, дык пачуццём аддаць ёй часціну радасці, якая поўніла мяне".

Дык хіба не гэтыя адчуванні пасля прачнуліся ў Лёхмэ, а цяпер у Багданаве? Зноў, ужо тут, пачуў і Шуберта, і Вагнера. У душы, у сэрцы прачнуўся Фаўн.

Усё гэта ў ім адчула маці?

Ледзь дачакаўся раніцы. Як пачало світаць, калі яшчэ ўсе ў доме спалі, ён ужо быў у садзе, збіваў расу з маладой травы.

Далей за садам, у тым месцы, дзе пісаў "Вясну", выйшаў да ручая. Вясна цяпер была не тая, што на карціне, ні снегу, ні лёду – зазелянела ўсё навокал. Агледзеўся – падумаў: гэты куток прыроды пісаць можна ўсё жыццё ў розныя поры года, ва ўсякае надвор'е, у настроях розных, і кожны напісаны пейзажык будзе мець сваю ўласную мелодыю. Калі, вядома, тут жыць і кожны дзень гэтым куточкам дыхаць.

Вярнуўшыся з лесу дадому, узбег на ганак – насустрач маці дзверы адчыніла:

– Што гэтак рана ўсхапіўся?

– А тата ці прачнуўся?

– Збіраецца ў поле. Ужо трэба бульбу абганяць.

– Спачатку хай адвязе мяне ў Солы на цягнік.

– Ужо едзеш? – здзівілася яна. – Яшчэ ж ты Фаўна не пачынаў пісаць?

– Ну, супакойся, мама. Цяпер ужо напішу і ў сталіцы. Галоўнае, што тут я зразумеў, як мне яго пісаць, з'явілася ахвота працаваць. Астатняе ўсё – тэхніка.

## 4

Фердынанд глыбока адчуваў музыку і жыць без яе не мог. Яна абвастрала адчуванне жывапісу.

"...фарбы патухлі, і прырода, быццам пасля апошняга руху смычка, трымціць у бемолевых гуках змяркання".

Бемолевая танальнасць стрыманая, паніжаная, у ёй загадкавая, не да канца выяўленая мелодыя, найсаладзейшая тонкай душы мастака.

"Бемолевы тон світання..."

У гэтых танах ён пісаў "Вясну", а цяпер адчуваў "Вячэрнюю зорку" з Фаўнам. У іх лёгка знаходзіў паразуменне з прыродай, сваё з ёю адзінства. Усё гэта ведала маці, таму і падказала пісаць Фаўна пачуццямі да паненкі Лізы. Падказкаю захапіўся адразу, бо яна была яму арганічная. Вяртаючыся з Багданава да свайго ў Акадэміі мальберта, ён рады быў, што вобраз адчуў пластычна, у каларыце, і гэтая ўпэўненасць будзіла жаданне хутчэй узяць у руку палітру.

Але ў сталіцы жыццё кацілася па іншых, як у вёсцы, правілах, прадбачыць

нават бліжэйшы дзень наперадзе ўдаецца далёка не заўсёды, і падысці да палатна змог толькі на сыходзе лета. Той дзень таксама адбіўся ў сшытку:

“18. 08. 1897.

Вечар. Вецер сціх. Сонца зайшло...

А хвалі ўсё нясуцца ды нясуцца. Разбіваецца адна, накатваецца другая. Гэта, здаецца, не толькі музыка мора. Далятаюць і незямныя гукі свірэлі Фаўна, які выйшаў з лесу на бераг і ўплятае свае трэлі ў музыку вады. Сядзіць на скале ды грае, углядаючыся ў самотна замглёную зорку-вечарніцу...

Гэта мой Пан...”

Наступны запіс:

“20. 08.

Працую над Фаўнам”.

Наступны:

“24. 08.

Пішу толькі Фаўна. Карціна мне падабаецца. Не ведаю, што скажа Куінджы, але працую з захапленнем...”

Яшчэ праз тры дні:

“Малюю натуршчыка для маладога трытона. Быў Куінджы. Да “Трытонаў” даў некалькі падказак. Пра “Фаўна” маўчаў. Я скіраваў размову. Тады ён сказаў, што замнога фіялетавага (пена), а мора занадта светлае. Узяў фарбы і перапісаў фальшывыя таны. Для пены падабраў прыгажэйшы колер. Цяпер цямнейшы далягляд адразаецца ад неба. Гэта добра, але не тое, што я хацеў перадаць у карціне”.

Шукаць новае нялёгка заўсёды, Яшчэ цяжэй, калі пошукі вучня не заўважае настаўнік. Фердынанд шукаў бемолевае святло, а Куінджы, геній святла, хоць і падказаў выдатны тон, ды не той, якім пакутаваў аўтар. Што ў гэтакім выпадку рабіць? Пагадзіцца з настаўнікам або шукаць далей сваё? Настаўнік, магчыма, палічыў, што вучню яшчэ не па сілах знайсці вельмі складаны тон і, ведаючы, які самалюбівы вучань, ягоны пошук нібыта не заўважыў, па сутнасці не падтрымаў, прапанаваў здаволіцца сваёй падказкаю? У Фердынанда стае рашучасці шукаць і адшукаць тую няўлоўную, здавалася, бемолевую гармонію ў прыродзе і на палатне. Куінджы здзіўлены, уражаны, абяззброены: “Рабіце як бачыце і адчуваеце. Я так спяваю, а вы – іначай”.

Разам з настаўнікам Фердынанд шукаў і неба ў “Фаўне”. Як быццам тое знайшлі, што трэба, але, застаўшыся адзін у майстэрні, у час адпаведнага, як на карціне, святла, калі вечарэла, Фердынанд ставіў карціну насупраць канапы, клаўся на канапу, каб быць на адным узроўні з Фаўнам, і глядзеў на мора ды неба ў карціне, бачыў усё роўна як вачыма Фаўна і ўсе настроі, музыку пейзажа адчуваў нервамі ды скураю свайго героя. Гэтак заўважаў штосьці яшчэ, чаго карціне не хапала. Падхапіўшыся, клаў новыя патрэбныя мазочкі, удакладняў танальнасць.

Бывала, што, працуючы, чуў за сцяной жаночы або жаночы і мужчынскі галасы. Тады, адарваўшыся ад карціны, ад Фаўна, блізка бачыў Лізу, быццам пісаў яе партрэт. Шкадаваў, што не адважыўся на гэта там, на моры, калі яна была з ім у лёгкай белай сукенцы, у адпаведным тону сукенкі капялюшыку з бежавай, пад колер прыгожых валасоў, стужкай, калі сядзела з кнігаю казак на каленях.

Аднойчы, думаючы пра Лізу, захацелася напісаць яе замест Фаўна. Прыйшоў Куінджы. Ледзь не прызнаўся яму ў гэтым сваім жаданні, але спахапіўся і сказаў не зусім тое:

– Я бачыў Фаўна ў сне іншым.

Настаўнік насцярожыўся:

– У іншым ракурсе?

– Іншым увогуле. Нават не Фаўнам.

– Не раю вам цяпер пра гэта думаць. Вы доўга яго выношвалі, і любы іншы атрымаецца на гэтага, што ёсць, падобным. Усё, амаль усё, што для карціны трэба, вы знайшлі.

Думка настаўніка, аднак, не супакоіла і Фердынанд сказаў, што ў пейзажы перад вечаровай зоркай не горш глядзелася б каханка Фаўна. Куінджы хітра прыжмурыў адно вока, як рабіў, шукаючы схаваную загадку вучня, другім уставіўся ў яго твар.

– Вы знайшлі прывабную мадэль?

Ён не любіў бачыць маладых мастакоў разгубленымі, нясмелымі, але грунтоўным вопытам псіхолага карыстаўся асцярожна, і тут, доўга не чакаючы адказу на сваё прамалінейнае пытанне, загаварыў як пра сябе:

– Мора!.. На ім і я пакутаваў неаднойчы, як быў малады. Яно на ўсіх нас гэтак дзейнічае. Яго ўбачыш і адразу чуеш прывабны жаночы голас, які жыве ў кожнай марской хвалі. Тут шмат сонца, волі, чысціні. Тут абуджаецца і гіне шмат сэрцаў маладых рамантыкаў...

Назаўтра, пасля той размовы, Фердынанд не падыходзіў да свайго Фаўна. Яшчэ праз дзень яго з мальберта зняў, паставіў “Трытонаў”. У “Трытонах” таксама мора, яно было напісанае, але саміх трытонаў яшчэ шукаў. Меў малюнак з натуры маладога трытона, стары быў у эскізе, пасля пакут над кампазіцыяй была і падтрымка Куінджы: “Ну цяпер вы патрапілі...” Але настаўнік пакуль што ўсё бачыў паасобку: мора, грот, трытонаў. Чакаў, што скажа пра кампазіцыю, агульны тон і каларыт. Насцярожвалі сябры размовамі пра ўплывы Бёкліна. А як у працы над фантастычным сюжэтам абысціся без вопыту швейцарца, усімі прызнанага класікам жанру? Колькі разоў пераглядаў яго работы ў Эрмітажы, разварушваючы ў сабе энергію фантазіі, але ж і рысу пільнаваў, якую нельга пераступіць, як хочаш быць арыгінальным, самастойным. Найбольшая складанасць была ў тым, што трытоны – людзі і рыбы, вадзянікі з хвастамі, плаўнікамі: чаго ім, кожнаму, даць болей або меней, людскога або рыбінага, каб атрымалася карціна не толькі з жыцця марскога царства, Нептуна ды Галатэі, у свіце якіх трытоны, але і чалавеку блізкаю, цікаваю? Як абысці, працуючы над ёй, “Бітву кентаўраў” або “Пана” Бёкліна?

Убачыць у карціне, якую пішаш, адразу ўсё, што ў ёй павінна быць, не ўдаецца, увесь час, калі працуеш, узнікае штосьці новае перад вачыма, у думках, адчуваннях, кожны мазочак, настроі і дэталі залежаць ад мазкоў, дэталяў і настрояў іншых, ад таго, як тыя атрымаюцца пад пэндзлем. Ледзь напісаў-перапісаў адно – узнікае патрэба напісаць-перапісаць другое. Пільнуе вечнае сумненне: так ці не так адчуў, убачыў і зрабіў? А то здаецца: усё не так, як трэба. Адвернешся ад палатна як ад нялюбага, чужога, за іншае ўхопішся, але пра тое думаеш.

Да “Вясны” з палітрай ужо не падыходзіў, адно ўзяўся паўтарыць яе ў меншым фармаце для Куінджы. Калі закончыў і копію, прыйшоў Пурвіт, паставіў абедзве работы побач і доўга разглядаў іх, як праўноўваў адну з другой.

– Ну што тут скажаш? – развёў рукамі. – Рушчыц – сама вясна.

Фердынанд ніякавата адчуваў сябе, калі яму ў твар хвалілі яго работы,

хвалы ні ад каго не чакаў, быццам не верыў у яе шчырасць, хоць увагу і павагу да сябе як да мастака цаніў заўсёды і нават патрабаваў, але цяпер перад ім быў Вільгельм Пурвіт, і, крануты яго шчырасцю, эмоцый не стрымаў: абхапіў і расцалаваў сябра. Калі ж той пайшоў, паставіў на мальберт “Вячэрнюю зорку” і плямку святла, якую доўга шукаў, знайшоў адразу.

Увечары, вярнуўшыся з майстэрні дадому, адчуў жаданне камусьці блізкаму выліць з душы радасць. Але каму? Побач ні мамы, ні Лізы, ні Вільгельма. Сеў за стол, разгарнуў сшытак і зрабіў запіс:

“16. 09.

Хачу яшчэ раз, іначай, намаляваць Фаўна. Малы эскіз зраблю ў іншым колеры”.

З падвышаным настроем пражыў і дзень наступны. Прыходзілі сябры, з яго майстэрні разносілі па Акадэміі сваё захапленне “Вясной” і “Фаўнам”. Пад іх уплывам да Фердынанда завітаў і Рэпін. Асцярожна, як нечага асцерагаючыся, прачыніў дзверы, нячутна, мяккім крокам, пераступіў парог, агледзеўся, заўважыў на мальберце “Фаўна” і падышоў, ужо не азіраючыся, бліжэй. Фердынанд стаяў воддаль каля акна, вачэй з нечаканага госця не зводзіў, а той, быццам яго не заўважаючы, стаяў, не рухаючыся, перад карцінай. Нарэшце павярнуўся да гаспадара майстэрні і загаварыў:

– Цудоўная работа. Я пра яе чуў. Усе хваляць. І мне яна таксама падабаецца. Нават вельмі. Віншую вас. Але вы, кажуць, тут хочаце штосьці перапісаць? Я не раю. Вы занадта да яе прыгледзеліся. Гэтак бывае з кожным мастаком. Вам трэба на нейкі час пра яе забыць. – Перавёў позірк на “Вясну”, якая стаяла збоку, і нечакана весела, зусім у іншым настроі, як малады, усклікнуў: – Этс!.. Таксама ўсё і свежае, і чыстае! – Над галавою выкінуў руку і пальцам паказаў на столь, пасля тым пальцам зноў на “Фауна”: – А што?.. Магчыма, вы... – Як перадумаўшы, ніжэйшым голасам: – Не, усё ж не спяшайцеся. – Звярнуў увагу на “Трытонаў” і вусны скрывіў, паказытаў пальцам у носе, пачмыхаў: не спадабаліся. Заўважыў вышэй эцюды: – Арыгінальныя. – Вярнуўся да “Вясны” і разглядаў даўжэй, як першы раз. Спытаў: – Вы лічыце работу закончанай? – Адразу і прадоўжыў, як без жадання чуць, што на яго пытанне адкажа аўтар: – Ну так-с, так-с, так-с... вядома, што еўрапейскія мастакі далей у гэтай стадыі ўжо не працуюць.

Апошнія словы мэтра засмуцілі Фердынанда. Магчыма, што Рэпін на гэтакую рэакцыю разлічваў, бо, іх вымавіўшы, адразу развітаўся.

Застаўшыся адзін у майстэрні, Фердынанд даў волю і нервам, і самалюбству: каго папракнуў з пальцам у носе – Еўропу або аўтара? Ківок зрабіў не толькі на недаробкі, якія можна знайсці ў любога мастака, але і на тое, што ў аўтара, паляка, заходнія манеры, дух? А што заходняе ў “Вясне”? Шырокі пярэдні план? А ў “Трытонах”? Уплывы Бёкліна? Для мастака Расіі гэта забароненая вольнасць? А хто дае ці не дае дазвол? Акадэмія? Рэпін? А Куінджы не мае права? Пра шырокі план ды Бёкліна казаў і ён, але не павучаў, не папракаў: “Я так спяваю, а вы іначай”. Даваў права на гэта вучню, спакойна, ды і з цікавасцю глядзеў на тое, што вучань сам адчувае меру ўсім на сябе ўплывам, заходнім і ўсходнім, на самастойнасць мае права.

Успомніў Зеўса, яго навуку, і супакоіўся.

**5**

А ўсё ж патрэбнага спакою не было.

Апошнія дні перад выставай дыпломных работ адно звонку выглядалі бесклапотнымі, зацішнымі. Штосьці дапісваць ці перапісваць было позна, а думкі пра новыя матывы, сюжэты, вобразы не хвалявалі. Фердынанд завесіў палатном мальберт, пачысціў і працёр алеем палітру, усё лішняе прыбраў вакол мальберта і да яго не падыходзіў. Хацелася бегчы на свежае паветра, на сонца, але за вокнамі лілі халодныя, нібы ўвосень, дажджы, калегі ў чаканні адкрыцця выставы збіраліся ў майстэрнях, і тут размовы былі адны: хто ды што чуў ад чальцоў Рады пра работы, з якімі былі ўжо знаёмыя. Насцярожвалі думкі супярэчлівыя, хоць заўважалася і тое, што выказванні графа Талстога або Рэпіна рабіліся абавязковымі для іншых у Радзе. Да Рушчыца падышоў выкладчык Кісялёў і пра “Вясну” сказаў тое самае, што ўжо чуў ад Рэпіна, пра надта шырокі пярэдні план і ўплыў замежных еўрапейскіх мастакоў. Калі Фердынанд паспрабаваў давесці, што дэталёвая выпіска пярэдняга плана можа змазаць адносіны паміж танамі, той, яго ці не пачуўшы, ці не зразумеўшы, нагадаў шведа Цорна, які ў партрэтах дакладна выпісваў твар і рукі, астатняе быццам не заўважаў, што гэтакая манера выпіскі нам, у Расіі, непрымальная. І ўсё гэта пра Цорна, пра яго тэхніку пісьма, Фердынанд чуў раней ад Рэпіна.

Зайшоў у майстэрню Куінджы, паведаў, што абурыла Шышкіна ў работах Багаеўскага, удала пераймаючы манеру Шышкіна штосьці даказваць: “Вы бачылі? З паперы выразаныя хвігуры! І чым выразаныя? Нажніцамі! Чыімі? Ну толькі не рускімі...”

Здзівіліся ўсе: Шышкін заўсёды хваліў Багаеўскага – што здарылася? Быў, можа, вымушаны гэтак сказаць?

– Ну, калі гэтак сказаў граф Талстой або Рэпін, то паўторыць, нікуды не дзенецца, і нават Шышкін.

Фердынанду падалося, што заўсёды шчыры з вучнямі Зеўс на гэты раз не ўсё кажа, што думае, бо ў гэтакім выпадку абысціся іроніяй, без абурэння свайго магутнага тэмпераменту, не мог. Абураўся і тут, але з лёгкай усмешкаю спагадлівага або пакрыўджанага чалавека.

Калі Рушчыц і Пурвіт выйшлі з Акадэміі на вуліцу, Фердынанд спытаў у сябра:

– А Зеўс нам можа здрадзіць?

Спыніліся, дапытліва глядзелі адзін аднаму ў вочы.

– Думаеш, што гэтакае можа быць?

Фердынанд не вытрымаў халоднага позірку Пурвіта, аберуч схапіўся за твар, хаваючы вочы.

– Прабач, Вільгельм. Я ў гэта не веру. Спытаў таму, што гэтага баюся. Калі раптам яшчэ і гэта... тады... тады ўжо смерць нашаму ўсяму мастацтву.

– Тут, у Акадэміі, у апошні час, для гэтага ў яго былі ўсе ўмовы. Шмат хто пры ўладзе гэтага ад яго чакаў. І граф, і нават вялікі князь. Але ён нам не здрадзіў. І больш нават за тое. Абараняў, як мог, сваім усім ахвяруючы.

Падышлі да парапета набярэжнай, спыніліся, глядзелі на ваду.

– Аднойчы ён успамінаў свой сон. Цябе тады з намі не было, ты быў у вёсцы. Ляжыць, яшчэ малы, хлапчук, у сваім родным стэпе пад гарачым сонцам, на спіне, глядзіць у неба. А ў небе агромністы каршук кругамі ў

яго над галавою ходзіць і ўсё зніжаецца, крывою дзюбаю ляскоча. І раптам каменем кідаецца яму на грудзі. Малы, як можа, адбіваецца, а той ужо разрывае кіпцюрамі грудзі, шукае, каб вырваць, сэрца. І раптам Зеўс прачынаецца, мокры ад поту, як ад змагання. І ўсё жыццё, кажа, гэты жахлівы сон яго пільнуе.

– Ну а з чаго бярэцца? Па праўдзе ж гэтага з ім не было?

– Ну як з чаго бярэцца? З жыцця. – Спакойна разважыў, як пра звычайнае, Пурвіт. – Мо каршука таго і не было, але ж ты ведаеш, што перажыў Зеўс у маленстве, яго галоднае сіроцтва без маці ды без бацькі. Бяды там, у сваім стэпе, нахлябтаўся. З яе каршук і вылепіўся. А мы з табой, кожны мастак, хоць у жывапісе, хоць у скульптуры, хіба не гэтак, на палатне ці з гліны, вылепліваем фактуру, вобразы? Хіба не з усяго таго, што бачым ды перажываем у жыцці? Гэтак і сон працуе, як мастак.

Доўгіх размоў Пурвіт звычайна не любіў, яны яго стамлялі, але цяпер з'явілася ахвота выгаварыцца, і Фердынанд гэта адчуў, прапанаваў заглянуць у тракцір, да якога якраз падышлі. Пад музыку, падобную на стогн шарманкі, за кухлямі піва размова зноў вярнулася да выставы, што ад яе чакаць.

– Адміністрацыя помсціць Зеўсу, але ўжо праз нас, ягоных вучняў, бо самога ўкусіць не можа, – задумаўся ўголас Вільгельм. – Яна не церпіць тых, хто з ёй не згодны, у каго ёсць свая думка.

– І нават тады, як з ёю не згодны геній?

– А ёй навошта геніі? Ёй гэта не галоўнае – бездар ці геній. Ёй галоўнае, які ў мастака хрыбет, гнецца або не.

– А Рэпін?.. Не з тых, каб лёгка гнуўся, і ўсё ж...

– Улада не можа адрынуць ад сябе ўсіх. З ім ёй лягчэй, як з Зеўсам. Рэпін здзівіўся, абурыўся: як можна гнаць Зеўса з Акадэміі, калі ён дае Расіі выдатных мастакоў? Яго абурэнне ўсе пачулі. А што далей? Ён усё ж не кінуўся да графа або вялікага князя, каб Зеўса бараніць? Хоць мог. Меў права і сілу. Павінен быў.

– Дык хто тады і ты, і я, паміж адміністрацыяй і Зеўсам? Усе мы, яго вучні? Ахвяры? Мука ў жорнах?

– Для адміністрацыі – мука, але не для Зеўса. Ён хоць і ў цяжкім становішчы, але нас, кожнага, бароніць як сваіх дзяцей. А ты...

– Што я?.. – усхапіўся Фердынанд.

– Не гарачыся. Сядзь. – Вільгельм мякка ўсміхнуўся, у імгненным парыве сябра ўбачыўшы яго ўсяго, знутры.

– Я быў падумаў, што ён з намі ўжо не гэтакі адкрыты, як быў раней, што кажа, а што і не. Спытаў у цябе, ці згодны ты са мною.

– А не думай тое, чаго не можа быць.

Пурвіт, як ісці балт-латгалец, са словам выпадковым або камусьці непрыемным не спяшаўся, меў вытрымку даўжэй падумаць, халоднай галавой узважыць, стрымаць імгненныя пачуцці. Фердынанд над сваімі эмоцыямі ўлады гэтакай не меў, няшчырасць, у каго б яе не заўважаў, перажываў мацней, даўжэй. Несупадзенне характараў не раз'ядноўвала, наадварот збліжала, давала ў сяброўстве раўнавагу, нават і ратавала неаднойчы ў выбары і думак, і ўчынкаў.

З тракціра выйшлі – абняліся і з мірам-ладам, па-сяброўску, разышліся.

Наступны дзень абодвух сагрэла немалая радасць. У майстэрню, дзе сабраліся амаль усе калегі, чакаючы з канцылярыі апошняе рашэнне, у

якi з блiжэйшых дзён адбудзецца абарона дыпломаў i адкрыецца выстава, прыйшла афiцыйная, ад сакратаркi, вестка, што ўзгоднены загад па Акадэмii аб замежных творчых камандзiроўках: паедуць чатыры дыпломнiкi, у лiку якiх Пурвiт i Рушчыц. У той жа вечар шчаслiўчыкi наладзiлi ў рэстаране пачастунак для сяброў, засмуткаваўшых, што едуць не яны.

Яшчэ праз дзень адкрылася выстава. Спачатку ўсё выглядала як на свяце, але нечакана выявiлася бомбачка: не аказалася Куiнджы, а без яго вучнi не ўяўлялi свайго свята.

Чутка, што Куiнджы не запрасiла адмiнiстрацыя Акадэмii, сабрала ў гурт дыпломнiкаў: гэта ж знявага не аднаму настаўнiку, але i яго вучням – што рабiць? Патрабаваць, каб быў неадкладна? Але цi ёсць ужо на гэта час? Уся Рада, рэктарат, намеснiк прэзiдэнта Акадэмii граф Талстой стаялi каля ўваходу ў залу абапал высокiх, белых з пазалотаю дзвярэй, чакалi гасцей ад царскага двара, магчыма, i цара самога. З’явiлася другая прапанова: пакiнуць выставу ў знак пратэсту. Але ж яшчэ не выдавалiся дыпломы? Падышла сакратарка рэктара i папрасiла дыпломнiкаў разысцiся да сваiх карцiн. У адказ на гэта пачула пытанне: якая быць можа абарона дыпломаў без настаўнiка? Яна вярнулася ў кола адмiнiстрацыi i ўжо другi раз прынесла тое самае, слова ў слова, як загад. На гэты раз адказу не атрымала – пайшла. Нiхто з дыпломнiкаў не варухнуўся, каб той загад выконваць.

Усе прыцiхлi ў зале – нi шэптаў, нi размоў. Усе адчувалi штосьцi незвычайнае, нечага чакалi.

I раптам праз шырока адчыненыя дзверы хуткiм цвёрдым крокам увайшоў, нiбы ўляцеў на крылах, парывiсты ў чорным смокiнгу пад рафiнадна-белым высокiм каўняром мужчына. Па тэмпераменце, па ўсiх годных жэстах уладны, але не цар, без свiты. Не тыя былi i барада з вусамi, i шавялюра, але з дзёрзкай усмешкаю ў вачах – як гаспадар на свяце. Агледзеў усiх блiжэйшых злева, справа. I тут гурт моладзi, якi стаяў далей, у адзiн голас выдыхнуў:

– Архiп Iванавiч!.. Ура!..

Усе вучнi кiнулiся з кветкамi да Куiнджы: хто абдымаў, хто цалаваў, хто плакаў ад нечаканай радасцi. А хтосьцi, як пацiшэла, звонкiм голасам пачаў з лiста зачытваць тэкст удзячнасцi:

“... Вы былi сябрам моладзi. Вы верылi ў нас. Будзьце ўпэўненыя, што памяць пра Вас, як пра найлепшага настаўнiка, назаўсёды застанецца ў нашых успамiнах...”

З выставы вучнi Куiнджы вязуць любiмага настаўнiка ў рэстаран i там наладжваюць у яго гонар шыкоўную вячэру. А ўжо назаўтра амаль усе перыядычныя выданнi Пецярбурга даюць высокiя ацэнкi дыпломным працам маладых мастакоў, iх самастойнасцi, арыгiнальнасцi, жывапiснаму майстэрству, пазбаўленаму акадэмiчных схем. Аўтарытэтнае ў краiне “Новое время” пiсала: “Такiя творы, як “Пры апошнiх промнях” Пурвiта, “Вясна” Рушчыца, “Ганец” Рэрыха, “У садзе” Столiцы – гэта працы, цалкам зробленыя майстрамi, якiя не маюць нiчога супольнага з тэмамi краявiдаў, раней пiсаных па старых методыках у Акадэмii. Колькi новых матываў, новых задач! Тут сапраўды кожны з мастакоў пiсаў тое, што хацеў, што хвалявала!..” I далей: “Ф. Рушчыц выставiў чатыры краявiды, з якiх найлепшыя – “Вясна” i “Вячэрняя зорка”, але асаблiва добрая – “Вясна”, сакавiта i шырока намаляваная, перадае дасканала асветлены

вясновым сонцам снег, які не скрозь яшчэ растаў, з празрыстым ручаём і засмужанымі ад вільгаці далячынямі. У "Вячэрняй зорцы" яшчэ больш настрою, больш карціны..." Не адставалі ў сваіх захапленнях ад прац Рушчыца і іншыя выданні.

На выставу прыязджае першы эксперт у жывапісе Павел Траццякоў і, не паскупіўшыся грашыма, купляе "Вясну" для сваёй славутай галерэі.

"Вячэрнюю зорку" набывае Акадэмія.

Гучнае прызнанне Рушыца як маладой з'явы ў жывапісе, шматгалосае захапленне яго карцінамі, здавалася, загояць на сэрцы ўсе маральныя раны, прасветляць думкі, адродзяць рамантычныя настроі і задумы, бо яго, амбітнага, заўсёды акрылялі нават і куды меншыя творчыя ўдачы. Але надта моцна былі падрэзаныя крылы ў апошні час, каб усё тое, што іх падразала, адразу выкінуць з галавы, з сэрца. Цяпер гэта не адбылося яшчэ і таму, што якраз у тыя дні, калі па Пецярбургу, па ўсіх яго мастацкіх і не мастацкіх, усялякіх арыстакратычных, нават і блізкіх да царскага двара, салонах гуляла захапленне карцінамі Рушчыца, адміністрацыя Акадэміі паднесла яму яшчэ адну лыжку смалы, абвясціўшы сваё новае рашэнне: у замежную творчую камандзіроўку з вучняў Куінджы едзе адзін Пурвіт.

Гэтая навіна аказалася балючай не толькі для Фердынанда, але і для яго сябра. Пурвіт спяшаецца суцешыць:

– Я не паеду без цябе.

– А я цябе віншую. Ты павінен ехаць.

– Без цябе? Але гэта будзе зусім не тая вандроўка, якою яна магла быць, якой хацелі, пра якую марылі мы з табою.

– Ніхто з нас тут не вінаваты. На гэтай камандзіроўцы свет клінам не сышоўся, – развважыў Фердынанд. – Тым больш, што ёсць заява на гэта Зеўса. Ужо ён абвясціў, што ўсіх сваіх вучняў у Еўропу сам павязе на лета за свае сродкі. Тады мы з табой там, недзе ў Італіі або Іспаніі, на цёплым моры, і сустрэнемся.

Фердынанд нікому не хацеў паказваць свае балючай крыўды, нават і сябру блізкаму. А крыўда была не малой. Акадэмія штогод ганаравала сваіх найбольш таленавітых выпускнікоў творчай вандроўкай па Еўропе, была гэтакая традыцыя, і Рушчыц меў на яе права, што даказвала і апошняя выстава. Пра гэтакую паездку марыў ці не з таго часу, калі, яшчэ вучнем Шышкіна, на сваім другім акадэмічным годзе, прывёз з Крыма эцюды мора і ўсіх імі здзівіў. Шмат хто думаў, што ён на моры вырас: так каларытна, арыгінальна пісаў ваду марскую. Настаўнік прывёў тады і Айвазоўскага, каб паглядзеў яго марыны. Быў у захапленні і Айвазоўскі. Шышкін казаў заўсёды: дзе ваша мора? пішыце мора, гэта ваша стыхія! Прываблівалі мора і паўднёвае святло. Хацелася пабачыць і адчуць іх там, на еўрапейскім поўдні.

Цяпёр, нібы душу згубіўшы, не ведаў, што рабіць. Сябры з выставы гуртам ішлі то ў трактір, то ў рэстаран, спяшаліся на нейкія сустрэчы, ядналіся ў размовах пра свой далейшы лёс, яднала іх ужо тое, што ўсе, закончыўшы Акадэмію, заставаліся ў сталіцы, адсюль ніхто нікуды ехаць не збіраўся, а ён, мабыць, адзін з усіх прытулку тут ужо не знаходзіў і не шукаў. Душа бегла адсюль. З выставы на вуліцу адзін выходзіў і некуды ішоў. Куды? Не ведаў. Ішоў уздоўж Нявы нібы з заплюшчанымі вачыма, нікога і нічога не заўважаючы, спыняўся, спахапіўшыся, то каля нейкага слупа, ледзь з ім не сутыкнуўшыся, то ад прарэзлівага крыку ліхача, то,

не пазнаўшы дома, вуліцы, гадаючы, дзе апынуўся, ішоў далей і зноў спыняўся з пустой, без усялякіх думак, галавой. Пра свой пакой, дзе жыў, успамінаў, калі ўжо ў дамах святлелі вокны, дагэтуль шэрыя, запальваліся ліхтары на вуліцах.

На трэці дзень выставы прыйшоў дадому позна: дзверы незачыненыя, святло ў пакоі ад газавае лямпы на стале, жанчына за сталом сядзіць, як спіць, галаву звесіўшы над кнігай. Здзівіўся: куды і да каго прыйшоў? І раптам – бацька:

– Хто тут нарэшце?

У ягонай, сынавай, піжаме выйшаў са спальнага пакоя з разгорнутай у руках газетай, газета вылецела на падлогу з рук – аберуч сына абхапіў, і толькі цяпер, з-за бацькавага пляча, Фердынанд пазнаў жанчыну – сястру Ганну: яна ўжо ўсхапілася ад бацькавага голасу, стаяла над сталом, углядалася ў твар брата, і ён, углядаючыся ў яе, не мог пазнаць, яна смяялася ці плакала. Было на твары ўсё разам – радасць.

Прыехалі, каб віншаваць яго. Збіралася і маці, ды прыхварэла. Ганула брата абняла, пацалавала:

– Гэта ад мамы. – І другі раз: – І я віншую.

Бацька падняў з падлогі газету:

– Чытаў, што пра цябе ў “Ведамасцях” пішуць?

– Але ж і вы паспелі прачытаць?

– А мы цяпер чытаем усе газеты. Мама загадала, каб усе, дзе пра цябе што пішуць, купілялі і ёй прывезлі. Усе перачытваем, няма калі працаваць, – смяялася, запальваючы вясёлым маладым настроем брата і бацьку, Ганна.

Наступны дзень для ўсіх траіх пачаўся з выставы. Адразу глядзелі працы Фердынанда, пасля суседнія і зноў яго, усё перагледзелі, што на выставе. Быў Фердынанд за гіда. Пра сябраў, кожнага, казаў ля іх карцін, дзівячыся, як захаплялася ўсім, што паказваў і казаў, сястра, як хутка заўважалі яе вочы жывыя, святлом і колерам выразна выяўленыя дэталі, плямкі, як шчыра на іх рэагавала. Ажно не вытрымаў, сказаў:

– Ты, Ганна, бачыш усё як мама.

Адразу і яна зрэагавала весела:

– А мама бачыць, як Куінджы?

Аж уголас рассмяяўся:

– Ты была б у Архіпа Іванавіча першнм вучнем.

– І ён мяне таксама ўзяў бы ў творчую вандроўку па Еўропе?

– А мы ў яго зараз спытаем.

Да іх якраз ішлі гуртам сябры Фердынанда з Куінджы разам.

– Ты што гэта кажаш, Фэрдзя?.. Не-не!.. Божа, барані, бо я зараз адсюль збягу...

Фердынанд схапіў яе за руку, а тут і сябры падышлі з настаўнікам. Усіх пазнаёміў, паасобку, і з бацькам, і з сястрою. Ганна ўхапілася за братава плячо, прыціхла, а вочы, шыльцы вострыя, маланкава стралялі з-за яго пляча па сябрах, ад іх на Куінджы, даўжэй спыняліся на велічна-прыгожым твары настаўніка, які вёў ціхую размову з бацькам. Калі з выставы выйшлі, у экіпажы па Неўскім ехалі да Эрмітажа, дачка спытала ў бацькі, пра што ён размаўляў з Куінджы. Той праз акенца ўглядаўся ў цікавае яму жыццё на вуліцы, але і ёй уважыў:

– Адказваў на яго пытанні.

Тут ужо ёй большага хацелася пачуць:

– Якія ў яго былі пытанні? Пра Фэрдзю? Можа, пра мяне?

– Здзіўляўся, што твая мама з Даніі, што ў сям'і ў нас столькі культур злілося, якою мовай размаўляем у сям'і, ці карыстаемся расійскай.

– А пра сябе ты яму што казаў?

– Ён цікавіўся пра маму. Казаў, што ў Фердынанда душа больш ад жанчыны, але воля мужа. Я быў засумняваўся, і тады ён дадаў, што гэта яго думка.

Як ужо шарэла, стаміўшыся хадзіць па бясконцых залах Эрмітажа, адпачывалі ў партэры цырка, які заўсёды, бываючы ў сталіцы, любіў наведваць бацька. А ўжо наступнай раніцай, снедаючы ў даўніх сяброў сям'і, занепакоіліся, што ўначы захаладала, на дрэвы легла шэрань, зіма ў твар дыхнула, трэба спяшацца ў веску, у свой маёнтак, бо там яшчэ не ўсё гатовае да сустрэчы з зімою – чакала клопату гаспадара.

Цягнік адыходзіў апоўдні. Развітаўшыся з сястрой і бацькам, у Фердынанда знікла ахвота вяртацца на выставу, не хацелася бачыць кагосьці іншага, жаданне з'явілася вярнуцца дадому, зашыцца ў сваім малым пакойчыку, сагрэцца ў думках пра сям'ю, якая ёсць, з бацькамі, і якая будзе, калі дасць Бог, у сваёй багданаўскай прыродзе, у, сваім маёнтку са звыклым рытмам-ладам, з маленства мілым у кожнай дробязі.

Вечар праседзеў адзін, сам-насам з думкамі пра жыццё ў Багданаве, тое, што ведаў, рэальнае, сваё наскрозь, на смак, і тое, якое бачыў на нейкім дальнім плане ў мроях, замглёнае, але і ў замглёнасці прывабнае, жаданае. І бачыў, і як быццам чуў.

О, не! Чуў не як быццам – чуў сапраўды, нават і голас:

Літва! Бацькоўскі край, ты як здароўе тое:  
Не цэнім, маючы, а страцім залатое –  
Шкада, як і красы твае, мой родны краю.  
Тугою па табе тут вобраз твой ствараю.

Злілося, як і раней зліваласяў адно: любімае – Адама Міцкевіча – слова і сваё дыханне. Сядзеў і паўтараў усё тое самае, тое і гэта: "Літва! Бацькоўскі край..."

Калі ўжо клаўся ў ложак, у начной піжаме сеў за стол, разгарнуў запаветны сшытак, які ўранні перагортвала Ганула, і на чыстай старонцы зверху зрабіў яшчэ адно прызнанне, якое вынасіў за гэтыя два дні ў душы і ў думках:

"... малы свет сям'і непараўнальна даражэйшы за шырокую, але халодную грамадскую арэну".

З гэтымі думкамі і лёг. Доўга ляжаў, не спаў.

## 6

Каляды Фердынанд сустрэў у Багданаве.

Зіма выдалася цёплая, без тых звычайных, што раней бывалі ў дні гэтага свята маразоў ды снежных завеяў. Краявіды ў наваколлі выглядалі хутчэй падобнымі на вясновыя, а душа жадала зімы сапраўднай. Ну як пісаць калядны пейзаж без снегу?

Злёгку пабеленая ўначы сцежка вывела з вёскі ў засценак Даўкневічы. Вось і знаёмая выспа, за ёю ручай, на ім у гэтым месцы стаяў бацькаў млын, а дзе ён? Няўжо гэтак заседзеўся ў сталіцы, што ўжо свой млын знайсці

не можа? Ці трэба падысці бліжэй, каб убачыць? Снегу ў лесе няма нават таго, што ў полі, вакол усё шэрае, злілося ў шэрані, але схіл выспы пад танклявым лёдам коўзкі, быццам памыўся ўранні і не абцёрся, на ветры, усё ж зімовым, абледзянеў. Ступіў як асцярожней, а не ўратаваўся, памчаў лядовай аблівахай з выспы да ручая, нібыта на каньках, і не было за што, ратуючыся, ухапіцца: ні дрэўца, ні кусточка. Рудая купіна, нейкая жменя гліны, як падарунак крата, пад чаравік патрапіла – уратавала. Прысеў над ёю, перахрысціўся і млын блізка ўбачыў. На шківе барабан, вада пад барабанам цёмная, як з каламазі вір, а ўсё над ёю – казка з лёду і святла, з неверагоднага ў ельніку, як на каляднай елцы, зіхацення. Над барабанам рог будынка з старога, гадамі пашчапанага бярвення, страха пад дранкаю, і гэта ўсё таксама, як і барабан, лёдам зацалаванае. Калі б не ведаў, што тут млын, дык мог падумаць, што з глыбіні віра ўсплыла ды стала дыбам нейкая рагатая жывёліна. Адсунуўся ад купіны, на ногі ўзняўся асцярожна, каб зноў не пакаціцца ў вір, на крок-два адышоў. Там – вольха шэрая. Яе рукою абхапіў, смялей агледзеўся, ад смеху аж закалаціўся ці то з сябе, як нетутэйшага, што разгубіўся, ці што ў казку трапіў.

Альбомчык з замалёўкамі намацаў у кішэні, алоўкам пачаў накідваць абрысы нечаканай казкі, святло ды цені. Малюнак просты быў, але складаныя адценні лёду, рухомыя валёры, блікі ў фігурах з лёду гулялі і як было злавіць на дзюбку алоўка ляснное ўлонне, калі яно ўвесь час мянялася?

Назаўтра прыйшоў да млына з фарбамі, рабіў эскізы: адзін, другі – пры сонечным святле, хоць і падманвалася ў хованкі, і без яго. Ужо захаплялі не адны формы з лёду, але і дзіўна сіні снег на першым плане, пад ім лядовая тэраса ў адценнях перламутру і пад тэрасай цёмная вада, пад сонечнымі блікамі жывая. План, як у "Вясне", шырокі атрымаўся, нібы для Рэпіна, каб пры выпадку зачапіўся, знайшоў і тут заганны ўплыў Еўропы на Расію.

У той час, як над "Зімовым млынам" працаваў, у Пецярбурзе рыхтавалі да адкрыцця другую акадэмічную "Вясновую выставу", і Фердынанд адчуваў абавязковым узяць у ёй удзел з новай карцінай, бо гэтыя выставы былі ідэяй Куінджы і яго вучняў насуперак прынцыпам і формам старых акадэмічных выстаў, адмаўлялі ранейшыя схемы падбору і ацэнкі твораў, выкладкі экспазіцый, складу журы, віталі арыгінальных мастакоў, іх вольны дух, і ён, адзін з самых актыўных вучняў свайго настаўніка, меў непасрэднае дачыненне да іх задумы і арганізацыі. Цяпер жыў не ў сталіцы, у вёсцы, побач з ім ужо не было любімага настаўніка, сяброў-дарадцаў, і пра сябе, што не згубіўся як мастак, усім варта было нагадаць, даказаць, што і ў вёсцы можна быць арыгінальным мастаком. Ды і з сталіцай не хацеў губляць творчыя сувязі.

Калі "Млын" быў напісаны і ўхвалены самым строгім крытыкам – мамай, Фердынанд высылае яго чыгункай у Пецярбург і едзе туды сам.

Сябры заўсёды чакалі яго, бо ведалі, што абавязкова прывязе нешта арыгінальнае, чымсьці здзівіць любога сталічнага гурмана. Чакалі і цяпер. Як толькі карціна з'явілася ў пакоі, у дзверы пастукалі Бровар і Урублеўскі. Першы доўга чухаў патыліцу, разглядаючы не толькі вялікімі вачыма, але і шырака раскрытым ротам, маўчаў, другі загаварыў адразу, як за дваіх:

– Ну, гэтакага не прыдумаеш. Натура, жывая натура. Яшчэ я гэтакага снегу ні ў кога не бачыў. Казка?!

Бровар, як згодны з ім,ківаў галавой ды вымаўляў адзін і той жа гук:

– Тэк... Тэк... – нібы ў яго ў роце быў гадзіннік – адлічваў секунды.

Фердынанд абодвух слухаў, лагодна ўсміхаўся, тым часам думаючы, што яшчэ скажа Зеўс.

Пазней, у той жа дзень, прыйшоў Куінджы. Абняў у добрым настроі, як бацька сына, адразу папрасіў:

– Ну, паказвайце.

Карціна стаяла каля сцяны пад палатном – Фердынанд скінуў палатно, насупраць паставіў крэсла для настаўніка. Той моўчкі, неяк скавана, стаяў, углядаўся і раптам увесь страсянуўся, ускінуў над сабою рукі:

– Я рады за вас! Гэта мяне кранае!..

Даўшы выйсце эмоцыям, на крэсла сеў, зноў доўга і ўжо супакоена глядзеў на карціну, разважліва казаў пра снег на ёй, пра лёд, пра формы млына, гармонію ў каларыце і малюнку. Хваліў. У ваду даўжэй углядаўся, з крэсла прыўстаючы. Тут аўтар насцярожыўся, захваляваўся:

– Вада мяне бянтэжыла таксама. Тон доўга падбіраў. Святла не хапала. Баяўся залішне цёмнага.

– Дарэмна. Натура вас хвалявала, а вы ёй да канца не паверылі. Залішне светлых плямаў. І на вадзе, і ў небе. Вы смелы мастак, а тут?.. Там, на выставе ў зале, на тым святле, яны будуць мякчэйшымі глядзецца, гэта ўлічваць трэба, але, пакуль карціна ў сваіх руках, раю змякчыць. – Дадаў рашуча: – Трэба. – І зноў быў задаволены: – Я і раней казаў, што тэхніка ў вас выдатная. Ёсць тэмперамент.

Праз тры дні “Зімовы млын” быў ужо ў акадэмічным музеі, дзе збіраліся работы, прапанаваныя на выставу. Сюды адзін за адным заглядалі чальцы журы, знаёміліся з новымі творамі, адсюль выносілі пра іх думкі. Засвечваліся і аўтары, якім хацелася пачуць слова пра свае работы. Калі аб’явіўся Фердынанд, шукаючы сяброў, ля “Млына” стаялі студэнты. Ён падышоў – яны яго пазналі, пачалі хваліць карціну, маючы ўжо агульную думку, і ўсе раілі замяніць раму, спасылаючыся на пачутае выказванне Куінджы, які хацеў бачыць карціну ў залатой раме. Фердынанд прамаўчаў, здзівіўшыся, бо Куінджы мог гэта сказаць яму сам. Убачыўшы, што аўтар не вельмі згодны, раптам сказалі, што зробяць гэта нават і без яго дазволу. Назаўтра пра тую прапанову ён і забыў, бо клопату хапала без рамы, калі ж прыйшоў на адкрыццё выставы, карціна вісела ў новай залатой раме, глядзелася выдатна, аж вачэй не мог адвесці, нібыта бачыў яе ўпершыню. Хто расшчодрыўся, даў новую раму, не ведаў, але быў упэўнены, што той, каму карціна вельмі спадабалася. Цяпер каля яе ўвесь час таўкліся гледачы. Адыходзілі адны – падыходзілі другія, найбольш студэнты, эмоцыі якіх заўсёды непасрэдныя, свае – ён гэта добра ведаў. Спыніліся і Бенуа з Вялікім князем Юрыем Міхайлавічам. Работу хвалілі абодва, цікавіліся, дзе знайшоў сюжэт. Адышлі яны – падышоў Айвазоўскі. Той быў яшчэ ў вялікім захапленні:

– Віншую. Шырока, смела. Тут я вас пазнаю.

Па выставачных залах прайшла прафесарская камісія, адбіраючы лепшыя творы для Акадэміі. Твар кожнага з камісіі падобны быў на твар калі не бога, дык мудраца, суддзі вышэйшага і непадкупнага. Спыніліся на нейкую хвіліну ля “Млына” і рушылі далей. Хвіліна тая што-небудзь абяцала? Каму і што?

Фердынанд сядзеў насупраць карціны, але далей, правёў чальцоў камісіі паглядам, не пажадаўшы трапіць ім на вочы, адчуўшы сябе як бы не аўтарам “Млына”, а выпадковым, з натоўпу вулічнага, чалавекам, і на

душы зрабілася лягчэй, нават прыемна, што тых людзей не ведае, што незалежны ад іх, што ён ім не патрэбны, як і яны яму. На нейкі момант быў падумаў крыху іначай: што скажуць пра карціну, ці выкажуцца, каб яе набыць у Акадэмію, каб выплаціць за яе аўтару, і колькі выплаціць, колькі яна каштуе? Але адразу адмахнуўся ад гэтых думак з прыкрасцю, нібы ад думак здрадлівага двайніка. Насуперак ім і свайму здрадніку сказаў рашуча, што гэтак думаў сын годнае літоўскай шляхты год назад – якая яму тады была пакута. Цяпер ён іншы: вольны, незалежны. Усхапіўся з лаўкі, рашуча павярнуўся да дзвярэй, паглядам сутыкнуўся з сустрэчным позіркам як выцвілых на моцным сонцы вачэй у пейзажы злёгку падсмаленых, нібы на тым жа сонцы, бародкі, вусоў і бакаў піцерскага разначынца. Зрабіўшы крок, спыніўся.

– Я заўважыў, – прамовіў той, памуляўшы губамі, – што вы тут доўга седзіце. Магчыма, бачылі аўтара гэтай карціны? – паказаў пальцам на “Млын”.

– А вы штосьці яму сказаць хацелі? – спытаў Фердынанд.

– Н-н... не, не зусім так... – Чалавек быццам яшчэ слоўка меўся вымавіць і не адважваўся.

– Вы хочаце купіць карціну?

Тут незнаёмы як разгубіўся.

– Н-н... я-а... вы мяне зразумелі, але не зусім. Так, я хацеў бы набыць гэтае дзіва, але... ну, вы-ы... бачыце?.. – Ён далонямі паляпаў сябе па кішэнях, безумоўна пустых, развёў безнадзейна рукамі, заплюскаў, як дзіця, вачыма.

Фердынанду зрабілася шкада яго. Спытаў:

– А вы хто будзеце? Можа, мастак?

– Н-не, не... Я практыкую ў лясным інстытуце.

– Прыроду ведаеце?

– Ну-у... прырода – вечная для ўсіх загадка.

– А жывапіс, пейзаж вы адчуваеце?..

– Гэтак сказаць не магу, але тут, у гэтым пейзажы...

Размова пачынала быць цікавай Фердынанду:

– У гэтым пейзажы вам штосьці падабаецца?

– Святло. Гэтакім святлом валодае толькі Куінджы. Яно не адтуль, – незнаёмы паказаў пальцам на столь, на акно, маючы на ўвазе неба, сонца, – яно з самое рэчы, з формы. Быў гэтакі са мной выпадак. – Ён мякка ўсміхнуўся, нібы згадаўшы штосьці весялейшае. – Я працаваў у музеі, у аддзеле старажытных пазванковых. Там захоўваліся шкілеты яшчураў, дыназаўраў. Аднойчы ў мяне было начное дзяжурства. Іду па калідоры і раптам чую за дзвярыма ў залу з дыназаўрам грукат. Грукнула – і ціха. Я спыніўся: што можа быць? Яшчэ не раніца, прыбіральшчыцы не прыходзілі, і дзверы замкнёныя. Прайсці міма? Мо падалося? Не магу: а раптам нехта? Усялякае бывае. Адмычкі ў мяне ў кішэні. Я дзверы адчыніў, ціха зайшоў. У зале цёмна, тры цёмныя акны, але і нейкае даволі дзіўнае святло, у якім я бачу ў шкляных шафах на шкляных палічках малых дыназаўрыкаў. Яны першымі мне кінуліся ў вочы, бо да мяне бліжэй былі. Стаю, углядаюся. Як быццам нічога дзіўнага: шкілеты – косці святлейшыя ўначы за ўсё астатняе ў інтэр’еры. Але як вочы адвёў ад дыназаўрыкаў, за імі і вышэй, над імі, выразна ўбачыў шкілет вялікай галавы старога дыназаўра. Яна там у нас стаяла на драўлянай падстаўцы ніякім шклом не агароджаная. Глядзелі на мяне зубастая разяўленая пашча, дуплы наздрын, нос пляска-

ты, як лапата, дугі вачэй, ілбіна. Усё сплецена з костак, і гэта, што кажу, і там яшчэ ўсялякае начынне, увесь касцяк, не проста каб свяціліся, але свяцілі мне ў вочы, з сябе праменілі святло, прытым жывое, яно мянялася ў адценнях, пералівалася, мігцела, ад чаго быў і шкілет нібы жывы, увесь рухаўся. Што адбылося там са мною? Упаў, прытомнасць страціў. Ляжаў доўга ў шпіталі Мендзялеева. Адтуль як выпісаўся, да тых шкілетаў ужо не вярнуўся. Там быў дзядок, старэнькі доктар, ён мне казаў, што ў прыродзе ёсць сваё святло: расліны, дрэвы, птушкі, звяры жывуць сваім святлом. І людзі ёсць, якія тое святло бачаць, адчуваюць. Туды, у шпіталь, прыходзяць мастакі, каб зрок праверыць. Дык у Куінджы, казаў мне дзед, вочы зусім не гэтакія, як у іншых мастакоў. Ён бачыць святло не толькі тое, што ад неба, але і тое, што знутры расліны. Там, у шпіталі, ёсць шкло Мендзялеева, вока наскрозь паказвае.

Пра той шпіталь, што ёсць гэтакае шкло, што мастакі бываюць там, што вока Зеўса ўсіх здзіўляе, Фердынанд ведаў, і гэта не давала цяпер яму падстаў, каб чалавеку не паверыць. Ён у яго перапытаў:

– Дык вы лічыце, што аўтар гэтае карціны мае той дзіўны зрок?

– Так. Я гэта бачу. Вы мне не верыце?..

Фердынанд маўчаў. Заўважыўшы, што суразмоўнік хвалюецца таксама, параіў:

– Прысядзьце. Яшчэ не вечар, мастак гэтай карціны яшчэ можа сюды прыйсці.

Калі выйшаў на вуліцу, крокаў сто прайшоўшы, спыніўся. Нечым спадабаўся яму той выпадковы чалавек. Размовай нечаканай, шчырасцю? А можа, і ўвагай, мо нават і любоўю сваёй да жывапісу? Чаму ж не прызнаўся яму, што “Млын” – яго карціна? Ах, не любіў, калі ў вочы хвалілі? Але, магчыма, ён не хваліць хацеў, а распытаць пра вока мастака, пра тое таемнае святло, якое вока ў цёмным лесе заўважыла ў снезе, у вадзе, у лёдзе? А як і пахваліць хацеў, дык што тут кепскага, калі чалавек шчыры? Вярнуўся назад да карціны, але чалавека ўжо не было. Прайшоў па ўсёй выставе – не знайшоў. Зноў выйшаў на вуліцу.

Назаўтра Фердынанд дазнаўся, што “Млын” Акадэмія не купіла. Дазнаўся і пра тое, што на званым абедзе хтосьці з мастакоў спытаў у Рэпіна, чаму Акадэмія не набыла твор для свайго музея. Той у адказ спытаў: “А хіба вы лічыце, што гэта выдатная карціна? – Сам адразу і адказаў на абодва пытанні, сваё і да сябе: – Не, гэта павялічаны эцюд. Цяжар ды сінь. Хоць на выставу масьё Дзягілева”.

У той жа вечар Фердынанд піша ліст у Багданаў бацькам. Ведаючы, як яны сочаць за яго творчымі поспехамі і няўдачамі, як за яго хвалююцца, ён паведамляе пра вынікі выставы, пра водгукі на “Млын” і што цяпер, не прадаўшы карціну, у яго няма ні магчымасцяў, ні жадання ехаць на лета ў Еўропу. Пра паездку з Куінджы, не маючы ніякіх звестак і адчуваючы, што настаўніку не да яе, у лісце не кажа. Каб не псаваць настрой бацькам, дзеліцца нібыта радасцю, што ўсё лета правядзе нарэшце разам з імі ў вёсцы, што родная прырода яму яшчэ ніколі не здраджвала і не здрадзіць, дасць для творчасці не менш, як можа даць чужая Італія або Францыя.

Калі ўжо ліст пайшоў па пошце ў Багданаў, Куінджы абвяшчае, што сваіх вучняў вязе ў Еўропу за свае сродкі, што падарожжа рыхтуецца і пачнецца з двухдзённага знаходжання ў Варшаве, а далей шлях ляжа праз

Берлін, Кёльн, Парыж, Астэндэ, Брусель, Майнц, Страсбург, Базель, Люцэрн, Мілан, Верону, Венецыю, Мюнхен, Вену. Усіх, каго настаўнік браў з сабой у гэтае даволі доўгае падарожжа, ахоплівае радасць. Думкі пра блізкае лета ў Фердынанда мяняюцца, і пра гэта ён адразу паведамляе бацькам у другім лісце, каб не перажывалі за яго зламанае лета, бо хоць і суцяшаў іх тым, што ў вёсцы будзе не горш, як у Еўропе, яны ўсё ж выдатна ведалі яго ранейшы настрой, мару пажыць, папрацаваць пад тым, у Еўропе, сонцам.

Аднак ледзь выслаў другі ліст, як усхвалявала новая неспадзяванка – Сава Мамантаў. Усім вядомы мецэнат у мастацтве купляе “Зімовы млын” і дае за карціну немалыя грошы – шэсцьсот рублёў. Фердынанда гэта і радуе, і прымушае зноў пераглядзець сваё падарожжа па Еўропе.

Ехаць ён марыў не як на цікавую экскурсію ці адпачынак, а каб сур’ёзна папрацаваць у новай для сябе прыродзе, на іншых, як дома, паветры ды святле, узбагаціць палітру новымі жывапіснымі сродкамі, больш сакавітым паўднёвым каларытам. Ён разумеў, што для гэтага спатрэбіцца не толькі іншая натура, але і поўная незалежнасць ад нават самых дробных неспрыяльных абставін, ад людзей таксама, жыццё з якімі, калі і было цікавым, патрабавала пэўнай рэгламентацыі, што найбольшую свабоду мог мець толькі на адзіноце з прыродай, не звязаны лішнімі правіламі сваіх паводзін і чужымі жаданнямі. Але калі выявілася, што Акадэмія не купіла “Зімовы млын”, што грошай на паездку не будзе, а настаўнік вёз на сродкі са свае кішэні, Фердынанд не мог адмовіцца ад падарожжа сяброўскім гуртам. Цяпер усё зноў мянялася: магчымасць зрабіць доўгае і бязбеднае падарожжа даваў, купляючы карціну, Мамантаў. Што рабіць? Турнэ з настаўнікам і сябрамі таксама прываблівала, ды і няёмка было адмаўляцца. Фердынанд у роспачы. У гэтым стане ён задае сабе пытанне: што атрымаецца ў выніку і ад паездкі з усімі разам, і ад паездкі адзінцом? Адказ быў відавочны: каб не здрадзіць сваёй даўняй задуме, ехаць павінен адзін.

Ёй адсылае ў Багданаў трэці ліст, радуючы бацькоў тым, што “Зімовы млын” прывабіў выдатнага чалавека, знайшоў новага гаспадара, прызнаецца ім пра новыя перспектывы на лета, і збірае ў рэстаране сяброў, з якімі меўся ехаць, шчодра частуе з нагоды ўдалага продажу карціны, хоць абвясціць пра сваю апошнюю задуму падарожжа ў Еўропу не спяшаецца. Гэта, апошняе, зробіць праз некалькі дзён па пошце ўжо з Багданава ў лісце да Куінджы.

Вярнуўшыся ў вёску, Фердынанд пачынае рыхтавацца да самастойнага падарожжа. Была і роспач, што адрываецца ад сяброў, але ціхае, лагоднае для сэрца жыццё ў родным доме, у сваёй сям’і, у прыродзе супакойвала, ды і газеты свежыя яго не забывалі, не абміналі добрым словам. Аўтарытэтная, асабліва сярод палякаў, газета “Kraj”, што выдавалася ў Пецярбурзе, змясціла яго першае ў жыцці інтэрв’ю і выказалася сама:

“Рушчыц хоць і выстаўляецца ўпершыню, але яго “Млын” належыць да лепшых сёлетніх карцін. Тут няма ні ўпрыгожанай натуры, ні фальшу пачуцця, рэч напісана шчыра, смела, са здзіўляючай упэўненасцю рукі”.

Гэтакія водгукі з захапленнем чытала вёска, яны радавалі бацькоў, усіх у сям’і, а Фердынанда гэта не толькі суцяшала, але і акрыляла, давала ўпэўненасць, што выбраная дарога не памылковая, што ісці ёю трэба далей без усялякіх сумненняў.

**7**

І ўсё ж: што Рушчыца найбольш цікавіла ў Заходняй Еўропе? Адчуць гэта можна з яго нешматслоўных, часам паспешлівых занатовак у падарожным сшытку. Вось першы запіс:

“Варшава, 25. 05. 1898.

Учора бачыў праезд князя Імерэцінскага. Здзіўляла, што і ён, і ўся світа ехалі ў англійскіх карэтах. Нават рускія ў Варшаве падладжваюцца да агульнаеўрапейскіх звычаяў, нягледзячы на тое, што маюць вялікае войска. Іх лад жыцця і руская мова тут на другім плане. Прыемна чуць усюды чыстую польскую мову. Увесь выгляд горада не такі санлівы, як у нас. Жыццё віруе”.

Рушчыц ехаў з грунтоўна прадуманай мэтай – як мастак: папрацаваць на натуры ў новым для сябе багатым на святло каларыце, убачыць шэдэўры сусветнага мастацтва, павучыцца на дасягненнях еўрапейскай жывапіснай школы. Да гэтага рыхтаваўся, пра што кажа запіс: “Прадбачачы, што буду ў Бельгіі, я перад ад’ездам заняўся гісторыяй Фландрыі...” І раптам, у першы дзень за мяжой, занатоўвае, як самае моцнае ўражанне, у якой карэце едзе расійскі князь, генерал-губернатар Варшавы, галоўнакамандуючы акупацыйнага войска. Што адбылося з Рушчыцам, з яго мэтанакіраванымі мастакоўскімі амбіцыямі? А ён і тут выглядае Рушчыцам. Па спадчыне ад бацькоў, дзядоў ды прадзедаў патрыёт Літвы і Польшчы, ён радуецца, што палякі нават ва ўмовах расійскай акупацыі застаюцца палякамі, што тут па-ранейшаму вольны нацыянальны дух, польская мова, а расійскі князь, хоць і генерал-губернатар, вымушаны прыстасоўвацца пад лад жыцця палякаў. Народ не скарыўся чужому войску, жыве і ў гэтакіх умовах сваім жыццём.

Рушчыц – мастак з непахіснай нацыянальнай свядомасцю, чаго не вынішчыла ў ім і царская сталіца за гады вучобы ў імператарскай Акадэміі. Хіба не гэта перш-наперш заўважалі ды і казалі Рэпін, Куінджы, Шышкін, калегі па майстэрні, калі ўглядаліся ў арыгінальную натуру і тэхніку яго жывапісных работ?

Дарога з Варшавы вяла далей на захад, і там, за межамі радзімы, панавому адкрываўся сам мастак у даволі шчырых захапленнях, разважаннях.

“Кёльн, 19.06.

Катэдра. Набажэнства. Ігра арганаў дапаўняе ўражанне. Цудоўны хор. Гармонія гатычнага стылю поўнасцю авалодала мною”.

Каталік, таксама па спадчыне, ён не можа абмінуць касцёл. Як мастак шырокага кругагляду, грунтоўнай еўрапейскай культуры, і ў касцёле бачыць гармонію духу і стылю, красу і сэнс у адзінстве духоўнага і матэрыяльнага.

“Парыж, 07.07.

Як добра, што вандрую не ў кампаніі. Тут я сам-насам з тым, што бачу. Няма шырмы, якая хавае ад вачэй столькі патрэбных звычайных рэчаў і выклікае прыкрасць”.

Парыж і далей:

“Была ўжо палова шостай. Выстава Клода Манэ зачынялася, і я наведваў яе ў апошнія паўгадзіны. Шчаслівая магчымасць. Узіраючыся ў расплаўленыя фарбы, у дзіўна перададзенае мастаком паветра, я адчуў шмат таго, чаго раней не ведаў. Няхай гэта будзе маім апошнім уражаннем ад мастацтва ў Парыжы”.

Рушчыц высока цэніць усё індывідуальнае, арыгінальнае, новае. І ў мастацтве, і ў іншых праявах жыцця, у характары, у паводзінах чалавека. Ён шчаслівы, калі штосьці патрэбнае, выдатнае выяўляе сам і гэтую магчымасць ахоўвае як найвышэйшую каштоўнасць.

Праз колькі дзён –

“Базель...

Якое шчасце, што я паехаў праз Базель – дзеля... Бёкліна мог бы зрабіць і яшчэ даўжэйшае падарожжа. Гэта – для мяне”.

І зноў, і тут адчуваецца яго задаволенасць, што вандруе адзін, самастойна, што ні ад каго не залежны ў выбары дарог, бо не ўбачыў бы ў гэтым падарожжы Бёкліна, яго работ, калі б быў не адзін, а з тымі, каму Бёклін усяго толькі непажаданы ўплыў Захаду на беззаганнасць расійскага мастацтва.

Нечакана падарожніка знаходзіць ліст з Багданава. Рады яму, ён адразу адпісвае дадому:

“Бачу, што лета ў нас падвяло гаспадароў. Прыгожа паказвала на ўраджай, але холад і дажджы вельмі нашкодзілі. Дай Божа, каб атрымалася ўдала закончыць сенаванне і жніво. Сумна мне, што калі Тата мае столькі клопатаў у гаспадарцы, я тут атрымліваю шмат прыемнасцяў...”

Там, за мяжой, у Рушчыца абвастраецца жаданне вярнуцца дадому. Аказваецца, што душа яго не падарожніца. Бацькам і самому сабе ён прызнаецца: “Бачым і захапляемся прыгажосцю іншых краін... Аднак любім толькі сваю. Адчуваем, што яна нам, а мы ёй належым...”

І вось ён зноў у Багданаве.

Верасень. Надвор’е цудоўнае для працы ў полі і за мальбертам. Яшчэ ні восеньскіх дажджоў ды халадоў, ні ветру. Самая пара капаць бульбу, і ўсе гаспадары ў полі. Там з раніцы і бацька з работнікамі, з коньмі. Там сёстры Ганна і Вольга. Туды, на сваё поле, праз малады бярэзнік, прашыты сонечнымі прамянямі, ідуць і Фердынанд з матуляй. У празрыстым паветры насустрач лятуць, зіхацяць на сонейку, на твар садзяцца, ліпнуць казытлівыя павуцінкі, з бяроз пад ногі аблятае рана пажоўклае лісцейка, паветра з палёў даносіць салодкі водар пасохлага бульбоўніку, гаркава пахне ад вогнішчаў на бульбяных палетках. Фердынанд з замілаваннем пазірае на маці, ідучы побач, усміхаецца. Яшчэ зусім нядаўна, учора-пазаўчора, то ў Францыі, то ў Італіі, то ў Швейцарыі, углядаючыся ў шэдэўры прыроды, жывапісу, архітэктуры, думаў, якое шчасце выпала яму іх бачыць і як не хапае гэтакага хараства ў родным краі, а тут, як адчуваў цяпер, красы не меней, яна тут проста іншая, бо з іншымі людзьмі, з народам іншым у гармоніі, у адзінстве. З сваёй красою звыкліся, таму і мала заўважаем, цэнім. Мастак патрэбны, каб вочы на сваю красу людзям адкрыць.

Фердынанду рупіць сказаць гэта маці, а яна, ідучы, зноў пазірае на яго, пытаецца:

– Табе там сумна не было сярод чужых людзей?

Няўжо адчула тое, што падумаў? Колькі разоў ужо па прыездзе гэта заўважаў у ёй, здзіўляўся кожны раз.

– Мне, мама, сумна не бывае там, дзе чысціня, культура, дабрыня, краса. Як мала гэтага, тады сумую. Тады ратуюся ў думках пра цябе, пра тату, пра наш дом, наш сад. – Нібыта на пытанне адказаў, але хацелася сказаць і большае. – Краса, я думаю, чужой нікому не бывае. Яна, як ёсць, слугуе не аднаму камусьці, не аднаму нават таму, хто яе стварыў,

не аднаму народу, хоць ён і гаспадар яе, як Бог стварыў – не аднаму і Богу, яна слугуе ўсім, каму патрэбная. Калі я глядзеў на палотны Клода Манэ, захапляўся яго жывым паветрам, то адчуваў тое паветра як сваё, багданаўскае, вось гэтае, у гэтым бярэзніку.

– Але там, кажуць, іншае святло?

– Сонейка Бог даў адно на ўсіх. Святло і там бывае featureзнае. Там вочы весялейшыя ў людзей. Мы тут бачым зашмат шэрага. Баімся чыстых колераў.

– Баіцца і Куінджы? – раптам спытала маці. Яе пытанне здзівіла Фердынанда.

– Не, мама, не. Архіп Іванавіч – само святло.

– Таму яго баіцца шэрань?

Фердынанд спыніўся. Спынілася і маці. Ён ёй глядзеў у вочы, яна яму глядзела ў вочы, усё роўна як паміж іх працягваўся нячутны, але цікавы абодвум дыялог.

– Ён, мама, грэк, святло ў яго ў крыві.

З бярэзніку выйшлі на мала ўкатаную мурожную дарогу паўз гарбатае, прыбранае ўжо поле. Перад тым полем Фердынанд зноў спыніўся, здзіўлены, не мог поле пазнаць.

– Не тут, – сказала маці. – Сёлета наша бульба далей, за гэтай выспай, а тут мы жыта сеялі. Жнеям пашанцавала, была пагода. Скапаем бульбу, тады ўжо і там, і тут пераарэм. Каб толькі да дажджоў управіцца. Зямля на гэтай выспе цяжкая, суглінак, у дождж цяжка араць. Раней тут на валах аралі.

Маці, задумаўшыся, ішла далей, а Фердынанд стаяў, глядзеў на поле. Сухое ржышча свяцілася пад сонцам, іскрылася, нібыта россып залатога зерня.

Маці спынілася. Чакала сына.

Шэрая хмара схавала сонца, і поле адразу пагасла, зрабілася таксама шэрым і яшчэ больш гарбатым.

Увечары, вярнуўшыся з бульбы, Фердынанд падняўся на другі паверх у сваю новую майстэрню да мальберта, паставіў на яго падрамнік з чыстым палатном, адышоў і сеў насупраць у крэсла. Глядзеў на палатно. Яшчэ там не было ніводнага дотыку пэндзля, не гулялі ні вугаль, ні аловак, але вачэй з палатна не зводзіў, яны захоплена blішчэлі, як бачылі штосьці новае, выдатнае. Усхапіўся з крэсла, падышоў да мальберта, узяў вугаль і дакрануўся ім да палатна, але руку адразу апусціў, пакінуўшы на палатне адну ўсяго кропку вугалем. Зноў адышоў да крэсла, але не сеў, стаяў – глядзеў на палатно. Другі раз падышоў больш асцярожна і вугалем правёў на палатне адну ўсяго лінію ад левага ніжэйшага кута направа скрозь да краю, то падымаючы яе вышэй, то апускаючы ніжэй, выпісваючы дугу і ў нейкіх месцах спрамляючы яе. Па той дузе паставіў рыскі – адну, другую, трэцюю, – рашуча адышоў да крэсла і апусціўся ў яго адразу. Глядзеў на палатно, пакуль на ім была відаць гарбатая, злева направа, лінія.

У вокнах за лесам садзілася сонца, залаціла яго зялёны грэбень і далёкі збег неба, а ў майстэрні ўжо сцямнела, размытай па краях светлай плямай стаяла на мальберце палатно, і не было відаць той, ад вугаля, крывой, злева направа, лініі. Толькі цяпер Фердынанд адчуў усім целам, як стаміўся. Заплюшчыў вочы.

Ноччу сасніў поле, сваё ці не сваё, адразу пазнаць не мог, хоць адчу-

ваў быццам сваё. Імжыў ціхі дождж, і яно, узаранае, ляжала аж чорнае, але блішчэла, як ад святла пад месяцам. На краі поля, каля мяжы, пад парасонам стаяла маці, на тым нібыта месцы за дробным бярэзнікам, дзе ўдваіх надоечы стаялі. Чуваць быў злосны, з матам, мужыцкі голас і ціхі, спачувальны, мамін: "Навошта ён гэтак на бедную жывелу?" Фердынанд глядзеў у той бок, куды глядзела маці, адкуль голас чуўся, нікога там не бачыў. І раптам над рысаю, за якой поле знікала і пачыналася неба, заўважыў нейкі рух, штосьці жывое. Дзве галавы рагатыя, адна з адной як звязаныя, з зямлі ўзнімаліся, буйнелі. Пад імі, ужо буйнымі, заўважыў ногі жывёлы ў калматай рудой поўсці, пераступалі, як на адным месцы мясілі гліну, і крыху вышэй, за імі, два тулавы, спіны гарбатыя. Быкі? Марудна набліжаліся яны, і набліжаўся тым самым малым крокам да іх нібы прывязаны, за імі следам, мужык у доўгай кашулі, махаў над галавой і над быкамі бізуном.

Прачнуўшыся, Фердынанд ляжаў у ложку і думаў, з чаго сон узяўся. Успомніў, як маці казала пра валоў, якімі ў Багданаве аралі поле, калі яна за бацьку выйшла, сюды прыехала. Адтуль і сон з валамі, з мужыком, аратым на гарбатым полі? Яны ад веку разам, паміж сабой як звязаныя адною доляй. Дык што гэта? Ці не карціна новая? Пачатая ў сне?

Увесь дзень прастояў ля мальберта. А што зрабіў? Ад раніцы шмат у вачах і думках здавалася цікавым, новым. Малюнак карціны, якую, быў упэўнены, адчуў, быццам намаляваў у сне нават у дэталях, усё было, каб выбудаваць вобразы, агульную ідэю, тэму твора. Поле, валы, араты – ніякай лішніцы. Сцёр учарашні на палатне вугаль, паклаў усе гарызанталі, вертыкалі, знайшоў адразу дынамічны контур поля: не выдумляў, з натуры перанёс, каб поле, аснова будучай карціны, было сваім, у душы будзіла радасць. Ад палатна адышоў, даў волю сумненням і нішто не зганіў. Паспрабаваў намаляваць валоў, але адчуў, што месца, ракурс іх у агульнай кампазіцыі павінна вызначыць святло – пачаў шукаць тон і фактуру зямлі і неба. Ды тут ужо тое, што здавалася ледзьве не вырашаным, аказалася далёка не простым. Як быццам знайшоў прапорцыі зямлі і неба, зямлі, хоць і было тут поле роднае, не даў прасторы, даў небу ўладу, глыбіню, якое і раней не крыўдзіў у сваіх работах, усё зямное ім вымяраючы і вызначаючы, ужо клаў колер плямамі, між іх шукаў танальныя адносіны, і раптам пра валоў, пра мужыка падумаў – спахапіўся. Карціна – не чысты пейзаж, не краявід, на якіх рука набітая? Тут – што галоўнае? Што – дамінанта? Хіба не мужык, не яго доля? А як глядзецца будзе ён, калі валоў паставіць буйным планам, калі валы на гледача карціны пойдуць? Мужык – за імі, за сахой ці плугам – у дальняй перспектыве? Адтуль што зможа ён сказаць людзям, якія будуць разглядаць карціну? Дык дзе валоў паставіць, каб мужыка не заганялі ў кут? Каб і яны глядзеліся, і ён?

Шукаў ім сваё месца і не знаходзіў. Даймаць пачалі сумненні: а ці патрэбны тут мужык і ці патрэбныя валы? А як без іх? Тады навошта поле?

Успомніў, што напісаць багданаўскае поле марыў і летась, і пазалетась, але не гэтае. То жыта наліўное захапляла, то лапушыстыя бульбяныя шнуры, то грэчка ў час квецені, палі ў аздобе васількоў па межах, у іх прасторы дубы ды ліпы векавыя глядзеліся з не меншай веліччу, як хвоі ў Шышкіна па жыце, а лён з цыкорыем – таксама казка. Але ўсё тое бачыў у колеры, як краявіды. Там – лірыка, тут – эпас. Звычайна бачыў красу ў прыродзе, а тут усё пад гарбом мазольным: валы, мужык і нават зямля,

поле. Здзіўляўся сам, як гэтак атрымалася, што ён, заўсёды ўражаны красой прыроды, у каларыце знаходзячы натхненне для работы, не пазбягаючы і казачных матываў, адчуў і ўбачыў у прыродзе натуру як бы не сваю, не ў сваіх настроях, праўду сярмяжную, нават тыповую ў сярмязе не толькі для вала ці мужыка, а і для краю роднага. Уразіў матчын успамін? Але ж ён быў лакальны, як выпадковы штрых, малюнак, а тут, у межах палатна, – гісторыя, праўда эпічная. З якіх крыніц у ім, у лірыка, рамантыка, з'явілася ахвота гэта пісаць?

Не ўсё, што ўжо было на палатне, мог вытлумачыць, не ўсё яшчэ, працуючы над тэмай і тры дні, і чатыры, адчуваў, што ўжо ёсць і чаго яшчэ няма, бо і сябе, сваю душу, не разумеў да канца. Але валы ўжо знайшлі ў карціне сваё месца, глядзеліся не толькі як ахвярнае цягло, але і як прырода, магутная ды непакорная, глядзеўся і мужык за імі і над імі. Адчуўшы гэта, сеў Фердынанд за сшытак і ў ім пакінуў запіс:

"Нарэшце размясціў валоў. Усё мяняў, перарабляў. І не шкадую. Гэта добра. – Адсунуў ад сябе сшытак, каб устаць з-за стала, але задумаўся, нібы над тым, ці ўсю праўду сказаў. Зноў сшытак да сябе падсунуў, дадаў радок: – Валы, здаецца, атрымаліся. А ці тое, што трэба, неба?"

Адны сумненні супакойваў – з'яўляліся другія. Але яны, калі ўжо карціну бачыў перад сабою не ў кавалках – цалкам, не хвалявалі. Нават тады, як у майстэрню заглядала маці, яго тут, у Багданаве, суддзя, эксперт мастацкі, больш строгі часта, як сам ён. Садзілася перад карцінай у крэсла, з кішэні даставала акуляры, даўжэй, як звычайна, у сваім пакоі ці на кухні, праціpала ражком хусцінкі шкельцы, а ён стаяў паміж новай карцінаю і ёю, як некалі перад Куінджы, чакаў, што скажа.

Цяпер яна прыйшла, калі ўбачыла, што не хвалююць яго ўжо валы, што непакоіць іншае. Зноў села ў крэсла, працёрла і надзела акуляры, углядалася ў карціну доўга. Спытала:

– Адсюль куды ты павязеш работу?

Пытання гэтакага не чакаў:

– Ну як куды?

– Каму яе пакажаш?

– Павязу ў царскую сталіцу, там будзе вясновая акадэмічная выстава. Амаль адначасова з ёю адкрыюцца выставы Дзягілева, перасоўная. На перасоўную я не замахваюся, але акадэмічная – мая, і запрашае Дзягілеў.

– Але, сынок... мне здаецца, што ты з гэтай карцінаю або спазніўся, або паспяшаўся. Перасоўнікі гэтак раней пісалі, калі былі сапраўднымі народнікамі, ішлі ў народ, народу спачувалі. Цяпер яны тваіх валоў і мужыка не зразумеюць. А Дзягілеў? Яго хвалюе "Свет мастацтва", мастацтва там – салон, тваіх валоў ён у свой салон не пусціць.

Яшчэ ніколі сын не спяшаўся аспрэчваць думак маці, бо верыў у яе мудрасць і мастацкі густ. Але цяпер зрэагаваў не як заўсёды:

– Мастак, працуючы, не можа ўлічваць чыесьці густы. Ні перасоўнікі, ні Дзягілеў мне падказаць нішто не могуць. У мяне свой густ і свае нормы. Я іду ад сваіх каранёў, якіх ніхто ў мастацтве, акрамя мяне, не ведае. Я не для іх пішу і нават не для выстаў, а для сябе. Мне цікавей і даражэй, што скажаш пра карціну ты, бо ты – мая аснова, у табе маё карэнне, мая душа.

– Мне, Фердынанд, твая карціна падабаецца. Нават і больш за тое. Дзіўлюся, як ты мяне тут зразумеў.

– Цябе?

– Так. Я ўспомніла, табе сказала, як мы ішлі на бульбу, пра валоў, нічога большага тады я не казала, хоць успомнілася шмат чаго. Я ж, як поле валы аралі, была такая маладая, тымі вачыма глядзела на ўсё, на мужыкоў, аратых, на валоў, на гэтую зямлю. Былі і радасць, былі і слёзы. Усіх маладое сэрца любіць хацела, усім спачувала. І мужыкам, і валам. І ты цяпер нібы тым маім сэрцам напісаў. Як змог ты гэтак?..

– Змог, мама. Бо гэта маё таксама поле. І мае валы.

Не да канца сказаў тое, што думаў, што ў гэтую хвіліну яшчэ хацеў сказаць, замоўк, убачыўшы, як маці нервоваю рукою сціснула ў кулаку ражок хусцінкі, што на плячах ляжала, прыкрыла вочы. Абое памаўчалі. Яна паднялася з крэсла.

– Ну... ты мне прабач. Калі не тое я сказала.

Ён падышоў, абняў яе.

– І ты прабач мне, мама. Дзякуй за валоў.

Калі вучыўся, жыў у вялікім горадзе, была і неабходнасць, і звычка, завядзёнка, кожны дзень і ўранні, і ўвечары, перад тым, як легчы ў ложак, зазірнуць у каляндар, і Фердынанд заўсёды ведаў, які сёння дзень і месяц, што чакаць ад надвор'я заўтра і праз тыдзень, хоць каляндар і памыляўся, нават моцна. У Багданаве календары былі таксама, у мамы шведскі ляжаў заўсёды на стале, у бацькі польскі на сцяне вісеў, у гасцёўні на ламберным століку то быў, то некуды знікаў, хадзіў па руках, расійскі, але тут, у вёсцы, патрэбы не адчуваў гартаць календары. Бліжэйшым календаром цяпер было акно. Прачнуўшыся, падыходзіў да яго і бачыў тое, што хвалявала і трэба было ведаць: якое там надвор'е, неба, святло, што абяцае раніца на дзень? Увечары выходзіў у сад, глядзеў на неба, зоркі, месяц, вызначаў, адкуль дзьме вецер, каб ведаць, што ад надвор'я чакаць заўтра. Якая была розніца, як называўся месяц, калі пейзаж натурны чытаў у святле, у тоне, у каларыце? Складанасці былі з капрызамі надвор'я, асабліва гэтай восенню. То халады, вятры шалёныя, залевы, за два-тры дні з дрэваў змялі ды змылі ўсё лісцейка, то нечакана зноў цяплынь усталявалася, аж вербы пачалі выкідваць коткі вясновыя, а то прачнуўся раніцай і не пазнаў свайго пакоя: святло, нібы ад маладога снегу, мяккае – няўжо легла зіма? Усхапіўся да акна, а там і сапраўды ўсё бялюткае. На ганак выйшаў – і бацька, як разгублены, стаіць з аброццю ў руцэ.

– Што сёння за дзень? – спытаў у яго. – Як нараджэнне Божае?

Ён сына зразумеў, бо тое адчуваў і сам:

– А ты не памыліўся. Дзень як дарунак пана Бога. Паедзем пісаць зімовыя эцюды?

– Я сёння збіраўся на ручай пісаць яшчэ адну вясну.

– Два дні таму казаў, што ў светла-зялёным тоне хочаш пісаць восень з маладзіком у хмарках?

– Тое было два дні таму, а ўчора на ручаі прыйшла сапраўдная вясна. Я разгубіўся. Што робіцца ў прыродзе?

– А тое, сын, што і ў тваёй душы.

Фердынанд азірнуўся на нечаканы голас маці: яна стаяла каля ганка, яму ўсміхалася.

– Цябе я не заўважыў.

– Добра, што пачуў. Не ведаю толькі, хто ў каго вучыцца мяняць свае настроі. Ты ў прыроды або прырода ў цябе?

За снеданнем была размова з бацькам, каб ехаць па першым снезе ў Крэва. Фердынанд збіраўся туды яшчэ вясною, пасля збіраўся летам, то не знаходзіў дня, то не пускала думка: як будуць там улетку глядзецца велічныя, у чырвоных колерах, парэшткі старажытнага замка сярод вясковых шэрых хат, ці не пісаць пазней у светлым снегавым палоне? І вось цяпер былі ўжо пагадзіліся, што трэба ехаць, каб найчысцейшы першы снег не ўпусціць, ды тут занепакоілася маці:

– Снег добры, але ж ён лёг на цёплую зямлю, няма марозу, каб вам не давялося, адтуль вяртаючыся, плысці па вадзе ў санках?

Пераканала: вырашылі не спяшацца. Бацька падкінуў Фердынанда на кані да ручая, а сам паехаў далей аглядаць палеткі пад ужо нібы зімовай коўдрай.

Снег сапраўды, як адчувала маці, не далежаў да вечара.

Надвор'е мянялася і кожны наступны дзень, але яго капрызы не расчароўвалі Фердынанда. Раней, бывала, у непагоду настрой да працы на пленэры знікаў, ахвота большая з'яўлялася зашыцца ў ціхім закутку з цікавай кнігай, а цяпер зноў ды зноў, абы не сыпала слата на галаў, ішоў да ручая. Зрабілася цікава лавіць і ў шары дзень рэдкі, хоць на імгненне, прамень цікавага святла, яго нечаканую плямку, згубіўшы, зноў чакаць, лавіць тое альбо іншае, найтонкія раптоўныя адценні трымаць у памяці, каб потым у майстэрні ўваскрашаць на палатне. Гэта было захапляльнае паляванне, як у паляўнічага на дзікага і хуткага, нібы маланка, звера.

Амаль не мяняючы месца, Фердынанд у экстазе палявання на святло піша "Ручай зімовы", "Ручай асенні", "Лясны ручай", проста "Ручай", і кожны пейзаж – у сваім настроі, тоне, каларыце.

Пра новае захапленне прызнаецца ў сшытку:

"... іду да ручая. З натуры цяпер, у кастрычніку, можна пісаць матыў вясновы, адпавядае каларыт, аднак, здаецца, урэшце рэшт карцінка або эцюд выльюцца ў матыў асенні".

Паляванне на імгненнае святло патрабуе ад мастака вострага вока, нават магчыма больш вострага, як у паляўнічага на звера або птушку. Гэтакае вока не даецца адразу і на ўсё жыццё ні прыродаю, ні акадэмічным дыпломам, яго трэба фарміраваць самому, вастрыць нястомнай назіральнасцю, жывучы ў прыродзе, якая нішто не паўтарае, у кожнай дробязі арыгінальная, нечаканая. Ён гэта зразумеў як абавязковае для сябе яшчэ вучнем Шышкіна і Куінджы, якія патрабавалі ад кожнага свайго вучня трэніраваць вока і памяць, але ў горадзе для пейзажыста гэтая навука заставалася навукай. Рэалізаваць яе ў працы мог цяпер, жывучы ў вёсцы, тут гэтага ад мастака патрабавалі сама прырода, праца ў прыродзе, бо тут і толькі тут не проста назіраў за асяроддзем, але зліваўся з ім духоўна, настроямі.

"Як у жніўні ўсе дрэвы аднačасова пачалі жоўкнуць, гэтак цяпер, напрыканцы выключна прыгожай восені, калі нават алешавіны губляюць лісце, на іншых дрэвах яшчэ трымаецца жоўтая лістота. Адсюль рэдкая колькасць каляровых сакавітых плямаў. Як усялякія згукі, шэпты, шапаценні найлепш праслухоўваюцца ўначы, гэтак усе таны абвастраюцца, мацнеюць, згушчаюцца, аглушаюць чалавека ў дзень пануры, цёмны, маркотны. Цёмныя лясы, чырвоныя, фіялетавыя, сінія, густа-жоўтыя бярозы, цяжкая фіялетава-карычневая зямля, рунь рэдкай зеляніны – усё гэта нібы ігра на арганах з выцягнутымі рэгістрамі. Чалавек чуе, як яна

набліжаецца, грукоча аб скляпенне, вяртаецца, чалавек слухае, адчувае, агаломшаны, як гэтыя згукі з усіх бакоў апаноўваюць яго...”

Цяпер у сваіхназіраннях і захапленнях мастак не толькі назіральнік, тым больш не фіксатар, не капііст прыроды, нават і самых дасканалых яе красак і настрояў, ад яго вока і адчуванняў не хаваецца глыбока ўнутраная энергія прыроды, яе найтанчэйшая музыка і пастаянны, нават уначы, рух. Ён адчувае сябе натуральным працягам гэтай энергіі і гэтага руху. Адчувае, як ніколі раней не адчуваў, што ён – сама прырода.

Усё гэта, і нават думкі пра гэта не проста хвалююць, але і заклапочваюць, бо патрабуюць яшчэ не заўсёды ясных крокаў і вынікаў у працы. Насіць гэта ў сабе і радасна, і нялёгка. Ён прызнаецца маці:

– Калі малюю, мне часам здаецца, што прырода ўзносіцца з-пад маіх рук...

У гэтую хвіліну яна глядзела на яго як на дзіця, паўнюткае самім ім не спазнанай чысцінёй. Сказала:

– Я заўважаю, што ты вярнуўся з падарожжа па Еўропе іншым, як быў раней, і ў працы іншым, і ў сваіх настроях, думках.

– Магчыма, што гэта так, але...

– Ты мне казаў, што не зусім задаволены, што там табе не ўдалося напісаць штосьці выдатнае, тое, на што спадзяваўся?

– Так, мама. Там сумна мне было пісаць. Там каларыт стабільны, працуеш над эцюдам – тон, колеры, адценні хутка, як у нас, не мяняюцца. Там лёгка працаваць вучню, маладому мастаку, а я ўжо не вучань, не пачатковец у мастацтве, мне цікава пісаць прыроду, якая не адразу адкрываецца, гуляе са мною ў хованкі, вымагае ад мяне і вытрымкі, і рэакцыі на кожны яе рух, на кожнае адценне колеру, яе імгненныя праявы не губляць у праявах іншых, менш цікавых, імгненна заўважаць патрэбнае і зберагаць у сваіх эмоцыях. Усё павінна быць напагатове: вока, слых, нервы, думка. Тут, у сваёй прыродзе, калі пішу, я загараюся, жыву.

– Але ж раней ты гэтага мне не казаў?

– Раней не адчуваў, як цяпер, востра. Пра гэта не задумваўся. Гэтыя думкі і адчуванні ўва мне пасеяла і абвастрыла чужая прырода, Італія і Францыя. Я глыбей пачаў разумець жывапісную тэхніку імпрэсіяністаў. Яны пішуць – на палатне ўсё рухаецца, грае, дыхае. Стабільную натуру напаўняюць уласнымі эмоцыямі, сваім тэмпераментам, і гэта не псуе рэальнае натуры, гэта яе ажыўляе, робіць цікавай. Іх метад дае мастаку магчымасць як мацней выявіць сваю індывідуальнасць. Імпрэсіяністаў шмат, але як Клода Манэ не зблытаеш з Эдуардам Монэ, гэтак і кожнага з іх не зблытаеш ні з адным іншым імпрэсіяністам.

– Вось бачыш?.. А ты перажываеш, што там, на поўдні, мала працаваў, не напісаў нейкай карціны? А можа тое, што ўбачыў, перажыў і перадумаў, хоць і тое, што мне тут кажаш, шмат даражэй і не адной, хоць і выдатнай, карціны вартае?

Фердынанд уважліва глядзеў у твар маці. І раптам яго вочы змылі з сябе нечаканай слязою задумлівасць, заблішчэлі, нібы на сонейку.

– Ты, мама, усё ведаеш, усё бачыш. Чаму мне Бог не даў гэтакі талент?

Ён асцярожна ўзяў у рукі яе галаў і прыгарнуў пяшчотна да грудзей.

## 8

Зіма сапраўдная, са снегам ды марозам, прыйшла толькі ў апошнія дні года. За першым снегам лёг другі і трэці, мароз узяў іх пад сваю ахову.

Са зменаю надвор'я шмат што змянілася і ў жыцці ў Фердынанда. Закончыўшы "Восеньскі ручай", з якім папакутаваў, зноў ды зноў перарабляючы, напісаў і паказаў маці "Лістапад" з арыгінальным зеленаватым небам, на якім з-за хмараў выглядае малады месяц. Ад пераменлівага надвор'я і гэтую карціну не адзін раз перамалёўваў, колькі дзён ды начэй палюючы за тым у небе свяцілам, якое хацелася ўбачыць і злавіць. Пачынаў працаваць як над версіяй будучай "Балады", але мяняў і кампазіцыю, і назву – "Лістападаўскі вечар", "Алея", "Карэта", – і калі закончыў, дык сам не мог сказаць, што за жанр атрымаўся. Супакоіўся, падумаўшы: а навошта тут яшчэ і нейкі жанр? У маці заўвагі былі, але не катэгарычныя, яна рабіла іх асцярожна, нібы сама сумнявалася. Як звычайна, у сваім, ад мяккага характару, ад дабрыні стылі. А ён, яе далікатнасць ведаючы, яе пяшчотай выхаваны, у кожным намёку бачыў большае, як той намёк, дзе сумнявалася яна – там іншы мазок шукаў, пасля казаў, удзячны, як заўсёды: "Тут, у Багданаве, ты, мама, мой Куінджы". І былі радыя абое.

Багатая на снег зіма зноў прывяла да млына. Глядзеў на яго і дзівіўся: які ён непадобны на той, што быў ужо ў Савы Мамантава. І там таксама зімовы, але непадобныя зімы рабілі розным адзін і той жа млын. Там было свята лёду і вады, тут – снегу. Паклаў малюнак, вярнуўся ў майстэрню, выбраў падрамнік, большы за той, што пад тым млынам, з паперы малюнак перанёс на палатно, выклаў фарбы на палітру і задумаўся: як пісаць? Не любіў паўтараць аднойчы ўжо адпрацаваны матыў, пісаць натуру новую, па свежых уражаннях было цікавей. Але снег нечаканы падахвочваў. Пачаў рабіць і адразу забыў на тое, як пісаў раней. Натура хай і старая – стары млын, але глядзелася як новая ў новым снезе і новыя стварала адчуванні ў мастака.

Праз тыдзень "Млын узімку на заходзе сонца" быў напісаны, і Фердынанду адразу, як гэта здараецца, калі сэрцам прыкіпіш да новай рэчы, яшчэ ад працы не астыўшы, хацелася пачуць чыёсьці слова пра яе. Паказаць маці, бацьку, сёстрам? А дзе яны? Тут раптам падвярнуўся наглядчык дома Юліян – ухапіўся за яго:

– Ты млын наш пазнаеш?

Той вочы вылупіў:

– Ну як не пазнаць? О-го!

– А падабаецца табе ён тут, на палатне?

– Вада пад барабанам як жывая. І пена падабаецца.

– Ну, малайчына, Юліян. Ты можаш быць мне за настаўніка.

Той жарту не зразумеў:

– А што? Магу. Не цяжка.

Увечары Фердынанд паказаў новы млын маці і бацьку. Як у змове з Юліянам, хвалілі і яны ваду і пену. Калі сказаў, што гэта самае хваліў і Юліян, што той нават настаўнікам яму згадзіўся быць, усім у доме было весела.

Сямейная размова пра новую карціну абудзіла ўспамін падзей далёкіх у Багданаве, калі млын яшчэ будаваўся і ў лесе за млынам, за ручаём ды і ў млыне багданаўцы хаваліся ад царскіх салдатаў. Гэта быў час польска-

беларускага паўстання, шэсцьдзясят трэці год. Тады бацькаву сястру Лёню арыштавалі і выслалі ў Сібір толькі за тое, што знайшлі ў яе малюнкі польскіх арлоў. Катавалі фурмана Рушчыцаў, дапытваліся пра гаспадароў. Багданаўскага старасту са звязанымі нагамі вазілі па вёсках, палохалі яго пакутамі людзей, якія ні ў якую палітыку не совалі і носа, нічога іншага, акром свае зямлі ды працы, не ведалі і не жадалі ведаць. Хто на каго быў злосны, той рабіў даносы, па тых даносах, часцей ілжывых, і забіралі, высылалі.

Міналі апошнія дні года, усе ў маёнтку жылі перадкнавагоднімі клопатамі. Сёстры Ганна і Вольга, іх дзеці і садоўнік ставілі і ўпрыгожвалі ялінку. З Вільні на свята прыехаў сябра Фердынанда з маленства і па гімназіі ў Менску Язэп Вяжынскі, літаратар і педагог. Рыхтуючы ўсім падарункі, у доме не забылі і пра яго. Сюрпрыз быў незвычайны: па-мастацку зробленая панарама месца ў Менску, з тагачасным домам Рушчыцаў, дзе сябры раслі, вучыліся. Панарама складалася з малюнкаў, якія мяняліся. Над імі – радкі з паэмы любімага тут усімі Адама Міцкевіча:

Дзяцінства край! Ён прад вачыма ўстане<br>
Святы і чысты, як першае каханне...

У клопатах пра свята Фердынанд думае пра падарожжа ў Крэва. Яго жаданне цяпер горача падтрымлівае Язэп, і ў самы пярэдадзень новага года сябры выпраўляюцца да легендарных муроў.

Дзень выдаўся змрачнаваты, імгліста-шэры, але паступова хмары ў небе радзелі, час ад часу рассоўваліся, паміж іх зноў ды зноў выблісквала сонца, асвятляючы абапал дарогі дзе роўнядзь палеткаў, дзе засеяныя заснежаным лесам пагоркі ды лагчыны, і дарога не здавалася сумнай. Радавала вока і сэрца каляровая палітра ўжо даволі багатага снегу – то зеленаватага, то шэра-фіялетавага, то ружовага, залацістага, нябесна-блакітнага. Пагоркі рабіліся ўсё вышэйшыя, і раптам разбегліся ад дарогі, адкрыўшы вачам падарожнікаў наперадзе замкавыя руіны і тры царквы. Крэва! Які кантраст старавечных муроў і маладога снегу! Спакой і веліч!

Падпаху схапіўшы фотаапарат, Фердынанд спяшаецца да замчышча. Фатаграфуе звонку, шыбуе бліжэй да руін, спыняецца, зноў шчоўкае затворам апарата, бяжыць далей. Між камянёў, парэшткаў магутных сцен, праходзіць на дзядзінец і ўжо адтуль фатаграфуе кутнюю вежу былога замка. Дзень дагарае, сонца нізкае, але, прарваўшыся праз хмары, палае, нібы гарачы вугаль на ветры, запальвае чырвонае вогнішча на вежы, на яе белым, цяпер ружовым, снезе і шэрых, з трывожнаю ружоваю палівай, камянях. Нізкае сонца хвалюе таксама: дзень дагарае? Зрабіўшы яшчэ колькі здымкаў на дзядзінцы, Фердынанд абыходзіць руіны з усіх бакоў, вяртаецца на дзядзінец і фотаапарат мяняе на палітру з пэндзлямі. Сюды, зрабіўшы свой абыход мураваных парэшткаў, прыходзіць і сябра. Пакуль Фердынанд малюе краявід з руінамі былога замка ў святле снегу і апошніх промняў сонца, Юзік стаіць побач з ім і з кнігі Томаша Янкоўскага "Ашмянскі павет" чытае ўголас гісторыю Крэўскага замка, пра падзеі, якія ў ім адбываліся. Фердынанд звычайна мог засяродзіцца і працаваць толькі адзін, не любіў, калі ў час працы з палітрай быў блізка да яго хтосьці яшчэ, але тут, сярод магутных камянёў, у якіх жылі веліч і трагедыя былога замка, самой Літвы, урачысты, быццам у артыста, голас сябра гучаў як на адным дыханні з зацятаю маўклівасцю муроў, з дыханнем мастака. Як быццам не ўслухоўваўся ў тое, што чытаў сябра, у словы, якія ён вымаўляў, увесь, душой і думкамі засяроджаны на

камянях, на снезе, на святле, якія перад сабою бачыў, на постацях князёў, іх тварах, на колерах у святле стагоддзяў, якія ўяўляў у глыбах муроў, але і тое адчуваў, як голас сябра даваў жыццё ўсяму, нават і камяням, якія перад сабою бачыў, уліваў у іх жывую кроў і сілу. Пісаў каменне, развалiны даўным-даўно пабуранага замка, а бачыў тых яго гаспадароў, найперш Альгерда, якому Гедымін, Вялікі князь Літвы, аддаў гэтыя землі з замкам, ад Крэва – усю ўсходнюю Літву. Як Гедымін памёр, Альгерд, яго любімы сын, стаў на чале Вялікага Княства Літоўскага, але было ў бацькі сем сыноў, усе князі, мелі свае ўдзелы, з іх кожны марыў стаць Вялікім князем у Вялікім княстве, усе ў замку бывалі – колькі перакіпела тут спадзяванняў, крыўды, зайздрасці, жаданняў абылгаць, увесці ў зман, адпомсціць: чаго толькі не бачылі, не чулі сцены замка – каменне гэтае? Альгерд і Кейстут – браты: які двубой за бацькаву карону? Адзін Вялікі і другі Вялікі, адзін прызнаны праваслаўным усходам, другі – паганскаю Жамойцю, захадам. Адзін у Вільні, другі ў Троках, але і тут абодва, у Крэве, – двубой яшчэ не да крыві, то бой – то мір, а далей? Кейстут і Ягайла, Альгерда сын – князь малады, але Вялікі па спадчыне ад бацькі: тут ужо двубой крывавы. Кейстут забіў Вайдылу, спадручнага Ягайлы, Ягайла – Кейстута: кроў за кроў? Далёкі час – век чатырнаццаты – кроў тую, княскую і не княскую, хаваў за сценамі каменнымі ад усіх вачэй, ды камяні – не людзі, жывуць і сотні год, і тысячы, усё бачылі і чулі, кроў бачылі, іх памяць за людскую мацнейшая, сляпымі і нямымі здаюцца адно людскому розуму ды воку, але маўчаць аб тым, што бачылі, доўга не могуць.

Фердынанд адхіснуўся з палітрай у руцэ ад палатна, вачэй не адарваўшы ад кутняй вежы з шэрага, месцамі чорнага, нібы смалой аблітага, каменя. Пісаў яе на палатне, трымаючыся колераў натуры, камянёў. Аж разгубіўся, заўважыўшы на чорным, нібы вугаль, халодным камені чырвоны трапяткі, усё роўна як ад вогнішча, адбітак. Нібы апёкся, але працягваў углядацца ў камень з чырвоным бокам. Здзівіла чырвань. Яна глядзелася як праз паперу сінюю, танклявую, празрыстую. На чорным камені? Сіні, праз чырвань, тон даваў адчуванне бясконцай глыбіні начнога неба, і чырвань усё роўна як адтуль сачылася. Былі ў той глыбіні не толькі святло ды колеры, мігценні іх адценняў, было яшчэ і тое, чаго тут, блізка, не бачыў: далёкі таемны сэнс. У загадкавым святле Фердынанд адчуваў штосьці галоўнае для Крэва-замка, Крэва-часу, Крэва-дзяржавы.

Рыхтуючыся да гэтай працы, ён уяўляў яе ў кантрастах і гармоніі чырвонага і белага цяпла і холаду, міру і змагання, жыцця і смерці, меў спадзяванні на смелы і арыгінальны каларыт, на свой у гэтым талент. Але тут, на дзядзінцы з палітраю ў руцэ, адчуў, што талент каларыста ўсіх гарантый не дае, што тэхнікі натурнага пісьма тут яму мала. А што трэба яшчэ? Магчыма, гэта адчуваў сябра, калі сюды, у Крэва, браў кнігу, каб з яе чытаць уголас гісторыю і замка, і роду Гедыміна ў асобах Альгерда, Кейстуса, Ягайлы, Вітаўта. Яго задуму ён там, у Багданаве, не вельмі зразумеў, а тут заўважыў, што кніга зусім не шкодзіла, нават стварала спрыяльнае для працы адчуванне далёкага, рэальнага ці не зусім рэальнага, але іншага часу. Юзік на голас не націскаў, часам ледзь чутна прамаўляў, недзе спыняў чытанне, рабіў паўзы, каб адчуць тыя далёкія падзеі ў цішыні цяперашняга Крэва і мець магчымасць пра тое ўсё падумаць. Калі ўжо прачытаў, як у замку па загаду Ягайлы задушаны быў Кейстут, рукі апусціліся і працаваць далей не мог. Тады замоўк і Юзік.

Неба на даляглядзе было яшчэ не цьмянае, свяцілася кволым блакітам, чысцінёй, хоць сонейка ўжо схавалася, парэшткі замка таялі ў вечаровай шэрані. Юзік спытаў:

– Табе, Фэрдзя, святла ўжо мала?

– Так. Мала. Але... як там наш конь? Торба пад мызай ужо, пэўна, пустая. Замёрз, нас чакаючы?.. Ідзі, накінь на яго кажух, хай пагрэецца, пакуль я тут збяруся.

Была ўжо ноч глыбокая, калі вярнуліся ў Багданаў.

Толькі на трэці дзень па прыездзе з Крэва, адсвяткаваўшы сустрэчу новага года і ў Солы да цягніка на Менск адвёзшы Язэпа, Фердынанд выставіў работу, напісаную ў Крэве, на мальберт. Яшчэ яе нікому не паказваў. Дома, у сям'і, усе прызвычаіліся да таго, каб яго новыя работы глядзець тады, як сам пакажа, а ён не любіў паказваць іх сырымі, незакончанымі, у якіх сумняваўся. Гэтую работу пакуль што бачыў адзін Юзік, яшчэ ў замку на дзядзінцы, калі яна пісалася і калі Фердынанд хаваў палітру з пэндзлямі ў скрыню, пасля нават размовы пра яе не вялі, бо сябра разумеў, што не закончаная, яшчэ над ёю працаваць ды працаваць. Размова ішла пра Крэва ў гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, бо замчышча, яго парэшткі, праца на дзядзінцы распалілі пачуцці і думкі пра сваю дзяржаву, і Фердынанду было цікава пачуць, што скажа пра яе гісторыю і лёс разумны сябра – літаратар, педагог, юрыст. Размова пачалася з яго пытанняў:

– Я, Фэрдзя, на дзядзінцы цябе не зразумеў. Ты, бачыў, захапіўся працай, фарбы кідаў на палатно, мяне не заўважаючы, не чуючы, што я чытаў пра Крэва, але чаму раптам спыніўся пэндзаль твой? Табе і сапраўды святла ўжо было мала або спыніла штосьці іншае? Можа, маё чытанне надакучыла? Дык ты б сказаў мне?

– О не, мой сябра! Тое, што ты чытаў і як чытаў, мяне якраз распальвала. Ты гэта здорава прыдумаў, што ўзяў у Крэва кнігу. Пасобіў мне настроіцца. Але...

– Дык што – але?.. Што адбылося?.. Святло...

– Пры тым святле яшчэ мог працаваць.

– А не святло, дык што?

– Пакуль у Крэве быў Вялікі князь Альгерд, я адчуваў у працы ўздым, як Крэва і ўся Літва. А далей – двубой Ягайлы з Кейстутам, кроў Кейстута – усё абвалілася. І там, тады, і тут, ува мне. І веліч Крэва, і мая душа. Бо я душой пішу. Іначай не магу.

Пытанняў больш у Язэпа не было.

На другі дзень пасля ад'езду сябра ў дзверы да Фердынанда, які сядзеў перад сваёй новай работаю адзін у майстэрні, пастукаў бацька. Зайшоў нясмела, як баючыся, каб сыну не пашкодзіць у працы. Фердынанд хоць быў не ў лепшым настроі, але павесялеў, яго ўбачыўшы, узяў пад руку, падвёў да канапы, якая стаяла насупраць мальберта, пасадзіў, сам побач сеў. Чаму бацька прыйшоў – здагадваўся, спытаў:

– Чаму без мамы?

– Не ўгаварыў. Спрабаваў, але не змог. Ты маму ведаеш, яе характар, чакае запрашэння, а я не вытрымаў, прыйшоў, каб паглядзець, што з Крэва ты прывёз.

– Ну вось, глядзі, перад табою на мальберце.

Глядзелі абодва моўчкі, нібыта кожны не асмельваўся выказацца пер-

шым. Бацька ўсё часцей адрываў позірк ад карціны і паглядаў на сына, як вымагаў ад яго першае слова. Фердынанд гэта заўважыў, зразумеў:

– Я рады, тата, што ты прыйшоў. Маму Крэва ўсё ж не гэтак грэе і хвалюе, як цябе. Яна ў нас заморская, дачка дацкага шкіпера і ўладальніка вялікага карабля Марка Андрэаса Мунха, хоць ёй ужо і Польшча, і Літва свае. Але табе, тутэйшаму, ліцвіну, Крэва, як і Літва, радзіма па крыві. Хто быў твой бацька і мой дзед? Адвакат. Абараняў ліцвінаў і Літву. А гэтая зямля, цяпер наша, як да яго трапіла? Выкупіў у спадароў Чаховічаў. А хто яны былі? Іх род – гербавая шляхта Літвы.

– Тамаш Чаховіч – о-го! – з непрыхаваным гонарам, як за сваё, святое, усклікнуў бацька. – Апошні маршалак Ашмянскага павета, абраны на пасад усёй павятовай шляхтай. Паставіў ён скарбоўню гэтую, дзе мы з табой зараз сядзім, табе, можна сказаць, майстэрню падарыў, калі цябе яшчэ далёка не было, як прадчуваў, што будзеш. І наш вялікі сад ён пасадзіў, з бабровым гадавальнікам і сажалкамі. Га?!.

– А да маршалка чыя зямля была тут?

Фердынанд адчуў, што бацька, не надта гаваркі звычайна, цяпер на слова разахвоціўся, як штосьці даказаць хацеў, і гэтую яго ахвоту з не меншаю сваёй ахвотаю падтрымліваў пытаннямі, хоць сам на іх адказы ведаў.

– Ну як чыя была зямля? Належала князям Гальшанскім. Пра іх хто не чуў, не ведаў? Апошняя гальшанская княжна Алёна як выйшла за Паўла Сапегу, тады і гэтая зямля, яе спадчына, адышла да славутага роду, з якога быў і сам Леў Сапега, канцлер Літвы. Цяпер тут твой надзел.

– Княскі?!.

– А што нам прыбядняцца? Тут, на Ашмяншчыне, і Крэва – сэрца Літвы. Ёсць, дзякуй Богу, што табе пісаць.

Ці не тут толькі ўспомніў бацька, чаго прыйшоў, замоўк знянацку, пацішэў, пачаў зноў углядацца ў карціну на мальберце. Вочы то прыжмурваў, праз шчыліны ў іх глядзеў, нібы карціна была далёка і ён на ёй лавіў нейкі мазочак дробны, то пальцамі праводзіў па вачах, глядзеў з-пад далані вялікімі, якія і былі, вачыма, нібы карціна блізка, на ёй адпачывалі вочы.

– Ёсць што пісаць. Ты праўду кажаш. Але яшчэ ёсць вечная загадка як пісаць. – Ужо Фердынанд глядзеў не на карціну, а бацьку ў твар, на ім лавіў і думкі, і пачуцці. Злавіць не ўдавалася, як не было іх у бацькі. Або іх выдаць не жадаў? Дапамагчы? А як? Адкрыцца да канца самому, каб следам ён адкрыўся? – Я ехаў, тата, у Крэва з вялікімі надзеямі на добрую карціну, але ні з чым вярнуўся. Што прывёз?

Бацька ўсё той жа з твару быў.

– Як што прывёз? А гэта? – кіўнуў на палатно.

– Разбітыя муры ды снег? Я марыў Крэва напісаць.

– Марыў убачыць тое, што было паўтысячы гадоў назад?

– Замка таго, што быў, няма, не будзе, але той дух і веліч, і ганьбы, якія ўзвышаў і абрынаў Літву, наш край, хоць у нечым, хай у іншых формах, павінен жыць? Я ў гэта веру. Калі гэта зусім знікае, не застаецца нават следу, навошта мне тады ўсё астатняе?

– Але навошта роспач? Калі ты тое, што шукаеш, не знайшоў, гэта яшчэ не азначае, што яго няма? Знойдзе хтосьці іншы?

Бацька прыклаў далонь да светлай шыкоўнай барады, ёй адпаведна шыкоўных светлых вусоў, разгладзіў, завастрыў пальцамі канцы вусоў, якія, як казала мама, грозна тырчэлі ўбакі, быццам яшчэ служыў у чыне

капітана, голаў узняў вышэй, зноў на карціну скіраваў упэўнены пагляд, і Фердынанд, які цяпер сачыў за бацькам, ягонымі эмоцыямі, адчуў яго спакойны-годны дух, напэўна яшчэ той, вайсковы.

– Ты праўду кажаш. Не я, дык хтосьці іншы. Я ў Крэве краявід пісаў з парэшткамі ад замка. А Крэва не для пейзажыста. Яно чакае іншую палітру. Матэйка тут патрэбны.

Калі выйшлі з майстэрні, па лесвіцы спусціліся з другога паверха, спыніліся на ганку, бацька вярнуўся да незакончанай размовы.

– Ты кажаш, што Крэву патрэбны Матэйка? О-го, Матэйка! Ён мог бы Крэва выявіць у асобах гістарычных. Але твой сіні, у апошніх промнях сонца снег... Ты гэтак снег паклаў, што камяні з яго тырчаць жывыя. Глядзіш на іх – аж горача. І разам з тым... мароз па скуры.

– А табе, тата, не здаецца, што пейзаж яшчэ недапісаны? Што нечага ў ім не хапае?

– Пра гэта спытай у маці. Мне ўсяго хапае.

Бацька пайшоў – прыбегла, пра “Крэва” ад яго пачуўшы, маці. Ні слова не сказаўшы, ні пра што не спытаўшы, спынілася перад мальбертам, глядзела на пейзаж, маўчала, рукі сашчапіўшы на грудзях. Маўчаў, ля акна стоячы, і Фердынанд, баючыся выпадковым словам яе збіць з першага ўражання, якое шанаваў заўсёды. Яна прамовіла няўпэўнена:

– Не ведаю, што тут сказаць...

Засумнявалася? Ён паспяшаўся са сваім сумненнем:

– Табе не здаецца, што работа яшчэ не закончаная?

– Бацька, як я ішла сюды, прасіў сказаць табе, каб ты карцінку гэтую ўжо не чапаў, што ўсё тут ёсць.

– Я гэта ад яго ўжо чуў. А як, скажы, табе здаецца? Табе чаго тут не хапае?

– А што я? Жанчына. Тон адчуваю, колер, каларыт. А тут не толькі сіні снег, чырвоны ды шэры камень. Тут, сын, Літва, твая радзіма. Каб гэта выявіць, хоць і ў пейзажы, шмат трэба ведаць, чаго табе і Акадэмія не дасць.

– Так, мама, не дасць. Асабліва Акадэмія цара-імператара.

– Дык ты паслухай бацьку. Ён пра Літву ўсё чытаў, што мог знайсці ў Вільні, у Менску, у Польшчы, у Расіі. У Бярэсці, як там вучыўся на кадэта, быў у яго настаўнік, які шмат ведаў пра Літву...

Праз дзень-другі Фердынанд пачаў збірацца ў Пецярбург на дзве выставы, Акадэмічную вясновую і “Света мастацтва”, першую з якіх курыраваў Куінджы, другую – Дзягілеў. Яны абодва чакалі яго з новымі работамі. А што мог паказаць? З карцін – “Зямлю” і “Лістападаўскі світанак”, з эцюдаў – “Восень”, “Вечар”, “Веснавое”. Да эцюдаў быў далучыў і “Крэва”, але, падумаўшы, адставіў. Як везці, калі сумненні точаць, дазволу не даюць? Пагадзіцца з маці ды бацькам? Але ці можа бацька, ніколі не трымаўшы ў руцэ пэндзля, акрамя малярскага, глыбей убачыць і адчуць работу жывапісную за аўтара, які пяць год вучыўся гэтаму ў Акадэміі?

У апошні перад ад’ездам дзень сеў перад “Крэвам”, задумаўся. Калі пісаў з натуры, каменне замчышча глядзелася магільнікам, стварыць з яго мастацкі твор, як тады думалася, мог толькі колер. Гэтак і працаваў, шукаючы цікавы каларыт, ва ўсім астатнім, нават у кампазіцыі, даверыўшыся натуры ды інтуіцыі, як і звычайна рабіў натурныя эцюды. Але дзень пачынаўся мглісты, святло за вокнамі і ў майстэрні было мяккім, снег на дзядзінцы і

за ім, прысыпаўшы руіны, змякчаў кантрасты, і гэта ўзвышала на першым плане два самыя буйныя злепкі камянёў, падобныя на падмуркі кутніх вежаў: адзін – з усходу, другі – з захаду. Каменны друз між іх глядзеўся патрушчанай ахвярай, і тут ужо не каларыт найперш кідаўся ў вочы, а кампазіцыя матыву, кантраст двух планаў, у якіх прачытваўся і вобраз, і гістарычны змест. Літва ў выглядзе парэштказ Крэва, упляжаных у снезе, паміж вялікіх дзвюх дзяржаў у чырвона-шэрым каларыце, усё роўна як аблітых крывёй і попелам сваёй ахвяры.

Усхваляваны, ажно знясілены нечакана моцным адчуваннем, Фердынанд адкінуўся на спінку крэсла, заплюшчыў вочы, з палёгкаю і шэптам уздыхнуў:

– Ух, тата!.. Як шмат ты бачыш у маім матыве.

## 9

“Пецярбург. 06. 01. 1899.
Распакоўваю карціны.
..........................”

Ужо на другі дзень па прыездзе ў венцаносную сталіцу Рушчыца наведаў Куінджы. Нібыта прыляцеў на крылах: расхрыстана-гарачы, неспакойны. Калі селі адзін супраць другога, глядзелі, задаволена ўсміхаючыся, адзін аднаму ў вочы, настаўнік прызнаўся:

– Спяшаўся, а сэрца зусім не тое, што было, каб спяшацца, хваляваццa. Задыхаюся.

Фердынанд параіў:

– А гэтак не трэба. Хай вучні вас шукаюць. Іх тут, у сталіцы, шмат. Наша майстэрня ўся, мабыць. Да ўсіх не набегаецеся.

– Усе тут. Акрамя вас. Але не ўсіх я бачу.

– Працуюць?

– Гэтаю думкай суцяшаюся. Як серада, свае дзверы адчыняю для ўсіх. Хтосьці прыходзіць. І вы, пакуль тут будзеце, прыходзьце. Буду рады. А цяпер паказвайце, што прывезлі.

– Пачнем творчую справаздачу за... год?

– Хай будзе так. Калі вы не супраць.

Фердынанд выставіў “Лістападаўскі світанак”. Прыгледзеўшыся да карціны, Куінджы параіў зрабіць больш выразным лёд на дарозе, астатняе не чапаць. Па стрыманай рэакцыі не цяжка было здагадацца, што захаплення работа не выклікала і дапрацоўкамі яе не палепшыш, бо недахопы не ў тэхніцы, а ў матыве, мала цікавым. Весці размову далей сэнсу не мела, і Фердынанд прынёс “Зямлю”, паставіў побач. На гэтую карціну Куінджы зрэагаваў адразу, нібыта іншым сэрцам: падхапіўся з крэсла, адышоў ад карціны далей, як дазваляў пакой, зноў наблізіўся, зноў адышоў. Вочы заблішчэлі, кожны крок і рух былі рашучыя, хуткія. Рукой схапіўся за бараду, нервова пацерабіў, прыгладзіў, як перад люстэркам. Цяпер усё ў ім выдавала задаволенасць.

Рэакцыя на “Світанак”, якая б ні была, аўтара не вельмі хвалявала, бо і тады, як пісаў, не хваляваўся, выпадкова выбраўшы матыў, а тут, ведаючы, як і калі, з якой нагоды ўспыхваў агонь у вачах настаўніка, калі і як хапаўся ён за бараду, сачыў, хвалюючыся, за кожным яго рухам, перажываў і здзіўляўся: чаму маўчыць?

Не, вось – нарэшце вырвалася:

– Ну-у!.. Ма-лай-чы-на!... – бліснуў вачмі на вучня, бадзёра, заклаўшы рукі за спіну, прайшоў па пакоі і зноў спыніўся ля карціны. – Тая работа мяне, прызнаюся, не сагрэла, а гэтая!.. Ух, горача!.. Я адчуваў заўсёды, што вы шукаеце ў вёсцы. Тут, дзе наш цар жыве, гэтакіх валоў не знойдзеце і не напішаце. У вашым полі, у валах, у мужыку – ваша зямля і ваш народ! Ды і не толькі вашы. Адсюль – усе мы. Я гэтага ад вас чакаў. – Зноў рэзка павярнуўся да Фердынанда, аберуч абхапіў, увесь здрыгануўся, адхіснуўся, раскінуў рукі ўбакі, нібы зноў вучня абдымаючы, ужо разам з яго карцінай. – Вось што такое Рушчыц! – Зарагатаў, нібы і сапраўды той, на Алімпе, усемагутны Зеўс, не стрымліваючы агню ў грудзях і голасу.

Нарэшце, даўшы волю сваім захапленням і раптам ад іх стаміўшыся, супакоіўся, сеў і ўжо, адпачываючы, без слоў і ўсялякіх рухаў углядаўся ў карціну.

Фердынанду падалося, што настаўнік чакае ад яго іншых работ. Выйшаў у прыхожую, дзе стаялі эцюды, пейзажныя матывы вясны ды восені, але стрымала думка: кожны прагляд работ вучняў настаўнік любіў спыняць на высокай ноце, а тут, пасля валоў, хоць і прыстойныя па тэхніцы, але звычайныя, нічым не новыя пейзажы, якія маглі збіць з высокай, ад валоў, ноты. Без эцюдаў вярнуўся ў пакой. Куінджы сядзеў у тым самым настроі, углядаючыся ў карціну. Што думаў ён? Можа, усё ж, чакаў штосьці яшчэ? Успомніў “Крэва”: а раптам якраз тое, што трэба? Зноў выйшаў, узяў у рукі эцюд: паказваць або не трэба? Не на выставу вёз сюды, вёз для сябе, каб у вольны час над эцюдам падумаць, папрацаваць, камусьці блізкаму паказаць, параіцца, што з ім далей рабіць. А хто бліжэйшы, хто можа даць параду лепшую, як Зеўс?

Паставіў “Крэва” з “Зямлёю” побач і адышоў убок.

Эцюд настаўнік заўважыў адразу, але, доўга не разглядаючы, адвярнуўся. Падняўся з крэсла, зашпіліўся на ўсе гузікі, надзеў шапку, руку падаў на развітанне.

– Дзякуй. Валоў нікому пакуль што не паказвайце. Прывозьце на развеску.

Застаўшыся адзін у майстэрні, Фердынанд падышоў да крэсла, паклаў рукі на спінку і доўга глядзеў на “Крэва” з той кропкі, з якой глядзеў настаўнік, спрабуючы хоць у нейкай меры адчуць яго нявыказаныя ўражанні. Чаму нічога не сказаў? Эцюд не выклікаў эмоцый, думак?

Радасць ад пачутага пра валоў змяшалася з роспаччу пасля незразумелых уражанняў Куінджы ад эцюда, і ў гэтым стане, блізкім да разгубленасці, Фердынанду падалося, што хтосьці зноў пастукаў у дзверы. Вярнуўся Зеўс, як бывала неаднойчы, калі, чымсьці ўсхваляваны, выходзіў з майстэрні і ў хуткім часе з’яўляўся зноў, каб штосьці яшчэ сказаць або яшчэ раз паглядзець на нейкую работу вучня? Фердынанд паспяшаўся адчыніць дзверы: за парогам стаяў мужчына ў блішчастым футры, нібы святлом ад месяца аблітым, пад высокай, часоў Івана Грознага, шапцы баярына з тым самым срэбным бляскам. Ён шапку падкрэслена-ўрачыста зняў, пакланіўся, стрымана ўсміхнуўся і сказаў:

– Мяне вы, бачу, не пазнаяце?.. Я Дзягілеў.

– Ах!.. – спахапіўся Фердынанд. – Вы ўжо тут? Я атрымаў ваш ліст. Удзячны за прапанову.

– І я таксама вам удзячны, што пагадзіліся, як бачу, прыняць удзел у

нашай выставе. З дарогі адпачываеце? Калі я тут не ў самы спрыяльны для вас час, прашу даравацъ. Выстава гатовая да адкрыцця. Спяшаўся ўбачыць вас і вашы новыя работы.

Пераступіўшы парог і як не пачуўшы прапановы зняць футра, госць адразу, нібы ў знаёмай яму кватэры, прайшоў у майстэрню, дзе на падлозе ля сцяны стаялі карціны, якія Фердынанд паказваў Куінджы. Знаёміць з “Зямлёю” не хацеў, падрыхтаваўшы яе на галоўную для сябе акадэмічную выставу, тым больш, што Куінджы яе не толькі бачыў, але і благаславіў. Ды госць ужо спыніўся ля карціны. Прыбраць з вачэй спазніўся, і выйсце з непрыемнага становішча цяпер было адно: хутчэй звярнуць увагу на “Лістападаўскі світанак”, што і зрабіў, паставіўшы работу бліжэй да “Зямлі”. Углядаючыся то ў адну карціну, то ў другую, госць не спяшаўся выказацца пра іх і пацікавіўся, ці ёсць зімовыя матывы, успомніўшы ды ўхваліўшы леташні заледзянелы “Млын”. Фердынанд паказаў на “Крэва”. Госць слізгануў па ім вачыма, не зачапіўся і зноў павярнуўся тварам да карцін.

– Поле з валамі? Арыгінальна. Але, прызнаюся, я гэтакага не бачыў ні ў натуры, ні ў мастацтве. Магчыма, што тэма для кагосьці значная, але... – Яшчэ нібы меў штосьці пра валоў сказаць, ды не адважыўся, загаварыў пра “Лістападаўскі світанак”: – Ёсць рух паветра. Падабаецца карэта. Але дарога, снег... Тут шмат алеаграфічнага, невыразнага. Хацелася б убачыць матыў цалкам зімовы.

Былі яшчэ ў Фердынанда тры эцюды, якія не паказаў Куінджы, каб не псаваць яму настрой ад валоў, але з Дзягілевым размова ладзілася іншая – прынёс, і госць павесялеў адразу.

– Ну што ж вы ад мяне хавалі гэты цуд? Вось тое, што трэба. Прырода ў маім настроі. Бяру. Усе тры. Іх пастарайцеся прывезці сёння або заўтра як раней.

Работы Фердынанд развёз, што – у Акадэмію, што – да Дзягілева, пакінуўшы ў сваёй майстэрні “Крэва”. Праз дзень адкрыўся вернісаж у Дзягілева, але быць там не змог: прастудзіўся на пранізлівым гарадскім ветры і да вечара вымушаны быў дома лячыцца гарачым малаком з содай. Праўда, пазней прыехаў знаёмы лекар, забраў да сябе і ў яго, пад доктарскім наглядам ды яшчэ і пад музыку Шуберта, з прыемнасцю і карысцю правёў увесь вечар.

Выставу Дзягілева наведаў на другі дзень. Свае работы нечакана ўбачыў паміж работ вядомых у Еўропе майстраў жывапісу – нарвежца Таўлава і француза Менарда. Вочы кідаліся то да свайго, то да чужога, сваё з чужым параўноўваў і спачатку хваляваўся, як сціплы вучань перад строгімі настаўнікамі, а пасля, калі чужымі работамі надакучыла экзаменаваць свае, супакоіўся, нават сабою задаволены. Гледачоў было не вельмі, але знаёмых мастакоў, былых калегаў па Акадэміі, заўважаў, здзіўляўся, што нібы не пазнаюць, не падыходзяць. Едучы сюды, амаль год не быўшы ў сталіцы, уяўляў, якія шчырыя размовы будуць з калегамі па мастацтве. А што даў хоць і гэты, на выставе, дзень? Вастрэй, чым нават у вёсцы, адчуў, што тут цябе забылі, ты ўжо нікому не патрэбны. З’явілася ў галаве нават і помслівая думка ў адказ: ну дык і мне ніхто тут не патрэбны. Але адразу спахапіўся, нібы спалохаўся: як гэта ніхто? А Куінджы? А Пурвіт? Зеўс у сэрцы непахісны. І Пурвіт. Яго цяпер у сталіцы не было – ад Зеўса ведаў. Але прыедзе. Без яго акадэмічная выстава не адкрыецца.

Апошняя думка крыху суцешыла. А тут і запрашэнне прыйшло на польскі баль. Візіты па гэтакіх запрашэннях рабіў раней, студэнтам Акадэміі, ад іх меў немалую асалоду, бо там заўсёды бачыў даволі шмат паненак, быў сярод іх у фуроры як малады мастак, па густу ім і з выгляду, і вольнымі манерамі, і вострым словам. З прыемнасцю, забыўшы на сваю самоту, пайшоў на баль, як у тыя маладыя дні. Але...

Таго, што раней, і там таксама не ўбачыў, не адчуў. Цяпер усе былі чужыя па думках, па настроях, нават знаёмыя былыя, і ён зрабіўся ім чужы. Былі, як і раней, паненкі, але ўвага іх цяпер была да афіцэраў, да маладых банкіраў і чыноўнікаў, мастак нікога не цікавіў. Вярнуўшыся дадому, сказаў сабе: усё тое – не маё, мяне там больш не будзе.

А раніцай прачнуўся і не адразу нават успомніў, дзе бавіў надоечы свой вольны вечар. Ляжаў, пакуль увагу не звярнуў на дзіўнае, нібы ад навагодняй ёлкі святло ў акне. З ложка ўсхапіўся. Снег ціха сыпаў за акном на брукаванку, і ад яго паветра ў майстэрні зыбалася, як жывое. Вочы натрапілі на "Крэва". Дзіўна-празрыстыя, драбнютачкія цені гулялі па палатне ў загадкавай, без хоць якога ветру, завірусе. Бачыў як перапісаную невядома кім за ноч карціну.

Выйшаў на кухню, заварыў каву. З гарачым кубачкам у руках вярнуўся да акна. Снег яшчэ сыпаў. Глядзеў то на яго, на снежнае паветра, то на "Крэва" ў рухомым ранішнім святле і адчуваў паміж іх, праз акно, паразуменне. Душою адчуваў, а выславіць не мог.

Калі яшчэ раз позірк ад эцюда перакінуўся на той, што за акном, пейзаж са снегам, заўважыў зусім блізка, адразу за акном, жанчыну. У доўгім паліто, якое не магло схаваць яе прывабнай маладой фігуркі, яна стаяла прысыпаная снегам, нібы снягурка з казкі, а твар пад капялюшыкам за белаю парошай не хаваўся, быў ясны, нібыта снег яна ўвесь час з яго змятала чырвонай рукавічкай, якую трымала ў руцэ ля вуха, і ён, не толькі прывабны, але, як падалося, яшчэ і смелы, магчыма нават дзёрзкі, уважліва ўглядаўся ў акно на мастака, нібыта штосьці пэўнае хацеў убачыць і сказаць. Рукі з кубкам апусціўшы на падаконнік, вачэй не мог адвесці ад пэўна ж яшчэ паненкі. Яна яму ўсміхнулася – ён адказаў усмешкай. Яе прывабнасць затрымалася на твары – ён разгубіўся: твар быў знаёмы. Але раней дзе яго бачыў? Доўга не гадаючы, з кватэры пад снег выбег у адной сарочцы. Яна ўжо стаяла каля ганка.

– Вы да мяне? Гэта маё акно.

– Я ведаю, – прамовіла яна ў ражок пушыстага, з жоўтай лісы, каўняра, хаваючы за ім і слоўка, нясмела вымаўленае, і хваляванне. Але настрой з усмешкай разам блукаў, не хаваючыся, па ўсім твары, крынічыў у вачах. – Я ішла міма і ў акне заўважыла мальберт. Мне захацелася на ім убачыць вашу новую работу. Вы мне прабачце гэтакае нахабства, але...

– На жаль, убачылі ўсяго толькі мастака, які п'е каву?

– Не на жаль. Добры мастак усё робіць прыгожа. Мастак п'е каву – таксама карціна.

– А што бачылі акрамя гэтай карціны?

– Два дні таму вашы эцюды на выставе. Спадабаліся.

– І як вы маглі падумаць, што я іх аўтар?

Яе рука нервова сарвалася ўніз з каўняра. Фердынанд усім нутром успыхнуў, нібыта полымя на ветры, ад цеплыні, якою абдала яе прывабная, цяпер ужо на ўвесь твар, усмешка.

– А вы не памятаеце, з кім танцавалі мазурку ў Таўрыйскім палацы на польскім балі?

– З паненкаю Гэленай Макоўскай.

– І ўжо не пазнаяце? За адзін год забылі.

– Я вас пазнаў, Гэлена. Не адразу, бо снег замружыў, вас ад мяне хаваў. Ваш мілы твар як не пазнаць? Але адразу не мог паверыць.

Праз колькі хвілін яны ўжо сядзелі за круглым малым столікам, на якім ляжала палітра, стаялі ваза з пэндзлямі і вазачка з багданаўскім, з брусніц і яблыкаў, варэннем. Пілі з варэннем каву, паглядалі на эцюд, што стаяў на мальберце, і гаварылі пра ўсё, што ўсплывала ў молада-свавольных думках. Даўжэй, як на эцюд, глядзелі адно другому ў вочы.

– Ваша мама варыць цудоўнае варэнне.

– Адкуль вы ведаеце, што яго варыла мая мама?

– Яно празрыстае, як раса, і вельмі смачнае. Гэтакае можа зварыць толькі мама.

– Дзякуй за гэтыя словы. У мяне цудоўная мама.

– І вы яе любіце. Я не пытаюся. Я гэта бачу.

– Вельмі люблю.

Яе вочы затрымаліся ў цёплым позірку на яго твары, і яму падалося, што яна ўглядаецца не толькі ў ягоны твар, але глыбей, у душу, робіць гэта з удзячнасцю, быццам размова не пра яго, ёй незнаёмую маці, а пра яе родную. Хацелася сказаць штосьці яшчэ, ёй прыемнае, шчырае, і ён прызнаўся:

– Я часта ўспамінаю той баль, тую мазурку. І вашу сукенку, гармонію вашых любімых колераў.

– Нават? – Весела здзівілася яна. – Якіх маіх любімых?

– Карычневых цёмных, карычневых светлых, ружовых, залацістых. Цёплых. У гэтым тоне і вашы шыкоўныя валасы. Калі гляджу на вас, калі вас успамінаю, мне бачыцца адзін з самых абаяльных партрэтаў Ван-Дэйка.

– Эрцгерцагіні Ізабэлы? Ну што ж... учора зноў быў польскі баль. На жаль, не для нас.

Фердынанд насцярожыўся: магчыма, ведала, што ён быў там? Што адказаць на гэта? Што быў? Навошта? А прамаўчаць – няшчырым быць у адказ на яе шчырасць? О не, не мог.

– Я быў, Гэлена, там.

Яна вялікімі вачыма ўставілася на яго – здзівілася? Чаму? Не зразумеў адразу. Таму, што ён там быў? Ці што сказаў пра гэта лёгка, не падумаўшы, як непрыемна ёй гэта пачуць? Ну так, ад непрыемнасці і падкалола:

– Скакалі з іншымі паненкамі?

Зноў выбару, што адказаць, не бачыў:

– Паненкам тым мастак быў нецікавы. Цяпер іх прываблівакоць афіцэрскія шэўроны.

Яна паставіла кубак на стол, каб кава з яго не выплюхнулася ад нястрымнага, нібы ў блазна, смеху, але размову пра паненак падтрымала:

– Яны не вінаватыя, што першая каханка ў мастака – мастацтва. Кожная паненка марыць адзінай быць у пана.

Яна, хітрунння, нагадала яму размову пасля леташняга балю, калі ён вёз яе дадому ў экіпажы, як ён казаў тады празмерна, мабыць, шчыра, што сваё сэрца сапраўдны мастак аддае мастацтву, што жанчына ў яго можа быць толькі другой каханай, што развесціся мастак можа з кабетаю, але

ніколі з мастацтвам. Тады ў іх, як ехалі, седзячы побач у чароўным пацемку экіпажа пры кволым святле ад газавага ліхтара, пачалося штосьці накшталт гульні: паміж знаёмых мастакоў шукалі, у каго былі сямейныя разводы, знаходзілі, нават нямала, сярод маладзейшых, але не знайшлі ніводнага, каб разышоўся з мастацтвам. Цяпер, падтрымаўшы паненак, што выбіраюць афіцэраў, а не мастакоў, яна ўзяла лыжачку варэння, патрымала на святле, разглядаючы, апусціла ў кубак, пабоўтала ў ім лыжачкаю, глыточак адпіла з кубка і, нахіліўшыся над ім, углядаючыся ў яго, задумалася. Ён у гэтую хвіліну твар яе не бачыў, бачыў адно прыгожы чысты лоб ды валасы густыя, цёплыя, колеру кавы з малаком, прычоску зграбную, ля вуха завітушкі – падумаў: што зараз, як маўчыць, у гэтай галоўцы, мадэлі хоць і для Ван Дэйка, якая таямніца? Каму даступная? Усё ж – мастаку ці афіцэру?

А ёй як надакучыла таемнасць – прыўзняла галаву, яму ў вочы пагледзела:

– Я сапраўды хачу ўбачыць вашы новыя работы.

– Вы бачылі іх на выставе ў Дзягілева.

– Там хіба ўсё, што прывезлі?

– Іншыя ўжо ў Акадэміі. Наша выстава будзе не горшая.

– А гэты, на мальберце, эцюд?

– Над ім яшчэ працую, Прывёз, каб не глуміць тут вольны час. – Заўважыўшы, як углядаецца яна ў эцюд, як намагаецца знайсці ў ім штосьці, падказку даў: – Тут Крэва. Сэрца старажытнай Літвы. Мая радзіма. Быў замак Вялікага князя. Цяпер, бачыце, руіны.

– Літва вялікага Адама?

Ён скалануўся. Ад нечаканасці або ад радасці?

– Так. Літва вялікага Міцкевіча.

– У камянях шукаеце красу або загадку?

– Памяць. Былую веліч. І трагедыю. Тыя настроі.

Яна паставіла кубак на стол, вачэй не зводзіла з эцюда. Задумаўся і ён: як гэтак адбылося, што пасля таго балю яны за год ні разу гэтак блізка не сышліся? Яна вучылася таксама ў Акадэміі, на скульптуры, яе мастацкія майстэрні былі іншыя, ляпіла бажкоў антычных, але ж зрэдчас і бачыліся, віталіся на акадэмічных лесвіцах, на калідорах, у спешцы паміж званкамі на заняткі і з заняткаў, на перабежках ад аўдыторыі да аўдыторыі, з майстэрні ў майстэрню. Цяпер нібыта першы раз глядзеў на яе далонь з доўгімі танклявымі пальчыкамі і хваляваўся, як і тады ў экіпажы. Паклаў на яе сваю далонь. Яна ласкава, нібы тое чакаючы, усміхнулася. Ён з-за стала падняўся, не выпускаючы з свае рукі яе руку. Устала з-за стала яна таксама. Сказала:

– Калі не ведаеш гісторыю краіны, то цяжка зразумець каменне, якое застаецца ад яе. Як яго тады адчуць і выявіць? Не ведаю. Я не мастачка.

– Вы скульптар, – сказаў ён. – Вашы рукі трымаюць камень, аддаюць яму сваё цяпло і тым робяць яго жывым. А ў маіх руках фарба. Я пішу лес, поле, дрэвы, кветкі, іх адчуваю жывымі, як яны дыхаюць, усё вакол сябе мяняюць і мяняюцца самі. Камень маіх рук не чуе. Як мне ў ім адчуць жывую кроў стагоддзяў?

Яна падвяла яго да акна. Снег сыпаў ужо не гэтак густа, як раней. Яны стаялі побач, глядзелі на снег, на горад.

– Вайсковыя казармы за каналам бачыце? – спытала яна. – Іх будавалі

яшчэ пры Пятры Першым. Манеж паміж казармаў, каменная сцяна без вокнаў. Над ёю вартавая вежа. Усё з аднаго каменю, з карэльскага ружовага кварцыту. Я міма іх хаджу ў Акадэмію і з Акадэміі дадому, часта гляджу на той, у сценах, камень і дзіўлюся, як ён мяняе свае адценні. То шэрыя, як дажджавыя хмары, святлейшыя або цямнейшыя, то блакітныя, зіхаткія, быццам па іх бяжыць чысты ручай, то ажно слепяць сонечным святлом з адценнямі сіены, кінавары, вохры. Бывае, што бяжыш, спяшаешся, а вокам на той камень кінеш і запынішся, стаіш, глядзіш і думаеш: ці не жыве ў вежы мастак, які, як горад спіць, аблётвае з палітраю на крылах Серафіма сцены, перамалёўвае. А то як хто змывае ўсе колеры, можа, і той мастак, тады сцены аднолькава ружовыя, як натуральны кварцыт карэльскі. Цёплы, ахвота рукі на ім пагрэць. Распальвае жаданне з’ездзіць у Карэлію, пагрэцца на тым “вогнішчы”.

Гэлена адышла ад акна, а Фердынанд стаяў, глядзеў на тыя сцены, як першы раз іх бачыў.

– Калі там гэтакая казка, чаму б не з’ездзіць? Адсюль, здаецца, блізка?

– Край дзікі. Поўнач. Каб ехаць не адной?

– Так, так. Туды вам трэба ехаць з надзейным мастаком.

Яна паспяшалася спыніць яго празрыстую параду:

– Глядзіце і чакайце. Снег за акном цішэе. Як спыніцца, іншым святлом заззяе камень, тады тое ўбачыце, што ў камені шукаеце.

Ужо ён бачыў, што снег сыпле радзейшы, што срэбра гасне, яснеюць за каналам манеж, вежа, казармы, волкі туман па сценах сплывае ўніз. Не вытрымаў:

– Я штосьці заўважаю.

Выразнейшымі бачыліся камяні ў сценах. Яны хоць хмурыліся, але яснелі, мяняліся ў колеры, настроях.

– Вы чуеце мяне, Гэлена?

Яна не адгукалася.

Ён азірнуўся і, не заўважыўшы ў майстэрні, выйшаў у вітальню. Яе не было і там. Вярнуўся да мальберта. На палітры заўважыў паперку, якой не бачыў раней. Хацеў узяць – трымалі, прыклееную, фарбы. З палітрай да вачэй паднёс і прачытаў на той паперцы: “Глядзіце ў акно. Спяшаюся ў Акадэмію. Прабачце”.

Падышоў да акна. Яна перабягала вуліцу і азіралася. Заўважыўшы яго ў акне, махала яму чырвонай рукавічкай.

## 10

Акадэмічная выстава адкрылася ў адзін з першых дзён сакавіка. Акрамя “Зямлі” Рушчыц выставіў новы “Млын”, зімоваю натурай і настроямі не падобны на той, што быў у Савы Мамантава, і эцюд. Гэта была яго першая выстава, калі за свае работы не хваляваўся, хоць і ведаў, што кожная з іх не ўсім па гусце, па думках, па настроях. Цяпер, як ніколі раней, адчуваў, што ён ужо не вучань, што мае свой погляд на мастацтва, на жыццё ў ім, на кожную сваю работу, што адчуванне сваёй карціны, свая думка аб ёй найпершая, да праўды, ісціны бліжэйшая за чужую, бо глыбей, у большых пакутах, у большай шчырасці выкалыханая душою мастака. Да чужой думкі варта прыслухоўвацца, але найбольш аддана верыць трэба сабе, сваёй душы. Куінджы падабалася “Зямля”, а Дзягілеву “Млын”, а

міма прайшлі маладзейшыя мастакі, калегі, нават не запыніліся. Падышлі знаёмыя палякі, хвалілі работы за тэхніку, каларыт, паэзію, але канкрэтнага нічога не сказалі – усё ўвогуле. Каму з іх верыць? Яшчэ ў мінулым годзе ад гэтакай рэакцыі мог перахваляваца, разгубіцца, але цяпер быў задаволены, што шмат не гаварылі, не вельмі захапляліся, гледзячы ў вочы аўтару, не казалі яму, што ён вялікі майстар, геній, пераплюнуў Куінджы або Левітана, што з ціхай прыкрасцю ў сэрцы ўжо неаднойчы чуў. Хлусня псавала жывапіс. І тая, на карцінах, і тая, што вакол іх кіпела. Цяпер тут, на выставе, яму найперш хацелася ўбачыць, як пішуць іншыя мастакі, сябры, што яны, у сталіцы жывучы, знаходзяць для сваіх пейзажаў, хто як мяняецца або ламаецца, хто што шукае ў мастацтве. А ўжо свае працы паказваў хутчэй як візітоўку, што давала дазвол на ўваход сюды, на гэтую мастацкую дэманстрацыю, не толькі да экспазіцый, але і да натоўпу аматараў і знаўцаў жывапісу, да мастакоўскага бамонду, іх поглядаў, настрояў.

Прэса, якая ў мінулыя гады старалася падтрымліваць маладыя таленты, цяпер або іх закрэслівала, або замоўчвала. Каб зразумець яе, трэба было ўбачыць тое, што яна закрэслівае ды замоўчвае.

Быў Куінджы на адкрыцці выставы. Трымаўся збоку ад акадэмічнага натоўпу, адміністратараў, нібыта замежны госць, выпадкова запрошаны. Маўклівы, прыгнечаны.

З'явіўся нават імператар, здзівіў адразу ўсіх, што ціха, без звычайнай вакол сябе світы падыходзіў да кожнае карціны, уважліва разглядаў. Хтосьці ім захапляўся, хтосьці губляўся: што гэта абяцае мастацтву, мастакам? Любоў, павагу, клопат? Ужо набліжаўся і да Фердынанда, ужо Фердынанд чакаў, што яму скажа, калі не скажа, дык што падумае пра мужыка, бізун у яго руцэ і пра валоў, ці спадабаюцца яны яму, ды раптам аб'явіліся каля цара Вялікі князь – прэзідэнт Акадэміі, яго намеснік, рэктары, шчыльным, у чорных фраках, гуртам павялі святлейшага міма валоў да наступнай экспазіцыі.

Фердынанд выйшаў з залы. Яму хацелася хутчэй дадому, ад усіх – у свой кут, там – адзіноты. Не атрымалася, бо нечакана апынуўся ў абдымках Пурвіта:

– Ну, дружа, твае валы – краса і вышыня выставы. Яны нас усіх ратуюць.

Твар Вільгельма свяціўся шчырасцю і радасцю, нібы ўсё гэта хтосьці казаў яму самому. Ды тут адразу з-за яго спіны пачуўся голас Бровара, таксама калегі па майстэрні:

– Ме-та-фі-зі-ка.

Фердынанд злёгку разгубіўся: што і каму з іх адказаць на гэтакія прывітанні? Перад апошнім узнік Разенталь, які любіў і ўмеў мірыць процілеглыя думкі:

– Сам ты метафізік. Жывых валоў яшчэ не бачыў. – Узяў Фердынанда пад руку. – Твая карціна безумоўна лепшая. Яшчэ два-тры мазочкі на пярэднім плане, на полі, пакладзеш і на сваіх валах увесь свет можаш аб'ездзіць.

– Ну так, павесяліш людзей. І белых, і чорных, і жоўтых.

Усім весела зрабілася.

– Як хочаш, – рагатаў і Разенталь. – Табе ў вёсцы ўсяго хапае. Для цела, бачу, і для душы, Можаш з яе не выязджаць. Жыві, працуй і радуйся. Але валоў, мужыка з бізуном, тваю зямлю ўвесь свет зразумее. Я пра гэта.

– Увесь свет, акрамя Пецярбурга, – уставіў Бровар.

– Акрамя цара і Бровара, – дадаў Пурвіт.

– Ды яшчэ Дзягілева, – дадаў Фердынанд.

Усіх выслухаўшы, Разенталь прадоўжыў сваю думку:

– Твой пэндзаль, Фердынанд, трапіў у тое месца, адкуль жыццё ўсюды пачалося: поле, мужык, валы.

– Я рады гэта чуць...

Але хвіліны радасці заўжды карацейшыя за хвіліны роспачы, і тое, што хвалявала, вылівалася з душы ў сшытак:

“Я стомлены.

Няхутка яны ацэняць нас. Мы ў іх вачах рамеснікі, якія палююць на іх кішэню ды ласку.

Прыкрае пачуццё гняце душу пасля афіцыйных прыёмаў, дзе чалавека пазбаўляюць годнасці і прыніжаюць.

Без разумення, без прызнання сваіх намаганняў цяжка трымаць раскінутыя ў палёце крылы. Абыякавасць – гэта волава. Цяжка”.

У гэтакім настроі Фердынанд губляе жаданне заставацца ў сталіцы і вяртаецца ў вёску.

## 11

Май – вясна ў найчысцейшай квецені. Бялюткая, але ўжо зелянее.

У Ганны, сястры, дзень Анёла. Разам з ёю Фердынанд на набажэнстве ў касцёле. Выдатна спявае хор. “Вітай, Марыя”, “Багародзіца” ачышчаюць і ўзвышаюць душу.

Увесь вечар музыка і ў доме. За клавіятуру садзяцца то маці, то Ганна, то паненка Марыля.

Хатняя музыка супакойвае, але не гэтак, як тая, што ў касцёле. На іншых, паніжаных рэгістрах яна спакваля ўлівае ў стомленае гарадской нервовасцю цела выразна зямныя, ад жыцця ў прыродзе рытмы, сілы, настроі.

У вёску да Фердынанда прыходзяць лісты. Не з Пецярбурга, дзе пакінуў сяброў па мастацтве, не з Менска, дзе сябры маленства, па гімназіі, а з Вільні, з Варшавы, дзе не было, здавалася, блізкіх людзей. Незнаёмыя дзеячы культуры, мастакі выказвалі захапленне карцінамі, убачанымі на выставах, здзіўляліся, што Еўропа пра яго мастацтва яшчэ не ведае, прасілі новыя работы для сваіх выстаў, прапаноўвалі наладзіць персанальныя экспазіцыі ў Варшаве, Кракаве, Вільні. Гэтакія лісты прывязвалі да еўрапейскай культуры, чаго душа якраз і шукала апошнім часам. Не адгукнуцца на іх Рушчыц не мог.

Перадапошні дзень вясны выдаўся шэры, халодны, падобны на дзень позняй восені. Бацька з сынам запрагаюць каня ў брычку і, апусціўшы на акенцах фіранкі ад ветру, выязджаюць у Вільню.

З атрыманых лістоў Фердынанд ведаў, што ў Вільні рыхтуецца да адкрыцця жывапісная выстава польскіх мастакоў, меў і запрашэнне ўзяць у ёй удзел, і адрасы арганізатараў. З тыдзень прабыўшы ў Вільні, дамовіўся аб сваім удзеле ў выставе, накупляў цікавых кніжак і вярнуўся ў Багданаў. Тут, у захапленні ад свайго вясновага маёнтка, апавядаючы маці пра Вільню, ён прызнаецца, што адчуваў сябе там больш далёкім ад еўрапейскай культуры, як у вёсцы, у роднай прыродзе, што тут больш духоўнага святла,

як у горадзе. Думка нечаканая, як нечаканым было і для яго самога тое адчуванне ў Вільні. Але маці, чыя душа настройвала ўсе струны ў душы сына, не здзіўляецца, яе гэта нават нібыта радуе:

– У кожнага чалавека сваё духоўнае гняздо. Ёсць яно і ў цябе. Ты ў чужыя гнёзды заглядай, а сваё пільнуй.

Ён якраз чытаў Славацкага, яго “Лісты”, прывезеныя з Вільні, якія той пісаў да маці з Парыжа, Фларэнцыі, Жэневы. Дзівіўся, як пісьменнік, захоплены культурай Еўропы, у той самы час не бачыў роднае, сваё, лічыў ніжэйшым за чужое, і якая сугучная з ім думка маці, каб пільнавацца свайго, захапляючыся чужым. Ад дзвюх крыніц, матчынай мудрасці і лістоў Славацкага, атрымаў гэтакае натхненне да працы, што рашуча падышоў да свайго “Крэва” і не адышоў, пакуль цалкам не перапісаў, уклаўшы ў вобраз усё, што перадумаў ды пераадчуў з ім на мальберце не толькі ў Крэве ды Багданаве, але і ў Пецярбурзе, нават і ў размове з Гэленаю пра камяні драгунскіх казармаў за акном майстэрні.

У тыя дні і сшытак пад рукой трымаў:

“Дзённік мой! Каб ты ведаў, як найперш за ўсё я прагну быць добрым сынам сваёй Бацькаўшчыны, для яе працаваць, араць і, калі што ўзрасце, прынесці ёй увесь плён, бо люблю яе ўсім сэрцам і толькі ёй належу целам і душою”.

Праз тры тыдні Фердынанд высылае ў Вільню карціны “Крэва”, “Вясновы вечар” або “Млын” і восем новых эцюдаў. Яшчэ праз дзень прыязджае туды сам і адразу трапляе на выставу, дзе работы ўжо віселі. Здзівіўся, убачыўшы каля іх шмат гледачоў. Вядомыя ў мастацкіх колах людзі ахвотна выказваліся ў час прагляду, а праз які дзень і ў прэсе – што працы Рушчыца лепшыя на выставе, сваёй арыгінальнасцю, каларытам, тэхнічным майстэрствам падоўгу трымаюць найбольш глыбокіх улюбёнцаў і знаўцаў тонкага жывапісу. Расчулены ўвагаю да сваіх работ, Фердынанд спяшаецца ў родную прыроду, каб падрыхтавацца да наступнай выставы ў Варшаве.

У гэты час ён адчувае сябе мастаком як ніколі раней вольным, не скаваным умоўнасцямі, якія прыгняталі, здаралася, раней, стрымлівалі фантазію, схілялі да асцярожнасці. У гэтым стане душы і думак абуджаецца жаданне вярнуцца да “Карэты”, якую пісаў і перапісваў пад рознымі назвамі, кожны раз без поспеху.

“Увечары перарабіў аблокі, увёў цёмна-сіні тон. Павінен даць сабе поўную свабоду, каб у карціне выявіць нешта фантастычнае, нейкую баладу”.

У запісах наступнага дня гэтае разважанне мае працяг:

“Лісце раблю цёмным, жоўта-карычневым і стылёвым. Ці гэта добра, ці кепска, не ведаю, але ўжо з год у мяне да гэтага выспявала ахвота. Спачатку баяўся рабіць матыў нерэальным і падбіраў адпаведны момант у прыродзе. Цяпер, малюючы эпічны, гераічны краявід, вярнуўся да першапачатковай задумы. Але, гэтак малюючы, гляджу на свой твор нібы тая птушка, што разам са сваімі птушанятамі вывела і птушаня зязюлі з падкладзенага ў гняздо зязюляю яйка”.

Тут усё лагічна, натуральна. І неспакой, сумненні, і гумар, што суцяшае, і бачанне матыву незвычайнага. Сыходзяцца дзве якасці тэмпераментнай натуры мастака, дзве мастацкія плыні, рэалістычная і рамантычная, рэалістычная ад даверу да прыроды і акадэмічнай школы, а рамантычная – хутчэй ад маладога тэмпераменту, які шукае арыгінальнае, узвышанае. Мастак зноў, цяпер больш смела, імкнецца пераадолець перасцярогу

настаўніка, які прызнаваўся, што сам пабойваецца тэм фантастнчных, цяжкіх і рызыкоўных для рэаліста.

На гэты раз Рушчыц смялейшы і за настаўніка, і за сябе ранейшага. Паўплывалі першыя кантакты з захадам, з яго смялейшай творчай раскаванасцю, свабодай думкі, тэмпераменту? Гэта відавочна. Ці не занадта хутка? Але не выпадкова. Усё ж мастак быў выхаваны на традыцыях больш заходніх, як усходніх, і маці – датчанкай, і бацькам – палякам. Ды і літаратурай не толькі рускай – Пушкіным і Дастаеўскім, – але і польскай, не ў меншай меры – Міцкевічам, Славацкім, Сянкевічам. Культурнае поле было ўзаранае, чакала насення і жыццядайнага сонейка.

Вось і Варшава. Краявіды Рушчыца ў Таварыстве прыгожых мастацтваў вывешаныя на цёмна-зялёным, нібы ў зацішным падлеску, фоне. Тут і аўтар. Да яго падыходзяць мастакі. Яшчэ ён мала каго з іх ведае, але яны яго віншуюць як добра знаёмага, як сябра. Кагосьці захапляе свежасцю ягоны “Першы снег”, хтосьці, азіраючыся, адыходзіць ад “Млына” і зноў да яго вяртаецца, шмат хто цікавіцца, дзе аўтар вышуквае гэтакія арыгінальныя матывы, ці дапасоўвае густы прыроды да сваіх. Пачынаецца размова пра скандынаўскі жывапіс, у каларыце якога бачаць нават і “Мора пад сонцам”, што дыхае поўднем.

Увага з боку гаспадароў выставы і яе наведнікаў, задоўгія размовы, часам дылетанцкія, стамляюць, але і радуюць, даюць ахвоту бліжэй знаёміцца з людзьмі, якім мастак цікавы, на кожны позірк і голас адгукнуцца, адкрыцца, і калі вядомыя ў Варшаве дзеячы культуры запрашаюць да сябе як пачэснага госця, маючы жаданне пазнаёміцца бліжэй у сваім сяброўскім або сямейным коле, ён рады гэтакай магчымасці. Пасля ў сшытку з’яўляюцца ўдзячныя запісы. Як і гэты:

“Быў на “пятніцы” ў доктара Бэні. Заўжды марыў, каб калі-небудзь убачыць людзей, якія думаюць пра народ, каб хоць здалёк паглядзець на іх. І тут яны прынялі да сябе. Заўсёды буду помніць гэты дзень. Адзін з самых шчаслівых дзён у маім жыцці”.

Усхваляваны блізкай сустрэчай з доктарам, вучоным медыцыны, грамадскім дзеячам Бэні Каралем, Рушчыц вяртаецца ў Багданаў і ўжо тут на той самай хвалі роздуму выліваецца яшчэ адным шчырым прызнаннем:

“Мастак носіць у сабе стрэмку. Заўсёды яе адчувае, ніколі ад яе не пазбавіцца. Стрэмка – яго мастацкае сумленне”.

Першы запіс Рушчыц робіць уначы пасля сустрэчы з доктарам, калі яму, расчуленаму сяброўскай размовай, не спалася, у адну з самых апошніх начэй 1899 года; другі, у Багданаве, у адзін з першых дзён 1900 года і новага стагоддзя. Абодва запісы пра адказнасць мастака перад мастацтвам і перад Радзімай. Гэта галоўная думка Рушчыца на мяжы двух стагоддзяў. Ведаючы, якім выдалася пражытае стагоддзе, і не ведаючы, якім будзе наступнае, ён спрабуе прадбачыць сваё далейшае жыццё тэмпераментам, інтуіцыяй і там, далей, прадчувае новыя кантакты са светам. Ужо цяпер гэтыя прадчуванні не абяцаюць працяглага ды ціхага, хоць і ў штодзённай любімай працы, жыцця ў вёсцы, падказваюць тут не заседжвацца, шукаць далейшыя шляхі. З якога боку? На захадзе або ўсходзе?

Неўзабаве пасля Варшавы адзін з першых запісаў у сшытку даволі нечаканы:

“Багданаў, 19. 01. 1900.

Пакую скрыні з карцінамі для Пецярбурга”.

Нечаканасць гэтага кроку ў тым, што Фердынанд яшчэ добра памятаў сваё апошняе наведанне Пецярбурга, апошнюю там вясновую выставу, якую дружна, нібы ў змове супраць маладых мастакоў, што выставілі свае работы, вучняў Куінджы, знішчалі ўсе, хто не ленаваўся гэта рабіць, уся сталічная прэса, у тым ліку і яго карціны, яго "Зямлю", з якою горыччу адтуль вярнуўся, нібыта назаўсёды збег, каб больш туды не ездзіць, і як зусім іначай пасля тае выставы віталі яго работы ў Вільні ды Варшаве. Здавалася, што пасля гэтага дарогу ў Пецярбург можна забыць, не адчуваючы ў тым вялікай страты, што ўсе дарогі цяпер у мастацтве павядуць на захад.

Што ж зноў паклікала ў паўночную расійскую сталіцу? Чарговая, ужо блізкая, вясновая выстава? На фоне нядаўніх у Вільні ды Варшаве яна магла шмат што сказаць і падказаць разгубленай душы: куды далей ісці і з кім, на захад ці на ўсход? Або паклікала настальгія па маладых, у акадэмічных майстэрнях, гадах, па сябрах, настаўніках? Сумленне перад Зеўсам?

А можа і Гэлена?..

## 12

Зразумець Фердынанда на тым прамежжы паміж усходам і захадам цяжэй тым больш, што ён пэўна і сам ці ведаў, як зразумець сябе самога. Магчыма, тут пасобіць сшытак, з якім – і толькі з ім – у тыя дні вядзе шчырую размову Фердынанд.

"Пецярбург, 25. 01, 1900.

Вельмі сумна. Сумна і самотна. Нават думак не магу сабраць, адчуваю сябе стомленым не толькі фізічна, але і маральна. Усё: людзі і горад – нязменныя, будзённыя. Чалавек ходзіць, ён нікому не блізкі, нікому не патрэбны.

Расставіў творы, і гэта крыху супакоіла".

Жахлівае адчуванне: чалавек нікому не блізкі, нікому не патрэбны. І хто ён, той няшчасны? Ды сам мастак, сам Рушчыц. І сам, і ў сабе бачыць іншага, як у іншым бачыць сябе. Іншы гэта можа не адчуць як сваю вялікую бяду, нікому не патрэбным можа пражыць усё жыццё, з гэтым звыкнуўшыся, але мастак з яго амбіцыямі, з яго адказнасцю за ўсіх і за сваю радзіму адчувае гэта заўсёды балюча, як трагедыю і асабістую, і ўсяго народа.

Яму як жыць, змірыўшыся з гэтай бядою?

У мастака выйсце нібыта ёсць – мастацтва. Яно ў самой яго прыродзе – не трагедыя, яно ратуе: "Расставіў творы, і гэта крыху супакоіла". Але супакоіла толькі крыху? Супакоіла – не ўратавала. Тут, у царскай сталіцы, нават любімае мастацтва не ратуе Рушчыца. Бо ён тут не патрэбны.

Ці, можа, гэтае адчуванне выпадковае? Што ў сшытку пра гэта кажа далей?

"26. 01.

Быў на "серадзе". Вялікай шчырасці з боку калегаў не бачу. Калі лічым, што наша "Я" кагосьці вельмі цікавіць і камусьці патрэбнае – дык памыляемся".

"27. 01.

Цэлы дзень прачакаў Куінджы ў майстэрні... Прыйшоў. Доўга глядзеў

на “Вечаровы спакой”. “Цёмна. Уражанне робіць добрае”. Запытаўся, адкуль матыў. Пасля “Святочны дзень”: “Ага! Моцна. У сінім той самы недахоп, які быў у “Зямлі”. Я паказаў “Баладу”. Пазнаў знаёмы матыў. “... Вас дэкадэнтам назавуць”.

Размаўлялі пра тое, як кожны наш крок, кожная новая праца крытыкуецца, колькі нядобразычлівасці і зайздрасці нават сярод маладых...”

“14. 02. 12-я ночы.

Сталася. Выходзім з Камітэта акадэмічнай выставы. Забіраем свае карціны. Тут, у маім пакоі, удзесяцёх падпісалі паперу да старшыні: Багатыроў, Вальтэр, Зарубін, Пурвіт, Рэрых, Разенталь, Рушчыц, Рылоў, Стаброўскі, Хімона. Абразы Камітэта і мяне ў прыватнасці не спыняюцца...

... зваліўся з сэрца камень”.

На гэтым стасункі з акадэмічнай выставай, якая колькі год была ўдалым стварэннем і галоўнай экспазіцыяй вучняў Куінджы, для Рушчыца фактычна закрываюцца, і разам з ёю пачынае закрывацца Пецярбург. Бо што, акрамя жывапісу, тут можа радаваць душу і сэрца мастака? Яшчэ тут ёсць Гэлена Макоўская?

Так. Яна тут. З ёю Фердынанд цяпер бачыцца амаль кожны дзень. Часцей – мімаходзь, на нейкую хвілінку, некуды спяшаючыся. Але і гэтага хапала, каб пасля паўдня толькі яе і бачыць перад вачыма, толькі яе і чуць.

Бягуць дні.

“Я ў сваёй майстэрні. У гэты момант хтосьці, праходзячы міма, стукае ў вакно. Уваходзіць Гэлена Макоўская. Запрашае мяне на рэпетыцыю балю ў Таўрыйскім палацы. А восьмай я там... Доўга сядзім у зімовым скверы, пераходзячы ў размове з тэмы на тэму, але нашы вочы кажуць пра штосьці іншае... Гэта дзіўная жанчына...”

“Каля адзінаццатай... еду на баль... Яна ў ружовай сукенцы алеандравага колеру. Увесь вечар мы разам. Яна вясёлая, мілая, добрая...”

“Разам на выставе... Яна ў зяленаватай сукенцы з карычневым аксамітам...”

Усё, што Фердынанд заўважае ў Гэлене, грэе яго сэрца.

“Яна ў мяне ў майстэрні. Змярканне. Ліхтары праз вакно асвятляюць яе прыгожую галаву, густыя валасы, яна нагадвае мне адну з маладых мужчынскіх галоў Ван Дэйка. Нашы адносіны дзіўныя: больш, чым сяброўскія, менш, чым у закаханых. Прагну напіцца, а вады не знаходжу, нібы прыкладаю да вуснаў халодны прадмет і ад гэтага лягчэе. Незвычайныя дзве гадзіны, поўныя прыгажосці шарай часіны”.

“Я... ў майстэрні Гэлены. Яна малюе мяне. Просіць, каб апавядаў ёй пра Багданаў і сваіх”.

Наступны дзень збліжае далей:

“А палове сёмай я на абедзе ў Гэлены. Акрамя яе – брат і яшчэ некалькі асобаў. Размова пра маю “Баладу”, пра Шапэна...”

За сямейным сталом яму кажуць у вочы: “Вы для нас каштоўны набытак...”

Ці не падказвае ўсё гэта тое, што Гэлена, адчуўшы, як увайшла ў яго сэрца, ужо не супраць увайсці і ў яго дом, у яго сям’ю? Ён гэта адчувае? Здаецца, што не адчуць не можа – усяго хапае: інтэлекту, інтуіцыі, тэмпераменту, сардэчнай згоды. Ёсць гэтаму і сведка – дзённік. У ім – наступны дзень:

“А чацвёртай іду да яе. Яна кажа, што рада мяне бачыць. Разам выходзім

праз мост на Пятроўскі востраў. А дзевятай мы ў Малым тэатры. Колькі элегантнасці і якія лініі ў гэтай прыгожай маладой жанчыне!

Доўга стаім на адным з малых масточкаў Фантанкі. Бачу яе пры святле ліхтара на фоне вады, у якой адбіваюцца зоры".

Казка. І ў вачах у Фердынанда, і ў яго расчуленым сэрцы. Што далей чакае мастака, які валодае выдатным талентам не толькі чытаць казкі жыцця, самой прыроды, але і ствараць свае казкі?

Стварэнне ўласнае, ужо не казачнае, далей:

"Ашмяны..."

Усяго праз тыдзень пасля абеду ў Гэлены.

"Што сказала б мая прыгожая і дарагая, калі б убачыла мяне ў малым нумарочку жыдоўскага заезду, абклеенага блакітнымі шпалерамі ў чырвоныя кветачкі? Не, тут ёй не месца.

Яшчэ ўчора мы былі разам, а сёння – як далёка, далёка...

Які кантраст!

Яшчэ ўчора сядзеў я з табой пад габеленамі, пад высокім купалам, і нам здавалася, што гэтыя двое людзей далі б добры матыў для скульптуры, а сёння я ў мядзведжым футры, у глыбокіх гамашах, буславым крокам шпацырую па балоце малога мястэчка, саджуся абедаць у "клубным" рэстаране са штучнымі пальмамі на сталах!

Калі б мы былі разам, яшчэ б мацней адчулі, як шмат нас яднае і як шмат нас аддзяляе ад іншых".

Ратунак ад жыдоўскага заезду ў Ашмянах – Багданаў:

"Прыгожы вечар. Любоў сваіх, цяпло бацькоўскага гнязда".

"Праз вакно майстэрні малюю эцюд і, здаецца, ён моцны. Ва ўсялякім разе, малюю з запалам".

Гэтак было заўсёды: вярнуўшыся ў Багданаў, Фердынанд браў у рукі палітру, ішоў у прыроду, назіраў за святлом, каляровымі адценнямі, настроямі, маляваў. Адразу пачынаў жыць роднай прыродай, любімай працай і забываўся на ўсё, што заставалася за межамі гэтай прыроды, свайго маёнтка: хмары над Пецярбургам і яшчэ больш шэрыя, цяжкія для душы і сэрца хмары ў Пецярбургу, на тыя, што вакол мастацтва і ў мастацтве, тузаніну, зайздрасць, зласлівасць, няволю, хлусню. А пра Гэлену тут, у прыродзе, у працы, забываў таксама?..

"...бяру ў рукі дзённік, каб быць з табой, Гэлена, няма іншае рады. Раскладаю перад сабою твае здымкі і ўглядаюся ў іх... Паказваў нават аднаму чалавеку – Маме. Казаў ёй пра цябе, бо ў гэтым была абавязковая патрэба. Не мог вытрываць, што ніхто з майго кола не ведае пра цябе і нашае сяброўства. Адхіліў адзін краёчак, каб хоць адна асоба ведала, што тут ёсць скарбы".

Гэлену ўспамінаў. Часам зусім нечакана.

"Вялікдзень. Бачу цябе, Гэлена, бо Мама сёння апранутая ў твае колеры – цёмна-карычневы са святлейшым. Сказаў пра гэта Маме".

Па ёй, Гэлене, сэрца тузала, але, як верыць дзённіку, і забывала, аддаючыся працы ў прыродзе. Ды і не толькі ў прыродзе. У часы выездаў з Багданава на захад, які ўсе мацней прываблівае Рушчыца. Пасля Вялікадня, паназіраўшы за хуткаплынным снегам, папрацаваўшы ў прыродзе над новымі эцюдамі, ён вязе іх у Вільню. Адтуль, амаль адразу, у Варшаву і Кракаў. Далей – Берлін і Капенгаген. Падарожжа – амаль на ўсё лета.

## 13

У Варшаве Рушчыца цікавіла выстава жывапісу. Не толькі таму, што ўпершыню тут паказваў свае работы. Цікавіла, яшчэ і тое, які ў Польшчы жывапіс, якія мастакі, што і як пішуць. Тым, што ўбачыў, не захапіўся. Быў нават расчараваны, здзіўлены. З выставы адразу паехаў у Кракаў па афіцыйным запрашэнні на свята, якім Польшча адзначала пяцьсот гадоў Ягайлаўскага ўніверсітэта.

Праграма свята была вялікая, цікавая. Госця з "усходніх крэсаў" усюды віталі як выдатнага нацыянальнага мастака, з вялікай пашанай, увагай. Яго ўвесь час акружалі мастакі, акадэмічная ды ўніверсітэцкая прафесура, пісьменнікі, мастацтвазнаўцы. Запрашалі ў тэатры, на народныя кірмашы, у сем'і. З новымі сябрамі па мастацтве ён кожны дзень снедаў, абедаў, вячэраў у доўгіх шчырых размовах, знаёміўся з кабетамі, паненкамі. Усе з прыемнасцю заўважалі і віталі, хвалілі яго карціны, абвяшчалі тосты за яго талент, вазілі ў горы, паказвалі Карпаты, Татры. Пабываў і ў хаце-музеі Матэйкі, убачыў выдатныя калекцыі яго малюнкаў, эскізаў, карціны. Кожны дзень бываў у майстэрнях мастакоў. Шукаў усюды лепшыя мастацкія работы, якія б кранулі, усхвалявалі.

Ужо вярнуўшыся ў Багданаў, баючыся зманіць і самому сабе, Фердынанд выкажацца:

"У жывапісе волатаў мы не маем (не лічачы геніяльнага Матэйкі, бо разглядаю толькі чысты жывапіс)".

"Мы" – ён кажа, як паляк, за ўсю Польшчу.

Так, зрабіўшы тую вандроўку, яму будзе пра што падумаць і задумацца. Яна, асабліва па Польшчы, удалася багатай на ўражанні не толькі ад убачанага вокам, звонку, але і ад шчырых, шмат з кім, размоў, ад узаемнага, як паміж сваімі людзьмі, даверу, які адкрываў гістарычныя і сучасныя, праблемна-перспектыўныя і бліжэйшыя побытавыя глыбіні краіны, народа, грамадскае і прыватнае духоўнае жыццё. Рушчыцу адкрывалася нацыянальная культура, экспрэсіўнае і свядомае жыццё паляка, крыніцы яго патрыятызму і аптымізму. Усё гэта прываблівала, натхняла на духоўную супольнасць, творчыя кантакты, на сяброўства з цікавымі людзьмі, мацавала спадзяванні на свой творчы лёс ва ўмовах, калі губляліся духоўныя сувязі з Пецярбургам.

Але паміж Варшаваю і Пецярбургам быў Багданаў. Ён лячыў і ад залішняй роспачы, і ад залішніх захапленняў. Цяпер, пасля польскіх вандровак, таксама. Лячыў працай у прыродзе.

"Багданаў, 17. 09.

Што можа быць прыгажэйшым за восеньскую нядзельную раніцу на вёсцы? Неба чыстае, блакітнае, дрэвы жоўтыя, залатыя, стаяць ціха, лісты не шавеляцца, нават неападаюць на зямлю. Цішыня і спакой. Адчуваецца, што людзі адпачываюць, і менавіта тое, што іншыя не працуюць, кліча мяне да працы".

"Некалькі дзён запар перарабляў ваду ў "Вілейцы".

"Пачаў "Старое гняздо".

"Скончыў "Грэблю".

"Ад раніцы – эцюд, па абедзе – другі".

Кожны дзень працуючы ў прыродзе, Фердынанд засяроджваўся ў межах то аднаго, то другога, то трэцяга пейзажнага матыву і з гэтых межаў падоўгу сябе не выпускаў, шукаючы і выяўляючы на палатне нават і

самыя няўлоўныя на першы погляд крыніцы іх прывабнасці, красы. Але вольная, можна сказаць – свавольная, думка зноў ды зноў выбівалася з тых жорсткіх межаў у свет шырэйшы, як свет аднаго матыву, большы, як свет гармоніі ці каларыту, праўды лірычнай, паэтычнай. Што там, па-за канкрэтным матывам?

Працуючы з палітрай або даючы сабе адпачынак ад працы, адчуваў праўду мастацкую ў еднасці з праўдай гістарычнай. Гледачу гэта лягчэй бачыць у "Зямлі" або ў "Крэве", цяжка – у чыстых эцюдных пейзажах. Але ствараючы нават і невялікі памерам пейзаж, Фердынанд адчуваў яго як лапінку роднай зямлі, якая заўсёды мела ў ім свайго, па спадчыне, гаспадара. Гэтае адчуванне мацнела асабліва ў апошні час, у вандроўках па Польшчы і дома. У Варшаве ды Кракаве яго настроі віталіся ўсімі, а тут, дома, здаралася, што і выпрабоўваліся. Выпрабаванні ішлі ад мілых спрэчак з Артурам Бласам, сваяком праз маці, немцам, выдатным музыкам з Нямеччыны, які жыў у маёнтку, вучыў Вольгу, сястру Фердынанда, прафесійна спяваць, ставіў, як кажуць спевакі, яе моцны ад прыроды голас. Па вечарах наладжваліся музычныя турніры, Вольга і Артур спявалі дуэтам, а пасля пачыналіся размовы пра музыку, якія пераходзілі ў тэмпераментныя спрэчкі не толькі пра музыку ды музыкаў, але і шырэй – пра нацыянальныя культуры. Глеба для гэтакіх спрэчак была. Маці – датчанка, ведала мастацтвы скандынаваў, бацька – патрыёт Літвы ды Польшчы, Блас – заўзяты ў сваім нацыянальным патрыятызме немец. Звычайна спрэчкі пачынаў Блас пасля спеваў, з музыкі: хто любіць Шапэна, Чайкоўскага, Рубінштэйна, Падэрэўскага, Моцарта? Спакойныя ад пачатку выказванні хутка перапыняліся яго катэгарычнымі заявамі: "Шапэн – пусты, значны для адных палякаў", "Чайкоўскі – толькі для Расіі..." І гэтак – адмятаў усіх славянаў. Не прызнаваў іх і літаратуры, і жывапісу.

Усё гэта выпрабоўвала нацыянальныя пачуцці Фердынанда. Але ён не выглядаў дылетантам у разважаннях, спрэчках, меў свае ідэалы, крытэрыі, пазіцыі. У літаратуры любіў Міцкевіча, Дастаеўскага, Славацкага, у музыцы яго глыбока хвалявалі Шапэн, Чайкоўскі, Шуберт, Вагнер, у жывапісе высока ставіў Куінджы і Левітана, Матэйку і французскіх імпрэсіяністаў. Заўзяты нацыяналізм Бласа, як і любы іншы, калі адмаўляліся ці зневажаліся высокія ўзоры культуры, не лічачыся з гістарычнымі ды мастацкімі асаблівасцямі і традыцыямі народаў, у вачах Фердынанда былі вынікам звужанага, аднабаковага выхавання. Ён у сваёй сям'і, дзе паважаліся ўсе культуры і мовы, быў выхаваны інакш. Яго абуралі нацыяналістычныя крайнасці, але яны і насцярожвалі, прымушалі глыбей задумацца над сваім далейшым у мастацтве шляхам паміж дзвюх вялікіх культур – польскай і расійскай.

Складанасць свайго выбару Фердынанд адчуваў у гэты час і востра, і адказна. Ціхі Багданаў супакойваў, у сваёй мудрай цішыні даваў раўнавагу, але падказваў і тое, што цяпер тут не толькі ціхі кут для творчай працы, але і раздарожжа паміж захадам і ўсходам, дзе трэба рабіць непамылковы выбар.

Фердынанд працуе і думае. Кожны новы эцюд прымушае засяродзіцца на тым, куды ён, мастак, павязе яго, на захад або на ўсход? У Пецярбург да Куінджы, Пурвіта, Рылова, Рэрыха... або на захад – да каго там?..

Няма часу цешыцца прыемнымі польскімі ўспамінамі. Ужо і снежань на сыходзе, яшчэ адзін год пражыты, год новы пазірае з-пад ялінкі ў вочы

кожнаму. Яшчэ адна вясновая выстава збіраецца ў Акадэміі. Туды як не паедзеш, работы новыя не павязеш, калі там чакаюць Куінджы, Пурвіт... Ды і Гэлена?..

З'яўляецца ў сшытку запіс:

"Мама заўважыла на маім пісьмовым стале фотаздымак Гэлены. Тое, што пахваліла рамку, якую я падабраў для здымка, мяне вельмі ўсцешыла".

## 14

І вось зноў – Пецярбург.

Першы на парозе – Зеўс. Убачыўшы яго, Фердынанд адразу заўважае: Зеўс, але ўжо не бог з Алімпа.

На мальберце стаялі "Старыя яблыні" – паглядзеў, прамаўчаў. Не спадабаліся. Папрасіў паказаць астатнія работы. Усё перагледзеў без захаплення. Тых эмоцый, якія ўзрушылі год таму, калі "Зямлю" ўбачыў, не было. Падзякаваў толькі за тое, што працаваў у вёсцы, і пайшоў. З выгляду як пацішэў, абсунуўся. Фердынанд адчуў: іншыя не робяць і гэтага, што робіць ён у Багданаве, лягчэй за апошні год не зрабілася ні настаўніку, ні яго вучням.

Пазней, ужо прыцемкам, завіталі Дзягілеў і Бенуа. Глядзелі і яны работы. Асвятленне было кепскае – прыйшлі абодва і назаўтра, яшчэ раз перагледзелі ўсё, выбралі, што ім спадабалася, для свае выставы.

Неспакойна зрабілася пасля тых сустрэч. Не сумна, не самотна – неспакойна. Сум ды самота раслі ў душы, на сэрцы за дні і тыдні, пражытыя сярод спагадлівых і ўдзячных людзей у апошніх, на захадзе, вандроўках, а неспакой застаўся і абвастрыўся. Не за сябе. Трэба было знайсці кагосьці з сяброў – толькі яны маглі распавесці, што тут у мастацтве робіцца. Падаўся ў Акадэмію – нікога з блізкіх не знайшоў. Але ўвечары, калі сядзеў адзін з томам Дастаеўскага, чытаў пра пецярбургскія трушчобы, нечакана з'явіўся, нібы пакліканы, Пурвіт:

– Мне пра цябе сказаў Дзягілеў.

– Ён быў тут, з Бенуа. Выбіралі на сваю выставу работы. Ты, Вільгельм, свае ім прапануеш?

– Ні я, ні ты цяпер не можам абыходзіць "Свет мастацтва". Нас з табою там увялі ў элітны круг. Ты не забыў? Там Левітан, Сяроў, Несцераў, Апалінары Васняцоў. Для нас, маладых, гэта вялікі гонар – быць побач з імі.

– Але Зеўс? Ён супраць не будзе?

– Ён патрабуе цяпер ад нас адно: каб мы і там трымалі ўзровень сваёй школы.

Тое, пра што ішла размова, абодвух непакоіла, ды Фердынанда ад самага пачатку сустрэчы і размовы мацней, як удзел у выставах, даймала ахвота спытаць пра Гэлену. Усе тыя дні ён шукаў сустрэчы з ёю і ўжо ў Акадэміі пачуў, што яе няма ў Пецярбурзе. Чуў толькі гэта і не больш, а большае мог ведаць Пурвіт.

Вільгельм заўважыў хваляванні сябра:

– Ты пра Макоўскую яшчэ не чуў?

– А што? – усхапіўся Фердынанд.

Пурвіт задумаўся. Казаць ці не казаць? Сказаў:

– Яна ўжо не Макоўская.

– Гэлена? – як не паверыў Фердынанд.

– Гэлена Лютш. Ужо не паненка. Спадарыня Лютш.

Іх позіркі, адно на аднаго, зрабіліся халодныя, быццам кожны быў у чымсьці вінаваты перад бліжэйшым сябрам.

– Лютш? – здзівіўся Фердынанд, не ўклаўшы ў гэтае слова ніякага пачуцця. – Не чуў. Не ведаю. Чужое?

– Ён немец.

– Нямецкі афіцэр?

– Я памятаю, як ты казаў пра вашу з ёй размову пра мастакоў і афіцэраў, каго з іх паненка хоча бачыць сваім каханым. Але не афіцэр. Ён, як я чуў, скульптар. Яна ўсё ж выбрала мастака.

– А дзе цяпер Гэлена?

Пурвіт пераглядаў работы Фердынанда, перастаўляючы іх з месца на месца, каторыя выстаўляў на большае святло, каторыя ад лішняга святла хаваў. Нічога пра іх не казаў, заўважыўшы, што не пра іх думае сябра.

– Ты надта любіш сваю вёску, свой маёнтак.

– Гэта кепска?

– Гэта добра для мастака. Гэта нават ратуе. – Зрабіўшы паўзу, дадаў: – Калі вайна. А што? Вайну ў вёсцы пераседзець – выйсце. Асабліва мастаку. Старому. Ды і маладому.

– А ты хіба вайны не адчуваеш? Што нас у яе зацягваюць? Ужо адкрыта ў друку пішуць, што мы з табою тут чужыя. Аблава пачалася. Артыкул у “России” не чытаў? І ў “Новом времени” тое самае.

– Чытаў. Але заседжвацца ў вёсцы небяспечна. Калі ты ў вёсцы, а яна ў сталіцы. Калі абое маладыя.

Фердынанд сядзеў за столікам, глядзеў у вакно. Разважанні сябра яму не спадабаліся.

– Ты не адказаў на пытанне. Гэлена дзе цяпер?

Пурвіт падышоў да яго, паклаў яму на плечы рукі.

– Яна ў Мюнхене. Вучыцца ў Акадэміі на скульптуры.

– Вучылася тут?

– Тут была вольнаю слухачкай. Цяпер – там.

– І там працуе скульптар?

– Думаю, што так. Але... ты мне казаў, вярнуўшыся з Еўропы, што Пецярбург самы сумны ў Еўропе горад. Цяпер мне здаецца, што самыя сумныя ў гэтым сумным горадзе мы з табою. Сёння перадапошні дзень старога года, заўтра будзе апошні дзень, а там ужо новае стагоддзе. Што, дружа, нам рабіць на гэтай вайне?

Фердынанд падняўся з крэсла, прынёс і паставіў на столік перад сябрам штоф з даволі моцным напоем Варшавы.

Звычайна стрыманы ў маладых эмоцыях Пурвіт нейкую хвіліну разгублена маўчаў, углядаючыся ў штоф, быццам абдумваючы, што тут, на мяжы двух стагоддзяў, адбываецца, але раптам усмешка змякчыла яго строгі твар, ён артыстычна раскінуў гатовыя для сяброўскіх абдымкаў рукі і заспяваў:

У сонечных фарбах, нібыта жывую,
Убачыў мастак на сваім палатне
У твары Гэлены – Марыю Святую
З красою нябеснай на белым чале.

Фердынанд яму адгукнуўся з кухні:

– Наш Уладзіслаў Сыракомля?

– Амаль што. Калі не зважаць на агрэсію Гэлены Макоўскай, якая выпхнула з радка Сыракомлі Стэлу Фарнарыну, дачку рымскага хлебапёка, найпрыгажэйшую мадэль геніяльнага Рафаэля з Урбіна.

– Але ў Пецярбурзе гусары спяваюць не Сыракомлю.

Гэй, гусар!
Пей вино из полных чар...

Фердынанд прынёс і паставіў на столік фарфор з селядцом, абхапіў Пурвіта, і яны заспявалі разам “піцерскую”.

## 15

Пачатак новага года стаўся не святлейшым за канец папярэдняга. Не святлейшымі былі і запісы ў дзённіку.

“Пецярбург. 01. 01. 1901.

Пры сустрэчы са “Светам мастацтва” заўсёды адчуваю, як я ім чужы, што ніколі не сыдземся. Пра гэта шмат размаўлялі з Пурвітам”.

“Пецярбург. 10. 01.

На “серадзе” Куінджы вёў размову пра сучасныя варожыя адносіны грамадскасці да мастакоў-жывапісцаў. Відавочна, ён хоча стварыць супрацьдзейную сілу, заснаваную на еднасці ўсіх маладых мастакоў. Пра выставу “Свет мастацтва” сказаў, што свае падвялі. Мяне папракнуў, што я выставіў “Старыя яблыні” і эцюд з сінімі ценямі. Увесь час нас толькі абвінавачваюць – Пурвіта і мяне...”

“Пецярбург. 13. 01.

На нас пачынаецца аблава”.

“Пецярбург. 14. 01.

... тое самае. Кожны выпускае на нас сваіх сабак, нацкоўвае, імкнецца абсмяяць і адчувае сябе ўпэўненым, бо ведае – яго ніхто не ўкусіць. Ужо пра бульварную прэсу не кажу, там нейкі канкан.

Маўчу, хоць пакутую, маўчу, бо не хачу належаць да шматлікіх, хто заўжды мае прэтэнзіі. Маўчу, бо хоць гэтая цярплівасць дае нейкую радасць”.

Крыху ранейшы запіс – горыч яшчэ і за сваіх:

“Дзіўлюся з братоў-жывапісцаў. Бедныя. Седзячы ў сваіх клетках, яны згубілі свабоду рухаў. І калі да іх прыходзіць нехта прызвычаены да паветра і большых прастораў, іх ахоплівае страх і недавер... Яны страцілі свае інстынкты і натуральнасць”.

З гэтага змрочнага настрою час ад часу выбіваюцца думкі зусім іншыя, паўнюткія маладых творчых сіл, светлых надзей, ніякім злом не вынішчаных з прагнай да жыцця і працы душы:

“Паехаў у Эрмітаж. Трэба шукаць вяршыні. Туды не даходзяць гукі людской сваркі, вулічны гармідар, там ціха, ясна, там спакой”.

Але ўсё тое – там, ціха ды ясна, а што тут? Як ісці да вяршынь, калі тут “... аблава”?

Фердынанд знаходзіць Пурвіта, каб развітацца. Бліжэйшы сябра ў яго пытаецца:

– Цяпер – куды?

– У вёску, у прыроду. Там, толькі там ціха і ясна. І можна працаваць. Толькі там. І нідзе больш.

– Тут жыць не можаш без яе?

– Не магу. Без цішыні, без волі, без адчування, што я тут свой, патрэбны. І без Гэлены. Не магу. Мог, жыў, пакуль штосьці свяціла, грэла. Была надзея, мара. Цяпер усё тое – успаміны, а ўспамінаць можна і там, у вёсцы.

– Надоўга едзеш?

– Сэрца падказвае, што надоўга. Магчыма, назаўсёды. І думка з сэрцам згодная.

– Але доўга жыць у вёсцы ты ўжо не зможаш. Ты, Фердынанд, з немалымі амбіцыямі, задаволіць іх вёска напоўніцу не зможа. Я ведаю, як ты яе любіш і як яна любіць цябе. Але... яе адной табе будзе мала, ты будзеш шукаць з яе, яе любячы, выйсце ў большы, шырэйшы свет. А куды? Дзе ты яго знойдзеш, як не тут? Калі не ў Пецярбурзе, дык у Варшаве? У Кракаве? Але ж ты не вандроўнік, ты мастак, у тваёй душы твая зямля, твая мастацкая школа, школа Куінджы. Там няма ні Куінджы, ні Левітана. Няма і Шышкіна. Няма і Сярова... Якіх ты любіш.

– Там імпрэсіяністы. Там Матэйка, быў і ёсць.

– Імпрэсіяністы, лепшыя, далёка. Матэйка – жывапіс гістарычны, фігуратыўны. А ты –пейзажыст. Там у пейзажы –пастаноўка, знешні бляск, фармальнасць, мала душы, псіхалагічнай глыбіні. Там іншая школа. Яна цябе высушыць. Я ведаю, як цёпла цябе прымаюць у Варшаве, у Кракаве. Рабіць гэта прыгожа там умеюць. Шмат абяцаць умеюць. Але што з гэтых абяцанняў атрымаецца праз год, праз два, праз тры?..

– Усё гэта, Вільгельм, я ўжо бачыў, ведаю.

– Бачыў, ведаеш. Але гэтага мала, каб перасцерагчыся і не згубіць сябе, тое, што ў табе ёсць, сваю душу.

– Як ведаю, то і перасцерагуся.

Вечарэла. Яны выйшлі з карчомкі, стаялі на беразе заледзянелай Нявы. Халодны паўночны вецер гнаў па-над горадам нізкія шэрыя хмары, і горад пад імі глядзеўся такі самы халодны і шэры, як тыя хмары, хаваючы ў шэрані ўсё золата сваіх крыжоў, купалоў і шпіляў.

## POST SCRIPTUM

У Фердынанда Рушчыца былі светлая цвярозая галава і тонкая інтуіцыя, ён усё бачыў і шмат прадбачыў, але не прадбачыў, што, звязаўшы маладое жыццё з Варшавай і Кракавам, усяго праз некалькі гадоў, у 1908, напіша свой апошні алейны пейзаж “Гняздо” з родным, у роднай прыродзе, домам пад шэрымі навальнічнымі хмарамі, і пры ўсёй вялікай, яшчэ далёка не страчанай у нягодах жыцця любові да жывапісу назаўсёды схавае ў скрыню сваю палітру і свае трыумфальныя пэндзлі.



Антаніна Хатэнка



...я зусім заблыталася,

дзе мы...

# Водсвет

### *КРУГАДЗЁН*

Ад каліва да сцябліны,
ад каменя да крушні,
ад падмурку да палаца –
гісторыя.
Ад расіны да туману,
ад кроплі да хвалі,
ад хвалі да акіяна –
гісторыя.
Ад ускрыку да ўздыху,
ад кроку да шляху
ускрылі... бясконцасць –
гісторыя.

А мы паселі на ўцвілым радне
і галосім – па жывой гісторыі.

## ВОЛЯ

Пакуль жыццё – лісцё на кроне,
святлом працятае наскрозь,
а карані трымцяць ва ўлонні,
як нервы стрункія,
...я Ёсць.
Пакуль у жылах б'ецца Воля
і клеткі ўзрошчваюць Любоў,
душа адна ў вячыстым полі,
як мужны вой, прымае бой.
Пакуль снуюцца ў неба думы
з курганных нерушных глыбінь,
па-над шляхамі, па-над сумам –
Свабоды радасная плынь.
Пакуль пульсуе з нетраў Памяць
і ўзносіць сонца на крыжы,
паходню ясную запаляць
князі з няскораных дружын.
Пакуль баляць вузлы карэння
і нажыўляе Вера дні,
нісходзіць Воля ў пакаленні –
на зоры, дол і камяні.
Пакуль бяжыць дарога строма
і крылле мар трымае Вось,
я радаводна ўсходжу з Дому,
з гнязда – у лёс. Дзе Воля
...ёсць.

## РОСТАНЬ

Затрымцела свечкай Мілавіца.
Ноч вось-вось галоссе ператне.
Я табе надумала прысніцца.
Спамяні, далёкую, мяне.

Як слязіна чыстая на вейцы,
светлыня над вечарам дрыжыць.
Нашым снам дазволена сустрэцца
між прыгадкі й мроі на мяжы.

Маладзік халоднай дыядэмай
зіхаціць прагледзіста ў вакне.
Я зусім заблыталася, дзе мы.
На сцяжынку выведзі мяне.

І пастой на беразе туманным,
паглядзі ў скразную даліню.

Вечнасць прасціраецца над намі.
Б'е паклоны заўтрашняму дню.

Адзінотна зорцы Мілавіцы
ў цемры над табой і нада мной.
Я табе сабралася прысніцца,
а нідзе дарожкі не відно.

Неба да цябе й мяне хінецца,
калыхае згадкі ў цішыні.
Страпянецца боль пад самым сэрцам.
Ты мяне, самотную, прысні.

...Як відзежы, цені ля агменю.
Доля ў полі знічкай мільгане.
Тут вось-вось замружацца імгненні.
Спамяні на ростанях мяне.

*30.09.2016*

## ***ПЕРАД БРАМАЙ***

*(над кнігай Генадзя Бураўкіна "Нагаварыцца з зорамі")*

Чуйна Бог схіліўся над калыскай,
а Багіня гушкала мяне.
Шапаталі зоры блізка-блізка.
І гадзіннік тахкаў на сцяне.
З нематы, з Дзядовага прадонца
так ляцеў спалоханы мой крэч –
аж сцялася ў холадзе Бясконцасць:
"Прытулі, Айчына, не адпрэч!
Прылучы да ўсіх, хто быў і будзе!
Запаветна Браму адамкні!"
...Кідаліся здані ў ноч ці людзі?
Лёс, як жорны, перамолваў дні.
І каціўся пісанкай Вялікдзень,
зводзячы вякі ў магічны круг.
І паўсталі ўсе, хто жыў, хто прыйдзе.
І далі зарок. Што не памру.
Не памру, пакуль сівы гасцінец
сустрае спакон маю хаду.
Пакуль памяць – тонкае націнне –
уздымае й памужняе Дух.
Утрапёна ўглядаўся Космас
як сышла я ў горніва зямлі,
брукаванку пазнавала боса
і пяшчоту кратала ў раллі.
А світанне рдзела над Краінай.
Зоры ўсцяж задзьмухвалі Багі.

І змыкалі мудрыя Багіні
абярожна Вечнасці кругі.

*13.09.2016*

* * *

У тонкіх карунках спамінаў,
у мройнай мярэжы завей,
нібыта ў аблоках язміну,
паранены Дух ажыве.
І ўгледзіць снягоў калыханне
з узорыстай пелькі вакна.
...Знічова ўздыхне маё ранне
ў сувоях жыцця-валакна.
Гады зазвіняць, як струмені,
б'ючыся ў даёнку зямлі.
І Чур зашапоча ў агмені,
раздзьмухае Роду вуглі.
І вернецца ў сэрца пяшчота,
і з лёсу слязіна ўпадзе...
Што ў сотах спялела на потым, –
шчаслівa ўпраменіцца ў Дзень.
А цёплых спамінаў карункі
у мроіве хвіль-завірух
узыдуць вясёлкай-дарункам
над светам, дзе ўзвершыўся Дух.

*09.01.2015*

* * *

Настане ноч. І разамкнецца неба.
І ў месяцовым прывідным сяйве
растане болю скурчаны паскрэбак...
А радасць, быццам ранак, ажыве.
І недзе ў зорнай бездані самоты,
адкуль нітуе ноч бязмежны жаль,
зародзяцца ў аблокавых сумётах
зярняткі Думак, што наўпласт ляжаць
зняверана, паранена, парвана
ў пустэчах ахалодлага жыцця...
У дамавінах Бібліі й Карану
свет сам сабе дыханне пэрацяў.
...Настане Дзень. І расхінецца далеч
на пракаветным, Сонцавым, крыжы,
дзе Ўсё прамудра некалі паўстала
не паміраць, не ўваскрасаць – а ЖЫЦЬ!

*17.01.2016, Украіна*

## АДЧУЖЭННЕ

За домам снег кулямі з вязаў
падаў,
імжа ільдзяна шкрэблася ў вакно.
А недзе срэбразвонныя Каляды
кружыліся... Далёка і даўно.
Сляпая доля ўсхліпвае адчайна,
нібыта ў цемрадзь падае кулём.
Каго мой лес удома прывячае,
узмахваючы ўбеленым галлём?
Адсюль, з маёй далёкасці сірочай,
ні роду, ні народу не чутно.
Так б'ецца ў ноч адплаканая роспач –
сцінае стогн каляднае вакно.
Скавыча сум па-воўчы адзінотна
на месяц, што плыве ў пушчанскі Край
у снегавыя ўхутацца палотны,
замест мяне ўшчадрыцца ў зімаграй.

*18.01.2016, Украіна*

## ВЕРАСОВАЯ ЗГАДКА

Настае настальгія, як восень.
Вечар п'е верасовы настой.
Ціха туляцца вершаў стосы,
што зляцелі лісцём на стол
з адзінотнага Дрэва Роду,
з пракаветнае кроны кроз.
Маладосці мядовы водар.
І смуга. І туга наскрозь...

## Я

...Аднойчы кінуў лёс у невяДОМасць.
Перажагнаўшы у бяз'вер'і ДОМ,
часціна існы роспачна-свяДОМа
так галасіла, як перад бядой.
І дзынькала зусім безабаронна
часціна існы – цёмная глыбінь,
схаваная ў дрымучасці паўсоннай:
"Ідзі на голас! Покліч не згубі!"
Ляцеў цягнік. На голас і на позірк.
Пасерабрылі далеч палыны.
І падалі, стрывожаныя, вобзем
нібыта згадкі а нібыта сны.
А ўсё вакол пранікліва маўчала –
і вецер, і дарогі, і палі.

І чаіцы кружылі над прычалам,
у паяднанні неба і зямлі.
Куды цяпер памкне памаладзелы,
загартаваны ў бездаражы час?
Ці выведзе з балючага падзелу
часовых нас і спаконвечных нас?
Бо вохкае пудлівая часціна
мяне часовай, сённяшняй мяне:
“Сядзі ва ўтуле звыклае хаціны.
А што насцігне, тое праміне...”
Ды ў весніцах сівее адцвітанне,
журботна ў вокнах матылі дрыжаць.
На вейцы веку ўспыхне і растане
слязіна-радасць ці слязіна-жаль...
Таёмы расхінае невяДОМасць.
Абуджанае Я шапоча ў дзень:
“Мы і ў чужыне і ў гасціне ўДОМа,
пакуль Любоў нітво-святло прадзе.
Пакуль пуціне ёсць куды прычаліць
і прыгалубіць некага ў вяках
пад цёплым крыллем ненатольных чаіц –
да думкі думка, да рукі рука”.

*27.06.2015*

## *БЭЗАВЫ ВЕЧАР*

У ліловых аблоках бэзу,
у ліповых прысадах сноў
салаўіныя паланэзы
разгайдаліся над вясной.
І з-пад шатаў старой альтанкі
выйшла зманліва маладосць.
Папрасіла між дрэў прыстанку,
стала вабіць з цянёт кагось.
Адгукнулася песня з гаю
“...пра каханне да й пра любоў”,
што згарае, ляціць, мільгае,
непазнаная, як і Бог.
...Я з расХРЫСТАнай Украінай
пераспеўвала боль і жаль
за харобрых і за бязвінных,
што ў абдоймах зямлі ляжаць.
Быццам знічкі, мігцяць пялёсткі
па-над садам, па-над журбой –
незабыўныя адгалоскі
“пра каханне да й пра любоў”...

*29.05.2015, Сэднеў – Дом творчасці мастакоў Украіны*

* * *

Засынаю. Засынай.
Свет вінецца ад віна
ці ад горкае віны:
дзе ты там, сярод вайны?
І ласкавіцца вясна:
засынаю, засынай.
Як ты там, сярод вайны?
Яскі падаюць у сны?
Карагодзяць давідна
“засынаю”, “засынай”.
А над грукатам вайны
спеў разгушкваюць званы.
Вып’ем ноч, як лёс, да дна.
Засынаю. Засынай.
У Сусвеце мы адны –
ані свары, ні вайны.
Чарадзеянне віна...
Засынаю. Засынай.
На світанку я вайну
ў сховы вечныя замкну.

*15.06.2015*

## ***ВОДГУЛЛЕ***

Недзе гойдаюць голас Карпаты,
Цёмны водгалас даўніх эпох.
Я жыла тут калісьці крылата.
І са мной перашэптваўся Бог.

Як трымцелі, мігцелі, спявалі
танкаструнныя травы й дажджы!
Зоркі танчылі на перавале,
месяц белыя вальсы кружыў.

А на золку свячэнне з нябёсаў
адбівалася ў водах зямных.
Тут аркестрава граліся лёсы –
ані слёз, ні маны, ні віны...
І пад ветразем думных аблокаў
векамудрыя гор караблі
адплывалі далёка-далёка,
дзе ведычныя гімны гулі.

...Калыхаюцца ў вышы Карпаты.
Цепліць плыня свае берагі.

Павяртаюся стомна дахаты.
Гойна гойдаюць голас Багі.

*06.02.2016*

* * *

А сонца коціцца ў бяздонне.
Пустэльна й шэра.
Цвітуць вяргіні над бяссоннем
усмешкай веры.
А я расхрыстваю далоні
вякам струменным.
Праменне гойстрае на зломе –
лязо над венай.
А навальніца блізка-блізка –
агонь з камення.
...Нітво пяшчоты, згадак нізка –
здалёк маленне.
А над зямлёю і над Воляй –
шнары-пракосы.
Крылу, прарэзанаму з болю,
сцюдзёна-боса.

## У ВЯЗНІЦЫ

Спамінаць, прачынацца, дыхаць,
як ступаць на кілім з цвікоў.
Думаць, слухаць, баяцца ціха,
быццам так і было спакон.
Гаварыць і маўчаць, маліцца,
як дараджвае зман-закон.
Мару сніць у глухой вязніцы
ў скрыгатанні чужых замкоў...
Узірацца саслепла ў пашчу
ліхазграйных ваўкоў-вякоў.
Нараджацца й сыходзіць нашча,
здаўшы долю на перакоў.
У халодным дранцвець атуле,
на мяжы апраметнай жыць.
Забаўлянкамі ў крыжык-нулік
выгадоўваць нулі й крыжы.
Дзе паўсталі, як воі, вежы, –
нулявая прастора-кон.
Тут хлусліўцам улежна-ўежна
ды віжам, што кішаць вакол.
То хіснуцца зладзеі-сцені,
то пустэча мне ўслед зяўне.

З вокнаў сплакана-запацелых
страх нявольніцкі падміргне...
Згоркла трызніць душа свабоду
пад сушчэпам нямых акоў.
...Прабіваецца голас роду
ў перастыглы бяздон-спакой...
Ды аднойчы з густога змроку,
з асцярожнай хады гадоў
рэха выпесціць кліч прарока
і зародкам падзе ў гняздо.
І адкінуўшы путы жаху,
ададраўшы пакору з век,
Воля ўздымецца гордым птахам,
вера з цемрадзі ажыве.

* * *

Высцілалася травою.
Выгіналася вярбою.

Білася крынічкаю.
Загасала знічкаю.
Прападала-падала,
сплаквалася ладанам.
То нямела стоена,
то гула настроена.

Уздымалася гарою,
умудроўвалася роем.

Вымярзала глінаю.
Рдзелася калінаю.
Голле ўболь заломвала –
Дух трымала комлева.
То кахала-зорыла,
то самоту горала.

Умуроўвалася ў эры.
Расцяплялася даверам.

Атуляла цішаю.
Акрыляла вышаю.
Раніла й загойвала.
На святле настойвала
маю веру чэзлую
ведная... Паэзія.



Леанід Дранько-Майсюк



...немцы ні любяць,

як іх подманваюць...

# Дзеці віншуюць немцаў з Калядамі

***Апавяданне***

*Прысвячаю Любе*

**1**

Дзве малыя дзеўчынкі – сёстры Гапка і Ліска – ды іхняя матка Броня...

Гапка на год старэйшая за Ліску, ёй ужо дванаццаць, і яна зазвычай першаю загаворвала з маці, асабліва тады, калі маці ўсю ад злосці круціць пачынала; у такую хвіліну Гапка магла нават і недзіцячае слова сказануць, каб яна ахалодала; Ліска ж маўчала – баялася, калі маці гневалася.

А ў Гапкі – характар!

Калі Броня на сенакосе якім чанач заставалася, то Гапка карову на пашу адна не выганяла; пракінуўшыся, заўсёды будзіла і Ліску, – знарок перабівала сястрын ранішні сон, каб тая не спала і з ёю ў двары таксама цупла[1].

[1] Цупла – мерзла.

Так, Ліска часцей маўчала, ды сёння, вінавата шмаргануўшы кавалачкам касцянога гузіка па лаве, у адзін голас разам з Гапкай папрасіла есці, і Броня – зменлівая, як надвор'е, учэпістая да жыцця, натомленая ўдаўством і вайною – холадам ступіла ад закрытай наглуха печы да мутнага восеньскага вакна:

– Духа[1] вам! Ужэ елі зранку! Разкі[2].

А падлетак Джалы грыз якраз на камень засохлую гарошыну, а ў кішэні гнуў і разгінаў (меў такую моду) кавалачак дроту.

Джалы таксама б, як той казаў, паабедаў, каб жывот не ведаў, але ён у гэтай хаце амаль чужы, – што яму прасіцца, вельмі тут не напросішся...

Сёстры, пакруціўшыся на лаве і пад лавай, неўзабаве забыліся на матчын холад, закавэнілі аб тым жа ("мамо, хочом есці!"), і Броня, крыху адышоўшы ад злосці, кінула ім, як салодкі яблычак, прыпеўку:

Есці, есці –
Пірогі на месці,
А собакі ў хаці –
Німа кому даваці!

Дзеўчынкі жыва закруцілі нястрыжанымі галовамі і на тое месца паглядзелі ў хаце, і на гэтае, і на стол, і на паліцу, але ніякіх пірагоў не ўбачылі, сабак таксама, таму, пасмяяўшыся – прыпеўка ім спадабалася, і радыя, што маці палагаднела, націснулі на тую ж клямку: "Мамо, есці..."

Каб гарачая Броня зусім не ўзбурылася і нервова не забегала сюдытуды ад покуці да запечка, Джалы пакінуў згінаць і разгінаць драцінінку і падварушыў сваю практычную натуру: каля касцёла ж стаіць нямецкая кухня на колах, пайшлі туды...

– І напраўду, Хвэдорко! Вадзі дзэвочок до косцёла! – Броня ўмомант набралася радасці і на ўсіх звыкла дала адно ёмкае вядзерца.

## 2

Джалага, на адзінаццатым ягоным гадку, яшчэ пры Польшчы, бацька паслаў у пастухі на чужы хутар, і ў раннім пастухоўстве Джалы і навучыўся жыць, пачаўшы тую сваю навуку з простай хітрасці – штодня падойваў адну рабую самую рахманую карову, а малако выпіваў.

Нехта ўгледзеў яго зладзейства і даказаў гаспадару, і той ускіпеў: сам паганю кароў, і калі рабая пасля пашы дасць больш малака, чым давала, адлуплю зладзюгу!

Кемлівы Джалы змовіўся з другім пастушком Басановым Колікам, каб той трохі здаіў рабую ў балоце, калі апоўдні праз тое балота статак будзе пераходзіць з пашы на пашу – гаспадар жа (Джалы ведаў пэўна) пойдзе кружной дарогай, бо не любіць лезці ў гразь.

Колік здаіў, але не зусім пасаміў – здаіў больш, чым трэ было, і ўвечары гаспадар заклапочана пачухаў патыліцу:

– Гм, рабая дала менш, чым калі...

– А гэто, дзядзько, з-за того, шчё ты сам погнаў на пашу, бо як я ганяю, то, бачыш, рабая больш молока прыносіць...

---

[1] Духа – тут у сэнсе: нічога не дам!

[2] Разкі – суп з нарэзанай бульбы, запраўлены падсмажаным салам ды цыбуляй.

Умеў Джалы з чорнага белае зрабіць, умеў з любое слізготы выкруціцца, і невядома ў каго ўдаўся, бо і маці пражыла без хітрыкаў ніякіх, і бацька на людзей хітрушча не глядзеў.

Маці застудзілася і памерла ў 1939-м, бацька ж лёг у зямлю перад самымі немцамі – у 1941-м.

Ён цяслярыў у людзей і заўсёды пачынаў работу з нейкага дзіўнага, аднаму яму зразумелага заклёну: "Джалы, цвалы, куцы, палы...", і вось па першым слове гэтага заклёну яго і празывалі.

За работай штодзённай бацька свету божага не бачыў, меў такую натуру, што змучваў сябе вельмі, і аднаго разу, дарабіўшы на сяле хату, разам з іншымі цеслярамі спажываў гаспадарову даробшчыну[1], і нейкая ядзіна пайшла яму не ў тое горла, і так вось за чужым сталом у садзе ўмомант і сканаў.

Сын Хведарка пераняў ад бацькі цяслярскі рыштунак, мянушку Джалы і, навесіўшы на сваю змоўклую хату замок, апынуўся на Броніным хлебе, бо па нейкім далёкім сваяцкім вузле яна даводзілася яму цёткай.

Хведарка-Джалы падабаўся і Гапцы, і Лісцы – хоць далёкі, але брат; дзеўчынкі хінуліся да яго, бо як жа не хінуцца, калі Джалы здатны быў і з гліны зляпіць салодкую цукерку...

Неяк мадзьяры нагналі ім у адрыну нахапаных па вёсках авечак – тых змучаных жывёлінак, якія не ўмесцеліся за варотамі, закідалі, як тугія мяхі, на хрыбціны астатнім.

Джалы паабяцаў сёстрам, што прыгорне авечачку на мяса, і ноччу такі выцягнуў адну, і схаваў яе ў гародзе пад густым гарохавіннем у глыбокай бульбяной яме.

Але ў яме жывёліна ціха не сядзела, бэкала, бунтавалася, і, каб не наклікаць бяды, пад самы ранак раззлаваны Джалы мусіў быў закінуць яе назад у адрыну.

А толькі сонца бліснула ў вокны, як у двор уваліліся чатыры мадзьярскія разнікі і, як пакулле са сцяны, пачалі выскубваць з адрыны самлелых авечак, якія ажно стаяць не маглі – так за ноч намардаваліся ў задушлівай цеснаце.

Спяшаючыся і гучна гаворачы, мадзьяры адну за адной рэзалі няшчасных авечак, лупілі іх, шкуры за самагонку аддавалі гарбару Мацку, тушы салілі і складалі на вазы, засланыя цыратамі, а капыты, хвасты, рогі і кішкі скідвалі ў бульбяную яму.

Рагаталі задаволена – войска іхняе галодным не будзе!

А калі ўсё заціхла, і двор, прасмярдзелы жывёльнай крывёю, апусцеў, Джалы, падкасаўшы вышэй каленяў калошы, скокнуў у яму, у самую сіне-сытую слізкасць трыбухоў, знайшоў двух выпараткаў і прысвіснуў на радасць Гапцы і Лісцы:

– Гэто вам шкуркі на паліто! Будуць у вас коўняры ого якіе! Будзэцэ, як пані польскіе, ходзіць!

А тады ўжо сабраў усе чыста кішкі ў некалькі цэбраў, запёр старому мыляру Сегену, і той, пакінуўшы сабе за работу адзін цэбар гэтага дабра, навaрыў ім добрага мыла.

Броня нарадавацца не магла з такога абаротлівага хлопца.

---

[1] Даробшчына – пачастунак.

**3**

Яны выйшлі з хаты надвор; кволае лістападаўскае сонца ледзь чулася на нізкім небе, лашчыла дарогу да яды неспакойным і далікатным святлом, ад якога ў жываце зусім ціха рабілася.

Калі датупалі да касцёла, – Джалы, памахваючы вядзерцам, першы, Гапка другая, а самая меншая Ліска сыпала за імі, – то ў касцельным двары, засланым дробным бярозавым лісцем, убачылі пад шопай паходную кухню, да якой у няроўнай насцярожанай калейцы[1] стаялі наструненыя дзеці.

Немец-кухар, маладзенькі салдацік, ужо накарміў сваіх, праўда, потым адкрылася, што не ўсіх сваіх накарміў, але, не здагадваючыся пра тое, ён спрактыкавана агледзеў прыбітую зразумелым чаканнем дзіцячую калейку, металічнай расчоскай чамусьці пастукаў аб кацёл, нешта ў думках прыкінуў і ўдаваным пагрозлівым тонам загадаў малым "ціха" стаяць, хоць яны і без ягонай каманды стаялі і не дыхалі.

Нязлы, даверлівы і крыху забыўлівы – такі ён быў, гэты кухар.

"Божы грак!" – магла б сказаць пра нямецкага кухара Броня.

Вайсковец толькі па абставінах, а па крыві – чалавек спакою і хатняга разняволення, кухар любіў памроіць і самому сабе напаўголаса паспяваць, і найбольш песціў тую хвіліну, у якую прыходзіла весялосць.

Якраз была такая хвіліна...

Учора ён атрымаў з дому ліст – маці пісала, што рыхтуе яму калядную пасылку з яго любімымі смакоткамі...

Дык гэта ўчора, а сёння яму выдалі заробак, і сёння ж коратка, але вельмі прыязна, з ім пагаварыў камандзір роты, пахваліў за настрой ягоны, і з трапяткім уздымам у душы кухар не мог не ўспомніць, як нядаўна, у кастрычніку, камандзір уручыў яму баявы знак...

Быў начны партызанскі напад на іхні гарнізон, і ён, няхай сабе і чалавек спакою, а не збаяўся, паказаў, што ўмее не толькі алавяным чарпаком памахваць, аднак жа, як і астатнія, і з карабіна страляць...

У самым хвасце калейкі задумлівы кухар убачыў Джалага і, паправіўшы на фрэнчы сваю нядаўнюю ўзнагароду, прытворна пагразіў яму пальцам – маўляў, глядзі ў мяне, шэльма!

Грозьба выйшла даволі камічнай, вераб'інай, і, добра ведаючы што да чаго, Гапка з Ліскай фыркнулі ў кулачкі...

На Вялікдзень (тады грэла якраз мяккае красавіцкае сонца) хлопчыкі прыдумалі на базары несамавітую забаўку: хто ў каго пацэліць яйкам, той выйграе пяць яек!

Людзі якраз выйшлі з царквы, і вось пры даволі вялікім іхнім стоўпішчы сталася такая хеца[2] – Джалы кідаў у свайго прыяцеля, Басановага Коліка, а той, вашывы, ускораў нагнуцца, і чырвонае велікоднае яйка, – праляцеўшы роўна столькі, колькі трэ было праляцець, каб не страціць ударнай сілы, – з прыцмокам чмякнула проста ў сківіцу маладому нямецкаму кухару, які, як на тое, стаяў тут жа за Колікам.

Хто бачыў, кінуўся ў рогат, а такіх было багата; кухар жа – нічога, не закапыліўся, нават не пачырванеў, а выцерся і таксама справіў гучны рогат – вось такая вайна...

---

[1] У калейцы – у чарзе.

[2] Хеца – прыгода.

Пайшла раздача.

Усім вымераючы роўна, кухар накладаў мяса з косткамі і прасяную кашу, а таксама даваў па добрай лусце хлеба.

Злёгку піхаючы адзін аднаго і шэптам сварачыся, дзеці паволі сунуліся наперад, аберуч падстаўлялі кацялкі, гаршкі, місы, кварты, казанкі – хто што.

Выстаяўшы чаргу, Джалы з фарсістым падміргам падсунуў пад немцаў чарпак вядзерца і паказаў на сябе, Гапку і Ліску, што значыла – тры порцыі, і настылае дно Бронінай пасудзіны адразу ж нагрэлася.

Сціснуўшы ў куточках вачэй, як здавалася яму, непатрэбны ў гэты момант смех (на службе смяяцца нельга!), кухар і не паглядзеў на Джалага, тройчы махануў над вядзерцам чарпаком, а калі дзеці разышліся, то ён, застаўшыся пад шопай адзін, навярнуў на хлеб тушонкі і спакойна сабе пад'еў.

## 4

Надышло польскае Раздво.

Седзячы пры заснежаным акне, Джалы ўжо каторы раз пакрывіў ніжняй губой і пагнуў у кішэні мяккі дрот, а тады на халоднай шыбіне пашкроб чорным кіпцем адну ла́сіцу[1], пасля другую і, як венікам шарнуў, абвясціў хатнім, што сёння можна прыйсці да немцаў з калядным рогам і ўрэзаць ім “Рожджэство Твое, Хрысце Божэ наш...”, і на гэтым добра зарабіць.

– І напраўду ж, Хвэдорко! – усцешылася Броня. – Сходзецэ! Тут жэ зусім блізко...

Від[2] яе змяніўся, і ўся яна быццам з сярэдзіны загарэлася – адклала ўбок дзіцячае шытво, жвава падхапілася, стала сярод хаты, цаганула старым валёнкам па нахаладалым таку; не шукаючы вачыма ікону, лёгка перахрысцілася і заспявала, крыху расцягваючы словы:

Ро-ожджэ-эство-о Тво-ое-е, Хры-ысце-е Бо-ожэ-э на-аш!
Во-озсія-я мірову-у све-ет ро-озуму-у,
У нё-ём бо-о зві-ізда-ам слу-ужа-ашчы-і-і,
Зві-іздо-о-ю-ю учаху-ую-ю-ся-я,
Ці-і-б’е-е кла-аняціся-я
Со-онцу-у пра-аўды-ы.
І Ці-і-б’е-е ве-едзе-еці-і з ву-усо-о-ты-ы Во-осто-о-ка-а,
Го-оспо-о-дзі-і, сла-а-ва-а Ці-і-б’-е-е!

– Гэтак трэба немцоў повітаць! – Броня прытупнула, як на танцах. – А цапэр ву давайцэ засповайцэ!

Джалы спяванне гэтае ведаў, меншыя за яго Гапка і Ліска таксама ведалі; пры Польшчы з рогам пад людскія вокны на Каляды спяваць бегалі, дзе дваццаць грошаў, а дзе і больш выспеўвалі; праўда, знаві віншаванне крыху па-свойму – як запомнілі з першага разу, так і спявалі ва ўсе астатнія разы.

– Ну, давайцэ, а я послухаю! – яшчэ раз падпіхнула іх Броня.

Дзеці таксама сталі пасярэдзіне хаты, набожна перахрысціліся, уздыхнулі і, як наказала Броня, “далі”:

---

[1] Ласіца – марозны ўзор на акне.

[2] Від – твар.

Ро-ожджэ-эство-о Тво-ое-е, Хры-ысце-е Бо-ожэ-э на-аш!
Во-ось і я-я... сітро-о... зу-ума-а...
Не-е-бо-о зві-і-здо-о-ю-ю
Слу-ужа-ашчы-ы зві-і-здо-ою-ю
Ча-а-ху-у-йся-я...
Со-о-нцу-у пра-а-ўды-ы...
І дзе-е-ці-і...
Го-оспо-о-дзі-і, сла-а-ва-а Ці-і-б'-е-е...

Паслухаўшы, Броня трохі скрывілася ад пачутага, мармытнула нейкую незадаволеную думку, хацела нешта падправіць у дзіцячым галасістым, але куртатым выкананні, ды перадумала: "Э-э, няхай, гэта ж для немцаў, людзей з чужога краю, яны асабліва ўнікаць не будуць, так яно ці не так, прымуць і такое віншаванне!"

А тут яшчэ і страх ні з таго, ні з сяго ўкалоў у самае сэрца: "Засталася адна з дзецьмі... Такая мая жытка... Як вокны не завешвай... Як аканіцы не зачыняй... Бяда... І канца ж ніякага няма..."

Не, не было жадання ў дзіцячым спяванні падправіць нешта!

Каб Гапка і Ліска не выглядалі лучнікамі[1], прымусіла іх зняць з сябе ўшчэнт заношаныя кунтахі[2], дастала з куфра лепшыя світкі (свята ж!), і Джаламу выцягла адтуль няхай пабітага моллю, але спраўнейшага манталя[3]:

– На, Хвэдорко, і ты наложы хоросшэ!

## 5

У нямецкай казарме пахла смажанай гусяцінай і тхнула газай; на сцяне чырванеў сцяг са свастыкай, а з высокай цемнаватай столі, не дастаючы да вымытай падлогі, густа звісалі пышныя калядныя гірлянды.

Абкладзеная ватай і абкінутая ніткамі, нарэзанымі са срэбнай бліскучай паперы, у куце зелянела ёлка, на якой гарэлі каляровыя свечкі, а зверху, на самай хісткай макавіне, залацела зорка.

Даўжэйшай сваёй лапаю ёлка з варухлівай колкасцю датыкалася да белай кафлянай горача напаленай грубкі.

На ўціснутых у ложкі саламяных матрацах ляжалі і сядзелі салдаты, вольныя ад службы, а ножкі кожнай іхняй пасцелі, як прыбітыя, нерухома ўтыкаліся ў закурэлыя бляшанкі з газай, – газа крыху ратавала ад блашчыц.

Салдаты чакалі начальства.

На двух сталах у праходзе паміж ложкамі наганяла сліну яда і піта – каўбасы, кансерваваныя сасіскі, яблыкі, сыры, чырвонае віно і каньяк, а таксама садавіна ў бліскучых бляшаных банках, а на асобным століку ля самай ёлкі ўроскід ляжалі прысланая падарункі – адэкалон, цыгары, лёзы, брытвы, зубныя шчоткі, вязаныя шалікі і рукавіцы, паштоўкі, аздоблены ўзорамі партабак...

На крайнім, бліжэйшым да дзвярэй круку вешалкі, заваленай шынялямі, на плечавым рэмені дулам уніз, цьмяна паблісківаючы арэхавым прыкладам, вісеў карабін.

На нізкім услончыку пад вешалкай, як рондэль на нябачным агні, пакалыхвалася каска, і ў ёй, на чорнай скуранй пракладцы, бялеў кавалак цукру, – нехта пакінуў, нібыта для каляднай мышкі.

[1] Лучнікамі – неахайніцамі.
[2] Кунтахі – старое падзертае адзенне.
[3] Манталь – паліто.

Напроці дзвярэй пры тумбачцы, на якой узвышаўся радыёпрыёмнік, цёрся аб сцяну плячыма кухар – ён дняваліў, на самыя Каляды адбываў у казарме спагнанне.

Камандзір роты пакараў яго за тую рэшту мяса і прасяной кашы, якую аддаў ён дзецям і тым самым пакінуў без яды аддзяленне сувязістаў, – позна ўвечары стомленыя сувязісты вярнуліся з задання і мусілі былі пакласціся спаць не павячэраўшы.

– Гэта добра, што ты, як заўсёды, накарміў галодных дзяцей! – сказаў камандзір. – І я ведаю, ты смелы воін, за што і атрымаў узнагароду. Але ты забыўлівы... Не, я не пашлю цябе на гаўптвахту, ты прымеш іншае спагнанне... Не проста ў будзень, а на Каляды, каб запомніў назаўсёды, за што цябе так пакаралі, будзеш дзяжурыць у казарме!

– Дык мне ж няма замены на кухні?! – з надзеяй страпянуўся кухар.

– Управішся і на кухні, і ў казарме...

Дзень быў кароткі, кудзелісты паўзмрок слаўся за вокнамі, па шыбінах біла лёгкім сіняватым снегам, а ў душнай казарме салдаты чыталі віншаванні з дому, гарталі часопісы, ігралі на канцэрціне.

Калі тухла электрычнасць, кухар запальваў карбідную лямпу, а калі на якую хвіліну змаўкала канцэрціна, уключаў прыёмнік.

Учора, на куццю, усім выдалі па пляшцы шнапсу, і ўчора ўсе стралялі ў неба трасірнымі кулямі і на ўсю вечаровую гулкую акругу па-дзіцячы радасна галёкалі; ён жа не страляў і не галёкаў, ён рыхтаваўся да дзяжурства ў казарме, але крыўды ў сваіх не зусім вайсковых жылах не адчуваў, бо не ўмеў крыўдзіцца.

Але ўчора ўпершыню падумаў пра вайну, як пра з'яву залежным людзям аніяк непатрэбную.

А сёння, стоячы пры тумбачцы, выціскаў сабе ў рот сыр з цюбіка і, плямкаючы па-сабачы губамі, здаецца, таксама ж упершыню займеў магчымасць падумаць і здзівіцца: на разбурэнне ўсё знаходзіцца вельмі хутка, а на спакой і пфеніга не знойдзеш.

Каб адысці ад небяспечных думак, пачаў мармытаць песенькі пра калядную ёлку...

Да свята ён такі атрымаў з дому пасылку на два кілаграмы, у якой знайшоў свае любімыя сыр і вішнёвы пірог, тытунь і шакалад, а яшчэ дзве пары нацельнай бялізны, цёплую ваўняную камізэльку і дзесяць шарсцяных шкарпэтак.

Матчын клопат.

Жмурачыся ад каляровых свечак, ён глядзеў на ёлку і бачыў, як з той доўгай лапы, якая нязменна датыкалася да белай кафлянай грубкі, патроху пачынаюць ужо асыпацца іголкі.

Супакоены такой лагоднай хатняй карцінай, кухар стаў абдумваць пісьмо дадому – заўтра ён паведаміць маці, што пасылку атрымаў у пару, падзякуе за яе, коратка раскажа пра свае навіны, пра штодзённае кухарства, а найбольш пра тое, як у тутэйшым касцёле капеланы абедзвюх канфесій адслужылі калядную службу, і кожны заклікаў слухаць Бога і правадыра.

Аднак жа не напіша, як на выхадзе з касцёла адзін капелан шапнуў другому: "На жаль, рэлігія для салдат – і евангелістаў, і каталікоў – ужо вялікага значэння не мае, бо вайна прытупіла душы..."

Пра гэта не варта гаварыць у лісце, бо і цэнзура можа прычапіцца, дый ягоная набожная маці засмуціцца.

Не варта ж таксама пісаць і пра сваё пакаранне!

Лепей у лісце для смеху даць сцэну пра ката – учора, напалоханы стрэламі, у казарму ўбег-уляцеў худы кацяра і зашыўся пад яго ложак; там нанюхаўся, пэўна, газы і пад самую раніцу столькі наклаў на падлогу свайго дабра, што ад моцнага смуроду было не прадыхнуць...

Калі груваcткія дзверы – уздрыгвала клямка, рыпалі цяжкія завесы – з ледзяным скрогатам паволі адчыняліся, і нехта, яшчэ нябачны, збіраўся пераступіць ababіты лямцам дубовы парог, кухар напружваўся і скоўтваў сліну, хаваў сыр і выключаў радыё: “А раптам гэта фельдфебель?”

Фельфебель меўся раздаць падарункі з радзімы, што ўроскід ляжалі на століку ля ёлкі, а яшчэ ўсе чакалі і ротнага камандзіра – свята ж пачнецца з яго прыходам...

Гэтым разам дзверы як заела, ці яны зусім скрывіліся – не хацелі ніяк паддавацца (кухар ужо мерыўся сам адчыніць), але от нарэшце дзверы паддаліся, і ў памяшканне адно за адным умахнуліся чырвоныя, як жар, Джалы, Гапка і Ліска.

“А гэта зноў ты, трапны яйкакідальнік!” – кухар весела падняў бровы, а ўголас дадаў:

– О, шціле нахт! Хейліге нахт[1]!

## 6

Трымаючы левай рукою шапку, а правай калядны рог, Джалы, нібыта яго душыла, пацёрся шыяй аб верхні на манталі круглы польскі гузік, а тады ўжо выступіў наперад.

Гапка і Ліска, па-жаночы ссунуўшы на плечы хусткі, аднолькава завязаныя пад бараду, сталі па баках, але крыху ззаду.

У розе, за вашчанай паперай, наклеенай на сасновыя дранкі, гарэла свечка-лаёўка, а зверху рога, на самым ягоным астрыўцы, целяпаўся нарэзаны са старой газеціны рудаваты кутас.

Змоўкла канцэрціна, не дайграўшы нейкую салодкую мелодыю, а салдаты пакінулі чытаць, выкруглілі вочы і нават запляскалі ў ладкі – так спадабалася ім нечаканае з'яўленне дзяцей.

А нехта з іх і падумаў нават, што гэтых маленькіх артыстаў падаслаў сюды ротны камандзір!

Адзін відаты паўнатвары яфрэйтар у лямцавых тапцях на босую нагу ўважліва з усіх бакоў агледзеў калядны рог, нягнуткім указальным пальцам левай рукі правёў па кутасе – простая святочная прылада з агнём усярэдзіне замілавала яфрэйтара.

Калі ён адступіў, Джалы памалу, каб не патухла свечка-лаёўка, варухнуў сюды-туды рогам, нямытай галавою падаў знак сёстрам, і віншаванне ў тры яшчэ нямоцныя, але прывабныя, галасы паплыло пад негабляваную столь:

Ро-ожджэ-эство-о Тво-ое-е, Хры-ысце-е Бо-ожэ-э на-аш!
Во-ось і я-я... сітро-о... зу-ума-а...
Не-е-бо-о зві-і-здо-о-ю-ю,
Слу-ужа-ашчы-ы зві-і-здо-ою-ю
Ча-а-ху-у-йся-я...

---

[1] О, ціхая ноч! Святая ноч!

Пасыпалася шчодрая плата, салдаты абдарылі кансерваю (сала з белай фасоляй), цукеркамі, пліткай маргарыну, партугальскімі сардзінамі, пакецікамі з соллю і грашыма, трымя маркамі (цваны[1] Джалы тут жа прыкінуў: "На іх можна ўзяць на базары дзесяць цыгарэцін!"); нехта нават усыпаў Джаламу ў кішэню, дзе ляжала драцініна, шклянку ячных круп, а кухар не пашкадаваў нечапаны цюбік сыру.

Радасныя і яшчэ больш расчырванелыя ад неспадзяванай удачы, лётма прыляцелі дадому; так спяшаліся – нават снег з валёнкаў на ганку не абабілі.

А Броня проста нарадавацца на такія багатыя дарункі не магла, здзіўлялася найбольш сырнаму цюбіку ("...ой, ты глядзі, яке вуцісканне, гэто ж трэба!.."); ахала, охала, пальцы сашчэплівала – праўда, нядоўга дзівілася, усмак пачухала сябе пад рукамі і раптам дзяцей напрамічыла гэтак:

– А йдзецэ ешчэ раз іх повітайцэ!

– Ой, мамо, ніхорошэ неяк! – рашуча ўсумнілася Гапка.

– А шчё тут ніхорошого?!

– Могуць насварыцца на нас!

– Ні бойса, ні насварацца...

– Там немэц у дворы з валікой стрэльбой стоіць, другі раз можэ ні пусціць! – упіралася Гапка.

– Дасцэ немцу яйцэ, пусціць! – Броня высунула з-пад стала кошык з яйкамі, выбрала большае і паклала перад Джалым.

– Якая ж ты нарваная[2]! – Гапка не ўтрымалася ад недзіцячага слова.

– Шчё ты шэ́йнаеш[3]! І як з маці говорыш! – сыкнула Броня. – Немцы од вашого другого повітання рогі ні складуць[4], а яды, глядзі, зноў дадуць!

Ліска ўголас не важыла стаць на бок сястры, але тут Джалы, укалоўшыся аб дрот, пацёр далоні, па-цыганску хітра паглядзеў на дзеўчынак, схаваў яйка, ухапіў рог і нібыта сказаў гэтым: "А, нічога, як за ганкам было, гэтак жа і за адрынай будзе, пайшлі..."

І яны пайшлі і, коўзаючыся, хутка прыйшлі; вартавы ў двары, як і перад гэтым, сам адчыніў ім надворныя дзверы (і яйка не трэ было аддаваць!), і яны, апынуўшыся ў калідоры, набраліся духу і ўжо з першага разу пасілавалі дзверы ў казарму...

Калі галаснула клямка і зарыпалі завесы, кухар звыкла напружыўся, а праз імгненне расслаблена ікнуў: "Ах, вы хітруны!"

Ён абвёў прыплюшчанымі вачыма сваіх аднаслужцаў, якія ўжо крыху прытаміліся, чакаючы начальнікаў, і не памыліўся, коратка адчуўшы – зараз пойдзе разлад.

Убачыўшы ўсё тых жа малых віншавальнікаў і ўсё той жа калядны рог, адны ваякі абурыліся, паўскоквалі з ложкаў і незадаволена замахалі рукамі: прэч!

Сярод абураных найбольш вылучаўся відаты яфрэйтар у сваіх лямцавых тапцях на босую ногу, – ён ужо не ўдаваў з сябе замілаванага аматара этнаграфіі, а нешта двойчы пагрозліва са свайго ложка выкрыкнуў і з усяго маху ляснуў па біле рэменем.

---

[1] Цваны – хітры.

[2] Нарваная – шалёная.

[3] Шэйнаеш – абы-што гаворыш.

[4] Рогі ні складуць – не здохнуць.

Аднак другім захацелася, каб дзеці іх павіншавалі яшчэ раз, кухару таксама, і ён зыкнуў, прыстукнуўшы абцасам аб тумбачку:

– Хай пяюць! Гэтыя ж дзеці славяць не Леніна, а Хрыста!

Напружыўшы галасы і зусім не чакаючы, калі ўляжацца гармідар, Джалы, Гапка і Ліска запусцілі сваё, нават шапку не зняўшы і хустак на плечы не ссунуўшы; гэтым разам спявалі гэтак, нібыта баяліся некуды спазніцца:

Ро-ожджэ-эство-о Тво-ое-е, Хры-ысце-е Бо-ожэ-э на-аш!
Во-ось і я-я... сітро-о... зу-ума-а...
Не-е-бо-о зві-і-здо-о-ю-ю,
Слу-ужа-ашчы-ы зві-і-здо-ою-ю...

За другое віншаванне займелі спаржу ў банцы і той кавалак цукру, які бялеў на чорнай скураной пракладцы ў варухлівай касцы на ўслончыку, а кухар усунуў у рукі Джаламу пару шарсцяных шкарпэтак...

Новая ўдача, але ўдача меншая, і можа толькі таму, што яна такою небагатай выпала, Броня яшчэ больш разгарачылася, дуплаватым зубам цвыркнула:

– Дзеткі, а ўлупецэ й трэці раз! Вэчор ешчэ ні позні!

– Ты шчё, здурэла зусім?! Ужэ й на порог ні пусцяць! – Гапка ажно задыхнулася.

– Змоўкні, овэчка! – Броня схапіла венік. – А то іншые дзеці набагуць і німэцкіе пернікі похапаюць!

– Мамочко, дадуць нам лупня! – Ліска нарэшце пасмялела.

– Ні шаўры́кай[1]! – Броня замахвалася венікам на Гапку, а замахнулася ўжо на Ліску. – Бач мне, заговорыла! Як пойдзэцэ ў трэці раз, то і ў трэці нешчё ж дадуць!

– Цётко, а немцы ні любяць, як іх подманваюць! – Джалы плюнуў у памуніцу. – І напраўду ж дадуць лупня... Могуць моцно набіць!

– Не, моцно ні наб’юць, Хвэдорко, сёння ж свято... А якраз у ср...ку дадуць, то пэрэцарпець можна... Такая наша жытка... Куды ні ткніса – порожня міса...

Броню схапіла вялікая злосць, і, каб цётка ўцішылася, здагадлівы Джалы зашпіліў на манталі ўсе гузікі, і з рогам ступіў да дзвярэй...

Гэтым разам усё той жа вартавы ў двары, асветленым ліхтарамі, стаў на дарозе, з недаверам заківаў галавой: “Можа, хопіць?!” – але Джалы даў яму яйка, і вартавы зноў адчыніў дзверы ў калідор...

У кухара, які ўсё яшчэ дзяжурыў, бліснулі іскрамі вочы: “Што, вы нешта не даспявалі тут?! Ну, пра каго, пра каго, а пра вас я напішу сваёй маці!”

А тым часам у казарме ўжо ніхто не хацеў слухаць гэтых настырных кіндараў, на нейкі момант у прапацелай прасторы ваеннага жытла ўсталявалася злавесная маўклівая невядомасць, – дзеці ж выставілі рог, нібыта схаваліся за ім, і наўскапыта дзеранулі проста перад сабою:

Ро-ожджэ-эство-о Тво-ое-е, Хры-ысце-е Бо-ожэ-э на-аш!
Во-ось і я-я... сітро-о... зу-ума-а...
Не-е-бо-о зві-і-здо-о-ю-ю,
Слу-ужа-ашчы-ы...

[1] Ні шаўрыкай – не гавары пустое.

Даспяваць не паспелі – відаты яфрэйтар ірвануў з вешалкі за арэхавы прыклад карабін (дурань, гэтак хацеў напалохаць малых!), але, дзякуй богу, перадумаў, пакінуў зброю на круку і, абрываючы са столі пышныя гірлянды, пеўнем наляцеў, выхапіў рог, паламаў, кінуў на падлогу, затаптаў лямцавым тапкам лаёўку і пратурыў Джалага з сёстрамі за дзверы.

Пакрывіўшы ніжняй губой, Джалы паспеў у парозе пажадаць яму:

– Добраноч! Вошы наноч!

Кухар не абараніў малых каляднікаў, не захацеў сварыцца з яфрэйтарам, а да ўсяго яшчэ ў гэтую хвіліну з'явіўся якраз камандзір іхняе роты, а за ім і фельдфебель, – свята ў казарме пачалося, а дзеці, радыя, што іх больш не зачапілі, сыпанулі без рога з пустымі рукамі дадому.

*29 снежня 2016 г., чацвер, 16 г. 34 хв.; Менск.*

Фелікс Баторын



...Бо, хто думае моваю матчынай
І свабоду імкнецца здабыць,
Той для кодла зацятага страчаны
І жывым яму пэўна не быць...

# Філасофія і творчасць

### *НЕ ПРАЗ ВОРАГАЎ*

Не праз ворагаў трацім спакой, а праз блізкіх.
Не праз ворагаў сэрца баліць – праз сваіх.
Перад ворагам мужнаю цвёрдасцю бліснем,
А свае бачаць нас нерашучых, слабых.

Не чакаем ад ворага ласкі, спагады,
Не чакаем ад ворага літасці, не,
І не вораг, а сябар уражвае здрадай,
Ён дакладней за ворага нож уваткне.

### *ГАДЗІННІК*

Гадзіннік помню я, што разам з татам
Прайшоў усю вайну, быў пад бамбёжкамі,

Зазнаў і артабстрэлы, і атакі
І зведаў рукапашныя не раз.
Пасля вайны служыў ён доўга тату,
Пакуль праз жалю вартую пясчынку
Ён не спыніўся раз і назаўсёды...
Асцерагайцеся пакрыўдзіць бліжніх
І самай дробнай, як пылінка, крыўдай,
Бо сэрца ў чалавека – не гадзіннік,
У ім усё танчэйшае нашмат.

* * *

Злізала зазімак адліга
Слінявым шэрым языком.
Прабегся дробны дождж па Рыгу
Ажно з-пад Кракава трушком.

Старэнькі прас мой не прасуе,
ТБ транслюе каламуць.
І самы час у Самасуя
Крывое люстра зазірнуць.

## ПЕРАЧЫТВАЮЧЫ У. КАРАТКЕВІЧА

Якое трэба мець трыванне,
Каб выбавіцца з нематы,
Прабіцца скрозь напластаванні
У пракавечныя пласты,
Адкрыць глыбінныя крыніцы
Найсаладзейшай чысціні,
З якіх душа магла б напіцца
І ў найзадушлівыя дні,
І голас свой набыць нанова,
Мычанне абярнуць у слова,
Што ў сэрцы жывіць карані!

## АБВЯРЖЭННЕ

*Паводле Эйнштэйна, хуткасці,*
*вышэйшай за хуткасць святла,*
*у прыродзе не існуе.*

Абверглі Эйнштэйна базарныя цёткі:
Што хуткасць святла перад хуткасцю плёткі!

## *ФІЛАСОФІЯ І ТВОРЧАСЦЬ*

### *Дыптых*

#### *1. Філасофія*

У радках – супярэчнасці,
То шматкроп'і, то коскі.
А ў расколінах вечнасці
Безыменныя косткі.

Дабрыні і сардэчнасці
Прагне кожны звычайна.
А ў расколінах вечнасці
Вусціш, змрок і маўчанне.

Жыць і жыць бы ў бяспечнасці,
Цішыні і спакоі,
Ды расколінаў вечнасці
Не загладзіш рукою.

#### *2. Творчасць*

Загадала без гжэчнасці
Муза – сэрца абранніца
Дакрануцца да вечнасці –
І навекі параніцца.

Шту пры гэтым убачана,
Развярэдзіла жар душы
І крывёю гарачаю
Запяклося на аркушы.

* * *

Згубіла поўня ў рэчку медальён
І, промнямі абмацваючы дно,
Шукае, мо пад корч дзе трапіў ён,
Бо ззянне так выяўна там відно.

Ды пошук да світання марным быў;
Ні з чым у смутку мусіла пайсці.
Вось так і я шукаю, што згубіў
У плыні дзён у колішнім жыцці.

## *ВЕРАБЕЙКА*

Гуляючы няспешна, як заўжды,
Ля рэчкі Цнянкі ранішняй парою,

Вымаю верабейку я з вады,
Што змыты быў залеваю начною.

Халодны, мутнавокі, ледзь жывы,
Аблеплены густой зялёнай цінай,
Не можа ўзняць ён нават галавы,
Бязважкае галоўкі вераб'інай.

Нябогу я насоўкаю сушу,
Адхукваю і грэю між далоняў.
Быць можа, мне птушыную душу
Наканавана выратаваць сёння.

Заварушыўся. Дробна затрымцеў.
Абсох. Сагрэўся. Раптам – дзюб! – у палец.
Далоні раскрываю. Паляцеў!
Бліжэе летні поўдзень. Сонца паліць.

* * *

А зло і дабро, ад пачатку часоў антыподы,
Адно на адно паўстаюць несканчонай вайной.
А сёстры – маўклівая згода з маўклівай нязгодай –
На іх паглядаюць з кватэрак з сумежнай сцяной.

## *1937 ГОД, НОЧ ПЕРАД ВЫРАКАМ*

Перш, чым дрэву зрабіцца драўнінаю
Альбо кучай наколатых дроў,
Галасіла яно зелянінаю,
А з насечак сачылася кроў.

Як ламалі мне, як карачылі,
Як душу маю пляжылі вы!
І няўжо вы не чулі, не бачылі
Ані енку майго, ні крыві?

Добра чулі і бачылі добра вы –
І слязы не гублялі з павек,
Бо, хто Божай мілосцю адораны,
Найстрашнейшы ваш вораг навек.

Бо, хто думае моваю матчынай
І  свабоду імкнецца здабыць,
Той для кодла зацятага страчаны
І жывым яму пэўна не быць.

* * *

Ёсць безразважная адвага.
А ёсць адважная развага:
Каб менш крыві і больш удачы.
А Пір над перамогай плача.

* * *

Вільготнае паветра гукі глушыць,
Ад холаду згушчаецца ў туман.
У межах з вельмі ўмоўнай назвай “суша”
Вады ці не на пяты акіян.

Ну, завітаў бы хто на кубак кавы,
На цёплую размову ля агню,
Каб вычарпаўшы ўсё, што нам цікава,
Сядзець і разам слухаць цішыню.

* * *

Мацнее вецер, і гучнеюць вербы,
У ставе зарабрыўся поўні след,
І не суняць рукам дрыготкім свербу
Замаляваць раздзьмуты ветрам свет,
І непарушны неруш зорнай сферы,
І цемры таямнічыя віры.
Ды пад рукой ні фарбаў, ні паперы,
Дый таленту бракуе – хоць памры!

* * *

Куміраў выносілі з хораму
Ад труннае ношы гарбатыя.
А мы, да нашага сораму,
У гэтым не вінаватыя.

Свабода крокамі скорымі
Хадзіла пад нашымі хатамі.
А мы, да нашага сораму,
І ў тым не былі вінаватыя.

Зноў людзі народжаны хворымі
На рабства пад роднымі шатамі.
Мы ў гэтым, да нашага сораму,
Не лічым сябе вінаватымі.

Датуль мы будзем пакорнымі
На ніве чужой аратымі,
Пакуль не ведаем сораму,
Не чуем сябе вінаватымі.

* * *

Дзік-сякач пазайздросціў саве
І зарохкаў, патузаўшы лычам.
Да сябе ён так мудрасць заве
І празорства савінае кліча.

Толькі ж як тым, што маюць лычы,
Назапасіўшы сала ды лою,
У Мінервы сядзець на плячы
І праз цемру ляцець над зямлёю?

* * *

Калі што не так, папраўце.
Знаў я гонар, ведаў страх,
І стараўся жыць па праўдзе,
І раскайваўся ў грахах.

Я цяпер кладу на шалі
Свой набытак на зямлі,
Дзе мяне і спакушалі,
І змушалі, і гнялі.

Праз кароткае імгненне
У халодным вечным сне
Хіба ж будзе мець значэнне,
Быў якім я – для мяне.

Але ў гэтую хвіліну,
Покуль я яшчэ жывы,
Не сагну па-рабску спіны,
Не схілю я галавы.

Быць сабой – адно, што трэба
Ў прадсмяротнай галізне.
Мой нашчадак, не пагрэбуй
Тым, што возьмеш ад мяне.

Што было мне дарагое,
Не змарнуй і не згубі.
А благое? А благое
На памыйніцу зграбі!

* * *

Як быццам у старым нямым кіно,
У нумары, што ў восеньскім гатэлі,
Сабачкам скокнуў месяц у вакно,
На дыванку скруціўся ля фатэля.

Усё-ткі ён знайсці мяне здалеў
Ад дому аж за сотні кіламетраў
І, з радасці зайшоўшыся, самлеў,
Увесь у зыркім пыле зорных нетраў.

Цяплейшы, падалося, стаў пакой,
І ўтульна, быццам дома, я пачуўся,
Калі, замілаваўшыся, рукой
Да срэбранае поўсці пацягнуўся.

***ЯК ХОЛАДНА!***

О, Госпадзе, як холадна,
Як хочацца адхлання!
У плыткай рэчцы гола дно,
Пясчынак калыханне.

У голым лесе сырасцю
Ды плесняй-бросняй пахне.
Што ў голым полі вырасце,
Адразу ж і зачахне.

У цяжкім небе кружацца
Нязмоўчныя вароны.
Дзесь дэпутаты пружацца,
Ствараючы законы.

Вось-вось закон народзіцца –
Куды тваёй Еўропе!
З таго ж закону зробіцца.
Як мухам у сіропе.

Як мутарна, як холадна,
Як хочацца адхлання!
А спіну студзіць Воланда
Суровае дыханне.

* * *

Калі мой зрок заслепіцца імжой,
Калі мая душа адчуе стому,

Любой парой – што летам, што зімой –
У дальні лес я падаюся з дому.

Набраўшы поўны кошык цішыні
І рэха навязаўшы абярэмца,
Даць рады я змагу любой гайні,
Любой у сэрцы найглыбейшай стрэмцы.

* * *

Не верце звонкім лірнікам, сябры,
Тым, што жывуць не лераю, а з леры.
Не выблісне душа ў іх з-пад кары,
Абклеенай квяцістаю шпалерай.

Не верце ціхім лірыкам, сябры,
Тым, што жывуць не episoвершамі, а з вершаў,
Асочваюць яны, адкуль вятры,
Пяюць хвалу таму, хто плаціць першы.

Не верце змрочным цынікам, сябры,
І іх крывой на ўсё на свеце мерцы.
Часцей за ўсё крывавыя віры
Ірвуць у іх апаленыя сэрцы.

Не верце і сабе, калі душа
Атручанаю жоўцю ў вас сцякае.
Мінецца ўсё – і, горкае спярша,
Жыццё памалу слодыч набывае.

Не стаўце невыводнага таўра:
На лепшае ўсё можа памяняцца,
Дабро зрабіце, як няма дабра,
І не давайце ў тым сабе спыняцца.

У міг, як вы паверыце ў сябе
Трывалай, шчырай верай неўміручай,
Анёлак вам зайграе на трубе
З завоблачнай залітай сонцам кручы.

* * *

Я сню цяпло, цяпло жывое
І ў вышыні вяртання шлях,
Калі з зімой пад галавою
Сумую я па журавах.

І сон мяшаючы з бяссоннем,
Душу сарваўшы да крыві,
Я прагну іх убачыць сёння,
Гукаю: “Дзе вы, журавы?!”

Быць можа, я (зусім не дзіва:
Такія маю ўжо гады)
Не дажыву да дзён шчаслівых,
Да спеўнай весняе вады.

Мо доля знікнуць мне без следу
Сярод зімовае імглы.
Дык азавіцеся з-за свету
Хаця б аднюсенькім “курлы”!

Іна Снарская



...ноч уліваецца ў маю кроў
пахам белага наліву...

# Таямніца самаробнай шафы

*Апавяданні*

## Вочы поўні

– Іна, прачынайся, – гаворыць дзядзька Міхась і свеціць на мяне ліхтарыкам. – Пойдзем глядзець, якія ў поўні вочы.

– Добра, пойдзем, толькі я яшчэ хвілінку пасплю, – гавару я спрасоння сіплым голасам і нацягваю на галаву коўдру. Ліхтарык мяне асляпляе. Гэта непрыемна нават у сне.

– Давай хуценька, а то поўню закрыюць хмаркі і мы нічога ўжо не пабачым, – шэпча проста ў вуха дзядзька Міхась і казыча мой вялікі палец на правай назе, які вытыркнуўся з-пад коўдры. Мне лоскатна, і сон некуды знікае. Успамінаю, што сама прасіла дзядзьку ўчора разбудзіць мяне сярод ночы і паказаць поўню. Ціхенька, каб не патрывожыць дзядулю з бабуляй, апранаюся і на дыбачках ступаю за дзядзькам Міхасём след у след па

гладкай нядаўна пафарбаванай падлозе. Толькі б не наступіць на тую дошку каля шчытка, якая рыпіць. “Ціха-ціха спяць каты, усе бабы і дзяды...” Прыдумляю нешта ў рыфму, каб менш баяцца свайго ўласнага ценю на шпалерах. Дзядзька Міхась бярэ мяне за руку і выводзіць з хаты на ганак.

– Ух ты, якая прыгажосць! – ажно дух перахоплівае ад нечаканага замілавання. – Ніколі раней такога не бачыла.

Наш двор у месячным святле выглядае таямнічым. Пуня, штыкетнік з надзетымі для прасушкі слоікамі, дрэвы і нават хлеў, нібы падмаляваныя блакітна-срэбнай фарбай ночы, яны ззяюць тым асаблівым святлом, якое не слепіць вочы, а надае будзённым рэчам, усяму знаёмаму выгляд незнаёмага, чароўнага.

– Паглядзі ў вочы поўні. Не бойся, – гаворыць дзядзька Міхась. Ён трымае мяне за руку, каб я менш хвалявалася.

Я падымаю галаву і бачу круглы дыск месяца са срэбнымі абручамі вакол. Я ўяўляю лесвіцу, па якой можна падняцца ў неба, каб дакрануцца да поўні рукой.

– А палезлі на гарышча! – чытае мае думкі дзядзька Міхась. – Поўня будзе бліжэй.

Па лесвіцы мы падымаемся на гарышча, куды нават удзень мне бабуля падымацца не дазваляла. За крок да гарышча спыняюся.

– Калі дах будзе пад нагамі рыпець, то бабуля з дзядулем могуць прачнуцца і нам з табой дадуць прыкурыць, – кажу я і ў сваіх словах пазнаю інтанацыю мамы.

– Ай, Інка, пра што ты думаеш? Хіба не ведаеш, што ноч здымае ўсе замкі, усе забароны. Лепш паглядзі на дрэвы з вышыні даху нашай хаты. Гэта амаль што з птушынага палёту. Уяві сябе птушкай... – Дзядзька Міхась прытуляе мяне да сябе, каб я не баялася сядзець на апошняй перакладзіне лесвіцы, і я адчуваю, што з ім мне нічога не страшна. Побач з ім мне заўсёды добра...

Ноч уліваецца ў маю кроў пахам белага наліву, даўгімі блакітнымі ценямі сонных дрэваў, глухімі ўздыхамі нашай каровы Малышкі (што ёй сніцца цяпер?), прыхаваным шамаценнем у садзе (гэта мышы ці вожыкі?). Мне здаецца, што я чую, як пад карой дрэваў бяжыць сок, цэлыя ручаіны, рэкі соку. Яны жывяць дрэва і зямлю цераз карані, цякуць у мора, якога я яшчэ не бачыла, але пра якое заўсёды марыла, і верыла, што аднойчы абавязкова гэтае мора пабачу, упадабаю з першага погляду. Я гляджу ў вочы поўні, і мяне агортвае велічны срэбны сум. Мне хочацца сядзець вось так ціха-ціха і проста слухаць цішыню. Сядзець і марыць. А гарышча няхай пачакае. Яно будзе потым – заўтра, цераз дзень, цераз год... Яно абавязкова будзе, бо я ведаю, што ў нас з дзядзькам Міхасём яшчэ шмат часу наперадзе.

## Мішкава гара

Бягу з Мішкавай гары, раскінуўшы рукі, і веру, што ўмею лётаць. Колькі разоў я бачыла, як птушкі адрываюцца ад зямлі. Таксама разганяюцца, бягуць, толькі па роўнаму, а потым лёгка адштурхоўваюцца і ляцяць. Нейкія імгненні яны яшчэ перабіраюць у паветры нагамі, як бы не заўважаюць, што ўжо не зямля, а неба. Птушыныя крылы такія вялікія і надзейныя, што ім не страшна. Я лётала б кожны дзень, калі б у мяне былі такія крылы... Вось лячу я над нашай хатай...

– Прывітанне, бабуля, прывітанне дзядуля! Гэта я, ваша крылатая ўнучка, не пазналі?

Лячу і думаю, якая ўсё ж маленькая нашая вёсачка, нібы намаляваная. Хатка на хатку глядзіць – вокнамі ўсміхаецца. У бабы Фрузы – дым з коміну абаранкамі. Значыць, печ паліць і пампушкі смажыць. Якія ж смачныя ў яе пампушкі выходзяць, з такой сонечна-карычневай скарыначкай...

– Баба Фруза, у цябе сёння пампушкі з грыбамі ці з мясам? – крычу нашай суседцы зверху. Але лячу сабе далей. Пампушкі пачакаюць...

Лячу, а пад маімі крыламі – рэчка з дзіўнай назвай Вір. Нават трохі страшна вымаўляць гэтае слова. Рэчка не глыбокая, але цячэнне ў яе хуткае. Таму малым дзецям у Віры купацца забаронена. Але мы ўсё роўна купаемся – праўда, каля берага, каб дно пад сабой адчуваць... Лячу сабе над Вірам, а поглядам ужо далёка-далёка за лесам. Мне здаецца, нават вырай бачу, дзе птушкі зімуюць. Але ж цяпер лета і птушкі з выраю паразляталіся...

Бягу я з Мішкавай гары, а сама думаю, што людзі калісьці былі падобныя да вялікіх птушак, а потым забыліся, як трэба лятаць. Нешта ў іх здарылася... Можа, вось што. Аднойчы пайшоў дождж, нават залева. І йшоў гэты дождж дзень за днём, ноч за ноччу. Людзі не маглі лётаць, бо іхнія крылы сталі цяжкімі ад вады і слёз. Людзі-птушкі ратавалі адно аднаго, сваіх дзяцей. Смерць хадзіла так блізка, што некаторыя пазнавалі яе погляд. У людзей было шмат клопату – не да палётаў. А калі скончыліся дажджы і высахлі крылы, аказалася, што людзі развучыліся лятаць. З таго часу памяць пра палёты жыве толькі ў нашых снах...

Што за дзіва гэтая Мішкава гара! Уяўляеце, тут вецер адпачывае. Я нават ведаю, дзе яго хатка. Ну, не хатка, а палац, ну, не палац, а замак. Але ж ветру не трэба столькі месца, колькі чалавеку. Вецер можа проста зачапіцца за галінку дрэва і вісець уніз галавой. Яму б зазямліцца. Бо калі не зазямліцца, то зноў у свае нябесныя вандроўкі рване. Толькі яго і бачылі. Калі я бягу з Мішкавай гары, то адчуваю вецер тварам. Гэта значыць, што ён пакуль што тут, на сваёй радзіме. Толькі на радзіме яму добра спіцца.

Калі па шчырасці, то Мішкава гара не такая ўжо і гара, а толькі пагорак. Зімой мы з сябрамі тут на санках катаемся. Невядома, хто першы ў нашых Сястронках назваў пагорак гарой і чаму яна стала Мішкавай. Мне, вядома, такая назва вельмі падабаецца, бо я адразу свайго дзядзьку Міхася ўспамінаю. Можа, гару назвалі ў ягоны гонар, бо ён тут каго-небудзь ўратаваў? Ўратаваў і маўчыць, таму што вельмі сціплы. Сціплы герой... Бягу я з гары і думаю пра свайго дзядзьку Міхася. А ластаўкі кружацца над маёй галавой і нават не здагадваюцца, які цудоўны ў мяне дзядзька. Я ўпэўнена, што ён таксама ўмее лятаць...

## Лаўрэнцеўна

Лаўрэнцеўна нечым нагадвае каравай, які пячэ мая бабуля ў святочныя дні. Вялікая, пышная, яна нібы паруе вільготнай цеплынёй. Белы халат заўсёды ёй трохі не па мерцы, меншы, чым трэба. Але, нягледзячы на сваю паўнату, Лаўрэнцеўна неверагодна хуткая, энергічная. Калі яна ідзе па бальшаку, то нібы падскоквае на хаду, лёгка адштурхваючы зямлю крок за крокам.

– Матрона, абавязкова зайдзі сёння ў магазін! Свежыя пернікі прывезлі! Купіш сваёй Інцы!

Гэта яна звяртаецца да маёй бабулі, якая набірае ваду са студні. Пабачыла яе цераз плот і крычыць, стоячы на ганку крамы. Голас у Лаўрэнцеўны моцны, як і ўвесь стан. А хата наша ад магазіна недалёка. Цераз дарогу. Таму добра чуваць.

Бабулю доўга ўгаворваць не трэба, як і мяне. Бяром торбу, ідзём у магазін. Мне падабаюцца пернікі, асабліва мятныя. Але не толькі ў перніках справа. Найбольш мне хочацца паглядзець на розныя цікавыя рэчы, адчуць пах Полацка. З горада ж прывозяць увесь гэты тавар і прысмакі.

Магазін у Сястронках невялікі. Але і тут ёсць на што паглядзець. Селядцы ў пузатых бочках, карамельныя цукеркі-падушачкі, халва ў круглых пляскатых бляшанках, якія з часам набываюць іншае жыццё – становяцца цудоўнай біткай. Трэба хуценька з’есці халву, насыпаць у бляшанку пяску, і можна гуляць у класікі. Скок-прыскок... Усе прадукты і прысмакі – злева ад уваходу. Направа прамтавары – празнае адзенне, посуд, нейкая дробязь для кухні, гаспадарчае мыла, нарэзанае вялікімі карычневымі брускамі, і побач маленькае, для твару і цела, сунічнае, або лясное з пахам хвоі. Адэкалон “Шыпр”, духі “Чырвоная Масква”. А яшчэ мячыкі, скакалкі, машынкі, лупатыя, быццам напалоханыя нечым, лялькі... Канечне, на правым баку крамы мне значна цікавей. Можна хадзіць і разглядаць усе гэтыя рэчы, раскладзеныя на некалькіх даўгіх паліцах, дакранацца да іх рукой і нават нюхаць... Лаўрэнцеўна дазваляе мне прыходзіць у магазін проста так, нібы на экскурсію. Яна ведае, што без дазволу я тут нічога не вазьму. Нават алоўкі. Я доўга стаю каля дзіцячых кніжак, гартаю гладзенькія старонкі з малюнкамі. Па ілюстрацыях намагаюся зразумець змест, бо яшчэ не ўмею чытаць. Часам дамалёўваю нешта ў сваёй уяве, нібы кіно бачу або мультфільм. Калі ў магазіне больш нікога няма, Лаўрэнцеўна садзіць мяне на свае калені, як на крэсла, і пачынае чытаць уголас тыя кніжкі, якія ёсць у краме. Кніжак мала, таму я ведаю іх на памяць. Вось, напрыклад, “Кот у ботах”. Цудоўная казка. Але мне хочацца перапісаць канец, бо я заўсёды шкадую мышку, якую праглынуў кот. Мне не верыцца, што лютасць Людажэра засталася, калі ён ператварыўся ў мышку. Не магу ўявіць, як гэта ў такім маленькім кволым целе можа ўмясціцца ўся вялікая злосць Людажэра? Лепш бы ён перавыхаваўся і стаў добрым. І пасябраваў бы з катом, і знайшоў бы сваю прынцэсу – такую, якая б яго таксама пакахала. Ці можна закахацца ў Людажэра, калі ён стане добрым?.. Калі ў магазін прыходзіць баба Нюра або баба Фруза, я пачынаю чытаць ім “Ката ў ботах”. Яны ж не ведаюць, што я толькі раблю выгляд, што чытаю. Шпару ўсё на памяць слова ў слова.

– Глядзі ты, Лаўрэнцеўна, Інка яшчэ такая малая, а ўжо ўмее чытаць! Неверагодна... – Гэта баба Фруза, яна больш даверлівая, чым баба Нюра. Лаўрэнцеўна мяне не выдае. Яна заўсёды на маім баку.

Аднойчы мая бабуля пашыла Лаўрэнцеўне белы халат са штапелю. Ён быў досыць даўгі і прасторны. Нібы на выраст. Прадаўшчыца нагадвала ў ім Мішкаву гару, укрытую снегам. Яна мне так падабалася ў гэтым халаце, што я заходзіла ў магазін толькі для таго, каб на яе паглядзець. Лаўрэнцеўна не саромелася сваёй паўнаты – наадварот, ганарылася.

– Добрага чалавека павінна быць шмат, – любіла паўтараць яна, і ўсміхалася сваёй добразычлівай усмешкай. Тады яе шэрыя вочы набывалі нейкае смарагдавае адценне, а ямачкі на шчоках рабіліся больш выразнымі.

“А Лаўрэнцеўна – прыгажуня”, – думала я і не магла ёй налюбавацца. Чаму толькі нашы вясковыя мужчыны не бачаць гэтага? З кавалерамі Лаўрэнцеўне не шанцавала. Яна жыла адна, і было ёй трохі за сорак.

Аднойчы мая бабуля паехала ў горад, і мы засталіся ў хаце з дзядулем удваіх. Паслухмяная дзяўчынка – гэта не пра мяне. Я слухалася пад настрой. Не заўсёды. Нешта мы з дзядулям пасварыліся, я пакрыўдзілася, расплакалася і сказала, што пайду ў лес і ўжо ніколі дадому не вярнуся. Вядома, ні ў які лес я не пайшла, а хуценька пабегла ў магазін, да Лаўрэнцеўны. Канечне, дзядулю Івану не падабаецца, калі я неслух. Ён можа, калі што, і дубец з-за печы дастаць. Але ж ён на адной назе мяне не дагоніць, а я лётаю, як страказа. Толькі мяне і бачылі! Пакуль дзядуля на сваім пратэзе дачыкільгаў да магазіна, я ўжо сядзела пад вялікім халатам Лаўрэнцеўны. Схавалася.

– Лаўрэнцеўна, ты не бачыла нашу Інку? – строга спытаў дзядуля і зазірнуў пад прылавак.

– Ды не, не бачыла, дзядзька Іван, – як нічога ніякага адказала Лаўрэнцеўна.

Яна ж мая вялікая сяброўка, ніколі не выдасць.

А я сяджу ў паўзмроку яе белага халата, як тая мыш, у якую ператварыўся Людажэр, ціха-ціха. Толькі ў параўнанні з Людажэрам я добрая, злосці ўва мне ўсяго на адзін зуб. А калі закусіць крыўду смачным пернікам, то яе і зусім не стане. Тут, побач з намі, каля прылаўка на падлозе стаіць вялікая кардонная скрынка з мятнымі пернікамі, і яны так смачна пахнуць, што аж галава кругам ідзе. Я не вытрымліваю гэткай спакусы і цягнуся да перніка. У гэты момант дзядуля хапае мяне за руку і выцягвае з-пад халата Лаўрэнцеўны. Мне, вядома ж, сорамна за хлусню і трохі страшна, бо ў дзядулі ў руках дубец.

– Дзядуля-дзядулька, я толькі маленькая мыш, а не Людажэр. Людажэр перавыхаваўся, калі з’еў мятны пернік, – нешта такое неверагоднае мармычу са страху.

Дзядуля вельмі здзіўлены, ён нічога не разумее. Пры чым тут Людажэр і якая сувязь з пернікамі? Каб неяк супакоіць дзядулю, Лаўрэнцеўна дастае з-пад прылаўка кніжку “Кот у ботах”, некалькі пернікаў і падае яму.

– Частуйцеся, дзядзька Іван, вельмі смачныя пернікі... Цікавая казка. Бярыце проста так, бясплатна. Толькі даруйце нам з Інай.

Пазней, калі мы ўжо прыйшлі дадому, дзядуля расказаў мне гісторыю Лаўрэнцеўны. Аказваецца, яе завуць Любай. Проста ўсе ў вёсцы прывыклі называць нашу прадаўшчыцу Лаўрэнцеўнай, па бацьку. Яна і не супраць. Лаўрэнцеўна дык Лаўрэнцеўна. Замаладой, яшчэ да вайны, яна была вельмі прыгожая. Яе пакахалі два добрыя хлопцы, два сябры – Хведар і Уладзімір. Разам хадзілі ў школу. Разам вучыліся ў гандлёвым тэхнікуме. Так і сябравалі ўтраіх. Люба ніяк не магла зразумець, хто з хлопцаў ёй падабаецца больш. Нікога не хацела крыўдзіць, разбіваць хлапечую дружбу. Калі пачалася вайна, Федзя і Валодзя пайшлі на фронт. Між сабой дагаварыліся так: хто жывым з вайны вернецца, той і пойдзе да Любашы сватацца... Абодва хлопцы не вярнуліся з вайны. У два двары амаль адначасова прыйшлі пахавальныя. Люба з гора захварэла, а калі ачуняла, усе ў вёсцы пачалі звяртацца да яе па бацьку. Імя паступова забылася, сцерлася з людской памяці. А Любоў Лаўрэнцеўна так ужо нікога і не змагала пакахаць.

Пасля гэтага аповеду я доўга не магла заснуць. А потым мне прысніўся такі сон. Хведар і Валодзя, раскінуўшы рукі, бягуць з Мішкавай гары і крычаць: “Люба, Любачка! Любоў!.. Мы з табой, мы з табой!..” І мне так хочацца, каб Лаўрэнцеўна іх пачула.

## Яблык

У гэтым годзе снег пайшоў нечакана рана. Ужо ў канцы кастрычніка. Я прачнулася і пабачыла ў вакно на голай галінцы яблык, укрыты снегам. І галінка таксама ў снезе. Я падумала, што гэтаму яблыку халодна, трэба хутчэй забраць яго ў цяпло. Дзядуля напаліў печ і сядзеў, звесіўшы здаровую нагу. Грэўся. Я хацела залезці на шчыток да дзядулі, але ўспомніла пра яблык. Як ён застаўся адзін на яблыні, бедалага? Яго браты і сёстры ўжо даўно на гарышчы. Ляжаць сабе ўкрытыя старымі ватоўкамі і казкі адзін аднаму расказваюць. Ім цёпла і весела. А яблык на галінцы адзінокі. Для яго ўжо ў кастрычніку пачалася зіма...

Апранаюся, бягу ў сенцы, цераз двор – да пуні. Там недзе ў кутку стаяць граблі. Паспрабую граблямі дастаць яблык... Бабулі няма дома. Яна сёння ў полі. Гэта ж трэба, пачалася зіма, а кароў усё ганяюць у поле. Трава яшчэ зялёная. Яна не паспела зразумець, што ўжо зіма. І дрэвы не зразумелі. Яшчэ не ўсё лісце на зямлі. Яно ападае з дрэваў павольна, як у сне. Кружыцца, кружыцца... А на зямлі ўжо снег. Каровам непрыемна тыкацца цёплымі мордамі ў халодную траву. Нібы бачу, як яны плавяць снег вільготнай парай свайго дыхання. І ўсё ж, я думаю, каровам лепш пасвіцца, чым стаяць у хляве. Нават калі на дварэ халодна, у цёплым хляве каровам сумна. Я не раз чула, як наша Малышка зімой цяжка ўздыхае. Жуе сваю жвачку з сена, якое мы летам насушылі, і думае пра вясну. Так праходзіць яе жыццё. А вясна яшчэ далёка... Вось, знайшла, нарэшце, граблі. Яны пахнуць сенам і летам. Яны ўратуюць яблык ад адзіноты...

Бягу з граблямі ў сад, знаходжу дрэва з адзіным яблыкам. Цікава, што яму снілася гэтай ноччу? Якія сны бачаць яблыні? Можа, яны сумуюць, што няздольныя адарвацца ад зямлі і паляцець услед за птушкамі? Можа, яны сняць цені сваіх забытых вясновых белых і ружовых пялёсткаў, якія кружыць вецер? Пялёсткі размаўляюць між сабой на сваёй яблыневай мове і чытаюць уголас вершы: “Нашы цені паляцелі...”

Не так проста, як здаецца на першы погляд, дастаць яблык. Граблі, можа, упершыню, бачаць неба так блізка, узлятаюць так высока... Мне цяжка адначасова трымаць раўнавагу і цягнуцца да яблыка. Трэба ўстаць на дыбачкі, а ў валёнках гэта зрабіць проста немагчыма. Здымаю валёнкі і станаўлюся босымі нагамі на першы снег. Ён апякае ступні, пранізвае холадам пальцы. Падскокваю і чапляюся граблямі за галінку, амаль павісаю на граблях. Яблык падае на траву, укрытую снегам. Я шчаслівая, што нарэшце дастала яблык, зрабіла тое, што хацела. Жоўты яблык з карычневымі палоскамі больш не адзінокі, ён у маіх руках. Грэю яблык сваім дыханнем, як маленькую птушачку. Хукаю... А ў самой ногі, як ледзякі. Хутчэй у хату, на шчыток да дзядулі грэцца. Пакажу дзядулю яблык, які сама ўратавала, які цяпер не адзінокі. Ён ужо не баіцца зімы.

## Гарышча

На гарышчы пахне яблыкамі і пылам. Павуцінне апляло кроквы чароўнага замка. Замак спіць і бачыць сны пра свае мінулыя часы, калі тут было безліч народу і жыла маленькая князёўна, нечым падобная да мяне... Ступаю асцярожна, каб не парушыць таямніцы замку, не пашкодзіць якой-небудзь каштоўнай рэчы. Я адчуваю сябе даследчыкам мінуўшчыны нашага дома... Вось пад слоем павуціны свеціцца люстэрка, якога не было ў маім жыцці. Калі ў яго зірну, то абавязкова пабачу тых, хто глядзеў туды да мяне, хто жыў у гэтым доме раней. Мне трохі страшна, бо што як я пабачу там... чорта? Можа, ён апошнім зіркаў у люстэрка, і калі я ўгледжу яго вочы, то ён забярэ маю душу. Нешта такое мне расказваў тата. Ну чаму гэтыя страшныя казкі ўспамінаюцца менавіта на гарышчы, калі я зусім адна? Калі я пабачу чорта і закрычу, то ніхто мяне нават не пачуе, не прыйдзе на дапамогу. Бабулі і дзядулі няма дома. Мне нават дзіўна, як я наважылася на такую рызыкоўную вандроўку... Не, не буду глядзець у люстэрка, пайду далей...

А далей – стары закураны керагаз, на якім бабуля гатавала ежу, калі яшчэ ў нас не было газу. Ну, гэта каб не паліць кожны дзень печ. Керагаз некалі быў воінам. Ён біўся з цмокам. А той яго – лясь хвастом, і воін падае, разбівае галаву, але ўсё роўна падымаецца, бо ён вельмі смелы. А цмок полымем дыхае: ён люты ў тры разы болей, чым нават чорт, які глядзеў у люстэрка, бо ў яго аж тры галавы. Але воін – ну, гэта, напрыклад, мой тата – размахваецца і адсякае цмокавы галовы: адну, і другую, і трэцюю. І цмоку – капцы. І тата – пераможца. Тата – заўсёды пераможца, бо ён мой тата. Хаця, шчыра кажучы, мама лічыць яго няздарам. Мне гэта вельмі не падабаецца. Я баюся, калі бацькі сварацца. Мне страшна, што яны могуць развесціся, як бацькі маёй сяброўкі Жанны, і я таксама стану напалову мамінай, а напалову таткавай. А мне не хочацца дзяліцца напалам. Аднойчы я бачыла, як мая мама плакала каля вакна. Калі б мае бацькі менш сварыліся і больш любілі адно аднаго, то мы б усе былі значна мацнейшымі, і ніякі Цмок нам быў бы нястрашны...

А вось у вялікай торбе ляжаць кнігі. Пра што яны? Я яшчэ не ўмею чытаць, але гартаць гэтыя кнігі азначае працягваць падарожжа па гарышчы, у яго глыбіню. Колькі тут маміных падручнікаў! Вось Пушкін на партрэце. Пушкіна я даўно ведаю. Дзядуля мне перачытаў усе яго казкі. Асабліва мне падабаецца пра цара Салтана. А яшчэ пра царэўну і сем багатыроў, якія вельмі дужыя, але чамусьці не змаглі абараніць сваю названую сястру ад злой мачахі. Царэўна з’ела яблык з атрутай, заснула і ніхто не мог яе разбудзіць. А тут прыйшоў каралевіч Елісей, пацалаваў царэўну, яна прачнулася і пакахала яго. Нядаўна мой сябар Алег таксама пацалаваў мяне ў шчаку, калі мы хаваліся ў пуні, а я нічога не адчула і не пакахала яго. Можа, гэта таму, што ён не такі прыгожы, як каралевіч Елісей?..

Я трымаю ў руках мамін падручнік і думаю пра таямніцы кахання... Мая мама – настаўніца. Вучыць дзяцей рускай і беларускай мовам. А перш яна вучылася ў педагагічным інстытуце, а яшчэ раней – у педвучэльні. Гэтыя падручнікі, мабыць, якраз з тых часоў, бо вельмі ўжо старэнькія. Вунь які слой пылу на іх! Здзьмуваю пыл, гартаю кнігі... Вось засушаны кляновы лісцік між старонак. Калі б я была маёй мамай, пра што б мне нагадаў гэты лісцік?..

Вось сядзіць мая мама за партай, каля адчыненага вакна. Яна такая тоненькая, як саломінка, і дзве коскі ў яе заплецены, як у маленькай. Маме пятнаццаць год. І раптам, на яе сшытак апускаецца жоўты кляновы лісцік. Ён адарваўся ад клёна пад вакном і так упадабаў маю маладую прыгожую маму, што дамовіўся з ветрам, каб той яго на мамін сшытак падкінуў. І маме так прыемна на сэрцы: яна нешта такое шчымлівае ўспомніла, нейкага свайго таварыша – можа, Валодзю, з якім тады сябравала, і паклала лісцік у падручнік з партрэтам Пушкіна... А можа, усё было не так, а вось як...

Ідзе мая мама з падручнікам пад пахай па восеньскім парку і сустракае... Валодзю. Мама яшчэ не ведае, што кахае, але чамусьці не можа глядзець свайму сябру ў вочы. Такія яны ў яго блакітныя і празрыстыя, нібы нябёсы. У Валодзі ў руках букет кляновага лісця. Ён падыходзіць да мамы, працягвае ёй букет, потым перадумвае і падкідвае лісце ў паветра. Мама і Валодзя глядзяць адно на аднаго, а лісце падае, падае... На плечы, на рукі, на валасы, на падручнік з Пушкіным... Цікава, ці хацелася б маёй маме пабачыць гэтую кнігу з жоўтым лісцікам і ўспомніць сваю гісторыю? А можа, маме балюча гэта ўспамінаць, бо Валодзі няма побач і яны ніколі не будуць разам... Чамусьці я не раўную маму да Валодзі. Мне здаецца, ён быў добрым хлопцам... Але тата ўсё роўна лепшы. Цікава, што я люблю тату, а ўспамінаю Валодзю, якога нават ніколі не бачыла... Можа, ува мне жыве памяць маёй мамы? І каб адчуць гэтую памяць, трэба падняцца на гарышча... Колькі яшчэ таямніц хаваецца між дахам і столлю?

## Таямніца самаробнай шафы

Гарышча, як заўсёды, дыхнула мне ў твар цеплынёй і пахам яблыкаў. Восень. А значыць, рана цямнее. Трэба паспець вярнуцца назад да цемнаты. Гарышча нагадвае хату, толькі наадварот. Гэта яе ўспаміны, мінулае. Тут як быццам усё заснула і спіць, можа, ужо сто год. Павуцінне абляпіла рэчы, старую мэблю. Тут нават паветра іншае. Яно мае вагу, як пуховая бабуліна коўдра. Я бачу колер паветра. Яно трохі памаранчавае, як перад навальніцай, але размытае, непраяўленае. Усе рэчы на гарышчы прыцярушаны пылам, пад якім хаваецца іхняя гісторыя. Прынамсі, адну таямніцу я збіраюся сёння разгадаць – вядома, калі пашанцуе.

Рэч у тым, што раніцай у спальні пад ложкам я знайшла вельмі дзіўны ключ. Ён быў невялікі, нібы цацачны, з пляскатым, трохі сагнутым вушкам. На ключ, якім дзядуля заводзіць гадзіннік, гэты быў непадобны. Цікава, якія дзверы ён адмыкае? Няма ключа без дзвярэй. Што там, за гэтымі дзвярыма? Якая таямніца хаваецца?

Я адчувала сябе следапытам – дзень прайшоў у пошуках запаветных дзвярэй. Усё, што магло ў хаце адмыкацца, я абышла з гэтым ключом. Шафы, сталы і нават вялікі мамін чамадан, з якім яна калісьці ездзіла ў Казахстан, я не абмінула сваёй увагай. І ўсё дарэмна. Нічога ў хаце гэтым ключом не адмыкалася. Ну як такое можа быць? І тут я ўспомніла пра гарышча. Можа, менавіта там я знайду тыя дзверы?..

Па гарышчы рухаюся павольна, нават дыханне затойваю раз-пораз, каб раптам не прапусціць чароўнае “нешта”, якое дапаможа ў маёй справе. Букецікі зёлак, маміны падручнікі, кошык з рэшткамі рознакаляровых нітак і абрэзкамі тканіны, старое крэсла, струхнелае адзенне і абутак – усё гэта сёння мяне не цікавіць. Я шукаю дзверы ад таямніцы, бо ў маёй

руцэ чароўны ключык. Фух, аж успацела ад напружання. Неўзабаве звечарэе і я зусім нічога не пабачу. І бабуля хутка вернецца з горада, бо ненадоўга паехала. Я паглядзела на гадзіннік, які падараваў тата на мой шосты дзень нараджэння, і горка ўздыхнула: палова на пятую. Калі я не знайду запаветных дзвярэй да цемнаты, давядзецца прыпыняць пошукі і злазіць з гарышча. У непраглядным змроку мне тут будзе вельмі страшна. Нават ліхтарык не дапаможа. Гэта ж дом навыварат: невядома якія ён можа выкінуць сюрпрызы. Кажуць, што на гарышчы жывуць душы памерлых. Бабуля апавядала, што шмат гадоў назад ад запалення лёгкіх памерла яе першая дачушка. Яна нарадзілася на два гады раней ад маёй мамы і пражыла ўсяго месяц. Бабуля назвала дзяўчынку Евай, яе нават пахрысціць не паспелі... Пра што я цяпер думаю? Мне ўжо страшна... Калі не разгадаю таямніцы ключыка, ноччу не змагу заснуць. А заўтра будзе балець галава. А потым я не вытрымаю і раскажу пра гэты ключ дарослым. І таямніца перастане быць таямніцай. Знікнуць чары...

Аж раптам у дальнім кутку гарышча я пабачыла невялікую шафу. І як я раней яе не заўважала? Шафа была самаробная, збітая з негабляваных дошак. Адна з ножак шафы зламалася, і пад яе падклалі стос старых газет. У клышаногай шафе былі дзверы з невялікім навясным замком. Дрыготкімі рукамі, вільготнымі ад узрушэння, я ўставіла ключык у замочную шчыліну і павярнула... Ура! Мой ключык знайшоў свае чароўныя дзверы! Што там? Што?! На імгненне я застыла на месцы і задумалася. Нешта мне падказвала, што не трэба адчыняць гэтую шафу. Лепш вярнуцца ў хату, бо гэта не мая таямніца. Але голас сумлення быў слабейшы за прыроджаную прагу да ўсяго загадкавага. Рашучым рухам я штурхнула дзверы. Бязногая шафа нахілілася – і на падлогу пасыпаліся featureрознакаляровыя паштоўкі.

У свае шэсць з паловай гадоў я добра чытала, але ад хвалявання, радкі расплыліся перад маімі вачыма. Прыглядзеўшыся, я пазнала татаў почырк: ён не раз прысылаў мне паштоўкі ў вёску. Віншаваў з рознымі святамі, пісаў смешныя вершыкі, якія сам прыдумляў. Я збірала гэтыя паштоўкі – не толькі ад бацькі, а ўсе, якія да нас прыходзілі. Калі ў мяне быў дрэнны настрой, я раскладвала паштоўкі перад сабой і... марыла. Але паштоўкі з клышаногай шафы былі не да нас, не да мяне... “Дарагі сыночак Віталік! Віншую цябе з Новым 1960-м годам. Табе ўжо амаль два гадочкі. Ты вялікі хлопчык, і я хачу, каб ты ведаў, што я вельмі цябе люблю. Расці вялікім і здаровым, слухайся маму. Я цяпер далёка ад вас, жыву ў іншым горадзе, але ў думках застаюся заўсёды з вамі. Быў, ёсць і буду... Твой тата Слава”. Паштоўка з зялёнай ялінкай і вясёлым Дзедам Марозам выпала з маіх рук...

“Які сыночак? Якую маму? – загулі думкі ў маёй галаве, быццам восы. – Мой брат Андрэй нарадзіўся ў 1970 годзе. Ён малодшы за мяне на пяць гадоў. Што за Віталік, якому ў 1960 годзе было два гады?”

У вачах пацямнела. Ліпкая густая цемра насунула халоднай хмарай, і мне здалося, што я падаю ў гэтую цемру. Цемра без дна – гэта прорва, і я падаю ў яе ўніз галавой... Навошта я знайшла гэты ключ? Навошта залезла на гарышча? Навошта адамкнула дзверы гэтай страшнай шафы? Мой знаёмы свет вывернуўся навыварат, як пальчатка. Я ўжо не разумела, дзе правы бок, а дзе левы, дзе дабро, а дзе зло, дзе праўда, а дзе хлусня. Мой тата, мой родны адзіны тата, якога я так люблю і якому давяраю

ўсе свае таямніцы, называе нейкага незнаёмага хлопчыка сваім сынам. Выходзіць, бацька хлусіў, калі гаварыў, што любіць толькі нас з Андрэем. Хлусіў, што мы самыя дарагія людзі ў яго жыцці... А гэты хлопчык, гэты Віталік – значыцца, наш старэйшы брат? Дзе ён жыве? Я падняла з падлогі яшчэ адну паштоўку і паглядзела на адрас: "Валгаград, вуліца Садовая, 6". А вось нейкі дзіўны штамп: "Ваш адрасат змяніў месца жыхарства". На ўсіх іншых паштоўках – тое ж самае. Што азначаюць гэтыя словы? Выходзіць, што гэтыя рознакаляровыя віншаванні не дайшлі да Віталіка, а вярнуліся да майго бацькі? Ад напружання ў мяне страшэнна разбалелася галава, але я знайшла ў сабе сілу пакласці паштоўкі туды, дзе яны ляжалі, і замкнуць дзверцы шафы...

Вядома, ноччу я не змагла заснуць ні на хвіліну. Вочы былі на мокрым месцы і вялікіх высілкаў каштавала не выдаць сябе, нічога не расказаць бабулі. Пасля абеду, калі яна пагнала карову ў поле, я зноў залезла на гарышча. Седзячы на пыльнай падлозе, каля клышаногай самаробнай шафы, чытаючы лісты бацькі да свайго сына Віталіка, якія той не атрымаў, я адчувала, як мая крыўда, мой боль, паволі мяняюцца на жаль. Я шкадавала свайго бацьку, незнаёмага хлопчыка Віталіка і ўсіх нас разам. Было ў гэтым адчуванне незваротнасці лёсу, нечага наканаванага раз і назаўжды, калі нічога немагчыма змяніць, перапісаць інакш.

"Гэта не казка, а сапраўднае жыццё, – думала я. – Гэта іншае жыццё майго бацькі, пра якое я раней нічога не ведала. Калі я не пагавару з татам, не распытаюся ў яго пра ўсё, то веданне гэтай таямніцы разарве мяне на маленькія кавалачкі. Я ўжо ніколі не змагу быць той, якою была раней, не змагу радавацца жыццю, гуляць з сябрамі, весяліцца... Татачка, ратуй мяне. Ратуй!"

Тата прыехаў у Сястронкі сярод тыдня, нібыта адчуў, што са мной адбываецца нешта такое, чаго ніколі не было раней. Я пакутавала, і гэта было страшней за хваробу... У гэты дзень ён быў асабліва ласкавы:

– Іначка, я сказаў на рабоце, што ты захварэла, і мне далі адгул. Вось прыехаў да цябе. Мне здалося, што табе сапраўды дрэнна. Не мог дачакацца выхадных.

– Тата, я даведалася пра тваю таямніцу. Пра Віталіка... – слёзы навярнуліся на мае вочы, голас задрыжаў. – Тата, ты па-ранейшаму любіш мяне? Я адкрыла тую шафу на гарышчы. Ты згубіў ключ, а я знайшла...

Бацька заплакаў уголас, як плачуць жанчыны на хаўтурах. Гэта было так неспадзявана, што я нават спужалася. Ніколі раней я не бачыла, каб бацька так плакаў. Па яго шчоках цяклі слёзы – такія буйныя і цяжкія, што я кінулася па ручнік. Добра, што нікога больш не было ў хаце. Я прытулілася да бацькі ўсім сваім маленькім целам, і шчакой, і вуснамі. Гладзіла яго па галаве, як маленькага:

– Татачка, не плач. Лепш раскажы мне ўсё-ўсё. Я зразумею. Павер. Мне здаецца, што там на гарышчы я вырасла, пасталела.

Калі тата трохі супакоіўся, ён расказаў мне пра свайго сына Віталіка, а таксама пра тое, што яны з першай жонкай разышліся. Так склалася жыццё. Тата вярнуўся на радзіму. Сустрэў маю маму. Праз нейкі час нарадзілася я, потым Андрэй. Тата пісаў Віталіку лісты, пасылаў паштоўкі, каб той не забываўся пра яго, ведаў, што мае роднага бацьку і гэты бацька любіць яго. А паштоўкі вярталіся. Нехта не хацеў, каб Віталік іх атрымліваў... Тата баяўся, што пра яго пасланні да сына даведаецца мая

мама. Гэта б вельмі засмуціла яе і выклікала чарговую звадку. Бацька не мог знішчыць паштоўкі, бо там была яго душа і памяць, таму схаваў сваю таямніцу на гарышчы...

Апошні ліст бацька паслаў Віталіку на яго васямнаццацігоддзе. Павіншаваў з днём нараджэння. Расказаў сыну пра сваё жыццё, пра нас з братам. Прасіў прабачэння за тое, што не змог выгадаваць і выхаваць яго, што іншы мужчына замяніў яму бацьку. Яшчэ пісаў, што заўжды любіў і любіць усіх сваіх дзяцей аднолькава, і ў яго сэрцы ніколі не загоіцца рана, што мы не можам жыць усе разам... Віталік збярог гэты ліст. І мы нарэшце сустрэліся. Але бацькі ўжо не было на гэтым свеце... “Дарагі сынок, Віталік, калі ты думаеш, што я забыўся пра цябе, гэта не так. Ты заўжды ў маім сэрцы...”



Валеры Дубоўскі



...Што – быццё?
З яго слова выньмі –
І зямля, і неба распаліся...

# Тутсамасць

* * *

Вечар...
Дождж...
Парасоны...

Дом прыдарожны
Ля сціхлых Расонаў.

Прыпарвае на папары.

Сон у пару.
Сон выратоўны пары.

Вечар...
Дождж...
Парасоны...

Ліпень бяссонны.

Расоны.

* * *

Пагляд у далягляд
Нязмрочны.
Даланёй грэецца даланя.
Асмяглыя вусны ў дня.
У начы
Незмігутныя вочы.

Словам патайным
Мяне замароч.
Прытулку шукае
Азяблае сэрца.
...Незмігутная хіліцца ноч
Да асфальтаў дзённых
Пагрэцца.

## *АДВЕЧНАСЦЬ*

У песні і танцы
Адвечнасць народа майго.

Мы мусім
Праз слова застацца
Народам сваіх багоў.

Вечна ўзнікаючай нацыяй
Без берагоў.

Белай.
Між белых снягоў.

* * *

Выклікні
ці прымрой:
“Будзь!” –
І яно бывае.

За прыдуманай табой
Гарой –
Крыло
Неабдымнага небакраю.

* * *

Нічога не пераменім.
Нечуванае насланнё:
не угадваеш
цела сваё,
ты – маё падваенне.

Не перабольшваў,
не прымяншаў,
не дзіўлюся,
утрапёна абдумваю:
перакінулася душа
твая
у душу маю.

* * *

Пераменлівы крок хады
у пераменлівым шчасці.

Заручыся з бядою,
тады
да шчасця
магчыма дапасці.

Ты сказала “чакай” –
не “бывай”,
шчасце няблізкага небакраю.

Я цябе дагэтуль чакаю.

...На Пярэспе
апошні трамвай.

## СЛЯДЫ І ШЭПТЫ

...галасы галубоў
вуркоча час

сённяшні ранак
сённяшняга места
якое
застанецца

і нязменнай будзе
яго
зменлівасць

новыя людзі
новыя галубы
новы час

новыя змены старога места
дзе ад нас
толькі сляды і шэпты
нашых душ...

* * *

Вуліца –
накірунак у прасторы.

Ты –
накірунак у сабе.

Ты і прастора.

Куды рухаешся?

* * *

Мы знаёмыя з табой
на вякі –
ты вось гэткі,
а я вось такі.

Нібы вязні,
па сённяшняй модзе, –
на Валадарцы
і на свабодзе.

Не народам,
надзеяй сагрэты.
Нібы грамадзяне.
Нібыта паэты.

Нібы гной
у вясковай прозе...

Пілігрымы.
Сляды на марозе.

* * *

Ад існага
іду да ісціннага.

На сцяжынах,
на дарогах маіх
паўсюль раскіданы камяні –
сумневы.

Не буду стаяць,
пайду.

Каб не спатыкацца,
іду – над.

* * *

Не прыйдуць д’яблы.
Яны ўжо прыйшлі.

## ТУТСАМАСЦЬ

Накінь гэтую ноч
На ціхутка азяблыя плечы.
Не ўцякай...
Пачакай...
Не кроч...
Пашэпчам пра нас
У вечным...

У запеве гадоў прамок.
Дзён ад начэй
Не адрозню.
А дыханне тваё і крок
Ахіну
Ад чорнае грозьбы.

У тутсамасці,
У дзівоснай коўні

Вялікае і малое кавалася,
Надзеі чаканнямі поўнім.
Ты – у тут,
Я – у самасці.

Што – быццё?
З яго слова выньмі –
І зямля, і неба распаліся.
У вечнай жыццёвай плыні
Толькі сёння мы,
У тутсамасці.

Падзівіся.
Гэтую ноч,
Туманы гэтыя выснуе
Каханне,
Якога апроч
Нішто не здараецца існае.

### *ПРАЗ*

Злятае лёс з нябёс.
Ён ад багоў?
Ад продкаў?
Ён доўжыцца, пакуль
Надзея рок трымае.
Найкарацейшы шлях –
Не ўсякая прамая.
І шпарка йсці –
То не заўсёды ходка.

Са студняў піў ваду
І не выплёскваў.
І голас родавы
І дух стары вяртаўся.
Як у цэнтральных,
Так і ў памежных вёсках
Вада святынская.
Вада святая ўся.

Ад гарадоў, мястэчкаў і прысад,
І ад усіх тутэйшых
Знаных местаў
Ёсць шлях і па зямлі,

І – над
Гародняй, Оршай,
Полацкам і Брэстам...

І доўгім будзе гэты пераказ.
І мусібыць,
Не скончыш пералікі.
Той шлях –
Радзінны, крэўны і вялікі.
Той шлях праходзіць
Нашы сэрцы
Праз.

## ***ЭЦЮД***

Ранкам
Пакуль я думаў,
Дождж неспакой прынёс.
Рэчка – поўная суму.
Неба – поўнае слёз.

Па душэўным маім завулку
Пярун прайшоў, адмыкач,
Нахрапіста,
Спадзіста,
Гулка –
Смехам заліся ці плач.

Руцяністыя хвалі траў
Экспрэсіяніст – распуста,
Вецер
Малюе густа...

І я яго прывітаў.

* * *

Ціхмяна...
Так растуць грыбы.
А дрэвы на вятры шапочуць.
Іду у лес.
Каб памаўчаць. А бы
Дадумаць
Тое самае да ночы.

Мо тут, у лесе,
Не на тлумнай вуліцы,
У адзіноце,
Не ў натоўпе – нераце
Само сабой патайнае
Дадумаецца:
Як у спіну плююць,
То ты наперадзе.

* * *

Несці крыж –
Кон, не бажба.

З крыжа не сходзяць.
Здымаюць з крыжа.

### *СЫНУ МАКСІМУ*

Па лёсе –
з крыгі на крыгу –
сын бяжыць,
я – спярша.
Сыноўняму бегу – спасцігу
бацькоўская
рада душа.

Міхась Зізюк



...ад дзяцінства застаюцца
толькі салодкія ўспаміны...

# Хто я такі

***Урывак з аповесці***

Даўно ўжо карцела прымасціцца недзе – а найлепей на зэдліку каля сваёй роднай вясковай хаты – азірнуцца назад і няспешна, з нейкай доляй ляноты, зірнуць на сябе збоку, успомніць былое, крытычна пераасэнсаваць увесь пройдзены шлях, зробленае за ўсе свае гады. Хоць, зрэшты, няма сумнення, што выснова будзе простай. Як напісаў некалі Сяргей Ясенін, адзін з маіх любімых паэтаў, словы якога ўжо ў дзевятнаццаць гадоў занатаваў я ў якасці эпіграфа ў сваім нататніку: “Как мало пройдено дорог, как много сделано ошибок”. Чаму тады – успомніць ужо не магу. Цяпер жа скажу: дарог, насамрэч, пройдзена нямала, але і памылак, у тым ліку і істотных, зроблена не менш. Сам сабе напрарочыў?

Любы чалавек, які не задавальняецца толькі жывёльнымі патрэбамі, хоць раз у жыцці, узняўшы галаву, глянуўшы на зоркі, задаваў сабе пытанне: хто я такі, дзеля чаго прыйшоў у гэты свет, дзеля чаго жыву... Цяпер ледзь

не кожны нешта піша, кожны другі паэт, праз аднаго пісьменнік. Пішуць, як кажуць, "і жук, і жаба". А што пішу я, чаго варта яно? Адкуль узяўся гэты Міхась Зізюк, як дакаціўся да такога жыцця, што ўявіў сябе пісьменнікам? Што я ўвогуле за чалавек, што я магу даць сваёй Беларусі? Магчыма, я самы просты графаман, якіх нямала? Я кажу гэта не дзеля смеху. Сапраўды, не раз мне задавалі такія пытанні, не раз цікавіліся, з якога такога пярэпалаху я ўзяўся пісаць калі было пад сорак. І на гэтае пытанне паспрабую адказаць, зноў жа пакапаўшыся недзе ў глыбінях ці то падсвядомасці, ці то душы, ці то памяці. Зразумець аўтара можна ў пэўнай ступені і па яго кнігах, спадзяюся, што тыя, хто змог іх прачытаць, ужо маюць нейкае ўяўленне пра маю асобу. Кожны раз, калі я спрабую нешта пісаць, мяне адольваюць сумненні: ці патрэбна яно, ці варта таго, каб быць надрукаваным? Бо, на мой погляд, напісанае мною вельмі слабое ў параўнанні з многімі іншымі аўтарамі. Дык ці патрэбен літаратуры яшчэ адзін пасрэдны аўтар? Але карціць, і рука цягнецца, і нешта пішаш. А што ўжо атрымаецца з цяперашняга аповеду, які "кактэйль" – хай вырашыць той, хто будзе чытаць, калі ён яшчэ атрымаецца чытэльным.

Што ж, з нечага патрэбна пачынаць. І пачну, канечне, як для мяне, – з самага галоўнага.

## Далёкае і блізкае

*Дарагі той куток, дзе абрэзалі пупок.*
Прыказка

Што я ведаю пра сваю вёску? Па шчырасці, не вельмі шмат. У школе, на ўроках гісторыі, ніхто не спрабаваў зацікавіць нас ведамі пра родныя мясціны. Потым была служба далёка ад дому, а цяпер не нашмат болей часу маю, каб сядзець у архівах. З агульнадаступных крыніц вядома, што першае ўпамінанне аб населеным пункце Лучыцы ідзе з 16 стагоддзя. Паводле метрыкаў таго часу ў 1567 годзе па загадзе караля Сігізмунда II Аўгуста ўладальнікам вёскі стаў М.Д. Кашпараў. Ёсць звесткі, што ўжо тады ў вёсцы існавала Свята-Мікольская царква, і запісы ў ёй вяліся ад 1793 года. Стаяла царква ў прыгожым месцы, на невялічкім узгорку, у акружэнні стройных ялінак. Цяпер пра храм нагадваюць толькі векавыя тоўстыя яліны ды курган: у дваццатыя гады мінулага стагоддзя бальшавікі спалілі царкву на ім. Між тым непадалёку, у суседняй вёсцы Кашэвічы, што знаходзіцца за шэсць кіламетраў ад Лучыц, стаіць Успенская царква, якая з'яўляецца гістарычнай каштоўнасцю: гэты храм пабудаваны ў 1642 годзе і без адзінага цвіка. Царква дзеючая, у ёй некалі хрысцілі і мяне.

З 1816 года Лучыцы становяцца цэнтрам памешчыцкага памесця з дзясяткам навакольных вёсак, у 1862 годзе тут адчыняецца школа, затым карчма, млын, сукнавальня, у панскім фальварку запускаецца вінакурня, пачынае працаваць пошта, будуецца прыстань і ўсталёўваецца паромная пераправа цераз раку Пціч. Пан Шахаў валодаў 17832 дзесяцінамі зямлі, у пачатку мінулага стагоддзя былі закладзены вялізны парк і панская сядзіба. Рэшткі занядбанага парку з амаль зніклай агароджай і назаўсёды пахаванай сядзібай месцяцца на ўскраіне вёскі каля рэчкі. Па тых магутных і часта незнаёмых дрэвах, што захаваліся пасля жыццёвых віхур, можна толькі здагадвацца, якім прыгожым і велічным быў панскі парк. Да Вя-

лікай Айчыннай вайны ў панскім доме месціўся дзіцячы дом. Фашысты стварылі там свой гарнізон, а дзяцей (каля 130 чалавек) выкарыстоўвалі ў якасці донараў крыві. Потым будынак спалілі партызаны.

У цяперашні час акрамя парэшткаў парку аб гадах мінулых сведчыць напаўразбураная вінакурня (а будынак, падаецца, быў вельмі прыгожым) ды назва возера за рэчкай – Панскае. Дый у самой вёсцы нашмат паменела жыхароў, чарнеюць пустымі вокнамі пакінутыя хаты, цяпер яна нават і не цэнтр калгаса. Ёсць пакуль двухпавярховая сярэдняя школа, сельскі дом культуры, сельсавет, амбулаторыя ды дзве крамы – амаль тыповы стандартны набор для цяперашняй беларускай вёскі.

Яшчэ ў час майго дзяцінства па вуліцы, што цягнулася па вёсцы да панскага парку, стаяла некалькі высозных і таўшчэзных ліпаў. Нябожчыца-бабуля сведчыла, быццам пасаджаны яны былі з дзве сотні гадоў таму: у вёсцы нібыта праездам была расейская імператрыца Кацярына ІІ. Цяпер ад былых прысадаў засталіся толькі вялізныя напаўзгнілыя пні. Іншых сведкаў мінуўшчыны ў вёсцы не захавалася. Пасля перабудовы намаганнямі настаўнікаў-аматараў у школе зладзілі мясцовы этнаграфічны музей, і цяпер там маюцца сякія-такія экспанаты. Вядома, шмат чаго пабачыла пакручастая рэчачка Пціч, якая агінае вёску, але што яна скажа? Пціч – рэчка з норавам, з вірамі і мелямі, патанулымі дрэвамі. Сама ж вёска стаіць на высокім правым беразе і паводак не баіцца. Левабярэжжа штогод трапляе пад паводку, і вада нават часткова залівае дарогу, што вядзе да суседняй вёскі Хвойня. Яе ў сакавіку 1943 года спалілі фашысты. Да яе ад нас каля пяці кіламетраў, і бабуля казала, што крыкі людзей і шум ад той жахлівай бойні былі добра чуваць у нашай вёсцы. Хвойня, буйнейшая за Лучыцы, пасля страшнай трагедыі так і не адрадзілася. А цяпер яна амаль што вымерла.

Хоць вёска налічвае больш чым пяцівяковую гісторыю, але неяк так склалася, што з найбольш вядомых сваіх выхаванцаў мае толькі казачніка Івана Паўлавіча Азёмшу (1851-1916). Аснову кнігі “Казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў” беларускага і савецкага этнографа, фалькларыста, мовазнаўцы Аляксандра Казіміравіча Сержпутоўскага (1864-1940) складаюць казкі І.П. Азёмшы. Дарэчы, прозвішча дагэтуль даволі распаўсюджанае ў вёсцы і яе ваколіцах, а нашчадкі вядомага казачніка вызначаюцца моцным целаскладам і магутнай паставай, як мужчыны, так і жанчыны.

Вёска, як і ваколіцы, мае свой мясцовы дыялект. У нас кажуць, напрыклад: *наеласа, напіласа* і г.д., *багато* – замест шмат, *картопля* – замест бульба і г.д.

## Вытокі

Цяпер я пра многае шкадую. У прыватнасці, што не дапетрыў некалі паболей высветліць, запісаць, запомніць фактаў і згадак пра сваіх продкаў. Былі ж жывыя бабуля, цёткі, дзядзькі – сведкі мінулых, багатых на значныя падзеі, гадоў. Цяпер можна спытаць хіба толькі ў помнікаў на магілах. Не суцяшае і той факт, што ў сённяшні час я не адзінокі, даволі многа такіх, што ведаюць свой род толькі да трэцяга калена. Браць бы нам прыклад у гэтым пытанні з мусульманскіх краін, дзе ведаюць свае карані да сёмага-дзясятага калена. Як гэта выдатна апісана ў рамане Анатоля Прыстаўкіна “Ночевала тучка золотая”, твор, які патрэбна вывучаць у школе замест некаторых ідэалагічна вывераных “шэдэўраў”. Проста ўражваюць

адносіны чачэнцаў да сваіх продкаў. “Они найдут эту дорогу, и каждый вернувшийся, придя сюда, возьмёт камень своих предков, чтобы поставить его на своё место. Они унесут её всю, и дороги, ведущей в пропасть, не станет”. Які дакладны і сімвалічны сказ – разабраць дарогу з надмагільных каменняў, дарогу ў прорву, і тым самым вярнуць памяць нацыі, памяць продкаў. Ах, як хочацца каб беларусы былі такімі ж. Але як доўга з нас вынішчалі гэтую памяць, колькі гадоў розныя заваёўнікі адвучвалі нас ад славы продкаў, як ашуквалі і падманвалі. І як трапна сказаў пра гэта Якуб Колас: “Каб у віры тэй ашукі/ знішчыць нашы ўсе сляды,/ каб не ведалі і ўнукі/ хто такія іх дзяды”. І хоць не толькі віна ў гэтым нашай нацыі, колькі бяда, але ж цяжка бачыць такі малюнак, цяжка ўсведамляць, што мы ў большасці манкурты. І ўяўляю, як цяжка было сыходзіць у лепшы свет з такімі думкамі нашым геніяльным творцам: Быкаву, Барадуліну, Бураўкіну, Гілевічу дый многім іншым.

Што я ведаю пра свае вытокі? У мяне няма шляхецкіх каранёў, і ўсе мае продкі маюць сялянскае паходжанне. Напрыклад, бацька, Міхаіл Рыгоравіч, працаваў калгасным пастухом, а маці, Таццяна Іванаўна, доўгі час – хатняй гаспадыняй – выгадавала шасцярых дзяцей (пяць хлапцоў і дзяўчынка), з якіх я быў другі па ліку, а пасля працавала даглядчыцай на ферме. Прозвішча ж маё паходзіць з суседняй вёскі Кашэвічы: адтуль некалі перабраўся ў Лучыцы мой продак. І цяпер там нямала людзей з такім жа прозвішчам. У школе часцяком даводзілася ўступаць у сутычкі з-за яго: хлопцы дражніліся – Зюзя-пузя, асабліва пасля паказаў знакамітага фільма “Кабачок трынаццаць крэслаў”. Крыўда брала – што за прозвішча? Хоць па цяперашнім часе такім прозвішчам можна ганарыцца, бо яно аднакарэннае з нашым богам Зюзем. Але дзіцячым розумам тады не ўсведамляў, што яно зусім не горшае за іншыя, хоць як толькі не перакройвалі яго пасля: Зезюк, Зюзік, Зязюк і нават Эйзюх, з-за чаго здараліся проста камічныя сітуацыі.

Прадзед Сяргей усё жыццё пражыў у Лучыцах. І хоць маё сталенне праходзіла ў 70-я гады мінулага стагоддзя, а прадзед памёр задоўга да Вялікай Айчыннай вайны, але яшчэ і ў часы майго дзяцінства хадзілі па вёсцы легенды пра яго. Прадзед меў незвычайную сілу: на сабе нацягаў з лесу бярвенні і збудаваў гумно, мог падняць і несці капу сена. Распавядалі такі выпадак. Панскі аканом вырашыў падпільнаваць злодзея, што цягаў з лесу бярвенне. І лоб у лоб сутыкнуўся з прадзедам. Убачыўшы, што чалавек нясе таўшчэзны камель адзін, аканом палічыў за лепшае ўцячы і данесці пра здарэнне пану. Пан паклікаў прадзеда да сябе і, падзівіўшыся яго магутнасці і спрыту, адпусціў з Богам. Прабабуля Варвара пражыла неверагодна доўга – 111 гадоў. У бабуліным куфры я знайшоў дакументы, дзе значылася, што яна нарадзілася ў 1855 годзе, а памерла ў 1966-м. Зноў жа, дурань быў – не захаваў іх. Пазней старэйшы брат знасіў старую хату, а з ёю згінулі і дакументы, і ўнікальны драўляны ложак, і паточаны шашалем куфар ручной работы. Мой бацька расказваў, што ўзімку прабабуля хадзіла басанож: абмяце снег венікам з ног ды йдзе ў хату.

Яе дачка, мая бабуля Алена, памерла на 103 годзе жыцця (1890-1993). Таксама вызначалася нядрэнным здароўем: па сведчаннях бацькі і маці да сямідзесяці год мела ўсе свае зубы, ніводнага дня не ляжала ў бальніцы, а сівізна тады ледзь-ледзь прабівалася. Хоць жыццё яе не песціла: муж памёр адразу пасля вайны, адна гадавала дзяцей. Бабуля нарадзіла семярых,

а да сталых гадоў дажылі трое. Пасля ў яе знайшлі нейкае пацямненне ў лёгкіх, паклалі ў бальніцу. Падлячыўшы, непісьменнай і цёмнай бабулі нагаварылі розных жахаў, забаранілі есці нейкія прадукты, у нечым абмежавалі, выпісалі нейкія рэцэпты. А яна свята верыла ў афіцыйную медыцыну і стала зводзіць сябе living рознымі лекамі. Памятаю, як пасля пенсіі ішла ў аптэку і купляла лекі: гэтыя ад шуму ў галаве, гэтыя ад жывата, гэтыя ад болю ў грудзях і гэтак далей. Нядзіва, што літаральна за некалькі год яна падарвала сваё здароўе рознымі таблеткамі ды мікстурамі. Але і пасля такога эксперыменту над сабой пражыла яшчэ больш за дваццаць гадоў. Была яна вельмі ашчаднай, калі не сказаць болей. Жыла ў сваёй старой хаце, без электрычнасці. На маленькую пенсію ў дваццаць восем рублёў купляла толькі лекі, хлеб, локшыну, цукар і гарбату, і ўмудралася яшчэ адкладваць грошай у куфар. Цалкам непісьменная, грошы, канечне, падлічыць магла. Нярэдка мовіла бабуля словамі з той, дарэвалюцыйнай, эпохі, такімі, як карэц (кубак), зелязняк (рыдлёўка), чарапок (чыгунчык), а ў памяці адклаліся яе праклёны, ужытыя падчас сваркі з суседкаю Лявоніхаю: “Учарней твая хата”, “Каб тваё котлішча ўкалела”. У хаце, як у музеі – стары, драўляны, паточаны шашалем і гадамі стол, уцямнелая лава, страшэнна скрыпучы ложак, вялізны куфар, печ, газнічка, а па сценах, на цвіках, розныя паштоўкі, абрыўкі малюнкаў і кінаафіш. Спаць клалася з курамі. Тэлевізар яна не любіла, не разумеючы, як там могуць гаварыць або танчыць людзі. Памятаю, як яна бараніла мяне ад раззлаванай маці. У шэсць гадоў разам з такімі ж, як і я, сябрамі-шкоднікамі сцягнулі човен дзеда аднаго з маіх сябрукоў. Адплылі на возеры ад берага на некалькі метраў і перакуліліся. Плаваць не ўмелі, але, хоць і нахлёбаўшыся вады, неяк здолелі выбрацца. Баючыся, што дома пападзе ад маці, пайшоў сушыцца да бабулі. Але ў вёсцы нічога не схаваеш. Калі ўгневаная маці заляцела да бабулі, я хаваўся на печы, і ёй прыйшлося бараніць мяне, прыняўшы большасць удараў дубцом на сябе.

Пра дзеда Рыгора ведаю толькі тое, што ён памёр адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны – у 1945 годзе. Казалі, што падчас службы ў войску яшчэ ў царскай арміі граў у аркестры на трубе. Яго сякія-такія музычныя здольнасці перадаліся ў нейкай ступені і мне. А памёр з-за таго, што яго моцна пабілі немцы з паліцаямі. Нехта з аднавяскоўцаў данёс, што яго старэйшы сын – камуніст, афіцэр Чырвонай арміі. Калі яго схапілі, мая бабуля нейкім чынам змагла сабраць сякі-такі выкуп з рэчаў, грошай, прадуктаў і пайшла да немцаў. Дзеда ёй аддалі, але на той час ён ужо быў моцна пабіты. Пракачаўшыся пасля пабояў нейкі час, ён сканаў.

Пра продкаў па лініі маці ведаю менш. Маці нарадзілася і жыла ў вёсцы Латэўка Іўеўскага раёна. Сёння такой вёскі ўжо няма на мапе. Дзеда Івана і бабулю Кацю не памятаю, яны памерлі, калі мне не было і пяці год. З расказаў ведаю, што палякі загрэблі дзеда ў жаўнеры, і яму прыйшлося ваяваць з Саветамі. Быў паранены, адно лёгкае яму прастрэлілі, і таму са здароўем меў праблемы. Асабліва цяжка жылося ім пасля 1945 года. Як і ўсіх, іх абклалі неймавернымі падаткамі. Каб выжыць, дзед стаў гнаць самагонку, а потым вазіў праз Нёман у Любчу (гэта Навагрудскі раён) на продаж. Дзед спадзяваўся, што за жанчынамі пільна сачыць не будуць, таму грэлку з самагонам насіла мая мама. Але міліцыянты яе ўсё роўна злавілі і сурова пакаралі: двума гадамі турэмнага зняволення. Сядзела яна па іроніі лёсу ў Навагрудскай турме, якая знаходзілася на тэрыторыі

сучаснага РАУС, дзе давялося паслужыць мне і майму малодшаму брату. Праз год маці выпусцілі.

Цяжкія выпрабаванні выпалі на лёс маіх дзядзькоў па бацькавай лініі, яго родных братоў Паўла ды Івана. Дзядзька Павел, які нарадзіўся ў 1919 годзе, скончыў ветэрынарны тэхнікум, быў прызваны ў Чырвоную армію, дзе атрымаў званне малодшага лейтэнанта і пасаду ветурача ў артылерыйскім дывізіёне. Паспеў паваяваць у фінскай кампаніі, пасля пачатку Вялікай Айчыннай вайны апынуўся каля Севастопаля. Паводле расказаў сына дзядзькі Паўла, якія ён у сваю чаргу чуў ад бацькі, дывізіён кінулі ў бой непадрыхтаваным. У першым жа баі яго разбілі ўшчэнт. Непрытомны і паранены дзядзька Павел трапіў у палон. Праўда, нейкім чынам ён паспеў схаваць партбілет і сарваць афіцэрскія шпалы, чым выратаваў сабе жыццё. Тры разы ён уцякаў з палону, два разы быў злоўлены і жорстка збіты, і толькі трэцяя спроба аказалася ўдалай. Але свае, як можна здагадацца, яму не паверылі. Вырак – штрафбат. Там яму, можна сказаць, пашчасціла: у першым жа баі быў цяжка паранены. Пасля выздараўлення вярнулі званне, а потым і партыйны білет. Прайшоў усю вайну, яшчэ некалькі разоў быў паранены. Пасля вайны яго накіравалі працаваць ветурачом у Іўеўскі раён, дзе ён пазнаёміўся з фельчаркай-акушэркай Зінаідай, таксама членам партыі, і яны пабраліся шлюбам. У 1949 годзе ў маладой пары нарадзілася двойня, хлопчыкі, ім выдзелілі дом на хутары каля вёскі Дуды. На той час у лясах туляліся тыя, хто не прыняў савецкую ўладу і змагаўся з камуністамі. Спачатку сям'ю не чапалі – усё ж такі медыцынскі работнік, але неяк улетку хата загарэлася. Усе дзверы і вокны былі зачынены знадворку. Дзядзьку Паўлу ўдалося выбіць акно. Яны ўсе ўратаваліся, спалоханая цётка Зіна пабегла з малымі да бліжэйшай вёскі. Калі ўцякалі, малыя моцна прастудзіліся, а лекаў не было, і немаўляты памерлі. Пасля ў сям'і Паўла і Зінаіды нарадзілася яшчэ трое дзяцей.

Дзядзька Іван нарадзіўся ў 1924 годзе. Пасля вызвалення Беларусі яго адразу ж прызвалі на службу. Трапіў у танкісты. Пасля некалькіх месяцаў армейскай навукі маладога танкіста накіравалі на перадавую. Паваяваў ён нядоўга. У адным з баёў у танк трапіў фашысцкі снарад. Загінулі ўсе, акрамя дзядзькі Івана. Напаўабгарэлы і непрытомны, трапіў у шпіталь, а дахаты паляцела "пахаванка": на месцы не разабраліся і памылкова залічылі яго ў нябожчыкі. Дзядзьку Івана адвезлі ў шпіталь аж на Урал. Стан яго быў вельмі цяжкі, моцна абгарэла спіна, і нейкім чынам там яго зноў прынялі за мёртвага, адправіўшы ў Беларусь другую пахавальную. Бабуля выплакала ўсе вочы. Лячыўся ён доўга, каля года, і не мог дачакацца, калі ж вернецца дахаты. Не ведаю, чаму ён не пісаў лістоў, але калі вярнуўся дахаты – яго не чакалі. Дзядзька Іван прайшоў 30 кіламетраў ад станцыі Пціч і ўвайшоў у вёску ўначы. Ён пастукаў у вакно, бабуля спыталася: "Хто там?" Радасны, ён адказаў: "Гэта я, твой сын Іван", – на што бабуля не стала адчыняць незнаёмцу і адказала: "Не здзекуйся з мяне, чалавеча, мне і так цяжка, мой сын загінуў. Ідзі адсюль". Дзядзька Іван спрабаваў нешта даказаць, але бабуля заплакала ды стала гнаць яго, баючыся выйсці на вуліцу. Ён сам заплакаў і павярнуў назад. Бабуля ўсё ж такі нешта адчула, выскачыла з хаты і дагнала яго ўжо на сярэдзіне вёскі. Пазней ён вывучыўся на ветэрынара, як і старэйшы брат, і да пенсіі працаваў па спецыяльнасці ў Іўеўскім раёне.

## Дзяцінства далёкі свет

Памятаць сябе пачынаю недзе з трох-чатырохгадовага ўзросту. Першы ўспамін: бацькі недзе паехалі, а са мною і братам засталася бабуля. Восень. За вакном калышуцца чорныя цені дрэваў, глуха шуміць вецер, бабуля корміць мяне крупнікам – забеленай малаком пярлоўкай. Пасля я ляжу ў ложку, і галіны дрэваў падаюцца страшнымі чорнымі веліканамі, што стукаюць у шыбіну. Мне страшна, я хачу закрычаць і заплюшчваю вочы. Страх праходзіць, я непрыкметна засынаю.

У памяць уплятаюцца і асобныя моманты з таго ўзросту: цёмны і халодны чыгуначны вакзал у Лідзе падчас паездкі ў Іўеўскі раён; пачак пячэння ў вагоне; спадарожная машына, у якой падмоклі нашыя рэчы ў кайстры; гукі вяселля і плач п'янага мужчыны, які згубіў сваю флейту... Помніцца, як у чатырох-пяцігадовым узросце мяне моцна напалохалі і пашчыпалі нашыя гусі. Гусак прыціснуў мяне да хлява і сваёю моцнаю дзюбаю балюча шчыпаў за скуру, гусі гагаталі, а я плакаў. Потым не мог спакойна спаць, мяне павялі да суседкі, бабулі Варвары, выбіраць пярэпалах. Лячэнне дапамагло. Увогуле, трэба адзначыць, што пра альтэрнатыўныя метады лячэння цяпер вядома шмат, а тады гэтая з'ява была маларапаўсюджаная. Успомніў я пра гэта з той нагоды, што такім жа чынам мне аднойчы дапамагла родная бабуля. Мы, дзеці, увабраліся ў калгасную сціргу і распачалі там гулянку, разваліўшы верх і раскалашмаціўшы покрыва. У гэты час пад'ехаў старшыня калгаса, якога мы вельмі баяліся, ды пагнаў нас. Са страху скочыўшы з вышыні, я вывіхнуў нагу. Скуголячы ад болю, як шчанюк, кінуўся наўцёкі. Дахаты пайсці пабаяўся, ведаючы, што атрымаю на арэхі, таму падаўся да бабулі. Нага балела так, што ледзь мог ступаць на яе. Бабуля паспачувала, потым пасадзіла мяне на лаву і ўзялася нешта шаптаць. І, о цуд: цягам некалькіх хвілін боль суняўся, дахаты я пайшоў упэўненым крокам.

Далей успамінаецца маё шкодніцтва – малым я лез, як кажуць, ва ўсе шчыліны. Садкі ў вёсцы адсутнічалі, бацькі нашы галавы не падымалі з-за работы, таму дзятва гойсала па ўсім наваколлі. Памятаю, як, гуляючы трохражковаю матыкаю (у нас іх называлі капаніцамі), наскрозь прабіў руку суседскаму хлопчыку. Спалохаўшыся, кінуў яго ў двары і даў лататы. Спачатку хаваўся ў кустах каля вясковага клуба, а калі сцямнела, перабраўся ў свой хлеў. Бацькі шукалі мяне па ўсёй вёсцы і не знаходзілі. Недзе пад поўнач бацька здагадаўся ўзлезці на сена, дзе і напароўся на мяне. Тады мяне не адлупцавалі, напалохаўшыся самі. Шасталі мы ў калгаснай кукурузе і сціртах з саломаю, гуляючы ў хованкі, а нас ганяў старшыня. За гэта таксама перападала. Потым пайшла забава з самапаламі, з якіх мы бабахалі па ўсёй вёсцы, палохаючы сабак і катоў. Але аднойчы, калі самапал узарваўся ў руках майго аднагодкі Васі, яму добра-такі развярнула руку, мы напалохаліся і закапалі самапалы ў зямлю. Увогуле, той узроставы перыяд у пяць-дзевяць год запомніўся тым, што я гуляў вольна, шкоднічаў, як толькі мог, аж пакуль мяне не запрэглі ў работу. І на той момант бацькі лічылі, што па мне турма плача. Выправілі мае паводзіны кнігі і праца, але пра гэта ніжэй.

Ужо даўно мы са старэйшым братам Сяргеем (ён старэйшы за мяне на два гады) любім і шануем адзін аднаго, а тады – у пяці-васьмігадовым узросце – біліся як зацятыя ворагі. Неяк ён кінуў у мяне бляшанкай ад

кансерваў і рассёк да крыві галаву. Яго адлупцавалі. Праз колькі дзён мы зноў пабіліся, і я, нядоўга думаючы, шаснуў нажом яму па лобе. Адлупцавалі мяне. Так мы і хадзілі з тыдзень – два байцы з перавязанымі галовамі. А недзе ў дзесяцігадовым узросце, калі бацька быў на працы, маці пайшла ў краму, мы зноў пабіліся. Брат быў хлопцам дужым, моцнага целаскладу, і мне нічога не заставалася, як ратавацца, выскачыўшы на вуліцу. А выбег я з хаты на снег босы, толькі ў адной кашулі і нагавіцах. Раззлаваны брат раз-пораз выглядаў з дзвярэй і крычаў:

– Толькі вярніся – прыб'ю!

Так я і стаяў на вуліцы, як бусел, падымаючы і грэючы то адну нагу, то другую, аж пакуль не вярнулася маці.

Курыць пачаў разам з ім – мне было на той час недзе год з пяць-шэсць. Смалілі, канечне, употайкі, хаваючыся, але ўцягнуліся і курылі цягам часу па-даросламу. Мы хаваліся, як маглі: пасля курыва рукі націралі палынам, елі яблык, а зімою снег. Бацька наш курыў "Памір" і "Прыму", і мы пацiху бралі з яго запасаў, якія ляжалі ў шафе. Калі добра ўжо ўцягнуліся, бацьку дактары забаранілі курыць – з'явіліся праблемы са здароўем. І нам прыйшлося туга. Купіць маглі і ў краме: маўляў, для бацькі, але кішэнных грошай ніколі не мелі. Даводзілася ісці шукаць ды збіраць бутэлькі, за якімі было шмат іншых ахвотнікаў. Аднойчы брат, як старэйшы і хітрэйшы, падбухторыў мяне ўкрасці цыгарэты ў краме. Я павінен быў купіць пачак вафляў за дзевятнаццаць капеек, а за кашулю запіхнуць некалькі пачак цыгарэт. Але злодзеем я аказаўся няўдалым, на касе мяне адразу ж "накрылі". Прадаўшчыца накруціла вушы ды выгнала на вуліцу, а праз гадзіну мама ўсё ведала. І ледзь толькі я ступіў у свой двор, мяне чакала такая лупцоўка, што я запомніў яе на ўсё жыццё. Курыць я кінуў у дзесяць гадоў, калі мяне напужаў малюнак у падручніку "Прырода", дзе былі намаляваныя лёгкія здаровага чалавека і курыльшчыка. Гэта мяне ўразіла настолькі, што я рашуча адмовіўся ад цыгарэтаў. Потым не раз узнікала спакуса, але я болей так і не смаліў.

Усё ж такі добра, калі вёска стаіць на рэчцы – раздолле для дзятвы, таму ўвесь вольны час мы праводзілі каля вады. Плаваць я навучыўся недзе год у дзевяць-дзесяць. Адбылося ўсё празаічна. Калі я падышоў да дарослых хлопцаў і папрасіў навучыць плаваць, хтосьці з іх паклікаў мяне і спіхнуў з парома ў рэчку за некалькі метраў ад берага. Спалохаўшыся, я дзіка завішчаў, замалаціў рукамі і нагамі, крыху наглытаўся вады, але даплыў да берага. З таго часу пацiху стаў плаваць "па-сабачаму", а праз некалькі год асвоіў розныя стылі. Праўда, перад гэтым два разы маё жыццё ледзь не абарвалася. На той час пантонны мост каля вёскі патануў, таму для пераезду на другі бераг зладзілі паромную пераправу. Каля правага берага ўлетку было мелкавата, дарослыя хлопцы плавалі на левы бераг, каб ныраць. Не навучыўшыся яшчэ добра плаваць, сабраўся за імі і я, але хутка выбіўся з сіл. Стаў крычаць, клікаць на дапамогу, але ніхто не звяртаў увагі: мы, дзеці, часта любілі вось так, клічучы на дапамогу, жартаваць на рэчцы. Памятаю толькі, што пайшоў на дно і ўжо стаў губляць прытомнасць, як нехта схапіў мяне за валасы і пацягнуў на бераг – гэта быў старэйшы брат Сяргей, які зразумеў, што я не жартую. Другім разам выпадкова "з дапамогаю" сябра зваліўся ў канаву і загруз нагамі ў гліне. Выдраць ногі не атрымлівалася – я запанікаваў, стаў грэбсціся з усіх сілаў і нейкім цудам выбраўся. Пасля з гадзіну ляжаў на беразе, адплёўваючыся ад вады ды адыходзячы ад шоку.

Калі мы, браты, трохі падраслі, на нас ускляўся абавязак нарыхтоўкі дроў на зіму. Старэйшаму брату Сяргею мінула тады гадоў дванаццаць, я меншы на два гады, а астатнім і таго меней. Але за лета, з дапамогаю пілы і сякеры, мы нарыхтоўвалі пяць трактарных прычэпаў, потым так жа ўручную пілавалі, калолі і складалі. Працавалі старанна, як мурашы, таму нярэдка на вёсцы казалі:

– Але ж і гарапашныя дзеці ў Зізюка.

Мы, дарэчы, і сапраўды ўсе прабівалі дарогу самі сабе, бацькі нічым дапамагчы не маглі бо грошай не мелі. І выходзіла нешта падобнае, як у вышэйпамянёным рамане Анатоля Прыстаўкіна: “Где-то, где-нибудь, в щёлочке, трещине, ямке случайной застрянем... прорастём былинкой, крошечной бесцветной ниточкой картофельной...” Але ж неяк прараслі, неяк уладкаваліся.

Адно шкада: дзяцінства сыходзіць хутка. Яркай іскрынкай, сполахам маланкі прамільгне яно і згубіцца на прасторах жыцця, застаўшыся ва ўспамінах салодкім прысмакам кароткага шчасця, дзе самая большая крыўда – любое няспраўджанае жаданне, якое забываецца ўжо назаўтра. Чалавек расце, развіваецца, дзіцяці на пяту наступае падлетак, у патыліцу якому дыхае юнак... Ад дзяцінства застаюцца толькі салодкія ўспаміны і жаданне як мага хутчэй уварвацца ў дарослае жыццё. І толькі значна пазней чалавек пачынае разумець, што гэта была ці не самая лепшая пара ў яго жыцці.

## Пра пастухоўства, бацьку і не толькі

Такое ж дзяцінства, як і ва ўсіх, было і ў мяне, толькі гэты перыяд скончыўся крыху раней. Ледзь мінула тры класы сярэдняй школы, як у летнія дні ў адрозненне ад сваіх аднагодкаў мне давялося пасвіць калгасны статак, а гэта вам не радоўку, калейку па-нашаму, адбыць раз у месяц. У нашым калгасе ў пастухоў не было замены – яны як займалі статак вясною, так і хадзілі за ім аж да таго часу, пакуль яго не паставяць на зімовае ўтрыманне, без выхадных і адгулаў, дзень у дзень. А трэба было рабіць яшчэ і хатнія справы: накасіць на карову, нарыхтаваць дроў на зіму ды шмат чаго іншага. Да таго ж бацька пачаў хварэць на сэрца і, каб не губляць заробак, ставілі пасвіць то старэйшага брата, то мяне. Бывала, брат ішоў з бацькам на касьбу ці ў лес. Такім чынам, ужо з дзесяці гадоў я самастойна стаў пасвіць статак у сто дваццаць галоў. На той час каровы пасвіліся на лугах ці па лесе, пашы для жывёлы не выдзялялася. Падымацца трэба было ў пяць гадзін раніцы, ісці на калгасны двор і гнаць каровы на пашу. Потым, недзе каля адзінаццаці, статак адганяўся на дойку, кароткі перапынак – і зноў на пашу. Вечарам каровы вярталіся недзе а дзявятай гадзіне. Вячэра, кароткі адпачынак, сон, ранні пад’ём. Цяжкавата падшыванцу, канечне, падымацца так рана, але якія незабыўныя раніцы застаюцца з табою, калі назіраеш за абуджэннем прыроды, якая прыгажосць на лугах і на былым балоце была ў такія хвіліны. Сам-насам з прыродаю, а навокал усё прачынаецца з сонейкам – і маленькая ялінка на жоўтым пясочку, і пахучыя кветкі чабору ды святаянніку, і шматлікае птаства, але і камары з аваднямі. Табе застаецца толькі хадзіць, назіраць і марыць – дзеля фантазіі і летуценняў часу безліч...

Але тады мне, канечне, было вельмі крыўдна, што мае аднагодкі бавяць час на рэчцы, ходзяць на рыбалку, у грыбы, а я цягаюся за статкам. Неяк

аднойчы, набегаўшыся за каровамі, што ўпарта лезлі ў шкоду, знясілена плакаў, праклінаючы і кароў, і сваю пастухоўскую долю, задаючыся пытаннем: навошта мне гэта выпала? Чаму мой бацька пастух, а не механізатар ці шафёр? Прычына, вядома ж, была прагматычная: шафёрскі заробак налічваў недзе каля ста дваццаці рублёў ці крыху болей, а бацька штомесяц атрымліваў па трыста пяцьдзесят. Інакш нельга было адзець, абуць і выправіць у школу шасцярых дзяцей. Бацька адпрацаваў пастухом амаль трыццаць гадоў, прахадзіўшы ўвесь гэты час у гумовых ботах і палову тэрміну прапасвіўшы статак адзін. За сваю працу ён быў узнагароджаны медалямі "Выдатнік дванаццатай пяцігодкі" і "Пераможца сацыялістычнага спаборніцтва", а таксама ордэнам Працоўнай славы трэцяй ступені. Ужо потым, пасля майго паступлення на вучобу, пастухам сталі даваць падмену, выдзяляць пашу на полі і адгароджваць статак электрапастухом, што значна аблягчала жыццё. Памятаецца, у першыя гады бацьку было цяжка, каровы лезлі ў шкоду, адбіваліся ад статка. Без добрага сабакі прыходзілася бегаць самому. Але неяк бацьку пашанцавала, гадоў восем ён жыў як кароль: яму трапіўся вельмі разумны і добры сабака.

А выйшла так, што насупраць нас жыў старшыня калгаса. Сын прывёз яму з Мінска шчанюка ўсходнееўрапейскай аўчаркі па мянушцы Барс. Гуляючыся, той прыдушыў некалькі малых індычак. Яго за гэта адлупцавалі, малы збег і пацёгся за бацькам. Так ён прахадзіў некалькі дзён, а потым увогуле не захацеў ісці дахаты. Праз нейкі час старшыня махнуў рукою ды аддаў сабаку бацьку. Барс быў прыгожым, разумным сабакам. Яго ніхто не вучыў, ім ніхто не камандаваў, ён сам дайшоў да сваіх абавязкаў. Калі статак ішоў па вясковай вуліцы (а гнаць прыходзілася амаль праз усю вёску – болей як кіламетр), то ўлетку за ім цягнуўся шлейф пылу. Ісці і глытаць пыл не хочацца, а не будзеш падганяць статак, то ён расцягнецца на паўкіламетра. Дык вось Барс – толькі дай каманду "выганяй" – сам забягаў у загарадзь, сам бегаў па вуліцы за статкам туды-сюды, падганяючы кароў, сам пільнаваў, сам глядзеў, каб каровы не лезлі ў шкоду, не ўцякалі дахаты, не адбіваліся, сам займаў і гнаў іх дахаты. Пасвіць з ім – як адпачынак на курорце. Ледзь толькі пакажы пальцам, якую карову адагнаць, – ён адразу падымаўся і кідаўся ў той бок, а па камандзе "досыць, Барс" – адразу ж спыняўся. Каровы баяліся яго, як агню, бо ён умудраўся кусаць іх за нейкае далікатнае месца каля капыта. І калі Барс быў на пашы, каровы паводзілі сябе цішэй вады, ніжэй травы. Неяк ранняю вясною, калі кароў толькі выгналі на пашу, а лугі ледзь вызваліліся ад вады, сабака выратаваў бацьку ад здаравеннай і злой веснавой гадзюкі, якая накінулася на яго ў кустах. Барс паспеў у скачку перакусіць яе, але і тая ў сваю чаргу паспела цапнуць сабаку. Памятаю, як увечары бацька прыйшоў дахаты, а за ім Барс – з неверагодна ацёклаю галавою, што аж хілілася да зямлі. У вёсцы ўжо добра ведалі такога пастуха, як Барс, і па першай бацькавай просьбе з'явіўся ветурач, які ўзяўся ратаваць сабаку. Той хутка акрыяў. Пагалоска пра Барса пайшла па навакольных вёсках, да бацькі некалькі разоў прыязджалі іншыя пастухі і нават прапаноўвалі за сабаку трыста рублёў – значную па тых часах суму. Бацька, канечне, адмовіўся, ды і сам Барс не хацеў прызнаваць анікога, акрамя яго. Са старэйшым братам мы хацелі, каб ён пасвіў каровы і з намі. Дзе там! Сяргей навязваў Барса за сваю руку. Але толькі бацька адыходзіў якіх метраў на трыста, сабака кідаўся за ім і валок брата за сабою па траве –

нішто не магло яго ўтрымаць. Потым, калі бацька стаў хварэць і часта адсутнічаць, мы сяк-так (пераапранаючыся ў бацькава адзенне і хаваючы твар пад балахонам) прывучылі яго да сябе. Да таго ж Барс жыць не мог без свайго любімага пастухоўскага занятку.

Некаторыя людзі і дагэтуль сцвярджаюць, што ў жывёл няма нічога, акрамя інстынкту, а разбіраюць яны толькі нашую інтанацыю. Катэгарычна з гэтым не згодны, жывёлы, асабліва сабакі, нярэдка разумнейшыя за некаторых людзей. Кажу гэта таму, што ўспамінаецца адзін выпадак з Барсам. Неяк я гнаў кароў па вёсцы, і на Барса накінуўся невялікі руды сабака. Той узлаваўся, схапіў яго за шыю і стаў душыць нахабніка. Дзед, якому належаў той руды сабака, стаў крычаць:

– Авой, задушыць! Ратуй майго Рыжыка!

Я стаў крычаць на Барса, але той не рэагаваў. Тады я некалькі разоў ударыў яго палкаю. Барс адразу ж кінуў сабаку, павярнуўся і пабег да нашай хаты, не адзываючыся на мае воклічы. Да нашага двара было каля сотні метраў. Калі я, задыханы, забег у двор, то сабака ляжаў у будзе і не хацеў вылазіць адтуль. Тады я стаў на калені, пацалаваў яго ў пысу і сказаў:

– Прабач, Барс, я больш не буду. Прабач, пайшлі са мною.

У той жа момант Барс выбраўся з буды і пабег даганяць статак. Вось цяпер і скажыце, што сабакі нічога не разумеюць.

Жыццё Барса трагічна абарвалася пасля таго, як яму споўнілася восем гадоў. Ён не баяўся транспарту, смела бегаў па дарозе, і неяк адзін няўдалы трактарыст наехаў яму колам на лапу. Праз нейкі час на сцягне з’явілася пухліна, якая потым стала загніваць. Ветэрынар рассек яе, вычысціў, памазаў нейкай маззю і перавязаў. Але сабака ўпарта сцягваў бінт, да раны сталі лезці мухі, яна стала яшчэ больш загніваць, і ўрэшце Барса не стала. Я першы раз бачыў, як бацька плакаў. Пасля таго ён меў яшчэ некалькі сабак, але тыя і блізка не былі падобныя да Барса.

Увогуле, наш бацька доўгімі зімовымі вечарамі часта расказваў пра ранейшае жыццё вёскі, пра смешныя здарэнні і выпадкі, а некаторыя з тых момантаў я нават скарыстаў у сваіх творах. Як і ў любога чалавека, былі ў яго як станоўчыя, так і адмоўныя рысы характару. Любіў ён даваць усім мянушкі, часта вельмі трапныя, надзяліў ён гэтым і ўсіх нас – сваіх дзяцей. З-за гэтага мы дражнілі адзін аднаго і нярэдка даходзіла да сутычак. А яшчэ ён любіў чытаць кнігі, хоць і бракавала часу. Таму ён чытаў, пасучы кароў – з такім памочнікам, як Барс, можна было чытаць запоем. Мабыць, тая цяга засталася ад цяжкага і галоднага ваеннага і пасляваеннага дзяцінства, калі на адукацыю не хапала ні часу, ні магчымасці – найперш шукалі, што паесці. Запомніліся бацькавы аповеды пра тое, як яны збіралі ў полі мёрзлую бульбу ды смажылі з яе “лапонікі”; як уцякалі ад немцаў у лес і бабуля несла яго, малога, на плячах; як бабуліну хату фашысты аблюбавалі ў якасці жылля, а суседчыну – бабы Лявоніхі, як мы яе звалі па-вясковаму, пусцілі пад прыбіральню, і тая пасля вяртання ў вёску некалькі дзён цягала нечыстоты на вуліцу. Шмат чаго ўспамінаў... Граматы асаблівай у бацькі не было, аб чым ён шкадаваў, усяго сем класаў, дый тыя скончаныя з грахом папалам. Ён хацеў вялікую сям’ю, і гэта ў яго атрымалася. Пасля ён стараўся зарабіць на нас, адзець і абуць. Так, нашая хата была беднай, мы не мелі шмат з таго, што перападала ад сваіх бацькоў нашым аднагодкам, але няма на гэта ў нас аніякай крыўды – найперш мы сталі людзьмі, працавітымі і сумленнымі. Менавіта пра гэта клапаціўся

бацька. Хапіла яму пасля шасцідзесяці: цукровы дыябет, за ім ампутацыя нагі вышэй калена, лякарні, мыліцы. Няпроста прыйшлося і мне, бо так склалася, што ўсе асноўныя клопаты па догляду бацькі ўзваліў на сябе. Адным словам, адгараваў ён яшчэ і пасля пенсіі, на якой меркаваў добра пажыць. Не стала яго за паўгода да сямідзесяцігоддзя.

## Мама

Успамінаючы сваё дзяцінства, адразу разумею, чаму цяпер так скардзіцца на здароўе мама. Хапіла ёй усялякага. Позна выйшла замуж – ажно ў трыццаць два гады, першынца нарадзіла ў трыццаць тры, апошняга, шостага – у сорак пяць, калі нямала хто з жанчын ужо абзаводзіцца ўнукамі. І вось, увесь кагал дзяцей, уся гаспадарка клалася на яе плечы, бо бацька з ранняй вясны да позняй восені прыходзіў дахаты амаль зацемна. Ёй трэба было найперш накарміць усіх нас, дагледзець, потым карова, свінні, куры, гусі, агарод, бульба, парадак у хаце... Адно мыццё бялізны ды адзення рукамі, праполка агарода, а ўвосень яна адна пад лапату выбірала сорак пяць сотак бульбы! Мне цяпер і ўявіць такое цяжка. Вось таму яна, любая, так і пакутуе ад боляў. Гэта пазней мы ўсім кагалам выкопвалі ўсю бульбу ледзь не першыя ў вёсцы, дапамагалі ў хатніх справах, але ўсё гэта было потым. Дасталося ёй некалі на ферме, куды яна пайшла працаваць: там на яе напаў бык і паспеў добра-такі пакачаць, асабліва намяўшы правы бок. Пасля таго здарэння яна доўга хварэла, хоць у бальніцу так і не звярнулася.

Калі пачалася вайна, маме было дзесяць гадоў. Яна паспела пажыць пры "польскім часе", але вывучыцца ў школе не змагла, мела ўсяго чатыры класы адукацыі. Таму пісала марудна, з памылкамі, і чытала таксама не вельмі. Справа ў тым, што пасля вайны мой дзядуля не пусціў яе ў школу, а потым яна і ўвогуле паехала на заробкі ва Украіну да радні. Там адпрацавала некалькі гадоў ды вярнулася. Аднаго разу – мне было тады, мабыць, гадоў шэсць – мама пайшла ў краму, а я вырашыў зрабіць ёй сюрпрыз і вымыў падлогу ў хаце. Але толкам рабіць гэтага не ўмеў і вадзіў мокраю анучаю ўпоперак непафарбаваных палавіц. З-за гэтага на падлозе засталіся брудныя разводы. Маму, канечне, кранула такая ўвага, і яна пахваліла мяне, хоць і прыйшлося перамываць усё нанава. А калі пайшоў у школу, то штогод стараўся сабраць хоць нейкія капейкі ды купіць паштоўку і падарунак, каб павіншаваць бабулю з матуляю з міжнародным жаночым днём. А вось дні народзінаў ніяк не адзначаліся. Адзін раз толькі памятаю, як чамусьці вырашыў павіншаваць тату з днём нараджэння і на сабраныя грошы купіў яму электрабрытву. Бацька падзякаваў і расчулена дадаў:

– Дзякуй, сынок, але ж я галюся станком. Хай ляжыць.

Так яна і ляжала, чакаючы, пакуль не вырасту я ды не пачну карыстацца ёю.

Успамінаю адзін выпадак. Было гэта ў пачатку восені 1983 года. Старэйшага брата якраз забралі на службу ў войска, і я, так бы мовіць, застаўся за старэйшага на двары, бо бацька то пасвіў каровы, то ляжаў у лякарні. І пасля школы я адзін ездзіў на ровары нарыхтоўваць дровы. У лесе сякераю сек алешнік, церабіў яго ды цягаў у кучу. І калі ссякаў дзве спараныя алешыны, сякера, саслізнуўшы, трапіла мне ў нагу – я разваліў правую ступню. Прытым даволі моцна, да касці. Шуганула кроў, а я ў гарачцы не прыдумаў нічога лепшага, як дабегчы да вады ды ўсунуць

туды нагу. Скеміўшы, што так можна сцячы крывёю, кінуўся да ровара, знайшоў там кавалак дроту і перацiснуў нагу. Пасля сеў на ровар і паехаў дахаты – нага балела яшчэ не вельмі моцна. Дома нікому нічога не стаў казаць, а выцягнуў таблетку стрэптацыду, стоўк яе і засыпаў у рану, потым забінтаваў. Якраз прыйшла мама, стала плакаць, але я сказаў, што нічога страшнага не адбылося, што я толькі трохі параніў нагу. У старэйшых класах улетку я заўсёды спаў на сене і надвячоркам зноў палез па лесвіцы наверх. Але нага стала да таго часу моцна балець, я ледзь ступаў на яе. Калі ж лез па лесвіцы, то зваліўся і выцяў яе яшчэ больш. Я скавытаў скрозь слёзы, і ў гэты момант увайшла мама. Яна сама стала плакаць, зноў стала казаць пра хуткую дапамогу, а яе слёзы кроплямі ўпалі на маю нагу. Я ж зноў упёрся, зноў сказаў, што нічога страшнага са мною не адбылося, і палез спаць. Назаўтра нага балела так, што я не змог пайсці ў школу. На маё шчасце, усё ж рана стала гаіцца, праз тры дні я змог ступаць на нагу і хадзіць у школу. Рана загаілася, толькі шнар застаўся назаўсёды. Ды яшчэ застаўся ўспамін пра матчыны гарачыя слёзы, пра яе пакуты і перажыванні за мяне...



Славамір Адамовіч



...Мы былі. Мы ёсць! І пэўна ж будзем!
Хай часамі грудзі скруха рве,
не дамо імя сваё заюзаць –
як і ўчора, Беларусь – жыве!..

# Мая прыватная вайна

### *Я, НАЦЫЯНАЛІСТ…*

Я – нацыяналіст, пры тым без ніякіх
эпітэтаў памякчальных.
Няхай жа ворагу дасца ўзнакі
слова маё як меч знішчальны!
Я невыносны? А вам выносна
быць пад набрыддзю з году ў год!
Сам я жыву наўпрост, а не ўскосна:
з людзьмі – па-людску, і жорстка, дзе зброд,
збіўшыся ў зграю, свае парадкі
спрабуе нам як закон навязаць.
У адказ на гвалт я не пляскаю ў ладкі, –
паверце на слова, буду страляць.
Пакуль не позна, змоўкніце, юды,
заткніце свае гнілыя раты,
інакш ад стракатых вашых спарудаў
пакінем хіба што гайкі й балты.

Не духарыся, паяц экранны,
мінае час твой, як ні мянці...
Чуеш, капае штосьці ў ванным?
Гэта ты кранік перакруціў.

## ПАСЛЯ ІХ

*Пасля іх* будзе цяжка сваім одумам жыць, працаваць без нацяжкі і Радзіме служыць. *Пасля іх* будзе стрэсу, страху, спрэчак і слёз... Найцяжэй будзе лесу, белым целам бяроз. Бо хоць грэх на асіне плюс крывы агавор, помста прыйдзе, мой сыне, зазіраючы ў двор і да тых, і да гэтых, што нібыта за нас... *Пасля іх*, несусветных, прыйдзе волатаў час. *Пасля іх* прыйдзе воля волю згрэбці ў кулак і змагацца з нядоляй, паражыўшы бардак кругавое парукі, каб за вартае што, дык жа не, без прынукі за расейскі пятак... *Пасля іх* будзе стрэсу, будзе гвалту ў Драздах, поўны крах інтарэсаў і аншлагі ў судах... *Пасля іх* мы паўстанем альбо ляжам, як ёсць, пад расейскія танкі як адзін, ягамосць...

*7 мая 2016*

## REDIRECTING

Чым больш я жыў, тым больш хацелася: штолета прамакаць пад ліпеньскім дажджом, "а ў студзені на лыжах **па** беленькім сняжочку выраблязь няўмелыя, але такія шчырыя пасля пяцідзесяці ***па***"; чым больш гадоў, тым спешкі меней, бо жыццё зусім не мітусня, во-во, а смакаванне соладу, з якога й крупнік вам, і першы згон; Як ні плыві, а ўсё бліжэй да берага, ці сам сабой, ці дапаможа плынь, але ж так хочацца ну хоць разок яшчэ чагосьці экстрэмальна некашэрнага, пазбегнуўшы, аднак, ідэй чучхэ. Эх, расхадзі-хадзі, душа спартанская! Адкінься ўбок, пушчанскі локіс дум! Радкі мае няхай гараць пратуберанцамі і прэч з грудзей экстрапалярны сум!

## МАЯ ПРЫВАТНАЯ ВАЙНА

Без эмоцыяў, роўным голасам: быў, удзельнічаў, верш чытаў, адрасуючы нашай моладзі і – нямым тутэйшым віжам. 25-га быў жніўня я, пару кніжак сваіх падпісаў; і 12-га "паслявыбарнага" у "драздЫ" праклён дасылаў. 19-га, месяц верасень, мой апошні сталічны афронт... Больш не будзе вам паблік-ерасяў – пераходжу ў падпольны Фронт!

*Жнівень-верасень 2016*

## *СТАНСЫ ДА МАРГО*

Няма прыгоды ў тым, каб паўтарацца,
тым больш, барані бог, перапяваць
якога-небудзь Бродскага ў запале
ці там паводле Коласа шаптаць,
і то ледзь-ледзь і на кароткіх хвалях...
Таму, як і раней, скажу я ўслых
і голасам уласным як ніколі,
я ўрэжу барытонам так паддых,
што ў печках згаснуць палкія вуголлі...
Няма прыгоды пяты раз ісці
і браць удзел як-быццам бы ў абранні.
Не, лепш пакінуць іх сам-насам у трысці,
хай між сабой там шамацяць дарання.
Ігнор, няўдзел, байкот, этсэтэра...
Плывём мы ў іншы бок, мяняем галсы.
Абрыдла нам усходняя сястра
і ейныя крамлёўскія парнасы.
Нядзельным ранкам ірвану ў лясы,
тым больш калі надвор'е паспрыяе,
не трэба марыць аб няісным раі,
турбуючы сівыя валасы
на макаўцы. Лес ведае пра ўсё,
у ім ты ставіш роспісы нагамі
на мокрае ігліцы і ў імхах.
Ты будзеш праставаць у ім кругамі
і нават можаш там заначаваць,
развёўшы палымцо пад мужным дубам.
А ноччу схамянешся ты, сукубам
у сне спужаны. Кінеш трэску ў жар,
і раптам у душы аркестр трубны
зайграе маршава прэлюдыю Стажар.
Ігнор, байкот, няўдзел і да таго
падобнае – тут не бракуе словаў...
Хадземце ў лес, цудоўная Марго,
там нас чакаюць восеньскія ловы!..

*2 кастрычніка 2015*

## *ЭМІГРАНТУ-2015*

Шлях на Поўнач... Настрой дарожны...
Рух, як помнім, жыццё, ага...
Не забыць толькі дух астрожны,
водар хатняга пірага...
Не забудзеш, куды б ні ехаў,
як у прысаку бульбу пёк,

і лушчэнне лясных гарэхаў,
і бабулін у шчочку "чмок"...

* * *

Нарадзі мне сына. Ці дачку.
Можаш потым кінуць і праклясці.
Застануся на тваім кручку,
іншага не адшукаўшы шчасця...

### *НАЗІРАЮЧЫ ЗА ВЫБАРАМІ НА ЎЧАСТКУ N49*

Сёння – дзень анекдотаў.
І "выбары" – анекдот.
Хоць ты капай доты
ці прымай антыдот.
Кастрычнік. Холадна. Суха.
Няўтульна, некамільфо.
Мне кажуць: жыві духам,
а хочацца – сырам "рашфор".

*10.10.2015, Мар'іна Горка*

### *ЗАМЕСТ НАВАГОДНЯГА ПАЖАДАННЯ СУАЙЧЫННІКАМ*

Мы былі. Мы ёсць! І пэўна ж будзем!
Хай часамі грудзі скруха рве,
не дамо імя сваё заюзаць –
як і ўчора, Беларусь – жыве!..

### *ЧАТЫРЫ ПАРЫ ГОДУ*

Над станцыяй Пухавічы – аблівака.
Сябра пайшоў, яго больш няма,
настрой няясны і, муха-бляха,
як абрыдла гэта зіма!
А прыйдзе вясна – і зноў няпруха:
за тыдзень змые няўлежны снег,
у кабаку атрымаеш у вуха,
у пастарунку знойдзеш начлег.
Лежачы на турэмнай "сцэне",
складзеш сцэнарый наступных дзён:
падняцца на грошы, жыць на працэнты,
апранацца ў бавоўну, сукно і лён.
Пакуль тое-сёе, глядзіш, і лета,
рабі што хочаш, калі не лох...
Нарэшце ў жонкі гатовы катлеты:

“Ідзі, – кажа, – есці, каб ты здох!”
У жартах-сварках перыяд летні
адбыў як “суткі” за распіццё.
Настала восень, і непрыкметна
тупа і ціха скончыў жыццё...

### *РУСКІ МОР*

“Рускі мір”? Не, “рускі мор”...
“Гэй, выводзь усіх на двор.
Стаў да плоту, зараджай,
хай надыдзе красны май.
Заўтра вернем “отторгнута”
Каліноўскім і Траўгутам,
надашлём казацкіх бацяў,
рассяліўшы ў кожнай хаце
нашых слаўных казачкоў
і гуньдзяеўскіх тарчкоў.
І пайдзёць пісаць губерня
ў беларускіх гарадах!
Без крамля ніхто не перне,
а як што, дык па мардах!
“Рускі мір” такая штука:
хто не з намі – той памры!..”
Вось такая вось навука,
чарка-скваркі спадары!
“Рускі мор” ужо ў дварышчы
з плеч скідае “калаша”,
хутка з горла кроў засвішча...
не з расейскага – з твайго,
бо адрокся ты свайго
каранёвага спрадвеку,
што даецца чалавеку
аднаму і назаўсёды –
біцца за свае свабоды
да калецтва ці да смерці,
ці да рэшты пераможнай
пад Віцебскам і Каложай,
пад Бярэсцем, Ізяславам
хоць да страты, ды са славай!..
Дбай жа, д’ябал цябе рэж,
пра сваё, і гэты верш
слібізуй і ўдзень, і ўночы
аж пакуль не змружыш вочы.
А як раніцай прачнешся
можа дух твой і ўваскрэсне...
Раптам выпрастаўшы плечы
ты пазбавішся ад “речи”,

закулдыкаеш па-свойму,
запраўляючы абойму...
Гэтым разам назаўсёды
зразумеўшы кошт Свабоды...

## ЗАМЕСТ КАМЕНТАРА ДА ФОТАЗДЫМКАЎ

Ён любіць сабачак, гартуе цела,
страляе з пістолі этсэтэра...
І каб Беларусь канчаткова знямела,
сябе ён гартуе для RSHA.
Аднак я веру: не пройдзе вораг,
калі мы ўспомнім пра гонар свой.
І каб не пабачыць прышэсця гора,
за Беларусь паўстанем гарой!
Вырвем з сябе шкадавальны пафас,
а следам – прадажны варожы язык!
Бо нават далёкія папуасы
бароняць права саё на крык.
А мы не будзем крычаць і енчыць,
мы зробім ціха работу сваю...
І рэшта зграі варожай укленчыць
перад Радзімай, якую люблю!

*Мар'іна Горка, 18.10.2016*

## ВІКТОРЫЯ

З дрэў зрывае апошняе лісце
апантаны нарвежскі вецер...
Ты прыйшла з палюбоўнай місіяй,
у вітальні скінуўшы берцы.
У пакоі ванным старанна
развіталася з макіяжам
і сказала замест прывітання:
"Кава потым. Пойдзем прыляжам..."

*24 кастрычніка 2016*

## МАНАЛОГ ЗЕВЕСА НА ГАРЫ ПАРНАС

Мяне няма, бо я даўно не з вамі, хто крочыць моўчкі шчыльнымі шыхтамі, каб сведчыць пра сябе, што вы – рабы без гонару, без годнасці... – абы як ёсць цяпер, і надалей было – квітнела поскудзь і пышнела зло... Мяне няма і не шукайце, годзе! Што мне рабіць у высмяглым народзе, якому даў усё, што можна даць, а ён, народ, спяшае ўсё прадаць? Я даў жыццё вам і

назваў людзьмі. Я вас вучыў навуцы пераможнай, а вы пайшлі за д'яблам сяміроржным... Не варты вы маіх дажджоў і ліўняў, двуногі зброд прадажных і ліслівых!.. Яшчэ крыху – і зрыне кары неба, і кроўю вашай набрыняе глеба, калі настане момант умалоту і я вазьмуся за сваю работу. О вырадкі! Пустое семя творцы! Вы здатныя адно служыць на шворцы, і то кароткай і наскрозь гнілой... Але не здатны чалавечы лой парваць яе і выйсці на свабоду, і знішчыць у сабе раба прыроду!.. Дык знішчу я вас – так, як і стварыў, шлях свой пачаўшы ад Святой гары!.. Апошні шанец я даю вам, людзі, – памерці ў славе альбо жыць у брудзе і не ўздыхнуць ніколі на ўсе грудзі...

*8 верасня 2016*

## *РАДЗІМЫ МНОГА НЕ БЫВАЕ*

Радзімы многа не бывае.
Яе заўсёды не хапае
то за мяжой, то за работай...
Глядзіш, а хтосьці выбраў соты
з тваёй пчалінай гаспадаркі,
пакуль ты чухаўся й стыдаўся,
і сто разоў зрабіць баяўся...
Радзімы многа не бывае,
тым больш такой блізкой да раю.
Дык не глядзі, не лыпай вокам –
рабі, што трэба, крок за крокам!..

* * *

Залева над Мар'інай Горкай
і Перуновы грымоты
дзень мой зрабілі нягоркім,
я выйшаў нарэшце са скволу,
падставіўшы цела пад кроплі,
пад градабойны лівень...
Град нагадаў мне пра вартасці шроту
для абароны ўласнае нівы...

## *ДОЖДЖ У ЧЭРВЕНІ*

Над Мар'інай Горкай – лівень!
І лёгка целу й душы!
Я чую, як дыхаюць нівы
уздоўж старадаўняй шашы...

Я ведаю, дзесьці валошкі
цвітуць у пяшчотных ільнах
і натапырвае рожкі
слімак на рачных чаратах.
Зьвіняць лугавыя званочкі,
і смолка на сухадолах,
нібы дзявочыя смочкі
пад навальнічны сполах,
глядзіць вішнёвымі кветкамі
выключна толькі ўгару...
Чаканым дажджом сагрэты
нявымаўленым гару...

*21 чэрвеня 2016*

### *ПАВЕДАМЛЕННЕ*

Дзень добры! А можа сустрэнемся
і я падару вам прыемнае?
Што-небудзь такое цёплае
жывое і нават гарачае,
калі пастарацца без хітрыкаў,
а проста каб з асалодаю,
каб добра было абодвум?..
А потым, пасля абдоймаў,
без лішніх словаў і рэплікаў
мы абмяняемся кодамі і пазыўнымі простымі,
аднак толькі нам вядомымі,
напрыклад, восем нуль два дзевяць
дзевяць сямнаццаць шэсць
і тры разы тры... Звані!

Уладзімір Міхно



...смерць

не бывае прыгожай...

# УКантакце

***Апавяданне***

*Я – чараўнік. Вось запалю ў печы, буду глядзець на Агонь і з ім размаўляць. Ха-ха! Я буду размаўляць з Агнём. Не верыце? Ваша справа. Мы будзем не проста размаўляць, мы будзем тварыць з ім жыццё, валадарыць лёсамі. А лёс непрадказальны, і куды ён паверне, не ведаем пакуль ні я, ні мой сябра. Такая вось цікавая ў нас гульня. Шкада, у мяне сапсаваўся фоцік, я папрасіў бы свайго сябра Агня зрабіць сэлфі і выклаў бы яго ў Instagram. Шкада, у мяне няма сёмага айфона ці хаця б iPhone 6 and 6 Plus. Я зрабіў бы відэа і змясціў бы яго ў YouTube. Кравец без ботаў. У старых чараўнікоў не бывае новых айфонаў. А мой дагістарычны LG Recording, на якім размаўлялі, мабыць, яшчэ дыназаўры ў эпоху ранняга палеаліту, умее толькі папярэдзіць будзільнікам, каб гаспадар не заснуў ля Агню і не забыўся закласці комін, калі дагарыць у печы.*

*Такім чынам, я іду рабіць жыццё... Бярэмца сухенькіх паленцаў, два шматочкі пакамечанай газеткі заміж сма-*

*ляка, якога зараз не так проста знайсці, запалка з карабка фірмы "Барысаўдрэў", жоўты шнарык на карычневай палосцы карабка. Яркая іскрынка, якая вось-вось народзіць агеньчык... І – шызы дымок безнадзейнасці. Чорны абвуглены край запалка скруціўся ў свінячы хвосцік, засведчыў першую жыццёвую няўдачу. Вось табе і чараўнік!*

*Другі дубль... Зноў яркая ўспышка. На гэты раз майму агменьчыку пашанцавала болей. Вунь ён ужо дакрануўся да краю газеткі, вунь з'еў яго, адразу ж падужэў-павесялеў, расправіў празрыстыя яркія крыльцы. Захацелася яму жыць, перакінуўся на сухенькую лучынку, спрытна затанцаваў па ёй, пасвятлела ў печцы і на душы...*

***

...На душы было пуста. Аржавень насіў гэтую пустэчу вось ужо цэлы тыдзень. Ён і сам яе баяўся, сам не мог сабе растлумачыць, чаму так гнятліва, чаму так пякуча смылела душа. Смылела-дагарала, як той акурак, які ён затусаваў во ў пусты карабок, і той, змагаючыся за жыццё, усё яшчэ не хацеў патухаць, тлеў, задыхаючыся без паветра ў сваім жа дыме ў беспрасвецці шчыльна закрытага карабка. Хлопец і сам адчуваў сябе выкінутым недакуркам. А карабком была хата, вёска, Сусвет.

Скінуў боты на ганку, кінуў ля парога брудныя шкарпэткі, абыякава зірнуў на ногі, яны з агароду былі чарнейшыя за боты. Гэта ж вам не ў горадзе, дзе купаюцца ў душы па пяць разоў на дзень, а пасля яшчэ асвяжаюцца дэзікам. Камусьці трэба і пасмярдзець у гэтым жыцці. Пахадзіце хаця раз за плугам – і які вам дэзік дапаможа! Пофік! Толькі мелькам зірнуў на ногі і хуценька, каб не бачыць, уступіўся ў шлёпкі. Заваліўся на канапу наўпрост у шлёпках, чаго ніколі раней не дазволіў бы сабе. Пофік! Грукала ў галаве, як у малатарні. Млявасць і апатыя працінала ўсё цела. Хлопцы ішлі купацца, клікалі – не пайшоў. Было ў іх з сабою тры "дзвюшкі" півасіка і "белачка" на трох. Зірнуў на "белачку" і аж затросся ад агіды. Вось ужо цэлы тыдзень не мог на яе нават глядзець. Перабраў. Сябрукі яго проста не пазнавалі. Аржавень – душа любой кампаніі, хохма хадзячая... У смаляной кабылы бабла выпрасіць, хоць бы сабе і з самалёта скокне ў возера, нырне на любой глыбіні. Ды яшчэ ў паветры такія фінты накруціць... А тут раптам... Папрасіў "дзвюшку", пракаўтнуў проста з горла два балючыя глыткі халоднага піва, трэці не палез, аддаў бутэльку, моўчкі павярнуўся і пайшоў. Хлопцы не сталі дапытвацца, не здзівіліся нават, толькі правялі доўгім шкадоблівым позіркам, як нябожчыка. Яны здагадваліся...

***

Адзін шчаўчок – і цэлае жыццё. Выскачыла адзіначка – хтосьці дадаўся ў сябры. Ці мала хто! УКантакце ў сябры не дадаюцца хіба лянівыя. Зрэшты, у Журліка было іх не так яшчэ шмат, хай сабе папаўняюцца для калекцыі. Толькі нядаўна мамка нарэшце падарыла яму на днюшку нармальны айфон, хаця раз за шаснаццаць гадоў штосьці нармальнае. А то ўсё пашы, пашы, як тата Карла, і век тае працы не пераробіш. То на агародзе, то ў полі, то на ферму бяжы ёй дапамагай, а ўсё мала, а ўсё кепска, а ўсё лайдак, абібок і "як татка, будзеш алкаголікам". Словы, між іншым, таксама матэрыялізуюцца...

Пстрыкнуў курсорам па адзіначцы – выплыла старонка. Ага, нейкая краля, падпісана "Надзея ў Капелюшы". На аве засвяцілася дзяўчо. Беленькая, чысценькая, мусіць жа, гарадская, сапраўды ў капелюшы. Капя-

люшык-такі ёй да твару. Такая нават ў жыцці рэальным і не зірне на цябе, плужка, цыбатага, як журавель, з доўгім кірпатым носам. Журлік тут жа падбег да люстэрка, пачаў уважліва сябе вывучаць, дакалупваўся да кожнай радзімачкі. Нават кашулю задраў і адчайна паспрабаваў затрымаць "прэс". Грудак – як пральная дошка, адны рэбры. Добра, што біцэпсы крыху паспеў накачаць у трэнажорцы. І фэйсам, праўда, нічога сабе, чуб вунь стаіць, віхры ўюцца, пушок пад носам гусценька шчотачкай прабіваецца, як увесну расада на падваконні. Пстрыкнула-стрэліла раптам нешта і ў сэрцы, калі "прабіў" па той адзіначцы. Ну што ж, хіба, можа, пагуляем у любошчы, Надзейка ў Капелюшы? Пагналі!

Спрытна, з азартам закоўзалі пальцы па гладкім, як лёд, сэнсарным экране:

"Вельмі рады, вядома. Але для таго, каб дадаць чалавека ў сябры, трэба з ім пазнаёміцца. Мне так здаецца".

"Бачу, вы вельмі разумны малады чалавек, але я з вамі згаджуся".

"Ды не сказаў бы, што тут патрэбны вялікі розум. Незнаёмы чалавек і раптам... сябар? Проста я да сяброў УКантакце патрабавальны, як і ў жыцці. Сяброў не калекцыяную, яны самі мяне знаходзяць. А ты, бачу, таксама не, не дура".

"Хмм... У тваім тоне ёсць штосьці... Наіўная хутчэй".

"Наіўныя мы ўсе яшчэ... Затое не цынічная. Іншая б зараз паслала, куды Макар цялят не ганяў, гэта модна, і знікла. Цалкам можа быць, што мы калі-небудзь з табой пасябруем".

"Аахх)) У жыцці ўсё можа быць. А мацюкі – слэнг людзей, якія не ўмеюць правільна і культурна выказацца!!! Па-мойму..."

"Не заўсёды, часам бываюць кампаніі, у якіх хочацца загнуць па-пралетарску, там гэта як бы норма. А ў іншым тусах нават за тое, што не ты сказаў, становіцца сорамна".

"Натуральна, бывае і такое. Асабліва калі так гаворыць хтосьці Ж.Р. – гэта мяне расчароўвае".

"Хто такі Ж.Р.?"

"Аахх) Скарочана: жаночы род...

Блін! Ён нават узмакрэў ад напругі. З гэтай Прынцэсай у Капелюшы гаворыш як з прафесарам. Трэба ўвесь час быць у тонусе, сачыць за базарам, каб не падумала, што плужок...

"Бачыш, не ведаў. Век жыві – век вучыся, дурнем памрэш. А наконт Ж.Р. цалкам з табой згодзен. У мяне два пачуцці, калі Ж.Р. мацюкаецца – сорамна і брыдка. А трэцяе пачуццё, што гэта зусім не жаночы, а якісьці сярэдні род".

"У мяне пачуццё толькі адно – сораму!!!"

"Ну вось жа ёсць яшчэ нармальныя і УК)))"

"У мяне пытанне. Можа, некарэктнае? А можна тваё сапраўднае імя?!!

"А няхай буду Журлікам! Хіба не прыгожае імя? Галоўнае – рэдкае)"

"Проста неяк няёмка. Ну, скажы..."

"Я б табе адказаў, што бывае няёмка, але не магу. Я толькі з пацанамі ў тусе так магу... А з табой – не...

"І ўсё ж, адкрый сакрэт, і папрашу без сарказму".

"Не адкрыю. Пабуду пакуль Журлікам. Тым болей, што гэта маё сапраўднае паганяла)))"

"Ахх... Тваё сапраўднае "паганяла" мяне насцярожвае. (Ха-ха)

"І дарэмна. Журлік – зусім не Жулік, а проста ласкава ад Журнал. Вось так мяне ўсе завуць... А ў нас з табой нармальныя агульныя сябры. Гэта добра.

“Хммм... Журлік... Штосьці накшталт птушкі!!! Толькі я такую не сустракала)”

“ А з жураўлём якраз мы і сябруем. Ён нават ёсць у мяне на сцяне. А хто ты? Прынцэса, альбо проста Надзея ў Капелюшы?)”

“Проста Надзея!”

“Ты ж мяне на аве бачыш. А я бачу, можна сказаць, адзін толькі капялюш”...

“Аахх... Сапраўды так. Але там яшчэ ёсць і іншае фота!”

“Цікава, а чаму гэта слова “Кахаю” страціла свой сэнс?”

Вырвалася! Журлік і сам ад сябе такога не чакаў. Чаму ён гэта напісаў? Пстрыкнуў “Даслаць” – і ўжо не зловіш, не вернеш, не верабей. Вырвалася яго пачуццё ў свет белы прасторы віртуальнай. Няўжо і сапраўды пакахаў! З першага кліка мышкай? З першага паведамлення, якіх УКантакце прыходзіць табе безліч. Паспявай толькі адказваць. Пустыя. Тупыя. “Як справы?” “Нормік. А у ця?)” Як сам?” “Што робіш?” “Тупа балдзею. Адрываюся”. Колькі разоў сам жа балдзеў гэдак тупа і адрываўся напоўніцу, і, як у плойму, зацягвалі яго ў калаўрот авы, пасты, лайкі, рэпосты. Думалася, што ўжо і жыцця іншага не існуе. І раптам...

“Ды так. Такое жыццё...” – прыйшоў адказ. Банальныя, здавалася б, словы. Аднак і ў іх ён ужо бачыў штосьці глыбокае. Такое глыбокае, што можна і патануць... – “Журлік. Адкрый свой твар і імя. Хто ж ты, таямнічы незнаёмец?)”

“Твар мне хаваць няма чаго. Я ж не Гюльчатай. І ніякі я не таямнічы.

“Не Гюльчатай, кажаш? Ну-ну...”

“Чэснае піянерскае))) І на аве я сапраўдны!!! А вось ты з якой школы, не зразумела. А з якога ты горада? Ты часам не радыстка Кэт?”

“Не ўсё ж усе павінны пра мяне ведаць!((”

“Ну вось, ужо і пакрыўдзілася”. Што я, зямлі павінен з’есці, каб ты паверыла, што я сапраўдны?)”

“Тады ты хлусіш, і табе не шаснаццаць”.

“Чаму ты так лічыш?”

“Не па гадах кемлівы”.

“Якога мамка нарадзіла). Ці ты лічыш, што ўсе шаснаццацігадовыя дэбілы?”

“Хмм... Заўваж, гэта не я сказала, не, проста ў наш час цяжка знайсці хлопца, які піша без памылак, выказвае правільна свае думкі і ведае вельмі шмат. Можа, я кажу прымітыўна, але гэта так”.

“А я і не кажу, што лёгка. На шчасце, пакуль не ўсе невукі і тугадумы”...

“І ўсё ж... Прашу цябе. Будзь шчырым, адкрыйся, не бойся. Хто ты, Журлік! Прынц? Нягоднік? Хлус? Я цябе... Я цябе, ведаеш... прыму. Толькі каб гэта была праўда...) Я нікому, нікому не скажу. Проста скажы, хто ты???”

“Добра. Дапусцім. Ды я і не баюся, бо мяне ўсе ведаюць. Але спачатку скажы, навошта гэта табе і што гэта мяняе? Ты знаёмілася з Журлікам. Ты ўпэўнена, што той, другі, які займе яго месца ў рэальным жыцці, цябе задаволіць? Ведаеш, давай лепей не будзем разбураць нашай цудоўнай казкі. Гэта і так, па-мойму, няблага і табе і мне. Па-любому, ведай адно: Журлік – мая душа, мая сутнасць. І што б урэшце ні здарылася са мною, Журлік абавязкова прыляціць да цябе, мая Папялушачка ў Капелюшы. Няўжо табе хочацца, каб карэта раптам ператварылася ў гарбуз, а фурман – у пацука? Хай жа ўсё застанецца, як у казцы...

***

*Любая казка аднойчы заканчваецца. А вось які ў яе будзе канец, ведаць толькі нам, чараўнікам... Хто сказаў, што ў любой казцы абавязкова перамагае дабро? Не заўважалі, як разгараюцца ў печцы дровы? Агменьчык з'еў яшчэ адну лучынку, яшчэ болей акрыяў, паверыў у свае сілы. Ужо бяжыць-падскоквае па паленцы, здавалася б, жыць яму і жыць, а тут раптам ні з таго ні з сяго засіпела паленца злосна. Дзесьці штосьці падмачыла яго рэпутацыю: ці то дождж капнуў на яго са страхі, ці то высахнуць як след не паспела. І – оба-на! Гнілаватым аказалася паленца. Спатыкнуўся наш агменьчык, утапіўся ў гнілушцы, змагаўся-змагаўся небарака і – загінуў малады. Не раскрыўся агменьчык, не даў жару, не стаў вялікім агнём. Але насустрач бяжыць ужо другі, народжаны на другой лучынцы, і гэтаму шанцуе больш – бяросты кавалак трапіўся на шляху. Затрашчаў агеньчык радасна, заззяў, пажадна есці стаў цэлае вялікае палена – каб выжыць, каб рэалізавацца, каб стаць вялікім агнём.*

*Усё ва ўладзе ў Бога – хтосьці гіне, хтосьці гарыць, хтосьці гніе, а хтосьці бяжыць далей па жыцці лёгка і спрытна... Мы ж, чараўнікі, усяго толькі статысты, сакратары жыцця – умеем выпісваць акты, ці то аб нараджэнні, ці аб смерці.*

*Мяне апошнім часам папракаюць, што я злы чараўнік, бо казкі мае заканчваюцца трагічна. А што рабіць? Памятаеце, як напісала УКантакце наша спадарыня Прынцэса ў Капелюшы: "Такое жыццё..." Якія песні, такія мы... Зрэшты, мы яшчэ не ведаем, якім будзе канец гэтай казкі, так падобнай на быль...*

***

Ён і сапраўды стаў Журлікам. Надзея ў Капелюшы перайначыла яго жыццё і змяніла яго старонку УКантакце.

Найперш Журлік замяніў статус. Ну, што гэта за такое: "Калісьці я проста хацеў кахаць і быць каханым, зараз я проста хачу... "Божачкі, якое жывёльнае дзікунства! Хаця б яна толькі не паспела ўбачыць! Дзесьці ў календары вычытаў даўно яшчэ, і нават не запомніў, хто гэта сказаў. Тады толькі пасмяяўся ды палічыў блазнам. Зараз жа ўхапіўся, як тапелец за саломінку, тут жа выставіў: "Я перакананы, што душа кожнага чалавека радуецца, калі ён робіць дабро іншаму".

Ён і так ужо падмануў сваю Надзею, бо на аве заміж яго кірпатага носа і сапраўды красаваўся іншы – ці то артыст, ці тайскі баксёр. Фіг яго ведае. Блазнавалі з пацанамі, панастаўлялі ўсялякіх крутых ды прыгажуноў, каб дзяўчаты, маўляў, лепей клявалі. Хто ж ведаў, што знойдзецца тая адзіная, якую зацікавіць не нос яго, а душа.

Далей прайшоўся па пастах. Пачаў чытаць – за галаву схапіўся: "Тата, раскажы мне пра дзяўчат." "Дзяўчаты, сынок, як шкарпэткі: усё жыццё шукаеш нармальную, а трапляюцца ці смярдзючыя, ці з вялікай дзіркай"... Аж у жар кінула! Сноўдаючы пальцамі па коўзкім сэнсарным экране, Журлік адчуваў сябе бездапаможным блазнюком на ўласнай Сценачцы, быццам бы выйшаў гуляць на лёд без канькоў і клюшкі – голым, на сорам і пацеху. Сцяна мільгацела нячыстаю сілачкай. Азадкі, акрываўленыя пальцы з характэрнымі непрыстойнымі жэстамі, блатняк "руліць" па ўсёй вертыкалі, як быццам бы ён, Журлік, толькі што вярнуўся з "зоны" і зноў жа туды сабраўся. Мабыць жа і начыталіся людцы!

Драіў Сцяну ночку цэлую, як малады матрос палубу. Урэшце стала

на ёй чысцей, чым на цвінтары. Усё павыдаляў. Пакінуў толькі адзіны верш, які напісаўся сам пад настрой. Верша саромеўся, нікому дасюль не паказваў, тым болей сябрукам. Пакажаш тут! Затопчуць. Век пацвельвацца будуць. Зараз жа чамусьці нічога не баяўся, бо быў, як пацаны сказалі б, у актыўным пофігу. З вачэй як быццам бы сышло бяльмо.

Я шмат разоў ашукваўся
І шмат разоў жыць пачынаў я зноў,
Разбіўшы сэрца аб халодны камень
Перад скалою з назваю “Каханне”,
Ды падымаўся я і зноў ляцеў,
Надзея мараю была сагрэта,
Я пакарыць хацеў вяршыню гэту,
Я казачнай вяршыні захацеў.
Урэшце, так яе й не пакарыў.
Чаму? Мне зараз стала зразумела.
Калі й кахаў дасюль – кахаў няўмела,
Кахаў няўмела, гэдак, як і жыў.

***

Лепей бы ён напіўся! П’янаму і козы ў золаце, але не, зараз ужо й гарэлка не дапамагала, як не дапамагае безнадзейна хвораму на апошняй стадыі хваробы моцны наркотык. Спіртам можна супакоіць цела, але дзе знайсці лекі для душы? Аржавень адчуваў, што душа ўзбунтавалася не на жарт, і бунт гэты стаў для яго разбуральным. Навошта жыць? Дзень зрабіўся ноччу, нават сонца не магло разагнаць цемры, што згусцілася раптам... Папялушачка, Прынцэса мая ў Капялюшыку. Надзейка! Дзе ты! Навошта ты мяне пакінула! Чаму і за што?! Вось ужо тыдзень на тваёй старонцы УКантакце заміж авы пасецца агідная белая карова з крыжамі заміж вачэй – вочы б яе не бачылі! І надпіс – як прысуд: “Старонка выдалена або яшчэ не створана”. Ты не старонку выдаліла, не. Ты мне, Надзейка, выдаліла сэрца. Разанула – проста так, адным махам, адным ударам пад дых – без нажа...

І мабільнік маўчыць... Дый ці дазвонішся да таго Уладзівастока...

Пашанцавала, як тапельцу. Яго Прынцэса ў Капелюшы аказалася з тых далёкіх краёў, дзе ўзыходзіць сонца. І трэба ж было ім адно аднаго адшукаць! Цэлы год ліставання УКантакце. Толькі год! Адно імгненне! Імгненне шчасця. Ён зараз ведае пра горад на паўвостраве Мураўёва-Амурскага, можа, нават болей, чым пра родную Змяёўку. Сопкі, мусоны, прычалы, бухта “Залаты рог”... Ён і сам даўно ўжо прычаліў бы да тае бухты, сустрэўся б са сваёй Надзеяй... Ды як? У брудных ботах, якія стаяць вунь ля ганку? Мамцы зарплату на магазін пераводзяць – па паўлімона за паўмесяца. Вырас бы, стаў бы дарослым – ён бы абавязкова знайшоў сваю Надзею, а так што!

Сонейка, любае! Ты ж кожнае раніцы прыходзіш адтуль. Чаму ты нічога не кажаш мне пра яе?..

Паведамленні не адсылаліся. Сядзець больш УКантакце не мела сэнсу. Аржавень, як муха па падаконніку пасля зімы, няўцямна поўзаў па сваёй старонцы, якая здавалася яму агіднай. Лайкаў не ставіў, пастоў не пасціў. Раз-пораз, калі станавілася зусім нясцерп, заходзіў у прыват...

“Сёння, дарэчы, дзень Святога Валянціна. Віншую)”

“Дарэчы, ой... мне так няёмка... Зусім забылася!!! Віншую цябе са святам закаханых!”

"А можа – нас?))) "Мы все любили понемногу кого-нибудь и как-нибудь". Дзякую!"

"Нас? Чаму нас?"

"Ты спалохалася?)))"

"Ды не, я, Журлік, не з палахлівых... "Понемногу?" Так, можа быць? Што, па-твойму, самае галоўнае ў людзях?"

"Прачытай мой статус".

"Я перакананы, што душа кожнага чалавека радуецца, калі ён робіць дабро іншаму.) Хммм... зразумела...

"А па-твойму?"

"Па-мойму, калі ў чалавека гнілая душа, ён сам таксама сапсаваны. Яго тэрмін прыдатнасці скончыўся".

"Хтосьці нараджаецца з гнілой душою. Няшчасныя!.."

Той Журлік яшчэ і сам не ведаў толкам, якая ў яго душа. І калі б не Прынцэса ў Капелюшы з далёкага Уладзівастока, наўрад ці даведаўся б...

..."Не паверыш, я цябе чакала... ахх!!! Своеасаблівы жарт"

"Ты на дэнс ходзіш?"

"Не, на дыскатэцы была прыкладна месяц таму"

"Што, не торкае?"

"У сэнсе".

"У сэнсе, не заводзіць дыскатэка?"

"Залежыць ад тэматыкі. А ты як ставішся да дыскатэк?"

"Гэта дваццатае стагоддзе. Бацькі нашы хадзілі. Але тады там было што рабіць. А зараз... Ну, не ведаю..."

"Ну так, крыху адарвацца, пасмяяцца... Гэта трэба!!! Ахх))) Проста гледзячы хто туды дзеля чаго ходзіць. Я – атрымаць зарад эмоцый, ну а ёсць людзі, дзяўчаты, якія ходзяць туды дзеля таго, каб павыпендрывацца перад хлопцамі!!! Гэта мяне раздражняе!!!"

"Увогуле, танцы прыдуманы для знаёмства. Так было ва ўсе часы. А выпендрож – спосаб спадабацца... для некаторых)".

"Але не такім жа спосабам. Дваццаць першае стагоддзе, гэта ўжо не тое. Мне здаецца, гэта нізка для дзяўчыны! Ва ўсякім разе, для мяне гэта нізка і непрыстойна".

"Ну, непрыстойна гэта было ў дзевятнаццатым стагоддзі, на бале ў Анны Шэрэр. А ў дваццаць першым і так усе норавы ніжэй плінтуса. А табе будзе цяжка, бо апошняй, для каго гэта было непрыстойна, была Наташа Растова".

"Ніколі не хадзіла на дыскатэку, каб падміргнуць хлопцам, і ніколі не пайду дзеля гэтага!"

"А хлопцам гэта падабаецца))) Слухай, а ў цябе хлопец ёсць?"

"Чаму раптам такія пытанні?"

"Ды шкада проста цябе. Цяжкое жыццё цябе чакае. Надта пераборлівая".

"Пераборлівая – яшчэ не азначае, што зануда. І не люблю, калі мяне шкадуюць. Ведай! Так, я вельмі патрабавальная. Мне вельмі цяжка спадабацца... Так... Прыйшоў час маіх пытанняў. Ты не супраць? Чым займаешся па жыцці?"

"Жыву ў сваё задавальненне".

"Значыць, нічым..."

Ён і сапраўды жыў не гараваў, для сябе. Ніколі не думаў пра заўтрашні дзень.

"Дзе жывеш?"

“У вёсцы”.

“Назва”.

“Гэта допыт? То чаму не заломваеш рукі? Зірні на маёй старонцы”.

“Ахх)) Я разумею, што ты любіш казкі. Але – назву, калі ласка”.

“Табе па літарах ці як?)”

“Я зразумела, што Планета Зямля назва...”

“Ды не, Змяёўка)”.

“Змяёўка? Не, дакладна не! І калі ты перастанеш мне хлусіць?”

“Ды змеі ў нас тут, змеі вакол... Ты чым сёння займаешся?”

“Нямецкую вучу, а ты?”

“I am speak Eanglich”. Лан, у мяне зараз хакей, а потым з хлопцамі ў лазню пойдзем піва піць”.

“Алкаш... Ахх)) Ідзі!!!”

“Вось ужо і алкашом стаў”.

“Ну я ж па-сяброўску!) Не крыўдуй!”

Кветачка мая! Хіба можна на цябе крыўдаваць! Толькі вось чаму ты такая крыўдлівая?..

Надламіліся іхнія стасункі неяк адразу і так нечакана. Аднойчы заўважыў на яе старонцы прыгожанькага такога франціка. З’едліва адкаментаваў. Хто ж ведаў, што гэта быў яе брат стрыечны. І яна не засталася ў даўгу. На язык вострая, па слова ў кішэню не лезла. З гэтага часу яе як падмянілі. Журліку здавалася, яго Прынцэса ўсё пачала рабіць наадварот, толькі каб яго пазлаваць, падражніць. Зразумела, што раўнівы. Пачала здзеквацца.

Гартаючы старонкі іхняга ліставання, Аржавень яшчэ болей пакутваў, бо ніяк не мог зразумець, што ж такое не такое зрабіў яго Журлік, чым угнявіў Прынцэсу? За што яна яму так жорстка адплаціла!

Вось ён, іх апошні дыялог:

“Такое пачуццё, што ты жывеш не сапраўдным жыццём, а ў віртуальным свеце. Як бы хочаш схавацца ад рэальнага! Хочацца думаць, што табе не шаснаццаць-сямнаццаць, а дзевяць-дзесяць. Казка, міф і г.д. Ты ніколі не спрабаваў расказаць людзям праўду, каб у іх не было сумненняў, што ТЫ гэта ТЫ, а не хто іншы? Сапраўдны чалавек – гэта не казачны персанаж, Журлік!!!”

“Табе мала рэальнасці і “сапраўдных людзей” вакол? Ты задаволена гэтай рэальнасцю і проста прагнеш у яе акунуцца? Табе мала бруду, які вакол усёй гэтай хлусні, пошласці, хамства і ханжаства? Табе яшчэ чагосьці не хапае ў гэтай рэальнасці, табе патрэбен яшчэ адзін “тып” з яе? Адкажы сабе шчыра, табе патрэбен крыху таямнічы, але, далібог, шчыры Журлік ці дзвесце шэсцьдзясят шосты сябар УК?”

“Мне патрэбен сапраўдны чалавек!) Ведаеш, часам лепей глядзець рэальнасці ў твар, чым пазбягаць яе!!! Выбачай, можа, і твая праўда, але я прывыкла казаць наўпрост”.

“Ну што ж, ты зрабіла выбар. Шукай сабе дзвесце шэсцьдзясят шостага “рэальнага сябра”. Можаш нават іх калекцыніраваць. А мне ўжо час. Адлятаю! “Взломанная клетка, кучка пепла – и Журавлик снова в облаках”...

Божа! Што ж ён нарабіў! Ён хацеў зрабіць прыпіску: “Выбачай, у мяне праз пяць хвілінаў хакей...)” Але пальцы самі адправілі недапісаны тэкст. І тут жа атрымаў удар пад дых. Уваччу пацямнела, калі раптам прыйшло – “Карыстальнік моўчкі выдаліў сваю старонку адну хвіліну таму”. Не паверыў вачам сваім. Яго Любая Надзейка, яго, можа, апошняе святло ў цёмным акенцы гэтага жыцця ў адначассе ператварылася ў белую ка-

ровіну галаву з крыжападобнымі вачыма... Чаму УКантакце няма такой функцыі – “Вярнуць час назад!!!!!(((((”.

***

*Ці прыгожая смерць? Ну, не ведаю, хоць я і чараўнік і таму жыць магу колькі заўгодна, ды не часта даводзілася мне пазіраць у вочы смерці і, тым болей, бачыць, як хтосьці памірае. Нудоцце, напэўна. Як па мне, памірае прыгожа той, хто прыгожа жыве, магу толькі засведчыць, як паміраюць-згасаюць вугольчыкі ў печы. У жыцця ёсць дзве заканамернасці – прагрэс і наканаванасць. У смерці ўсяго адна – безвыходнасць. Нездарма кажуць, што выйсця няма толькі з труны, калі сам у ёй ляжыш, а па вечку грукаюць жвір і глыжэўе...*

*Вунь яны, вугольчыкі, засталіся адны, без вялікага агня, які захінаў іх, “крышаваў” па жыцці. Патух агонь. Засталіся яны адны, сіратлівыя, маленькія, голенькія, гарачанькія яшчэ. Яшчэ цепліцца ў іх жыццё, ды ўжо шэры прысак пад бокам і сажа чорная, якіх становіцца ўсё болей, нагадваюць, што прыйшоў час скону.*

*Ёсць і сапраўды ў смерці прывабнасць і нават хараство, толькі калі гэта смерць Агню. Дружа мой! Я развітваюся з табою з качаргою у руках, памешваю жалязякай твае яркія парэшткі і дзякую за тое, што падарыў маёй хаце цеплыню. Ты сапраўдны сябар, Агонь, калі толькі з табою сябруеш, а не варагуеш. Што згарыць, тое не згніе...*

*Патухаюць маленькія вугольчыкі, назаўсёды становяцца прысакам – не ўзрадзіць, не вярнуць. Шкадуй, не шкадуй – жыцця не вернеш...*

***

Жыцця не вернеш? Так. Але навошта жыць. Калі жыццё ўжо страціла сэнс, а вакол – адна цемра, і не важна, а ці свеціць там сонца камусьці, а ці каго грэе. Толькі ж не ён, Аржавень, заслужыў тое права – жыць. Вось яно так, мабыць, і лепей. Паляціць душа Журліка да далёкага Ціхага аніяна, і не трэба ёй ні грошы на білет, ні чаравікі новыя. Ёй нават не трэба IP-адрас ці ссылка УКантакце. Сама знойдзе свайго адрасата, паляціць душа да каханай, каб папрасіць выбачэння за яго, кірпаносага “плужка”, які так і не здолеў стаць грацыёзным Журлікам.

Скурчыўшыся, Аржавень аберуч ухапіў айфон, хацеў тут жа пабіць аб падлогу, але перадумаў, зайшоў на старонку УКантакце, першым чынам сцёр статус, бо хай цяпер радуюцца душы іншых, а яго павінна выканаць сваё апошнае прызначэнне... Напісаў: “Усім сябрам УКантакце дзякуй. Прабачце. Адыходжу назаўсёды. Шукайце мяне ў “Аднакласніках.” Падумаў і дадаў: “Цар журбы”. Паставіў на аву бяззубую старую ў чорнай хусцінцы з запалымі вачніцамі. Паставіў Багдановічавае: “Я сяджу без агню. Я стаміўся, прамок! Над зямлёю – імгла, у душы маёй змрок. О, як пуста ў ёй! О, як холадна жыць! Але вось цераз цемень маланка блішчыць, Асвячае мне вобраз Хрыста... яго крыж... Ажываеш, здаецца, душою гарыш. Але толькі чаму ж так малы гэты час?! Зноў навокал цямень. Свет зірнуў і пагас. Не глядзіць на мяне ясны вобраз Хрыста. Над зямлёю імгла, у душы пустата”.

На сцяне напісаў “Калі ўсё не так, як я хачу, то на... яно мне ўвогуле патрэбна”. “Сумна становіцца, калі ты пазітыўны і добры чалавек, а некаторыя гэтага не разумеюць”. “Навошта мне ваша прыгажосць, калі ў душы вы пачвары”. “Я не адзінокі, я проста нафік нікому не патрэбны...”

Выйшаў з Кантакта, паклаў у кішэню айфон. Узяў вяроўку, на якой маці вадзіла навязваць Рагулю ў поле. Заўтра спахопіцца...

Змрок апусціўся са жнівеньскага зорнага неба, безвыходнасцю ахутаў зямлю. Дзесьці ў канцы вёскі, ля выгану, завыў сабака. Вусцішна так выў, надрыўна. У любога жывога мурашкі па скуры пабеглі б. Аржавень не зважаў нават, ужо няшмат засталося ў ім таго, чым яшчэ мог адчуваць. Прыхапіў вяроўку, кавалак гаспадарчага мыла, пачак цыгарэт "НЗ", падаўся ў хляўчук. Трэба спяшацца, маці з фермы праз гадзіну якую вернецца. Рагуля сустрэла радасна, чмыхнула проста ў твар цёплай вільготнай слінаю. Ад каровы патыхала цёплым сырадоем, да болю знаёмы пах аж ускружыў галаву, ён нават да сцяны прыхінуўся, каб не ўпасці. Накацілася, паплыла па шчацэ гарачая салёная слязіна.

– Даруй, Рагуля, так трэба! – абшчапіў аберуч карову і аж закалаціла яго ў істэрычным калатуне.

Выйшаў на вуліцу, пакурыў крыху, супакоіўся. Зноў вярнуўся, пачапіў на бэльцы вяроўку, старанна прайшоўся абмылкам, пельку звязаў. Падставіў услончык, на якім маці даіла карову, дастаў айфон, уключыў пацыху "FNN Feat. WPCWE – По Больше Крови". Паставіў айфон на яслі, экранам да сябе, уключыў функцыю відэаздымкі...

"Я не хацеў. Я вінаваты, ведаю. Але гэта адзіны шанец з табою пабачыцца. Прабач! Даруй, Надзейка! Прымі мяне, Божанька. Я не хацеў"...

Акругленымі, спалоханымі вачыма глядзела Рагуля. Калі б яна магла гаварыць!..

Назаўтра раніцою загалосіць на ўсю вёску няшчасная маці, упусціць даёнку, ірване на сабе валасы, спатыкнуўшыся аб сына, ссінелага, з высунутым языком... Айфон жа і ўвогуле знойдуць не хутка – пад яслямі, разбіты-растаптаны ўшчэнт і ў каровіным кізяку... Труна на парослых быльнягом вясковых кладах, мелодыя кананады воглых сухіх камякоў гліны – замік TALIBAL... Смерць не бывае прыгожай...

***

*Смерць не бывае прыгожай... Я чараўнік. Але ж і чараўнікі чамусьці ў жыцці вучацца. Надакучыла быць злым чараўніком. Мае вугалькі вунь усе як адзін дагарэлі, разварушыў я іх качаргою, дапамог ім памерці. І што? Ці я ля іх смерці пагрэўся? Застаўся вунь адзін, небарака, самы жывучы ды самы яркі вугольчык, якому ўсё яшчэ не паміраецца...*

*Дубль другі. А што калі яшчэ прынесці, падкінуць ахапачак дроўцаў!*

*Не бачылі, як разгараецца ў печы з аднаго вугольчыка? Не бачылі, як вяртаецца надзея? Вяртанне да жыцця прыгажэй за смерць...*

***

..."Прымі мяне, Божанька! Я не хацеў..." Ён пераксціўся, ступіў на ўслончык, накінуў пятлю на шыю... Ад гучнага званка раптам скалануўся айфон. Эсэмэска! Вызваліўся, куляю скаціўся з услончыка, шалёна закалацілася сэрца. Яна! На экране свяцілася:

*Прабач!!! Прабач!!! Памаўчалі і хопіць! Не магу болей без цябе, мой Журлік))).*

*14-15 снежня 2016 г.*

Аксана Спрынчан



...Мой Бог Жыве
Ў Маёй Мове...

# Лунніца

* * *

месца
майго нараджэння –
рай
некаторыя
называюць яго
райцэнтр
вядома ж
гэта цэнтральнае месца
на той і на гэтай зямлі
месца
дзе "ц" можа чаргавацца з "т"
бо мой рай – гэта места
(калі афіцыйна)
места –
якое насамрэч – мястэчка

(калі неафіцыйна-ласкава)
мястэчка –
якое таксама і вырай
бо ў яго прыляцела
каб нарадзіцца
і прылятаю
каб адраджацца
вырай
для якога прагнецца быць
лунніцай –
упрыгожаннем-месяцам
унутры якога – сонца
каб ахоўваць
рай, і райцэнтр
і мястэчка, і места
і месца выраю –
Лунінец

* * *

не апошні прамень
і не першы
залатая сярэдзіна
паміж вуснамі
сонца
урэдзіна!
трасянка
з Карэліцкага раёна
карэлюе
па цвёрдасці/мяккасці
залатая сярэдзіна
засяроджваецца
ў пацалунку

* * *

спякота
каб не сталася
сэрца каменным
цягаю вёдры з вадою
да сваіх камянёў
іх не трэба праполваць
і рыхліць
а толькі падкормліваць –
ахвяры прыносіць
і паіць
слязьмі і вадою

а часам і чарачку
разам узяць
хай растуць
незаўважна
канцэнтруючы ў моцы
свабоду красы

* * *

Мой Бог Жыве
Ў Маёй Мове
у ёй ёсць усё для жыцця
нехта ў гэта верыць
хтосьці ідзе праз церні
каўчэг над у нескладовым
не патанае пасля галосных
ён ратуе мяне ад патопу
разам з тымі,
хто сам адчувае,
а не проста за мной паўтарае:
– Мой Бог Жыве
Ў Маёй Мове

* * *

пасля дажджу
вылезлі
смоўжыкі –
"памочнікі"
электроннага брата –
не прайсці
вымушаюць вярнуцца
ў хату
пісаць лісты
не раструшчыўшы
ніводнага жыцця
вітаю

* * *

восеньскі вецер –
найлепшы ваўчок –
закручвае
лісце
жарсці
самоту
і вершы

(у каго што закручваецца)
але і гэта спыніць
нябачны
непрадказальны
крыху непрадбачлівы
вецер
што сцішыцца над кнігаю
і перакінецца праз яе
ў ваўкалака
а тут ужо
і да чалавека
недалёка
які зноўку закруціць
вершы
самоту
жарсці
і толькі лісце
каб яно не скруцілася
пакладзе
між старонак
кнігі

* * *

адзінота такая
што нават у вершы
лірычнага героя няма
я жыву ў сусветным натоўпе
ў чарзе па смерць
на маёй далоні
напісаны нябачны нумар
з нагэтулькі вялізарнай лічбай
што на ёй я магу надрапаць верш
вось тады і з’явіцца
лірычны герой-чытач
закаханы, шчаслівы
па-постмадэрнісцку
пазычаны з вершаў чужых
няйнакш

* * *

недзе ў Свіслачы
плавае рыбіна
выпушчаная мною
малою
карп люстраны

з маім сапраўдным
адлюстраваннем
без стрававання

### *БАБІНА ЛЕТА*

восень
нібыта ліс
сонечнымі лапамі
спрабуе ўпаляваць
лета
а калі лета схопленае
яго прысабечвае
невядомая баба
ды што з таго беларусу –
баба дык баба
абы цёплая

* * *

снег –
зацвярдзелы зычны
а гэтакі ж быў
пяшчотны
дзень ад расстання
цотны
галосна-галёсны

* * *

чорны і белы снег
такая ж на ім сарока
чутку прынесла вясновую
пра блізкае лета
кіну манетку ёй
з блізкай краіны
хай будзе шчасце
ў птушкі і Украіны

* * *

на шклопакетах
мароз не малюе ўзоры...
здавалася б
зоры відаць
будзе лепей

але ж –
ста-
ліца
паўсюль гэткія твары
што толькі заенчы ці зашапчы
складзі ці выпрастай крылы
сканай ці ўваскрэсні
ўночы і ўдзень пачуеш
чужую мову...
на шклопакетах
мароз не малюе
ўзоры...
ён на скуры маёй
паглыбляе зморшчыны
адчувае сваім паглыбленнем,
як я адчуваю скураю
недзе і ўва мне сядзіць
кат
і спрабуе забіць
сваім “да”
ТАК

* * *

над Свіслаччу вецер такі,
што зносіць
да ратушы белай
мы з ёй разлятаемся
стосам бялюткай паперы
і зноўку вяртаемся
ў сёння
дзе шмат што зжаўцела
чатыры бажніцы,
той самы вятрыска
і рыса надзеі
на роспач
накладзена вета
любоўю і верай

* * *

Любоў і Сафія
Святлана й Надзея –
прабабкі й бабулі мае
я іх не магла заспець маладымі
яны – пасталелай мяне
Любоў мяне мудрасці змалку вучыла

Надзея – прыносіць святло
Сафія казала:
«Не жыць без надзеі»
Святлана:
«Любоў ёсць усё»
і кожная з іх
мяне верай ахоўвае
ў людзей і жыццё
і кожная з іх
ува мне адзінотай
і пошукам долі сваёй
і пошукам лямцу свайго

* * *

калі адной шчакою
дакранаешся голак ялінкі
а ля другой шчакі
галінкі веек
значыцца існуе
ігольчатая сіметрыя
значыцца
Каляды сямейныя
калі чакае на падарунак
шкарпэтка святочная
а шкарпэтка з маленькай ножкі
з дзіркаю-зоркаю
ты бярэш голку
працягваеш лінію лёсу
цыруеш калядную зорку
і шапочаш у вялікае вуха
“кахаю”
і “люблю”
у вушка анёлка

## МАЕ СВЯТЫЯ

*Верш у попеле прозы*

Удзень – чалавек, уначы – воўк.
Вось ён, беларускі ваўкалак.
Нашчадак Усяслава Чарадзея.
Дужы й закаханы.
Закаханы ў палескую прыгажуню Меланню.
Вядома ж, чараўніцу, якая і людзям, і звярам дапамагала...
Слухала ў маленстве, як бабуля Надзея гаманіла пра іх,
і вусцішна было.

І панадна: можна без канца слухаць.
“Яшчэ, яшчэ...”
“Спі, заўтра будзе яшчэ...”
Нездарма ў гонар гэтай кабеты вёску назвалі –
МЕЛЯСНІЦА –
Меланння ў лесе.
Так апавядае бабуля, так ёй апавядалі.
Хоць ёсцека і версія,
што назоў Мелясніца паўстаў за Польшчай,
а даўней – Вэлесніца была,
і цяпер яе так называюць
па-за дакументамі.
ВЭЛЕСНІЦА –
у гонар бога Вялеса –
у беларускай міфалогіі
апекуна хатняй жывёлы і багацця.
Даўней уважалі, што ён надзяляе людзей талентам,
добрым голасам і слыхам.
Вялес – апякун вешчуноў і спевакоў.
Натуральна, у Вэлясніцы-Мелясніцы спявалі.
Пяяла і Алеся –
мама бабулі Надзеі –
мая прабабуля.
Мо і не вельмі вясёлыя песні.
Але ці часта яны ў беларусаў вясёлыя былі?
Пранікнёныя і філасофскія – гэта так.
Прабабуля Алеся нарадзілася ў 1897 годзе ў Дзятлавічах.
Пабралася з Лукашам Канапацкім,
у 1919 годзе на свет з’явілася мая бабуля Надзея.
А ў 25-м у Алесі нараджаецца тройня – Вера, Надзея і Любоў.
Вера і Любоў сканалі маленькімі.
Засталося дзве Надзеі ў адной радзіне.
На гэтым месцы я часам спыняюся.
Мне карціць працягнуць адчуванне падвоенай надзеі,
яна почасту дапамагае мне выжыць.
Але ж не здольныя дзве Надзеі заўжды быць разам.
Першая бярэ шлюб з маім дзедам Міколам Паўлюкаўцом
і пераязджае ў Лунінец.
Другая Надзея застаецца з маці, бацька памірае.
І па нейкім часе Алеся бярэ шлюб з Міколам Канапацкім,
з дачкою Надзеяй пераязджае да яго ў Мелясніцу.
Наступную жудасную гісторыю
бабуля Надзея ніколі не апавядае перад сном.
Яе апавядае мая мама Анастасія.
Гэтую гісторыю не хочацца слухаць яшчэ і яшчэ.
Яна запамінаецца раз і назаўсёды.
“Маю бабулю спалілі фашысты.
Разам з дачкой Надзеяй.

Разам з мужам і ягонымі дзецьмі...”
Гэтак застаецца адна Надзея.
Я на тое ніколі не забываюся.
У гэтым свеце ёсць прастора, дзе згарэлі мае родныя людзі.
Людзі, якіх я ніколі не бачыла нават на фотаздымку.
Ад якіх не засталося нічога.
І засталося ўсё.
Я гляджу на грушу,
што расце на месцы згарэлай хаты,
і праз імжу бачу абразы.
На іх не Езус і не Маці Божая,
І не Святы Мікола,
і не...
У бажніцы маёй памяці
ёсць свае святыя пакутніцы –
Святая Аляксандра і Святая Надзея.

Павал Гаспадыніч



...чысты аркуш
спакушае заўсёды...

# Ад сябе да сябе

***Проза-думка, проза-нататка, проза-развага ад красавіка 2000 да жнiўня 2016***

***

Сняжынкі – адарваныя пупавіны зімовага неба.

***

Стрыманасць – струмень маны.

***

Паветра – палітра ветра.

***

Стогн сучаснай літаратуры і мастацтва за крок да бездані чытацкай абыякавасці, якая выціскалася па кроплях доўгі час, пакуль не ператварыла прастору мастацтва і літаратуры ў калюжыну бездані.

***

Творчасць – няспынны рух наперад нават тады, калі няма чым рухацца і не бачыш напрамку. Жаданне творцы выведзе на патрэбны шлях. Але гэты шлях няспынны.

***

Ад сябе да сябе – працягласць у жыццё.

***

Бываюць пачуцці, а бываюць і не пачуцці. Бываюць адчуванні, а надараюцца і перакананні. Розум цешыцца гульнямі, а сэрца – вераю. Надзея трымаецца на веры, а ўпэўненасць – на розуме. Бываюць пераможцы, а бываюць і пераможаныя.

***

Рэчы – рэха рэчаіснасці.

***

Аблокі бачаць усе твае крокі...

***

Кожны прылёт ластавак сустракаю як свята. Кожнае першае "спатканне" з буслом – як інаўгурацыя Вясны.

***

Загадзя – цвікамі будую дзень...

***

Пасля спякотных дажджоў лухты да сэрца загасцявала маленькая кропелька праўды. Праўды голай і спакуслівай, з распасцёртымі нагамі й рукамі да нябачнага паветра, якім ужо дыхае мана...

***

Паволі, паміж чараўнічасцю і брудам, аддаўшыся плыні даўно ссохлай ракі, плывем да Нікуды.

***

Тыя, хто не ведае нічога аб Праўдзе, чытаюць лекцыі пра яе з дапамогай Хлусні.

***

Пустэча. Усмешка. Дазвольце мне свабодна спакласці душу.

***

Прадавалася восень. Прадавалася вясна, лета, зіма. Надвор'е спрыяла ў ролі пасярэдніка.Тавар быў як мае быць. А па-за кірмашом прыроды ўсміхаліся вечныя зоры і вечныя планеты, куды, напэўна, адлятаюць непраданыя душы Вечных Паэтаў...

***

Прыгожыя ногі. Нібы на карціне Пікасо. Прыгожыя ногі і больш нічога. Аднак, не ведаючы аб Пікасо, ты належным чынам здолела іх выкарыстаць.

***

У слове “дзякуй” няма падзякі – ёсць толькі сэнс, заплямлены некалькімі гукамі.

***

Раніца. Сцюдзёна. Я разумею, што няма кахання, ідучы па бясконца доўгай дарозе, на якой гушкаюцца завялыя ружы без шыпоў.

***

Адплываю ад берага расчараванняў. У моры безнадзейнасці голымі рукамі лаўлю мары на спажыванне... Дзесьці, куды мне наканавана прыплысці, знойдзецца новы бераг... Я – вечны вандроўнік, я – вечны туман, і мае берагі – мары расчараванняў.

***

Ты мяне раскрыжавала, а я не здолеў цябе забіць.

***

Мінулае мухай прагудзе перад вачыма ды адляціць.

***

Зусім не казачнае жыццё, дзе ты не адчуваеш нават самога сябе, не кажучы ўжо аб нейкай там уладзе.

***

Кактэйль спіртовых духаў з тваіх пачуццяў.

***

Чысты аркуш спакушае заўсёды.

***

Я люблю слухаць цішыню – тады я не сплю.

***

Травень. З’явіліся травараэы.

***

Дождж – слёзы зязюлі. Па кожнай кропельцы лічыш гады, табой яшчэ не пражытыя.

***

Хуліа Картасар пісаў пра востры, як нажніцы, хвост ластаўкі, якім яна зразае неба над Сэн-Жэрмэн-дэ-Прэ. А мне крыло беларускай ластаўскі нагадвае лязо, якім стрыгуць шчацінне... Шчацінне ўнутры сябе, шчацінне свайго жыцця, шчацінне гэтага свету...

***

Чарговая прыемнасць. Паміж Шабанамі і пас. Сосны – білборд. На адным баку – БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ пра Радзівіла Чорнага з гадамі жыцця і выявай Асобы-Легенды, а на другім баку – пра Еўфрасінню Полацкую на беларускай мове. Можам, калі захочам, замест снікерсаў-уікерсаў Наша Вялікае Мінулае і Нашу Родную Мову прапагандаваць.

***

Пасля невялічкай размовы з адным з выдатных (як на мой погляд) беларускіх паэтаў склалася выснова пра стан сучаснай беларускай літаратуры: Паэтаў выганяюць Празаікі.

***

Займацца літаратурай. Пісаць літаратуру. Ствараць літаратуру. Тры розныя ўзроўні. Некаторым ніводны з іх так і не скарыўся.

***

Мы набываем рэчы і не ведаем, што гэта рэчы набываюць нас.

Мы выкідаем рэчы і не разумеем, што гэта рэчы выкідаюць нас.

Мы зайздросцім рэчам іншых, і не адчуваем, што гэта іншыя зайздросцяць нашым рэчам.

Улада рэчаў абсалютная.

***

Свой улюбёны каталонскі горад, маю адвечную мару з часоў філфака, бачыў такой, якая Барселона паўставала перад маім зрокам і слыхам, а не паводле чужых уражанняў. І толькі пасля я пазнаёміўся з творчасцю выдатнага барселонскага аўтара Карласа Руіса Сафона, у творах якога Барселона паўстала яшчэ больш велічнай і незабыўнай. Толькі я мог параўнаваць са сваімі ўласнымі адчуваннямі і ўражаннямі, таму Барселона мне, так бы мовіць, паўстала з усіх магчымых бакоў: мая асабістая Барселона і Барселона вачыма барселонца і пісьменніка. Барселона, у якой казка – гэта норма жыцця, добразычлівасць і ветлівасць – візітная картка каталонцаў, а Гаўдзі і іншыя неверагодныя таленты архітэктуры – тое, чаго няма больш нідзе ў свеце. Пабачыць Барселону – гэта пабываць у свеце казак і фантазій, каб сказаць, што цуды існуюць. І, галоўнае, гэтыя цуды можна перадаць Словам. Сцісла і ёміста.

***

Пераскочыў з гадзіну таму на новы дзень. І гадзіну таму пакінуў гісторыі свой цень. Але пакуль ноч цягнецца, ценю няма. І пакуль няма святла – няма і будучыні. Раніца падаруе новае жыццё. І мне. І майму ценю.

***

У Барселоне гід-паляк казаў з усмешкай пра сваіх землякоў: “о, гэтыя бедныя палякі”, нібыта адчужваўся ад іх. Не адракаўся, а менавіта адчужваўся. Рабіўся як быццам чужынцам для палякаў, якія жывуць у Польшчы. А тлумачыў гэта тым, што ён барселонец паводле светапогляду і Хоча-Жыць-Нармалёва – па сутнасці. Ён тлумачыў, што ніякіх праблемаў ні для каго

ў Барселоне няма, як няма цяжкасцяў з аплатамі (кватэра, газ, вада і г.д.), бо калі ты працуеш – ты атрымоўваеш так, каб ЖЫЦЬ-НАРМАЛЁВА. А "бедныя палякі", казаў адчужэнец Рэчы Паспалітай, марнуюць дараваныя жыццём магчымасці на набытыя ўласным досведам хітрыкі, каб ЖЫЦЬ НАРМАЛЁВА, але не працаваць НАРМАЛЁВА. Таму, казаў усмешлівы гід-паляк, ягоныя бедныя землякі заўсёды бедныя.

***

Сонца Паэта: на ўсходзе дня дарue яснасць роснага світанку, удзень – цяпло сэрцу, увечар – малінавае-барвовае супакаенне пражытаму...

***

Рыфма – мачыха рытму.

***

Атрамант цалуе паперу вільготнымі вуснамі.

***

Дзве душы аднаго рэха ці адно рэха на дзве душы: ён і яна.

***

Стомленасць Парыжам лепш за Стомленасць сонцам. Ва ўсіх сэнсах.

***

Л. Дранько-Майсюка асабліва фантастычна прыемна чытаць на фоне чытання "62. Мадэль для зборкі" Х. Картасара. Здаецца, каб вядомы аргентынец быў жывы, то ў беларускага творцы знайшоў яшчэ і яшчэ новых фарбаў для сваіх выбітных "парыжскіх" твораў...

А я думаю вось што: дзякуй Богу, у беларускай літаратуры ёсць свая "Гульня ў класікі" і "Мадэль", адрозная і непадобная ні на тое, ні на гэтае... і разам з тым – якая лучыць святло Парыжа светам Беларускасці настолькі гарманічна, што ўспрымаеш яго як свой горад. І твор гэты, што не мае аналагаў у беларускай літаратуры, мае простую і разам з тым ёмістую назву – "Стомленасць Парыжам".

***

Паміж ног Шабаноў – вяроўкі заблукалых дарог...

***

Вось як трапна і ёміста вызначае Картасар у "Мадэлі для зборкі" сутнасць Творцы, сутнасць Паэта, сутнасць Вынаходніка:

"Ты будуеш рухавікі бязважкія, каламуціш воды нябачныя. Ты вынаходнік аблокаў небывалых, ты ўводзіш бурлівую пену напрасткі ў косны цэмент, ты напаўняеш сусвет аб'ектамі празрыстымі і метафізічным. <...> І тады ў цябе нараджаецца зялёная ружа, ці, наадварот, ніякая ружа не нараджаецца, а ўсё лопаецца ўшчэнт, але затое ўзнікае водар, і ніхто не можа зразумець, адкуль гэты водар, калі і кветкі няма. Вось так і я, незразумелы, але бясстрашны вынаходнік".

***

Зорная, але халодная, далёкая, але ў сярэдзіне цябе, зграбная, але нябачная, уся ў парушынках вятроў паўночных, твая і толькі твая гэтая ноч.

***

Чалавек, які ў школе па фізіцы меў заўсёдныя “2”, лепш за ўсіх, у тым ліку геніяльных навукоўцаў, разбіраецца ў метафізіцы. Картасар бы сказаў: ён хутчэй і лягчэй за астатніх знаходзіць метафізічныя рэкі. І ніколі ў іх не патанае.

***

Чым далей тая, якая ў лепшым выпадку можа быць для Паэта марай, тым далей ён ад тых, хто ўжо ёсць у ягоным жыцці сябрам, блізкім ці нават бацькамі...

***

Самота дрэваў...

Схілілі долу ссівелыя валасы прыгажуні ў парках, яны, бядачкі, лета аплакваюць... сведкі таму – іх слёзы, што лісцем, як дываном, на падлозе ўсцілаюць нашы дарогі ўдалеч...

***

Сёння – гэта імгненне летуцення, якое вырвалася з учора, але не даляцела да заўтра...

***

Рамантычнае. Чараўніцтва казачнай зімы. Яе хопіць для ўсіх. У нашым доме – Крыўі.

***

На жаль, даводзіцца канстатаваць, што грамада беларусаў сёння – не больш чым сціжма, і толькі адзінкі, як зляцелае лісце бяроз, па-над...

***

Начны фэйсбук, як павук, тчэ павуцінне думак сумных...

***

Не кожная мара вядзе да выраю.

***

Накармі, Паэт, Пегаса годна, каб да зорак нёс душу-сяброўку, і між іх, на вогнішчы далёкім, з вечнасцю яднаў усяго пачатак – Слова.

***

Дзве цытаты:

1. Пад уніформай – пах ганьбы цывільных. (Х. Картасар)
2. І акупанты, і мерцвякі праз два дні смярдзець пачынаюць. (К. Фуэнтэс)

***

вечар... цемрыва як жур... паміж шыбамі і мной... цёмнасць белых душаў...

недзе ўвышыні... час надышоў... яблыкам упасці спелым. Лёхі сноў нібы віно. Будынкаў ацярэбкі. Вечар стылых паплавоў... у гарадскім задушшы.

***

Успаміннае...

Быў век, быў час, была эпоха, калі для маладых беларускіх літаратараў на Іслачы напачатку "нулявых" быў праведзены семінар на некалькі дзён. Вялікай прыемнасцю было тое, што сярод мэтраў-настаўнікаў прысутнічаў Леанід Дранько-Майсюк. І гэта тым больш і сёння, як добрае віно з гадамі, набывае каштоўнасць, калі ўлічыць, што спадар Леанід не проста беларускі вядомы і слынны паэт, а паэт еўрапейскага ўзроўню як мінімум. І не толькі як паэт, а як Чалавек, як Пісьменнік.

У Беларусі замала падобных творцаў, чытаючы якіх можна запытаць у сябе: "а ці не ў перакладзе на беларускую ты чытаеш еўрапейцаў? Можа, невядомы Картасар, Апалінэр, Фуэнтэс, Рылькэ, Рэмарк?.." "Не, – адказваеш сабе, – гэта непаўторны і непадробны зямляк Леанід Дранько-Майсюк, чый талент не саступае пералічаным асобам па гэтай самай "еўрапейскасці", а па выкшталцонасці і харастве мовы, стылёвасці нават пераўзыходзіць некаторых..." Пэўна ж, галоўнае, сам змест твораў – родны, беларускі, кранальна знаёмы табе як беларусу, пададзены формамі, знаёмымі еўрапейцам...

***

Аднойчы беларус вырашыў заплаціць падатак.

***

Неяк беларус сустрэўся з палешуком...

***

Штодзень чуеш і бачыш: "інтэрнэт выбухнуў", "інтэрнэт падарвалі"... Наколькі ж ён несмяротны, што ніякія выбухі яго не бяруць, і наколькі безабаронны, што яго штодзень падрываюць?

***

А літаратура і культура Беларусі дэнамінаваныя задоўга да рубля.

***

неба. зорка. цёмная сінеча. вакуум думак. гапата наўкола. "чё, слышь"? спыняецца вожык, каб даць дарогу зверу а чатырох колападобных нагах. недзе гаўкнуў сабака... ці падпіты гопнік? абое рабое, адказвае вакуум космасу, цэлячы ў вочка маленькім прынцам, якога нарэшце скінула акупаваная ім далёкая планета. неба. зорка. цёмная сінеча.



Сяржук Сыс



...Сярпы за плячыма – хіба што нагода
Зірнуць хітравата назад.
І жыць апантана, і йсці з асалодай
У свой залаты лістапад...

# Паэты нараджаюцца, каб жыць...

## *НА СТАРЫМ ЗАСЛАЎСКІМ ТРАКЦЕ*

Нібы змораныя сонцам
беспрытульныя сабакі –
На старым Заслаўскім тракце
паваліліся асіны...
Ім віхуры-завірухі
ды дажджы даліся ў знакі,
Ім маланкі пасмалілі
заліхвацкія чупрыны...

Мутнай восеньскай крывёю
набрынялая лістота
Валацугаў падарожных
яркай барвай спакушае.
Тут шукаць цяпер дарэмна
першароднай адзіноты,

І трывожных перашэптаў
лісцяў колішняга гаю.

Тут схавацца немагчыма
ад нікчэмнай мітусніны,
І трывожна –
быццам нож мне –
сярод ценяў запусцення
Зарастаюць палынамі
і густой сівой ажынай
Скамянелыя асіны...
пабялелыя бярвенні...

На мяжы каля Заслаўя,
на сцяжынах занядбаных,
Ні табе якога следу,
ні асіннікаў вячыстых...
Паляглі асіны ўпокат,
нібы ў бітве партызаны,
Толькі цень мільгне раптоўна
ў хмызняку кантрабандыста.

### ЖАНЧЫНА І ДОЖДЖ

Мокне сумны залатарнік
пад дажджамі, а сцяжына
То хаваецца ў падлеску,
то вужакаю заўецца...
За дажджамі, за лясамі,
недзе там не спіць жанчына;
Я здалёк яе бяссонне
адчуваю хворым сэрцам.

Покуль сонца прадзярэцца
скрозь упартую аблогу,
Невядомая, чужая,
будзе мроіць пра былое.
Знойдзе ўрэшце і сцяжына
шлях да ходжанай дарогі,
Па якой аднойчы пройдуць
агаломшаныя двое.

У дажджах вядзе-ратуе
невядомае імкненне,
Я, здаецца, змог бы бегчы лёгка
аж да небакраю.
Што мне сумны залатарнік,
што разгубленыя цені!
Мы ідзем, мая жанчына,
мы з дажджом цябе спаткаем.

## ЛІСТ СЯРГЕЮ ВЕРАЦІЛУ З ЛЫСАЙ ГАРЫ

Паэце, слухай, тут, у нас
Усё заснежана дарэшты...
Чытаць па снезе – самы час,
Ды нешта не ідзеш ты...

Вакол – здзічэлы краявід:
Нібы на ўскрайку свету.
І толькі я, як следапыт,
Шукаў твае прыкметы.

Але ні сцежак, ні слядоў
На Узгор'і не знайшлося,
Ніхто не кінуў жменю слоў –
Даўно перавялося!

Вось нашы Буды — тры дубы,
Вось азярынка ў коме,
Твая вартоўня – дом журбы,
А ты не выйшаў з дому...

## ВЯРНІСЯ!

Лютаўскай поўні святло разлілося ў пакоі на Гая
Потам халодным сплыло па прасцінах і целе...
Мора чароўнае сніць і ляціць да яго мая Галя,
Поўня, а я? Мы ж абодва не ценяў, а мора хацелі...

Мудрых тамоў піраміды і слаўныя продкаў выявы
Хвалямі холаду, пырскамі ценяў і плынямі пылу
Білі, кулялі, цягнулі на чорнае дно...
                                        толькі плаваць
Морам такім не стае мне ні ўмельства, ні сілы.

Галя, таплюся! Пазбаў мяне помсты раз'ятранай поўні,
Вось каб заснуць, хай прысняцца дняпроўскія рысі,
Новыя мовы прысняцца, і вершы, і тысячы слоў мне,
Толькі вярніся... Толькі вярніся...

## УЦЯКАЮ

Уцякаю ад вай-фаю, скайпа,
                                    мэйла і фэйсбука,
Кіну ўсё, хоць ненадоўга,
                                  ды на Лысую Гару...
Пад'ядаць шпінат са шчаўем,
   і смарчкі-страчкі з латукам,

Там дажджамі буду мыцца,
там пад Сонцам загару.

Уцякаю ад маршрутак,
ад метро і ад трамваю,
Каб нагамі перамераць
шлях адгэтуль і туды,
Дзе казыча вецер ноздры,
дзе адчайны птах спявае,
Дзе хіба ўначы прысняцца
нашы лёсы-гарады...

* * *

Уразумеў ля крайняе мяжы,
Калі стаміўся
па жыццёвай рэчцы плыць...
Паэты нараджаюцца, каб жыць,
А ім баліць,
баліць,
баліць...

## ПРЫЙДЗЕ НЕХТА НОВЫ

*Анатолю Сысу*

Пад гарой, у чэзлым лазняку
Звыкла прахрыпіць груган малітву,
Шугане кудысьці за раку
Ці на баль паганскі, ці на бітву.

Пад гарою льюцца туманы, –
Хутаюць Дняпро халодным пледам...
Брохне сом, вярнуўшыся з вайны
З маладым нахрапістым суседам.

На гары, Гарошкаўскай гары,
Спіць Паэт і чуйна ловіць словы,
Каб пазнаць:
вярнуліся сябры,
Каб усцешыцца,
што прыйдзе нехта новы...

## ТАПОЛІ

Спілавалі юнацтва маё,
спілавалі таполі...

Толькі пні з-пад асфальту
ды страшкія сны.
Гэта, ведаеш, дружа,
мой страчаны Гомель,
Гэта вечка маёй
непазбежнай труны.

### БО

Бадзяцца крывымі вулкамі
Мястэчка забытага Богам
Нязбытная зараз раскоша
Бо
Ніколі не ўведаеш пэўна
Хто цябе там перастрэне
Куды цябе выведзе цень
Бо
Часам і цені знікаюць
А потым, за ценямі, людзі
А раптам ты згубішся сам?
Бо
Знікнуць раптоўна – кайфова
Каб спарадзіць таямніцу
Пра свой недарэчны зыход

Раскоша
Крочыць
Крывымі
Бо

### ЧЭРВЕНЬСКАЯ НАВАЛЬНІЦА Ў МЕНСКУ

Гуляла навальніца
па вуліцах сталіцы,
царыцы-бліскавіцы
Ганялі мінчукоў...

А мы, нібы вар'яты,
Што праламілі краты,
Пад ліўнем ладзім свята
Таптання чарвякоў.

Пярун – наш меч дамоклаў,
Мы аж да жылаў моклі,
Хапалі ротам кроплі...
Нам хораша, ёў-ёў!

## ШЭРЫ ЧАЛАВЕК

Шэры ранак зубы шчэрыць,
З-за фіранкавых павек.
Ходзіць шэры па кватэры,
Шараговы чалавек...
Шуснуць з дому ціха ў шэрань,
У цямрэчу дрэў старых,
Шэры шалік, швэдар шэры...
Як і не было тут іх.

## ДВА СЯРПЫ

Сярпы за плячыма – яшчэ не прычына
Няўмольны зыход планаваць...
Яшчэ ёсць найлепшая ў свеце жанчына,
Што ўмее караць і кахаць.

Яшчэ засталіся пякучыя словы
Нянавісці і дабрыні,
І ў кучарах шэрані шчэ напалову,
І ў позірку палкім – вагні.

Яшчэ засталіся хрусценнеігліцы,
І рысі-царыцы ў бары...
Яшчэ могуць студзеньскай ноччу прысніцца
Дняпро, і наш дом на гары.

Сярпы за плячыма – хіба што нагода
Зірнуць хітравата назад.
І жыць апантана, і йсці з асалодай
У свой залаты лістапад.

Зміцер Брэшчанка



...у вочы ім ніколі не глядзі

і не бяры ў іх нічога...

# Чорныя справы

***Апавяданне***

У той вёсцы, куды я часта ўцякаю адпачыць ад гарадскога тлуму, ёсць у мяне знаёмы. Зваць яго Сымонам. Яму трыццаць тры гады, родам з Гарадка.

У вёску Сымон прыехаў да жанчыны, гадоў дзесяць таму. Ён сапраўдны селянін, добра ведае ўсялякую вясковую працу. Не любіць гарадское жыццё за тое, што там “няма чаго рабіць, зямлі няма, нічога няма”.

Сымон мае тую самабытнасць, якая робіць чалавека адметным і прыцягвае да яго ўвагу. Што б Сымон ні рабіў, за гэтым цікава назіраць, пра што б ні распавядаў, яго цікава паслухаць. А яшчэ Сымон мае талент трапляць у незвычайныя сітуацыі.

Аднойчы зімою мы з ім вячэралі і гаманілі пра сёетое. Зайшла ў нас размова пра чараўніцтва. Я ў гэтыя мясціны езджу даўно, але не чуў і не чакаў пачуць таго, што распавёў Сымон. Расповед ягоны мяне агаломшыў. Ён сказаў наступнае:

– Дзімон, тут усё ў ведзьмарах. Іх сюды з усёй Беларусі перасялялі, у Панкры, у Езярышча. Раней іх не было, а пасля вайны сталі ссяляць. Збіралі з вёсак ды з хутароў сюды тых, хто чорнымі справамі займаўся. Цяпер ужо мала засталося, а былі, казалі, наогул страшныя людзі.

Я прыгадаў, што ён казаў неяк пра свой дом, што ў ім нячыста, і спытаў яго пра гэта. Сымон ахвотна расказаў:

– Так, у гэтым доме збіраліся чараўнікі. Выпрабоўвалі хто з іх дужэйшы, стол у паветра ўзнімалі. Хто вышэй узніме, той, значыць, і дужэйшы.

Мы гэты дом у 2003 годзе купілі. Дакладней, Светка купіла, не я. Дом было тады цяжка знайсці, таму што палілі хаты, старшыня сельсавета паліла. Даволі хат было, у іх можна было жыць, але спалілі, адны сады стаяць. Прыйшлося гэты браць.

Тут побач бабка жыла, Маруська, цяпер памерла ўжо. Яна белай магіяй займалася, дапамагала людзям, знахарка была. Яна нам раіла не купляць, маўляў, благі дом. Ну і распавядала пра яго рознае. Казала між іншым, што ў ім толькі мужчына будзе жыць, а сям'і жыцця не будзе і што там ужо шаснаццаць гаспадароў змянілася.

Купілі ў Ніны Антонаўны Барсучыхі. Яна сама такая баба, што ёй у вочы нельга глядзець, вочы гэткія белыя-белыя, шэрыя-шэрыя. Калі яна камусьці здароўя пазыча, дык той хварэць будзе, пачне яго ламаць, крышыць. Пагляд у яе вядзьмарскі. Пазней сустракаю яе, як здароўе? – пытаюся. Кажа, добра сябе адчуваю, нічога. Распаўнела, гляджу, бегаць стала, а ў той хаце ёй дрэнна было, ледзьве хадзіла.

Ну дык вось, купілі гэты дом. Рамонт спачатку рабілі, не жылі яшчэ. Суседка да нас усё заходзіла, не Маруська, а іншая бабка.

Раптам гляджу, нейкія ломкі ў мяне пачынаюцца, легчы хочацца. Я раней веры нічому такому не даваў, думаў, гэта ўсё лухта. А тут бачу, што з ложка не магу падняцца. Ногі як з ваты. Што рабіць? Страшна, малады яшчэ, дзеці малыя.

Паклікалі святара, айца Міхаіла. Ён прыехаў, але яму кепска стала, у браму не здолеў увайсці. Сказаў толькі:

– Я ведаю, што гэта за дом.

І паехаў.

Маруська сказала, што святар не дапаможа, што і раней запрашалі, але дарма.

Яна прыходзіла, мяне вадой акрапляла, малітвы чытала. І я маліўся. Сказала:

– Ведаю, што гэта. Трэба шукаць, дзесьці каля хаты закапана. Ды хутчэй, каб не стала позна.

Пайшлі яны са Светкай шукаць і знайшлі. Вакол усё ў бур'яне было, а ў адным месцы свежая зямля. Пачалі капаць, а там дзве заднія казліныя нагі. Свежыя, з крывёю. Узялі іх, але не голымі рукамі, барані Бог! – ды ў вогнішча, ды не на сваёй зямлі, а насупраць, цераз дарогу. І з малітвамі.

Зрабілі гэтак, мне адразу палепшала, устаю з ложка, хадзіць пачынаю. Глядзім, праз хвілін дваццаць бяжыць галопам суседка, тая што заходзіла да нас. Праз плот спрытна гэтак пералазіць, а раней ціхутка хадзіла. Прыбегла да месца, дзе агонь палаў. Спачатку нейкую лухту пляла, а потым:

– Дзе ногі? – гаворыць. Гэта яе крышыць пачало.

– Навошта іх сюды закапалі? – пытаюся.

– Так трэба, – адказала і адразу пайшла.

Пецька, пляменнік яе, на другі дзень здзіўляўся: злегла старая. А я ўжо ведаю чаму. А яшчэ праз дзень памёрла. Гэта да яе вярнулася, што яна зрабіла.

Сымон замаўкае. Я думаю: вось дык справы тут робяцца! Пеклам патыхае. Жывеш і не ведаеш. Бачыш тое, што на паверхні: прырода, гаспадарка, побыт, звычайныя людскія стасункі.

Сымон бярэ цыгарэту і выходзіць з хаты. Я іду за ім. На двары цёмна і марозна. Студзень. Надвор'е ціхае, чорнае неба ўсё ў зорках.

Сымон запальвае і працягвае расповед. Ён гаворыць спакойна, без абурэння і асуджэння, толькі здзіўляецца, што людзі наважваюцца на гэткія страшныя рэчы.

– Маруська потым тлумачыла: на ногі было зроблена. Каб не знайшлі, дык і ляжаў бы, і ўрачы б не дапамаглі, а яна хадзіла б і харашэла. І радавалася. Я ж тую бабку і ў царкве бачыў, свечкі ставіла. Ведаю цяпер, навошта яны ў царкву ходзяць. Яны свечкі перастаўляюць з паміну на здравіе.

Сымон гаворыць у якой хаце жыла вядзьмарка. Хата стаіць не ля дарогі, як пераважная большасць дамоў у вёсцы, а ў хмызах, бліжэй да поля, за прыдарожнымі дамамі. Я з болем думаю пра тую няшчасную жанчыну. Як можна было гэтак відавочна няправільна жыць і гэтак жудасна загубіць душу?

– Там па хмызняках чараўнікі і хадзілі, – кажа Сымон, – ад людзей хаваліся каб не пазабівалі за іхнія справы. І ў кожнага чараўніка свая сцежка.

А што ўсе гэтыя людзі, – узнікаюць у мяне пытанні, – якія тут жылі, куды яны пайшлі? І вось гэтыя, сучаснікі? І Сымон? І я? Куды мы патрапім? У нашых шляхах ці больш святла за цемру?

– У тым доме я нервовы быў, – голас Сымона становіцца задуменным, пагляд накіроўваецца кудысьці ў далячынь. – Светка мне нецікавая была, пагаманіць не было аб чым. І дзеці шалёныя станавіліся.

Сымон дапаліў цыгарэту. Мы топчамся на снезе. Навокал ціха-ціха, нават вясковыя сабакі маўчаць. Мы знаходзімся наўскрайку вёскі, за намі поле, далей лес. Хаты ў гэтай частцы вёскі стаяць рэдка, побач жыве толькі адзін сусед, астатнія далей, уздоўж дарогі.

Я рады, што знаходжуся сёння тут, а не ў горадзе. Вёска набыла яшчэ адно вымярэнне, таямнічасці і архаічнасці. Канечне, яно заўсёды было, гэта я яго сёння ў чарговы раз адкрыў. Іншасвет актыўны, як і стагоддзі таму. Жыццё шырокае, у ім ёсць усё.

Трэба сказаць, што цяпер Сымон з жонкай не жыве. Яны пасварыліся, і Сымон пасяліўся асобна, у знаёмых, якія прыязджаюць сюды толькі ўлетку. Але часам Светка наведвае Сымона ў гэтым доме, хоча каб ён вярнуўся.

Мы заходзім у хату, зноў садзімся за стол. Сымон узгадвае іншыя факты са сваіх сустрэчаў з вядзьмарскім светам. Ён дае парады, я, надта ўражаны, слухаю і намагаюся ўсё запомніць.

– Чараўнікам дрэнна, калі яны людзям шкоды не робяць. А робяць па-featурознаму. Падкідваюць зачараваную гародніну, разбіты слоік у гарод, каб жыццё разбітае было. Мыла, якім нябожчыка абмывалі, могуць кінуць і шмат чаго. І так, і гэтак могуць. Я цяпер гэткай магіі даволі ведаю, як тут пачаў жыць.

Ці багата тут іх цяпер? Ёсць, баяцца іх, але і ходзяць да іх па чорныя справы, не разумеюць, што потым шкадаваць будуць.

Вунь у цешчы суседка вядзьмарка. І маці яе вядзьмаркай была. Яе пахавалі ўначы і труну праз вакно выносілі, а галава была адрэзана. Гэта ёй дачка адрэзала. Ведзьмакі доўга не паміраюць. І гэтая не памірала.

Альбо Валагоцкая яшчэ. Я працаваў у яе суседкі, пытаюся: дзе Валагоцкая? У Віцебск, кажа, паехала. А ў яе ж там няма нікога. Па вядзьмарскіх справах, кажа, паехала.

У яе яшчэ сяброўка ёсць, Сонька. Як толькі поўня, дык прыходзіць да Валагоцкай і твораць там нешта ў хаце. Што можна рабіць уначы? Я мужыка Валагоцкай добра ведаю, ён просты такі чалавек, працавіты, кавалём быў у калгасе. Дык яна яго змардавала, што ён два разы ў рэанімацыі ляжаў, інфаркт быў. Яшчэ не ачуняе, яна ўжо гоніць яго працаваць. Бачу неяк, бідон вады цягне, кажу:

– Ты ж толькі з бальніцы.

А ён:

– Звёў мяне чорт з гэтай чарціхай! Хуч бы ўжо памерці. Дык яна мне памерці не дае!

Яна і віламі яго калола. Там гэткая баба... няма слоў, – Сымон махае рукой.

– У цесця майго матка знахарка была, але яму не перадала, ён піў з маладосці. А брат ягоны на міне ў лесе падарваўся. Іх трое братоў было і тры бярозы перад домам расло, дзве засохлі, адна, цесцева, засталася.

Чараўнікі солі баяцца. У Гарадку вуліцу адну ведаю, дзе чараўнікі жывуць, бачыў аднойчы: соль была рассыпана на дарозе, дык вядзьмарка ішла навобмацак, як праз шкло.

У вочы ім ніколі не глядзі і не бяры ў іх нічога.

Светка мая, дурніца, таксама рабіла штосьці, хадзіла на могілкі, каб дзеці здаровыя былі, малака каб даволі было. Але гэта кепска, лепей гэтага не рабіць.

І першая мая жонка цікавілася магіяй. Кніжкі купляла, а там на ўсё ёсць: і каб дзяцей у школе не крыўдзілі, і каб зубы не балелі, і што хочаш. Шмат кніжак было ў яе пра вядзьмарства, я чытаў. Як паедзе ў Віцебск, дык прывозіць, у кніжных крамах усё гэта прадавалася.

А вось яшчэ была справа. У Гарадку. Я нежанаты яшчэ быў. Дзеўка там жыла, Сашка. Прыгожая дужа, а ў ложку ненажэрная. Як новыя студэнты прыязджаюць вучыцца, яна ўжо круціцца каля іх, ахвяру выбірае. Дык яна мне прысушку зрабіла.

Пачаў я з гэтай Сашкай жыць і зусім звар'яцеў, увесь час трэба было каля яе сядзець. Пойдзеш на працу, гэтак карціць на яе паглядзець, немагчыма. Псіхі сапраўдныя без яе былі.

Аднойчы мылася яна ў ванне, а мяне папрасіла ручнік прынесці. А я не ў тую шуфлядку залез, гляджу, карты ляжаць. Дужа-дужа старыя і гэткія страшныя! На адной труна, на другой чорт. Іх і ў рукі браць нельга. Тут Сашка выскоквае, давай біць мяне па руках.

Я ёй:

– Што такое, Саня? Што ты мяне па руках лупіш?

– Не лазь сюды ніколі!

Каля году з ёй аджыў. Потым мне дапамаглі, да бабкі адной адвялі, бабы Юлі. Паглядзела на мяне, спыталася, ці піў што з Сашкай. А мы віно чырвонае пілі, яна яго заўсёды піла, у яе грошы былі, ейная бабуля давала, ад немцаў атрымлівала маркі за канцлагер. Баба Юля кажа:

– Бачу, што ты піў. Вось, што ты піў!

Я адказваю:

– Вы што, здзекуецеся? Я гэткае не п'ю.

– Там пару кропель трэба, ты і не заўважыў.

Надзела мне на галаву чорную хустку, малітвы чытала. Потым сарвала хустку і ўсё прайшло.

А цяпер Сашка, кажуць, лысая стала, хварэе моцна, мала жыць засталося. А ёй толькі крыху за трыццаць. Малакроўе. Ці ведаеш, што за хвароба такая?

Пазней я вырашыў даведацца ў вёсцы пра чараўнікоў яшчэ ў кагонебудзь. Пытаўся ў сваякоў. Адказвалі:

– Ды не, няма. Мабыць раней былі.

Альбо:

– Ёсць напэўна, але мы пра гэта нічога не ведаем. Ну іх!

Спытаўся ў адной маладой кабеты, якую добра ведаў:

– Ці праўда, што тут у вас шмат чараўнікоў?

Яна паставілася скептычна:

– Гэта Сымон са Светкай выдумляюць, у іх усе чараўнікі: і я, і мамка мая. А яна не вядзьмарка, у яе толькі татка быў знахар, але ён нічога гэткага не рабіў, толькі людзей лячыў. Ён з-пад Мяжы, у іх там месцы глухія, там, кажуць, царква пад зямлю сышла, чулі?

І яна глядзіць мне ў вочы, сама хоча разгадаць, ці лухта гэта, ці святая праўда. Але гэта падаецца ёй больш праўдзівым, таму што казала маці.

А Светка ўсё ж праз некаторы час хату асвяціла. І, вось дзіва, увесну ўпершыню ластаўкі пад страхой гняздзечка зладзілі і яблыня зацвіла.

Сымон вярнуўся да Светкі, жывуць. Дзеці ў школу ходзяць.



## Магабгарата



...забіць прытулашукальца

дапамогі яму не даўшы

грэх забойству двуроднага роўны...

# Паляўнічы і пара галубкоў

### *Часткі 12.141-145*

*Санскрыцкая літаратура – адна з найбагацейшых у свеце. Аднак да нядаўняга часу перакладаў з санскрыту ў беларускую мову не было зусім. Гэта тым больш дзіўна, што адзін з першых санскрытолагаў Расійскай імперыі Каятан Касовіч (Каэтан Коссович) быў родам з Полацка. Менавіта ён пачаў складаць першы санскрыцка-расійскі слоўнік, а таксама рабіць пераклады з індыйскага эпасу – праўда, на лаціну, якая тады была добра зразумелая любому заходнееўрапейскаму санскрытолагу і ўваходзіла ў абавязковы "джэнтэльменскі набор" сур'ёзнага мовазнаўцы (у 1827, напрыклад, Франц Боп нават выдае Санскрыцка-лацінскі гласарый).*

*Адным з такіх перакладаў стаў урывак з Магабгараты "Аповед пра паляўнічага і двух галубоў". У свой час гэты пераклад прачытаў Бранісаў Эпімах-Шыпіла і пры нагодзе пераказаў маладому Янку Купалу, які жыў у яго на кватэры падчас свайго вучэння ў Санкт-Пецярбургу. Гісторыя так уразіла паэта, што ён пераклажыў яе на вершы і выдаў у зборніку "Шляхам жыцьця" (1910).*

*Пераклад з санскрыту Ігара КУЛІКОВА.*

*Купалава паэма “Паляўнічы і пара галубкоў”, вядома, моцна розніца ад арыгінала як у паэтыцы, так і ў памеры, аднак адзін момант заслугоўвае ўвагі, а менавіта напісанне “Магабгарата”. На жаль, цяпер у беларускай мове санскрыцкія словы перапісваюцца з расійскай транслітэрацыі, што стварае некаторыя непаразуменні. У прыватнасці, санскрыцкі звонкі [h] і звонкія прыдыхальныя [gh dh bh] перадаюцца як ‘х’, ‘гх’, ‘дх’ і ‘бх’ услед за расійскай мовай, дзе няма звонкага шчылiннага [г]. Цяжка сказаць, што пабудзіла Купалу напісаць гэта слова менавіта так (ці то Касовічава больш дакладная транслітэрацыя, ці то нешта яшчэ), але цяпер мы маем добры прэцэдэнт правільнай транслітэрацыі санскрыцкіх слоў непасрэдна ў беларускую мову.*

*Гісторыя пра паляўнічага і галубкоў нездарма прыглянулася і Касовічу, і Купалу. Яна была надзвычай папулярнай ужо ў Індыі, як і ўся Магабгарата, якую справядліва называюць энцыклапедыяй індыйскага жыцця. Галоўны матыў гісторыі – бездакорнае выкананне дгармы, асновы асноў індыйскага ладу жыцця, нават калі гэта можа прывесці да смерці яе выканаўцы. Слова* ***dharma-*** *даслоўна азначае ‘апора’, але таксама ўжываецца і ў сэнсе ‘закону’, таму ў дадзеным перакладзе яно перададзена як “праўда” (пар. з назвай зборніка законаў Кіеўскай Русі “Руская праўда”), то бок, тое, што “напраўляе” чалавека ў ягоным жыцці альбо “правіць” яго ўчынкі.*

**Ігар КУЛІКОЎ**

**Узыход 141**

*Йудгіштхіра прамовіў:*
о дзеду о многавядушчы    абазнаны ва ўсіх навуках
раскажы мне якая праўда    у таго хто дае прытулак /1/
*Бгішма прамовіў:*
велякняжа вялікая праўда    у прытуладаўчага мужа
добрае ты задаў пытанне    о найлепшы сярод бгаратаў /2/
пачынаючы з князя Нрыґі    шмат князёў здабылі вызволу
адарыўшы сваіх прашэнцаў    абаронаю ды прытулкам /3/
так аднойчы гавораць голуб    паляўнічаму даў прыстанак
як належыць яго пачціўшы    і сабой накарміўшы нават /4/
*Йудгіштхіра прамовіў:*
раскажы мне як гэты голуб    паляўнічаму даў прыстанак
накарміўшы сваім жа мясам    і чаго дасягнуў ён пане /5/
*Бгішма прамовіў:*
слухай гэты слаўны аповед    што знішчае усе правіны
расказаны нашчадкам Бгрыґу    людаўладніку Мучукунду /6/
папрасіў Мучукунда неяк    пакланіўшыся следна Раму
распавесці гэты аповед    дзівачынны о бык-бгарата /7/
і паведаў яму сын Бгрыґу    велячуйнаму сказ славуты
як даўней о народаўладча    гэты голуб дасяг нябёсаў /8/
слухай дужарукі уважна    раскажу я гэты аповед
што наставіць добра у праўдзе    у нацесе цябе й прыбытку /9/
вось жа неяк хадзіў зямлёю    жахавіты нібы сам Шыва
па лясах блукаў на самоце    птушкалоў бязлітасны й хіжы /10/
чорны як крыло крумкачова    жорсткі люты многасуворы
худашыі дзябёлацелы    веляскiвічны й клышаногі /11/

ні сяброў не меў адзінотнік ні сукровічаў ні сваяцтва
ўсімі кінуты быў злачынец за свае дурныя учынкі /12/
узапраўды мудрымі мае абмінацца такі ліхадзейнік
што вярэдзіць сабе самому ці ж дабро ён другім учыніць? /12-1/
людашкоднікаў ліхамысных што ў жывых жыццё адымаюць
трэба ўсім унікаць старанна як змяі пазбягаюць трутнай /12-2/
пастаўляўшы сілы ды пасткі ён лавіў разнаякіх птушак
каб забіўшы о пане люду іх прадаць і здабыць прыбытак /13/
так пражыў ён багата часу ліхачынец багатагрэшны
іншага не знаў ён пражытку і не бачыў у тым няпраўды /14/
многа восеняў разам з жонкай ён прабавіў за птушкалоўствам
ды ачмураны ўласным лёсам ён другіх не любіў заняткаў /15/
і вось аднойчы яго ў лесе захапіла страшная бура
такі моцны падняўся вецер што здавалася вырве дрэвы /16/
пачарнела імгненна неба завіліся вянкі маланак
колькі вока паўсюль хмарнеча нібы мора пад парусамі /17/
лінуў ліўнем пад рогат грому разышоўся дажджом Стадухі
і як га ўсю зямлю навокал ён вадою напоўніў шчодра /18/
ачмурэўшы ад страху лоўчы спанталычаны навальніцай
тунна лесам блукаў навослеп гнаны холадам і залевай /19/
ні сухой нізіны ні ўзвышша ён не мог нідзе адшукаці
ўсе сцяжыны ды ўсе дарогі затапіла небапаводка /20/
многа птушак забіла ліўнем раскідала вятрыскам гнёзды
ільвы дзікі алені разам пазбіраліся на пагорках /21/
ад магутных парываў ветру ўсё трымцела жыхарства лесу
страх і голад іх гнаў па лесе напалоханых згаладнелых /22/
так ён доўга блудзіў бяз спыну змёрзшы трэсся усенькім целам
аж закмеў на зямлі галубку што ўпала знябытая сцюжай
і схапіўшы тую здабычу ён укінуў птушку у клетку /23/
хоць і сам замучаны вельмі ён чужых не заўважыў мукаў
ліхачынец прывыклы к ліху толькі ліха й змог учыніці /23-1/
тут пабачыў ён між гушчобы хмарасіняе велядрэва
што давала прытул і засень для чародаў разнакіх птушак
нібы Творцам самім на добрасць сутваронае ўсім істотам /23-2/
хутка выпагаднела й неба стала чыстым нібыта лотаць
зоркі высыпалі як кроплі на пялёстках раскрытай кветкі /24/
разглядзеўшыся на староны зразумеўшы што ноч настала
ён падумаў далёка дом мой доўга тупаць да роднай вёскі
і наважыў тады заночыць проста ў лесе даждацца ранку /25/
склаўшы найпачцівa далоні ён звярнуўся да велядрэва
я прашу аб прытулку бостваў што знайшлі тут сабе прытулак /26/
так сказаўшы паслаў ён лісця палажыў у галовы камень
і зняможаны моцнай стомай заснуў тут жа птахазабойца /27/

*Такі ў святой Магабгараце ў раздзеле пра Спакой сто сорак першы ўзыход.*

**Узыход 142**

*Бгішма прамовіў:*
жыў на дзераве тым о княжа у лістоце бучной аддаўна
яркапёры прыгожы голуб разам з сябрамі ды сям'ёю /1/
паляцеўшы збіраці ежу яшчэ ранкам яго дружына
не вярнулася проці ночы і пачаў хвалявацца голуб /2/
моцны лівень прайшоў сягоння а каханай няма дагэтуль
што яе затрымала ў лесе? ох калі прыляціць дадому? /3/
хай яе абміне няшчасце маю ладу ў начной гушчобе
без яе апусцеў аседак без каханай не мілы дом мне/4/
нават поўны дзяцей і ўнукаў і нявестак і розных слугаў
дом здаецца пустым для мужа як няма у ім гаспадыні /4-1/
бо не дом называюць домам мужаў дом ягоная жонка
дом жа пазбыты гаспадыні да няўдоб'я стае падобным /4-2/
як не вернецца сёння лада міласпеўная прыгажуня
краснапёрая мая жонка то навошта далей мне жыці? /5/
ўсім сэрцам адданая мужу за жыццё яна даражэй мне
разам дзеліць са мной жарбітка і знямогу і моцны голад /6/
любіць мужа яна пяшчотна заўжды верная мне галубка
хто такую мае дружыну той багаты на гэтым свеце /7/
бо для мужа яго дружына найвышэйшым завецца панам
і ва ўсякім свецкім занятку таварышым і памагатым /8/
для разбітага цяжкай хірай для пакутніка у пакутах
няма лепшых на свеце лекаў ад клапотнай ласкавай жонкі /9/
няма сябра роўнага жонцы няма роўнай жонцы апекі
няма роўнага жонцы ў свеце памагальца у справе праўды /10/
гэты скрушныя словы мужа што сядзеў у кароне дрэва
яго жонка пачула знізу паланёная птахалупам /11/
*Галубка прамовіла:*
як жа мне пашчасціла з мужам што так цэніць мяне высока
ды усякую бачыць цноту ува мне што таго нявартa /11-1/
не дастойная звацца жонкай нездаволен якой сужэнец
даўшы перад агнём бо клятву муж для жонкі стае апорай /12/
так разважыўшы ў горкім смутку мужу смутнаму на галінцы
з клеткі цеснай яна сказала злога лоўчага паланянка /13/
ты паслухай маю параду ды зрабі як табе прамоўлю
ты прымі як належыць мужа што знайшоў тут сабе прытулак /14/
спіць бо гэты птушкалавітай пад каронай тваёй сялібы
згаладнелы пабіты сцюжай ушануй жа каханы госця /15/
бо забіць прытулашукальца дапамогі яму не даўшы
грэх забойству двуроднага роўны ці каровы што маці свету /16/
галубінай якая доляй нам прызначаны зроду праўда
ўсёды мусіць тае трымацца дабрачынец табе падобны /17/
хто ж выконвае колькі змогі сваю праўду домагасподнік
той па смерці сягае светаў неўміручых так кажа Слова /18/
ты ж каханы ўжо маеш дзетак маеш ты прадоўжнікаў роду
дык падбай сягоння за праўду і прыбытак а не за цела

ушануй птахалова мужу каб парадаваўся ён сэрцам /19/
пра мяне ж зусім не хвалюйся не сумуй што загіну ў клетцы
знойдзеш іншую ты дружыну каб сябе пражывіць галубе /19-1/
так сказаўшы голубу жонка паланёная ліхачынцам
ахінутая горкім горам паглядзела на мужа з клеткі /20/
ён жа раду разважнай жонкі словы праведныя пачуўшы
вельмі ўзрадаваўся душою і слязьмі наліліся вочы /21/
паглядзеўшы на птахалова што жыве з забівання птахаў
ён яго ўшанаваў старанна паводле усіх прадпісанняў /22/
і сказаў будзь здаровы госцю што магу для цябе зрабіць я?
не турбуйся і не саромся тут спадар у сваёй гасподзе /23/
дык скажы мне адразу пане ці жадаеш чаго ці хочаш?
ўсё зраблю дарагому госцю што знайшоў тут сабе прытулак /24/
нават вораг у дом увойшлы мае быць гасцінна прыняты
нават прыйшламу дрывасеку дрэва засень дае ад сонца /24-1/
пагатоў мае быць гасцінным да усякага ў доме госця
дабрачынны домагасподнік што выконвае пяць аброкаў /25/
хто ж ад дурасці хоць гасподнік а пяці аброкаў не чыніць
той і ў гэтым не плёніць свеце і таго дасягнуць не зможа /26/
дык кажы шчырасэрда госцю што ў мяне ты папросіш просам
тое я зраблю без сумневу не сумуй не журыся болей /27/
галубовыя словы ўчуўшы адказаў яму паляўнічы
мучыць вельмі мяне халадэча ты ад сцюжы мяне захутай /28/
атрымаўшы такую просьбу назбіраў ён сухой лістоты
каб раскласці агонь даловах паляцеў тады па вугольчык /29/
неўзабаве вярнуўся голуб прынёсшы гарачага прыску
і ў сухое кінуўшы лісце распаліў ён лаўцу цяпельца /30/
вельмі яркі агонь расклаўшы госцю голуб прамовіў слова
ты сядай да цяпельца смела рукі ногі сагрэй нарэшце /31/
добра кажа яму лавітай да цяпла працягвае рукі
ды крыху акрыяўшы духам слова гэткае мовіць птаху /32/
голад мучыць мяне вялікі ты павінен мяне накарміці
тыя словы пачуўшы голуб лаўцу слова такое мовіць /33/
няма ежы ў мяне спадару што б табе наталіла голад
толькі тым мы жывём заўсёды што у лесе абдзень збіраем /34/
і падобна лясным маўкліўцам мы не робім зусім запасаў
так сказаў яму голуб шчыра і збляднеў ад уласных словаў /35/
як яму накарміці госця разважаць ён пачаў маўкліва
на жыцця свайго лад о княжа наракаючы у адчаі /36/
але тут яго азарыла і сказаў ён птахазабойцу
накармлю я цябе спадару толькі ты пачакай часінку /37/
так сказаўшы яшчэ лістоты ён сухой у агонь падкінуў
і ўзрадаваны вельмі сэрцам паляўнічаму зноў прамовіў /38/
ад багоў раней і ад продкаў маўчароў і вялікасамых
чуў я што пашанова госця ёсць заслугай вялікапраўднай /39/
учыні ж мне сягоння ласку ісцінна гавару табе я
што я сэрцам усім гатовы споўніць просьбу тваю о госцю /40/
шчыры даўшы зарок прасільцу усміхнуўся яму ён княжа

і агонь абляцеўшы тройчы  рынам рынуўся проста ў полым /41/
птахалоў жа калі пабачыў  як у вогнішчы знікнуў голуб
зажурыўся у цяжкіх думах  ліхачынец што ж нарабіў я /42/
пагарджаны я людашкоднік  за свае дурныя учынкі
страшны лёс мяне напаткае  тут не можа быці сумневу /43/
так ён доўга енчыў няшчасны  паляўнічы багатагрэшны
праклінаючы свае ўчынкі  і сябе за пагібель птаха /44/

*Такі ў святой Магабгараце ў раздзеле пра Спакой сто сорак другі ўзыход.*

**Узыход 143**

*Бгішма прамовіў:*
голуба няшчаснага гібель  убачыў тады паляўнічы
і спагадаю агарнуты  зноў слова такое мовіў /1/
ліхачынец я неразважны  нарабіў я вялікай шкоды
будзе ў сэрцы маім давеку  мучаць грэх мяне невыкупны /2/
так сябе ён ганіў бясконца  зноў і зноў дакараў за ліха
гора мне злачынцу такому  неразважнаму верадліўцу
што суворым стаў птахаловам  занядбаўшы дабро чыніці /3/
даўшы мяса свайго сягоння  даў мне голуб вялікасамы
ліхачынцу навуку праўды  тут сумневу быці не можа /4/
дых жыццёвы я свой стрымаю  пакінуўшы дзяцей і жонку
указана мне сёння праўда  вельміправедным веляптахам /5/
пачынаючы з гэтай дніны  сваё цела пазбыўшы ўцехаў
я знясілю яго як летам  плыткі стаў высушвае сонца /6/
голад смагу церпячы й спёку  змізарнелы напятажылы
я гавецьму розным гавеннем  тагасветнай жарбой займуся /7/
сваё цела аддаўшы голуб  паказаў мне госцешанову
таму буду трымацца праўды  праўда ёсць навышняй дарогай
паказанай мне веляптахам  праўдазнаўцам між праўдазнаўцаў /8/
так наважыўшы ды рашыўшы  лютачынны птахазабойца
у выправу-невараць рушыў  у зароках многатрывалы /9/
птахалоўчы кінуў рыштунак  пасткі палкі сілкі ды сеткі
ды галубку з жалезнай клеткі  выпусціў удаву на волю /10/

*Такі ў святой Магабгараце ў раздзеле пра Спакой сто сорак трэці ўзыход.*

**Узыход 144**

*Бгішма прамовіў:*
калі знікнуў птахазабойца  ў горы горкім ракла галубка
ўспамінаючы свайго мужа  разрыдалася яна рыдма /1/
я ні разу не помню мілы  на мяне каб ты сердаваўся
удава я цяпер няшчасна  хоць і маю дзяцей о птасе
шкадавацьмуць мяне сяброўкі  жалюгодную безмужоўку /2/
ты заўсёды мяне кунежыў  шанаваў і цаніў высока
словам добрым сэрцапрыемным  неаднойчы мяне абдорваў /3/

у далінах вялікіх гораў    на рачных з табой вадаспадах
ды ў каронах прыгожых дрэваў    час мы часта бавілі разам /4/
у паветры з табой каханы    мы гарэзавалі гарэзы
усяляк мяне забаўляў ты    дзе ж цяперака тыя ўцехі? /5/
не бясконцы дары ад бацькі    не бясконцы ад маці й сына
толькі мужа дары бясконцы    хто ж свайго не шануе мужа? /6/
няма мужу роўнай апекі    няма мужу роўнага шчасця
ўсё багацце жанчыны ў мужы    муж апора муж абарона /7/
без цябе о каханы мужу    мне жыццё не мілае болей
дый якая на свеце жонка    зможа жыці далей бяз мужа? /8/
так рыдаючы безупынна    у жалобе й вялікім смутку
увайшла у агонь галубка    мужаверная проста ў полым /9/
і пабачыла свайго мужа    на летаку у гожых шатах
у атачэнні дабрачынцаў    што чынілі яму ўшанову /10/
у вянку і гожым адзенні    у аздобах усемагчымых
летакі яго акружалі    веляслаўных праведнадзеяў /11/
так сустрэўся на небе голуб    разам з вернай сваёю жонкай
атрымаўшы за чын адгоду    разам з жонкай зажыў шчасліва /12/

*Такі ў святой Магабгараце ў раздзеле пра Спакой сто сорак чацверты ўзыход.*

**Узыход 145**

*Бгішма прамовіў:*
разглядзеў галубоў на возе    на лятучым і птахалоўца
а пабачыўшы засмуціўся    ды пачаў разважаць няшчасны /1/
як жа мне ды якой жарбою    на нябёсную стаць дарогу?
так падумаўшы у блукальцы    ён наважыў тады падацца /2/
і ў выправу-невараць рушыў    паляўнічы птахазабойца
жывучы адзіна паветрам    небапрагаю беспрысвойны /3/
налучыў ён на стаў аднойчы    велізарны сцюдзёнаводны
дзе між лотацяў красналістых    угняздзілася процьма птушак
адзін выгляд такога става    наталяе смаглаexisting смагу /4/
ад гавення зусім схуднелы    увайшоў той птахазабойца
у суседні о сыне Прытхі    лес населены дзікім зверам /5/
зразумеўшы што лес вялікі    увайшоў у яго лавітай
ды ўваходзячы аб калючкі    ён параніў сабе ўсё цела /6/
у крыві ад шматлікіх драпін    стаў блукаці па той гушчобе
па бязлюдным вялікалесе    поўным хіжых звяроў і птахаў /7/
тут узняўся магутны вецер    і ад церця сухога голья
разгарэўся агонь вялікі    ахапіла гушчар пажарам /8/
і ліяны і велядрэвы    і хмызняк і густы падлесак
ўсё паліў той агонь сіберны    як агонь пры сканчэнні веку /9/
ад раздзьмутага ветрам полу    ад разнесеных ветрам іскар
цэлы лес палымнеў няўрымсна    разам з птушкамі ды звярамі /10/
прагны цела сваё пакінуць    вельмі ўзрадаваўся лавітай
бегма ў полым бучны пабегшы    у вагонь ён кінуўся смела /11/

абняло птахалова жарам   і спаліла грахі дазвання
дасягнуўшы навышняй цэлі   ён здабыў сабе вызваленне /12/
так яго мінулася гора   і знайшоў ён сябе на небе
між ґандгарваў йакшаў і сіддгаў   палымнеючы нібы Індра /13/
так на небе стрэлася знову   галубіная пара з лоўчым
паасобку дасягшы неба   праз учынак паводляпраўдны /14/
так усякая ў свеце жонка   што за мужам следуе следна
пападае хутка на неба   як галубка зіхціць заслугай /15/
пра лаўца й галубоў-сужэнцаў   расказаў я табе аповед
як даўней сваім дабрачынам   здабылі яны вышняй цэлі /16/
хто слухае гэты аповед   заўсёды ці сам павядае
абміне таго грэх і ліха   хоць і мысел ягоны схібіць /17/
вось вялікая праўда княжа   о найлепшы між праўдавітых
і каровазабойца гэтай   праўдай зможа граху пазбыцца
але той хто госцезабойца   анідзе не знойдзе патолі /18/
хто паслухаў о Йудгіштхіра   сёй аповед грэхаачысны
той не стане на сцег злачынны   а на неба рушыць угоднік
таму прыйшлага ў дом па помач   трэба госця прымаць пачціва /19/

*Такі ў святой Магабгараце ў раздзеле пра Спакой сто сорак пяты ўзыход.*

Заўвагі:

**141**

**1** *Йудгіштхіра* (*yudhíṣṭhira-* ‘трывалы ў бітве’) – адзін з галоўных герояў Магабгараты. Старэйшы з пяці братоў Пандаваў. Уважаецца сынам бога Дгармы альбо Йамы ад княгіні Прытхі.

**1.3** *праўда (dharma-)* – слова *dharma-* даслоўна азначае “тое, што падтрымлівае, апора”. Адсюль беларускі пераклад “праўда” як “тое, што правіць, накіроўвае”. Дгарма – гэта абавязак, закон, уклад, вера, дабрачыннасць. Дгарма – гэта тое, што ёсць апораю асабовага быцця. Увасабляючы сваю дгарму, чалавек знаходзіцца ў сваім быцці, у свабодзе; увасабляючы ж чужую дгарму, ён збочвае з дарогі да вызвалення ад самсары.

**2** *Бгішма* (*bhīṣma-* ‘жахлівы’) – адзін з герояў Магабгараты, сын Шантану й Ґангі. У вайне Пандаваў з Каўравамі прыняў бок апошніх.

**2.2** *бгаратаў (bhārata-)* – нашчадкі князя Бгараты, сына Душйанты й Шакунталы, першага з дванаццаці ўсядзержцаў (*cakravartin-*). Паводле іх названа краіна, якая вядомая ў Еўропе як Індыя, – Бгаратаварша (*bhāratavarṣa-*), ці проста Бгарата (*bhārata-*).

**6.3** *Бгрыґу (bhṛgu-)* – адзін з дзесяці велярушаў, створаных Продкам (*manu-*). Род Бгрыґу – адзін з найгалоўных святарскіх родаў старажытнай Індыі.

**7.4** *о бык-бгарата (bharatarṣabha-)* – т.б. выдатны бгарата.

**9.3-4** *у праўдзе у нацесе цябе й прыбытку (dharma-, kāma-, artha-)* – тры галоўныя мэты жыцця паводле індыйскіх наставаў.

**142**

**18.4** *Слова (śruti-)* – святыя тэксты (Веды, брагманы, аранйакі, упанішады).

**143**

**9.3** *у выправу-невараць (mahāprasthāna-)* – калі жарбіт выпраўляецца ў дарогу й вандруе, пакуль смерць пакладзе канец яго блуканням, то кажуць, што ён выпраўляецца ў *mahāprasthāna-*.

**144**

**10.2** *на летаку (vimāna-)* – лятальная прылада, воз багоў, звычайна ў выглядзе калясніцы, але часам і цэлага палаца.

**145**

**5.3** *Прытхі (pṛthā-)* – маці Йудгішхіры, Арджуны, Бгімы ды Карны.

## Канстандзінас Кавафіс



...захочаш выправіцца на Ітаку –
маліся, каб была дарога доўгай...

# Колькі ёсць змогі

### СВЕЧКІ

Перада мною дні, што яшчэ прыйдуць,
нібы запаленых чародка свечак,
што ажылі агнямі залатымі.

А дні былыя засталіся недзе,
як ланцужок даўно пагаслых свечак;
бліжэйшыя – яшчэ крыху дымяцца,
хоць і астылі, аплылі яны.

Я не хачу на іх глядзець: мне скрушна,
святло іх колішняе тут прыгадваць –
гляджу на тыя, што цяпер гараць.

Я не хачу, мне страшна азірацца
і бачыць, як даўжэе цёмны шэраг,
Як болей робіцца пагаслых свечак.

*Пераклад
з навагрэцкай
Лявона
БАРШЧЭЎСКАГА.*

### *CHE FECE… IL GRAN RIFIUTO*

Бывае, чалавеку трэба выбраць слова –
Сказаць камусьці "так", ці "не" рашуча,
Сказаць адважна. Хто сказаў "так", немінуча
Прыцягне ўвагу, бо ён быў ужо гатовы

Сваё прамовіць "так". А той, які ўтрапёна
Прамовіў "не", на тым стаяцьме й потым –
Хоць слова гэтае над ім павісне гнётам;
Хоць праўда на яго баку. І так да скону.

### *ВОКНЫ*

Пакояў гэтых змрок – цяжару мне стае:
ў туляннях пражываю тут я дні свае,
акон шукаючы. І будзе нечакана,
як возьме ды адчыніцца якое –
але нідзе акон тых не відаць. Ці я знайсці
не ўмею іх. А можа, так яно і лепей... Ці
святло не створыць новага тырана?
Наогул, што́ адкрые мне ў пакоі?

### *ГАЛАСЫ*

Гучанне галасоў, што цешаць вуха:
адны памерлі ўжо, загублены другія,
нібыта яны мёртвыя таксама.

У снах яны, бывае што, і ўзнікнуць,
сяды-тады бянтэжаць клёк яны.

І, водгуллем няясным абудзіўшы
паэзію жыцця, што прамінула,
яны, як музыка начная, гаснуць.

### *ЖАДАННІ*

Як быццам целы маладыя, пахаваныя
ў раскошным маўзалеі, дзе язмін
ля ног ляжыць, а ружы ў галавах, –
жаданні так нерэалізаваныя
ні ў ночы жарсці не знайшлі працяг,
ні ў ззянні пераддосвітных хвілін.

### *ТРАЯНЦЫ*

У намаганнях нашых – нас, няўдаліц –
траянцаў мы нагадваем у нечым.

Як толькі ў нечым поспех маем, дык адразу
замацаваць імкнёмся мы пачатае
з надзеяй, што ўсміхнецца нам удача.

Але штораз перашкаджае нешта нам.
Ахіл, раптоўна выскачыўшы з рова,
на нас уміг нагоніць жах смяротны.

Падобныя мы ў намаганнях да траянцаў:
мы лічым, што рашучасць і адвага
наканаванне дапаможа нам змяніць,
і за муры выходзім мы змагацца.

Калі ж прыходзіць час выпрабавання,
нам не хапае мужнасці й рашучасці:
ў душы слабее сіла супраціву.
Тады вакол муроў мы бегаем,
выглядваем, куды нам уцячы.

Разгром наш непазбежны, й на мурах траянскіх
ужо па нас гаруюць, нас аплакваюць.
Па велічы былой рыдае памяць наша,
Па нас Прыям з Гекабай горка плачуць.

## *БЕСПРАСВЕЦЦЕ*

За днём дзень паўтараецца нязменна,
Тугу і аднастайнасць наганяе;
Здаецца, хвіля адышла імгненна,
Наступная ж за ёй – адна і тая.

І пройдзе месяц, і наступны прыйдзе:
Ў нязменнасці сваёй ён непадробны.
Хоць учарашні дзень нам і абрыдзеў,
Ды й заўтрашні – да заўтра не падобны.

## *КРОКІ*

У ложку з эбену, які трымаюць
каралавыя арлы ў кіпцях,
адпачывае без турбот Нерон –
шчаслівы, у салодкім забыцці;
плоць захлынае сіла маладая.

Але паблізу ў залі мармуровай –
там, дзе схаваны родавы ларарый
Агенабарбаў, не, няма зацішку:
страх даўніх апаноўвае бажкоў!

Дрыжаць ахоўнікі малыя дому,
шукаюць, цельцы як схаваць свае,
бо змрочныя яны ўжо ўчулі гукі:
яны ад сходаў чуюцца бліжэй, бліжэй...
Так крокі набліжаюцца жалезныя –
прыступкі бразгаюць, і лары, ашалелыя
ад жаху, зноўку да ларарыя бягуць,
штурхаюцца... хтось падае пад ногі.
Адкуль той гук, яны ўжо зразумелі:
Эрыніі ідуць бясшумнаю хадою.

## *ГОРАД*

Сказаў ты: “У іншы край пайду ды мора іншае знайду,
спаткаю іншы горад я, цудоўнейшы за мой –
тут месца мне няма, з маёй адкрытаю душой,
і майму сэрцу збудавана надмагілле,
і розум мой страшэнна церпіць ад бяссілля.
Вакол руіны чорныя – куды я ні зірну.
Разбурана жыццё, і праўду ведаю адну:
пражыў яго я марна – і сабе ўсё на бяду”.

Не напаткаюцца ні іншая зямля, ні мора, ані ўцёс –
твой горад пойдзе за табой, і будзеш ты глядзець
на тыя ж вуліцы, дамы й павольна там старэць:
прытуліш толькі там ты галаву сівую.
А ў іншы ты не трапіш – мару больш не цеш пустую:
няма ў цябе больш ні шляхоў, ні карабля,
і згублены табой не кут, а ўся зямля,
ты ўсё згубіў, дарэмна свой аспрэчваючы лёс.

## *САТРАПІЯ*

Так скрушна ад несправядлівай долі
тваёй: ты створаны быў для здзяйсненняў
і поспехаў, і славы неўміручай,
а на тваім шляху ўзнікаюць толькі
людская чэрствасць, подласць, дробязнасць
і мноства розных недарэчных звычак.
І прыйдзе дзень, калі ты ўсё ж здасіся
(у роспачы вялікай ты здасіся),
Калі адправішся ты ўсё-ткі ў Сузы,
на двор ты з’явішся да Артаксеркса.
Цябе сустрэнуць, пэўна што, з павагай,
і прапануе цар табе сатрапію –
ты ж у адчаі прымеш усё тое,
ўсё тое, што табе зусім не трэба,

бо іншага душа ў знямозе прагне –
ад дэма, ад сафістаў пахвалы;
пачуць ад іх захопленае: “Эўге!”
на Агары мець воплескі, ў тэатры...
Ад Артаксеркса гэтага не будзе,
ў сатрапіі такога ты не знойдзеш,
што ж за жыццё тады цябе чакае!

### *ТОЕ, ШТО АДБЫЛОСЯ*

Ахопленыя страхам, падазрэннем,
у позірку трывога, дух смуткуе;
знайсці спрабуем выйсце роспачна,
каб абысці пагрозу немінучую,
што ўжо насоўваецца на нас.
Але найгоршае нас не дагнала,
трывога выявілася фальшываю
(ці не дачулі, ці прымроілася нам?)
Ды іншая бяда тут навалілася
на нас, якой зусім мы не прадбачылі,
і ўжо яна заспела нас знянацку.

### *ІЯНІЧНАЕ*

Што пабілі мы тыя стоды,
што прыбралі іх са святыняў –
для багоў усё гэта – не смерць.
О Іёнія! Ты ў душах іхніх нязменна,
застаешся ты ў памяці іхняй нязменна.
І калі над табою ўзыходзіць дзень жнівеньскі,
то паветра тваё ўсё напоўнена імі,
а здараецца, што пралунае ўгары
цела юнае, лёткае цела нябеснае –
над прасторай прыгожых узгоркаў тваіх.

### *ІТАКА*

Захочаш выправіцца на Ітаку –
маліся, каб была дарога доўгай,
каб шмат было прыгодаў і адкрыццяў
на ёй – з цыклопамі ды лестрыгонамі:
не бойся іх і злога Пасейдона:
ты іх не напаткаеш на шляху,
пакуль аддадзены целам і душой
ты будзеш думкам і пачуццям годным,
пакуль жыць будзеш хваляваннямі высокімі.

Ты не сустрэнеш лестрыгонаў ці цыклопаў,
ці Пасейдона дзікага, калі іх сам ты
ў душы не створыш, не ўзнясеш як перашкоду.

Маліся, каб была дарога доўгай,
сустрэнь паболей у дарозе золкаў летніх:
з якою радасцю ты й з асалодаю якой
упершыню нябачаныя бухты ўбачыш
і каля ятак фінікійскіх пастаіш,
каб лепшыя тавары ўсё-ткі выбраць –
бурштыну, камянёў, касці слановае
ці розных там прысмакаў ды прыпраў;
і пахкіх зёлак як найболей накупляй,
пасля пабудзь у гарадах егіпецкіх
і ў іх вучоных добра павучыся.

Заўсёды май наўме сваю Ітаку:
прыбыць туды – тваё наканаванне.
А й не спяшайся са сваёй вандроўкай:
хай доўжыцца яна ў цябе гадамі,
хай да яе прыбудзеш ты старым,
але дасведчаным ад пройдзенага шляху.
Ты ж ад Ітакі не чакаў багаццяў.

Ітака для цябе стварыла мэту:
куды б ты без яе папросту рушыў?
Яна й не дасць нічога больш за гэтае.

Ты не падманешся, яе знайшоўшы беднаю:
ты ж мудрым стаў, цяпер ты добра разумееш,
што́ сапраўды Ітакі тыя значаць.

## *КОЛЬКІ ЁСЦЬ ЗМОГІ*

Калі ты жыццё не можаш зрабіць такім, як ты хочаш,
будзь хоць бы ў спробах сваіх настойлівы
і не марнуй часу на драбніцы –
надта не будзь актыўным у свеце,
надта не ўдзельнічай у размовах.

Лішняй публічнасцю не прыніжайся,
не выстаўляй сябе на разгляданне
ў markdown штодзённай мітусні
груп і груповак – і не падасца
табе чужым жыццё тваё.

## *РАНІШНЯЕ МОРА*

Спынюся тут. Уранні пекная прырода,
і мора цешыць вока, й неба чысціня
блакітная ды жоўты бераг
з пяском, залітым сонцам яркім.

Спынюся тут. Свядома падману сябе
(спярша я й праўда морам быў захоплены),
што я ўвесь там, што вабяць не фантазіі
ды ўзгадкі пачуццёвыя мяне.

## *Я ПАДАРЫЎ МАСТАЦТВУ*

Сяджу й сабе мяркую: пачуцці ды жаданні
я падарыў Мастацтву – паўсхопленыя рэчы,
абліччы ці іх рысы нявдзейсненых прагненняў;
няпэўныя ўспаміны... Мастацтву мне б аддацца:
яму заўжды вядома, як Прыгажосці формы
ствараць; яно ж умее амаль што незаўважна
уражанняў спляценнем жыццё штодня дапоўніць.

## *ЭПІТАФІЯ АНТЫЁХУ, ЦАРУ КАМАГЕНЫ*

Вярнуўшыся з хаўтураў, моцна засмучоная
сястра спакойнага і мудрага валадара,
аматара мастацтваў і навукаў Антыёха,
цара каўказскай Камагены, вырашыла эпітафію
яму замовіць на магілу. Сафіст з Эфеса Калістрат –
які нярэдка ў Камагене гасцяваў і шчодра
заўсёды быў прыманы ўладаром –
паводле звестак, што дайшлі да нас
ад пісараў сірыйскага двара,
склаў эпітафію й старой царыцы пераслаў:

“Вы Антыёху, слаўнаму цару, аддайце
належнае: як бацьку усхваляйце.
Ён варты шаны як айчыны стырнавы;
што справядлівы й мужны быў ён узгадайце,
што грэк ён быў і грэцкай славы вартавы.
Ніхто не можа мець вышэйшай пашаноты,
апроч як толькі боскія істоты”.

## *З КАЛЯРОВАГА ШКЛА*

Вельмі ўражвае мяне падрабязнасць адна
з каранацыі ва Улахэрнах Яана Кантакузіна

і Ірыны Асень, Андронікавай дачкі:
калі яны, маючы вобмаль каменняў каштоўных
(вялікая галеча была ў нашай няшчаснай дзяржаве),
убраліся ў штучныя. Мноства шкляных кавалачкаў –
чырвоных, зялёных, блакітных. Прызна́юся:
я нічога не бачу ў тых шкельцах
прыніжальнага ці зневажальнага.
У іх, хутчэй, болем напоўнены
пратэст супраць несправядлівасці
ў дачыненні да каранаваных асоб.
Яны – сімвал таго, што яны мець павінны,
што б там ні было, а мець павінны
на сваёй каранацыі – уладыка Яан Кантакузін
і пані-ўладарка Ірына Асень, Андронікава дачка.

## Мары Лундквіст



...літары не выбіраюць
што ім расказваць...

# Срэбны каўчэг

***Вершы з “Кнігі мёртвых”***

* * *

*Яны не мёртвыя*
*Яны не спяць*
*Яны толькі прачнуліся ад сну часу*

Табе, Вітольд

Роўны багам навальніцы
льеш ты агонь на словы
праводзіш маланку
праз цела верша
Я трымаю тваё імя
як шчыт і дзіду
супраць грымасы белай маскі
што пад маім уласным тварам

*Пераклад*
*са шведскай*
*Дзмітрыя*
*ПЛАКСА.*

Мёртвых заўжды больш
чым жывых
і калі жыццё
больш не адчуваецца жыццём
у мяне ёсць прынамсі
іхнія косткі ды зубы
каб імі пісаць
У мяне яшчэ не стае сіл
на бунт супраць бацькі, неабходны
каб атрымаць у спадчыну
бясконца мудрае адзенне дзіцяці
і тую адчувальнасць рук
з якой ты шукаў мову
што ўвесь час
выслізгвала з тваіх
далоняў
Твая смерць – фанабэрыя
і сціпласць
Кожны дзень узнімае яна мяне
да жыцця

*(Вітольду Гамбровічу)*

### ТЭСТАМЕНТ

Тваe вантробы
захаваныя ўва мне надзейна
кадаваныя паведамленні
тэстаментаваныя прылады
цэлае багацце
якое штодня кантрабандай
пераходзіць межы
у чалавечым футляры

* * *

Прымусова ўтрыманая
упілоўваюся між
галінаў радаводу
абдымаю асіную талію смерці
ніхто не навучыў мяне розніцы
між клопатам і пятлёй
язык упітвае кроў
набухае, маўчыць

* * *

Хто казытаў вечнасць
абняў цябе, марскім вузлом
даў смак лакрыцы
што казытаў твае вусны
ты нешта хацела сказаць
ці проста паказаць мне
траншэю пятлі
вакол тваёй шыі

## *ЗВОН ЖАЛЕЗА*

Літары не выбіраюць
што ім расказваць
нефарбаваныя, выбеленыя
чакаюць яны напаўнення
гукамі твайго голасу
што згубіўся
той ноччу
калі чырвоная ружа свяцілася ў дажджы
і Бог абярнуўся
ды ўсадзіў нож
у мякчэйшы з парогаў

* * *

Каменны труп
на чорных карах
спыніўся ля брамы
тры разы пакланілася ты
зямной магме
і сказала, што не хочаш
браць з сабою ніякай вопраткі
апроч таго рыззя
што даўно прыняло
форму цела
якое ты ўсё адно сабралася пакінуць

* * *

У першы ліпеньскі дзень
ветразь мусіць быць чырвоным
белы супраць цябе
як палатно і прасціна
спырсні свой хлеб соллю ды еш
знайдзі адсырэлае дрэва

выдзеўбанае жаўной
абдымі, напоўні
дупла касцявым мозгам

* * *

У тым лесе
што адкрываецца толькі
жывым
апусцілася ты
ў салодкую ваду азярыны
атуленая карычневым цукрам
убачыла ты пяць белых быкоў
што вартавалі цела
якое ты пакінула на беразе

* * *

Сама ты была ніхто
толькі адлюстраванне твараў
якія ты лавіла і адштурхоўвала
адным плаўным рухам
аголеная стаяла ты ў тарфяніку
чакаючы Срэбнага каўчэгу
які мусіў перанесці цябе
у Іерусалім

* * *

Парайся з удавою
глядзі, як злізвае яна соль
з вуснаў мерцвяка
здымі з яго кашулю
набрынялую смакам ветру
апусці грабянец у хвалю
што пракацілася праз два моры
прадзяры яго праз валасы
што працягваюць расці

* * *

Слухай, як яна вядзе голас
у абсалютнай блізкасці недасяжнага
пяе сябе ў смерць
да гуку зуба пілы
ці памятаеш звон

жалеза, усе званы
ударылі ў адзін і той момант
час паўтарыўся
як мантра
Бог грукатаў у твае дзверы

* * *

Звязаная пупавінай
са словам
падымаешся ты
з ложка пячураўкі
ды выплёўваеш
дробныя і крохкія
няпраўды
пераzвон, фальшывыя ноты
што адпрэчваюць
нават пацукі

### *Восем вершаў жарсці*

* * *

Перш, чым памерці
ты зноў атрымала

цнатлівасць

лістом праз вузкую
шчыліну рота

адрасаваным дзяўчынцы

анёлы паднялі цябе
на два локці ад зямлі

у цябе заняло дух
і ты задыхнулася ад смеху

*(Марыя з Магдалы)*

* * *

Ускрый сваё вока
выражы другое

адкладзі люстэрка
у ім толькі фальшывы пашпарт

апаленыя пальцы

нацягні панчоху
на галаву

не для рабунку
але каб нічога

не скралі ў цябе

калі вусны замкнуцца

згадай, як твая мантыя
запоўнілася мідыямі

што Птушыная Дарога
носіць тваё імя

хоць ты яе не бачыш

каб разгледзець пустэчу
трэба гэтак жа шмат зорак

*(Якаў Вялікі)*

* * *

Кроватачывая
паднесла яна сваю хустку

выцерла пот
з ілба асуджанага

уласным тварам

упала ў гліну
каб стаць сапраўднай

і ўкараніцца
у іконах

пад гукі зямнога трамбону

коцяцца алавяныя шарыкі
у вочныя яміны

пацалуй мёртвага
плюй на яе

пакуль не змякчэе

*(Святая Вераніка)*

* * *

Твой апакрыфічны рот

выдраны з карціны
і заўважна па рысах твару

што тваё імя пачынаецца
з крыжа

Бог уторкнуў пальцы
у грудную клетку

па-за тымі рэдкімі рэйкамі
ажыла гліняная птушка

ды ўзляцела

*(Фама няверуючы)*

* * *

Нехта развінціў
тваё дзяцінства

запусціў дэталі
лятаць па свеце

раскіданыя, бязважкія

твой расповед

прыбілі да драўлянага кола
ды пакінулі

птушкам

*(Святы Дух)*

* * *

Даруй вызваленаму

што мусіць навучыцца
жыць з цяжарам

ягонага даравання

высока над яго галавою
сякера, збаўца

што вісіць на крыжы
на танчэйшай з ніцяў

*(Варава)*

* * *

Толькі маці можа суцешыць
укрыжаванага сына

усім целам прыціскацца
да свайго плоду

праяўляць пацалункамі золата
на яго чорных вуснах

малітоўнымі ўскрыкамі

здраджвае яна зароку цноты
адмаўляе айцу, пакідае

яго сякерную мову

*(Марыя, маці Ісуса)*

* * *

Жыў-быў адзін айцец
які змяншаўся і змяншаўся

скурчыўся і ляжаў
зморшчаны, як грэцкі арэх

што ўпаў з Божага дрэва

ён больш не мог
глытаць словы

толькі трымаў іх у роце
як закладнікаў

*(Айцец)*

## ***Лабірынты Дэдала***

* * *

Столькі часу забірае
урасці ў смерць
праявіцца ў абсалютнай цемры
імітаваць жыццё
толькі каб страціць яго
звонку нічога не бачна
ані цяжкіх падрыхтаванняў
выточвання, выдзёўбвання
ані роспачнай музыкі
напоўненай дыезамі
дысанансамі
гады, што з’ядаюцца
дажджом, снегам
касмічныя ападкі
птушыны памёт
пажыўны для
завязі мхоў
калі я не ўздыму
тваё імя
не вазьму яго вуснамі
не палью
то яно зноўку ўпадзе
у нечытэльнае

* * *

Без настрою
сярод хору
тысячагадовых галасоў
чую таго, хто кажа
за мяне
падпісвае свае высновы
маім імем
словы злятаюць

з арбіты
перайначваюцца, атакуюцца
усім, што дрыготка
паглынаецца вуснамі
і яднаецца з
паднябеннем
у нацягнуты ветразь
гэтыя скрыжаваныя ўражанні
складкі тваёй белай кашулі
ядвабны ліст півоні
пунсовы ў чарноце зяляніны
пер’е стрэлак гадзінніка
варушыцца ветрам
высока над ягнятамі
лунаюць арлы
у іх кругавой песні
запісваюць нас
і сціраюць

Ірына Дубянецкая



...у біблейскім тэксце
няма ані Евы, ані Адама,
няма ні рабрыны, ні яблыка...

# Кніга Роду

***Новая беларуская Біблія***

**ЭДЭНСКІ САД: СТВАРЭННЕ ЧАЛАВЕКА**

**Кніга Роду 2:4б–25**

**Папярэднія заўвагі**

***Ягвісцкая традыцыя і Божае імя***

Пасля аповеду пра велічную і ўрачыстую боскую дзею па стварэнні свету ў Кнізе Роду 1, Святарны аўтар, які толькі што падрыхтаваў касмалагічнае прачытанне і разуменне наступных гісторый, саступае месца іншаму апавядальніку, дазваляючы сабе зрэдзьчасу каментаваць або парадкаваць старадаўні матэрыял ды лучыць адрозныя эпізоды цыклямі радаводаў.

Гэты старадаўні матэрыял належыць да гэтак званай Ягвісцкай традыцыі. Навукоўцы, якія імкнуліся неяк класіфікаваць шматлікія тэкстуальныя пласты Пяцікніжжа, назвалі так самую вялікую па колькасці тэкстаў групу старажытных аповедаў, у якіх Бог завецца іменем, вядомым ад самых ранніх часоў фармавання ізраільскага народа – Ягвэ. Гэтае імя пішацца чатырма гебрайскімі

*Працяг. Пачатак у №86.*

літарамі (йод-гэ-ваў-гэ): יהוה, JHWH. У постбіблійны перыяд, каб пазбегнуць згадак Божага імені намарна, яго пачалі называць грэцкім тэрмінам Тэтраграматон (Τετραγράμματον, Tetragrammaton, што значыць "чатырохлітарнае").

Падчас і пасля Бабілонскага палону Божае імя сакралізавалі настолькі, што на яго прамаўленне наклалі табу, і ўсе, хто чытаў пісанні ўголас, замянялі яго на Адонай (*adonai*) – "мой Госпад" (насамрэч, "мае Госпады", бо гэта форма множнага ліку ад *адон* (*adon*) з суфіксам першай асобы адзіночнага ліку, аднак ужываецца яна з дзеясловамі адзіночнага ліку). Разам з сакралізацыяй імені Ягвэ з'явілася багаслоўская канцэпцыя паступовага адкрыцця Боскага імені народа, што адбілася на тэкстах Святарнай традыцыі, дзе яно ўжываецца з максімальнай ашчаднасцю, ды й наогул па магчымасці зусім не згадваецца.

Але ў Ягвісцкай традыцыі ды іншых старажытных тэкстах імя Ягвэ гучыць лёгка і натуральна, як дыханне. Па вялікім рахунку, Бог Ягвэ ёсць цэнтральнай постаццю, галоўным дзейнікам усяго Старога Запавету, і шматлікія аўтары з любоўю і асалодаю прамаўляюць ягонае імя. Гэтае імя сустракаецца ў Гебрайскай Бібліі не менш за 6220 разоў! На вялікі жаль, чытач біблійных перакладаў цалкам пазбаўлены магчымасці дакрануцца да гэтага цудоўнага феномену. У Сэптуагінце – грэцкім перакладзе Бібліі, зробленым гебрайскімі вучонымі ў 3–1 стагоддзях да н.э., з прычыны тае самае сакралізацыі імя Ягвэ паслядоўна замянілі на грэцкае слова Κύριος (*Kyrios*, *кірыёс*), што значыць "Госпад". Практычна ўсе хрысціянскія пераклады пайшлі за Сэптуагінтай і спрэс на месцы імені Ягвэ ставілі свой адпаведнік грэцкаму Κύριος: Dominus, Lord, Secor, Seigneur, Signore, Herr, Heer, Pan, Hospod, Господь, Гocподар і г.д. І як бы нам ні хацелася аднавіць у новым беларускім перакладзе гэткую вышэйшую справядлівасць, мы не рызыкнулі ісці супраць двухтысячагадовае традыцыі і паслядоўна замянілі (бо тут нельга сказаць пераклалі) Божае імя Ягвэ на слова Госпад, гэтак сама, як і перадалі Святарнага Элогіма канвенцыйным словам Бог.

Каб спалучыць Бога Ягвэ з Ягвісцкіх сюжэтаў з Богам Элогімам са Святарнага аповеду ў Кн. Роду 1 і каб не пакідаць сумневу ў тым, што гэта адзін і той самы Бог-творца свету, Святарны рэдактар спалучыў абодва імені ў тэксце, які ідзе адразу за гісторыяй пра Элогіма і адначасова распачынае гісторыі пра Ягвэ – у гісторыі пра Эдэнскі сад у Кнізе Роду 2–3. І такім чынам, боскі дзейнік гэтае – і толькі гэтае! – гісторыі завецца Ягвэ Элогім, што, адпаведна, у перакладах гучыць як Госпад Бог.

Сюжэты, сабраныя Ягвісцкім аўтарам у адзін аповед у Пяцікніжжы, першапачаткова не былі звязанымі міжсобку. Запісаныя недзе ў сярэдзіне першага тысячагоддзя да н.э., яны прайшлі не менш як тысячагадовую папярэднюю абкатку ў вусным хаджэнні і сталіся падмуркам для Ягвісцкага багаслоўя і канцэптуальнага пагляду на свет.

Ягвісцкія гісторыі складаюць сюжэтную аснову Кнігі Роду, хаця пры апошнім кампанаванні яны аказаліся пераплеценымі з пазнейшымі тэкстамі Святарнай школы.

## *Пераход ад боскіх да чалавечых касмалагічных дзейнікаў*

Пасля стварэння гарманічнага і дасканалага сусвету (Роду 1), касмічны фокус перамяшчаецца на зямлю, на свет і чыны людзей. Дзесяць раздзелаў Пракаветнае Гісторыі (Роду 2–11), што стаяць адразу за Кн. Роду 1, аб'яднаныя адзінаю рысаю, унікальнаю для касмагоній Старажытнага Блізкага Усходу: у цэнтры падзеяў наваствbooranaga свету апынаецца *чалавек*. І менавіта ад чалавечых характараў, патрэбаў, матывацыяў ды выбараў залежыць далейшае развіццё стварэння. Ягвісцкія тэксты захоўваюць адчуванне маштабу касмічнае ўніверсальнасці падзеяў чалавечага свету. Уладары й апекуны наваствоpанае рэчаіснасці, людзі, нясуць адбітак вобразу

Божага ў самой сваёй прыродзе; і гэта праз іхнія выбары фармуюцца, развіваюцца ды лучацца мірыядамі тонкіх сувязей сусветныя ўзаемадачыненні жыцця і смерці, чалавека і зямлі, мужчыны і жанчыны, пашырэння і паглыблення, космасу і хаосу.

Ягвісцкія гісторыі яркія і запамінальныя, вобразныя і жывыя, яны будзяць фантазію і хвалююць розум. У Кнізе Роду яны ўтвараюць два няроўныя па аб'ёме літаратурныя цыклы – меншы, які распавядае пра Пракаветную гісторыю свету (Роду 2–11), і большы, пра прыватныя гісторыі патрыярхаў Абрагама, Ісака, Якуба і Язэпа (Роду 12–50). Раздзелы 2–11 утрымліваюць найбольш вядомыя і адаптаваныя заходняй культураю сюжэты: пра Эдэнскі сад, пра братазабойца Каіна, пра сувязь сыноў божых і дачок чалавечых, пра вялікую паводку і пра недабудаваную вежу ды змяшэнне моваў. Увесь гэты цыкл аповедаў утварае (ці імкнецца ўтварыць) адну цэльную гісторыю з адзіным сюжэтам. Гэты сюжэт разгортваецца ў паслядоўнасці стварэнне–развіццё–павелічэнне негатыву–паводка–перастварэнне, вядомай у іншых традыцыях Старажытнага Блізкага Усходу.

### *Канцэптуальныя асаблівасці гісторыі Саду*

У сюжэце пра стварэнне, прадстаўленым у Кн. Роду 2–3, чалавечыя істоты набываюць рэальныя характары, індывідуалізуюцца, робяцца асобамі, свабоднымі суб'ектамі, змешчанымі ў цэнтры створанага свету – у Садзе. Гэты сюжэт утварае цалкам новую карціну сусветнага ўладкавання. Калі Святарная гісторыя стварэння ў Кн. Роду 1 высвечвае дасканала структураваную складанасць космасу і гармонію паміж усімі яго элементамі, звяртаючы ўвагу на іх класіфікацыю і дэталёвае апісанне (гэта можна назваць "аналітычным" падыходам да касмалогіі), сюжэт у Кн. Роду 2–3 сціскае ўвесь космас у абмежаваную прастору саду і аддае ўсю яго будучыню на волю выбараў і дзеянняў чалавечае пары ("сінтэтычны" падыход).

Гэты сюжэт, відаць, самы любімы ў заходняй культуры, але, парадаксальна, і самы невядомы. Культура *прыдумала* сабе сваю гісторыю, не асабліва клапоцячыся яе адпаведнасцю біблейскаму прататыпу. Кожны памятае гісторыю пра Еву, якую Бог стварыў з Адамавай рабрыны і якая спакусіла Адама яблыкам. Незлічоная колькасць літаратурных ды філасофскіх тэкстаў, безліч твораў выяўленчага мастацтва ды інтэлектуальных пераасэнсаванняў. Вунь нават кадык завуць адамавым яблыкам, і лішнюю рабрыну завуць адамавай, і раслінка з назваю адамава рабрына ёсць. Аднак у біблейскім тэксце няма ані Евы, ані Адама, няма ні рабрыны, ні яблыка...

Дык што ж тады там ёсць?

А ёсць там найперш Бог на імя Ягвэ Элогім, які стварае свет і чалавека ў ім ды пільна сочыць, як чалавек асвойтваецца ў сваім свеце, як уладкоўвае яго пад сябе, якія выбары робіць. І калі чалавек знаходзіць нейкую раўнавагу – перакульвае ягонае жыццё дагары нагамі, змушаючы чалавека пераасэнсоўваць сябе і свет ды шукаць новае раўнавагі. Матывацыі Бога заўсёды не адназначныя, не лінейныя, ягоныя словы поўныя стоеных сэнсаў. І гэта нязменна стварае дадатковую – а можа і асноўную – напругу ўнутры аповеду.

Ёсць там і чалавек, па-гебрайску *ha-adam*, *га-адам*, універсальная чалавечая істота па-за гендэрнай ідэнтычнасцю і без асабовага імені. Пэўны артыкль *га* не пакідае ў гэтым сумневу. (Першачалавек упершыню набывае імя толькі ў Кн. Роду 4:25, дзе Адам ужываецца без артыкля). Чалавек *га-адам* створаны з *ha-adamah*, *га-адама* – з зямлі, з якою назаўсёды злучаецца ягоны лёс. А таксама і з лёсамі іншых жывых істот, бо і яны таксама прыйшлі да жыцця з *га-адама* і сталіся неад'емнай часткаю чалавечага свету.

Таксама там ёсць жанчына – *iššah*, *іша*, якая самым сваім з'яўленнем мяняе ўсю сітуацыю, усе ўсталяваныя адносіны, прыярытэты ды ацэнкі. Пасля таго, як

яна "вычляняецца" з *га-адама*, той застаецца тым, кім быў, – чалавекам, звязаным з *га-адама*. Але і яна таксама – чалавек, і ў дачыненні да яе *га-адам* пачынае звацца "мужчынам" – *iš*, *іш*. Такім чынам, жанчына перш, мужчына потым. І таму менавіта жанчына робіць выбар, які назаўсёды зменіць чалавечы лёс, змусіць іх пакінуць спакойны ды ўтульны сад – той "бацькоўскі дом", дзе яны абое ўбачылі свет, і пачаць новае самастойнае жыццё, дзе яны ды іхнія нашчадкі будуць ствараць ды пераствараць свой – невядомы і складаны, але свой – свет. І калі задача чалавека працаваць на зямлі, то задача жанчыны – даваць жыццё. У Кн. Роду 3:20 чалавек дае ёй імя *Ḥawwah*, *Хава*, бо яна, маўляў, "будзе маці ўсіх *жывых*" – *ḥaj*, *хай*. У Сэптуагінце гэтае імя перакладзенае семантычна – *Ζωή* (*Zoe*, *Зоэ*), – "жыццё". Гэтае імя згадваецца ўва ўсёй Гебрайскай Бібліі толькі двойчы: апроч гэтага эпізоду ў Кн. Роду 3:20 яшчэ на самым пачатку наступнага раздзела, у Кн. Роду 4:1, дзе *га-адам* "зведвае" сваю жонку *Хава*, і больш нідзе. І вось тут у Сэптуагінтце імя перадаецца больш-менш фанетычна, з улікам адсутнасці ў грэцкай мове гуку [x] (яго, як і іншыя гартанныя семіцкія гукі, Сэптуагінта проста ігнаруе). У выніку атрымалася імя Εὐα, (Eua, Эўа), якое і сталася падставаю для ўсімі ўлюбёнага міфа пра Еву.

## *Стылёвыя асаблівасці гісторыі Саду*

Мова тэксту Кнігі Роду 2–3 нібыта простая, блізкая да фальклорнага стылю, без разгорнутых эпітэтаў, апісанняў ці метафар. Сюжэт рухаецца хутка, усе персанажы яркія. Аднак гэтая прастата ёсць вынікам надзвычай прадуманай стылёвай мадэлі тэксту. Тут кожнае слова выверанае, тут няма нічога выпадковага, усё працуе на агульную ідэю і на стварэнне агульнай складанай карціны з двайным, а можа і трайным, дном. У дакладным ужытку слоў хаваюцца стоеныя сэнсы.

Найважнейшыя літаратурныя прыёмы, што ствараюць непаўторны каларыт тэксту, якія немагчыма перадаць у перакладзе, – алітэрацыі, сугуччы, праз якія ўзнікаюць нечаканыя сутнасныя сувязі паміж элементамі тэксту і якія надаюць новыя аб'ёмы сэнсу, размыкаюць усе сюжэтныя лініі ды высвечваюць іншыя ракурсы.

Пра алітэрацыі *адам – адама* ды *іш – ішша* ўжо крыху сказана. Пра іншыя будзе сказана ў каментарах да Кн. Роду 3. Алітэрацыі і дакладныя паўторныя ўжыткі слоў дазваляюць казаць пра нешта важнае – настолькі важнае, што яно не падлягае дакладным фармулёўкам, але застаецца няпэўным і няўлоўным, хаця й, магчыма, самым сутнасным. Пры гэтым гаворка пра сутнасці вядзецца не наўпрост, калі хто не заўважыў – ну што ж, хай здавальняецца тым, што заўважыў. Але за бачным, яўным сюжэтам прасвечваецца іншы, больш складаны сюжэт, дзе лінейная ацэначнасць "добра-кепска", "правільна-няправільна" размываецца, а часам і ператвараецца ў сваю процілегласць, дзе простая схема "загад – парушэнне – пакаранне" развальваецца, і паўстае складаная, шматузроўневая і шматсувязная карціна, у якой змей гаворыць голасам Бога, чалавек і змей завязваюцца ў нейкі ўраборусавы вузел, і наогул, кожны персанаж з кожным іншым мае сваю няпростую гісторыю.

Усе асноўныя падзеі разгортваюцца ў трэцім раздзеле. Другі раздзел рыхтуе сцэну.

## КНІГА РОДУ 2:4Б–25

### Тэкст у перакладзе на беларускую мову

2:4б. У дзень, калі Госпад Бог зрабіў зямлю і неба,

5. ніякага куста польнага яшчэ не было на зямлі, і ніякая трава польная яшчэ не расла, бо не слаў Госпад Бог дажджу на зямлю, і не было чалавека, *каб* урабляць глебу.

6. І вільгаць падымалася з зямлі і паіла ўсю паверхню глебы.

7. Госпад Бог вылепіў чалавека з пылу глебы, і ўдзьмуў у ягоныя ноздры дыханне жыцця. І быў чалавек душою жывою.

8. І пасадзіў Госпад Бог сад у Эдэне на ўсходзе, і змясціў там чалавека, якога вылепіў.

9. І ўзрасціў Госпад Бог з глебы ўсякае дрэва, прывабнае на выгляд і добрае на ежу, і дрэва жыцця пасярод саду, і дрэва веды дабра і зла.

10. І рака выцякала з Эдэну, каб паіць сад, і адтуль яна раздзялялася на чатыры галоўныя плыні.

11. Назва аднае – Пішон, яна атачае ўсю зямлю Хавіл**а**, у якой золата.

12. І золата тае краіны добрае; там перлы і камень онікс.

13. І назва другой ракі – Гіхон, яна атачае ўсю зямлю Куш.

14. І назва трэцяе ракі – Тыгра, яна цячэ на ўсход ад Асірыі. І чацвертая рака – Эўфрата.

15. Госпад Бог узяў чалавека і пусціў яго ў сад Эдэнскі, урабляць і ахоўваць яго.

16. І загадаў Госпад Бог чалавеку, кажучы: "З кожнага дрэва ў садзе ўдосталь будзеш есці,

17. Але з дрэва веды дабра і зла, не еш з яго, бо ў дзень, калі з'ясі з яго, смерцю памрэш".

18. Госпад Бог сказаў: "Нядобра чалавеку быць самому. Зраблю яму падмогу, адпаведную яму".

19. І вылепіў Госпад Бог з глебы ўсякага звера польнага і ўсякую птушку нябёсную і прывёў да чалавека, *каб* пабачыць, як той назаве іх; і як назаве чалавек душу жывую, такое ёй імя.

20. Чалавек назваў імёны кожнай жывёліны і птушкі нябёснай, і кожнага звера польнага. Але для чалавека не знайшлося падмогі, адпаведнай яму.

21. Госпад Бог спусціў з*а*буць на чалавека, і той заснуў. І *Ён* узяў адзін з бакоў ягоных і закрыў цела на тым месцы.

22. І зрабіў Госпад Бог з боку, які Ён узяў з чалавека, жанчыну, і прывёў яе да чалавека.

23. Чалавек сказаў:
"Вось яна, нарэшце,
костка ад костак маіх
і цела ад цела майго!
Яна будзе звацца жанчынаю,
бо з мужчыны была ўзятая яна.
24. Таму пакіне мужчына
бацьку свайго і маці сваю,
і прылепіцца да жонкі сваёй,
І будуць адным целам".

25. Яны былі абодва голыя, чалавек і жонка ягоная, але не саромеліся.

## Выбраныя каментары

### *Вершы 2:4б–5*

Першапачаткова кнігі Бібліі мелі суцэльны тэкст, без аніякіх падзелаў. У трынадцатым стагоддзі Гебрайская Біблія была ўпершыню падзеленая на раздзелы (у тым выглядзе, які мы маем і дагэтуль), а ў шаснаццатым і на вершы. Не ўсе падзелы аказаліся ўдалымі. Другому раздзелу Кнігі Роду асабліва не пашанцавала. Мала таго, што мяжа паміж другім і трэцім раздзеламі пралягла пасярод цэльнае гісторыі са шчыльнымі лінгвістычнымі сувязямі (пра гэта будзе расказана асобна), але й пачатак новай гісторыі атрымаўся нейкім скамечаным. Першыя тры з паловай

вершы належаць да папярэдняга сюжэту цалкам іншага аўтарства, часу напісання і багаслоўскай канцэпцыі. Такім чынам самы пачатак сюжэту пра сад (Роду 2–3) аказаўся змазаным, далучаным як працяг да іншароднага сказа. А сам першы сказ усяе гісторыі аказаўся падзеленым на два вершы. Цалкам ён гучыць так:

У дзень, калі Ягвэ Элогім зрабіў зямлю і неба,
ніякага куста польнага яшчэ не было на зямлі,
і ніякая трава польная яшчэ не расла,
бо не слаў Госпад Бог дажджу на зямлю,
і не было чалавека ўрабляць глебу.

Між тым, гэты пачатак вывераны, прадуманы і заслугоўвае павагі. Ён змадэляваны паводле лепшых узораў старажытнаблізкаўсходніх касмагоній, якія любому тэксту надавалі касмічнае вымярэнне. Касмаганічныя пралогі пераносілі дзею ў пракаветныя часы перад стварэннем свету, у па-над- і па-зачасавы пачатак усяго, які даў імпульс для развіцця свету і параметры гэтага свету. Стылёва такія пралогі ствараюць атмасферу пачатку словамі накшталт “калі нічога не было вызначана”, або “ў дні, калі ўсё пачыналася”.

Вось, напрыклад, пачатак славутага бабілонскага эпасу 17–7 ст. да н.э. пра стварэнне свету *Enuma eliš*, *Энума эліш* – “Калі ўверсе”, эпасу, які быў добра вядомым усім адукаваным людзям старажытнага Блізкага Усходу і які моцна паўплываў на біблійных аўтараў:

Калі ўверсе неба не было названым,
І зямля унізе не мела наймення,
І Апсу, найпершы, творца й зачынальнік,
З Тыямат стваральнай, што ўсіх спарадзіла,
Свае воды разам змешвалі ўдваіх, –
Але яшчэ ніваў не было ні багнаў,
Не было праявы аніякай боскай,
Не названы йменні, не пісáны лёсы –
Тады нарадзіліся багі у іх.

*(Тут і далей пераклады з акадскай і сумерскай мой мае. – І.Д.).*

Самымі раннімі мадэлямі для акадскіх, арамейскіх, ханаанскіх, гебрайскіх ды інш. тэкстаў былі сумерскія міфы, запісаныя ў трэцім–другім тысячагоддзях да н.э. Вось, напрыклад, пачатак вядомай гісторыі пра Гільгамеша, Энкіду і Падзем’е:

У тыя дні, у тыя далёкія дні,
У тыя ночы, у тыя даўнія ночы,
У тыя гады, у тыя прамінулыя гады,
У пракаветныя дні, калі ўсё сутнаснае праявілася,
У пракаветныя дні, калі ўсё сутнаснае ўзгадавалася, [...]
Калі неба было аддзеленае ад зямлі,
Калі зямля была раз’яднаная з небам,
Калі людскія лёсы былі вызначаныя...

Або іншы сумерскі тэкст:

У тыя дні, калі неба і зямля былі раздзеленыя,
У тыя ночы, калі неба і зямля былі раз’яднаныя,
У тыя гады, калі лёсы былі вызначаныя,
Калі багі Анунна былі народжаныя,
Калі багіні былі злучаныя шлюбам,
Калі багіні атрымалі сваю долю неба й зямлі,
Пасля таго, як багіні зацяжарылі й нарадзілі...

Ці вось яшчэ адзін паказальны сумерскі касмаганічны тэкст трэцяга тысячаго-

ддзя да н.э., у якім развіваецца тэма свяшчэннага шлюбу паміж Небам і Зямлёю, і дзе фігуруе “зёлка *нумун*” (магчыма, гэтая расліна – часнык):

> Калі дождж праліўся долу, і муры былі абрынутыя,
> Калі град з агнём праліліся долу, [...]
> Калі дождж сказаў: “Я праліюся долу”,
> Калі ён сказаў: “Я абрыну муры”,
> Калі паводка сказала: “Я змыю ўсё прэч” –
> Неба апладніла, Зямля нарадзіла,
> Нарадзіла таксама зёлку нумун,
> Зямля нарадзіла, Неба апладніла,
> Нарадзіла таксама зёлку нумун.

Уважлівы чытач убачыць, што ў біблейскай касмалогіі ў Кн. Роду 2–3 ёсць алюзіі на ўсе прыведзеныя тут тэксты. І, як і ў гэтых тэкстах, першы сказ гісторыі служыць своеасаблівым касмаганічным пралогам, які адсылае нас у пракаветныя часы, калі яшчэ нічога не было вызначана, калі стварэнне было ў стадыі прадумвання, а сам працэс фармавання свету толькі-толькі пачынаўся.

⬩ **зрабіў зямлю і неба**. Выбар слоў дэманструе канцэптуальную розніцу паміж Святарнай і Ягвісцкай касмагоніямі. У Святарным тэксце Кнігі Роду 1 Элогім сваёй велічнай дзеяй *стварае* (або раздзяляе) *неба і зямлю*. У створаным свеце свая іерархія: спачатку называецца верхні, боскі, нябачны, неспасцігальны складнік бінарнага цэлага – неба, а потым яго другая палова, зямля – ніжняя, людская, матэрыяльная, падлеглая дакладным законам, якія можна і трэба спасцігаць. Тут жа ж, у Ягвісцкім тэксце, Бог папросту “зрабіў” (*ʿaśot*, *асот* – форма дапасаванага інфінітыву ад *ʿaśah*) – цалкам уцямная рамесніцкая дзея – *зямлю і неба*. Парадак слоў расстаўляе прыярытэты апавядальніка: зямля стаіць на першым месцы, бо на ёй будзе асноўны фокус. На жаль, у перакладзе Васіля Сёмухі 2002 года, Уладыслава Чарняўскага 2002 году і ў выданні Беларускага біблійнага таварыства 2012 года слова *ʿaśah*, *аса* – “зрабіў”) перададзенае як “стварыў”, што безнадзейна размывае Ягвісцкую касмаганічную карціну. Ян Станкевіч у перакладзе 1973 года абраў слова “учыніў”.

⬩ **куста … не было…, і трава … не расла, бо не слаў Ягвэ Элогім дажджу на зямлю, і не было чалавека ўрабляць глебу.** Тут, магчыма, працягвае развівацца вобраз двухчастнага свету. Куст – частка дзікай прыроды, ён залежыць ад дажджу, які, у сваю чаргу, залежыць ад Бога. Трава ж тут пазначае зеляніну, культываваныя расліны, залежныя ад чалавечай працы на зямлі.

⬩ **зямля і глеба; урабляць глебу.** Адным з найскладанейшых выбараў, якія мы рабілі пры перакладзе, было разрозніваць або не два гебрайскія словы са значэннем “зямля”.

Слова *ereṣ*, *эрэц* – “зямля”, якое было асноўным тэрмінам у Святарным сюжэце, тут у першых сказах новай гісторыі таксама паўстае як бінарная пара да канцэпту *šammaim*, *шаммаім* – “неба”. Аднак асноўнае слова дзеля пазначэння зямлі ў Ягвісцкіх тэкстах не *эрэц*, але *адамá* (*adamah*). І тут *адама* паўстае параю не небу, а чалавеку, гебрайскае слова для якога *адам* (*adam*). Словы *адам* і *адама* этымалагічна звязаныя, бо абодва паходзяць ад кораню *адам* – “быць чырвоным” – і звязаныя са словам *дам* – “кроў”.

Для тэксту, аднак, важна не так лінгвістычная сувязь, як сугучча, якое ўтварае з гэтых слоў мужчынска-жаночую пару: *адам* і *адама*. Паводле Ягвісцкага бачання свету, *адам*-чалавек не толькі зроблены з *адама*-зямлі, але й ягоным асноўным пакліканнем у жыцці, ягонай мэтаю і прызначэннем ёсць клапаціцца пра *адама*-

зямлю і працаваць дзеля яе – *авед га-адама* (*ʿab̲ed ha-adamah*, в. 2:5, а таксама 2:15 у дачыненні да саду), што значыць “урабляць глебу”, а літаральна – “служыць зямлі”. Гэтая бінарная пара неразрыўная. Пасля ўсіх пертурбацый, звязаных з парушэннем забароны на спажыванне плоду з Дрэва, долю *адама*-чалавека застаецца праца на *адама*-зямлі (гл. Рд. 3:17-19). І ў гісторыі Каіна, якая працягвае гісторыю саду, Каін працуе на *адама*-зямлі (Рд. 4:2, 12), якая там адыгрывае ў лёсе чалавека яшчэ большую ролю. Яна часам успрымаецца як жывая істота, нават разяўляе рот, каб прыняць кроў брата Каіна (Рд. 4:11). У абодвух сюжэтах сувязь паміж чалавекам і зямлёю ўзмацняецца і супольным праклёнам (спачатку ў Рд. 3:17, потым у Рд. 4:11). Дзе адзін, там і другая, дзе адна, там і другі.

У беларускай традыцыі такія глыбінныя сэнсы могуць тычыцца хутчэй зямлі, чым глебы, бо зямля нясе значна большую семантычную нагрузку. Аднак калі *эрэц* у гэтых кантэкстах можа быць перакладзены толькі як “зямля” (у іншых кантэкстах слова можа пазначаць таксама краіну, г.зн. зямлю пражывання, як, напрыклад , *ereṣ jiśrael*, *эрэц ісраэль* – “зямля Ізраіля”), то *адама* можа азначаць і чырвоную глебу. Таму, каб разрозніць два словы для двух архіважных канцэптаў, мы пакуль што спыніліся на слове “глеба” для перадачы слова *адама*.

## *Верш 2:7*

♦ **вылепіў з пылу глебы.** Дзеялоў *jaṣar*, *яцар* – “вылепіў, зляпіў, сфармаваў”, тут у форме *wa-jjiṣer*, *ва-йййцэр*, азначае дзеянне па наданні чаму-небудзь формы, найперш у самым простым, мануальным значэнні. Біблісты ў сувязі з гэтым вобразам часта гавораць пра Бога-ганчара. З верхняга рыхлага слою (*ʿap̲ar*, *афар* – пыл, парахна, жвір – мы не знайшлі лепшага адпаведніка) чырвонае гліністае глебы (*га-адама*) Бог зляпіў чалавечую фігурку (*га-адам*) і ўдзьмуў ёй праз нос жыццё.

## *Верш 2:9*

♦ **і дрэва жыцця пасярод саду, і дрэва веды дабра і зла**. Вобраз дрэва – цэнтральны вобраз усяе гісторыі. Ён будзе разгледжаны ў каментарах да трэцяга раздзела. Тут толькі неабходна зазначыць, што тэрмін “веда” (*daʿat*, *дáат*) ніякім чынам не мусіць ператварацца ў “пазнанне” ці “спазнанне”, як мы чытаем у большасці беларускіх перакладаў. Субстантыў *даат* вытворны ад дзеяслова *jadaʿ*, *ядá* – “ведаць”. Паняцце ведання – ключавое ў другім, трэцім і чацвертым раздзелах. Разам у гісторыі саду і гісторыі Каіна гэты корань сустракаецца сем разоў (Рд. 2:9, 17; 3:5, 7, 22; 4:1, 9), і ён не толькі яднае ўсе эпізоды, але й стварае пэўную канцэпцыю жыцця і смерці.

## *Верш 2:18*

♦ **нядобра чалавеку быць самому**. Які рэзкі кантраст тут гучыць з дасканалым стварэннем у Кн. Роду 1! Там амаль кожная новая стваральная дзея завяршалася прастаўленнем “знака якасці”: “І Элогім убачыў, што гэта добра” (Рд. 1:4, 10, 12, 18, 21, 25, 31). Слова *tob̲*, *тов* – “добра”, паўторанае сем разоў, ёсць асноўнай характарыстыкай боскае працы: усё, што Бог робіць, ён робіць добра, дасканала. І таму так нечакана тут, у Роду 2:18, гучыць катэгарычнае *lo tob̲*, *лё тов* – “не добра”. У Ягвісцкай гісторыі няма нічога вызначанага раз і назаўжды, нічога, застылага ў абсалютнай дасканаласці. Тут сусвет разгортваецца, як дарога, па меры таго, як дзеючыя асобы ідуць па ёй. Наперад нічога не вядома, ды й таго “пераду” няма, пакуль нехта не зробіць выбар у нейкім пэўным кірунку. А тады і сам кірунак акрэсліцца, і наступствы зробленага кагадзе выбару стануцца бачнымі, і новыя магчымасці адкрыюцца, патрабуючы новых выбараў дзеля далейшага развіцця свету і таго, хто па ім ідзе.

У Рублёва было радыё, мы пусьцілі яго. З кёнігсбэрскай станцыі перадавалі навіны на польскай мове, зь якіх мы даведаліся, што немцы дайшлі ўжо да Горадні й ідуць далей. Сядура хацеў болей слухаць, але Рублёў пабаяўся. Калі мы зь Сядурам а 12 гадзіне ішлі ад Рублёва, дык разгаварыліся аб будучай мабілізацыі. Я кажу:

– Калі мяне змабілізуюць, дык усе рэчы й кнігі прыйдзецца кінуць, бо жыву адзін.

Ён мне парадзіў занесьці свае рэчы да ягонай маткі й павёў мяне паказваць сваю кватэру й пазнаёміць з бацькамі. Мы там даўгавата пасядзелі. Ягоная матка прасіла нас яшчэ трохі пачакаць, бо хацела нас гарбатай пачаставаць, але я наважыў ісьці дахаты.

А 8 гадзіне раніцай Рублёў ішоў на працу й забег да мяне паведаміць, што ўночы энкавэдыстыя забралі Сядуру, а калі часам мяне забяруць, дык калі будуць пытаць аб ім, аб Рублёве, казаць, што ніякага знаёмства зь ім ня мелі, а толькі былі тым знаёмыя, што ў аднэй школе працавалі настаўнікамі. Я тады падумаў: «Калі б застаўся ў Сядуравай маткі гарбату піць, напэўна меў бы нагоду спаткацца з энкавэдыстымі».

У панядзелак а 12 гадзіне я пайшоў на працу ў Інстытут школьнай пэдагогікі, але трэбала ісьці перабежкамі, бо то там, то сям бамбілі нямецкія самалёты. Людзі, настрашаныя бальшавіцкімі строгімі парадкамі, ішлі на работу. Тады ў Менску было распачата вялікае будаўніцтва: шмат будавалася новых дамоў, але была такая строгасьць, што ў часе бамбардаваньня не пускалі работнікаў злазіць з рыштаваньняў.

У інстытуце мы нічога не рабілі, бо былі частыя бамбардаваньні. Калі ішоў увечары дамоў, па ходніках ужо шмат ляжала п’яных да непрытомнасьці й ніхто на іх не зьвяртаў увагі – ні міліцыя, ні НКВД.

Ноч была спакойная. Раніцай да мяне прыбег Бэрка Элентух (ён быў настаўнікам у Берасьці Літоўскім) і стаў мне апавядаць, што быў прыгатаваўся ў суботу, каб у нядзелю рана ехаць у камандзіроўку. Уночы чуе, што ўсчаліся грымоты (а ён надта баяўся грому), дык галаву схаваў пад падушку, але пацікавіўся выглянуць з-пад падушкі на вакно, аж на вуліцы сьветла – дамы гараць. Калі яны беглі (а гэткіх шмат сабралася), дык сяляне сьмяяліся, крычучы:

– Куды ж вы ўцякаеце ад сваіх таварышаў? Немцы ж вашы таварышы.

Ён у мяне просіць парады, як яму рабіць: ці заставацца на Беларусі, ці ўцякаць у Расею? Ён лепей хоча застацца тут, кажа, што бачыў нейкія карткі на расейскай мове, быццам скіненыя з самалётаў немцамі, дзе кажацца, што Гітлер ідзе ваяваць супроць камуністых і жыдоў, але Бэрка думае, што гэта правакацыя. Я сказаў, што маю намер тут застацца, а яму радзіў уцякаць. Мы зь ім добра пасьнедалі, й ён лёг адпачываць. Апаўдні я выправіўся на работу, але дайшоў толькі да Ніжняга рынку, а далей ня мог, бо скрозь бамбардавалася.

Каля 4-х гадзін я паставіў варыць абед і разбудзіў госьця. У гэты час суседка Міхароўская кліча нас у свой пакой і паказвае нам валізку, зь якой яна мае ўцякаць, калі надарыцца небясьпека; мы, адзін і другі, з далікатнасьці паважылі гэту валізку ў руках. Мінулі ня болей, чымся дзьве-тры мінуты, як мы з свайго пакою зайшлі ў пакой суседкі, – аж перад маім вакном упала велізарная бомба, ад якой у маім пакоі вылецела вакно з вушакамі, разьляцелася шафа й печ, тынкоўка зь сьцен і столі абсыпалася. Пад гэтымі руінамі засталіся мае ўсе запісы й кнігі, а некаторыя зь іх былі вельмі каштоўнымі. Пад гэтымі руінамі засталася тэчка, жакетка й шапка майго госьця, а ён сам пабег. Пабегла й суседка з валізкай.

Я агледзеўся, што ў мяне з носа капае кроў, а гэта быў расьсечаны самы канец носа, напэўна, шклом ад вакна. Я глянуў на двор праз тую вялізную дзірку ў сьцяне, дзе было вакно, аж двара не пазнаць: увесь завалены ламаччам. А дзе ад

вуліцы стаялі абапал брамы два вялікія дамы, дык па палавіне абодвух адарвана (як выявілася пасьля, у вадным загінула каля 15 асобаў, а ў другім – каля 12-ці). У вадным з гэтых дамоў я ўбачыў жанчыну-суседку, якая сіліцца адвярнуць бярно на руіне, дзе была яе кватэра. Я ведаў, што ў яе былі два маленькія хлопчыкі. Доўга ня думаючы, скакель праз гэта вакно на ламачча, бо думаў, што там былі завалены ейныя дзеці, каб дапамагчы ёй дастаць. Аж скочыўшы на двор, уладзіў скокнуць на дошку, зь якой угору тырчэў вялікі цьвік. Я адразу пачуў моцны боль у назе, дый нагі не адарву ад дошкі. З усяго імпэту ўдарыў другой нагой у гэту дошку, і мая нага вызвалілася. Я кінуўся памагаць гэтай жанчыне, аж яна выцягвае пасьцілкі з адзежай. Яна панесла гэту адзежу на вуліцу, а я пастульгіцкаў[17] у сваю хату, бо чую, што ў чаравіку мокра. Узабраўся праз гэта самае вакно ў свой пакой і думаю, што трэба паглядзець гэтай скалечанай нагі, ды, калі пыл асядзе ў пакоі, трэба пачаць выбіраць кнігі з друзу, аж калі глянуў назад у бок вуліцы, дык па ламаччы, па руінах шырокім фронтам бяжыць агонь на наш панадворак. Я ўхапіў некалькі большых кніжак, якія тырчэлі з друзу, ды думаю, каб паліто ды трохі бялізны захваціць. Тут пад руку папалася валізка, дзе я на лета зклажыў ношаныя касьцюмы. Я гэтыя касьцюмы выкінуў ды туды палажыў бялізну й кнігі.

Агонь ішоў шырокім фронтам ад Старажоўскай вуліцы ў кірунку Траецкай гары. Яго правы фронт ішоў па Старавіленскай вуліцы: усходні бок вуліцы гарэў, а заходні застаўся. Я гэтыя свае рэчы мусіў несьці перад фронтам агню аж на Старавіленскую вуліцу, бо толькі туды быў выхад з пажару. Я першы раз вынес валізку зь бялізнай і кнігамі, а другі раз – два паліто, зімовае й восеньскае, ды выкінуў вэлясыпэд на гарод, але вярнуцца па яго ўжо ня змог, бо агонь перасякаў маю дарогу. З узгорку Старавіленскай вуліцы лёгка было сачыць за гэтым шырокім морам агню, які пачынаўся фронтам ад Старажоўскай вуліцы ды трамвайнага парку. Праз гадзіну гэта плошча ад Старавіленскай вуліцы ўздоўж Старажоўскай і трамвайнага парку ды аж да Савецкай вуліцы сталася пустой, а толькі дзе-нідзе курэў абгарэлы мураваны дом ды тырчэла абгарэлае дрэва.

Школа АБВША[18] некалькі разоў загаралася, але толькі палова яе згарэла, а рэшта сама пагасла. З групы казармаў, што былі між Старавіленскай, Старажоўскай, Камунальнай і Мопраўскай вуліцамі, адна казарма, што выходзіла на Старавіленскую да Сьцяпанаўскага саду, ацалела ад пажару, але калі пажар зусім спыніўся, яна ні з таго ні зь сяго загарэлася.

Надвечар, калі пажар ужо скончыўся, я забраў на плечы свае рэчы ды празь Менскую балотную станцыю пайшоў на новы Камароўскі пасёлак – на Ўсходнюю вуліцу. Мне балела прабітая нага, ды ад мітусьні, ад перажытага, ад голаду я быў зусім аслабеўшы, таму прымушаны быў часта адпачываць і ледзь-ледзь прыцягнуўся на Ўсходнюю да свайго знаёмага Карэнскага – аж там хата разьбіта бомбай і нікога зь сям'і няма. Вечарам прыехаў гаспадар, які быў з канём на рабоце ў Маладэчне пры пабудове аэрадрому. Ён раніцай паехаў сям'ю шукаць і ўзяў мае рэчы на воз.

Гэту ноч я сядзеў на вуліцы й пазіраў на цэнтар Менску. Было спакойна: нямецкія самалёты ня лёталі, але праз усю ноч над местам стаяў чорны дым – гэта бальшавікі палілі цэнтральныя вуліцы. Казалі, што як Савецкая, так і іншыя цэнтральныя вуліцы Менску былі заваленыя пабітымі машынамі й трупамі, а нават і раненых ніхто не падбіраў. Недалёка да таго месца, дзе я быў астаўбаваўшыся нанач, у бок Балотнай станцыі, чуліся енкі раненых. Старая Сарока казала, што там ляжалі цяжка параненыя жанчыны й забітыя дзяўчаты.

Калі я гэтага дня ішоў дамоў, дык бачыў у Зялёным Лузе пад Менскам вайскоўцаў у шпітальнай бялізьне й халатах (відаць, савецкія афіцэры). Былі чуткі, што ў вайсковым шпіталі на Мопраўскай пагарэлі цяжкахворыя й цяжкараненыя савецкія вайскоўцы.

У панядзелак 23 чэрвеня было паведамлена па радыё: хто з жыхарства без дазволу пакіне месца свайго пражываньня, будзе карацца як вайсковы вінавайца. Мне балела прабітая нага, я быў згаладаўшы й аслабеўшы, таму мог хадзіць зь вялікімі цяжкасьцямі, але трэбала ісьці дамоў, бо не было пры чым заставацца, але яшчэ турбаваўся аб тым вайсковым загадзе, што ня можна пакідаць месца свайго пражываньня. Я спаткаў міліцыянэра й прашу парады:

– Як рабіць? Кватэра згарэла й няма дзе жыць.

Ён радзіць ісьці на вёску, а я яму напамінаю аб гэтым вайсковым загадзе, бо баюся, каб не судзіў вайсковы суд, а ён мне кажа:

– Калі ўлада ўстановіцца, дык вы тады вернецеся.

У гэтага міліцыянэра на блюзцы быў цывільны плашчык з настаўленым каўняром. Каўнер адхінуўся, і я бачу, што на ягонай блюзцы пятліцы паспораны. Тады я падумаў, што ў Менску ўжо няма савецкай улады, і наважыўся пайсьці ў сваю вёску: колькі за дзень прайду, настолькі буду бліжэй да яе.

Уся дарога аж рабелася ад людзей, якія пакідалі Менск. Я ішоў памалу, бо патрапляў, каб добра стаўляць прабітую нагу. У Карэнскага разжыўся з паўкілё хлеба, дык з гэтым хлебам да змроку прыйшоў да Лагойску – 42 кілямэтры. Падарожнікаў была поўна дарога, але тут успомню толькі адну старэнькую бабульку, якая мела два хатулькі: яна перш адзін хатулёк паднясе за двое гоняў, кладзе яго пры дарозе ды варочаецца па другі, і гэтак снавала бадай усю дарогу. Я доўга на яе азіраўся.

Змрокам я прыйшоў да Лагойску, але далей ісьці ўжо ня мог і зайшоўся ў сталоўку. Абедаў не было, але там працавала адна афіцыянтка з нашай вёскі, дык мне далі есьці. Тамсама я спаткаў шмат знаёмых; яны ў мяне распытваліся аб падзеях у Менску. Я проста апавядаў усё, што ведаў. Прашу знаёмую афіцыянтку, каб настроіла мне, куды зайсьці нанач. Яна парадзіла зайсьці ў гатэль. Калі я выйшаў з сталоўкі, дык да мяне падышлі два жыды: малады, гадоў каля 15-ці, і сталы, які запытаў мяне, куды я іду. Я яму адказаў ды пытаю ў яго, нашто яму трэба гэта ведаць. Ён нешта замармытаў сабе пад нос, а я пайшоў да гатэлю. Там стукаў-стукаў – не адчынілі. Тады пайшоў на Луцаўшчыну (дарогі было больш кілямэтра) да сваёй стрыечнай сястры. Ейнага мужа мабілізавалі, у яе адзежа была зьвязана ў хатулёх, а яна сядзела ў кутку на падлозе – нездарова, бо была апошнія дні цяжарнасьці. Я таксама сеў на хатулі й прываліўся да сьцяны. Мы зь ёй гутарылі, аж сьвітаньнем пачуўся стук у дзьверы, а пасьля чуецца голас з надворку:

– Ці ёсьць у вас хто чужы?

Яна адказала:

– Няма нікога, а толькі мой брат.

Незнаёмыя людзі зайшлі. Іх было двое: адзін міліцыянэр, другі энкавэдысты. Яны праверылі мае дакумэнты й пайшлі. Вось якая была палітычная пільнасьць: як відаць, гэтыя жыдкі палічылі мяне падазроным чалавекам і сачылі за мной усю дарогу ды нарэшце данесьлі ў НКВД. Назаўтра раніцай сястра дала мне вэлясыпэд, і я прыехаў у сваю вёску. Дома я пачуў, што лагойская адміністрацыя дала распараджэньне, што ніхто ня мае права казаць, што Менск гарыць і бальшавікі ўцякаюць зь яго, – гэткія рэчы ўважаліся за антысавецкую прапаганду.

---

[1] *Новая эканамічная палітыка* — эканамічная палітыка, улучала ўвядзенне штогадовага харчовага падатку ў вёсцы, дазвол прыватнага гандлю, дазвол замежных канцэсіяў, ператварэнне рубля ў канверсаваную валюту.

[2] *Шы́халіцца* — бегаць, мітусіцца (АВ).

[3] *“Мурка”* — адна з самых вядомых дваравых песень.

[4] *Рашток* — тое самае, што і рыншток, вадасцёк.

[5] *Хадакí* — старадаўні жаночы абутак (АВ).

[6] *Бам* (анг. *bum*) — валацуга, гультай, абібок; люмпен.

[7] *Мескі* — гарадскі, ад *места* ‘горад’.

[8] *Табліца* — тут: класная дошка.

[9] *Збрадлíвы* — шкадлівы (АВ).

[10] *Кляском* — класны камітэт.

[11] *Камароўка* — гістарычны раён Менска. Гэтая ўскраіна была адной з самых занядбаных. Пераважна ў прадмесці сяліліся рамеснікі і працоўныя.

[12] *Цімох Зарэчны* — адзін з псеўданімаў пісьменніка Цімоха Рублёва (1910—?). Скончыў ВПІ. У 1930-х гг. працаваў у "Савецкай Беларусі", на радыё, у Інстытуце школьнай педагогікі, настаўнічаў. Падчас нямецкай акупацыі настаўнічаў на Нясвіжчыне. Паводле адных звестак, улетку 1944 г. выехаў у Польшчу, дзе жыў пад прозвішчам Лукашэвіч, паводле другіх — загінуў у час бамбёжкі каля Гародні. У Берліне ў серыі "Народная бібліятэчка" выйшла яго кніга "Адам і Ева. Чабор. Апавяданні".

[13] *Цікаў* — зацікаўлены.

[14] *Іахім фон Рыбентроп* (1893-1946) — міністр замежных справаў Нямеччыны (1938-1945), дарадца Адольфа Гітлера па знешняй палітыцы.

[15] *Цешыць* — тут: суцяшаць, супакойваць.

[16] *Уладзімір Сядура* (1910—1995) — пісьменнік, літаратуразнаўца, культуролаг. Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне "Маладняк". Ад 1931 г. сябра Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў (БелАПП), узначальваў яе маладзевае крыло (разам з Б. Мікулічам і С. Ліхадзіеўскім). Арыштаваны ў 1933 г. у Маскве, высланы на тры гады ў Сібір, у 1935 г. датэрмінова вызвалены. У 1941 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю "Максім Горкі як гісторык рускай літаратуры". У 1942—1944 гг. галоўны рэдактар часопіса "Новы шлях" (Рыга). Друкаваўся ў "Беларускай газеце". Удзельнік Другога Усебеларускага кангрэса. Ад 1944 г. — на эміграцыі. Спачатку ў Нямеччыне. У 1951 г. перабраўся ў ЗША. Узначальваў кафедру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытута ў Троі (штат Нью-Ёрк). Аўтар кніг: "На берагох пад сонцам" (1964), "На Святой зямлі" (1972), "Паэта з Божае ласкі. Успамін і роздум пра паэта Язэпа Пушчу" (1979), "Пад лебядзіным знакам. Аповесць пра Максіма Багдановіча" (1983), "Вялікія дарогі" (1997). Пахаваны ў Джорданвілі (Нью-Ёрк) на могілках манастыра Св. Троіцы.

[17] *Стульгіцкаць* — ісці кульгаючы (АВ).

[18] *АБВША* — Аб'яднаная беларуская ваенная школа артылерыі.

Глеб Герасімаў



...захапляльнае падарожжа
ў глыбіню гісторыі нашага народа,
у глыбіню гісторыі майго роду...

# Адна з галінаў майго роду

## *Мой дзед Анатоль Бараноўскі*

*Публікацыя, якая прэзентуецца на старонках "Дзеяслова", унікальная. Яе падрыхтаваў унук нашага слыннага жывапісца, народнага мастака Беларусі Анатоля Бараноўскага, малады мастак, мастацтвазнаўца, гісторык мастацтва, выкладчык Глеб Герасімаў, які ўсе апошнія гады апантана даследуе свой радавод. Ён бліскуча скончыў аддзяленне станковага жывапісу Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, потым магістратуру, аспірантуру гэтай навучальнай установы. Тэма ягонай дысертацыі звязана з увасабленнем гістарычнай тэмы ў нашым мастацтве. Варта дадаць, што Глеб вырас у сям'і двух яркіх творчых асобаў, знакавых у сучасным беларускім жывапісе. Ягоная маці – Алена Бараноўская, як цяпер і Глеб, выкладае ў Гімназіі-каледжы мастацтваў імя І.В. Ахрэмчыка (дарэчы, гэтая навучальная ўстанова знаходзіцца на вуліцы Макаёнка, зусім побач з былым маёнткам Ваньковічаў). Бацька Глеба – прафесар кафедры жывапісу Беларускай дзяржаўнай Акадэміі мастацтваў. Бліскучы малады жывапісец, магістрка мастацтвазнаўства, выкладчыца і жонка Глеба – Вераніка Герасімава.*

*Але, як сапраўдны інтэлігент Глеб зацікавіўся сваімі каранямі. І зрабіў інтрыгуючыя адкрыцці... Аказваецца, род ягонага дзеда Анатоля Бараноўскага па матчынай лініі быў звязаны з родам нашага слыннага мастака Валенція Ваньковіча. А прабабуля ў свой час стварала такія незвычайныя карункі, што іх нават экспанавалі на міжнародных выставах... І яшчэ шмат чаго захапляльнага. За лаканічнымі радкамі архіваў паўстае жывое жыццё Мінска 19-20 стагоддзяў, Мінска, які ў свой час, як паўнаводныя рэкі ўбіраюць у сябе ручаінкі і рачулкі, так натуральна ўвабраў у сябе вёсачкі і вёскі, у адной з якіх жылі продкі Глеба Герасімава.*

*Хочацца спадзявацца, што гэтая публікацыя падахвоціць нашых чытачоў наведаць архівы і скласці свой радавод.*

**Галіна БАГДАНАВА**

У апошні час усё большую актуальнасць набывае вывучэнне ўласных радаводаў. Не выключэннем стала і гэтае даследаванне, прысвечанае галіне роду майго дзеда па матчынай лініі – слыннага беларускага мастака Анатоля Васільевіча Бараноўскага.

Анатоль Бараноўскі нарадзіўся 9 мая 1937 года ў Мінску, у сям'і акушэркі Зінаіды Пятроўны і галоўнага бухгалтара Транспартна-экспедыцыйнай канторы Заходняй чыгункі[1] Васіля Ільіча Бараноўскіх. Вядома, што Васіль Бараноўскі нарадзіўся ў вёсцы Сінічанка Бобрскай воласці Сенненскага павета Магілёўскай губерні (цяпер Бобрскі сельсавет, Крупскі раён, Мінская вобласць[2]) у сям'і праваслаўнага святара Іллі Якаўлевіча Бараноўскага. Пасля 1926 года яны пераехалі ў Мінск, дзе жылі ў сядзібным доме на вуліцы Каменнай (цяпер вул. Чкалава).

Сям'я Анатоля Бараноўскага жыла ў прыватным сектары на 1-м Цвёрдым завулку, размешчаным каля Батанічнага саду, побач з вуліцамі Акадэмічнай, Батанічнай і Петруся Броўкі[3]. Для мясцовых жыхароў гэты завулак заўсёды разумеўся вёскай Маляўшчынай, якая ўвайшла ў склад горада ў 1959[4] годзе. З ёй, як і з усёй Сляпянкай, у мастака звязана шмат успамінаў. Бараноўскі любіў наведваць жывапісны ручай, які цёк недалёка ад вёскі, хадзіў у поле, гуляў па вуліцы Батанічнай, іншых ваколіцах і заўсёды браў з сабой нататнік з алоўкам. Менавіта ў гады, звязаныя з Маляўшчынай, ён назіраў за звычайным жыццём, якое ішло з ім побач. Як кажа мастак: "...Наверное, я не мог не стать художником. Сама судьба изначально определила меня родиться в живописнейшем месте – деревне Малявщина. Сегодня там современные минские многоэтажки, одетый в бетон Слепянский ручей, виден угол Ботанического сада. Но до сих пор в памяти узенькие улочки, душистые от запахов ромашки и полыни, "разнокалиберные" поленницы дров... Сколько цвета, света, красок! ..."[5] Менавіта гэтае месца па-свойму паспрыяла фармаванню творчых поглядаў мастака. На характар, безумоўна, аказала ўплыў і вайна, якая яшчэ зусім маленькаму хлопчыку Анатолю запомнілася бяссоннымі начамі, галечай і голадам. Яна ўспрымалася разбурэннем свету, парушэннем яго гармоніі, якую мастак пасля ўсё жыццё імкнуўся захаваць. Разам з тым з Маляўшчынай звязаны і прыгоды, напрыклад, як Бараноўскі прытапіў у Сляпне няўдала прыпаркаваны ў вёсцы "студэбекер" і як за тое добра атрымаў ад шафёра, а потым і ад бацькі.

Аднак не толькі дзіцячыя і юначыя ўспаміны звязваюць Бараноўскага з жыццём у Маляўшчыне. У ёй нарадзіліся продкі яго маці Зінаіды, якая па бацьку паходзіла з роду Маркоўскіх, а па маці з Юронкаў – карэнных жыхароў гэтай вёскі. Значны перыяд гісторыі Маляўшчыны, як і гісторыі ўсёй Сляпянкі, быў неад'емна звязаны са знакамітым шляхецкім родам Ваньковічаў. У сярэдзіне XIX ст. Маляўшчына разам з вёскамі Зялёны Луг, Сціклеў, Вялікая Сляпянка, Падбалоцце, Азярышча, Камароўка і засценкамі Рэтрэтай, Навінкамі і Дражняй[6] уваходзіла ў склад маёнтка Вялікая Сляпянка, што належаў Эдварду Ваньковічу – маршалку шляхты Мінскага павета, старшыні Мінскага губернскага Міравога суда,

а таксама стрыечнага брата славутага мастака Валенція Ваньковіча. Гэты маёнтак застаўся Эдварду ў спадчыну ад бацькі Станіслава, які набыў яго ў 1809 г. у князя Дамініка Радзівіла. Пры Радзівілах ён называўся Сляпянка Радзівілаўская[7]. Пасля Эдварда маёнтак належаў яго сыну Уладзіславу, а яшчэ пазней перайшоў ва ўласнасць сына Уладзіслава – Зігмунда. Апошнім уласнікам маёнтка быў сын Зігмунда – Пётр Ваньковіч[8]. Адпаведна тагачаснаму адміністрацыйна-тэрытарыяльнаму падзелу маёнтак Вялікая Сляпянка, а разам з тым і вёска Маляўшчына, адносіліся да Сенніцкай воласці Мінскага павету[9] Мінскай губерні.



*1916 г., у Мінскім фотаатэльe. У цэнтры – Алена Аляксееўна Юронак са сваёй дачкой Зінаідай, маці Бараноўскага. Побач з імі – старэйшая дачка Алены, Вольга. Фота з прыватнага архіва сваякоў А. Бараноўскага.*

Як успамінае мой дзед, ягоны дзед, а мой прапрадзед Пётр Вікенцьевіч Маркоўскі, а таксама іншыя старажылы Маляўшчыны, не раз вельмі паважліва, згадвалі Ваньковічаў.

Шмат каштоўнай інфармацыі пра склад сем'яў і некаторыя асаблівасці жыцця Маркоўскіх і Юронкаў – прыгонных сялян Эдварда Ваньковіча, можна даведацца з інвентару маёнтка Сляпянка 1845 г., рэвізскіх казак 9-й (1850) і 10-й (1858) рэвізій, а таксама з дакументаў Мінскага Кацярынінскага сабора (цяпер Свята-Петра-Паўлаўскі Сабор) XIX – пачатку XX ст., якія захоўвае Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Трэба зазначыць, што важнасць адпаведных крыніц не толькі ў тым, што яны дапамагаюць спазнаваць радаводы. Яны таксама пашыраюць уяўленні пра агульнапрынятыя нормы выбару асабістых імёнаў, працягласць жыцця, наяўнасць эпідэмій і іншыя асаблівасці жыцця людзей гэтай мясцовасці.

Спачатку спынімся на родзе Маркоўскіх. Так, паводле рэвізскай казкі, пададзенай 30 сакавіка 1850 г., вядома, што ў склад сям'і 73-гадовага прапрапрадзеда Анатоля Васільевіча Бараноўскага, Маісея Іосіфавіча Маркоўскага (*1777–1852*[10]), уваходзіў яго сын Франц (прапрадзед мастака) 38 гадоў з нявесткай Аленай Гаўрылаўнай (прапрабабка мастака) 35 гадоў і іх сыны: старэйшы 12-гадовы Вінцэсь (прадзед мастака), 9-гадовы Ігнат і 3-гадовы Мікалай[11]. Было і дзве дачкі – чатырохгадовая Параска і аднагадовая Настуля[12], менавіта так яна запісана ў казцы[13]. У склад гаспадаркі Маісея Маркоўскага таксама ўваходзіла сям'я яго малодшага 66-гадовага брата Марціна, які жыў з жонкай Нінай Фёдараўнай і сынам Янкам[14]. У казцы таксама пазначана, што да гаспадаркі Маісея адносіўся і яго зяць Ціт Іосіфаў Хадаронак, які паміж рэвізіямі[15] быў пераведзены ў вёску Слабодка Барысаўскага павета[16], што адносілася да аднайменнага маёнтка, таксама прыналежнага Эдварду Ваньковічу[17].

З інвентару маёнтка Сляпянка 1845 г., са спісу сялянскіх гаспадарак вёскі Маляўшчына[18] можна даведацца пра склад і маёмасць трох гаспадарак – гэта сям'я Маісея, якая пазначана амаль у тым жа складзе, што і ў пазнейшай на пяць гадоў рэвізскай казцы[19], а таксама сем'і Стрыгаў і Дзядкоў[20]. Гаспадарка Маісея Маркоўскага, якая складалася на той час з 10 чалавек, мела 1 каня, 2 валы, 2 каровы, 2 быкі, 2 цялушкі, 7 авечак, 5 свіней і 1 вулей[21]. У параўнанні з прыведзенымі лічбамі як у іншых дварах Маляўшчыны, так і вёсках маёнтка, гаспадарку Маісея можна лічыць дастаткова заможнай.

Гаворачы пра склад сем'яў продкаў Бараноўскага, варта згадаць Юронкаў,

гісторыя якіх прадстаўлена на адных і тых жа аркушах рэвізскіх казак, што і Маркоўскіх. Так у казцы 1850 г. адразу над сям'ёй Маісея Маркоўскага можна ўбачыць запісы пра Юронкаў. Старэйшы згаданы яе прадстаўнік – Тодар Ільін Юронак[22] 56-гадовага ўзросту, прапрапрадзед майго дзеда, мастака Анатоля Бараноўскага. Сям'ю з 9 чалавек складалі яго старэйшы сын Вінцэсь[23] 26 гадоў, Сцяпан 17 гадоў, Адам 8 гадоў і Сцяпук 6 гадоў, старэйшая дачка Ганна 20 гадоў і Зося 14 гадоў[24]. Сын Тодара, Вінцэсь, меў жонку Мар'яну Вікенцьеўну 24 гады і аднагадовага сына Якава[25]. Вядома, што раней у склад сям'і Тодара Юронка таксама ўваходзіў яго брат Якаў, якога забралі ў рэкруты ў 1835 годзе[26]. Па дакументах можна вызначыць і другога брата Тодара, Базыля, які з'яўляўся дваровым: жыў і працаваў разам са сваёй сям'ёй пры фальварку Эдварда Ваньковіча[27] (цяпер вул. Парніковая, 24).



*Каля 1953-1954 г. Побач з хатай у Маляўшчыне. Злева – маці А. Бараноўскага, Зінаіда; па цэнтры ўнізе – сястра Ларыса; справа – дзед, Пётр Вікенцьевіч Маркоўскі. Фота з прыватнага архіва сваякоў А. Бараноўскага.*

Што тычыцца канфесійнай прыналежнасці Маркоўскіх і Юронкаў, то яны былі праваслаўнымі. Маляўшчына, як і іншыя Сляпянскія вёскі, адносілася да Мінскага Кацярынінскага сабора. Так, з метрычнай кнігі 1855 г. гэтага сабора, з запісаў пра смерць зробленых святаром Данілам Кранікоўскім можна даведацца пра смерць 2 дзяцей Тодара Юронка: Сафіі 20 і Стэфана 11 гадоў. Прычынай смерці, як і вялікай колькасці іншых запісаных людзей, была халера[28], эпідэмія якой вельмі выразна праглядаецца ў кнізе.

За далейшымі зменамі ў складзе сем'яў Маркоўскіх і Юронкаў, што ахопліваюць перыяд ад пачатку 60-х гадоў XIX – пачатку XX стст., можна прасачыць дзякуючы спавядальным ведамасцям і шлюбным вобыскам Кацярынінскага сабора. У гэты час у Маляўшчыне жылі Мяхеткі, працягвалі жыць Стрыгі, а таксама старажылы Маркоўскія і Юронкі[29].

Што датычыцца Маркоўскіх, то пасля смерці ў 1852 г. Маісея і ў 1854 г. Марціна гаспадаркай пэўны час кіраваў Франс[30]. Вядома пра наяўнасць у Маляўшчыне чатырох сем'яў ягоных сыноў: сям'я Вінцэся, Ігнація, Мікалая і Восіпа[31]. Варта асобна спыніцца на сям'і Вікенція, якую складалі яго жонка Ганна Канстанцінаўна (прабабуля майго дзеда) і іх дзеці: Дзмітрый, Пётр (дзед майго дзеда), Лізавета (па мужу Даўгая) і Анастасія (па мужу Баранава,)[32]. Са шлюбнага вобыску, зробленага ад 31 кастрычніка 1871 г., вядома, што Ганна Канстанцінаўна паходзіла з роду Пятровічаў і да шлюбу жыла ў вёсцы Скаліна, якая калісьці знаходзілася ў раёне сучаснага мікрараёна Навінкі. Цікава, што сярод сведкаў маладых у дакуменце пазначаны Вікенцій Тодаравіч Юронак – дзед жонкі іх будучага сына Пятра Маркоўскага[33].

Калі зноў казаць пра Юронкаў, то ў другой палове XIX ст. у Маляўшчыне жыла сям'я Стэфана Фёдаравіча (Тодаравіча) і Вікенція Фёдаравіча. Як ужо зазначалася, Вікенцій Юронак меў жонку Марыю Вікенцьеўну і сына Якава. Паводле шлюбнага вобыску 1880 г. вядома, што Якаў з'яўляўся звольненым у запас стацкім пісарам 4 батарэі 2 запасной артылерыскай брыгады унтэр-афіцэрскага звання[34]. Акрамя Якава ў Вікенція Тодаравіча Юронка былі сыны Аляксей (прадзед майго дзеда Анатоля Бараноўскага), Емельян, а таксама дочкі Ганна (па мужу Шыкаўка) і Марыя[35].

Аляксей Вікенцьевіч Юронак меў жонку Усціну Мікалаеўну і дзяцей Андрэя, Алену (бабуля майго дзеда), Мікалая, Ганну, Надзею, Веру, Марыю[36].

На пачатку XX ст. у Маляўшчыне жыло ўжо куды больш сем'яў – Дзядкі, Лычкоўскія, Маркевічы, Мінкевічы, Мяхедкі, Слабухі, Стрыгі, 3 сям'і Маркоўскіх і 4 сям'і Юронкаў[37]. Пэўным сведчаннем аб'яднання Маркоўскіх і Юронкаў можна лічыць шлюб 28-гадовага Пятра Вікенцьевіча з 20-гадовай Аленай Аляксееўнай, які адбыўся ў лістападзе 1905 года[38]. У хуткім часе нарадзілася іх першая дачка Вольга, пазней – другая дачка, Зінаіда (маці майго дзеда, мая прабабуля), і сын Аляксандр. За некалькі гадоў да шлюбу, 3 студзеня 1901 г., памёр дзед Алены Аляксееўны, Вікенцій Тодаравіч Юронак, якога пахавалі на Сляпянскіх могілках[39], дарэчы, там, дзе і ў 1855 г. былі пахаваныя ўжо раней згаданыя яго 11-гадовы брат Стэфан і 20-гадовая сястра Сафія, а таксама іншыя сваякі. Вядома, што частка сляпянскіх могілак была знішчана ў савецкі час, пры пабудове ў 1930-х гадах Мінскай гідраметэаралагічнай абсерваторыі (праспект Незалежнасці, 110). Астатні ўчастак знік пры пабудове праспекта[40]. Толькі невялікі ўзгорак з зялёным масівам цяпер нагадвае пра тое месца.



*Эдвард Ванькові́ч, уласнік маёнтка Вялікая Сляпянка. Сярэдзіна XIX ст.; фота публікуецца паводле: Ваньковичи / сост.: Н.А. Голубева, Н.М. Усова, Л.В. Языкович. – Минск: Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2012. – С. 46.*

Пра далейшы склад жыхароў Маляўчыны можна даведацца з пасяленнага спіса гаспадароў, складзенага паводле Усесаюзнага перапісу насельніцтва 1926 г. На той час у вёсцы пражывала 88 чалавек. У дакуменце можна пабачыць такія прозвішчы, як Ласкавец, Валасевіч, Карпейка, Гладкая, Навумовіч, Мядзведзеў, Ігнатовіч, Чарэднікаў. Таксама гэта Лычкоўскія, Мяхедкі, Дзядкі, Стрыгі, 3 сям'і Юронкаў і ажно 6 сем'яў Маркоўскіх[41]. Сярод іх, вядома, і ўжо згаданая сям'я Пятра Вікенцьевіча.

Асобна трэба сказаць некалькі словаў пра бабулю майго дзеда, маю прапрабабулю Алену Юронак. Паводле аповедаў дзеда майго дзеда Пятра Вікенцьевіча, а таксама іншых яго сваякоў, Алена была вельмі добрым і чулым чалавекам, а таксама вылучалася ў маладосці сваёй прыгажосцю. Акрамя таго яна была вядомая на ўсю Сляпянку сваімі льнянымі карункамі, за якія, па сямейнай легендзе, яшчэ да рэвалюцыі атрымала на выставе-конкурсе ў Бруселі дыплом і швейную машынку "Зінгер"[42]. Алену Аляксееўну мой дзед запомніць не паспеў, бо ў 1939 г. яна загінула з-за няшчаснага выпадку, трапіла пад машыну. Мабыць, гэта было адно з нешматлікіх у тыя часы здарэнняў. Па словах майго дзеда, пасля смерці ягонай бабулі, перад самым пачаткам Вялікай Айчыннай вайны, Пётр Вікенцьевіч разам з сястрой Анастасіяй наведвалі другую сваю сястру, Лізавету, якая жыла ў Маскве. Падчас іх гасцявання там пачалася вайна. З Масквы іх эвакуявалі ў Чалябінск, адкуль яны вярнуліся ў Мінск толькі пасля вайны. Удзельнікам вайны быў сын Пятра Маркоўскага, дзядзька майго дзеда, Аляксандр. У 25-гадовым узросце ён загінуў 30 мая 1943 г. і пахаваны ў Краснадарскім краі ў брацкай магіле, размешчанай паміж вёскай Садовай і сялом Эканамічнае[43].

Пасля вайны ў сям'і Бараноўскіх нарадзілася яшчэ двое дзяцей: Ларыса і Мікалай. Разам яны жылі ў сядзібнай хаце, якая была падзелена на дзве часткі: адну займаў удавец Пётр Маркоўскі, другую Бараноўскія. Калісьці гэты дом збудаваў



*Сямнаццацігадовы Анатоль Бараноўскі. Маляўшчына, 1954 год. Фота з прыватнага архіва аўтара.*

брат Пятра, Дзмітрый, які працаваў лесніком. Мой дзед памятае расказы свайго дзеда пра ягоную неверагодную сілу. Існуе сямейная гісторыя, калі Дзмітрый, дзеля таго, каб не ўступаць у канфлікт са злачынцамі, вырашыў прадэманстраваць ім сваю моц і прыўзняў адной рукой гумно: гэтага было дастаткова, каб яны разбегліся.

Што датычыцца самога Пятра Вікенцьевіча, то ён добра клаў печы і быў адмысловым аграномам, вырошчваў памідоры і пшаніцу, паглядзець на якую, па ўспамінах майго дзеда, прыходзілі нават супрацоўнікі Акадэміі навук. Мой дзед прыгадвае, як ягоны дзед звычайна сядзеў даўгімі зімовымі вечарамі і адбіраў самыя лепшыя зярняткі. Увогуле, кажучы пра Пятра Вікенцьевіча, варта зазначыць яго асабліва цёплыя і сяброўскія адносіны з унукам, якія вызначала не столькі яго грашовая дапамога, колькі падтрымка ў жаданні Анатоля, майго дзеда, маляваць, чаго нельга было сказаць пра бацьку з маці, якія не паздзялялі памкненняў сына. Таксама вельмі важна, што гэтая падтрымка вызначылася як словам, так і справай. З усёй адказнасцю дзед пазіраваў унуку, заўсёды пытаўся, над чым у дадзены час той працуе, прасіў паказаць творы. Перад паступленнем і падчас вучобы майго дзеда ў мастацкай вучэльні (1953–1958) было зроблена шмат такіх сеансаў. Іх вынікамі сталі шматлікія накіды, замалёўкі і эцюды, якія, на жаль, не захаваліся. Як прыгадвае мой дзед, ягоны дзед Пётр ніколі не прамінаў рэпрадукцый, заўсёды з цікавасцю іх разглядаў. Таксама ён захапляўся чытаннем, яго часта можна было пабачыць за кнігамі ці газетай.

Калі казаць пра маці майго дзеда, маю прабабулю, то яе ён памятае як вельмі працавітую гаспадыню, якая, як і шматлікія іншыя жанчыны таго часу, з цяжкасцю перажыла ваеннае ліхалецце. Яшчэ да яго нараджэння, у 1934 г., мая прабабуля Зінаіда скончыла курсы падрыхтоўкі сярэдняга медперсаналу пры Клінічным гарадку Беларускага медыцынскага інстытута. Пасля працавала акушэркай. За працоўныя поспехі мела некалькі ганаровых грамат, а ў 1979 г. атрымала медаль ветэрана працы.

У Маляўшчыне, а, дакладней, ужо на 1-м Цвёрдым завулку мой дзед Анатоль пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Валянцінай Гаўрылаўнай (па бацьку Байраш. Яна прыехала з Валожынскага раёна паступаць у Мінскую медыцынскую вучэльню і здымала пакой у хаце Бараноўскіх. Вынікам гэтага знаёмства быў шлюб і нараджэнне дачкі Алены, маёй маці).

Здача пакояў у цяжкія пасляваенныя гады была досыць распаўсюджанай практыкай. Паводле ўспамінаў Бараноўскага, падчас яго навучання ў Мінскай мастацкай вучэльні ў іх хаце гасцяваў будучы народны мастак Васіль Шаранговіч, на той час таксама навучэнец Мінскай мастацкай вучэльні, які быў старэйшы за майго дзеда прыкладна на курс. Шаранговіч здымаў пакой у адной з суседніх Маляўчынскіх хат, пра што, дарэчы, ён згадвае ў сваёй біяграфічнай кнізе “Ген жыцця”. Таксама падчас вучобы ў вучылішчы на працягу не аднаго тыдня на бязвыплатнай аснове ў хаце Бараноўскіх жыў беларускі жывапісец Кастусь Харашэвіч, аднакурснік і сябра майго дзеда Анатоля.

Мінула некалькі гадоў з дня нараджэння маёй маці, і далейшая гісторыя і лёс майго дзеда і ягонай сям'і больш не будуць звязанымі з Маляўшчынай. Сядзібную вясковую забудову пачалі зносіць, Бараноўскіх надзялілі кватэрамі ў новым мікрараёне горада, а Маляўшчына канчаткова перастала існаваць.

Упэўнены, што жыхары Маляўшчыны, у прыватнасці, Маркоўскія і Юронкі, якія былі продкамі майго дзеда, будучы пэўны час прыгоннымі маёнтка Вялікая Сляпянка, што належаў Ваньковічам, не маглі не паўплываць на фарміраванне асобы беларускага жывапісца. У сваю чаргу іх стасункі з родам Ваньковічаў таксама дзіўным чынам адбіліся ў лёсе іх нашчадкаў. Не магу не заўважыць, што ў творчасці і Валенція Ваньковіча, і майго дзеда Анатоля Бараноўскага кранае паважлівае стаўленне да прыроды, да чалавека працы, а разам з тым і да гістарычнай спадчыны. Даследаванне роду майго дзеда Анатоля Бараноўскага, майго роду, як і даследванне гісторыі Маляўшчыны, яшчэ не скончана. Але вельмі хацелася падзяліцца з чытачамі ўнікальнымі адкрыццямі, якія мне пашчасціла зрабіць за апошнія гады. Мяне чакаюць як ужо згаданыя, так і новыя генеалагічныя крыніцы, архіўныя дакументы. Мяне чакае захапляльнае падарожжа ў глыбіню гісторыі нашага народа, у глыбіню гісторыі майго роду.

## PS

Народны мастак Беларусі Анатоль Бараноўскі памёр 31 студзеня 2017 года. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

Спасылкі і каментары:

[1] Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці. Ф.170. Воп. 1. Спр. 13. Арк. 151.

[2] Гарады і вёскі Беларусі: энцыклапедыя ў 15 т. / рэдкал.: Т.У. Бялова [і інш.]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі; Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору; Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі". – Мінск: Беларус. Энцыкл. Імя П. Броўкі, 2011. – Т.8. Мінска вобласць. Кн. 2. / У.У. Бянько, Т.Р. Чуракова. – С. 427.

[3] Вядома, што раней 1-шы Цвёрды завулак зваўся 2-м Безыменным.

[4] Минск: энциклопедический справочник / Редкол.: И.П. Шамякин (гл. ред.) [и др.]. – 2-е изд., доп., перераб. – Минск: Бел. Сов. Энциклопедия им. Петруся Бровки, 1983. – С. 224.

[5] Святощик, Л. Анатолий Барановский: "Видеть мир, любить то, что видишь, и выражать свои чувства кистью и красками" / Л. Святощик // Республика. – 2000. – 11 жн. С. 9.

[6] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей НГАБ). Ф. 142. Воп. 1. Спр. 806. Арк. 6 адв.; НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 964. Арк. 692.

[7] Ваньковичи / редкол.: Т.В. Белова [и др.]; сост.: Н.А. Голубева, Н.М. Усова, Л.В. Языкович. – Минск: Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі, 2012. – С. 380; Трэба таксама дадаць, што побач са Сляпянкай Радзівілаўскай існавала Сляпянка Паезуіцкая (уласнасць Мінскага ордэна Езуітаў), якая таксама стала належаць Ваньковічам. Спачатку ёй уладарыў Мільхіёр Ваньковіч, а пасля яго сын, мастак Валенцій Ваньковіч. З цягам часу за Сляпянкай Радзілаўскай замацавалася назва "Вялікая Сляпянка", а за Сляпянкай Паезуіцкай "Малая Сляпянка". Разам з тым каля рэчкі Сляпні існавала і дзве аднайменныя маёнткам вёскі, "Вялікая Сляпянка" і "Малая Сляпянка".

[8] Тамсама: С. 327.

[9] Тамсама: С. 369.

[10] Пазначаныя курсівам даты азначаюць тое, што яны вылічаны аўтарам, паводле пададзенага ў дакументах узросту асобы на пэўны год.

[11] Са спавядальных ведамасцей Мінскага Кацярынінскага сабора можна даведацца і аб сыне Восіпе (*1858 – да 1910*).

[12] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 603. Арк. 474 адв. – 475.

[13] У інвентары маёнтка Сляпянка, зробленага на пяць гадоў раней, вядома і аб яшчэ адной дачке Маісея, Мар'яне (*1815*–?).

[14] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 603. Арк. 474 адв.

[15] Тут маецца на ўвазе, што ён быў пераведзены паміж рэвізіямі 1834 і 1850 гг.

[16] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 603. Арк. 474.

[17] Акрамя галоўнага маёнтка Сляпянка Эдуарду Ваньковічу таксама належалі Зазер'е, Князеўка, Слабодка, Гарадзішча і інш.

[18] Пазначана Малеўшчынай.

[19] У дачыненні да сям'і Маісея ў інвентарным запісе існуюць памылкі і недакладнасці. Так, у параўнанні з іншымі главамі гаспадарак, дзе пазначаны іх прозвішчы, прозвішча Маісея адсутнічае. Калі ў рэвізскіх казках ён пазначаны сынам Іосіфа, то тут запісаны як "*Маісей Юрын*". Акрамя таго ўзрост дарослых асоб (Маісея, Франца і Алены, Марціна і Ніны) пры падлічэнні года нараджэння не супадае з прадстаўленым у рэвізкіх казках, ён завышаны. Супадаюць толькі даты нараджэння дзяцей Франца і Алены: Вікенція, Параскі і Ігнацыя. Інвентарным запісам не дазваляе верыць дакладнае пазначэнне колькасці гадоў у графе рэвізскай казкі 1850 г., у якую ўносіцца ўзрост на стан папярэдняй, 1834 г. 8-й рэвізіі, ранейшы за інвентарны. Такім чынам, просты падлік па ўсім адзнакам узросту на момант кожнага стану, прадстаўленага ў казках, паказвае поўнае супадзенне ў датах нараджэння ўсіх разглядаемых асоб.

[20] НГАБ. Ф.142. Воп.1. Спр. 806. Арк. 8.

[21] Тамсама: Арк. 8.

[22] У больш позніх дакументах пазначаўся як Тэадор, Феадор і Фёдар.

[23] У больш позніх дакументах пазначаўся як Вікенцій.

[24] З метрыкі аб смерці 1855 г. Мінскага Кацярынінскага Сабора, таксама вядома аб дачцэ Сафіі (*1835–17.08.1855*).

[25] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 603. Арк. 474 адв – 475.

[26] Тамсама: Арк. 474 адв

[27] НГАБ. Ф.142. Воп. 1. Спр. 806. Арк. 8 адв.; НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 964. Арк. 693 адв. – 694.

[28] НГАБ. Ф. 1313. Воп. 1. Спр. 52. Арк. 76 адв. – 77. Арк. 81 адв. – 82.

[29] НГАБ. Ф. 1313. Воп. 1. Спр. 50.

[30] НГАБ. Ф. 333. Воп. 9. Спр. 603. Арк. 474 адв – 475.

[31] НГАБ. Ф. 1313. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 30 адв., 98 адв., 173.

[32] Там жа: Арк. 30 адв., 98 адв., 173.

[33] НГАБ. Ф. 1313. Воп. 1. Спр. 19. Арк. 253 – 253 адв.

[34] НГАБ. Ф. 1313. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 26.

[35] НГАБ. Ф. 1313. Воп. 1. Спр. 50. Арк. 31, 98 адв., 173 адв.

[36] НГАБ. Ф. 1313. Воп. 1. Спр. 51. Арк. 116, Спр. 49. Арк. 83 – 83 адв.

[37] НГАБ. Ф. 1313. Воп. 1. Спр. 49. Арк. 82 адв., 83, 83 адв.

[38] НГАБ. Ф. 1313. Воп. 1. Спр. 32. Арк. 159.

[39] Некропалі Беларусі [Электронны рэсурс]. – 2013. – Рэжым доступу: http://niekropali.by/kartka/1527. – Дата доступу: 27.03.2016; Надмагільны надпіс сведчыў: "... *прах Викентія Өёдоровича ЮРОНКА. Жилъ 80 летъ. Умерь 3 Января 1901 г.*"

[40] Там жа.

[41] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 30. Воп. 2. Спр. 6279. Арк. 78.

[42] Святощик, Л. Анатолий Барановский: "Видеть мир, любить то, что видишь, и выражать свои чувства кистью и красками" / Л. Святощик // Республика. – 2000. – 11 жн. – С. 9; Гэтая цікавая гісторыя пакуль чакае свайго пацвярджэння.

[43] Книга памяти [Электронны рэсурс]. – 2012–2016. – Рэжым доступу: http://pomnimvas.by/poisk. – Дата доступу: 06.04.2016; ОБД "Мемориал" [Электронны рэсурс]. – 2007. – Рэжым доступу: https://www.obdmemorial.ru/html/info.htm?id=5764138. – Дата доступу: 06.04.2016.

Міхал Дубянецкі



...у выдавецтве "Мастацкая літаратура" "неблагонадежных" выданняў апошняга перыяду аказалася прыкладна столькі, як ва ўсіх астатніх выдавецтвах разам узятых...

# "Трэба рызыкаваць..."

## *Дзённікавыя запісы часоў працы ў выдавецтве "Мастацкая літаратура"*

*Заканчэнне. Пачатак у №6 (37) за 2008 год, №1-6 (38-43) за 2009 год, №1-5 (44-48) за 2010 год, №1 (86) за 2017 года.*

*Падрыхтоўка да друку Станіслава ДУБЯНЕЦКАГА.*

*25 студзеня 1984 г.* Абмеркаванне маёй перакладчыцкай дзейнасці на пашыраным пасяджэнні бюро секцыі мастацкага перакладу Саюза пісьменнікаў БССР. Прысутнічала каля трыццаці чалавек. Выступілі сямёра. Разбіраліся перакладзеныя мною кнігі Валянціна Распуціна "Жыві і помні", Данііла Граніна "Гэта дзіўнае жыццё. Аповесці і апавяданні", Грыгора Цюцюнніка "Клімко", анталогія сучаснага ўкраінскага апавядання "Сцежка без канца" і асобныя творы Стэфана Жэромскага, што публікаваліся мною яшчэ да ягонага стагоддзя і пазней (1964, 1970 гг.)

Усе гаварылі вельмі хараша, добразычліва. Мне нялёгка было на працягу аж 2-х гадзін быць аб'ектам такой увагі – хай нават і сяброўскай. Я прывык ужо за апошнія гады да "абмеркаванняў" іншага парадку. Але ж тады я адчуваю сябе, як кажуць, на ўзроўні – не абараняюся, а таксама нападаю. А тут... сядзі ціха, чырванеі і слухай удзячна.

Вынік абмеркавання – пастанова аб рэкамендацыі мяне ў члены Саюза пісьменнікаў СССР.

*26 студзеня 1984 г.* Старшыняваў на пасяджэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета. Пасля разгляду ўнесенага Іванам Іванавічам[1] Антановічам пытання пра вылучэнне Максіма Лужаніна на Дзяржаўную прэмію БССР я паставіў на абмеркаванне і *сваё* пытанне – пра выпуск Беларускага літаратурна-мастацкага календара. Прыгадаў гісторыю беларускіх календароў, пачынаючы ад Скарынінскага – першага ўсходнеславянскага друкаванага календара. Сказаў, што выдавецтва гатова наладзіць выпуск профільных яму календароў, што ў асноўным у нас ужо распрацаваны каляндар на 1986 год, прачытаў уключаныя ў яго даты і спадарожныя ім матэрыялы месяца ліпеня.

Мая інфармацыя сустрэта была ўсімі прысутнымі вельмі прыхільна і выклікала гарачае абмеркаванне. Сваю думку выказалі Іван Навуменка, Віктар Каваленка, Алесь Жук, Анатоль Вярцінскі, Барыс Сачанка, Анатоль Грачанікаў, Валянцін Рабкевіч і іншыя. Некаторыя з іх (Б. Сачанка) параілі, каб каляндар быў не толькі літаратурна-мастацкі, але і грамадска-палітычны – інакш можа здарыцца тое, што было са “Спадчынай”.

І. Навуменка быў у захапленні ад ідэі выдання “грунтоўнага, прыстойнага беларускага календара”, сказаў пра цяжкасці, якія могуць чакаць ягоных аўтараў і наогул усё выдавецтва, параіў знайсці магчымасці, каб заахвочваць матэрыялы тых, хто будзе рабіць гэтую цяжкую справу.

*26 студзеня 1984 г.* Пасля рэдсавета завітаў Алесь Разанаў – прама з Галоўліта[2]. Выклікалі яго туды “па справе Максіма Гарэцкага” (!), які ў свой час “надта смела, неабачліва і апалітычна” выказваўся, а рэдактар Разанаў “блізарука” пускае тыя выказванні ў кнігу.

У гэтай кнізе (Успаміны) каля 200 “квадратаў” на месцах выкінутага тэксту. (!) Выклікалі рэдактара, каб прымусіць яго яшчэ на новыя “квадраты”:

1) выкінуць папрок “нашай савецкай цэнзуры” (Цэнзар Марына Высоцкая сказала, што ў час Гарэцкага была не цэнзура, а крытыка, а цяпер таксама не цэнзура, а ахова дзяржаўных таямніц);

2) выкінуць усе ўпамінанні п’есы Янкі Купалы “Тутэйшыя”;

3) выкінуць Алеся Гаруна;

4) выкінуць усюды тэрмін “нацыянальнае адраджэнне” і г.д.

*27 студзеня 1984 г.* Кнігу М. Гарэцкага залітавалі. Пра савецкую цэнзуру выкінулі, “Тутэйшых” – выкінулі, А. Гаруна ў нейтральных сітуацыях выкінулі, а дзе-нідзе – у “небяспечных” месцах – выкінулі, як, напрыклад, там, дзе ён стаяў побач з Я. Купалам. “Нельга, каб хто-небудзь падумаў, нават, што Гарун быў такім важным, аж другім пасля Купалы” – сказала цэнзарка.

І ўчора, і сёння добраахвотным асістэнтам-аматарам у Марыны Высоцкай была нехта Кузьміна. Яна беспардонна ўмешвалася ў размову ці спрэчку рэдактара з цэнзарам, і кожны раз завастрала праблему казённым нажом.

*7 лютага 1984 г.* 17.30 – 21.30 – вечар у тэатры імя Я. Купалы ў сувязі з 70-годдзем з дня нараджэння Аркадзя Куляшова. Прысутнічалі ўсе 3 вышэйшыя кіраўнікі БССР, госці з Масквы і некаторых рэспублік – другарадныя. Адкрыў Н. Гілевіч – выдатна. Даклад П. Панчанкі – таксама. Добрыя, цікавыя і ўсе выступленні. Выдатны канцэрт з удзелам Бел. дзярж. акад. хору М. Дрынеўскага і “Песняроў” Ул. Мулявіна.

Меў запрашэнне на банкет. Не пайшоў. Вярнуўся дамоў, каб паглядзець па

[1] Загадчык аддзела культуры ЦК КПБ.

[2] Галоўнае ўпраўленне па ахове дзяржаўных тайнаў у друку пры Савеце міністраў БССР.

ЦТБ перадачу “Писатель и жизнь” з удзелам Алеся Адамовіча, Васіля Быкава, Вячаслава Кандрацьева, Юрыя Каракіна.

*10 лютага 1984 г.* Канчатковае ўзгадненне з Васілём Быкавым «канчатковых» патрабаванняў Галоўліта і Дзяржкамвыда[1]. Тыдзень таму назад (3.02.84) паводле нашае просьбы – дазволіць нарэшце падпісаць у друк “Знак бяды” В. Быкава – М. Дзялец[2] “паставіў апошнія кропкі”, дамовіўшыся пра іх па тэлефоне з А. Маркевічам[3].

Сваёй рукою Дзялец выкінуў з падпісной вёрсткі на дзвюх старонках (151 і 152-153) па 11 радкоў – 8 сказаў, 165 слоў. Цалкам выкідаюцца 3-ці і 4-ты абзацы і сярэдзіна 6-га абзаца 16-га раздзела.

Вось яны, крамольныя абзацы.

1. Ад слоў “Сцепаніда... пабегла ў Выселкі” да абзаца “Ужо далёка...”:

“Тое, што было далей, нібы праз сон даходзіла да яе свядомасці, на колькі хвілін яна перастала разумець, дзе яна і што навокал робіцца. На разварушаным Ладзіміравым падворку было людна, ля плота стаялі сані з запрэжанымі ў іх коньмі, і яна згледзела, як Ладзімір з мужчынамі выцягваў праз насцеж расчыненыя дзверы сенцаў катомкі, сундукі, нейкія транты. Там жа неяк разгублена тупаў Ганчарык, часам кідаючыся памагчы выносіць майно раскулачанага.

Каб болей не бачыць нічога, Сцепаніда павярнула да вуліцы і пайшла, не ведаючы, куды і па што...”

2. У абзацы “Калі ў школе раптам выбухнуў...” ад слоў (2-гі сказ) “і яны паволі паплялася па вуліцы” (тут пастаўлена Дзяльцом коска) да слоў “захацела пабачыць Лявона...”:

“назад, паднялася на пагорачак. Раскулачаных, пэўна, ужо адправілі, людзі павярталіся да сваіх хат, яна разышлася з Лізаветай, якая з малымі збочыла ў свой падворак, нехта на пагорку таксама знік з вуліцы ў веснічках. Сцепаніду, аднак, усё прыгнятала адчуванне бяды, а галоўнае – несправядлівасці, і хоць яна разумела, што позна ўжо нешта рабіць пасля тае ночы і таго здарэння на гасцінцы, у сасоннічку, пасля гэтага раскулачвання, але нешта недагаворанае, недаўсвядомленае патрабавала тлумачэння, высвятлення, хоць бы пачуццёвай разрадкі, ці што. Мінаючы псаломшчыкаву хату, яна”

Каб захаваць нейкую сувязь паміж ласкава дазволеным тэкстам, мы з С.А. Андраюком[4] дамовіліся некалькі аблегчыць калецтва – пакінуць першых 11 слоў у першым “шкодным” абзацы і ўвесь кароценькі, з аднае фразы, другі такі самы “небяспечны” абзац.

Але ж мы, як даводзяць нам з 1917 года, гэта толькі мы, вінцікі, шрубкі, а вырашаюць усё *яны*, маторы.

Ну, пабачым, як пойдзе далей гэты паядынак. А пакуль трэба “парадаваць” Аўтара.

Васіль Уладзіміравіч толькі ўчора вярнуўся з Нурэка, дзе яму ўручалася рабочая прэмія за “Знак бяды”, што быў апублікаваны ў 3 і 4 нумарах маскоўскага часопіса “Дружба народов” за 1983 год. Вельмі-вельмі цікава і здорава ў нашым царстве-“государстве”: мы тут, у сябе, у Беларусі, ніяк не можам выдаць гэтую кнігу!

Васіль пагадзіўся, вядома, з вялікімі літаратарамі з Галоўліта і Дзяржкамвыда. Усё жыццё ён вымушаны пагаджацца. Інакш – зусім не будуць друкаваць.

---

[1] Дзяржаўны камітэт БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю (Дзяржкавыд БССР).

[2] Старшыня Дзяржкамвыда БССР.

[3] Начальнік Галоўліта БССР.

[4] Галоўны рэдактар выдавецтва “Мастацкая літаратура”.

Вось і сёння з горыччу ён сказаў, што стаміўся ўжо ад усяго гэтага, абрыдла ўсё. “А як інакш пісаць – не ведаю. Хіба не зважаць на праўду жыцця? Схаваць далей сваё сумленне, заглушыць яго? А можа пісаць пра якія-небудзь тралі-валі? І нервы будуць на месцы, і наогул, усім выгадна – і аўтару, і дзяржаве, галоўнае – “венценосцам” і іх падручным”.

У час нашае размовы перадавалася паведамленне пра смерць Ю.А. Андропава[1] – аднаго з галоўных інспіратараў і стражаў новых парадкаў у літаратуры, пра якія з такою горыччу і смуткам мы вядзём гаворку.

Гаварылі і пра справы на нашым, беларускім, Алімпе, пра чорныя прагнозы наконт іх, асабліва наконт перспектыў далейшага развіцця “свабоды слова”, “свабоды друку” і наогул “свабоды чалавека”.

Вывучыўшы гэтыя прагнозы, Алесь Адамовіч збіраецца пераехаць у Ленінград – на пастаянна!

В. Быкаў уручыў мне рэкамендацыю ў члены Саюза пісьменнікаў СССР. Ён яшчэ, калі я ляжаў у бальніцы, прапанаваў мне афармляцца ў СП і тады ж сказаў, што дасць рэкамендацыю. Напісаў вельмі хараша. Дзякуй яму за такія прыязныя і шчырыя адносіны да мяне! Я вельмі даражу імі, а ўлічваючы месца гэтага Пісьменніка ў духоўным жыцці мільёнаў людзей, такія яго адносіны да каго б там ні было – абавязваюць тых, хто адчуў іх, да чыстага гарэння ў служэнні Народу.

*10 лютага 1984 г.* Учора ў ЦК КПБ былі выкліканы галоўныя рэдактары ўсіх выдавецтваў. Г.М. Конанаў “давёў да іх ведама” выкладзеныя ў спецыяльнай запісцы Галоўліта “факты аслаблення палітычнай пільнасці выдавецкіх работнікаў”. Ва ўсіх выдавецтвах Галоўліт запеленгаваў па адной кнізе з фактамі (ці фактам) “ідэйна-палітычнае слепаты выдаўцоў”. У выдавецтве “Мастацкая літаратура” “неблагонадежных” выданняў апошняга перыяду аказалася прыкладна столькі, як ва ўсіх астатніх выдавецтвах разам узятых:

1. Кніга А. Лойкі “Як агонь, як вада”.

– няправільна асвятляецца перыяд 1918 года ў жыцці Янкі Купалы;

– Купала не давяраў “суседу з усходу”;

– аўтар спрабаваў выцягнуць на старонкі кнігі лозунг Купалы з “Тутэйшых” – “Беларусь – для беларусаў”, тлумачыў, што б гэта значыла, апраўдваў Купалу;

– аўтар хацеў увесці ў кнігу сцэнкі раскулачвання сваякоў і маці Янкі Купалы;

– і г.д.

2. Алесь Пісьмянкоў. Белы камень. Вершы (“Першая кніга паэта”). Рэдактар Л.В. Дранько-Майсюк. Мн.: МЛ, 1984.

*Стар. 41-42:*

* * *

Даўно павыпаўзалі мы
з мораў,
А ў жылах тая ж
грэе кроў.
Мы кажам “звер”,
“звярыны нораў”...
Ах, як мне крыўдна
за звяроў!
Даўно ён знік,
дзікун той шэры,
Шліфуе нас
гуманны век.

---

[1] Генеральны сакратар ЦК КПСС.
[2] Намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ.

А звер жыве
і будзіць звера
У чалавеку
чалавек.
Дваццаты век.
Акселераты...
Нясе ў нябёсы НТР...
Яшчэ крыху і ты –
крылаты!
А звер жыве.
Жыве ўсё звер!?

3. Аляксандр Дракахруст. Сквозное ранение. Новая книга стихов. Мн.: МЛ, 1984. Редактор Н.И. Семашкевич.
*Стар. 76:*

Просьба к долгожителям

У кнізе ёсць:

На крестах антенн
телевизионных –
вороны,
как на церковных крестах когда-то...
Сидят
и голосят возмущенно:
дескать, им
удобств маловато.

Выкінута, замест гэтага дадумана новыя 12 радкоў (гл. кн.):

Зря горлопаните, птахи!
Не раз еще могут смениться
кресты.
И поверьте,
вы скоро дождетесь других!
Вновь придумают люди,
на что,
забываясь,
молиться,
и не надо,
не надо каркать на них!

*Стар. 78-79:*

**В колонии**

Острый запах карболки
и щей недоеденных,
онемевший
от резкого крика
зал.
И такая тоска,
и такое всеведенье
в этих –
будто слюдою прикрытых –
глазах!
Я им –байку...
А после – уже наудачу –
про свое,
про недоброе детство –
чуть-чуть...

И в глазах проступило
мальчишье,
ребячье,
расплавляя застывшую
серую муть.
В рот смотрели
и яростно били в ладоши,
и вертелся волчком
паренек заводной...

У кнізе дапісана новае:

Я вздохнул:
до чего же ребята хорошие!
И сквозь строй
виновато пошел
к проходной.



4. Святлана Алексіевіч.
5. Імкненне ксяндзоў перавесці літургію на беларускую мову.

*15 лютага 1984 г.* Як багата было сёння спраў! Ужо ў 18 гадзін зайшоў Дулеб. Ён цяпер штодня бывае ў мяне. Цяжка хлопцу, а спачування, дапамогі – ніадкуль. Так мне і кажа: "Вы адзін у мяне..."

Учора ці заўчора ён такі схадзіў у той спецыяльны орган. Прасіўся да ВПР[1], а прыняў нейкі палкоўнік з прозвішчам на "чэ", як сказаў Дулеб. Гэты Чэ сказаў, што яны нічога да яго не маюць, "звяртайся ў гарком партыі". Чаму ў гарком, калі ў яго справа "рэспубліканская".

Я параіў схадзіць на прыём да АТК[2], але папярэдне падрыхтаваць пісьмова сваю просьбу і аддаць яе яму. Калі зацікавіць яго твой лёс, кажу я, прачытае, перадасць некаму з даручэннем уважліва разабарацца, запатрабуе і інфармацыю з тых органаў. Яму скажуць яны праўду.

На другі дзень пасля гэтага ён (пад вечар) даў мне чарнавік свайго звароту да АТК, я даў адпаведныя парады, што выпісаць, што дадаць.

Вось сёння ён і з'явіўся, каб паказаць белавік. Але сёння ж ён паспеў ужо звязацца з памочнікам АТК, прасіў запісаць яго на прыём, той пацікавіўся справаю. Пасля кажа, што не трэба яму да АТК. "Раздзяліце сваю справу на асобныя праблемы – іх жа ў вас некалькі – і звяртайцеся па кожнай з іх да кампетэнтных у гэтых пытаннях людзей.

Я сказаў, што гэта адтэрмінуе вырашэнне справы і параіў паслаць заяву па пошце, ці занесці ў канцылярыю. Там яе зарэгіструюць і павінны будуць разбіраць увесь комплекс праблем. Параіў таксама ў постскрыптуме дапісаць, што прасіўся на прыём і што з гэтага атрымалася.

*15 лютага 1984 г.*

Наум Кислик. Разные годы. Стихи. 1984.

Стар. 10–13 падпісной вёрсткі, верш "За бортом" (М.К. Высоцкая, выклікала рэдактара В.Б. Спрынчана і сказала: "Ці зняць, ці зрабіць яго больш аптымістычным").

---

[1] Васіль Паўлавіч Русак – намеснік старшыні КДБ БССР.
[2] Аляксандр Трыфанавіч Кузьмін – сакратар ЦК КПБ па ідэалогіі.

**За бортом**

Сторожевик
расколот
торпедой...
А потом –
до бреда жгучий холод,
полсуток за бортом.
Потом от всех контузий
не отогреет спирт.
По койкам покантуйся –
душа как будто спит.
И чует жизнь вполуха,
как шум из-за стены...
Базар же,
что сивуха
неслыханной цены.
Здесь голь и голодуха
на донышке войны.
А он к нему прилип
ракушкою морскою...
Гармошки рваный всхлип,
торгующий тоскою:
«Эй, братики-солдатики
гвардейского полка,
в шалманчик айдате-ка,
дерябнем пивка!»
«Говорит, солдаты?
Были когда-то!
А теперь мы гвардия
без рук и без ног.
Были человеки,
сделались калеки...
Калеки мы,
калеки...
И-эх, японский бог!»
Кто тут не спасовал бы?
Базел же –
зыбче палубы.
А жизнь,
как шторм шальной...
И лапой ледяной
вцепился холод в холку,
втащил на барахолку,
где кормится матрос
продажей папирос.
Сам в гильзы набивает
он табачок дрянной,
а после –
напевает:
«Закурим по одной...»
Кончать бы перекур,
начать бы все сначала,
да нет на берегу
ни базы,
ни причала.
Ни притула, ни опоры,
ни по силам – ремесла.
А для мыльной для конторы...
грамота мала.
Есть только холод, холод,
метель и гололед...

Тем хуже, если голод –
чем душу отогреть?
Угарная ночевка
не согревает кровь,
базарная дешевка,
поддельная любовь.
«Талоны на кальсоны
выдает собес».
А в жизни полусонной
какой-то мучит бес.
Не стих огонь настильный
еще воюет полк.
В него войною вбита,
торчит, как в горле кость,
бризантная обида,
осколочная злость.
За ломаных, измятых
железом в тыщи тон
порою виноватых
под буком ищет он...
И – пряжку на кулак,
И – в ряжку,
              в ряжку,
                        в ряжку
врезал со зла моряк
и раздирал тельняшку.
И струйки слез и юшки
текли по полосушке,
и – об пол,
              лбом,
                    башкой,
всей болью,
              всей тоской.
И враз
         обмяк,
                 погас,
и, точно кем подучен,
как будто напоказ
колотится в падучей.
А море –
         не шалман,
там пена не пивная,
там ледяной туман
и крошка ледяная.
И где он,
          где он,
                  кто-то,
надежный,
              как отец,
чтоб заорал с вельбита:
«Сынок,
         держи конец!»...
Обвал
        крутой
                войны...
Глухое
        дно
            войны...

*1945–1976*

*Стар. 61–76*

«Извлечения из хроники филологического факультета за 1946-1950 гг. Поэма», (напісана: 1956-1983)

Пачатак: стар. 61 (адкрэслена, з вялікім "?")

У петропавловской стены – собачья выставка.
Там трогательно, толкотно и визготно.
Всё радуется жизни, пасть раззявив.
Восторг в глазах у псов
и их хозяев.
Характерность в многообразье морд:
тот явный сукин сын,
а этот – гордый лорд,
вот Санчо, а вот тот – идальго,
один безвестный,
на другом медалька,
тот белоснеежен,
тот, как ночка, черен,
один мятежен,
а другой покорен,
тот исключенный, а этот – в завитках...
И все – на поводках...

*Стар. 74* (адкрэслена да «...удавил»):

...На днях мне как-то
встретился Давилло.
Он до сих пор
насвистан и надут, –
теперь он давит
целый институт,
что, собственно, меня не удивило.
вот Голословский
отдал душу богу,
и тот ее немедля удавил.
А жаждалось
пробить себе дорогу
в бессмертие
при помощи давил.
О нем ни гласа нет, ни воздыханья,
повапленный
давно распался гроб,
и сам Давилло,
вспомнив о декане,
употребил
научный термин:
Жлоб!

Марына сказала, што, вы бачыце, я не катэгарычна вам усё гэта кажу, каб вам дырэктар не ўзяў гэта за тэму чарговай нашай сустрэчы, як таго "Вову-бабніка".

Сёння ж пазваніў М.А. Зяньковіч, заг. сектара друку ЦК КПБ:

2. "На які год вы (значыць, мы – *М.Д.*) плануеце выданне рамана "Петраград – Масква" І. Шамякіна? Я сказаў, што раман "Петраград – Брэст" на рускай мове мяркуем выдаць недзе ў 1986 – 1987 гг. М. Зяньковіч: "Ні ў якім разе раней. Я і хацеў сказаць вам, каб толькі ў такі тэрмін". Я не стаў удакладняць, чаму, але палічыў, што лепш не трэба пытаць: усё роўна дазнаюся.

2. "Якое вы (мы – *М.Д.*) маеце дачыненне да новай аповесці Шамякіна, што была надрукавана ў "Маладосці"? Ці не з вашага якога-небудзь яна зборніка? Я адказаў, што не маем дачынення да яе, а сам падумаў, што нечым ужо нават Шамякін не дагадзіў.

Канстанцін Тышкевіч



...сёння Вілейка яшчэ не належыць да разраду пышных ці квітнеючых мястэчкаў...

# Вілія і яе берагі

## *ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах*

*Працяг. Пачатак у №1 (86).*

*Друкуецца ў скароце паводле манаграфіі «Wilja i jej brzegi». Дрэздэн, 1871.*

*Пераклад з польскай Уладзіміра ВАСІЛЕВІЧА.*

### V

Амаль на пару вёрст ніжэй ад месца колішняй прыстані ў Кастыках з правага берага ў Вілію ўпадае рака Сэрвач. Тут заканчваецца невядомая публіцы частка Віліі, апісаннем якой, можа, і занадта падрабязным, я заняў увагу маіх чытачоў. Але перапрашаю іх за гэта. Мне здавалася, што маім абавязкам як гістарыёграфа гэтай ракі было пазнаёміць наша грамадства з усімі дробязямі, што знаходзяцца ў гэтай, зусім яму невядомай яе частцы. Таму я падаваў усе дробныя дэталі больш пашырана і працягла, чым над той Віліяй, якая плыве далей. Мы знаходзімся за 72 вярсты ад месца, дзе Вульянна, плачучы па каханку, са слёз сваіх утварыла гэтую раку. Тут на сёння заканчваецца і карта невядомай, вымеранай мною плыні Віліі, якую зрабіў мой спадарожнік п. Ежы Шантыр з уласцівай яму дакладнасцю і завершанасцю[1]. Цешу сябе надзеяй, што, дзякуючы дэталёваму

[1] Арыгінал гэтай карты, выкананай у вялікім фармаце, я перадаў у бібліятэку Віленскага Музея.

выкананню гэтай карты, я зрабіў невялікую паслугу айчыннай навуцы. Дасць Бог, у будучым спадзяюся і далей яе перамераць і выправіць недахопы той даўняй, створанай у 1808 г., намаляванай карты.

Пасля зліцця Сэрвачы з Віліяй наша рака становіцца больш велічнай. Адсюль яна пачынае плысці ў значна шырэйшым рэчышчы, бо ў гэтым месцы яна ўжо мае 18 сажняў шырыні і амаль паўтара аршына глыбіні. Берагі яе набываюць аблічча вялікай ракі, пачынаюць выглядаць урачыста; іх чароўнасць дакладна адлюстроўвае тутэйшы характар – такое яно наша, такое яно мясцовае, што кожнаму можа нагадаць яго ўласны родны кут. Праплываючы тут, Вілія ўвесь час нібыта ўтварае мяжу паміж дзвюма адасобленымі мясцовасцямі. Налева, на нізкім, амаль роўным з паверхняй вады нідзе не заселеным беразе ўвесь час назіраеш прыгожыя зялёныя лугі, пазарасталыя спрадвечнымі старымі і велічнымі, як старая і велічная сама Літва, дубамі. Па-над імі безупынна шыбуюць у паветры кáні і ястрабы нязвычнага, як мне падалося, памеру – большыя за звычайных; і не дзіва – бо ні ад каго яны тут не маюць пагрозы ў сваім вольным жыцці. Пасярод гэтай прыгожай прыроды, народжаныя і ўзгадаваныя на вершалінах статных дубоў, яны выраслі свабоднымі птахамі. Дасягнуўшы арлінае сілы, яны шыбавалі па паветры смела і бяспечна. Правы бераг – пясчаны, і значна ўздымаецца над паверхняю ракі, а паколькі ён сухі і прыдатны для земляробства, то яго з даўных часоў засялялі больш ахвотна, і сёння людзей, што жывуць на ім, значна болей. Плывучы, часта бачыш здалёк ад берага на зялёным фоне аддаленых лясоў то нейкія шматлікія вёскі, то паасобныя сялянскія стрэхі ў акружэнні засеяных збожжам палёў, то табе на вока трапіцца нейкая невялікая дарожка, што выбягае пасярод зялёных палёў, невядома куды і навошта пракладзеная, якая, дайшоўшы да берага ракі, раптам гіне, нібыта патанула ў Віліі. Ва ўсім свеце, каб пераправіцца праз раку, людзям патрэбен мост ці перавозчык. Толькі ў нас адных чакаюць лета, калі вялікая веснавая вада ўжо сплыве, разлічваючы на мелкасць рэчышча, і тутэйшыя жыхары, змагаючыся з вадою, спрабуюць перайсці яе ўброд. Не адзін у рэчцы выкупаўся, не адзін утапіў каня ці папсаваў воз на пераездзе, аднак ніхто не падумаў, каб зрабіць прыстойную пераправу. Гэтак у нас праўнукі, да цяперашняга дня слепа ходзячы па слядах праайцоў сваіх, у нейкай меры свята захоўваюць стары звычай хатняга беспарадку. На заканчэнні гэтай дарогі, на ўзгорку пры беразе, пад крывым дахам, абапертым на чатыры слупкі, на такой жа крывой драўлянай падстаўцы стаіць выразаны з дрэва нібыта бог-апякун, нейкі святы пачварнага выгляду, пастаўлены, напэўна, у складчыну жыхарамі гэтага наваколля па прычыне іх набожнай схільнасці. Прастадушная Літва ніколі не славілася разьбярствам; наогул мастацтва не знайшло ў гэтым краі нейкага цэнтру, ці вытанчаных майстроў, якія б, прайшоўшы школу, ці нярэдка па натхненню, дадзенаму ў іншых краінах людзям цудоўнай прыродаю альбо цёплым небам, па-майстэрску, з пачуццём, умелі валодаць долатам ці пэндзлем. У нас жа, калі чалавек уздумае, што ён можа быць адмысловым скульптарам ці мастаком, то смела і нахабна выпраўляецца ў гэтую прафесію; пагарджаючы мастацтвам, ён калечыць усе яго законы і заўсёды ва ўхвалу Богу ў сваім набожным настроі імправізуе нейкія жахлівыя рэчы, якімі бязлітасна забяспечвае маленькія касцёлы і цэркаўкі, запаўняе імі раздарожжы на гасцінцах.

Прыгадваю, як некалькі дзесяцігоддзяў назад, у адной з маіх навуковых вандровак, якія я здаўна прызвычаіўся праводзіць штогод па родным краі, я праязджаў праз Мір – гарадок, які некалі належаў Іллінічам, а потым Радзівілам, дзе захаваліся велічныя руіны вялікага княжацкага замка, пабудаванага ў XVI стагоддзі Мікалаем Кшыштафам Сіроткам з Радзівілаў. Гэта найпрыгажэйшая з руін, якая існуе сёння на Літве і якую Сыракомля апісаў у сваіх вандроўках па родных ваколіцах. Па іх жа заўсёды шмат разоў даводзілася праязджаць праз

Мір і мне. Я любіў з дзіўным замілаваннем праходжвацца, думаць, марыць і ва ўспамінах адкрываць усё наша багатае мінулае. Замак і Фарны касцёл – гэтыя помнікі аднаго заснавальніка – з'яўляюцца цікавейшымі старажытнасцямі гэтага гарадка. У такіх мястэчках мясцовы пробашч як найбольш дасведчаны жыхар звычайна бывае самым лепшым *cycerone* і праваднікам для зацікаўленага падарожніка. Пасля пробашча – касцельныя службоўцы (вартаўнік, арганіст, нарэшце, касцельны дзед) – звычайна ўтвараюць другую праслойку мясцовай вучонасці. Калі пад гэты час я не знайшоў дома пробашча, то маім праваднікам стаў стары касцельны дзед, які званіў у гэты момант на вечаровую малітву.

– Ці не маеце, дзядульку, паказаць мне што-небудзь цікавае ў Міры? – спытаў я ў званара.

– А што ж тут, пане, цікавага? Касцёл, замак усе паны аглядаюць, а болей нічога няма, – спакойна адказаў мне, скончыўшы сваю работу, званар.

– Ці не жыве тут які-небудзь добры майстар сваёй справы, можа, знакаміты столяр, токар, мастак ці штосьці падобнае?

– А ёсць, пане, пан Самсановіч – вельмі добры разьбяр, ён вырэзвае фігуры святых, яго далёка ведаюць розныя паны, ён мае вялікія заказы.

– Правядзі ж мяне, дзядульку, да яго, – папрасіў я, узрадаваўшыся, што пабачу ў Міры нешта большае, чым старыя, ужо добра мне вядомыя руіны. І мы пайшлі з касцельным дзедам вуліцаю, што вяла да замка, увесь час размаўляючы між сабою пра мастака, з якім я павінен быў праз хвіліну пазнаёміцца. З вуліцы мы ступілі на грэблю, з грэблі дзед павярнуў направа, я – за ім. Ён павёў мяне праз нейкі мокры луг па-над рэчкаю, затым мы прайшлі між парканамі, між агародамі мірскіх мяшчан. Ідучы паўз іх, мы неўзабаве спыніліся ля замкнутай брамы.

– Тут жыве пан Самсановіч, – кажа стары.

Настолькі гэтая экскурсія дагэтуль засталася жывою ў маёй памяці, што і сёння б, здаецца, хоць з таго часу сплыло ўжо шмат гадоў, я трапіў бы ў майстэрню разьбяра без праваднiка, ідучы па тых крутых сцежках між парканамі. Мы адчынілі браму і ўвайшлі са званаром у малы, досыць чысты дворык. Ён быў запоўнены калодамі разнастайнага дрэва, рознай таўшчыні і даўжыні, што ляжалі і стаялі паўсюль. Такі багаты запас матэрыялу адразу ж выдатна характарызаваў мастака ў вачах прышэльца, бо сведчыў пра яго вялікую занятасць выкананнем шматлікіх заказаў з наваколля. Ад брамы налева стаяла малая, убогая сялянская халупа, а перад ёю на тоўстай драўлянай калодзе сядзеў верхам чалавек гадоў пяцідзесяці. Доўгія рыжавата-светлыя, моцна курчавыя валасы, беспарадкава адкінутыя назад, спадалі яму на плечы; твар ён меў бледны, нос доўгі і акруглы, вочы бясколерныя, невыразныя. Выглядаў ён так, нібыта быў змучаны і зношаны з-за нейкай унутранай барацьбы, уласцівай мастаку, якім ён і быў у сваіх думках і душы.

Б'ючы з усяе сілы драўляным малатком па цяслярскаму долату, ён выдзёўбаваў глыбокую папярочную дзірку ў калодзе, на якой сядзеў сам. Малы сабачка пранізліва забрахаў на нас, і мастак павярнуў свой твар у наш бок.

– Што пан робіць? – запытаўся я ў мастака.

– Рот, – спакойна адказаў мне ён.

І гэта на самой справе быў рот, з якога толькі мастак мог распачаць свой твор, дадаючы да яго далейшыя дэталі твару і постаці, якія ён ствараў паводле вобліку і падабенства нейкіх страшных балваноў. У нашым прастадушным краі, дзе гэтак мала сапраўдных ведаў, а ўсё прымаецца на шчырую веру, нават і такі разьбяр, які пачынае сваю справу ад рота, у стане напоўніць нечым свой уласны рот, апрануцца ў нешта прыстойнае і выгодна ўтрымліваць усю сваю сям'ю.

– Урадавая вёска Сутокі! – голасна закрычаў стырнавы, калі судна праплывала паўз доўгую вёску, пабудаваную на правым беразе Віліі.

Я заўважыў, што надвіленскія жыхары вымушаны тут займацца рыбалоўствам,

бо, праплываючы ў той дзень па рацэ, мы неаднаразова маглі бачыць расстаўленыя на шчупака пасткі, на якіх плотка, як нявінная ахвяра людской хітрасці, прываблiваючы пражэрлівага шчупака, у пакутах круцілася з апошніх сіл на жалезным кручку. Работнікі майго судна, убачылі ў рацэ доўгага шчупака ў стане не ўласцівага гэтай рыбе здранцвення. Яго ўзялі на восці і пераканаліся, што гэты даволі вялікі шчупак, падмануты фартэлем рыбака, праглынуў пакінуты кручок і, змучаны ад унутраных пакут, проста шукаў месца, дзе можна было б спакойна сканаць, не прадбачыўшы, што такім месцам для яго магла стаць малая лодка падарожніка, які плыў па Віліі. На заходзе сонца ў гэты дзень мы спыніліся ў Сосенцы.

Сосенка – гэта вельмі малое мястэчка на правым беразе Віліі, якое знаходзіцца ва ўласнасці пана Браніслава Багдановіча. Хоць і не надта значнае гэтае паселішча, статыстыка якога, а яшчэ менш гісторыя, была б лішняй рэччу і не ўяўляла б нават мінімальнага інтарэсу пры апісанні ракі Віліі, аднак у рачным гандлі яно займае не апошняе месца, паколькі сёння ў вярхоўі Віліі гэта першая прыстань, адкуль з навакольных прыбярэжных лясоў выходзіць на Мемель значная частка апрацаванага дрэва, якое звозіцца сюды на працягу зімы. Адсюль высылаюць увесну і каробкі, нагружаныя пянькою. У час, калі я тут знаходжуся, на рацэ адбываецца вялізны рух. Купец Рытэнберг спускае на ваду вялізную масу “калодак”, зробленых у лясах ад Багдановічаў. Яўрэі грузяць пяньку на яловыя платы, і ўсё гэта зрушвае з месца і спяшаецца ў Каралевец ці ў Мемель, каб быць прададзеным па яшчэ добрых коштах.

Ад Сосенкі і амаль да горада Вілейкі Вілія набывае характар гандлёвай ракі. Я амаль цэлы дзень плыў пасярод масткоў, плытоў і каробак, звязаных з тavailable таварнага дрэва. Сустракаюцца прыстані: Пахомава па левым беразе Віліі, дзе пасля Дзвіносы, як было паведамлена вышэй, цэлыя бярвенні, злучаныя малымі масткамі, тут перавязваюць у плыты; Слабада, Малмыгі, перапоўненыя таварным дрэвам; склады ж на тых прыстанях запоўненыя пянькою, якая грузіцца на каробкі. На гэтай частцы нашай ракі найбольшай прыстанню з’яўляецца Слабада. Даплываючы да яе на апошнім павароце ракі, якая тут вельмі мелкая, перад упадзеннем у яе ракі Вязынкі, называнай сярод мясцовых Вязуцяй, мы з цяжкасцю перапраўляемся праз пясчаны засып, дзе рака Вілія мае глыбіню ўсяго некалькі цаляў. Вязынка ўпадае ў Вілію з левага яе боку. Гэтая рэчка, падобна, як і Дзвіноса (хоць яна, без параўнання, меншая адносна той, што выплывае з лясных ваколіц), таксама дастаўляе вясною гандлёвы тавар на раку Вілію. Дрэва з сянькоўскіх лясоў – Хмары, з градзецкіх – Тышкевіча, са смалявіцкіх лясоў – кс. Вітгенштэйна, са старасельскай пушчы – Валадковіча і іншых меншых навакольных лясоў –перапраўляецца праз рэчку Удранку, якая плыве ад Радашковічаў і па берагах якой за зіму складваецца тавар, што дастаўляецца потым у Ляўковічы, на рэчку Вязынку, па якой, нарэшце, выходзіць на Вілію. Колькасць дрэва, якое штогод выходзіць з гэтай рэчкі, у сярэднім раўняецца 100 копам, што складае капітал больш-менш ад 30 да 40 тысяч рублёў серабром. На рэках Іліі, што таксама ўпадае ў Вязынку, і на самой Вязынцы знаходзяцца самастойныя, але ўжо менш значныя румы, каторых я тут не згадваю.

Вілія на працягу ўсяго свайго цячэння, ад Каменя і да гэтага месца, заўсёды захоўвае аднастайны тапаграфічны характар: паўсюль яе пра́вы бераг пясчаны, узняты, заселены вёскамі. На гэтай прыстані тры рэчкі, што цякуць паасобку – Зебінка, Рабунь і Касута, павялічваюць яе воды. Левы бераг – нізкі: пачынаючы ад Каменя да Пахомава, на адлегласці як мінімум 40 вёрст, я бачыў толькі адну сціплую, але шыкоўна размешчаную пасярод дубровы сядзібу, якая завецца Старынкі, пабудаваную на зямлі жыхара Тукалы. Ад Пахомава – зноў такія самыя віды. Зямныя пласты на левым беразе Віліі складаюцца досыць часта з цвёрдай, густой жалезнай руды. На дне ж, амаль усюды праглядаемым, нярэдка

відаць пачарнелыя за доўгі час вялікія дубовыя калоды, якія перагароджваюць раку ўздоўж і ўпоперак, неаднойчы пагражаючы пашкоджаннямі розным суднам, што праходзяць у гэтых месцах.

З асяродку названых гандлёвых прыстаняў, людных і гаманкіх, выходзім на значную прастору самотнай Віліі, якая плыве паміж незаселеных берагоў. Над яе надбярэжнай плоскасцю, дзесьці ўдалечыні на пагорку, што ўзвышаецца над вакольнай роўняддзю, адразу ўдаецца разгледзець белую кропку і, нягледзячы на шматлікія павароты ракі, якія трэба праплываць у розных накірунках, яна ніколі адтуль не знікае з вачэй. І чым бліжэй мы падплываем, тым выразней бачым, што тая белая кропка – нядаўна пабудаваная ў Вілейцы турма (астрог), адзіны мураваны будынак у горадзе. Далей ад гэтага пагорка, налева ў бок Віліі доўгім надбярэжным шнурам пачынае шарэць убогае драўлянае паселішча з чорнымі стрэхамі. Гэта павятовы горад Вілейка. Сонца яшчэ стаяла высока, калі маё судна кінула якар каля горада. Тут я ўпершыню напаткаў сляды ўрадавай зацікаўленасці маім падарожжам. Сярод распараджэнняў губернатара, які шчыра апекваўся распачатай мною справаю, з Вільні былі атрыманы загады ўсім паліцэйскім ураднікам, што прадстаўлялі ўладу над берагам гэтай ракі, каб пры ўсіх маіх з'яўленнях ўсе мае цяжкасці былі вырашаны і каб улады на розныя мае запатрабаванні аказвалі сваю дапамогу. Я плыў праз Віленскую губерню ў поўнай бяспецы, бо адчуваў над сабою ўрадавых анёлаў-ахоўнікаў. У Вілейцы я не толькі знайшоў прыхільны настрой паліцэйскіх уладаў, але мне на беразе быў наладжаны ўрачысты прыём у выглядзе прыемнага спаткання, і ў горадзе я знайшоў ужо падрыхтаваную, зручную для мяне кватэру. Акрамя гэтай пачцівасці, так неспадзявана і так незаслужана мне аказанай, не хапала мне, аднак, сапраўднага апекуна, які адкрыў бы перада мною шляхі да навуковых росшукаў пра гэты горад, бо не было пад той час у Вілейцы галоўнага гаспадара, маршалка п. Мячыслава Тукалы, які б, адукаваны і старанны член нашага навуковага таварыства, з поўным спачуваннем да маёй працы аказаў бы мне, свайму калегу, неацэнную дапамогу. Усім дробязям, якія мне ўдалося сабраць у гэтым горадзе, я абавязаны тамашняму ўрадніку дваранскага апякунства п. Браніславу Адынцу.

Вілейка з часоў увядзення пасады старасты ўжо іменавалася мястэчкам. Гэтае мястэчка складалася ў тую пару з аднае толькі вуліцы, што вяла з маладзечанскага тракту на куранецкі, працятай пасярродку маленькай рэчкай Пляснянкай, якая ў гэтым месцы ўпадала ў Вілію. Усё мястэчка першапачаткова складалася ўсяго з 20 хат і перададзена было Пацу разам з вілейскім стараствам, да якога належалі вёскі: Вілейка, Асіпавічы, Ілішчавічы, Каловічы, Більцавічы, Жаўткі, Цынцавічы, Халопкі і іншыя, размешчаныя на левым беразе Віліі ад межаў маёнткаў Вязыня, сёння памешчыка Гецэвіча, і Любаня – Любанскага, а таксама з карэйкаўскім войтаўствам, разам з вёскамі, якія яму належалі. Пасля таго, як гэтыя правінцыі былі занятыя Расіяй, імператрыцай Кацярынай II у 1792 г. яе вялікай ласкаю вілейскае староства аддадзена было на пэўную колькасць гадоў мінскаму генерал-губернатару Карнееву, які (што відаць з перадачы дзякуючы пратэкцыі намесніка тутэйшага краю Тутульміна) выстараўся ва ўрада, каб гэтае мястэчка, з уключэннем у яго суседняй вёскі, якая называецца Вілейка і належыць да вілейскага староства, у 1795 г. 3 мая атрымала прывілей павятовага горада, куды павет быў перанесены з Пастаў.

Сёння Вілейка яшчэ не належыць да разраду пышных ці квітнеючых мястэчкаў; яна налічвае 333 дамы, 9 небрукаваных вуліц, якія не носяць ніякіх назваў.

Два рынкі.

Дзве царквы. Першая з іх была ўніяцкая, а сёння праваслаўная. Кім яна была заснаваная, дастатковых звестак няма. Другая была пабудаваная згодна распараджэнню ўрада паводле праекта, прызначанага для павятовых цэркваў.

Каталіцкага касцёла ніколі ў Вілейцы не было; аднак пры стараставым двары месцілася капліца, пры якой звычайна ўтрымліваўся капелан. Пазней набажэнствы ў ёй праводзілі ўніяцкія ксяндзы. Калі ў 1810 г. гэтая капліца згарэла, то жыхары каталіцкага веравызнання горада Вілейкі, дагэтуль застаючыся без касцёла, вымушаны ездзіць са сваімі набожнымі намерамі ў Куранец, ці здавальняцца малітвай, прамаўлянай дома.

Павятовы горад Вілейка, згодна з апошняй рэвізіяй, налічвае жыхароў 2719 галоў, з іх:

| | |
|---|---|
| Мяшчан, хрысціян, грэчаскага веравызнання . . . . . . . . | 2307 |
| Шляхты таго ж веравызнання . . . . . . . . . . . . . . . . . | 21 |
| Шляхты каталіцкага веравызнання . . . . . . . . . . . . . | 100 |
| Яўрэяў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . | 291 |
| Усяго | 2719 |

Горад не мае ніякага дробнага гандлю, ні штогадовых кірмашоў, хоць у 1839 г. яны былі прызначаны міністрам унутраных спраў на 15 жніўня і 6 снежня і павінны былі працягвацца па 2 тыдні. Аднак такое распачынанне не пайшло натуральным шляхам, і кірмашы гэтыя, зацверджаныя ўрадам, наогул не існуюць. Звычайны гандаль спажывецкімі прадуктамі адбываецца раз на тыдзень; аднак на рынку назіраецца малы грашовы рух; распрадажа вельмі сціплая, як звычайна гэта бывае сярод нешматлікай масы спажыўцоў. Штогадовы абарот капіталу на рынках у Вілейцы прыблізна налічвае да 6 тысяч рублёў серабром.

Мяснікі ў гэтым горадзе таксама не маюць вялікіх выгод; паводле падлікаў, яны штогод забіваюць ад 150 да 200 валоў.

Тыя, што трымаюць корчмы, рэалізуюць за год усяго ад 1000 да 1500 вёдраў гарэлкі – прапорцыю даволі сціплую ў дачыненні да павятовага горада. Рух устрымання, які ўсё больш пашыраецца, не сустракае тут, як бачым, у сваім развіцці вялікіх перашкод.

У Вілейцы дзейнічаюць цяпер дзве школы. У адной, якая была адчынена 1 красавіка 1853 г. для хрысціян розных веравызнанняў, працуюць 3 настаўнікі. Другая, адчыненая 18 лістапада 1854 г., двухкласная – для яўрэяў, яна мае двух настаўнікаў і дзейнічае пад кіраўніцтвам прэфекта. Хрысціянскія мяшчане гэтага горада, як бачым, дагэтуль не вызначаюцца зацікаўленасцю навукаю, калі і цяпер у тых навучальных установах у першай на 2 307 жыхароў прыпадае 12 вучняў; у другой, яўрэйскай, на 291 – 21 вучань. Наколькі ж колькасна адсталымі ў маральным плане аказаліся мястэчковыя хрысціяне, у параўнанні з яўрэйскім насельніцтвам, калі атрымліваецца, што ў першых 1 на 10 наведваюць школу, а ў другіх – на амаль 200 вучыцца ледзь не адзін.

Зразумела, што Вілейка не мае ніякіх, хай сабе і невялікіх, ні фабрычных, ні саматужных прадпрыемстваў, але варта тут адзначыць, што жыхары гэтага горада нават не славяцца ніводным вырабам, які б меў розгалас у акрузе, як, напрыклад, Слуцак, які праславіўся вырабам літых паясоў; у Ляхавічы і Мір ездзілі па палатно; Смаргонь, што пастаўляла абаранкі і г.д. Цікавым, акрамя іншага, было для мяне назіранне, што горад Вілейка, размешчаны на самым беразе такой значнай ракі, як Вілія, і населены даволі багатымі жыхарамі з пакалення, для якога гандаль з'яўляўся адзінай стыхіяй, тым не менш як даўней, так і сёння гандлем не славіўся. Ніколі гэты горад не выпраўляў ад сябе па Віліі суднаў з гружоным таварам. Што было таму нагодай – цяжка прасачыць, і пэўную прычыну такога няўдзелу назваць немагчыма.

Найцікавейшым, напэўна, перыядам палітычнага жыцця Вілейкі былі часы, калі яна, застаючыся ў руках старастаў, месціла сядзібу і была іх рэзідэнцыяй. Акрамя

таго мы ведаем, што ёсць гістарычныя звесткі пра пераход гэтага староства пад кіраўніцтва старастаў; што ёсць пералік шэрагу старастаў, якія змяняліся адзін за адным, з дабаўленнем згадак пра іх жыццё, у асяроддзі якіх (людзей, якія судакраналіся з кіраўніцтвам, палітыкай і здарэннямі ў краі) магла б знайсціся не адна цікавая гістарычная падрабязнасць, і гэта магло б стаць цікавым дадаткам да гэтай нашай працы. Але, на жаль! Гэта абсалютна немагчымая рэч, бо мясцовыя архівы ў Вілейцы ў выніку пажару 1810 г. былі знішчаныя дашчэнту. Вывучэнне ж і пераглядание дамавых актаў прыватных сем'яў, звязанае з тысячамі цяжкасцяў, пераўзыходзяць сілы і магчымасці аднаго чалавека. Мы ведаем толькі тое, што пры польскім урадзе Пац быў перадапошнім вілейскім старастам. Пасля яго пасада вілейскага старасты перайшла да Кажанецкага, пінскага старасты. У пазнейшы ж час, ужо пры расійскім праўленні, пасля выслугі гадоў, прызначаных Карнееву, тое ж самае староства, калі мястэчка зрабілася павятовым горадам, разам з карэйкаўскім войтаўствам было аддадзена ўрадам на пэўныя гады генералу Вуйчу, ад якога кіраўніцтва атрымаў Жалінгоўскі; пасля вытрыманых гадоў староства вярнулася ў казначэйскае ведамства і аказалася ўключаным у агульную масу зямельных уладанняў дзяржавы.

З усіх колішніх старостаў памяць захавалася ў паданнях толькі пра Паца. Старастаў двор быў пабудаваны над самым берагам Віліі – менавіта там, дзе сёння знаходзіцца дом гараднічага Лаўрова. Далей забудовы і сад старасты займалі цэлы квартал сённяшняга горада, што цягнуўся ад рынку па рацэ, запоўнены зараз часткова дамамі, якія з'яўляюцца ўласнасцю прыватных асоб. Рэшта зямлі, якая застаецца зараз часткова пад горадам (ад новай царквы да шыланецкай ці тэклінапольскай мяжы і да Парсянскага возера), належала двару, а старыя людзі яшчэ памятаюць, як на сённяшняй плошчы насупраць царквы, засявалі збожжа. Ад той прасторнай, можа нават і бліскучай, як на тыя часы, старастаўскай рэзідэнцыі не захавалася аніякага следу; як кажуць, не засталося каменя на камені. Час, каб засведчыць нам пра пышнасць старастаўскіх садоў, нейкім чынам збярог толькі тры ліпы, а рэшту знішчыў. Стаяць яны сёння пасярод агароду, які належыць дому гараднічага. Тыя самотныя, асірацелыя сведкі мінуўшчыны падаліся мне такім яскравым выразам нейкай смутнай значнасці, што я даручыў замаляваць іх на памяць у мой падарожны альбом. Перад вокнамі колішняга старастаўскага дома, пасярэдзіне Віліі, якая ў гэтым месцы мае 39 сажняў шырыні, бліжэй да правага берага знаходзіцца вялізны камень, які выходзіць на паверхню вады. Ён выклікае страх у тых, хто рухаецца на суднах па Віліі: не адзін з іх разбіўся аб яго са сваім плытом ці каробкаю; не адзін, зачапіўшыся аб яго, пашкодзіў сваю барку. Пра яго ведаюць тут усе: гэта першы небяспечны камень на рацэ, які мае сваё імя і гісторыю.

Яшчэ ў часы староства Пац, які жыў у сядзібным двары, будучы набожным чалавекам, які не цярпеў шкоды ад бліжніх, якімі былі ў той час усе памешчыкі, і, без сумнення, маючы шмат часу для іх пакарання, з адкрыццём веснавога суднаходства цэлы дзень, як пра гэта распавядаюць, сядзеў ля расчыненага вакна свайго службовага дома, з якога, убачыўшы, як падплывае з вышэйшых прыстаняў струга ці плот з дрэвам, высоўваў праз акно сваю лысую галаву і на поўны голас крычаў праплываючым, каб былі асцярожнымі і кіраваліся ў бок левага берага, бо камень, што тырчаў з-пад вады, быў для іх небяспечны. Можа, у паверхні каменя, што выглядваў з вады на Віліі, бачылі нейкае падабенства з лысай галавой Паца, які крычаў праз акно; можа, гэтая лысіна, якая бесперастанку кідалася ў вочы караблям і плытам, што праходзілі міма вокнаў, настолькі ўрэзалася ў людскую памяць, што той небяспечны камень быў названы Лысінай Паца; і дагэтуль ён носіць гэтую назву, вядомую ўсім плытагонам. Я таксама замаляваў яго сабе на памяць, і дзеля азнаямлення з ім маіх чытачоў прадстаўляю тут яго дакладны малюнак.



Рака Вілія вакол горада скрозь настолькі мелкая, што пасярод лета яе ўздоўж і ўпоперак пераязджаюць без усялякага страху.

Калі я спыніўся ў Вілейцы, то першай маёй думкаю было аказаць увагу дастойнаму пісьменніку берагоў Віліі. Я жадаў адведаць яго ў яго ўласным доме, бо ці ж можна, плывучы па Віліі, не мець увесь час у думках цудоўных яе “Малюнкаў”, ці ж можна не пала́ць найгарачэйшай прагаю скласці пашану, годную гэтага славутага пісьменніка, які так цудоўна яе апісаў. Аднак, каб наша да яго паездка за некалькі міляў не аказалася марная, я паслаў з Вілейкі ў Дзявятні даведацца, ці знаходзіцца п. Ігнат Ходзька дома; і тут мяне напаткала, магчыма, самае балючае засмучэнне на працягу гэтага падарожжа, бо я атрымаў паведамленне, што сумленны падкаморны не быў у гэты момант у сябе на месцы. Такім чынам я страціў і зручны выпадак пакланіцца яму ў яго ўласным доме, і таксама прыемную і павучальную старонку (яе не так лёгка ўдасца паўтарыць) у маёй вандроўцы па Віліі, у якой шаноўны аўтар “*Літоўскіх Малюнкаў*” збіраўся таксама ўзяць удзел, як ён сам пісаў пра гэта ў сваім лісце да мяне.

Шмат разоў на працягу майго знаходжання ў Вілейцы паўтараліся бараметрычныя назіранні, якія заўсёды давалі мне адзін і той самы вынік. Барометр, пастаўлены на беразе ракі, пры 17,50 цяпла паказваў 270 9,8’. На выездзе з Вілейкі 10 чэрвеня, пры пагружэнні рэчаў на карабель, з-за няўвагі падарожных памочнікаў быў растрэсены барометр, і шкло ў ім аказалася пабітае. Паколькі другога ў запасе я з сабою не меў і дастаць яго не мог, то на абсервацыях, зробленых у Вілейцы, скончыліся мае бараметрычныя назіранні, праведзеныя на гэтай рацэ. Крыху ніжэй я павінен прадставіць грамадству іх вынікі, праведзеныя нашым калегам у Віленскім Навуковым Таварыстве, памочнікам пры віленскай астранамічнай абсерваторыі панам Мацеем Гусевым, які разам са мною занатоўваў свае назіранні для абсерваторыі. “Адсюль (з Вільні), – піша дакладны ў сваіх вылічэннях калега Гусеў, – барометр быў перавезены па сушы да вытоку ракі. Першы этап бараметрычных назіранняў выконваўся пры больш зручных умовах, чым пазнейшы (ад Вільні да Коўна), дзе ваганне карабля часткова ўплывала на дакладныя паказанні барометра. Але застаецца толькі пашкадаваць, што ажыццяўляемыя назіранні – першыя ў вярхоўях ракі і другія ад Вільні да Коўна – не могуць быць злучаныя між сабою пры вылічэнні агульнага спаду ракі Віліі па той прычыне, што стан барометра пры перавозе яго з Вільні да вытоку зноў змяніўся, як можна ў гэтым было пераканацца з саміх назіранняў. Можна меркаваць, што альбо з бараметрычнай чарніліцы вылілася дастаткова значная колькасць жывога срэбра, ці, што яшчэ больш верагодна, што аб’ём скуранога дна (лайкі) ў чарніліцы, у выніку сатрасанняў павялічылася настолькі, што вышыня жывога срэбра ў трубцы знізілася амаль на 11/2 англійскай цалі. Гэтая непрыемная для бараметрычных назіранняў акалічнасць не перашкаджае, аднак, вылічэнню спаду Віліі: ад яе вытоку да Вілейкі, і ад Вільні да вусця пры Коўне; так што засталася невымераная частка Віліі ад Вілейкі да Вільні; яна можа быць вылічаная пазней, нягледзячы на ўжо выкананыя назіранні. Усё вымярэнне было праведзена наступным чынам: кожнае назіранне, выкананае над паверхняй Віліі (у сярэднім ад 3 да 5 вышыні барометра), параўноўвалася адначасова са станам устаноўленых на абсерваторыі тэрмометраў і барометраў; назіранні праводзіліся там доўгі час і паўтараліся 4 разы на дзень. Большага даверу заслугоўваюць вынікі, якія абапіраюцца на прынамсі два незалежныя адно ад аднаго назіранні, аддзеленыя між сабою значнай часавай адлегласцю. Разнастайная ў розных месцах вышыня барометра над паверхняю ракі была прынятая да ўвагі”.

## VI

10 чэрвеня а 6-й раніцы, як я ўжо гаварыў, мы адплылі з Вілейкі. На развітанне мы абняліся на беразе ракі з калегам Бялінскім, які суправаджаў мяне ў маім падарожжы да гэтага горада, і карабель паплыў. Хоць цячэнне ракі цягнула яго на Лысіну Паца, што выглядала з вады, разбіваючыся аб якую Вілія няспынна шумела і пенілася, тым не менш мы паспяхова абмінулі гэты гістарычны камень. Вілейка з боку ракі ад перавоза мае дакладны выгляд яшчэ старастаўскай вёскі. Яе ў гэтай частцы горада запаўняюць убогія халупы, між імі адгароджаныя вясковымі платамі агароды ўтвараюць значныя прамежкі, праз якія праглядаецца новая драўляная царква, што стаіць на самым высокім пагорку. Від гэтай вёскі, якую называюць горадам, падчас пераезду на скорую руку быў замаляваны п. Янушэвічам.



Пагода, якая выключна спрыяла мне ў маім падарожжы, ад учарашняга раптам перамянілася: неба нахмурылася, павеяў халодны вецер з поўначы, паветра зрабілася такім халодным, што мы, знаходзячыся на вадзе, вымушаны былі хавацца ў футры. Непадалёку за Вілейкаю Вілія зноў пачынае ўваходзіць у прыгожае, дужае і крыху больш глыбокае рэчышча пасярод берагоў, парослых старымі велічнымі дубамі. Другім паселішчам за горадам на правым яе беразе знаходзіцца засценак, які называецца Цішкевічы. Праплываючы каля яго надзвычай прыгожа і маляўніча, Вілія носіць у гэтым месцы назву Цішкевічавага плёсу. Гэтае раскошнае месца так закранула мяне сваёй прыгажосцю, што я загадаў спыніць мой карабель і папрасіў замаляваць Цішкевічаў плёс у мой падарожны альбом. Пасля гэтага прыгожага пераходу па Віліі, насупраць засценка Трапалава пасярод ракі, досыць высока над яе паверхняю вытыркаўся стары дубовы пень, званы плытагонамі Бурдыгаю. Гэты пень даволі страшны, сваёй небяспечнасцю вядомы з гісторыі суднаходства па Віліі, калі ён і атрымаў сабе такую назву. Злавесна падымаючы галаву над паверхняю вады, робячы шкоду на рацэ, ён раздзяляе яе плыні і цягне да сябе судны, што праплываюць паўз яго. Не адно ўрэзалася ў яго, не аднаму ён прынёс шкоду і клопату. Кожны, праплываючы паўз яго, назаве яго па імені, кожны аблае і пракляне яго, але ніхто яго не высякае. Сустракаецца яшчэ ў нас такое нядбальства да агульных інтарэсаў. Той Бурдыга, невядома чаму здавён гэтак названы, выразна і ўвачавідкі даводзіць да нас гэтую праўду, бо сярод лета, калі вада істотна ападае, на такой мелкай рацэ, як Вілія, за некалькі гадзін пры не надта вялікіх намаганнях можна было б з поспехам адолець гэтага грамадскага шкодніка.

Далей мы плылі па разнастайных паваротах Віліі павольна, нудна, бо стрэчны вецер не дазваляў нам спраўна рухацца, і ўвесь час перашкаджаў холад. Нягледзячы на тое, што весляры, з усёй сілы грабучы вёсламі, насуперак вятрам намагаліся рухаць судна наперад, яно пасоўвалася нязначна, паволі. Толькі а 4-й увечары спыніліся мы ля падножжа велічнага дуба, які стаяў на пагорку, па-над берагам ракі, каля вёскі Швяды.



Ужо сама гэтая дзіўная назва вёскі абуджае гістарычную цікавасць. Шведы ў сваіх нашэсцях на Польшчу так даліся нам у знакі, што ўсё, што носіць на сабе нават самыя нязначныя прыкметы, як, напрыклад, курганы і розныя рвы, з якога б часу яны ні былі, у простага люду звычайна безадносна называюцца шведскімі. Як жа не затрымацца і не звярнуць сваіх пошукаў на вёску, якая носіць такую назву? Як не агледзець, не даследаваць і не замаляваць гэтыя прыгожыя акопы шведскага лагера, заваяваныя гетманам Агінскім, ад якіх, як напісана нібыта на згадку пра гэтую перамогу, закладзена была вёска, называная Швядáмі? Як мага хутчэй, з ланцугом, са столікам, з неабходнымі для вымярэння прыладамі я паспяшаў у вёску. Непадалёку ад ракі, на правым яе беразе, на прыродным узвышшы ляжыць гэтая маленькая, акружаная лесам вёска, якая знаходзіцца ва ўласнасці памешчыка Любанскага. Я абабег вакол яе, з цікавасцю шукаючы тыя шведскія акопы, аднак, калі ж нідзе мне не давялося ўгледзець іх слядоў, я пачаў распытваць пра іх у жыхароў гэтай вёскі. Ніхто мне на маё пытанне адказаць не мог. Калі я ўсё больш настойліва пытаўся пра мясцовыя паданні, пра нашэсце шведаў, пра паходжанне назвы гэтай вёскі, пра сляды акопаў і г.д., апытаныя мною сяляне, не ў стане адказаць на мае шматлікія роспыты, прывялі мне найстарэйшага сярод іх чалавека, які, паводле іх слоў, адзін з усіх мог бы памятаць даўнюю гісторыю і ўсё мне патлумачыць. Гэта быў 80-гадовы дзядок, пачцівага выгляду, меў разважлівы выраз твару – такімі часта бываюць нашы сяляне. Абапіраючыся на кій, ён паволі разглядаў мяне і калі зразумеў маё пытанне і ўясніў, чаго я тут шукаю, распачаў мне салідна і прадумана расказваць пра тое, што сам памятаў: як гадоў шэсцьдзясят таму на гэтым месцы расла вялікая пушча, і нават паказваў пальцам на месцы ў вёсцы, у якіх за яго памяццю былі яшчэ борці; як потым стараста Коцел з Беніцы на высечанай палянцы пасярод лесу, там, дзе сёння знаходзіцца апошняя ад месца нашага прыбыцця сядзіба, пасяліў быў прывезенага з Баранцаў з-пад Вілейкі селяніна па прозвішчу Швед; а калі той асеў і парабіў тут вялікія пасекі, то пачалі сяліцца на іх і іншыя сяляне, і вёска гэтая з-за першага яе заснавальніка, селяніна Шведа – пачала называцца Швядáмі, і дагэтуль так завецца.

Якое ж было горкае расчараванне, калі ад такіх празаічных вывадаў адносна назвы гэтай вёскі, паведамленых мне старым селянінам, развеяліся мае гістарычная спадзяванні, разбілася цудоўная надзея адшукаць сляды мінуўшчыны, бо, прызнаюся, што на працягласці гэтае ракі, якою праплываю – такой манатоннай, такой беднай на ўспаміны, на здабытыя на ёй самыя драбнюткія паданні, гэта б стала шчаслівым набыткам; а якім вялікім навуковым багаццем зрабілася б для мяне адшуканне слядоў барацьбы нашага гетмана і атрыманай ім перамогі над шведамі. Стары, стоячы перада мною і баючыся, каб самому не памыліцца і каб мне пра мінуўшчыну гэтага месца не расказаць памылкова, правёў мяне за вёску і над берагам Віліі паказаў два курганы як памяць пра шведаў. Былі яны сярэдняй велічыні. Адзін з іх, падмыты вадою Віліі, амаль да паловы асунуўся ў яе; другі быў цэлы, але ў сярэдзіне правалены. Я адразу ж пачаў іх раскопваць, і ў абодвух знайшоў па кучцы попелу, што застаўся ад спаленых касцей – абодва, несумненна, былі магіламі з трупаспаленнем.

Калі ўжо мы сваім абозам расклаліся тут на некалькі гадзін, калі завязаліся з вясковым людам размовы пра іх мінуўшчыну і пра мясцовыя паданні, я вырашыў тут жа сабраць і мясцовыя спевы з-над берагоў Віліі ў Вілейскім павеце. Тым больш мне выпадала гэта зрабіць, бо неўзабаве заканчваліся межы Вілейскага павета, а з імі, магчыма, – і адценні народнай звычаёвасці. Вясковыя жанчыны – усюды цікавыя стварэнні, і тут сабраліся яны гуртам, з малымі дзецьмі, што туліліся да іх, і з-за парканаў слухалі маю размову з грамадою. Гэта былі групы сапраўдных бедуінаў: як і тыя – чорныя, апаленыя сонцам, босыя, абадраныя;

як і тыя – з ускудлачанымі валасамі; яны былі апранутыя ў нейкія чорныя, з грубага палатна балахоны, падобныя на доўгія кашулі, накінутыя праз галаву, на плячах па верху завершаныя вострым клінам, накшталт капюшона, які здалёк меў падабенства з арабскім бурносам. Такое незвычайнае ўбранне нашых сялян кінулася мне ў вочы сваёй арыгінальнасцю.



Да іх я і звярнуўся са сваёю просьбаю. Цяжка напачатку ішла гэтая справа: нейкая боязь, нейкі нічым невытлумачальны сорам (хіба толькі цемраю тутэйшага люду) перашкаджалі развязванню вуснаў вясковых жанчын. Доўга мае просьбы, мае ўгаворы не давалі выніку. Калі ж потым пайшлі грашовыя ахвяраванні, спірытусовыя пачастункі – смачныя, салодкія, з запасаў маіх спадарожнікаў, тады мы лепей зблізіліся і пазнаёміліся. Паступова пачала мягчэць упартая воля гэтай слабой плоці. Калі найбольш паважныя гаспадары з грамады, таксама захопленыя мною моцным напоем, пачалі ўгаворваць і ўпаўнаважваць да гэтай справы вясковых жонак – дзве жанчыны, нарэшце, згадзіліся прадыктаваць мне мясцовыя песні, але няйначай, як пры ўмове, каб я пайшоў да іх у хату і каб гэта адбылося прыватна, без сведкаў, бо пры ўсіх яны нізавошта не хацелі гэтага рабіць. Я ўсім сэрцам прыняў прад'яўленыя мне ўмовы, і вось мы ўжо, размясціўшыся ў курнай хаце на лавах паміж кроснамі, ля маленькага вакенца, праз якое святло слаба пранікала ў хату, запісваем песні, якія, стоячы перад намі, дыктуюць нам дзве крыху развяселеныя жанчыны. Пад іх дыктоўку мы спісалі там адзінаццаць песень – вясельных, жніўных, спяваных на Купалле, на Каляды, альбо такіх, што прызначаліся суднам, якія плылі па рацэ.

Дзіўна, што наша цудоўная Вілія сваёй чароўнасцю не натхніла ніводнага сельскага паэта: уздоўж усёй гэтай ракі – ад яе вытоку і аж да вусця – я ўсё даследаваў як мага старанней, ці не стрэнецца дзе-небудзь песня, спяваная непасрэдна ў гонар Віліі. Калі Дунай у паэзіі маларасійскага народа мае такую іх колькасць, чуллівых і кранальных у сваёй прыгажосці; калі іншыя рэкі маюць у свой гонар асобна выконваемыя песні, то Вілія не мае ніякай выключнай, спецыяльна складзенай пра яе. Там і сям над яе берагам я напаткаў песні, спяваныя ў гонар ракі ці рэчкі, якія можна было б адрасаваць агулам да любой ракі – але нічога абсалютна выключнага для нашай. І калі б не той вядомы спеў Прарока, з якога мы пачалі гэтае апісанне, наша Вілія не мела б ніводнай песні, прысвечанай у яе гонар.

Пасля запісвання вясковых песень мы рушылі ў далейшую дарогу. Увесь час стаяў холад. Сонца, што час ад часу праглядала з-за хмар, нібыта спрабавала свае сілы ў змаганні з халодным ветрам і непагаддзю. На захадзе сонца мы апынуліся пад цёмнай хмарай. Часты дождж пачаў спадаць буйнымі кроплямі, а ўслед за ім, падагнаны віхураю, наляцеў град велічынёю з гарошыны, якога шмат насыпалася на маё судна. Трэба было прыстаць да берага і там правесці ўсю ноч, каб пры раскладзеным вогнішчы сагрэцца і абсохнуць ад лёду і вады, якімі было напоўнена судна.

На досвітку мы ўжо былі гатовыя да падарожжа. Дакучлівы холад і стрэчны вецер ні на хвіліну не спыняліся. Пры гэтым Вілія ў гэтай частцы не ўяўляла ніякага інтарэсу, а так неяк бясплодна, так сумна плывучы пасярод голых пясчаных берагоў, схіляла да маркотных думак, і мне, які плыў у гэты дзень, зрабілася на сэрцы вельмі тужліва па хатнім закутку. Думка мая, не занятая прадметам вывучэння, адбегла была далёка-далёка да сваіх родных, якія па мне сумавалі

з узаемнасцю. На гэтай адлегласці занатавалі мы толькі назвы двух камянёў і аднаго павароту. Першы камень за вёскай Швяды, які на локаць выглядваў з вады, на мове плытагонаў зваўся Пятушок. Другі, таксама небяспечны ўвесну для суднаходства і недалёкі ад папярэдняга, меў імя Тапчак. Некалькі маленькіх рэчак злучаюцца з Віліяй на гэтай адлегласці. Сярод іх, на правым беразе – Нарач, якая выцякае з аднайменнага возера і ўтварае мяжу паміж Вілейскім і Свянцянскім паветамі. Мы плывем далей ад Нарачы, і на левым беразе ракі перад намі здаля адкрываецца светлая, залацістая прастора. На ёй – раскіданыя ў нейкім парадку між сабою чорныя плямы заплесненых саламяных стрэх; пасярод іх больш выразна прамалёўваюцца абрысы пакінутай царквы з бліскучай вежкаю і празрыстым, ужо часткова абваленым дахам. Гэта мястэчка Заскавічы, якое размясцілася непадалёку ад берага Віліі, на пясчанай прасторы пры паштовым тракце. Так тут усё гола, абшарпана, так смутна і панура, без дрэў і зеляніны, што ажно глядзець на гэта прыкра. Адкуль узнікла патрэба заснаваць у гэтай мясціне мястэчка? Як у першага яго заснавальніка нарадзілася нейкая нешчаслівая думка, што людзі, пасяліўшыся на голым жоўтым пяску, нібыта ў афрыканскай пустыні, дзе кожны дзень круціць і мяце без дай прычыны вецер, змогуць не толькі ў дастатковасці забяспечыць першаасноўныя патрэбы жыцця, але што расцвітуць промысламі і гандлем? І гэта сапраўды загадкавае пытанне. Дастаткова ўжо таго, што людзі, якія спрадвеку жывуць тут, з голаду не паміраюць. А малая рэчка Уша, якая ледзьве плыве па той пясчанай прасторы да Віліі і дастаўляе ім ваду, а вясною пры першым пад'ёме вады пераносіць на сваім хрыбце лясны тавар, раздзяляе тут Вілейскі і Ашмянскі паветы. Пасля зліцця тых дзвюх рэчак Вілія, якая дасюль працякала пасярэдзіне Вілейскага павета, пачынае ўтвараць мяжу паміж Ашмянскім і Свянцянскім паветамі. Зараз, пасля ўпадзення рэчкі Ушы на левым беразе Віліі, недалёка ад згаданага мястэчка знаходзіцца прыстань Заскавічы. Гэтая прыстань добра вядомая сярод гандляроў на Віліі. Шматлікія падводы з Маларосіі і Белай Русі на працягу ўсёй зімы звозяць пяньку ў склады гэтай прыстані, а на бераг дастаўляюць дрэва з навакольных лясоў і тут па рацэ Ушы сплаўляюць яго. У дадзены момант, калі мы праміналі гэтую прыстань, рух на рацэ быў вялікі: там грузілі каробкі з пянькою і насеннем, вязалі бярвенні ў плыты, якімі была запоўнена рака. За за́скавіцкай прыстанню Вілія на хвіліну робіцца прыгажэйшаю, калі праходзіць праз адзін паварот, ладна зарослы старымі дрэвамі. Гэты паварот вядомы на Віліі пад назваю Вераб'ёвы норт, за ім ідзе яшчэ адна прыгожая мясціна, што завецца Ардзейскі плёс. Як толькі мы праплылі паўз яе, зноў па абодва берагі доўгімі палосамі пацягнуўся жоўты пясок са слабой надбярэжнай пораслю. Зноў пачалося нуднае, калі яшчэ не нуднейшае за нядаўняе, плаванне. Стрэчны вецер няспынна дзьмуў на нас, нягледзячы на ўсе намаганні стырнавога і весляроў, збіваў судна з дарогі і, калі нельга было зрабіць нават кроку наперад, дзядуля закрычаў:

– Уляж! Уляж!

Не марудзячы, весляры выскачылі і пачалі цягнуць судна на канаце. Падарожжа ішло яшчэ больш нудна, чым з раніцы. Пацягнутыя на людскіх плячах, мы ледзьве рухаліся. Так цяклі цэлыя гадзіны, і дзень ішоў да свайго завяршэння. Жадаючы даць змучаным веслярам, што цягнулі лайбу, адпачынак, стырнавы закрычаў "Стаўбуй!", і пры левым беразе быў кінуты якар. Лёсам суджана было нам, без папярэдняга намеру, затрымаць судна перад адной са шматлікіх дарог і кругоў, абсаджаных бярозамі, што вялі да берага Віліі, і кожны, хто едзе паштовым трактам між Вільняй і Мінскам, бачыць іх у Залессі і пытаецца, каму яны належаць. Гэта памятка па знакамітым жыхары нашага краю, які, скончыўшы грамадскія справы, змучаны шматгадовай працай і цяжарам абавязкаў, якія накладвае на чалавека публічнае жыццё, вырашыў тут адпачыць на старасці гадоў.

Гэтым славутым грамадзянінам быў князь Міхал Клеафас Агінскі. З маладых гадоў ён прысвяціў сябе служэнню Краіне; адразу быў вылучаны дэпутатам у заканадаўчыя органы, потым ён – член казначэйскай камісіі, затым надзвычайны пасол у Галандыі, пасол у Англіі, літоўскі падскарбій, то зноў салдат, зноў рэпрэзентант краіны ў Стамбуле і Парыжы, а пад канец – дзяржаўны сенатар у Пецярбургу і манаршы ўлюбёнец, адзначаны ўзнагародамі найвышэйшай вартасці, якімі толькі можа манарх узнагародзіць саноўніка. І вось пасунуўся ён у свае ўладанні, і ў вёсцы, у сямейным коле, вырашыў завяршыць сваё жыццё. Грамадскія дасягненні і заслугі гэтага высокага службоўца нас не датычацца. Айчынная гісторыя ўжо запісала іх на сваіх старонках – кожны іх чытаў і павінен дакладна ведаць. Мы ж, якіх стрэчны вецер прыбіў на нейкі час да гэтага берага, паведамім тут усяго некалькі менш вядомых грамадству дэталяў з яго хатняга жыцця, якія, тым не менш, магчыма, сталі годным працягам шэрагу яго разумовых прац і дапаўненнем актыўнага жыцця, да якога змоладу быў прызвычаены гэты славуты чалавек.

У 1815 г. князь Міхал Агінскі пакінуў грамадскую дзейнасць. “Я скончыў свае ўспамны ў час, калі мой узрост і нездароўе вымушаюць мяне пакінуць грамадскія справы і пашукаць прыемны адпачынак і спакой у хатнім зацішшы. – піша пра сябе кн. Агінскі. – Пасля бурнага жыцця ў думкі мае маглі б прыходзіць толькі сумныя ўспаміны, калі б я час ад часу не быў натхнёны марамі надзеі і часта ўсцешаны той прыемнасцю, што займаўся справамі маёй Айчыны і маіх сабратаў”. Са шматлікіх іншых уладанняў гэтага ўплывовага ў Літве чалавека менавіта Залессе засталося ўлюбёным месцам яго рэзідэнцыі. Гэтая сядзіба, якая здавён належала князям Агінскім, пасля смерці Тадэвуша, троцкага ваяводы, дасталася ў выніку фамільнага падзелу Ксаверыю Агінскаму, кухмістру В. Кн. Літоўскага. Калі ў 1802 г. ён перанёс сваю рэзідэнцыю ў Маладэчна, то Залессе ўступіў свайму пляменніку – Міхалу Клеафасу Агінскаму. З гэтага часу князь Міхал пасяліўся ў Залессі. Па праўдзе кажучы, ён знайшоў там стары палац з вялікім паркам у французскім стылі – колішнюю рэзідэнцыю свайго дзядзькі. Аднак, відаць, князь меркаваў будучыя гады свайго адпачынку праводзіць у Залессі, паколькі заняўся перабудоваю атрыманай рэзідэнцыі. З гэтай мэтай дзеля стварэння праектаў і малюнкаў, паводле якіх павінны былі нанова паўстаць мураваныя будоўлі, альтанкі, масткі, быў запрошаны прафесар архітэктуры пры Віленскім універсітэце Міхал Шульц; пазней работа была завершана віленскім губернскім архітэктарам Юзэфам Пусьерам. На ўпрыгожванне гэтай мясціны пайшло гадоў дваццаць, на працягу якіх быў узведзены палац. Паміж Бобрынкай і Рудзічай, дзвюма рэчкамі, якія, абцякаючы гэтую рэзідэнцыю, весела бягуць да сваёй маткі Віліі, быў разбіты англійскі парк; пастаўлены аранжарэі, трэбхаўзы, запраектаваны звярынец, закладзены батанічны сад з рэдкімі раслінамі, якія яму дастаўлялі з Вільні кн. Юндзіл і Струміла; не менш дасылаў іх сюды ў вялікай колькасці сад Храптовіча са Шчорсаў. Так стварылася гэтая прыгожая рэзідэнцыя ў Літве, якая сваёй чароўнасцю натхніла аднаго нашага паэта. Калі ў 1821 г. малады на той час Аляксандар Ходзька разам з бацькам Янам праведаў князя Міхала Агінскага, то, захоплены хараством гэтай мясціны, накшталт Зафіёўкі Трамбецкага і Пулаў Вароніча, стварыў паэму “*Залессе*”. Гэты цудоўны твор, напісаны з непадробным натхненнем маладой душы, з’яўляецца адным з найлепшых у творчасці паэта, які ў наступныя гады наспяваў нам столькі кранальных і прыгожых песень. Гэтая паэма, амаль невядомая ў Літве, перакладзеная на французскую мову Крысціянам Астроўскім, разам з польскім тэкстам была надрукавана ў “*Polsce malowniczej*” п. Леанарда Ходзькі.

У Залессі, у коле сваёй сям’і, князь распачаў прафесію прыватнага чалавека, тут ён разгарнуў дарагое, раскошнае жыццё – адным словам, вёў сапраўднае панскае існаванне. З таго часу стала людна ў Залессі, бо акрамя шматлікіх два-

ран і рэзідэнтаў, акрамя блізкіх суседзяў, што наведвалі Залессе, неўзабаве пасля Венскага кангрэсу, калі палітычны стан краіны набыў абсалютна новыя формы і быў закліканы да новага жыцця, князь адразу пачаў падтрымліваць бесперапынныя стасункі з Пецярбургам пры пасрэдніцтве фельд'егераў, што прывозілі яму яго карэспандэнцыю. Залессе зрабілася адзіным агменем нарад, новай крыніцай публічных паведамленняў, людзі ўсіх саслоўяў, вядомыя грамадзяне з Кароны і Літвы, якія дбалі пра дабрабыт краіны, з'язджаліся адны за аднымі ў Залессе, акружалі князя і, з радасцю прынятыя ў яго двары, гасцявалі часам па некалькі тыдняў.

Пасяліўшыся ў вёсцы, князь падзяліў сваё жыццё пароўну: між публічнымі справамі, між навуковымі заняткамі і прыемнай уцехаю, якою для яго асабліва была музыка. Ён палымяна любіў яе і быў мастаком у яе выкананні, майстрам у кампазіцыі, у чым мы можам самі пераканацца. Зыходзячы з гэтага, так аднастайна і працякаў кожны дзень, падзелены на часткі. Раніца праходзіла ў сур'ёзных нарадах з прыезджымі славутымі гасцямі, у вырашэнні спраў, у чытанні карэспандэнцыі, у напісанні або дыктаванні сваіх успамінаў. А першай гадзіне ўсе сыходзіліся на сняданне, пасля якога з'язджаліся шматлікія экіпажы з разнастайнымі запрэжкамі, мноства асядланых ездавых коней, і ўсё таварыства дам і мужчын мела дастатковы выбар месца – ці ў экіпажы, ці на энергічных верхавых конях. І тут пачыналася прагулка. Паколькі плоскія і пясчаныя мясціны не адпавядалі мэтам і рабілі прагулку манатоннаю, поўны фантазіі і густу князь, паводле ім жа накіданага плану, загадаў паабсаджваць дрэвамі шматлікія, цалкам захаваныя яшчэ і сёння дарогі і кругі, якія вядуць ад рэзідэнцыя і аж да Віліі (бо берагі ракі заўсёды былі ўлюбёнай мэтаю тых прагулак), і ўвесь караван паноў, што гасцявалі ў Залессі, перасякаючыся ў розных накірунках па тых алеях, шмат разоў выязджаў на берагі Віліі і любаваўся яе прыгажосцю. Гэтая забава, як правіла, працягвалася пару гадзін, а пасля вяртання ў палац найчасцей распачыналася музыка. Звычайна ігралі квартэтам нейкую новую кампазіцыю, паколькі іх пастаянна прывозілі з-за мяжы ў Залессе. Сам князь, зразумела, выконваў партыю першай скрыпкі, бо быў такім віртуозным музыкантам, што па прывезеных новых нотах бліскуча іграў без усялякай падрыхтоўкі. Другую партыю падыгрываў князю аплочаны ім яскравы скрыпач Эскудэра, родам з Іспаніі, ігру якога ведалі ў Вільні, дзе ён неаднаразова выступаў з канцэртамі. На віяланчэлі іграў стары дзяржаўны саветнік Казлоўскі – майстар, які праз шмат год пры царскім двары ў Пецярбургу служыў настаўнікам у сясцёр пануючага манарха, а, выканаўшы там свае абавязкі, удастоены ступені дзяржаўнага саветніка, аздоблены крыжамі і забяспечаны пенсіяй, ён прыехаў на жыхарства да князя, якога вучыў музыцы ў маладосці. Парою, служачы наперамену ў князя настаўнікам музыкі і ў маладых князёўнаў, італьянец Паліяні спяваў пры фартэпіяна італьянскія арыі ці рэчытатывы з опер. Госці рабілі ўсё, што ім падабалася – прымусу не было ні ў чым; хто любіў музыку, той яе слухаў; хто любіў малюнак, той гартаў шматлікія параскладзеныя альбомы; каго займала палітыка ці палітычныя навіны, той чытаў разнастайныя газеты; нарэшце, хто хацеў пагульттайнічаць, той прахаджваўся па парку ці адпачываў у сваіх апартаментах. Пададзены абед усіх збіраў за адным сталом. Зноў пачыналася агульная размова, перапыняемая на хвіліну пераменаю вытанчаных раскошных блюдаў і акраплёная каштоўным вінам.

Нагадаем тут адзін з вядомых усім у той час гастранамічных выбрыкаў князя, які сведчыць, што на гэтым двары не шкадавалі ніякіх выдаткаў дзеля прыемнасцяў жыцця. Калі аднойчы нехта з прысутных гасцей, седзячы за сталом, распавёў, што дзесьці за мяжою ён еў надзвычай смачны страсбургскі паштэт, пададзены цёплым, князь, на 13-ты дзень пасля таго, як гэта было расказана, запрасіў з Вільні папярэдне прысутных гасцей у Залессе на падобны паштэт. Адразу быў

пасланы ў Страсбург фельд'егер з загадам, каб той у прызначаны дзень, падчас абеду, прывёз цёплы паштэт. Сабраліся запрошаныя госці, прабіла гадзіна абеду – пасланы фельд'егер яшчэ не вярнуўся. Дарэмна занепакоены і незадаволены князь штохвіліны падыходзіў да вакна і выглядаў пасланца – фельд'егера як не відаць было, так і не відаць. Штука не ўдалася. Тым часам запрошаныя князем госці з'явіліся, паселі за стол, і абед пачаўся. Але хто апіша радасць гаспадара, калі яму пасярод абеду даклалі, што фельд'егер са Страсбурга прыляцеў, і тут жа давезены яшчэ гарачым паштэт быў пастаўлены на стале. Радасць была агульная, усе яго каштавалі, хвалілі яго смак; і на гэтым скончылася захапленне пачастункам, на якое князь мусіў выдаткаваць не абы якія грошы.

Князь Міхал Агінскі ўсю сваю маладосць і лепшыя гады жыцця правёў у вялікім свеце, у манаршых дварах, сярод вышэйшых слаёў грамадства. Поўны вучонасці і талентаў, чалавек з бліскучай знешнасцю, з барскімі манерамі, красамоўны, далікатнага абыходжання, ён меў багаты запас гэтых адоранасцяў, якія робяць чалавека прыемным у кампаніі. Жанчыны паўсюль шалелі ад яго, і ён вечна быў у іх закаханы. Яго музычныя творы поўняцца гэтымі пачуццямі. Усім вядомы яго паланезы для фартэпіяна, напоўненыя кранальнымі напевамі і смутнай меланхоліяй. Такой узнёслай і тужлівай гармоніі не праллье душа, не праявіць чалавечая думка ў спакойным і абыякавым стане. Трэба было абавязкова кахаць, каб стварыць нешта падобнае па сваёй прыгажосці і пяшчотнасці. Невядома, ці гэтыя паланезы нарадзіліся ў Залессі на фоне салодкіх роздумаў пра мінулае, ці былі падказаныя нейкімі новымі пачуццямі; бо як раней, так і цяпер сэрца князя не было ад іх пазбаўлена. Страшэнна любіў князь Агінскі, калі пра яго на гэты конт пускаюць у зварот нейкую нязвыклую, выдуманую баечку. Аднаго разу ён смяяўся да ўпаду і не мог нацешыцца, калі яму неспадзявана з замежнай поштаю даслалі адзін з яго паланезаў, выдадзены за мяжою з малюнкам, на якім быў намаляваны князь Агінскі, які стаяў пад прыгожай бярозаю і страляў сабе ў галаву. Калі кампазіцыя яго надзвычай чуллівага паланеза была апублікавана за мяжою, то была выдумана і распаўсюджана легенда, што нібыта князь Міхал Агінскі напісаў яго падчас вялікага кахання і выліў у ім усю маркоту свайго закаханага сэрца, пасля чаго стрэліў сабе ў галаву. У дадатак да гэтай байкі, невядома кім выдуманай і якую нават паўтарылі тагачасныя замежныя газеты, была намалявана віньетка і да яе, як астатні спеў роспачнага каханка, выгравіраваны той паланез. Пазней, калі князь, выпраўляючыся на жыхарства ў Італію, праязджаў праз Дрэздэн і затрымаўся на кароткі час у гэтай сталіцы, ён быў запрошаны адным з паслоў на абед. Падчас абеду размова пачалася менавіта пра гэты паланез і пра тую, што датычыць яго, свежа абвешчаную традыцыю. Смяяліся ўсе разам, як з забаўнага анекдота; адзін толькі англічанін сярод запрошаных высокіх гасцей, абсалютна не падзяляючы гэтага жарту, са звыклай гэтаму народу сур'ёзнасцю аб'явіў, што князь як джэнтльмен дзеля здавальнення публічна агалошанага паведамлення абавязкова павінен быў стрэліць сабе ў лоб[1].

Князю дзеля перапісвання ўспамінаў, якія ў гэтую пару ён збіраў і ўпарадкоўваў, як не ў меншай меры і дзеля шматлікай сваёй карэспандэнцыі, патрабаваліся маладыя здольныя людзі. З гэтай мэтаю ў 1819 г. ён знайшоў сабе ў якасці сакратара п. Леанарда Ходзьку, што ў пазнейшы час шырока праславіўся сваімі навуковымі працамі і разнастайнымі палажэннямі, якія ён займаў у свеце. Дзеля перапісвання ж шматлікіх твораў князя быў пакліканы малады чалавек, вучань маладэчанскай школы п. Ян Машчынскі, сёння саветнік саслоўяў, грамадзянін і вядомы нам усім урач. П. Леанард Ходзька, у вольныя ад абавязкаў сакратара

[1] Я чуў гэты анекдот з вуснаў прысутнага пры гэтым сведкі, аднаго з гасцей, запрошаных на той абед. Вельмі шкадую, што не запомніў прозвішчаў асоб.

хвіліны з надзвычайнай стараннасцю сачыў за раслінамі ў батанічным садзе; яны знайшлі ў яго асобе выключнага апекуна. Будучы сардэчным чалавекам, які зрадніўся з месцам свайго пражывання, ён уласнаручна зрабіў тапаграфічны план Залесся і яго ваколіц, і гэтую памятную працу пра сваё знаходжанне ён старанна захоўвае тут пасярод іншых збораў. У 1822 г. кн. Агінскі, распарадзіўшыся сваімі справамі, звязанымі з маёнткам, прызначыўшы невялікую дзеля гэтых абшырных яго земляў штогадовую грашовую суму, якая б магла ўтрымліваць яго за мяжою, назаўсёды пакінуў сваё ўлюбёнае Залессе і Літву. У гэтым падарожжы яго суправаджаў п. Леанард Ходзька. Але да канца з ім не прысутнічаў, бо калі князь застаўся на сталае жыццё ў Фларэнцыі, яго сакратар у 1826 і 1827 гадах, выправіўшыся ў Парыж для публікацыі князевых успамінаў, застаўся ўжо там назаўсёды. Кн. Міхал Клеафас Агінскі памёр у Фларэнцыі 15 кастрычніка 1833 г.

Пасля дадзенага людзям адпачынку мы выправіліся ў далейшы шлях. Калі падобнае падарожжа, трымаючы нас у бяздзейнасці, добра ўсіх нас занудзіла, то, маючы з сабою разнастайныя, неабходныя прылады для рыбалоўства, мы вырашылі пашукаць суцяшэння ў гэтай забаве. Сённяшні дзень аказаўся на гэты конт вельмі шчаслівы. За распушчаную дарожку схапіўся вялізны шчупак. Ужо прыцягнуты на бераг, калі мы былі ўпэўненыя, што ён ад нас не ўцячэ, і збіраліся ўзяць яго рукамі, шчупак раптам з астатніх сіл падскочыў наперад, адкусіў шнурок і з жалезным кручком у бруху імкліва кінуўся назад у раку. Другі, таксама дужы, аказаўся не такі шчаслівы, бо калі з малой затокі ён ублытаўся ў сетку, то скончыў жыццё на патэльні над вогнішчам, раскладзеным увечары на беразе.

Паляўніцтва і рыбалоўства было любімейшым заняткам старажытнага ліцвіна. Некранутыя пушчы Літвы, поўныя разнастайнага зверу; воды, поўныя рыбы, шчодра прыносілі першабытным людзям плён у гэтым, уласцівым ім, занятку. Гэтае мужчынскае практыкаванне з часоў першабытнай прастадушнасці нашых праайцоў перадалося нам у спадчыну, зрабіўшыся страсцю і найпрыемнейшай забавай для нас, іх аддаленых па часе нашчадкаў, якія жывуць у сённяшнім дні і цешацца цывілізацыяй. Кінуты прадмет, страла, рагаціна – былі прыладамі, ужыванымі для здабывання дзікага звера першымі жыхарамі нашай зямлі. Але якія яны ўжывалі прылады дзеля лоўлі рыбы першапачатркова – нам абсалютна невядома. Пра гэта ніводзін з вядомых мне нашых старажытных пісьменнікаў не пакінуў нам сведчанняў. Як і ўсё на свеце, што на працягу ўдасканальвання захоўвала больш-менш сваю першасную форму, так і шматаблічныя прылады, якімі карыстаюцца сёння ў рыбалоўстве на Літве, мусяць быць у значнай сваёй частцы толькі ўдасканаленым працягам рыбалоўных прылад, ужываных у старажытнасці. Напэўна, няшмат новых вынаходніцтваў узнікла ў гэтай справе. Плеценая з нітак сетка, які б выгляд яна не набывала, як бы ні прыладжвалася, ва ўсе часы мусіла быць галоўнай прыладаю ў рыбалоўстве, бо чытаем у гістарычнай літаратуры, што старажытныя ліцвіны, перад тым як апусціць сеткі ў ваду, кідалі ахвяру Пералейтасу, богу вятроў, суднаходства, матросаў і шчаслівых уловаў, які нібыта жыў на дне рэк і азёр[1]. Знойдзеныя ў старажытных хрысціянскіх магілах пакладзеныя разам з памерлым у ліку іншых прыстасаванняў металічныя кручкі цалкам падобныя сваім выглядам на кручкі, якімі карыстаюцца сёння (толькі зробленыя менш зграбна за апошнія) – не дазваляюць сумнявацца, што ўменне лавіць рыбу на кручкі ўжо было вядома старажытным жыхарам гэтага краю.

Пакуль супольнасць на зямлі паміж першабытнымі плямёнамі не адрознівала людзей, не парушала спакою паміж сем'ямі і плямёнамі – усім было ўсяго дастаткова на зямлі і ў вадзе; кожны свабодна, не баючыся, беспакарана ўжываў дары прыроды. Утварэнне ўласнасці паклала канец гэтай патрыярхальнай свабодзе, якую

[1] Naruszewicz w *"Mitologii Słowiańskiej"*, zacytowany w *"Pojacie"* Bernatowicza T. III, str. 222.

ствapала супольнасць. Зямля падзялілася на часткі, а лясы, воды, берагі рэк, што на іх знаходзіліся, атрымалі натуральных апекуноў у асобе іх уладальнікаў. Кожны з іх шукаў выгоды і карысці ад сваёй уласнасці, цягнуў адно і другое з усяго, што складала яго ўласнасць. Пастулова азёры і берагі рэк зрабіліся адной з галін промыслу ў краі, бо іх уладальнікі ўжо не дзеля задавальнення жыццёвых патрэб, як гэта рабілі першабытныя людзі, а дзеля карысці, якую прыносіў гандаль рыбаю, пачалі займацца рыбалоўствам ва ўсё большых памерах. Здаецца, што ўстаноўка на рэках плацін сталася старажытнай сістэмай у літоўскім рыбалоўстве. Мы бачым, або ведаем, што ўсе рэкі, а ў іх ліку і наша Вілія, былі перапоўненыя як каралеўскімі і княжацкімі, так і прыватнымі плацінамі. Да якой іменна эпохі адносіцца першапачатковая ўстаноўка плацін – гэтага дакладна вызначыць немагчыма, але яна павінна была быць вельмі старажытнай прыдумкаю, што ўзыходзіла яшчэ да тых часоў, калі край не быў ахоплены ніякімі пісьмовымі законамі, а быў кіруемы патрыярхальнай воляй першых князёў або галоўных капланаў. У 29 арт. I раздз. Літоўскага Статута, дзе гаворыцца пра пабудову новых плацін, без указання на іх пачатак, ужо называюць іх старадаўнімі. На ўстаноўку плацін па рэках, як відаць, не патрабавалася ніякіх дробных законаў, ні прывілеяў, паколькі ва ўсім заканадаўстве Кароны і Літвы мы нідзе не сустрэнем на гэта ні закону, ні нават дазволу, дадзенага каму-небудзь. Кожны з уладальнікаў свайго берага мог ставіць столькі плацін, колькі яму гэта здавалася патрэбным, і ставіў іх, напэўна, там, дзе яму падабалася. У XV стагоддзі, як мы гэта бачылі з прывілеяў і каралеўскіх грамат, вышэй працытаваных у нашай згадцы пра гандаль, рака Вілія была перапоўнена плацінамі, і шмат з іх утваралі перашкоды і цяжкасці гандлюючаму люду, на што неаднаразова, як мы ведаем, ішлі скаргі каралю.

Злоўжыванні, што рабіліся на тых плацінах, настолькі павялічыліся і, становячыся ўсё больш частымі, набылі, нарэшце, такія значныя памеры, што ў XVI стагоддзі звярнулі на сябе ўвагу ўрада, і па гэтай прычыне ў 1563 г. на варшаўскім сейме быў прыняты першы закон, які патрабаваў зняць плаціны на ўсіх гандлёвых рэках. Але шляхта не спяшалася выконваць волю закона, паколькі, як бачым, праз два гады, у 1565 г. на сейме, у сувязі з тым, што плаціны на рэках не былі ліквідаваныя, была прынята пастанова аб выкананні закона, дзе строга патрабавалася найбольш упартых і нядбалых (“*secus facientes et negligentes*”) загадам выклікáць у сядзібу старасты. Такі сродак, караючы за непадпарадкаванасць закону, прынёс свае вынікі: колькасць плацін на рэках пачала змяншацца. Разбурэнне плацін па рэках пазбаўляла іх уладальнікаў выгоды, якую яны мелі ад рыбалоўства. У больш багатай шляхты ўзнікла патрэба ў хадайніцтве перад урадам і саслоўямі Рэчы Паспалітай аб змене таго закона. Пра тое, што хадайніцтва атрымала пажаданы накірунак, мы даведваемся з пастановы 1567 г., дзе гаварылася: “Нягледзячы на тое, што плаціны на рэках, па якіх ідзе сплаў, забаронены законам, аднак, згодна са старым статутам, той, у каго засталася плаціна, і хто хацеў бы яе мець і надалей, павінен зрабіць у ёй шлюзы альбо вароты; дапушчальна толькі тады, калі ў сваёй плаціне шлюзы альбо вароты зроблены больш прасторнымі, каб свабодна і бяспечна праходзілі розныя тавары. Калі ж некаму праз тую плаціну, альбо праз дрэнныя шлюзы, альбо вароты будзе нанесена шкода, то кожны, каму належыць плаціна, кожнаму, каму будзе нанесена шкода, у старасты *in primo termino peremptorio* павінен будзе кампенсаваць шкоду, згодна з ягонай прысягаю *sine ulla apellatione vel motione*”. Нядоўга ўладальнікі плацін цешыліся гэтай зменай у законе; бо ў 1578 годзе выйшла пастанова пра канчатковую ліквідацыю плацін. Ужо ў XVII стагоддзі згадак пра плаціны на Віліі мы ўжо нідзе не сустрэнем. *Vigore* закону ўсе былі скасаваныя. Адна толькі, не ведаю, па якой прычыне, дагэтуль засталася на Віліі ў Янаве, у гр. Касакоўскіх дзеля лоўлі ласося; другая, пастаўленая нанова некалькі год таму – ніжэй, у маёнтку памешчыка Струмілы.

Пасля таго, як зніклі плаціны, іх замянілі рознага роду рабалоўныя сеткі – вялікая колькасць разнастайных іх форм ужываецца ў нас, у залежнасці патрэбы і мясцовасці; нам вядомы ўсе гэтыя невады, хапуны, нераты, кломлі, таптухі, венцеры, падсакі, трыгубіцы, брэдні, бучы, сакі, вуды і, нарэшце, восці. Столькі спосабаў прыдумала людская вынаходлівасць для ашуквання дурной, на першы погляд, рыбы.

Літоўскія воды поўняцца вялікай разнастайнасцю большых і меншых рыб. У рацэ Віліі звычайна ловяць наступную рыбу:



Шчупак – *Esax lucius*;
Акунь – *Perca fluviatilis*;
Лінь – *Cyprinus tinca;*
Лешч – *Abranus brama*;
Плотка – *Semiseus eritrophalmus*;
Мянтуз – *Lota fluviatilis*;
Сом – *Silurus glanis*;
Бялуга – *Acipenter huso*;
Вугар – *Lenciscus Jeses*;
Галавень – *Murena aquilla*;
Выразуб – *Cyprinus cephalus v. Semisceus Friesii*;
Ласось – *Salmo – Salar*;
Цырта – *Abranus v. Cyprinus vimbae*;

Ганец, Болень або Зэраспень – рыбы, названыя так у народнай мове, невядомыя і дагэтуль не ўлічаныя ў навуковай сістэме.

Рака Вілія ў народных гаворках мае два абазначэнні: ад вытоку да Данішава, калі яна цячэ па раўніне, пераважна пасярод зялёных лугоў і сенажацяў, яе называюць балоцістай, а ад Данішава, адкуль яна плыве паўнаводна і дзе сустракаецца першы небяспечны парог, ад якога ўжо пачынаюцца гарыстыя берагі, звычайна кажуць: “Увойдзеш, пан, у камяні” – гэта значыць, што адтуль рака камяністая. Адпаведна гэтай падвойнай прыродзе ракі Віліі ўтрымліваецца ў ёй і рыба. У першай частцы трапляюцца ліні, ляшчы, акуні, плоткі, ментузы. Адзін толькі шчупак свабодна пераходзіць ад яе вытоку аж да вусця, выпраўляючыся на сваё паляванне і палохаючы меншую за сябе рыбку, якую ён па дарозе гоніць, страшыць, нападае і праглынае. Як мы бачым, усюды змаганне, ва ўсёй прыродзе, і права мацнейшага мае перавагу над слабейшым. У паветры, на зямлі і ў вадзе – усюды тыя ж самыя парадкі. Як шчупак гоніцца за малой рыбкаю ў рацэ, пужае яе і нішчыць; як сцярвятнікі, арлы, крэчаты пагражаюць драбнейшаму за сябе птаству, так і чалавек прыгнятае на зямлі чалавека. Дарэмна маралісты напісалі горы кніг, пераконваючы ў неабходнасці братэрскай еднасці; марна заканадаўцы шчыравалі над умацаваннем законаў грамадскага жыцця – чалавек назаўсёды застаўся чалавекам. Хоць і пісаныя для яго законы, хоць і стрымлівае выхаванне чалавека з узростам ягоныя страсці, захоўваючы іх у больш мяккіх формах, але de facto права мацнейшага існуе заўсёды. Заўсёды ахвота да ўлады, прага панавання над другім характарызуе чалавечую страсць на зямлі. Будучы вечнаю, яна стварала і будзе ствараць барацьбу слабейшых з мацнейшымі. У першую частку балоцістай Віліі з нізоўя часам выпадкова даходзяць выразубы, ганцы, часам цырта, якую ў перыяд нерасту, здараецца, ловяць каля Сосенкі. У ласося, які звычайна трымаецца каля вусця Віліі, між Янавам і Коўнам, калі-нікалі здараюцца вандроўкі да Вільні; часам увесну ён падымаецца ўверх, ажно да рэчкі Ашмянкі, на якой у гэтую пару яго, бывае, і ловяць. Ганца вылоўліваюць каля Жодзішак; вугор найчасцей знаходзіцца ў наваколлях Вільні. Цырту ў вялікай колькасці ловяць у чэрвені каля Янава. Мне расказвалі, што, здараецца, у наваколлях Верак ловяць карпаў, хоць, здавалася

б, што гэтая, заблукалая з сядзібных карпярняў рыба зусім не належыць да таго пераліку рыб, якія стала жывуць у рацэ Віліі.

Ра́кі сустракаюцца паўсюль уздоўж ракі, за выключэннем Міхалішкаў. У той частцы Віліі, якая праплывае праз гэтае мястэчка, ніводзін з жыхароў, як мяне там пераконвалі, не памятае, каб нехта злавіў ра́ка, і нікому дагэтуль у галаву не прыходзіла, якой натуральнай прычынай гэта можна растлумачыць.

У пачатковай частцы Віліі рыбалоўства зусім яшчэ не лічыцца промыслам. З надбярэжных яе жыхароў кожны, каму гэта падабаецца, няўмела палошчацца з сеткаю ў яе вадзе. Ніводзін з уладальнікаў берагоў не звяртае на гэта ўвагі, бо рыбалоўства ў гэтай частцы Віліі не прыносіць даходу. Ніжэй надвілейскія жыхары ў дачыненні да лоўлі рыбы выяўляюць ужо куды большае ўменне. Бліжэй да Вільні і за Вільняй, у бок Коўна, рыба з'яўляецца прадметам даходу, і таму ўладальнікі берагоў здаюць іх рыбакам у арэнду. Каля Няменчына яўрэй – арандатар такіх берагоў, расказваў мне, што арандаванне берага з кожнага боку ракі на адлегласці аднае вярсты каштавала кожнае лета каля 60 рублёў. Як мне паведамілі, колькасць рыбы ў рацэ Віліі значна змяншалася па той прычыне, што плытагоны, плывучы па гэтай рацэ, істотна вынішчылі яе выкінутай атрутай.

Доўгім вопытам даказана, што нашы рэкі, якія цякуць у Чорнае мора, непараўнальна больш багатыя на рыбу за тыя, што плывуць на поўнач. Калі штогадовым уловам рыбы на Нёмане, Дзвіне, Віліі і іншых рэках альбо азёрах жыхароў гэтага краю можна надзяліць даволі скупа і недастаткова, то Дняпро і ўся сетка рэк, якія працінаюць Палессе і ўрэшце злучаюцца з Дняпром – Прыпяць, Піна, Тур'я і г.д., дастаўляюць рыбы такое мноства, што пасля дастатковага акармлення палескіх жыхароў вялізная яе колькасць, ствараючы вядомы паўсюль гандаль у гэтай правінцыі, разыходзіцца далей, у бок Літвы, Украіны і Валыні. Рыбалоўства на Палессі з'яўляецца такой даўняй і спрадвечнай прафесіяй гэтага краю, што ў мясцовасцях, дзе найбольш вылоўліваюць рыбы, яно ўжо ўвайшло ў народныя традыцыі, асвечаныя нейкімі ўрачыстымі абрадамі і ўвасобленыя ў народныя песні – найстарэйшы дакумент мясцовых звычаяў. Працытуем тут адзін з прыкладаў такога роду.

У Мазырскім павеце, у маёнтку Нароўля памешчыка п. Даніеля Горвата, на правым беразе Прыпяці, праплывае невялікая рэчка Славечна, якая ўпадае ў яе. На ёй за вёрст 10 ад вусця ёсць плаціна, пры ёй млын, які называюць Тартак Хана. На левым беразе гэтай рэчкі на пэўных адлегласцях адно ад аднаго сустракаюцца чатыры невялікія возеры, злучаныя малымі прыроднымі каналамі са Славечнай. Першае азярцо называецца Рубцоўскае, другое – Ікра, трэцяе – Вялікая Крагова, чацвёртае, пры вусці Славечны, каля берагоў Прыпяці, нават злучаючыся з ёю малым сцёкам, завецца Малая Крагова. Штогод увесну, у сакавіку, у гэтай мясцовасці з Прыпяці ў Славечну выносіць рыбу. Калі ў гэтую пару яна пакажацца каля млынка, гэта значыць, што ўся рака на адлегласці вёрст дзесяці і тыя, звязаныя з ёю азёры, ужо напоўнены рыбай, якая шукае свежай вады. У той час раку ля яе вусця адгароджваюць ад Прыпяці густой загароджаю з драўляных калоў, і лоўля пачынаецца. На рачным лёдзе ў прасечаных на пэўнай адлегласці палонках расстаўляюць адзін за адным бучы, пасля чаго сабраныя дзеля гэтай мэты людзі, якіх завуць "грачамі" (гульцамі), гонячы "балтамі" ад млына рыбу, спяваюць шмат вякоў таму складзеныя спецыяльна дзеля гэтай падзеі песні. Рыба, уцякаючы ад людскога спеву, няспынна напаўняе расстаўленыя бучы, якія, напоўненыя рыбаю, выцягваюць адзін за адным. Калі гэтая маніпуляцыя ад млына да вусця некалькі разоў паўторыцца, перапалоханая такой засадай рыба ў роспачы шукае сховішча ў суседніх азёрах, адкуль яе потым выцягваюць невадамі. Тая лоўля рыбы настолькі добра вядома на Палессі, што пад гэтую пару купцы, якія гандлююць рыбай, з далёкіх краёў цягнуцца на берагі Славечны, каб закупіць яе там. Тэрмін дзеля гэтай

лоўлі не акрэслены, ён залежыць ад колькасці рыбы, нагрувашчанай у Славечне. Доўжыцца ён звычайна столькі дзён, колькі трэба дзеля яе вылоўлівання. Штогод колькасць здабытай там рыбы даходзіць да трох тысяч пудоў.

Міхалон, аўтар, які пісаў за Жыгімонта Аўгуста, ці не пра тую лоўлю расказвае, калі піша, што ў Прыпяці пад Мазыром, дзе ўпадае Тур'я, штогод 1 сакавіка настолькі шмат бывае рыбы, "што ўкінуты кол стаіць, нібыта ўторкнуты ў зямлю. Тысячы купецкіх вазоў штогод прыбывала туды"[1].

Сапраўды, гэты спосаб палявання на рыбу над берагамі Прыпяці надзвычай цікавы. Але нам, збіральнікам мясцовых звычаяў, найбольш цікавай падасца адна з народных песень, што спявалася пры гоне рыбы. Гэта нібыта казка пра плотку і ляшча, дзеля дадзенай акалічнасці складзеная вершам на палескай народнай гаворцы, на якой тамтэйшыя сяляне пры гоне рыбы спяваюць пад адпаведную мелодыю. Змест гэтай песні заключаецца ў тым, што малады нявопытны лешч пытаўся ў старой плоткі, што за крыкі чуваць? Ён меркаваў, што гэта людзі вяртаюцца на пароме з дажынак, яны рассыплюць зерне, якім рыба, што плавае ў рацэ, пракорміцца. Дасведчаная плотка адказала яму, што гэта крыкі рыбакоў і што летась яна страціла тут усіх сваіх дзетак, а цяпер, пачуўшы гэтых "грачоў", якія стукамі сваіх "балтаў" пужаюць рыбу, яна раіць усёй рыбнай грамадзе ўцякаць ад іх. Рыбы, прыслухаўшыся да парады старой плоткі, пайшлі за ёю, а тая следам за сабою завяла ўсіх у расстаўленыя сеткі. Гэтай песняй, штогод спяванай на Славечне падчас славутай лоўлі рыбы, я спяшаюся аказаць паслугу даследчыкам народных звычаяў.

Вось яна, без усялякіх змен:

"Што там крычаць? – малады лешч старэй плотцы казаў. –
Пэўне дажынкі пяюць, а чэрэз паром едучы,
Будзе нам зернак наоколо плывучы".
"Ой, то рыбакі! – старая плотка маўляла –
Ой, у прошлом гаду над дзеткамі я плакала,
Чы чуеш, як біюць грачы,
Усе мы прапалі – маўчы – маўчы!
То гадзіна смерці, ой, страшно балты стучаць,
Ой, моўчкі уцякаймы, нам тут ня стаяць".
Глупая рыба добра вам радзіла,
Старая да й разумная у сетку управадзіла.
Ой, рыбы вы, рыбы! Хочэце розуму –
А нім годзіна мене,
Розум у сетку вас кіне.

Паколькі мы гаворым тут пра народныя звычаі, не лішнім будзе дадаць, што да вясковых звычак нашага народа належыць таксама дрэннае правіла лічыць рыбу агульнай уласнасцю ўсіх, а не толькі ўладальніка вадаёмаў. Ніводзін з нашых сялян не жадае зразумець і прывыкнуць да таго, што рака, якая свабодна плыве, і нічым не замкнутыя возера ці стаў, маючы незлічоную колькасць рыбы, могуць быць для яго забароненым плодам. І, нягледзячы на тое, што Статут Літоўскі тых, "што зладзейскім чынам патаемна рыбу са става цягалі", загадвае біць пугамі, а пры паўторы крадзяжу пагражае адрэзваннем вуха[2] – яны крадуць яе бязлітасна.

У даўнія часы, калі людзі не маглі вытлумачыць прычыны ўзнікнення шматлікіх рэчаў, яны імкнуліся ўсяму надаць містычную неакрэсленую вартасць. Рыбы таксама займаюць сваё значнае месца ў гэтых уяўленнях. Простыя людзі ў нас адносна рыб рабілі ў мінулым разнастайныя, толькі ім уласцівыя заключэнні.

[1] *Obraz Litwy* profes. Jaroszewicza T. II. Str. 24.
[2] *Статут Літоўскі.* Раздз. XIX, арт. 27.

Прадказанні, звязаныя з рыбамі, былі не толькі ўдзелам выключнай цемры нашага краю, але мелі яны папулярнасць і ў іншых народаў далёкай старажытнсці. Чытаем у Плінія Старэйшага, што калі падчас сікульскай вайны Аўгуст прахаджваўся над берагам мора, выскачыла з вады рыба яму пад ногі. Пракокі адразу ж растлумачылі гэтую з'яву, што ля ног Цэзара будуць ляжаць тыя, хто на той час меў панаванне над морам. *"Sunt in hac parte naturae auguria, sunt et in piscibus praescita. Siculo bello ambulante in litore Augusto, piscis e mari ad pedes ejus exiliit: quo argumento vates respondere, Neptunam patrem adoptante tum sibi Sex: Pompeio (tanta erat navalis rei gloria) sub pedibus Caesaris futuros, qui maria tempore illo teneret"*[1].

У наваколлях ракі Віліі просты люд лічыць, што калі пасля заходу сонца рыба ў вадзе плёхаецца, то гэта дакладна паказвае на добрае надвор'е.

Калі рыба, з вечара забітая восцю або нейкай іншай прыладай, крываціць, значыць, гэта прадказвае дождж.

Большая ці меншая колькасць злоўленай у пэўны год рыбы прадказвае адваротны ў гэтым годзе ўраджай.

У вялікі пост на Св. Аляксея, "калі рыба хвастом лёд разбівае", рыбакі посцяць з намерам, каб на працягу гэтага года лоўля была шчаслівая.

У Пінску ўюны, трыманыя па хатах у шкляных слоіках, замяняюць барометр і сваімі рухамі беспамылкова прадказваюць пагоду ці дождж.

У простага народа рыбы служаць таксама лекамі супраць разнастайных хвароб. Я ведаю, што плотка, пракаўтнутая шчупаком і здабытая з яго вантробаў, выкарыстоўваецца ад ліхаманкі. З вантробаў ментуза, выстаўленых вяліцца на сонцы, атрымліваюць тлушч, падобны да аліўкавага алею, якім лечаць хваробы вачэй. Супраць разнастайных сутаргаў ужываюць скуру вугра і г.д.

Ёсць краіны, дзе рыбу паважаюць як боства. У манголаў, напрыклад, па сённяшні дзень рыба знаходзіцца ў святым ушанаванні. У Троіцку на рынку побач з базарам стаіць гранітны помнік, вышынёю каля сямі футаў, знойдзены колькі год таму назад у ваколіцах Кяхты. Ён уяўляе сабой рыбу. На ёй яшчэ відаць сляды вачэй і старых надпісаў. У Парыжы, у Луўры, сярод прадстаўленых там археалагічных збораў з Мексікі я бачыў гранітную калону, на ёй вычасаныя з таго ж каменя дзве вялікія рыбіны, падобныя да карпаў, якія павінны былі азначаць нейкае мексіканскае боства.

## КАМЕНТАРЫ

Да V раздзела:

*Мікалай Крыштоф Радзівіл* (мянушка «Сіротка») (1549-1616) – дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ, мецэнат, пісьменнік.

*Уладзіслаў Сыракомля* (сапраўднае Людвік Уладзіслаў Францішак Кандратовіч) – (1823-1862) – беларускі і польскі паэт, драматург, перакладчык, літаратурны крытык і краязнаўца.

*Cycerone* – "цыцэрон" (пераносн.), красамоўца.

*Восці* – рыбалоўная прылада ў выглядзе віл.

*Капá* – лікавая адзінка роўная 60.

*Староства* – адміністратыўна-тэрытарыяльная адзінка ў Рэчы Паспалітай (Каралеўства Польскага і ВКЛ). У склад староства ўваходзілі адзін і больш гарадоў, мястэчак і некалькі сёл.

*Войтаўства* – адміністрацыйная адзінка ў ВКЛ і ў Польшчы ў 15-18 стст.

*Падкаморны* – у Каралеўстве Польскім і ВКЛ суддзя па спрэчках адносна межаў маёнткаў у падкаморскіх судах. Пасада была даволі прэстыжнаю, яе займалі прадстаўнікі шматлікіх шляхецкіх родаў.

*Жывое срэбра* – ртуць.

---

[1] *K. Pliniusza historya naturalna* wyd. Ed. Raczyńskiego. Poznań 1845 r. Księga IX. Str. 384-385.

[2] *Listy z Syberyi* przez Agatona Giller. *Biblioteka Warszawska* za 1858, zeszyt Grudniowy 24. Str. 624.

Да VI раздзела:

*Норт* – струмень вады пасярэдзіне ракі, які плыве з большай хуткасцю, чым астатняя маса вады.

*Кухмістар* – у старажытнай Польшчы служачы пры двары, адказны за кухню ў гаспадара, пазней – ганаровы служачы.

*Міхал Клеафас Агінскі* (1765-1833) – кампазітар, дзяржаўны і вайсковы дзеяч ВКЛ і Рэчы Паспалітай, удзельнік паўстання Т. Касцюшкі. Аўтар знакамітага паланэза «Развітанне з Радзімай».

*Трэбхаўзы* – цяпліцы, у якіх паскараюць хуткасць росту экзатычных раслін.

*Аляксандр Ходзька* (1804-1891) – паэт, фалькларыст, славіст, усходазнавец. Аўтар шматлікіх навуковых прац, паэмы «Залессе» (1822). Выдаў зборнік «Паэзія» (1829), у які ў ліку іншых твораў увайшлі балады, заснаваныя на беларускім і літоўскім фальклоры. Папулярызаваў славянскія мовы, фальклор, перакладаў са славянскіх на ўсходнія мовы. Запісваў успаміны Адама Міцкевіча і памагаў яму выдаць іх. Перапісваўся з А. Кіркорам, К. Тышкевічам, Я. Тышкевічам.

*Дарожка* – медная пласцінка з прыкляпаным на канцы кручком ці якарком. Цягнулася за лодкай на шнуры, які наматваўся на калаўрот.

*in primo termino peremptorio* – у першым "завітым року" – у канчатковым тэрміне.

*sine ulla apellatione vel motione* – без аніякай апеляцыі ці выключэння.

*Vigore закону* – сілаю закона.

*de facto* – фактычна, на самой справе.

*Пліній Старэйшы (23 – 79)* – рымскі пісьменнік-эрудыт, аўтар «Натуральнай гісторыі». Старэйшым ён называецца ў адрозненне ад свайго пляменніка Плінія Малодшага.

*"Sunt in hac parte naturae auguria, sunt et in piscibus praescita. Siculo bello ambulante in litore Augusto, piscis e mari ad pedes ejus exiliit: quo argumento vates respondere, Neptunam patrem adoptante tum sibi Sex: Pompeio (tanta erat navalis rei gloria) sub pedibus Caesaris futuros, qui maria tempore illo teneret"*. – "Таксама і ў гэтай частцы прыроднага свету ёсць вешчаванні, бо і рыбы даюць прадказанні. Падчас сіцылійскай вайны, калі Аўгуст прахаджваўся па беразе, да ягоных ног выскачыла з мора рыбіна. Вяшчуны так патлумачылі гэтую прыкмету: хоць Сэкст Пампей абвесціў сябе сынам Нептуна (бо на моры ён меў вялікую ўдачу), аднак, тыя, хто цяпер валадарыць на моры, хутка лягуць пад ногі імператару".

*У вялікі пост на Св. Аляксея* – 30 сакавіка паводле новага стылю.

Кастусь Цвірка



...гэта ўжо не плач, гэта – крык душы,

гэта – пратэст супраць гвалту з мовы...

# Човен майго часу

***З новай кнігі***

*Працяг. Пачатак у №6 (85) за 2016 год, №1 (86) за 2017 год.*

## ПІМЕН ПАНЧАНКА

У студэнцкія гады мяне паланіў "Іранскі дзённік" Пімена Панчанкі. Мне так прыйшліся даспадобы звонкія, не зусім звычайныя вершы гэтага "дзённіка", што я выбраў іх тэмай сваёй курсавой.

Захацелася дазнацца і пра самога аўтара ўпадабанага цыкла, паэта з рэдкім імем – Пімен, імем, якое апроч пушкінскага манаха-летапісца з "Барыса Гадунова" мне нідзе не сустракалася.

Бацькаўшчынай паэта, пэўне ж, трэба лічыць Ашмяншчыну, дзе жыла сям'я Панчанкаў. Хоць нарадзіўся паэт у сталіцы Эстоніі Таліне, куды на нейкі час доля закінула яго бацькоў.

Неўзабаве пасля нараджэння сына Панчанкі вярнуліся ў Беларусь. Толькі пасяліліся ўжо на Бягомельшчыне, радзіме маці паэта. Тут, сярод вольных палявых разлогаў, прытуманеных бакасовых лугоў і векавечных лясоў ды пералескаў, і бегала маленства Пімена. У прысвечаным радзіме вершы ён шчыра прызнаваўся:

Я малым хлапчуком палюбіў твае пушчы і нівы,
І блакітныя рэкі, і мора зялёных лугоў.
Ты мяне гадавала, як маці, і рос я шчаслівы,
Не зазнаўшы галечы, з атрадам вясёлых сяброў...

Стаўшы настаўнікам, Пімен Панчанка і дзяцей вучыў гэтак жа сама любіць сваю радзіму Беларусь.

Ды тут пачалася вайна. У паэта-настаўніка крывёю абліваласся сэрца, калі яе агнявы вал пакаціўся па Беларусі, калі на гарады і сёлы паляцелі з крыжастых самалётаў фашысцкія бомбы, сеючы смерць і разбурэнні. Перадсмяротныя крыкі мірных людзей, галашэнні матак над забітымі дзецьмі разлягаліся па роднай зямлі.

Краіна мая, радасць мая,
Песня мая маладая!
Па нівах тваіх, па тваіх гаях
Сынава сэрца рыдае...

Топча, катуе тваю зямлю
Вылюдак ашалелы.
Я кроў да апошняе кроплі пралью,
Каб толькі табе палягчэла...

І гэта былі не проста словы. Малады паэт адразу ж падаўся ў ваенкамат, каб ісці на фронт.

“Да штыка прыраўняўшы пяро”, пяро армейскага журналіста, змагаўся Пімен Панчанка з нямецкім фашызмам цягам усёй вайны. Ён прымаў удзел у баях на Бранскім, Заходнім, Калінінскім, Паўночна-Заходнім франтах...

Пяць франтоў мяне пылам гарачым абсыпалі,
За вайну перамерана тысячы вёрст.
З успамінамі крочыў пад ветрамі сіплымі
І з надзеяй на студзеньскім холадзе мёрз.

З надзеяй, што той агнявы вал вайны павернецца з расійскіх разлогаў назад і пачнецца так доўга чаканае вызваленне роднай Беларусі. І гэтая надзея нарэшце пачала спраўджвацца:

Мы на захад ішлі за рыкаючай душнай сцяной,
Нашы вусны засмяглі з гарачыні.
У вароты жалезныя грукаў бязлітасны бой:
– Беларусь, адчыні!

Для воінаў-беларусаў пачаўся той жаданы зварот на радзіму, і паэт не мог стрымаць сваёй радасці:

Бой мацнее!
Я хутка к табе прыйду,
Да грудзей набалелых тваіх прыпаду,
Пакланюся лясам і палеткам шырокім.
Толькі цяжка праходзіць апошнія крокі
Да цябе, мая Беларусь!

Толькі страшна мне думаць пра тую хвіліну,
Калі гляну у вочы я роднай краіне.
Буду хату шукаць, – а знайду руіны,
Буду маці гукаць, – адгукнецца магіла
На пагосце старым пад вярбою пахілай.

Што ж, якой ты ні будзеш – і ноччу, і раннем,
Я пазнаю цябе, я не здраджу табе.
Перанесла ты гора і катаванні
І зрабілася мне даражэй і радней...

Ды калі пачалося вызваленне Беларусі, гвардыі капітана Пімена Панчанку выклікала да сябе камандаванне арміі, у якой ён служыў. Заданне было вельмі незвычайнае: яго ў складзе савецкіх войскаў вырашылі пасляць у далёкую паўднёвую краіну – Іран. Па ўзгадненні з кіраўніцтвам гэтай краіны туды ўводзіліся войскі саюзнікаў – Велікабрытаніі, ЗША і Савецкага Саюза, каб перакрыць дарогу гітлераўцам.

І вось перад вачыма беларускага паэта-воіна Пімена Панчанкі – зялёныя, поўныя шматколерных красак даліны і паднебныя аграмадзіны-горы невядомай дагэтуль краіны – экзатычнай Персіі.

Пра яе Пімен Панчанка ведаў толькі з даўно ўпадабанай лірыкі Сяргея Ясеніна, які, зрэшты, ніколі там не бываў. Рускі паэт уявіў яе нейкай ідэальнай, высненай у мроях зямлёй, праўдзівым зямным раем. Ён называў яе «голубой и ласковой страной», «шафранным краем», дзе ўсіх чаруе «запах олеандра и левкоя», дзе «воздух прозрачный и синий» і дзе блукае «прекрасная Лала» ды ў бліскотных тэгеранскіх кабарэ грацыёзна вытанцоўвае чарнавокая Шаганэ (“Шаганэ ты моя, Шаганэ...”). Увесь цыкл вершаў “Персідскія матывы” пісаўся Ясеніным на гэтых рамантычных мроях.

Што ж да Пімена Панчанкі, то ён, пасланы туды як савецкі воін, “не заваёўнік, а жаданы друг”, убачыў Персію (вядомую ўжо як Іран) такую, якая яна была ў сапраўднасці, зусім рэальную, не прыхарошаную паэтычнай фантазіяй.

Мы першы раз за межамі Радзімы.
Бывай, зямля савецкая мая!
Насустрач горы выплываюць з дыму,
Якія апяваў калісь Хаям.

Тужэй падцягваем франтавыя дзягі,
Глянцуем боты, чысцім шынялі.
Не так, як паэтычныя бадзягі,
Прайду па тэгеранскай я зямлі.

Так пачынае свой “Іранскі дзённік” беларускі паэт. Не, і ён не можа не захапляцца незвычайнай красой па-свойму цікавай паўднёвай краіны: “Якія горы! А сады якія!”; “Тут вецер вільготны і пруткі і ружы ў духмянай расе”; “З гаёў апельсінавых сонечны лівень цябе залівае. А пах – на ўвесь свет”. Паэту-беларусу, натуральна, захацелася ўплесці ў сваю “сетку рыфмаў” і прывезці “хоць кавалак сонца поўдня у палескую краіну”.

Але часам Пімен Панчанка стрымлівае сябе ў захапленні чужой, да таго ж “буржуазнай” краіны. Ён жа – “пасланец Рэспублікі Саветаў”, таму імкнецца годна трымацца перад чужаком, як некалі і Маякоўскі (“У советских собственная гордость: на буржуев смотрим свысока”).

Галоўнае для яго: глыбей пазнаць і зразумець малавядомую краіну. Ягонае пільнае вока чэпка схоплівае ўсе яе адметнасці. Ён, напаткаўшы, дзівіцца на маленькіх, але цягавітых іранскіх ішакоў, што і сёння “не то ў Кабул, не то да Гіндукуша” валакуць на сабе цюкі славутых з даўніны персідскіх шаўкоў, з цікавасцю праводзіць вачыма караваны флегматычных вярблюдаў, што ідуць “з паклажай фантастычнай на гарбах, з пагардаю сухою на губах”, адзначае для сябе мноства “крамаў, крамачак і крамак”, каля якіх малыя іранскія гандляры так і кідаюцца да ніколі раней нябачаных байцоў-чырвонаармейцаў: “Зорку дай!”

Ну і, вядома ж, малады савецкі афіцэр, праходзячы міма, ці ж мог не заглядзецца на чарнявых, поўных агню пад прамяністымі вейкамі юных іранскіх красунь-смуглянак:

І калі гарачымі вачыма
З-пад чадры іранка шугане,
Мімаволі ты прашэпчаш імя,
Чутае калісьці, – Шаганэ...

Марудліва, як тыя вярблюды, цягнуліся месяцы прабывання савецкіх вайскоўцаў у Іране. Прайшоў увесь 1944 год, пачаўся наступны, 1945, а камандаванне не адпускала іх з гэтай горнай, вельмі спякотнай улетку краіны. Савецкая місія ў Іране яўна задоўжвалася, і байцы знемагалі ад тугі па дому. Гэтая туга ўсё часцей чуецца і ў вершах Пімена Панчанкі.

Нярадаснай была для яго тут і вясна. Праходзячы ваколіцай Тэгерана, паэт раптам застыў ад зняменя: з высокага неба да яго вушэй даляцела такое знаёмае, такое роднае курлыканне – жураўы! І ляцяць гэтыя жураўы адсюль, з поўдня, на поўнач, на Беларусь – гэта значыць, з выраю! Як жа тут не ўсхваляваца:

Ты чуеш курлыканне – рад ці не рад?
Між хваляў густой сінявы
Лятуць жураўы за гару Арарат,
На поўнач лятуць жураўы.

Прывык сустракаць ты іх гэтай парой
Пад першай вясновай зарой.
А тут жураўель, узмахнуўшы крылом,
У вырай праз сэрца ляціць напралом.

Забыў, што ад дому за тысячы міль, –
Злуешся і крыкнуць карціць:
«Гэй, хто там знаёмы да болю фільм
З канца пачынае круціць?»

Лятуць жураўы за Казбек і Эльбрус,
І сэрца сціскае туга.
Сустрэне іх хутка мая Беларусь
На цёплых зялёных лугах.

Я зайздрасці к птушкам ніколі не меў –
Без крылляў мне нават ямчэй,
А зараз ад крыўды глухой анямеў
І з неба не зводжу вачэй.

Не менш узрушлівы быў для Пімена Панчанкі і яго прыезд пасля іранскай місіі дамоў, у вызваленую Беларусь. Калі цягнік пад'ехаў да Оршы (з Ірана ж трэба было вяртацца праз Маскву) і ў вагон з клумкамі ды кашалямі ўціснуўся гаманлівы вакольны люд, мабілізаваны афіцэр не мог стрымаць слёз замілаванасці ад пачутых пасля доўгіх гадоў гукаў роднай беларускай мовы:

Якія знаёмыя назвы і словы,
Якая цудоўная родная мова!
Усё мілагучна для слыху майго:
І звонкае "дзе", і густое"чаго".

Нарэшце абпалены ў бітвах воін ступіў на родны, разварочаны бомбамі брук мінскіх вуліц, дзе зусім нядаўна "кіпелі жалеза і камень":

Я іду, бывалы воін,
Памужнелы і худы,
Шчэ не звыклы да спакойнай,
Да цывільнае хады.

Углядаюся у вочы,
Вочы добрыя людзей,
І чамусьці з кожным хочаш
Прывітацца: «Добры дзень!»

Ды і ў мірны час Пімен Панчанка астаўся воінам, змаганцам за сваю Беларусь, якую трэба было бараніць ад розных "чынадралаў" і адшчапенцаў, ад "верхаглядаў" і "прыстасаванцаў". Пра баявітасць яго вершаў кажуць і самі іх загалоўкі: "Верхалазы", "Прыстасаванцы", "Лінія высокага напружання", "Маскі", "Ілюзіі, ілюзіі", "Сягоння не засну", "Гнеў і літасць", "Мастадонт", "Даверлівая прастадушнасць", "Мала сказаць: ненавіжу"...

Пімен Панчанка быў не толькі па званні, а папраўдзе народным паэтам. Ён не праходзіў міма ўсякай подласці і маны, прымаў блізка да сэрца ўсё, чым жыў народ. Паэт-воін проста лез на ражон, б'ючыся з дэмагогамі ды бюракратамі, вострым паэтычна-публіцыстычным словам абрынваўся на тых, хто на народным гарбе пяўся пралезці ў рай. Вялікай бядой было тое, што ўсякага роду "прыстасаванцы" ўчэпіста трымалі лейцы ўлады ў сваіх руках і ўсяляк імкнуліся супыняць гарачы імпэт такіх народных абаронцаў. Для гэтага ўзвялі яны непераадольны цэнзурны маналіт пад бяскрыўднай назвай Галоўліт з раздзьмутым да неймавернасці штатам добра вымуштраваных цэрбераў, што вышуквалі і вытраўлівалі ўсё, што хоць у чым-небудзь разыходзілася з "лініяй партыі". Не менш пільна прасейвалі напісанае і як трэба вышкаленыя рэдактары ўсяго, што выходзіла тады з друку.

Прамы, бясстрашны, нязгібны Пімен Панчанка быў у іх заўсёды на прыцэле. Бо заўсёды рэзаў усім у вочы праўду-матку, якой так баяліся ўладакрады. Як заўважаюць біёграфы паэта, каб сабраць усе "зарэзаныя" ці пакалечаныя цэнзурай яго вершы, набраўся б іх цэлы том. А калечыліся, "прыгладжваліся" яны часам да непазнавальнасці.

Верш "Родная мова". Калі я першы раз прачытаў яго ў нейкім часопісе, то не быў у захапленні. Бо гучаў ён для мяне як рэквіем па мове, якая нібыта "аджывае" і якую пара аплакваць. Заканчваўся верш так:

Ці плачу я, ці пяю,
Ці размаўляю з матуляю –
Песню сваю, мову сваю
Я да грудзей прытульваю.

Ды, аказваецца, гэтая страфа першапачаткова гучала зусім інакш (яе ўзнавіў у анталогіі "Краса і сіла" Міхась Скобла):

Ці плачу я, ці пяю?
Восень. На вуліцы цёмна...
Пакіньце мне мову маю,
Пакіньце жыццё мне!

Гэта ўжо не плач, гэта – крык душы, гэта – пратэст супраць гвалту з мовы народа, без якой, як пісаў Панчанкаў сябар МаксімТанк, "ні нараджацца, ні жыць на зямлі немагчыма"!

Падгладзіць "вострыя вуглы" ў адным з вершаў Пімена Панчанкі, як гэта не прыкра прызнавацца, давялося і мне, калі працаваў у "Полымі".

Я падрыхтаваў быў прынесеную паэтам ладную падборку вершаў і здаў у друк. Але, як заўсёды, карэктура ўсяго часопіса перад выпускам павінна была прайсці чысцілішча ў Галоўліце. І вось адтуль звоніць раптам мне, як рэдактару паэзіі, сам начальнік гэтага грознага ведамства Маркевіч (здаецца, такое яго прозвішча). Вельмі не ўпадабалі падначаленыя яму цэнзары верш Пімена Панчанкі пра меліярацыю. Надта ж бэсціў яе паэт. У той час, як брэжнеўская прапаганда аж захліпвалася ад паспяховага асваення нашых палескіх балот. Неяк не ўпісваўся тут вельмі крытычны верш народнага паэта. “Трэба яго зняць”, – казаў высокі цэнзурны начальнік. Я пачаў яго адгаворваць, спасылаючыся на высокія мастацкія вартасці твора. Тады ён прапанаваў апусціць самую вострую страфу верша. “А мо лепш паправіць яе?” – папытаў я: надта ж не хацелася яе выкрэсліваць. Даў згоду. Я зрабіў зусім нязначную праўку. Для адводу вачэй: меркаваў, што і яму, начальніку, трэба перад некім апраўдацца, што “работа праведзена”. Пазваніў яму і прачытаў новы варыянт страфы. З заміраннем сэрца чакаў: што скажа? Вось дзіва: згадзіўся! Пасля ўсяго гэтага я набраў нумар тэлефона Пімена Панчанкі, расказаў яму тое цэнзарскае “выкручванне рук” і прачытаў “падгладжаную” страфу яго верша: ці згодны ён на такую праўку? Пімен Емяльянавіч не запярэчыў: разумеў сітуацыю. Верш (не помню яго назву) і пайшоў у друк з маёй праўкай.

Сярэдняга росту, у меру поўны, трохі ссутулены – такім бачыў я часам на вуліцах Пімена Панчанку. Ідучы, ён як бы глядзеў у сябе. Пэўне ж, складаў у думках вершы, якія потым запісваў на паперу. Няйначай так, бо публікаваўся ён шмат: пра ўсё, што турбавала, хацелася яму выказацца, уліць у радкі сваю трывогу і боль.

*2015, снежань*

## АНАТОЛЬ АСТРЭЙКА

Спаткаўшыся на нашым лысагорскім “праспекце” (галоўнай вуліцы пісьменніцкага садова-агароднага таварыства), сталі утрох – шчупленькі Рыгор Няхай, мажны, трохі прыгорблены Анатоль Астрэйка і я.

Гаворка зайшла пра вайну, пра партызаншчыну.

– Раскажы яму, як ты ездзіў на партызанскую нараду, – кіўнуўшы на мяне і пасмейваючыся, кажа да Анатоля Астрэйкі Рыгор Няхай – з куточкаў ягоных вачэй так і пабеглі вясёлыя веєры зморшчынак.

Астрэйка яго смеху не падтрымлівае, скіроўвае вочы ўбок, нейкі момант маўчыць, як бы не чуючы сябра, і, выпростваючыся, пераводзіць гаворку на іншае.

Мне ж карціць даведацца, чаму не захацеў Анатоль Астрэйка расказваць пра тую нараду. Толькі калі ён, шырока і грузна ступаючы, падняўся па Лысай гары наверх, на сваё лецішча, Рыгор Няхай расказаў пра той эпізод. Потым нейкія дэталі дапоўніў мне, нічога не тоячы, і сам Анатоль Астрэйка. Але пра ўсё па парадку.

У пачатку вайны Анатоль Астрэйка, дабраўшыся з ахопленага пажарамі Мінска ў Гомель, па даручэнні рэдакцыі рэспубліканскай газеты “Звязда”, якая таксама там апынулася, пачаў выпускаць баявую сатырычную газету-плакат “Раздавім фашысцкую гадзіну”, стаўшы яе адказным сакратаром. З набліжэннем фронту яе выдаўцы перабраліся ў Маскву. Адтуль тыражы газеты-плаката закідвалі самалётамі ў акупаваную Беларусь – падымаць народ на змаганне з ворагам. Потым разам з цюкамі газеты закінулі ў партызанскую зону і самога Анатоля Астрэйку, ужо як яе карэспандэнта. Спачатку на Віцебшчыну, а потым у родную Мінскую вобласць, на яе поўдзень.

З вялікай радасцю і з надзеяй на лепшае прымалі партызаны свайго, прысланага з Вялікай зямлі, беларускага паэта. Камандзіры брыгад і атрадаў, калі ён там

паяўляўся, збіралі на лясных палянках усіх партызан і наладжвалі з ім сустрэчу. Партызаны лавілі кожнае слова паэта, распытвалі, што робіцца на франтах, што думае Масква, каб хутчэй адпрэчыць нечуваную фашысцкую навалу. Пра ўсё вельмі даходліва расказваў Анатоль Астрэйка партызанам, не прамінаў нешта сказаць і пра сваю газету “Раздавім фашысцкую гадзіну”, пра тое, як вострым сатырычным словам кляймуе яна злачынствы і авантурызм гітлераўскіх заваёўнікаў. У канцы задушэўнай і шчырай гаворкі ён чытаў партызанам напісаныя пра іх жа, пра іхныя баявыя будні свае вершы. Мой зямляк Павел Доўнар, які ўзначальваў групу партызан з Зялёнай Дубровы, расказваў мне ў Палажэвічах, дзе жыў пасля вайны, пра такое выступленне Анатоля Астрэйкі ў брыгадзе Аляксея Шубы. Для яго, для ўсіх партызан было яно як свята, як нешта самае незабыўнае. Партызаны доўга гаварылі тады пра тую сустрэчу, якая вельмі прыўзняла іх дух, прыдала ўпэўненасці ў змаганні.

Анатоль Астрэйка да самага прыходу Чырвонай арміі заставаўся ў партызанах, дзяліў з імі хлеб ды кашу, цяпло і холад зямлянак, ішоў, калі трэба было, разам у бой з акупантамі. І пра ўсё гэта складаў вершы, якія друкаваў у партызанскіх газетах і лістоўках.

Яго вершы партызаны перапісвалі і перадавалі адзін аднаму, з атрада ў атрад. А то і спявалі іх каля раскладзенага агню пад гранне партызанскіх хромак. Само сабой узнікла жаданне лясных воінаў мець у сябе ўсе вершы партызанскага паэта пад адной вокладкай, у выглядзе кніжкі. Ідэю падхапілі выдаўцы слуцкай падпольнай газеты “Народны мсцівец”. Паперу для яе здабылі ў нямецкай друкарні ў Слуцку. Як успамінае рэдактар зборніка М. Дастанка, над кніжкай, якую паэт назваў “Слуцкі пояс”, працавалі наборшчыцы Люба Куляшова і Люба Шаўчук, друкары Валодзя Кананові і Коля Торхаў. Афармілі кніжку партызанскія мастакі Саша Залаты і Саша Бяляеў. Літары-застаўкі яны выразалі на кубіках з клёну. Для друкавання вокладкі кніжкі партызаны раздабылі чырвонай фарбы, а для пераплёту знайшлі нержавеючы медны дрот. “Больш месяца наш калектыў сапраўды нёс ударную вахту па выпуску “Слуцкага пояса”. Палымяныя радкі вершаў, – расказвае М. Дастанка, – не толькі дапамагалі біць ворага, яны былі вялікай падтрымкай у цяжкі для партызан час...” Кніжка выйшла ў 1943 годзе тыражом у тысячу асобнікаў. А ў 1964 годзе яе перавыдала дзяржаўнае выдавецтва “Беларусь”.

І вось легендарная кніжка-партызанка ў мяне ў руках. Вершы простыя, даходлівыя, напісаныя на партызанскія “тэмы дня”, і яны не могуць не хваляваць, бо аўтар як бы вядзе непасрэдны паэтычны рэпартаж з месца падзей – з партызанскага лесу:

Мне не было ніколі ў галаве,
Што буду я, закінуты ў Палессе,
Хадзіць па непакошанай траве,
Блукаць адзін па невядомым лесе.

Тайком паўзці пад схованаю начы
Да заняволеных чужынцам сёлаў,
Цягнуць к варожым штабам на плячы
Гранат цяжкія звязкі, скрынкі з толам.

Па вершах Анатоля Астрэйкі этнографы могуць вывучаць сам партызанскі побыт, з іх добра відаць, як жылі ў лясах партызаны, дзе яны туліліся і туляліся. Радкі верша “Мой будан”:

Пад бярозай на палянцы,
Ад людзей у старане,

І не ў хаце, не ў зямлянцы,
А жыву я ў будане.

Сем калоў у вілку ўбіты,
Пераплецены лазой,
Ад дажджу імхом прыкрыты
Партызанскі домік мой.

Невялікі столік з дошкі
І для ложка палак з пяць,
А на палках сена трошкі,
Каб было не мулка спаць.

Я к свайму прывык парадку,
Дзе ні лягу – там засну,
Калі маю плашч-палатку,
Ў дождж на палках разапну...

Так былося-жылося лясным ваярам партызанам цёплай парой года. Зімою ж, у маразы, было ў партызанскім лагеры складаней:

Сабе зімовыя кватэры
Мы выбралі ў бары.
Ва ўсіх зямлянках вокны, дзверы
Зрабілі цесляры.

Каб раніцой не стылі ногі,
Не лез да цела жар,
Ляглі асовыя падлогі
Усюды паміж нар.

Патрэбна будзе –势 стануць печы
І з бляхі каміны,
Каб дух трымаўся чалавечы
У холад ледзяны.

Адно нам толькі невядома,
Ды гэта цяжка знаць,
Ці давядзецца жыць нам дома,
Ці новы лес шукаць.

Ды так вядзецца ў партызана,
Такі ўжо ў нас народ:
На дзень абраў сабе прыстанак,
А ўсё рабі на год.

Калі ж падымецца трывога –
За плечы аўтамат.
Яшчэ наперадзе ў нас многа
Зямлянак будзе, брат.

Ну, вядома ж, не мог не расказаць Анатоль Астрэйка і пра баявыя паходы партызан. Радкі з верша “У добры час”:

Кожны дзень з атрадаў і злучэнняў
Нечуваным крокам, лёгкім ценем
З вёсак, пушчаў і палян
Выступаюць групы партызан...

На грудзях праз плечы аўтаматы,
За папругаю тырчаць гранаты...

А гэта з верша “Слуцкі пояс”:

І ступаючы лёгка на мхі,
На палянкі някошаных траў,
Мы па зорках шукаем шляхі
Да варожых часцей і застаў...

Увесь свет ведае, як даваліся фашыстам у знакі беларускія партызаны:

Шалее эсэсаўцаў стан
Ад злосці бяссільнай і спуду.
Як цень, беларус-партызан
З зямлі падымаецца ўсюды.

Уся Беларусь была ахоплена ў вайну партызанскімі атрадамі, брыгадамі і злучэннямі. Нічога не маглі зрабіць з імі і рэгулярныя нямецкія дывізіі, якія бралі беларускія лясы ў шырокамаштабныя блакады з танкамі і самалётамі.

У вызваленні Беларусі ад нямецкіх акупантаў партызаны дзейнічалі сінхронна з часцямі Чырвонай арміі, калі яна гнала ворага назад, на захад:

Спее волі і шчасця прыход,
Што расце на франтах і палянках.
Не зламаць, не сагнуць мой народ,
Бо уся Беларусь – партызанка!

Вядомы французскі пісьменнік Луі Арагон у сваёй кнізе “Савецкая літаратура”, адзначаючы ролю літаратараў у змаганні з фашызмам, назваў сярод іх і беларускага паэта-партызана Анатоля Астрэйку.

А паплечнік па пяру Анатоль Вялюгін такую даў яму характарыстыку ў сяброўскім шаржы:

Па прозвішчу Астрэйка,
А проста – Анатоль.
Крышыў у немцаў рэйкі
Яго лірычны тол.

А цяпер – пра тую нараду, пра якую завёў быў гаворку Рыгор Няхай, таксама былы партызан. Гэта была нарада камандзіраў брыгад і асобных атрадаў у штабе аднаго з партызанскіх злучэнняў. Анатоль Астрэйка тады асталяваўся ў атрадзе камандзіра Райцава.

– Хочаш пабыць на нарадзе? – папытаў у яго Райцаў.

– Вельмі хацеў бы, – адказаў Анатоль Астрэйка.

– Тады збірайся – паедзеш са мной.

Ехалі ў газіку з брызентавым верхам. Паэта-партызана пасадзілі на задняе сядзенне побач з трыма аўтаматчыкамі. Уперадзе сеў сам камандзір атрада Райцаў, пераадзеты ў форму нямецкага генерала. Шафёр таксама быў адзеты ў нямецкую форму. Уперадзе на капоце машыны трапятаўся на ветры нямецкі сцяжок.

Анатоль Астрэйка спачатку не разумеў, дзеля чаго такі маскарад. Калі ж машына з лясной дарогі выбегла на гравійку, заёрзаў на сваім сядзенні, не без трывогі паглядаючы на дарогу, па якой зрэдку тарахцелі сялянскія падводы. Ды вось уперадзе паказалася грузавая машына. У Анатоля Астрэйкі аж вочы палезлі на лоб, калі ўгледзеў у яе кузаве зялёныя мундзіры нямецкіх салдат з чорнымі аўтаматамі на грудзях. Шафёр газіка пастараўся руляваць бліжэй к абочыне, даючы грузавіку лепш праехаць. А што, калі сунімецца? У Анатоля Астрэйкі ўсё пахаладзела ўсярэдзіне. Ды от дзіва: нямецкая машына спакойненька праехала міма! У паэта-партызана адлягло на душы. Але не надоўга. Уперадзе зашарэлі

стрэхамі будынкі нейкай вёскі, а на ўездзе ў яе вуліцу перад вачамі вырас нямецкі салдат з аўтаматам: пост! I пры ім дарогу перакрываў шлагбаўм! Пакрываючыся халодным потам, глядзіць Астрэйка на Райцава: чаму не паварочвае назад? Ды той едзе прама на пост! Перад шлагбаўмам сунімае машыну, высоўвае галаву ў форменнай генеральскай шапцы з кукардай. Да яго падбягае паставы, казырае, нешта пачынае гергетаць па-нямецку: як відаць, патрабуе дакументы. Ды “генерал” перапыняе яго злосным вокрыкам: “Шнэль!” З нямецкай мовы ён, мусіць, толькі і ведаў гэтае “шнэль” ды яшчэ хіба “хэндэ хох!” Анатоль Астрэйка напяўся як струна, а сэрца палезла ў пяткі. Ды – ці ж не дзіва? – на паўторанае яшчэ раз, толькі больш грозна тое “шнэль!” немец пабег да шлагбаўма і падняў яго: дарога адкрыта! Толькі куды? У нямецкі гарнізон! У самае фашыстоўскае логава!

Добра пападрыжаў тады Анатоль Астрэйка, асабліва калі машына праязджала па вуліцы, на якой то там, то там пападаліся на вочы нямецкія салдаты і афіцэры, па аднаму і групамі. А што каб супыніў іх які праўдзівы нямецкі генерал? Праўда, трохі суцяшала яго, што пры ім трое аўтаматчыкаў, гатовых да ўсяго, а два аўтаматы – пэўне, для самога “генерала” і яго шафёра, – ляжалі ў іх нагах, ды і гранаты тырчалі ва ўсіх з-за дзягаў. Але каб завязаўся бой, ці змаглі б тады вырвацца партызаны з гэтага “асінага гнязда”?

У канцы вёскі “генеральскай” машыне паставыя аткрылі шлагбаўм ужо без аніякай затрымкі. Але ў партызанскага паэта Анатоля Астрэйкі яшчэ доўга трэсліся рукі і ногі. Ды і ўсяго яго калаціла, як у ліхаманцы.

Пасля партызанскай нарады камандзір Райцаў зноў падышоў да Анатоля Астрэйкі.

– Ну што, таварыш паэт, паедзем са мной назад у брыгаду?

– А кудой?

– Тудою ж, – заўсміхаўся Райцаў.

– Пайшоў ты на ... – паслаў Анатоль Астрэйка камандзіра на тры літары. – Едзь сам!

– Дык як жа ты дабярэшся ў лагер?

– Лепш пайду ў абход, хоць балотам, чым ехаць з такім ідыётам, – нечакана для самога сябе загаварыў Анатоль Астрэйка ў рыфму.

– Тады на аўтамат хоць вазьмі, – і ён, зняўшы са свайго пляча, падаў Анатолю Астрэйку аўтамат Калашнікава.

Колькі часу і як ішоў лясамі ды балотамі ў партызанскі лагер, Анатоль Астрэйка не надта хацеў каму расказваць.

У гэтай гісторыі меўся яшчэ і нечаканы працяг, сведкам якога быў ужо і я.

Выпала так, што мяне разам з Анатолем Астрэйкам – гэта пасля ўжо той гаворкі на Лысай гары – Саюз пісьменнікаў паслаў на літаратурныя сустрэчы ў Віцебск.

Цэлы тыдзень мы былі разам, жылі ў адным нумары гасцініцы “Дзвіна”, і Анатоль Астрэйка ў перапынках паміж выступленнямі расказваў мне шмат цікавага пра сваю работу ў рэдакцыі газеты “Раздавім фашысцкую гадзіну”, пра пералёт з Масквы за лінію фронту і пра сваё партызанства. Ну, і пра тое, як слухалі партызаны яго выступленні, увогуле як успрымаліся ў партызанскіх зонах яго вершы. Адзін з выпадкаў. Заходзіць Анатоль Астрэйка ў царкву паслухаць набажэнства. I раптам чуе, як поп з амбона спявае ... яго верш: “Забі не-емца, забі га-ада...”

Наведваючыся з карэспандэнцкім блакнотам у розныя партызанскія атрады і брыгады і подоўгу там супыняючыся, Анатоль Астрэйка добра пазнаўся і пасябраваў з многімі іх камандзірамі. Не губляў з імі сувязі і пасля вайны.

Той-сёй з іх атайбаваўся і ў Віцебску. I вечарамі Анатоль Астрэйка захацеў пагаманіць з імі па тэлефоне, які быў у нашым нумары.

Толькі, адшукаўшы ў даведніку нумар тэлефона аднаго такога знаёмца, былога партызанскага камандзіра (помню, прозвішча яго было на Ш.), не спяшаўся на-

біраць гэты нумар. Браўся за трубку і зноў яе апускаў. Доўга тупаў туды-сюды па вялікім гасцінічным пакоі і ўсё пытаўся ў мяне і ў сябе самога:

– Званіць ці не званіць?

– А чаму б не пазваніць? – падахвочваў я.

Памаўчаўшы і яшчэ пахадзіўшы ў одуме, суняўся перада мной і сказаў з рашучасцю:

– Не, не буду званіць!

Пра гэтага камандзіра, расказаў мне Астрэйка, хадзіла нядобрая слава. Калі з Масквы прысылалі яму самалётам радыстку, ён нібыта змушаў яе дзяліць з ім ложа. А калі занадта далёка заходзіла такая з ёй сувязь, гэты Ш. разам з падначаленым яму начальнікам асобага аддзела прышываў ёй шпіёнства, і яна прыгаворвалася да расстрэлу.

З другім жа партызанскім верхаводам Анатоль Астрэйка сазваніўся. Пагаварыў з ім і, кладучы трубку, сказаў мне:

– Гэта той самы Райцаў. Сёння мы пойдзем выступаць на месца яго работы.

Вось гэта неспадзяванка! Няўжо той самы Райцаў?!

І вось мы на “мехдвары”, дзе ён, той самы Райцаў, начальнікам.

Райцаў сустрэў нас на прахадной. Прыемна было бачыць, з якой радасцю сустрэліся і моцна абняліся сябры-партызаны.

Сярод шырокага двара, застаўленага па баках усякай тэхнікай – грузавымі машынамі, самазваламі, трактарамі і яшчэ чымсьці, паставілі невялікі столік і за ім услончык. Райцаў, высокі, хударлявы, як бы трохі касабокі, з рэзкімі валявымі рухамі стаяў за сталом і назіраў, як падходзілі і рассаджваліся на доўгіх лавах механізатары ў зашмальцаваных камбінезонах, у рабочых куртках.

– Жывей, хлопцы! – падганяў іх Райцаў. – Юзік, колькі там будзеш калупацца – ідзі садзіся!

І таўсматы хлапчына ў камбінезоне, што ўкленчыў быў каля вялікага кола самазвала, устаў і, выціраючы нечым рукі, павалюхаўся сюды.

Калі ўсе сабраліся і сцішыліся, Райцаў коратка сказаў, хто сюды завітаў, і даў слова Анатолю Астрэйку, а калі той “выгаварыўся”, падняў і мяне – мы сядзелі па баках ад яго.

Пасля нашых выступленняў Райцаў з Астрэйкам, прахаджваючыся па “мехдвары”, пагаманілі паміж сабой ды паўспаміналі сваю партызаншчыну. Каля прахадной яшчэ раз абняліся на развітанне.

Пішучы гэтыя згадкі, я кусаў сябе за локаць, чаму не распытаў падрабязней пра Райцава – і ў яго самога, і ў Астрэйкі. Бо я ж нават не ведаў (ці проста не запомніў) яго імя. Не ведаў, дзе базіраваўся яго атрад. І ў каго цяпер папытаешся?

Узяўся праглядваць нашы энцыклапедыі – гістарычную і агульную. Ні слова пра яго. Мо і прозвішча я пераблытаў, неправільна запомніў? Круг замкнуўся. Поўны тупік!

І тут на падмогу мне – нібы з таго свету – прыйшоў сам Анатоль Астрэйка. Інтуіцыя падсказала мне зазірнуць яшчэ раз у двухтомнік яго выбраных твораў.

І вось натыкаюся там на верш не верш – на “Партызанскую быль” пад назвай “Вадавоз”, напісаную ў 1942 годзе, а пад ёй – о, эўрыка! – пазнака: “Партызанскі атрад Данілы Райцава. Віцебшчына”.

Мала таго, што я ўпэўніўся, што правільна запомніў прозвішча таго партызанскага камандзіра, але дазнаўся і яго імя – Даніла. А яшчэ – што яго атрад базіраваўся не на Міншчыне, як я меркаваў спачатку, а на Віцебшчыне, дзе Райцаў і астаўся пасля вайны.

Атрымаўшы ад майго былога кампаньёна Анатоля Астрэйкі такія важныя звесткі, я ўжо мог пашырыць свае пошукі пра Данілу Райцава: хацелася даведацца пра яго больш. Іду цераз вуліцу ў Нацыянальную бібліятэку і дастаю з паліцы

фаліянт у дзвюх кнігах “Віцебск” з серыі “Памяць”. І вось у кнізе на старонцы 459 бачу фатаграфічны партрэт Д.Ф. Райцава! Праўда, тут ён зусім малады, у вайсковай фуражцы з зоркай на аколышы. А ўсё ж праглядваюцца на твары знаёмыя рысы, хоць бачыў яго пажылым.

А на наступнай старонцы, у артыкуле чытаю: “У студзені – лютым 1942 г. атрады Міная Шмырова (“Бацькі Міная”), Данілы Райцава, Міхаіла Біруліна, Аляксея Дзіка, Якава Захарава і іншых ужо ўтрымлівалі ў сваіх руках вялікую тэрыторыю, утварылі першы на Віцебшчыне партызанскі край плошчай 1600 км²”

Дык вось чаму якраз сюды, на вызваленую зямлю, заслалі з Масквы карэспандэнта газеты “Раздавім фашысцкую гадзіну” Анатоля Астрэйку: вельмі важна было паведаць усім, як беларускія партызаны вызваляюць сваю краіну ад нямецкіх акупантаў.

Ну, а накіраваўся ён да самых баявых партызан. Спярша ў атрад Міная Шмырова – “Бацькі Міная”. Пра партызан яго атрада Анатоль Астрэйка напісаў песню “Мінаеўцы”.

Там жа пачуў ён і пра вялікую асабістую трагедыю камандзіра Шмырова, пра тое, як фашысты, узяўшы ў заложнікі, расстралялі ўсіх чатырох яго дзяцей. Здаецца, ад Анатоля Астрэйкі пра гэты факт даведаўся і Аркадзь Куляшоў, напісаўшы вядомую “Баладу аб чатырох заложніках”.

Ад Шмырова Анатоль Астрэйка перакінуўся ў другі, не менш баявы і праслаўлены атрад – Данілы Райцава. З якім і ездзіў на тую партызанскую нараду.

У другой кнізе віцебскай “Памяці” – біяграфічная даведка пра Райцава. З яе даведаўся я, што ён, Даніла Фядотавіч Райцаў, нарадзіўся ў 1914 годзе ў Суражскім раёне. Яго партызанскі атрад скора вырас у брыгаду. Як праслаўлены партызанскі камандзір удзельнічаў ажно ў двух Парадах Перамогі ў Маскве. Узнагароджаны многімі ордэнамі і медалямі. Вылучаны ганаровым грамадзянінам Віцебска.

Мая добрая суседка Лена Касцюковіч, якая на кампутары перадрукоўвала з рукапісу мае нататкі, перапынілася на гэтым во месцы і, зайшоўшы ў інтэрнэт, знайшла яшчэ больш падрабязныя звесткі пра Данілу Райцава. Аказваецца, за ўвесь час баявой дзейнасці яго брыгада “пусціла пад адхон 36 эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, узарвала 54 масты, пашкодзіла сотні метраў чыгуначнага палатна і знішчыла каля 4 000 варожых салдат і афіцэраў”. Цікава, што адным з байцоў Данілы Райцава быў вядомы цяпер кожнаму школьніку Герой Савецкага Саюза Міхась Сільніцкі, які загінуў, прыкрываючы з кулямётам адыход атрада. Тады, у вайну, Даніла Райцаў перажыў і вялікую асабістую трагедыю: фашыстамі былі расстраляны яго бацька, маці, тры родныя сястры і чатырнаццаць блізкіх сваякоў.

Пасля вайны ён працаваў у меліярацыі і воднай гаспадарцы, каля трыццаці гадоў узначальваў Віцебскае міжраённае ўпраўленне меліярацыйных сістэм. У сваёй гаспадарцы ён і прыняў быў нас з Анатолем Астрэйкам.

Мы многа дзе выступалі тады ў Віцебску. І я заўсёды з прыемнасцю слухаў Анатоля Астрэйку. Бачыў, якое добрае ўражанне рабіў ён на тых, хто прыходзіў на нашы сустрэчы. Асабліва прыязна свяціліся вочы ў жанчын, калі ён чытаў свае лірычныя вершы, і сярод іх – “Ландышы”. Не цяжка ўявіць: шырокаплечы, мажны, трохі сутулы, нават з выгляду грубаваты мужчына – і чытае такія во пяшчотныя радкі пра ландышы:

Я іх табе вясной прынёс
З зялёнае лясное далі.
Празрыстыя крупінкі рос,
Яшчэ на лісцях трапяталі.

Пачырванела ты ў адказ
На мой паклон і прывітанне.
Хай песняй стане гэты час
Майго юнацкага кахання.

Невінаваты я, што мы
Чаго няма, таго і просім.
Не злуй, што я сярод зімы
Табе тых красак не прыносіў...

Зрэшты, такія задушэўныя, лірычныя вершы і ў мужчын выклікалі прыязнае святло ў вачах. Таму Анатоль Астрэйка і стараўся больш чытаць іх, а не якія "сур'ёзныя".

Гартаючы двухтомнік выбраных твораў Анатоля Астрэйкі, я таксама больш за ўсё супыняўся на яго лірычных вершах. Сагрэтыя сэрцам, меладычныя, яны, здаецца, самі прасіліся на музыку. І гэта не маглі не заўважыць кампазітары. На словы Анатоля Астрэйкі былі напісаны імі даволі папулярныя песні "Ой, бацька мой Нёман", "Песня пра Заслонава", "Шаўковыя травы", тая ж "Песня мінаеўцаў".

*6.01.2016*

## АНАТОЛЬ ВЯЛЮГІН

Тонкі лірык... Чарадзей слова... Майстар... Так вельмі дружна, у адзін голас казала пра Анатоля Вялюгіна крытыка. І хіба ж не праўда:

Зялёны дым: услед узнятай слонцы
Арэшнік пылу воблака атрос.
Нібы ў палац, сюды заходзіць сонца –
У мокрым лесе светла ад бяроз.
Вартуе глуш сарока-белабока,
І з непазбыўнай прагаю глядзіш:
Шурпаты ствол надрэзаны глыбока,
Са звонам кропля падае ў гладыш.
Да латака мурашкі і пралескі
З усіх прагалін збегліся на пах.
Бярозавікам пахнуць пералескі,
Блакіт і пена на ружовых пнях...

Цяжка спыніцца, каб не цытаваць далей Анатоля Вялюгіна.

Я прывёў тут пачатак яго верша "Бярозавік". А вось не менш паэтычныя радкі верша "Чаромхавыя халады":

Па ярах сумётамі – белая чаромха.
Салаўі шалёныя б'юць на ўсе лады.
Заінела пер'е майскага чарота:
выветрыўшы неба,
ходзяць халады.

І заўсёды лепшая на світанку нашча
песня засцяваецца. Чуеш, малады,
як шуміць у белым бацькаўшчына наша.
Горла песні ранняй
лудзяць халады...

Чытаючы іх, як бы апынаешся ў свеце свайго маленства, у родных сэрцу ваколіцах, дзе пачыналася для цябе Радзіма.

Нават у такой "прозе жыцця", як загатоўка на зіму гародніны, як звычайныя кулінарныя рэцэпты, знаходзіў Анатоль Вялюгін паэзію:

Гуркоў па сто дванаццаць коп
узята з кожнай градкі;
дубовы ліст, і хрэн, і кроп
кладуць з гуркамі ў кадкі.

Сабе і лету не мані,
убачыўшы ля ганку
у цьмянай чырвані маніст
рабіну, як цыганку...

У вершы (гэта – “Вечны каляндар”) няма слова “восень”, але аўтар падабраў такія вобразы, такую інтанацыю, што я, чытач, амаль фізічна адчуваю яе дыханне, бачу яе барвы і высокую прасветленасць, настройваюся на трошкі журлівы, але ўлагоджаны вечнымі чалавечымі турботамі асенні лад.

Здаецца, у кожнага паэта знойдуцца вершы пра лес. Але от пачынаю іх прыгадваць, ды і не прыгадаю. На памяць прыходзіць толькі “Спелы бор” Анатоля Вялюгіна:

З усіх сабораў ёсць сабор,
дзе згодзен я маліцца:
у спелым леце, спелы бор,
звіняць твае званіцы.

У душным водары палян,
дзе маладосць хадзіла,
багун, дурнічнік, дурнап‘ян
раздзьмулі ўсе кадзіла...

Радкі верша, дзе аўтар так удала разгортвае шчасліва знойдзеную метафару, хочацца паўтараць і паўтараць. Як, бывае, самохаць раз за разам напяваеш сабе пад настрой навязлівыя куплеты нейкай вельмі ўпадабанай песні.

Цытуючы тут вершы Анатоля Вялюгіна, я не адразу заўважыў, што ўсе яны пра нашу прыроду. Але, падумаўшы, ці проста пра прыроду? Не. Гэта творы пра родную зямлю, пра Бацькаўшчыну, паэтава любоў да якой чуецца ў кожным слове. Значыць, гэта вершы пра самога аўтара.

Колькі мы бачылі вершаў, дзе аўтары прызнаюцца ў любові да Радзімы, клянуцца ў гэтай любові, але чытач ім ну не верыць, і ўсё! Бо там – голая дэкларацыя, якая нічым не падмацавана.

У Анатоля Вялюгіна, здаецца, ёсць толькі адзін верш, дзе ён адкрыта кажа пра сваю любоў да Радзімы. Гэта – “Прызнанне ў любві”. Ды паэт знаходзіць тут такія словы, такія вобразы, што не верыць яму ў любові да Беларусі, якая для яго “маці і мова, паветра і хлеб”, немагчыма:

Я не помню, якою парою навек палюбіў:
калі верасам сінім гарэлі трывожна лясы,
калі першы кляновік з ільдзінкамі вострымі піў,
калі скублі заснежаны стог у зарэччы ласі...

ці тады, як бухматы пад чорнаю хмараю воз
асцярожна, дрыготка ішоў па старому мастку,
і чаплялася сена на голле самлелых бяроз,
і маланак святло апаліла душу хлапчуку?..

Для кожнага верша Анатоль Вялюгін знаходзіў свае сродкі выявы, свае адзіна патрэбныя словы, якія дазвалялі яму дакладна перадаць пачуццё і думкі чытачу.

Гэтым уменнем шчодра дзяліўся ён і з маладымі паэтамі, калі працаваў у часопісе “Полымя”, дзе вёў аддзел паэзіі.

Заснаваны яшчэ ў 1922 годзе, штомесячнік “Полымя” быў доўгі час галоўным літаратурным часопісам Беларусі. Яго рэдагавалі і ў ім публікаваліся ўсе нашы славутыя пісьменнікі. Надрукаванымі на яго старонках іхнымі лепшымі творамі (раманамі, аповесцямі, апавяданнямі, паэмамі, вершамі, нарысамі, артыкуламі) часопіс саграваў і ўзвышаў сэрцы многіх і многіх чытачоў-беларусаў. Аляксей Русецкі, апынуўшыся як афіцэр пасля вайны ў складзе савецкіх войскаў у Порт-Артуры, так выказаў сваю радасць ад сустрэчы з часопісам, які нейкім шляхам (мусіць, па пошце) трапіў да яго аж на берагі Ціхага акіяна:

Я “Полымя” ўзяў. Разгарну, калі
Спакою папросіць сэрца.
Агністым кавалкам сваёй зямлі
Пад сцюжамі буду грэцца.

Апублікавацца ў “Полымі” – было гонарам для кожнага літаратара. Прыносіў у рэдакцыю часопіса да Анатоля Вялюгіна свае вершы і я. Седзячы за рэдактарскім сталом, Анатоль Сцяпанавіч уважліва іх прачытваў з аўтаручкай у пакалечаных у баі пад Сталінградам пальцах-кульцях і, выбраўшы лепшыя, пакідаў сабе для друку.

Ведаючы яго як выдатнага спеца ў галіне паэзіі, дзяржаўнае выдавецтва “Беларусь” (потым назва яго мянялася) даручала Анатолю Вялюгіну рыхтаваць да друку многія паэтычныя кнігі. Быў ён рэдактарам і майго першага зборніка вершаў “Такія сэрцы ў нас”. Я тады ўжо закончыў універсітэт і настаўнічаў на Случчыне. Адтуль і прыязджаў у Мінск да свайго рэдактара на кватэру. Мы сядзелі за яго пісьмовым сталом над маім рукапісам і разам выпраўлялі нейкія хібы. Па хаце снавала тады і яго жонка Наталля.

Быў я ўдзячны Анатолю Вялюгіну і за новыя публікацыі маіх тварэнняў у “Полымі”. Асабліва за тое, што ён ухваліў і аддаў друкаваць маю даволі вялікую паэму “Хат вячысты дар”, за якую як за лепшую публікацыю года рэдакцыя з ягонай падачы прысудзіла мне прэмію часопіса.

Пасля амаль сарака гадоў працы ў “Полымі” Анатоль Вялюгін развітаўся з часопісам і пайшоў “на вольны хлеб”. Балазе атрымліваў ужо сваю законную пенсію. Гэта было ў 1984 годзе. Заняць яго месца ў часопісе прапанавалі мне. І цяпер ужо ён прыносіў да мяне свае вершы, якія я з радасцю аддаваў у друк.

Ад ранняй вясны і да глыбокай восені вольнага Анатоля Вялюгіна трымала, не адпускаючы, вельмі прытульнае лецішча на лясным ускрайку Лысай гары каля Валоўшчыны – яго “Эдэма кменнага куток”, дзе ўсё спрыяла творчасці. І чытачу цяпер нядоўга даводзілася чакаць “ясных дароў” шчодрай вялюгінскай музы, якая нязменна маніла яго

Туды, туды – дзе вечны клопат
Галін і крылаў крыжавіны!
За трыснягом маторкі лопат...
Даждждом наліты след ласіны...

Вершы апошніх гадоў жыцця Анатоля Вялюгіна былі сабраны ў кнізе “Заклён на скрутны вір”. Гэта была лебядзіная песня Паэта, які так неспадзявана, без пары адышоў ад нас у вечнасць. Так, у вечнасць. Бо яго паэзія ніколі не перастане грэць людскія сэрцы.

Мару ўбачыць Анатоля Вялюгіна ў маім “Беларускім кнігазборы”. Перачытваю ўсё ім напісанае. Ох, як здорава прагучыць у серыйным томе выбранага яго пранізлівая лірыка!

Вельмі шкадую толькі, што ў свой няпросты час Анатоль Вялюгін даверліва паддаўся казённым устаноўкам і занадта вялікую даніну аддаў не адразу рас-

пазнаным ідэалам (і ідалам) нялюдскага савецкага таталітарызму. Таму не надта многа можна ўзяць з яго творчага набытку. Прыкладам, самую аб’ёмістую, хоць і выдатна напісаную паэму «Вецер з Волгі», якую ў свой час крытыкі высока ўзносілі як значны ўклад ва “ўсесаюзную лeнініяну”. Не вытрымалі суда часу і паэмы “Бацька Дняпро”, “Песня зялёнага дуба”, “Чэрствая скібка”, а таксама многія сцэнарыі дакументальных фільмаў – яшчэ адно захапленне Анатоля Вялюгіна.

Цешыць, што ў апошнія гады жыцця Анатоль Вялюгін вызваліўся з ліпкай павуціны афіцыйнай ідэалогіі і цвёрда стаў на адзіна правільную дарогу – дарогу служэння Бацькаўшчыне, якую з вялікім жалем параўноўваў з “карчмой пры дарозе”, куды без стуку здавён адчыняе дзверы любы прыхадзень. Горкая іронія чуецца ў радках паэта:

Імя,
беларус, выбірай
Радзіме са сцятай душой:
ці
“Северо-Западный Край”
ці
“Это колхоз небольшой”.
У стольных мужоў сумятня.
З прамоў
а ці будзеш здароў?
Свае чужаземцы
штодня
чакаюць усходніх дароў.
А помніш
шкілеты бяроз
і ў лісцях дарогі раскат?
Цярэбяць краіну
на звоз,
як некалі вецце прысад.
Карчма пры дарозе,
карчма –
балююць бандыт і гандляр.
Ні праўды,
ні веры няма,
а Богам –
зялёны даляр...

Гэта – з кнігі “Заклён на скрутны вір”, кнігі, якая цалкам просіцца ў нашу залатую серыю.

*28.08.2015*



Алесь Разанаў



...Міхась Стральцоў
паэт патаемнай весткі...

# Зацемкі з тэлефоннай будкі

Вершы чытаюцца і, чытаючыся, знаходзяць такі ці гэтакі водгук, а гэты верш Міхася Стральцова паклікаў у размову.

* * *

Пад шоргат кропель дажджавых
Ён з тэлефоннай будкі бачыў,
Як па галінах верхавых
Зялёны вецер пругка скача.

Ён наглядаў. Ён не спяшаў.
Нішто пагляд не абражала.
Як бы лячылася душа,
Яе як быццам суцяшала,

Што вецер згоды не пытаў —
Шалеў над горадам — і, ніцы,
Ужо на вулках шкуматаў
Плашчы, кашулі і спадніцы.

І ў гэтай будцы пад дажджом,
У нейкай роспачы вялікай,
Сябе за даўнім рубяжом
Убачыў ён — і не паклікаў.

Не мог. А мо не захацеў.
Не абазваўся нейкім знакам.
А той у дзіўнай віднаце
Ці то ўсміхаўся, ці то плакаў...

І ў гэтым горадзе чужым,
Які ягоным быў калісьці,
Ішлі інакшыя дажджы,
Іначай трапятала лісце.

Словы склаліся, у іх верш сказаў сябе – нішто ў ім ужо не зменіцца. Аднак зместы, што ў ім захоўваюцца, – яны, калі верш чытаецца і калі прачытаны, кажуцца, выяўляюцца, удакладняюцца, і таму, што яны кажуцца, выяўляюцца, удакладняюцца, мы ўваходзім з вершам у размову.

Каб словы змаглі і захацелі скласціся, яны мусяць быць пакліканымі неабходнасцю, якою, нават яшчэ не склаўшыся, істотны верш.

Кліча тое, што і само сталася пакліканым, і водгук – ужо размова.

Верш – ужо размова, і мы не распачынаем яе, а ў яе ўваходзім.

Да таго, як спраўдзіцца ў словах, верш ужо спраўджваецца ў рэчаіснасці, і душа яго перажывае.

Паэт у размове з душою, і ў размове з душою творыцца верш.

Тое, на што адгукаецца душа, у вершы набывае гук і слова.

Ён: гэтак наймяноўваецца ў вершы галоўная дзейная асоба. Мы гэтаксама будзем трымацца гэткага наймення, пішучы, каб, дзе неабходна, адрозніваць ад астатніх асабовых займеннікаў мужчынскага роду адзіночнага ліку, яго (найменне) курсівам: *ён*, і звычайна, дзе ў гэтым няма неабходнасці.

Маючы сябе, *ён* мае шмат іпастасяў ці ксталтаў, яны называюцца: душа, ён сам за даўнім рубяжом, дажджавыя кроплі, якія, падаючы на тэлефонную будку, нешта кажуць, вецер, які да ўсіх і да ўсяго мае дачыненне, ды і сама тэлефонная будка, у якой ён апынаецца як у нейкім сваім целе.

І яшчэ сам верш – іпастась самой *ёсціны*: у ім з’ядноўваюцца дзелі, кожная з якіх мае сваю рэчаіснасць, і якімі, кожная па-свойму, у ім выяўляюцца.

Усё называючы, сам верш застаецца без назвы.

Ён глыбока біяграфічны, “нутраны”, і тое “я”, якога ў ім няма, ад яго не аднята, а становіцца самім ім – вершам.

У вершы яднаюцца асабовае і безасабовае, назоўнае і безназоўнае, тутэйшае і тамтэйшае, але для таго, каб гэта пачало адбывацца, мусіць знайсціся месца сустрэчы – тэлефонная будка і ў ёй *ён*, ад’яўлены ад усяго і з усім з’яднаны.

Словы, што сабраліся ў вершы, сведчаць пра нешта, што адбываецца па-за вершам. Іхні змест не ў іх саміх, а ў тым, што іх выклікала і з’яднала.

Сведчачы пра нешта, што адбываецца тут, усёю сваёю душою верш скіраваны некуды туды, дзе дзейсніцца тое, што вызначае, якім яму быць і як вымаўляцца.

“Зялёны вецер пругка скача...”

У вершы нідзе нічога не гаворыцца, які гэта вецер – вясновы альбо летні, але па ўскосных прыкметах і невідавочных адзнаках можна здагадвацца, што вясновы.

Па-першае, самі словы “зялёны” і “вясновы” лёгкадалучальныя і ўзаемазамяняльныя: аднолькавая колькасць складоў і таясамая рытміка; далей: сам гэты вецер па натуры вясновы – гарэзлівы і свавольны, “зялёны”(“пругка скача” па галінах, “шалеў над горадам”, “шкуматаў плашчы, кашулі і спадніцы”), і самому ветру, і гораду, і таму, хто глядзіць на ягоныя дзеі з тэлефоннай будкі, усё гэта яшчэ ў гульню, у адкрыццё, у навіну. Гэта тая пара, калі пупышкі раскрыліся і выявіліся ў свет тою сваёю існасцю, без выяўлення якой сам свет застаецца не спраўджаны, – сталіся лістамі.

Вецер пругкі: ён здатны на сваёй хвалі ўзлятаць угору і апускацца ўніз і супрацьстаіць карпускулам прадметаў і рэчаў. Тэлефонная будка – своеасаблівая карпускула ці капсула, і, атаясамліваючыся з ёю, *ён* знаходзіць сябе, а выходзячы – аднаходзіць.

Вецер, што паводзіцца хвалева, дапамагае яму ў гэтым – абуджае ўтоеныя ў ім магчымасці.

Верш творыцца з аднойдзеных слоў.

“Ён наглядаў” – гэта тое становішча, якое дазваляе яму ўбачыць самога сябе як некага.

*Ён* пазірае з тэлефоннай будкі, знутры карпускулы, у якой апынуўся, знутры мікрапрасторы, да якой так ці інакш сыходзяцца вулкі і знаходзяць дарогу “плашчы, кашулі і спадніцы”, і таму, што знутры, тое, што ён бачыць і чуе, збіраецца ў знакі і адкрываецца ў з’яву.

Тэлефонная будка асаблівае месца: тут яго не шкуматае вецер, не мочыць дождж, тут яго як бы няма, і з гэтага “як бы няма” адкрываецца тое, што ёсць.

У тэлефоннай будкі адмысловая тапаграфія – скрыжаванне, што вынікла з раздарожжа.

Той, хто ўваходзіць у тэлефонную будку, становіцца яе зместам.

“Ён не спяшаў...” Калі б у тэлефонную будку яго змусіла ўвайсці ці забегчы непагадзь – дождж і вецер, ён быў бы спешлівы, як бы не на сваім месцы, як бы не ў сабе, а так – чытаецца – да таго, як набег дождж і нарваўся вецер, ён увайшоў сюды сваёю хадою, увайшоў дзеля таго, для чаго і існуе тэлефонная будка – каб некаму патэлефанаваць, нешта сказаць і нешта пачуць, каб абмяняцца галасамі і зместам галасоў. Абмен адбыўся, размова скончылася – пэўна, яна была доўгаю, доўгаю, бо гаварылі душы, у іх свае суадносіны, выгаварыліся – раз’ядналіся, і спяшацца цяпер няма куды. Было б куды, памкнуўся б і ў дождж, і ў вецер, а так ён пазірае на тое, што дзеецца за вокнамі тэлефоннай будкі, на тое, што ўсчалося, пакуль ён быў у размове, – усё больш чым блізка, і дождж як ніколі змястоўны, і вецер як ніколі свой. Варта адчыніць дзверы тэлефоннай будкі – і ён сам апынецца ва ўсім гэтым.

Але ён марудзіць адчыняць дзверы тэлефоннай будкі, з яе ён наглядае тое, што займае ўвагу і дагаджае душы, у ёй з ім адбываецца нешта, істотнае для яго.

У вершы выяўляецца дыспрапорцыя, і яна мае свае кшталты. Так, першыя тры страфы назіраюць і слухаюць: усё, што ў іх адбываецца, адбываецца паслядоўна-паступова. Дзве наступныя бачаць і схопліваюць: усё, што ў іх адбываецца, адбываецца імкліва і спараптоўна, аб’яўляючыся знутры таго, што ўжо выявілася, як з’ява своеасаблівай, затрыманай у імгненнях, маланкі. І апошняя, шостая, страфа “пагашаная”: у ёй ужо нічога не адбываецца, яна адно сведчыць аб інакшай рэчаіснасці.

У адстароненасці ад усіх і ад сябе да яго вяртаецца тое, што гоіць душу, – праўдзівая рэчаіснасць.

*Ён* адстароньваецца ад сябе настолькі, што нічога не кажа пра тое, хто ён і што ён і чаму апынуўся тут, у тэлефоннай будцы, і нават пра самога сябе гаворыць як пра трэцюю асобу.

У вершы няма "я", ёсць "ён", каму ў такім разе прыналежыць зрок, што бачыць яго і тое, што бачыць ён?

Каму прыналежыць аповед, што паведамляе пра тое, што адбываецца з ім і наўкола яго?

Гэта не чый-небудзь зрок, гэта яго зрок, адстаронены ад яго на адлегласць *калісьці*, і гэта яго аповед, уведаны ягонай душой.

*Ён* чуйна і пільна (нават звышчуйна і звышпільна) натуе тое, на што скіроўваецца ўвага, і якраз таму, што гэта ён робіць пільна і чуйна, ён адчувае ў тым, што займае ягоную ўвагу, прысутнасць таго, што не можа выявіць.

У ёй, у той невідочнай прысутнасці, прысутнасці нераспазнанай ёсціны, таямніца: яна не распазнаецца наўпрост, але ёй ён ужо распазнаны.

Як у знакамітым, напоўненым знакамі, апавяданні "Смаленне вепрука", галоўнай дзейнай асобе і адначасова адстароненаму на пэўную адлегласць апавядальніку ўспамінаецца да драбніцаў, да адценняў колераў, гукаў, пахаў, што з ім, калі, дзе, як было, а ўся ўвага сцягнута ў гэты час на нешта, што знаходзіцца адразу па-за гэтым, амаль абвяшчаецца і што ён, аднак, не можа ўспомніць і адпусціць не можа, ці яно само не хоча альбо не можа яго адпусціць, так і тут. Ён гаворыць пра дождж і вецер, а глыбінёю ўвагі ўжо аддадзены таму, што па-за гэтым, што настае і мае настаць.

Усё поўнае знакаў і ўсё, да чаго дакранаецца ўвага, – знакі. Кроплі – знакі той весткі, з якою прыходзіць дождж, а лісце – з якою вецер.

У знакаў піктаграфічнае пісьмо: душы яно знаёмае адпачатку.

*Ён*, адварочваючыся ад сябе і паварочваючыся да наваколля, да таго, што там адбываецца, паварочваецца нейкім чынам да сябе гэтаксама.

Ён паварочваецца ад таго, чым была занята душа, і занята так, што тое, чым была занята, ёй было ў пярэчанне і ў празмернасць, да таго, чым душа не занята – і вось у гэтай незанятасці, адпушчанасці ад таго, што адбываецца, знаходзіць сабе ўцеху – свае душэўныя лекі.

У тым, што дзейсніцца ў наваколлі, выяўляецца змест, адрасаваны яму.

Ужо нічым не заняты і ні з чым не звязаны, *ён* дазваляе адбывацца ўсяму, як яно хоча, і душа ў гэтай незанятасці суцяшаецца, і свядомасці адтуляецца "даўні рубеж".

Незанятасць вызваляе існае з-пад улады акалічнасцяў.

"Яе як быццам суцяшала..." Што азначае суцяшала? І якім чынам вецер з яго паводзінамі можа суцешыць душу?

Тое *што*, што суцяшае душу, уводзіць яе ў той стан, у якім яна стаецца сугучнай і суадпаведнай сваёй ёсціне. Яе ёсціна ціша, і суцяшацца – суадпавядаць цішы, судакранацца з ёю. Глядзець і слухаць – заставацца на адлегласці, а судакранацца – узаемадзенічаць, і ціша – ужо дотык.

У цішы няма слоў, але ўсе словы вымаўляюцца з яе.

Вецер таксама.

Мова, на якой гавораць дождж і вецер, яму свая, найбольш свая, нават у

параўнанні з тою, на якой гаворыць *ён* сам: тое, што гаворыцца, агучвае тое, што ёсць, а яно па-за маўленнем.

У вершы таксама ёсць тое, што вымаўляецца і што застаецца па-за маўленнем, што выяўляецца вядомым і што выяўляецца невядомым і што ніяк не выяўляецца: з іхняга ўзаемадачынення і ўзаемадзеяння творыцца верш.

Як вецер ні ў галінаў верхавых, ні ў плашчоў, кашуляў і спадніцаў не пытаецца згоды, як яму паводзіцца, так і тое, што настае і адбываецца з ім самім, не пытаецца ў яго на тое згоды, а настае і адбываецца для яго самога ў дзіва – у дзіва, што вынікае з яго самога.

Яно вынікае з самой яго ёсціны, і таму, што вынікае, мае на тое згоду яе самой.

У горада свой ландшафт, свая тапаграфія, свая рэчаіснасць, і той, хто ў яго ўпісваецца, у ім мае свой кшталт і становіцца самому сабе вядомым.

Увесь – *ён* не ўмяшчаецца ў горадзе, і дождж і вецер апынаюцца тымі чыннікамі, якія перайначваюць горад: яны для яго больш свае, чым сам горад.

Горад упісаны ў сваю тапаграфію, а дождж і вецер прыйшлі (перасяліліся) адтуль, дзе тапаграфіі няма, альбо, калі ёсць, то зусім іншая, і таму, што адтуль, яны блізкія самой душы, якая і сама тут перасяленка: яны ёй кажуць тое, чаго не здольныя сказаць людскія размовы.

І тое, што на дварэ цяпер якраз такая пара і такое надвор’е, вынікае з яго стану і вытлумачвае яго стан.

Так, вецер паводзіцца, як яму зажадаецца, але аб’явіўся гэтакі ён тут таму, што так зажадалася рэчаіснасці; – і ёсціна рэчаіснасці ўяўляецца ў вецер.

Душа шукае і знаходзіць суадпаведнае месца, дзе выяўляюцца і распазнаюцца знакі.

У тэлефоннай будцы *ён* апынаецца сам-насам з душой і таму, што з ёю, з сабою нераспазнаным.

Ён маецца тут, маючы сябе там.

Кроплі, падаючы на тэлефонную будку і далей-шырэй наўкола, маюць гучанне – яны збіраюцца ў шэпт і твораць размову. У гэтай размове ўдзельнічае наваколле, адгукаючыся на яе, адшэптваецца душа – лечыцца.

Лечыцца ад чаго? Пэўна ж, не ад таго, што ёй сваё, а ад таго, што ўвайшло ў яе і, ёю прынятае, з ёю не супадае.

Аднак яно прынялося, бо яно ўсё ж такі нейкім чынам сваё: не сваё – не змагло б прыняцца, не прынятае – не змагло б увайсці.

*Ён* адасоблены ад душы, і душа стаецца ягонай маёмасцю, і пакуль яна стаецца ягонай маёмасцю, яна стаецца не набытай, а ён сам апынаецца тым, хто яшчэ не стаўся сабой.

Тым сабой, хто ўжо ёсць.

Ён апынаецца тым, хто не ведае, кім ён ёсць, што з сабою рабіць і куды з сабою ці ад сябе падзецца. Ён заняты нечым, і яго душа з ім, але ён не ёсць ёю. І ў якой меры не ёсць ёю, у такой не ёсць сабой.

Пакліканы, верш суадгукаецца з ёсцінай, якою пакліканы, і стаецца пакліканым тады, калі стаецца пакліканым *ён* – той, кім верш вымаўляецца.

Каб стацца пакліканым, трэба ўжо мець у сабе суадпаведнае – тое, што можа клікацца і суадгукацца.

Верш суадгукаецца з ёсцінай сваёй суадпаведнасцю з ёю, вытлумачэнне выводзіць з гэтай суадпаведнасці веду.

*Ён* затрымліваецца ў тэлефоннай будцы і, затрымліваючыся ў ёй сваёй асабовасцю, выходзіць з самой асабовасці і самога затрымлівання, аднак не да канца, і, выходзячы з іх, як з тэлефоннай будкі, у іх і затрымліваецца.

*Ён* недзе нешта забыў і намагаецца аднайсці і ўспомніць: ён недзе забыў самога сябе.

У ёй, у тэлефоннай будцы, ён апынаецца на відушчым месцы, з якога бачыць, што адбываецца ў блізіні і нават у далечыні, куды не сягае позірк.

Гэтае месца аднаходзіцца ў ім самім.

*Ён* апынаецца ў своеасаблівым паўстане – паміж *у* і *з*, і ў гэтым паўстане выходзіць *па-за* – за "даўні рубеж".

А для "плашчоў, кашуляў і спадніцаў" тое, што адбываецца ў тэлефоннай будцы, як бы і не адбываецца.

Кропляў шмат, іх так шмат, што яны засяляюць усё наваколле і, ім прынятыя, застаюцца не самі сабой, а супадаюць з самім наваколлем – жывяць яго сабой.

Гэтак супасці з чым бы ні было *ён* не можа, а мо і не хоча, нават з самім сабою: *ён* застаецца ў несупадзенні – у застатасці.

"Што вецер згоды не пытаў" – алюзія і водгалас на тое, што сам *ён* пытаў і шукаў згоды, але не дапытаўся і не дашукаўся: не так пытаў і не там шукаў?!.

І вось яму, што застаецца сам-насам са сваёю душою, раптам само адкрываецца "так" і "там" – ён сам адкрываецца сабе.

Знаходзячыся ў капсуле тэлефоннай будкі, ён знаходзіцца ў глыбіні рэчаіснасці і яе выяўляе, яна не ўсюды адна і тая самая, і самой з'явай свайго знаходжання ў ёй, з яе ад'яўляецца: у яго адносінах з наваколлем усталёўваецца мера адлегласці, дзякуючы якой адкрываецца пагляд.

Адкрываючыся, пагляд адкрывае і само наваколле: бачыць тое, што ў ім змяшчаецца і што ў ім не ўмяшчаецца, – прадбачыць. "Ён наглядаў..."

*Ён* бачыць і ўжо прадбачыць, і тое, што яму аб'яўляецца ўслед і раптам, – прадбачанне. *Ён* бачыць прадбачанне і распазнае сябе ў ім.

Усё асабовае, на што скіроўваецца зрок, бачыцца выразна, дэталёва, маляўніча, усё душэўнае – уяўна, каб яго акрэсліць, не хапае азначэнняў, а тыя, якія выяўляюцца, прыблізныя, і ўсё, што імі акрэсліваецца, апынаецца як бы недастаткова ўбачаным і распазнаным.

Чаму і як размяжоўваецца тое, што ёсць, на асабовае і душэўнае?

Чым і як розняцца між сабою зрок той і гэты?

Гэта адно і тое ж існае, уведзенае ў розныя зместы: асабовае застаецца ў знадворным, душэўнае – ва ўнутраным; гэта адзін і тойсамы зрок, уведзены ў розныя меры адлегласці: асабовае глядзіць са знадворнага ва ўнутранае, душэўнае – з унутранага ў знадворнае, у іх розныя інтэнцыі бачання і розны змест бачання: адзін – для сябе, другі – ад сябе.

Чым насычаны (і перанасычаны) верш, дык гэта ўмоўнымі азначэннямі. "Як бы", "як быццам", "нейкай", "а мо", "нейкім", "ці то" – адбываецца апісанне таго, што ў відавочнай рэчаіснасці не мае знакаў, а ў мове – найменняў. У такім апісанні, праз прыблізнасці і падабенствы, узнікае патрэба тады, калі тое, што апісваецца, пераўзыходзіць тое, што ёсць тут і што вядома свядомасці.

Як у кнізе прарока Езэкііля: "...як бы відната полымя з сярэдзіны агню; і з сярэдзіны яго было відаць як бы падабенства чатырох жывёлін, – і такі быў выгляд у іх: аблічча ў іх было, як у чалавека... А над скляпеннем па-над галовамі

ў іх было падабенства трону з выгляду як бы з каменя сапфіра; а над падабенствам прастолу як бы падабенства чалавека... як бы полымны метал... як бы нейкі агонь...” (Езэк., 1:5; 1:26, 27).

Самае асноўнае ў вершы адбываецца як бы само па сабе, па-за ўдзелам дзейных асоб і нават аўтара, і адбываецца яно за тым “даўнім рубяжом”, куды яны сваімі постацямі не могуць увайсці, але адкуль да іх даходзяць весткі, выпраменьваецца відната і дзе яны на самой справе ёсць – ёсць сваёй сутнасцю, што не атаясамляецца з асабовасцю.

“За даўнім рубяжом” не месца, а пазаместа, не час, а пазачас, і душа адтуль.

Вецер – яго самога не відаць, відаць адно, што дзейнічае; і калі кранае, ссоўвае, шкуматае, парушае кшталты відочнай рэчаіснасці, яе тэстуе і, тэстуючы, як бы апратэстоўвае: душу цешыць гэты пратэст.

“Плашчы, кашулі і спадніцы”: унутранае апранута ў знадворнае, і вецер гуляе з ім (знадворным) у свае гульні – *шкуматае*. Знадворнага не існуе без унутранага, яго (знадворнага) шмат, і яно мае кшталты – вобразы, а ўнутранае імкнецца да суадзінства.

Унутраны, *ён* можа ўвайсці ў знадворнае, адно апранаючыся ў знадворнае;

знадворны – можа ўвайсці ва ўнутранае, адно адпранаючыся ад знадворнага.

Без гэтага апранання і адпранання ўваход немагчымы, а калі нейкім чынам магчымы – то стратны, як парушэнне.

Знакі выносяцца з глыбіню на паверхню, знутры ў знадворнае.

Знадворнае не можа іх прачытаць, але і адвярнуцца ад іх не можа.

“Даўняе” за рубяжом: за ім (рубяжом), не аб’яўляючы сваёй прысутнасці, прысутнічае тое, што не памятаецца, а ёсць. Тое, што памятаецца, прыналежыць асабовасці і вымяраецца, якой бы шматзначнай яна ні была, часавай меркай, тое, што ёсць, ад асабовасці ад’яўнае і прыналежыць не асабовасці, а сутнасці.

Сутнасць не аб’яўляецца, а ёсць.

*Ён* тут, але заняты тым, што не знаходзіцца тут і тут апынаецца як вестка ці знак.

Вестка – павадыр: яна выводзіць таго, каму адрасуецца, у прызначаную яму наступнасць, знак – пакідае сам-насам з тэстам, якім становіцца сама рэчаіснасць.

Усё поўніцца патаемным зместам, што ведае нешта пра яго самога, чаго не ведае ён сам.

*Ён* раз’яднаны з сабой, і таму што раз’яднаны, рэчаіснасць гуляе з ім у свае хованкі.

*Ён* увесь час пра нешта здагадваецца і нешта прадчувае.

*Ён* вядомы сабе сваёй свядомасцю (сувядомасцю), а істотны невядомасцю.

*Ён* не мае сябе, а мае маёмасць сябе, і, заняты гэтай маёмасцю, апынаецца самому сабе загадкай.

Знак ведае *нешта*.

Ён адрасаваны душы і заўважаецца адно душою, і адно тады, калі заўважаецца душою, пачынае чытацца зрокам ці слыхам.

Знак выяўляецца з наступнасці, у якую з’яўленая рэчаіснасць яшчэ мае ўвайсці, і душы нейкім чынам ужо загадзя знаёмы.

У адрозненне ад з’яў наваколля, дзе ўсё, што адбываецца, заўважаецца да драбніц і вымалёўваецца дэталёва, усё, што тычыцца з’яў душы, з’яў, што застаюцца за даўнім рубяжом, набывае кшталт умоўнага ладу. *Ён* іх бачыць, але не зусім, разумее, але не зусім, і сам у суадносіне з імі становіцца велічынёй умоўнага кшталту – *як бы.*

Знакі самі заўважаюць таго, каму яны адрасаваны, вылучаюць з навакольнага асяроддзя і робяць істотным – істотным для ёсціны.

Міхась Стральцоў паэт патаемнай весткі, і знакі – яўныя ці няяўныя – асноўныя дзейныя асобы яго твораў.

Яны рассыпаны па ўсёй яго творчасці, упісаны ў рэчаіснасць, якую ён вымаўляе, ён і вымаўляе яе якраз таму, што яны ў яе ўпісаны. Нездарма ў яго творчасці такая вялікая ўвага надаецца дэталі: знак аб'яўляецца праз дэталь.

Сітуацыя, што ўзнікае ў вершы, настойлівая і не выпадковая, яе транскрыпцыі сустракаюцца і ў іншых творах, працытуем адну – з таго самага "Смалення вепрука".

"Азірнуцца захацелася яму, ён ужо і намерыўся, але не мог. І тады як бы парыў ветру нечакана напружыўся, ураз раскідаўся ў яго за спіной: зашалясцела, зашастала, невядома адкуль узяўшыся і асыпаючыся долу, сіберна-калянае лісце. Стала ціха. Холад і спусташэнне чуў ён за сабой. Падалося на момант, што ён заплюшчыў вочы, адно чуючы, як іначылася, незразумела іначылася ўсё наўкол яго, а можа, і ў ім; і страх працінаў ягонае сэрца. І ён тады ўбачыў... О, ён убачыў усё так дакладна – у той кароткі міг, калі нехта, дачасна схаваны ў ім, адным балючым штуршком расхінуў яму вочы і грудзі!"

Знакі аб'яўляюцца ўслед за нечым тым, што ўжо ў глыбіні існасці адбылося. Сваёю ўвагай душа скіроўваецца на іх – яна іх чытае, яны для яе істотныя.

Той, хто чытае знакі, распазнае іхні змест, і ад таго, як чытае і як распазнае, залежыць сам змест.

Ёсціна выяўляецца ў знаках?!.

У другой страфе слова "абражала" рыфмуецца са словам "суцяшала", семантычна гэта не самая лепшая рыфма, дзеяслоўная, як бы схопленая наспех і выпадкова, аднак самі словы, ёю названыя, глыбока не выпадковыя: яны ўзятыя з таго кантэксту, у якім знаходзілася душа і досвед якога яна цяпер перажывае, – ён ёй у верад (і ў роспач) і разам з тым неабходны.

У той жа страфе да іх дапасоўваецца слова "лячылася": яно таксама адтуль – з таго ж досведу і таго ж кантэксту.

Тое, што выклікае "шоргат" і што змушае калыхацца галіны дрэў і трапятаць лісце, – дотык: яго нясе з сабою дождж і ўводзіць у горад вецер.

Знакі маюць уласцівасць датыкацца да таго, каму яны адрасаваны.

Засяроджаная на ўнутраным, душа адсяроджваецца ў знадворнае, і ў гэтым адсяроджванні суцяшаецца і лечыцца ад таго, што само вынікла з нечага таго, пра што ў вершы не згадваецца, а што, тым не менш, угадваецца, – з не той размовы, з не той суадносіны.

Урэшце адзіная праўдзівая суадносіна – суадносіна з тым сабою, што застаецца за "даўнім рубяжом", астатнія альбо дадаюцца да яе, альбо ад яе адымаюцца.

"Я" па-за відавочнай рэчаіснасцю, *ён* – у ёй: у суадносіне з "я" ўсё відочнае апынаецца знадворным, *ён* гэтаксама.

Чалавек недзе размінаецца з самім сабой і, як вецер, стаецца захопленым тым, што сустракаецца, – *плашчамі, кашулямі і спадніцамі*, а калі не знаходзіць іх, то проста захоплены самою сваёю захопленасцю, і "я", самаістотнае і вольнае ад якіх бы ні было захапленняў, застаецца па-за ім – "за рубяжом".

Душа мае свой зрок і свой слых. Тое, што можа душу зняважыць ці абразіць, – гэта *што*, а тое, што яе суцяшае і гоіць, – *нішто* ("Нішто пагляд не абражала").

Усякае *што* вынікае з *нішто* і, вынікаючы, апынаецца яму знадворным, а душы спазнавальным – відочным і чутным.

Нішто – айчына душы: у ім яна мае сябе самую сябе самой.

З вышыні, да якой сягаюць дрэвы і сам горад, вецер апускаецца ўніз, у горад, у прастору, абжытую людзьмі, – ён як бы таксама хоча апрануцца ў людзей.

Аднак тое, ува што апрануты людзі, не ёсць іхняй праўдзівай выявай, яна не ўзнікла з іх саміх, і вецер не набывае ні яе кшталту, ні яе колеру, а шкуматае яе – як нешта не тое ці не адпаведнае сабе.

Вецер паводзіцца, як яму зажадаецца, і ў сваіх паводзінах мае рацыю. З чалавекам усё інакш, і паводзіцца, як зажадае, не можа, альбо – не можа знайсціся такім, каб паводзіцца, як яму зажадаецца.

“Нішто” не ёсць адсутнасцю якой бы ні было рэчаіснасці і не ёсць яе нейкай, якой бы ні было, прысутнасцю, яно па-за прысутнасцю і адсутнасцю, і яго ёсціна, не схопліваючыся якой бы ні было акрэсленасцю і якім бы ні было азначэннем, мае сябе ў *інакш*.

Знак вынікае з *інакш*, і яго змест *інакшы*.

Душа чуйная і, як верхавыя галіны дрэў, адгукаецца на любы водгук таго нябачнага ветру, які, каб яе кранаць, не пытаецца ў яе на тое згоды, і ў тым, што не пытаецца ў яе згоды, ёсць нейкая вялікая справядлівасць, і сам увідавочніваецца, калі кранае яе.

І як у горадзе дождж і вецер, гэтаксама вялікая роспач і дзіўная дзната, каб аб’явіцца, не пытаюцца на тое ў душы згоды альбо калі пытаюцца, то інакш.

Праз моўную тканіну верша праступае тое, што ў яе не хоча, а мо не можа апрануцца.

Душа памятае тое, што свядомасць мае ўспомніць, памятае іншую рэчаіснасць – сваю.

Успомніць яе – апынуцца ў ёй,

успомніць сябе – стацца сабой.

А пакуль што *ён* яшчэ застаецца не ў ёй і не ў сабе, а ў часе і ў звароце да яе і да сябе.

Душа – маці і матрыца свядомасці, яна не ёсць, яна самаёсць.

Свядомасць шукае і распазнае сваё, душа – зберагае.

Той *ён* знаходзіцца з таго боку даўняга рубяжа, *ён* гэты – з гэтага, а душа з абодвух.

Той *ён* і гэты між сабою суадбываюцца, і тое, што адбываецца з ім, гэташнім, адбіваецца на ім, тойным.

Разасоблены з сабой, *ён* шукае сябе самога: шукае, бо тут адчувае сябе пакінутым, шукае, бо мае сябе пакінутага там.

Ён уцягнуты ў пошук так, што пошук стаецца яго маёмасцю, і калі аб’яўляюцца вынікі пошуку, для маёмасці, якую мае “я”, яны ў дзіва, яны ў адкрыццё, і свядомасць марудзіць іх прыняць і з імі атаясаміцца.

Шукаючы сябе, ён стаецца не знойдзеным і застаецца па-за тым, што аднайшлося само.

Чаму і якім чынам, знаходзячыся тут, *ён* ёсць і там?

Чаму і якім чынам, ёсцячыся там, *ён* знаходзіцца і тут?

Ёсціна асягаецца, застаючыся не асягнутай.

*Ён* шукае таго сябе, кім сам ужо знойдзены, і таму, што знойдзены, – шукае.

У творах Міхася Стральцова няма месца ні смутку, ні якой-небудзь весялосці: душа занята не імі. Затое і перад усім ёсць нешта іншае – настойлівае адчуванне прысутнасці нечага іншага, чаму няма наймення і што ўнутраным зрокам, альбо зрокам душы, ужо, аднак, заўважаецца.

Што да вялікай роспачы, то ні смутак, ні весялосць яе не сягаюць.

Аднак што азначае гэтая вялікая роспач, гэтая дзіўная відната?

Што выклікала іхняе прыйсце і на чыё месца яны заступілі?

І адкуль выніклі?

Яны не маглі прыйсці не на суадпаведнае месца, і як агонь прыходзіць на тое месца, дзе ёсць для яго спажытак, так і яны прыходзяць на сваё месца. Яны выніклі з самое душы, з яе відушчай дзелі, і іхні спажытак тое, чым яна была занята дагэтуль, з чым атаясамлялася і ад чаго не магла вызваліцца сама.

Яны двухадзіныя – вялікая роспач і дзіўная відната, і калі не-вялікая роспач і не-дзіўная відната спалучаюцца са з'яўленай дадзенасцю і жывяць яе сабою, то вялікая роспач і дзіўная відната ўсё цалкам перайначваюць.

Яны нічога не пакідаюць яму, апроч пакінутасці, і гэтая пакінутасць вялікая.

Застаючыся без ранейшай сваёй маёмасці і не набыўшы ніякай новай, *ён* апынаецца ў адчассі, а ўсё, што было – у *калісьці.*

"Калісьці" прыналежыць памяці, чаму прыналежыць "даўняе", дык гэта пачатку, і калі вымяраецца, то эонамі, але самі гэтыя эоны змяшчаюцца ў імгненнях – імгненнях віднаты.

Вялікая роспач – вялікая пустата, чыстая ад асабовасці і яе аблiччаў, чыстая не адпачатку, а даступная для пачатку. На месцы таго, што было, аднаходзіцца тое, што ёсць да таго, як яно было.

У ёй *ён* не мае сябе, а мае яе ў сабе як свой раптоўна выяўлены змест.

Вялікая роспач спальвае ўсе страты і ўсе набыткі і адмыкае пачатак: ён загадзя мае ўсё.

Тое, што вялікая роспач паклікала дзіўную віднату, кажа пра нейкую, уласцівую ім, суадпаведнасць.

"Роспач" – слова, багатае на значэнні. У "Этымалагічным слоўніку беларускай мовы" прыводзяцца дзве асновы, якія кажуць пра магчымасць яго вытлумачэння. Першая: слова "naopak" – польскамоўны транскрыпт старaславянскага "опакы", што азначае назад, наадварот. Другая: старажытнарускае слова "розпачь" – "щель земная". Яго змест удакладняецца і паглыбляецца, да прыкладу, зместам сербалужыцкага слова "rozpačina", што азначае *пралом, разлом, трэшчына,* і далей зместам слова "rozpačeć" – *разломваць, расколваць, узломваць, расчыняць сілком.*

Апрача згаданых, ёсць яшчэ адна захаваная ў старaславянскай мове аснова – слова "пачє", яно азначае, калі перакласці, *нават, звыш таго, больш чым, апрача.*

Роспаччу не валодаюць. Яна таксама не пытае згоды і настае са звыш таго, што *ён* мае, разломваючы тое, што ён мае, і даючы яму больш, чым можа змясціць.

Тым самым чынам, якім прыйшла роспач і прыйшла відната, мусіла б прыйсці і далейшае – само, без яго свядомага асабістага ўдзелу, аднак яно не прыходзіць, і верш сведчыць: "Не абазваўся нейкім знакам..."

Якой сваёй існасцю і якім такім знакам ён змог бы абазвацца, калі ў ім, магчыма, няма ні таго, ні другога, а калі і былі, то спаліліся вялікай роспаччу і сцёрліся дзіўнай віднатой?

І ўсё ж такі, аднак, ёсць: узаемнай існасцю і ўзаемным знакам – тым, які

адгукаецца і ў водгуку мае свой змест. І таму, што ёсць, той, хто за даўнім рубяжом, падае свае знакі. Яны гэтаксама водгук.

Паміж *ён*-тут і *ён*-там адлегласць, што ніяк не вымяраецца, ці калі вымяраецца, то ў эонах, але таму, што яна ёсць, творыцца верш: у ёй ён (верш) выяўляецца, сувымяраючыся і суадносячыся з ёю, яднаючы "тут" і "там".

Для таго, хто яе асягае, яна ўвасабляецца ў магчымасць.

Віднатa *дзіўная*: у ёй адкрываецца тое, што дагэтуль было ўтоена, і, адкрываючыся, для свядомасці стаецца адкрыццём: яна (свядомасць) не распазнае і не ведае, што тое, з чым яна звыклася і што асвоіла, можа быць не такім – іншым. Іншым настолькі, што папярэдняе (звыклае) не гатова яго прыняць.

Яна (віднатa) адкрыла і выявіла для яго таго яго, кім *ён* ёсць насампраўдзе і кім яшчэ не стаўся.

Ён яшчэ не гатовы быць тым, кім ёсць: пэўна, яшчэ не ўсё адшаптаў дождж, яшчэ не ўсе "плашчы, кашулі і спадніцы" пашкуматаў вецер.

Дзіўная віднатa па-за ім: па-за ім настолькі, што для яе не існуе адлегласці, у якой *ён* мае сябе і сябе аднаходзіць, і "даўняе" – набытак і вынік адлегласці – тут.

"Як быццам" – тое яно, што застаецца не сфармаваным і не сфармуляваным: яно не ўсведамляецца думкай і ад думкі ўхіляецца. У ім утойваецца невядомы змест, як у цяню ад вясла само вясло, само ж яно застаецца па-за ім ("Цень ад вясла" – так называўся зборнік паэзіі Міхася Стральцова).

*Як быццам* вытлумачваецца *інакш*.

Самае істотнае надыходзіць і мае надысці само, калі б не існавала амаль непрыкметнага ўдакладнення "як быццам". Яно ўхіляецца ад разгляду і не паддаецца вытлумачэнню – яно наогул ніякім чынам не аб'яўляе сябе. Яно ёсць, але ёсць нейкай інакшай, чым усё астатняе, ёсцінай, і адтаго, што яно ёсць, усё астатняе набывае асаблівы статус. Яно набывае статус знаку.

Знак выяўляецца і аб'яўляецца сам, не пытаючыся на тое ні ў кога згоды і не маючы патрэбы ў чыім бы ні было ўдзеле, але яго змест не ў ім, як ва ўсяго астатняга, а па-за ім, у тым, каму ён адрасаваны. І адно той, каму ён адрасаваны, заўважае яго.

Змест знаку ў ім, у тым, каму ён адрасаваны, унутры яго самога, аднак ё н сам яшчэ не стаўся настолькі ўнутраным, ці "зарубежным", каб з ім (зместам) супадаць і ім валодаць. *Ён* знаходзіцца між унутраным і знадворным, і тэлефонная будка ўвідавочнівае яго самазнаходжанне.

*Ён* – гэта хто: ён скіраваны да сваёй сутнасці, і словы суадносяцца з гэтай скіраванасцю, не было б яе – не было б іх.

Словы – знакі на дарозе скіраванасці, а верш яе сведчанне.

Да таго, як стаўся "ён", "я" ўжо было, і "ніхто" яго сутнасць.

Верш выяўляе імкненне існасці з нятоеснага стану ў тоесны, са *што* – у *нішто*.

Каб дайсці да сябе, *ён* мае вярнуцца – адтуль, дзе найменні маюць "я", туды, дзе "я" не мае найменняў.

Тое, што застаецца за даўнім рубяжом, мае моц і ўласцівасць заставацца і заставацца так, што, застаючыся, апынацца не страчаным, а захаваным тым, чым яно яшчэ можа стацца, гэта азначае набытым.

Таму, што яно яшчэ не набытае, *ён* уваходзіць у тэлефонную будку.

Каб ён змог з яе выйсці, яна мусіць яго выпусціць: ён мае не проста з яе выйсці, а – вынікнуць, аднайсціся.

Магчыма, тое, што застанецца найпасля – шкарупіны таго, што адбывалася і адбылося.

Захацець – ужо нейкім чынам змагчы, пачаць магчы, паклікаць магчымасць і выйсці ёй насустрач. Той, хто выходзіць насустрач магчымасці, выходзіць насустрач і перашкодам, аднак, пакліканая, магчымасць знаходзіць сама дарогу і спраўджваецца як бы без яго непасрэднага ўдзелу.

Знакі адамкнёна-замкнёныя, у іх утойваецца прысутнасць тае наступнасці, якая для ўсёй астатняй рэчаіснасці адсутная: не настала і нават не намерваецца наставаць.

Знакі адамкнёныя тым сваім зместам, якім астатняя рэчаіснасць не валодае. Гэтым яны вылучаны з яе і гэтым замкнёны ад яе: чым вылучаны, тым замкнёны.

У адамкнёным імкненне набывае кшталт і ў ім захоўваецца.

*Ён* замкнёны ад сябе сваёй адамкнёнасцю.

Усё, што вынікае з сутнага, мае прыйсці сваёю хадою і ў свой час; калі – яно само ведае найлепш, і апярэджваць яго – адпрэчваць яго, займаць сабою тое месца, якое мелася б заняцца ім.

Адно – *ён* мае быць сцярожкі і пільны, каб не пакінуць гэтае прыйсце па-за ўвагай; застаючыся па-за ўвагай, яно (нешта) не здолее спраўдзіцца і аб'явіцца альбо спраўдзіцца і аб'явіцца па-за ім.

У дзіўнай віднаце яму адкрываецца *ён* сам – той, кім ён ёсць насамправўдзе, а разам з тым: той, кім ён ёсць насамправўдзе, заўсёды і ёсць у дзіўнай віднаце. Там ён атулены ёю і з ёю атаясамлены, як атаясамлены тут, у тэлефоннай будцы, з дажджом і ветрам, і там для яго яна з'яўляецца не дзіўнай, а сваёй.

Атаясамленне з дажджом і ветрам доўжыцца ў самім часе: яно паступовае.

Аднак з самой дзіўнай віднатой *ён* не атаясамлены – яна для яго выклік. Каб атаясамляцца з ёю, ён мусіць стацца *іншым*.

Але таму, што ён атаясамляецца (і здатны атаясамляцца) з дажджом і ветрам і мае сябе як іхні змест, яму адкрываецца і змест дзіўнай віднаты – і гэтым зместам апынаецца ён сам: ён, але не тойсамы.

Тое, што адбываецца тут і цяпер, адбываецца само *як быццам*, яно заўсёды ўжо вынік таго, што ў сваёй сутнасці адбылося недзе там і некалі даўней, у эонах, там, дзе адлегласць яшчэ не займела свайго вымярэння, і тады, калі час яшчэ не ўсчаў свайго адліку.

Калісьці – гэта калі?

*Ён* адпачатку іншы сабе, і ў гэтай іншасці эоны знаходзяць сваю меру.

Час не ідзе сам, ён ідзе з некім.

Свядомасць душы і свядомасць асабовасці не тоесамныя і нятоесамныя: яны здольныя атаясамляцца і растаясамляцца – быць разам, быць паасобку і ў супярэчанні адно з адным.

"Не паклікаў", "не абазваўся нейкім знакам" – чаму? Менавіта таму, што ён здольны быць тым, хто пакліча і абзавецца нейкім знакам. *Ён* ужо і яшчэ адасоблены сабою ад сутнага так, што здольны быць асабовасцю, і мера асабовасці ў свядомасці самой асабовасці.

*Ён* для сябе занадта вядомая велічыня, каб змагчы супасці з сутнасцю – заўсёды

невядомаю велічынёю, і мае зашмат сябе, каб змагчы атаясаміцца з віднатою, а каб атаясамляцца з плашчамі, кашулямі і спадніцамі – знаходзіцца на дастатковай адлегласці ад іх.

Нішто да канца не дагаворана,
нішто да канца не вырашана,
нішто да канца не вядома –
і знак вынікае з "як быццам", адтуль, дзе чалавек ёсць, але інакшаю ёсцінаю, чым тут, ці – тойсамаю ёсцінай, але інакшаю асабовасцю.

Дзе б чалавек ні быў, ён усюды ўжо і яшчэ не тойсамы: не канчатковы і не першапачатковы. Не канчатковы, бо не першапачатковы. Усякі раз ён набытак самога сябе, і ўсякі раз не ўвесь.

Тое, што адбывалася паступова і незаўважна, раптам увідавочніваецца і адбываецца раптам. Так, паступова і незаўважна збліжаючы адлегласць, раптам адбываецца сустрэча.

Паступова і незаўважна для гэтай дзелі рэчаіснасці, і раптам таксама для яе, але для тых дзеляў, для якіх ёсціна не засланялася іхняй ад'яўнасцю ад яе, збліжэнне дзеляў (і ўбліжэнне віднаты) мусіла быць ужо да гэтага відавочным.

Там, за рубяжом, ён ёсць заўсёды сабой, а адкрываецца адтуль раптам.

Зазірнуць за "даўні рубеж" – гэта ўжо нейкім чынам апынуцца там, убачыць сябе самога за "даўнім рубяжом" – гэта ўжо нейкім чынам стацца ім.

"Раптам" выводзіцца ад лацінскага "rapto", што азначае хапаць, красці.

Што набывалася "паволі" і "паступова", "раптам" рабуе і выяўляецца ў вершы вялікаю роспаччу – рабункам і водгукам на рабунак. Вялікая роспач рабуе маёмасць – тое, чым быў ё н заняты і асабовы, і, вызваляючы яго ад яе, вяртае яго ў "нішто".

Нішто празмернае: яно больш чым поўнае зместам, змясціць які раптам – страціцца і спаліцца, перастаць быць "хто".

Тое, што яшчэ не ўчулася слыхам, не ўбачылася зрокам, не ўведалася розумам, ужо ўчулася, убачылася, уведалася душой.

Міхась Стральцоў услухоўваецца ў сваю душу: у яго творах у розных акалічнасцях настойліва ўзнікае таясамая, самая істотная для яго, сітуацыя, калі нешта мае выявіцца і вымавіцца.

Што? *Нешта.*

У *нешта* няма свайго кшталту і вобразу, аднак яно ўтойваецца ці не ва ўсіх кшталтах і вобразах і апынаецца іхнім зместам.

Пятая страфа завяршаецца шматкроп'ем. Яно шматзначнае і змяшчае ў сабе тое, што не вымаўляецца ў вершы. Не вымаўляецца, бо ў той ёсціне, з якое ён вынікае, адбылося *нешта*, што пакідае яго без мовы, і тое, што дагэтуль схоплівалася ўмоўнымі азначэннямі "як бы", "як быццам", "нейкай", "а мо", "нейкім", "ці то", цяпер азначаецца знакамі шматкроп'я. Рассыпаныя і раствораныя ў вершы знакі сабраліся ў шматкроп'е: у ім сабраўся сам змест верша.

Што азначае захацець? Захацець – стацца пакліканым з ёсціны магчымасці ў самую магчымасць і адгукнуцца на гэтае пакліканне – выйсці з сябе.

*Ён* стаўся пакліканым сваім "я" і, засведчаны віднатою, аднак, застаўся ў сабе – у сваёй тэлефоннай будцы. Асноўнае тут не ў пытанні, чаму "не мог, а мо не захацеў", а ў ёсціне магчы і захацець: прысвечаны ў яе, *ён* ад яе ад'яўны.

Пэўна, хаценне адрозніваецца ад хацення і магчымасць ад магчымасці: у іх захоўваецца мера самой асабовасці.

Знак у меру не ўкладаецца, ён заўсёды празмерны.

*Ён* не аднаходзіць у сабе знаку, гэты знак аказваецца аднойдзеным па-за ім.

Чым больш вытлумачваецца верш, тым больш складаным ён апынаецца: а мусіла б быць наадварот?!.

Складаны не сам верш, а тая з'ява, з якой верш мае справу, – *ён*: *ён* мае сябе звыш сябе і застаецца сабой не вытлумачаны і не з'яўлены.

Верш творыцца, каб, вытлумачваючыся і выяўляючыся, вытлумачваць і выяўляць, і чытач сутворца.

Знакі з'яўляюцца тады, калі чалавек уваходзіць у зону патаемнага, яны ўтоены і ўсякі раз кажуць пра нешта, што вытлумачваецца наступнасцю і ўсё адно заўсёды застаецца дарэшты не вытлумачаным.

Тое, што адкрываецца, большае за яго, і ў тым, што адкрываецца, *ён* большы за сябе самога.

Самае ўтоенае для яго *ён* сам, і адната, якою ён высвятляецца, для яго дзіўная: ён не гатовы яе прыняць сваёю істотай, ён не гатовы стацца сабой.

Самае істотнае дзейсніцца без яго ўдзелу, альбо з удзелам таго яго, кім сам ён яшчэ не стаўся.

Вялікая роспач і дзіўная адната – распазнанне, якім адсланяецца і гасіцца ўсё папярэдняе, і нават верш не здольны ўступіць з ім у размову, як уступаў у размову з дажджом і ветрам. Каб уступіць з ім (распазнаннем) у размову, патрэбен іншы *ён*, які ўжо гэтым распазнаннем аднойдзены: яно для яго не наўпроць яго, а з ім, ён для яго не наўпроць яго, а ў ім.

Усё, што было дагэтуль раптам апынаецца ў калісьці.

У апошняй страфе верша месца, адкуль верш выяўляў сябе і дзякуючы якому прастора набывала каардынаты, перасяляецца: з *дзе* ў *некуды*.

Верш ад'яўляецца ў прастору, якая не мае каардынатаў.

Не застаецца месца ні для пытання, ні для адказу, месца наогул не застаецца, як быццам тое, што мусіла спраўдзіцца, спраўдзілася і не мае патрэбы ў сваёй прысутнасці, – спраўдзіўся катарсіс, пра які настойліва нагадваюць старажытныя паэтыкі і які для верша найвышэйшае асягненне; спраўдзіўся катарсіс – і адкрылася "дзіўная адната", і калі адкрылася, усё папярэдняе пагасла – перастала мець значэнне.

Але *ён* застаўся. Застаўся тым сабою, які *не мог*, а мо *не захацеў*, *не абазваўся нейкім знакам*, застаўся пакінуты аднатою і – пакінуты вершам.

А для таго яго, хто мог і захацеў, хто абазваўся нейкім знакам, катарсіс перасягнуў "даўні рубеж".

Даўні рубеж асягнуўся "немагчымаю" хваляй – роспаччу і ёсць тою самаю "rozpačina" (ці ейны транскрыпт), якой *ён* адлучаны ад сябе.

Адната, вызваленая ад знакаў, робіць прысутнае невідушчым.

Калі душа абражаецца, чалавек перастае памятаць, хто ён, і перастае быць сабой; замест таго, каб быць сабой, пачынае мець сябе – таго, ад каго душа ад'яўляецца і хто самому сабе ў дадатак.

Душа абражаецца тым, што ёй мелася б стацца сваім і сваім заставацца.

Чужое не абражае.

Горад становіцца чужым, а ён сам у ім вольным ад таго, што прывязвала і трымала.

*Ён* застаецца тут, адгэтуль узятым. Застаецца той застасцю, якая не мае знаку.

Знакі адрасаваны душы, і рэчаіснасць імі змястоўная. Там, дзе яна застаецца без знакаў, яна застаецца і без душы: *ён* застаецца ў тым самым горадзе, магчыма, у той самай тэлефоннай будцы, а душа – ва ўзятасці.

Відната выступіла знутры і калі адступілася, то ўнутр, узяўшы з сабою ўсё, што змагло і захацела ўзяцца, пакінуўшы – што не змагло і не захацела.

Дождж, чый шоргат *ён* чуў, стоячы ў тэлефоннай будцы і які яму (менавіта яму) адрасаваўся, асабовы і мае свой голас. У параўнанні з ім дождж, што згадваецца ў апошняй страфе, безасабовы і безаблічны. Чужым апынаецца тое, што застаецца без аблічча.

Лісце, якое "трапятала", таксама безаблічнае – не мае колеру, і безаблічны вецер, які мае да яго дачыненне, а калісьці ён супадаў з лісцем так, што сам станавіўся ім і быў *зялёны*.

Верш не гаворыць і не дае сведчанняў, што і самому сабе *ён* стаўся чужы, але дае сведчанне, што не тым самым, што калісьці.

Тое, што было ягоным, сталася чужым, гэта азначае: перастала быць сваім, а ў сваім ён сам меў сябе. Сваё – тое, што асвоілася душою, і калі яно становіцца чужым, яно душой пакідаецца, і наўзаем: калі пакідаецца душою, яно становіцца чужым.

З горадам нічога не адбылося, ён застаецца ў тойсамай, вядомай на памяць, тапаграфіі, аднак застаецца не такім, якім быў дагэтуль. Нешта (усё?!.) ў ім змянілася: ён застаецца пакінуты душою. Што адбылося з ёю, ведае яна сама, і слоў у верша, каб казацца, ужо няма.

У горадзе, што стаўся чужым, час не мае аблічча, а тапаграфія месца.

Згасіўшыся ці адступіўшы, дзіўная відната пакінула, аднак, свой знак на ўсім прысутным, на горадзе, які "ягоным быў калісьці" і ў якім *ён* усё адно застаецца, у горадзе, які раптам стаўся чужым, у горадзе, у якім цяпер "ішлі інакшыя дажджы, іначай трапятала лісце".

*Дзіўнае* – гэта адамкнёнае *інакшае*.

*Інакшае* – замкнёнае *дзіўнае*.

"Не адгукнуўся нейкім знакам": *нейкім* – нават не вядомым самому сабе. Усякі вядомы ўжо не той знак і нават не знак, а невядомы – ён мусіў бы аб'явіцца сам ці як бы сам. І ўсё-такі ён аб'яўляецца – вядома-невядомы, і гэтакім знакам стаецца верш – верш, што адпачатку вымаўляўся душою, а найпасля вымавіўся ў словах.

Верш уводзіць у магчымасць, дзе вядомае мае стацца невядомым, невядомае – вядомым, свядомае – несвядомым, а несвядомае – свядомым, у *інакшую* магчымасць, і, уводзячы, сам стаецца ёй.

Леанід Галубовіч



...айчына і гонар – адзінае,
на што можна пакласціся без сумненняў...

# Ад прыцягальнага космасу да выратавальнага каўчэга

***Рэцэнзія на кнігу Міхася Скоблы***

***Міхась Скобла. Саркафагі страху. Прознае. — Мінск: Кнігазбор, 2016. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў “Кнігарня пісьменніка”; выпуск 84). — 392 с.***

*А ўжо свой выдасць непадкупны*
*Аб нас гісторыя прысуд,*
*Калі аглядам гляне рупным*
*І разбярэ, ў чым справа тут.*

Янка Купала

Нядаўна Міхась Скобла ў радыйнай гаворцы з журналістам В. Ракіцкім так патлумачыў змест, а найперш назву сваёй новай кніжкі “Саркафагі страху”: *“Саркафагі ў мяне — сымбаль закансэрваванай мінуўшчыны. Вядома, што ў саркафагах пры адпаведных умовах муміі захоўваюцца тысячы гадоў. На вялікі жаль, уся Беларусь стала своеасаблівым саркафагам савецкай мінуўшчыны — у нас па-ранейшаму на пастамэнтах стаяць ба-*

*льшавіцкія правадыры, а вуліцы і плошчы носяць іхныя імёны".*




Але не быў бы то Скобла, каб не пачаць сваю кніжку з арыгінальнага і, як на маю думку, слушнага пасылу – касмічнасці беларускай нацыі, у процівагу нямытым каўтунам цёмных паляшуцкіх мужыкоў з гістарычнага фотаальбома этнографа Ісака Сербава, да якога нечакана спадобіўся напісаць (падпісаць, завізаваць?) прадмову ажно сам А. Лукашэнка (пра тое ў кніжцы таксама ў адпаведным месцы з'едліваа-іранічна вядзецца)... Таму эсэ "Першы касманаўт..." пра жыццё, асветніцкі і творчы свет Язэпа Драздовіча ўражвае сваёй стылістычнай узвышанасцю і адначасна, як гэта ні парадаксальна, глыбокадумнай заземленасцю беларускага чалавека ўвогуле. Адсюль і такая фантасмагарычная метафара напачатку: *"Язэпа Драздовіча можна назваць першым беларускім касманаўтам. Яшчэ на месцы касмадрома Байканур пасвіліся дзікія суслікі, яшчэ ў правінцыйнай Калузе школьны настаўнік Цыялкоўскі толькі накрэсліваў праекты першых касмічных караблёў, а ўжо летуценны мастак з засценка Пунькі на Віцебшчыне апісваў убачаныя ім краявіды – на Месяцы, Венеры, Сатурне".*

Цікава, што жанрава свае літаратурныя тэксты аўтар пазначыў таксама арыгінальна – **прознае** (я так мяркую, што гэта спалучэнне (сімбіёз) *прозы пра featureзнае*). І напраўду шмат якія эсэ чытаюцца не менш займальна ды інтрыгуюча, чым мастацкія творы нашых сучасных апавядальнікаў. Па-першае, тэксты, напісаныя М. Скоблам, асабіста выбаленыя, настоеныя на шчырасці і сумленні, а ў звязку з вострасюжэтнымі і адметна-калючымі характарамі і вобразамі герояў ствараюць запамінальныя і ўражваючыя карціны нашага нацыянальнага (і антынацыянальнага) жыцця.

Што да кампаноўкі выдання, то структурна кніжка падзеленая на пяць раздзелаў: "Бараніць вуллі свае" (творчыя партрэты выбітных майстроў літаратуры), "Мост у краіну Неманіну" (згадкі пра некаторыя выданні, самавітых людзей і крытычны погляд на асобныя рэчы і падзеі), "Расплятанне тканіны" (антынацыянальныя з'явы і праявы), "Каінава братэрства" (вострапалемічныя, крытычныя і фельетонныя тэксты) і "Збудаваць свой каўчэг" (партрэты найбольш адметных постацяў Айчыны). Хоць часам, як падалося, тэксты маюць і адвольнае месцазнаходжанне.

Гэта што да сцісла-анатацыйнага прадстаўлення кніжкі Міхася Скоблы "Саркафагі страху". А што да самой рэцэнзіі, то тут была ў мяне адна замінка з этычнага боку. Шчыра кажучы, было трохі ніякавата пісаць гэтую кнігу свайго даўняга таварыша, бо ў ёй (нават трохі сорамна ад прыхаванага гонару казаць) ёсць ажно два тэксты, датычныя майго жыцця і творчасці. Больш за тое – яны станоўчыя. І ўсё ж, павагаўшыся, я вырашыў пісаць, бо калі абмінаць публічнай увагай такія здабыткі сучаснай нацыянальнай літаратуры, як рэцэнзаванае тут выданне, то лепш тады ўвогуле не высоўвацца са сваімі опусамі ў сучасны літаратурны працэс.

У звязку з гэтым раз-пораз мне згадваецца паездка дзесяцігадовай даўніны з Міхасём у мястэчка Свіслач на чарговыя ўгодкі па Кастусю Каліноўскаму. А на той час працаваў я ўжо ў холдынгу. І калі апазіцыйную грамаду, што сабралася на акцыю-імпрэзу, пачалі аточваць міліцыянты, ды ўзяліся перапісваць людзей, а некаторых і "шманаць", я, далей ад "бяды", сеў у Скоблаву аўтамашыну і... надзейна зачыніўся ў ёй... Міхась жа бясконца пад'юджваў і цвяліў мяне, маўляў, няўжо табе так страшна, не гадаў-не думаў, што ты такі палахлівец?! І не звяртаў увагі на маё пярэчанне, што, калі дакладуць па месцы працы, то мяне адразу ж выкінуць з работы, і хто тады будзе карміць маю сям'ю... Міхась сам-то быў пад надзейным прыкрыццём радыё Свабода і на падтрымку сям'і ў яго па тым часе, у адрозненне ад мяне, сродкі былі. Але, шчыра кажучы, тады я, і як мужчына, і як свядомы бе-

ларус, адчуў сваю ўнутраную слабасць і прысаромленасць... Як бачыце, да гэтай пары гнятліва памятаю. І ў пэўнай меры кажу Міхасю дзякуй за такі натуральны прынцыповы ўрок беларушчыны і нацыянальнай чалавечай годнасці.

Дык вось, пра сутнасць “Саркафагаў страху”. Пераважаюць у кніжцы станоўчыя вобразы нашых лепшых і таленавітых літаратурных сучаснікаў. Ёсць сярод іх і жывыя і адышоўшыя, і ўслаўленыя і прызабытыя альбо пакінутыя ў ценю жыцця, і нашыя і замежныя... Найбольш месца ўдзелена высакароднай беларусцы і паэтцы, пакутніцы ГУЛАГа Ларысе Геніюш. М. Скобла, і як зямляк, і як журналіст, і як літаратурны збіральнік, ужо неаднойчы выдаваў творы і невядомую спадчыну Ларысы Антонаўны ў спецыяльных, ім укладзеных і адрэдагаваных, асобных выданнях. Тут жа сабраныя некалькі яго эсэ і даволі аб’ёмны артыкул, які можна было б назваць і нарысам, пра эпісталярый, а па сутнасці пра чалавечае жыццё і творчае гарэнне вялікай ахвярніцы Беларушчыны. Перад чытачом не адліваецца з бронзы грандыёзны помнік ідэальнай і беззаганнай гераіні, а не надта яркімі акварэльнымі фарбамі вымалёўваецца партрэт жанчыны, якая здолела прайсці праз сталінскае пекла і пранесці праз немарач савецкага маральнага кодэкса сваю чалавечую і творчую годнасць. Чытаючы згадкі яе ліставання з вядомымі людзьмі, разважаючы над помнымі праявамі яе надзённага жыцця і клопату і нават расчытваючы яе духоўнае пасмяротнае жыццё, пагаджаешся з аўтарам, што ўсё-ткі *“памыляўся Барыс Пастэрнак, калі кідаўся ў вершаваную дыдактыку: “Не трэба нам збіраць архівы,/ над рукапісамі дрыжаць”. Архівы заводзіць трэба. І рукапісы зберагаць неабходна. Яны – дакументы часу, ягоныя метрыкі і пашпарты”.*

Не менш уражліва напісана і пра пісьменніка і нацыянальнага непакорніка Уладзіміра Дамашэвіча. Чытаючы пра яго апошнія дні, нават не верыш, што так пакінута-адзінока гінуў вядомы чалавек у XXI стагоддзі ў цэнтры Еўропы. М. Скобла напамінае сённяшнім чытачам, *“як некалькі гадоў пасля адкрыцця сталічнага метро па-беларуску рабіліся абвесткі толькі на адной станцыі – імя Якуба Коласа. І як менавіта Уладзімір Дамашэвіч першым пачаў “біць у звона” – дамагацца поўнай беларусізацыі метрапалітэна. І дамогся.”* І працягвае ў заключэнне: *“...па ягоным рашучым позірку было відно – ён па-ранейшаму гатовы за беларушчыну хоць у турму, хоць пад расстрэл. Бог не даў яму гэткіх выпрабаванняў, светлым вясновым днём забраў да сябе. Відаць, і ў той , абавязковай для ўсіх нас тагасветнай Беларусі нацыяналісты таксама патрэбныя”.*

Нечаканы вектар мыслення з’яўляецца ў тэксце “Украінскі фронт Быкава”, які М. Скобла пачынае з кароткай цытацыі Ю. Мушкетыка: *“Васіль Быкаў быў баец. Вайна яго так і не пакінула ў спакоі”.* А заканчвае так: *“Восем з шаснаццаці быкаўскіх аповесцяў перакладзеныя на ўкраінскую мову. І сёння Украіна выдае Быкава, прычым не ў зацішным Львове, а ў памежным зрусіфікаваным Луганску, на перадавой новай вайны. А значыць, “баец Быкаў” зноў атрымаў позву на ўкраінскі фронт, як некалі ў сорак першым”.*

Трэба адзначыць, што поруч з матэрыяламі пра знакамітых творцаў М. Скобла не забываецца і на тых, хто згарэў у самым росквіце творчых сіл і, можа, набудзе пэўную вядомасць якраз дзякуючы ягоным згадкам, напрыклад, у эсэ “Дудар, якога слухала неба” пра рана адышоўшага музыку і паэта-песенніка Змітра Сідаровіча. Прывяду запамінальны фрагмент (таксама ў нечым датычны да касмічнай тэмы): *“Апошнім часам ён жыў самотнікам. Сваю аднапакаёўку на дзевятнаццатым паверсе на вуліцы Каліноўскага аздобіў насценнымі камянямі, як старажытны замак. Па вечаровых позніх званках было зразумела, што самоты тае ён у любую хвіліну гатовы пазбавіцца. Дуда і гітара заўсёды былі пад рукой. Аднойчы я спытаўся, каму ты тут граеш, калі застаешся надоўга адзін? І Зміцер без ценю ўсмешкі адказаў:*

*– Небу.*

*– І слухае?*

*– Гэта самы лепшы слухач...*

*Цяпер ён грацьме там. І калі мы, чарговым разам настроеныя на хуткі канец свету, раптам пачуем адкульсці звысоку зыкі, падобныя на голас арханёлскай трубы, то не спяшаймася ставіць апошнюю кропку. Магчыма гэта гучыць для нас дуда Змітра Сідаровіча. Дудара, якога слухала і слухае неба".*

Упэўнены, што з задавальненнем і цікавасцю будуць прачытаныя артыкулы пра Кастуся Каліноўскага, Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Уладзіміра Жылку, Язэпа Драздовіча, Алеся Салаўя, Уладзіміра Караткевіча, Міхася Стральцова, Зоську Верас, Васіля Быкава, Ніну Мацяш, Міколу Арочку, Рыгора Барадуліна, Уладзіміра Дамашэвіча, Івана Лепешава, Змітра Сідаровіча, Анатоля Вярцінскага, Дануту Бічэль, Уладзіміра Някляева, Адама Міцкевіча, Васіля Стуса, Віславу Шымборскую, Валерыю Навадворскую, Яна Твардоўскага...

Цэлая галерэя нацыянальных (нашых і замежных) постацяў, большай ці меншай яркасці, якія складаюць адно вялікае сузор'е ў паднебным Сусвеце, асабліва выразна бачная і прыцягальная ў *начныя часы* нашага зямнога жыцця.

На іх фоне шэраг адмоўных герояў кнігі М. Скоблы ўражвае сваёй ідэалагічнай зашоранасцю, недалёкасцю, групавой закасцянеласцю, а то і проста інтэлектуальнай абдзеленасцю. З некаторымі ўцямнымі з іх аўтар палемізуе, з непадатлівымі да паразумення спрачаецца, іншых высмейвае, з астатнімі выходзіць нераўнуючы як на бойку... У яго заўсёды хапае чым крыць сваіх апанентаў – і фактаў, і доказаў, і дакументаў – але калі справа даходзіць да адкрытай нацыянальнай ганьбы, то тут ён здольны на ўсё, як герой вядомага вершаы У. Караткевіча:

Калі ж залье крывёй радзімы пожні,
І пойдзе гнеў да эшафотных стром,
І зломіцца аб сталь кінжал апошні –
Ну што ж?
Тады ўжо можна і бруском.

У гэткім непрыглядным радзе выстаўленыя расейцы Р. Мядзведзеў, А. Праханаў, І. Бродскі (са сваім стаўленнем да Украіны), і беларусы А. Тарасаў, А. Лазуткін, А. Бахарэвіч, Я. Максімюк, М. Чаргінец, А. Рубінаў...

Вось, скажам, які адлуп (дасціпны, даходлівы і, я сказаў бы, неабразлівы) дае ён А. Бахарэвічу і Я. Максімюку за іх вульгарныя напаткі на Янку Купалу: *"Усім крытыкам з пракурорскімі замашкамі я мог бы назваць дзясятак-другі геніяльных твораў Купалы, пачынаючы з паэмы "Курган", якой адной хопіць для любога апраўдання, але замест гэтага нагадаю адну старазапаветную прыпавесць. Хам, сын Ноя, пабачыў на спячым пасля выпіўкі бацьку непрыкрыты сорам і пачаў пад'юджваць братоў Сіма і Яфета на здзек са старога. Але тыя далікатна паправілі бацькава адзенне і прысаромілі Хама. У свой час гэтую прыпавесць трапна пракаментаваў Антон Паўлавіч Чэхаў: "Хам заўважыў толькі, што бацька ягоны – п'яніца, і зусім забыўся на тое, што ён пабудаваў каўчэг і выратаваў свет". Янка Купала таксама пабудаваў для нас каўчэг. Разам з Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Алесем Гаруном, Максімам Гарэцкім. Каўчэг новай беларускай літаратуры. Дык ці выпадае нам сёння прыпадабняцца да таго Хама, якому так хацелася паздзекавацца з бацькі?"*

Не забывае М. Скобла і пра абарону роднай мовы і пра сваё ганебнае стаўленне да трасянкі, дзе перападае і самому старшыні ТБМ А. Трусаву... Агулам, што тычыцца грамадска-палітычнай і літаратурна-культурніцкай сітуацыі ў аўтарытарнай дзяржаве Беларусь, то аўтар пільна адсочвае ўсе паталагічныя праблемы. Ва ўжо згаданай радыёперадачы ён закрануў і найбольш балючую тэму пісьменніцкай фізічнай і творчай свабоды. Мяне ўразіла фраза, дзе Міхась

кажа, што, па яго прыкідках, *"нашыя пісьменьнікі, калі скласьці ўсе турэмныя тэрміны, адседзелі за кратамі больш за 1000 гадоў. Мне нават дзіўна было, чаму ў нашай літаратуры, нябеднай на тэматычныя анталёгіі, да нядаўняга часу не існавала анталёгіі турэмнай"*. У сваёй кніжцы ён таксама не змог абысці гэтай тэмы. Больш за тое, з увагай і павагай паставіўшыся да творчасці і асобы паэта-астрожніка У. Някляева, Міхась не прамінуў адцеміць і як бы незаўважанае іншымі, а менавіта – запаланіўшага публічную прастору іміджавага глянцу, які дабраўся і да мастацкай літаратуры (правільней, мабыць, сказаць, да аўтараў кніг мастацкай літаратуры). Дык вось, разважаючы пра кніжку адметных турэмных вершаў Уладзіміра Някляева "Лісты да Волі", М. Скобла засумняваўся ў некаторых аспектах выдання: *"З глянцам у нас заўсёды так – то густа, то пуста. Трохі загуста яго і ў аздабленні кнігі "Лісты да Волі". Неяк няёмка чытаць пра змрочнае турэмнае жыццё на глянцавай паперы, спаміж пастановачных здымкаў аўтара, зробленых майстрам фотамадэльнай справы. Ды і той, хто даглянцоўваў кнігу перад яе сустрэчай з варштатам Скарыны, яўна перастараў, інакш не растлумачыць, што напісаныя пераважна ў 2011-м "Лісты..." "падпісаныя ў друк 19 снежня 2010 года". (...) Самы поўны (7000 адзінак) беларускі слоўнік фразеалагізмаў прафесара Івана Лепешава падае толькі адзін устойлівы выраз са словам "турма". У кнізе "Лісты да Волі" іх набярэцца з ладны дзясятак – ёмкіх, дакладных, крылатых. А той адзіны, уключаны ў слоўнік, гучыць праз меру сентыментальна і загадкава: па ім турма плача. Па кім жа яна, суровая, плача? Прачытаўшы "Лісты да Волі", я зразумеў – па кім. Турма плача па сваім паэце"*.

Такая вось строгасць нават у дачыненні да старэйшага калегі і таварыша па апазіцыйным змагарстве з рэжымам.

Пачаўшы сваю кніжку з космасу Я. Драздовіча, М. Скобла бліжэй да яе завяршэння не мог не задумацца пра вяртанне да зямнога. У выдатным артыкуле пра Рыгора Барадуліна "Збудаваць свой каўчэг" ён стварае драматычную карціну рознаполюснага прыцягнення (касмічнага палёту і выратавальнага каўчэга), бо што такое паэзія, – гэта *"мастацтва хадзіць па вясёлцы. Пахіснешся – упадзеш, засумняваешся ў цвердзі пад нагамі – упадзеш таксама. А ісці па вясёлцы і весці дыялог з Богам – занятак архіскладаны. У свой час Янка Купала, губляючы веру ў народ, адчайна выкрыкнуў: "Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, Божа,/ калі ты Цар і неба і зямлі!" І ад гэтага лёгкасумнеўнага "калі" восілка вясёлкі хіснулася пад паэтам так, што мільёны вачэй ад страху прымружыліся: упадзе – не ўпадзе... Не ўпаў. Ішоў яшчэ доўга. Пакуль не дапамаглі, не падпіхнулі..."*

Такія вось няпростыя мітрэнгі з утрыманнем беларускай раўнавагі.

Што наконт арыгінальнага назова кніжкі, то гэтым назовам Міхась Скобла дае вельмі даходлівае тлумачэнне тым праявам нацыянальнага зняволення і задушлівасці, пра якія тэкстава і падтэкстава вядзецца на старонках выдання. Ва ўжо ўпомненай гутарцы з В. Ракіцкім, ён кажа, што *"муміі, якія праляжалі ў закрытых саркафагах тысячагодзьдзі, імгненна рассыпаюцца, калі туды трапляе сьвежае паветра. Так і саркафагі страху пазбавяцца свайго злавеснага зьмесьціва, калі іх вынесьці з сутарэньняў на сонечнае сьвятло. А падобнымі «вынасамі» якраз і займаецца літаратура"*.

Але, як для мяне, то галоўнай высновай кнігі з'яўляецца непахісная вера яе аўтара ў духоўныя і ідэйныя чыннікі нашага беларускага нацыянальнага жыццесцвярджэння. Айчына і гонар – адзінае, на што можна пакласціся без сумненняў. Ну і на людзей, на якіх і трымаецца нязрушная аснова Беларушчыны. Міхась Скобла – адзін з іх.

Не так даўно аўтар быў уганараваны міжнароднай украінскай прэміяй "Воін святла", таму, разам з віншаваннямі дазволю сабе дадаць і колькі слоў пра яго выбітную постаць. Бо М. Скобла – фігура ў нашай нацыянальнай прасторы пазнавальная

і вядомая (не толькі па кнігах і публікацыях, але і па голасе *свабоды* і актыўнасці ў інтэрнэт-сетках)... Што да канкрэтыкі, то ён аўтар паэтычных кніг “Вечны зніч”, “Вочы савы”, “Нашэсце поўні”, “Акно для матылькоў”, зборніка пародый “Розгі ў розніцу”, вершаў для дзяцей “Камень-перунок”, краязнаўчых нарысаў “Дзярэчынскі дыярыюш”, радыёдыялогаў “Вольная студыя”. Не менш знаны М. Скобла і як укладальнік і рэдактар шырока вядомых анталогій “Краса і сіла” ды “Галасы з-за небакраю...”, а таксама выданняў, звязаных з даследаваннем творчай спадчыны Л. Геніюш, З. Верас, У. Жылкі, М. Стральцова, А. Салаўя, Р. Крушыны... Калі вызначаць адметы яго творчай характарыстыкі, то гэта – начытанасць, энцыклапедычная эрудыцыя, высокая самасвядомасць, вытанчаны стыль, іранічнасць, нацыянальная годнасць і аўтарская самапавага. А працавітасць і талент робяць яго такім, якім ён ёсць – выбітным літаратурным творцам і грамадзянінам. А яшчэ Міхась Скобла – ахоўнік і захавальнік скарбаў беларускай нацыянальнай культуры і літаратуры. Што ж, як казалі нашы бацькі, пра добрага чалавека добрых слоў не шкада. Але наастатку хочацца сказаць пра яго ягонымі ж словамі: Міхась,

ты вяртаеш маёй Радзіме
спраўднасць
Яе белага імя.

Прымі нашу чытацкую і грамадзянскую ўдзячнасць за гэта.



кнігапіс

Наталля Якавенка



...чаму ж цяпер, на пачатку XXI стагоддзя, з’явіўся раман «канца эпохі»...

# Люстэрка з памяццю «Fin de siècle»

***Водгук на дэкадансны раман Людмілы Рублеўскай «Дагератып»***

***Людміла Рублеўская. Дагератып: дэкадансны раман. — Мінск: А.М. Янушкевіч, 2017. – 246 с. – (Літаратурная серыя «Шляхецкая чытанка»).***

Паводле адной з версій, дэкадансны напрамак у літаратуры, які набыў папулярнасць на мяжы XIX і XX стагоддзяў, нарадзіўся ў 1886 годзе, калі ў французскай газеце «Le Décadent» з’явіўся выраз «fin de siècle», што значыць «канец эпохі» (калі літаральна, «канец стагоддзя»). З таго часу ў літаратурных і мастацкіх колах выслоўе «fin de siècle» стала сімвалам не столькі канца гістарычнай эпохі – XIX ст., колькі асаблівага светаадчування, для якога характэрны песімізм, упадніцтва, стомленасць жыццём, нервовая напружанасць і абвостранасць перажыванняў.

Чаму ж цяпер, на пачатку XXI стагоддзя, з’явіўся раман «канца эпохі», напісаны Людмілай Рублеўскай? Сама пісьменніца на гэта пытанне адказала так: «Ну падабаецца мне вельмі арт-нуво, карціны Бэрдслея і Бёкліна. Падабаецца дэкаданс, які дзіўным




чынам перагукваецца з сённяшнімі мемамі-дэпрэсяшкамі. Дамы-вамп у чорных сукенках і манто, з доўгімі цыгарэткамі ў муштуках... Усё гэтае захапленне руінамі і могілкамі, закінутымі капліцамі і патанулымі Афеліямі... Пішучы раман, з задавальненнем пажыла ў той атмасферцы. Маёнтак у пушчы з калекцыяй праклятых рэчаў... "Глухі лес вакол, агароджа з ваўчынымі галовамі, якія шчэрацца з іржавых прэнтаў"» (паводле інтэрв'ю budzma.by).

Гераіня рамана «Дагератып» тэрарыстка Багуслава Кленчыц і ёсць тая самая дэкадансная дама-вамп – аматарка прагулак па могілках, у чорнай сукенцы, з доўгай цыгарэтай у муштуку ды яшчэ са стылетам у рукаве. Партрэт «а ля вамп» дапаўняюць каротка стрыжаныя, пафарбаваныя ў чорны колер валасы і крывава-чырвоная памада на вуснах. Жыве шляхцянка па паходжанні Багуслава з настроем «fin de siècle», які абумоўлены яе нешчаслівым мінулым і небяспечным цяперашнім: бацькі памерлі на катарзе ў Сібіры, яна выхоўвалася ў пансіянаце, дзе яе не любілі каляжанкі, з адной з якіх дзяўчына пабілася і пасля ўвесь час была ўпэўненая, што забіла. Перманентнае самаадчуванне забойцы, што намерана культываваў яе выхавацель Варакса Ніхель з мэтай фарміравання характару, менталітэту і ладу жыцця адданай вялікай Справе рэвалюцыянеркі, моцна рэзаніруе з тонкай чуллівай натурай Багуславы і з'яўляецца асновай душэўнага разладу, адчування асуджанасці і агіды да сябе самой.

Не толькі дэкаданс, але і готыка выяўляюцца ў апісанні калекцыі дзеда і бацькі другога персанажа – Шымона Каганецкага. Яго продкі «апантана цягнулі ў пакоі прадметы, з дапамогай якіх чалавек зводзіў са свету бліжніх». Дэкадансным настроем заняпаду прасякнуты малюнкі закінутага маёнтка Каганецкіх, у якім падчас Вялікай Айчыннай вайны фашысты трымалі дзяцей з мэтай забору крыві для сваіх параненых салдат, апісанні мястэчка, дзе некалі была кніжная крама, у якой на сённяшні час няма ніякай неабходнасці, бо не цікавыя нашым сучаснікам кнігі. Зрэшты, цалкам у духу літаратуры дэкадансу гучаць, напрыклад, такія словы расчаравання: «Родны кут, родны кут. Ды ў мяне ўражанне, што ў беларусаў спаконвеку ў крыві іншае – "зваліць" з таго куточка».

Між тым, літаратуразнаўца Ванда Бароўка пераканаўча даказала, што «"Дагератып" Л. Рублеўскай – гэта не стылізацыя, а мастацкі дыялог з еўрапейскім дэкадансным раманам. Беларуская пісьменніца ў кампаратыўна-кантрастыўным плане выкарыстала яго паасобныя фармальна-змястоўныя рысы (этычная антынамічнасць і ўзаемадапаўняльнасць персанажаў, зварот да матываў заняпаду і выраджэння, адноснасці чалавечых ведаў, загадкавасці быцця, суадносін цывілізацыі і прыроды, праблематычнасці спроб змяніць свет) дзеля стварэння твора, канцэптуальна адрознага ад дэкаданснага рамана» (паводле даследавання «"Дагератып" Л. Рублеўскай як мастацкі дыялог з дэкадансным раманам»).

Канцэпцыя еўрапейскага дэкаданснага рамана грунтуецца на ідэі выраджэння, немагчымасці грамадскіх пераўтварэнняў да лепшага і бесперспектыўнасці чалавечага існавання. Раман Людмілы Рублеўскай насамрэч мае іншую ідэйную аснову. Пісьменніца вельмі блізка падыходзіць да дэкадансных праблем, але знаходзіць супрацьлеглае дэкаданснаму вырашэнне.

Так, напрыклад, мізантроп Шымон Каганецкі, граф і сусветнавядомы вучоны-біёлаг, прафесар Венскага ўніверсітэта, «пярэварацень», асуджаны лёсам, здрадай продка і сваякоў, а таксама самім сабой на пакуты, «выраджэнец» – прадстаўнік роду, які на ім нібыта павінен скончыць сваё існаванне, нягледзячы на ярка выражаны настрой «fin de siècle», аказваецца здольным закахацца, даць працяг свайму роду і

ахвяраваць сваім жыццём дзеля жыцця каханай жанчыны. Каганецкі разумее, што «чым адрозніваецца сапраўды чалавек ад жывёлы – дык тым, што акрамя звера, у ім жыве Бог. Але мы даем волю зверу, і Бог пакідае нас». Высакароднасць графа перамагла над унутраным зверам і Бог не пакінуў яго.

Нашчадак Шымона Каганецкага, наш сучаснік Гальяш, спачатку намерваецца эміграваць у Амерыку менавіта з прычыны «fin de siècle»: «Ты думаеш, я з-за грошай з'язджаю? – бач ты, абурыўся, шэрымі вачыма паблісквае. – Усё, што мне трэба – магчымасць працаваць. А тут яе не даюць. Тры гады таму атрымаў гумовым дручком па галаве і пярцовым газам у вочы за тое, што спыніўся паназіраць за, так бы мовіць, несанкцыянаваным мерапрыемствам. Зазнялі на камеру разам з іншымі, вылічылі, дзе працую, прасігналілі – і я паўгода працаваў на паўстаўкі, потым вярнуўся на месца, але без асаблівых перспектыў. Начальства разумнае, як бы і пакарала, і засталося ўбаку. Бабуля, старая камуністка, як даведалася, што на мітынгу быў, мяне "фашыстам" абазвала. Не, нічога тут не зменіцца. Колькі жыву – столькі чую ў нашай інтэлігенцкай так званай тусоўцы: "Валіць трэба. Валіць трэба". Хто застаецца – ці няўдачнік, ці калабарант. Ну вось і я звалю. Буду героем». Аднак, даведаўшыся пра гісторыю ўласнага роду, зразумеўшы, што продкі здрадзілі свайму прызначэнню воінаў і абаронцаў Радзімы, тым самым асудзіўшы сябе і нашчадкаў на пакуты, вырашае застацца каб выправіць памылкі продкаў. Гэтаму рашэнню спрыяе таксама каханне да шчырай патрыёткі Сімкі.

Такім чынам, Людміла Рублеўская сцвярджае: нягледзячы на пагрозу выраджэння, беларусы здольныя адрадзіцца як нацыя, і працэс адраджэння, няхай сабе павольна, але адбываецца зараз; праз адраджэнне нацыянальнай свядомасці адбудуцца і пачалі адбывацца грамадскія пераўтварэнні, якія адвядуць ад беларусаў пагрозу заняпаду, а значыць перспектывы ў нас усё ж такі ёсць.

У часы росквіту «fin de siècle» існавала дагератыпія – тэхналогія фатаграфавання, якая з дапамогай ртуці захоўвала фатаграфічны адбітак на сярэбранай пласціне. Гэта дало падставы В. Бароўка слушна сцвярджаць, што назва рамана «акцэнтуе аддаленае падабенства твора да дэкаданснага рамана». Л. Рублеўская выбар назвы патлумачыла наступным чынам: «Сёння цяжка вынайсці слова, якое не прабілася на вокладку. Маркес адмовіўся ад назвы рамана "Дом", таму што ягоны сябар выдаў кнігу "Вялікі дом", і ў гісторыю ўвайшлі "Сто гадоў адзіноты". Я не ведаю, колькі ў свеце існуе кніг пад назвай "Дагератып". Што гэта ў рамане? Стары здымак на срэбнай пласцінцы... Галоўная гераіня свята беражэ яго – на дагератыпе яе бацька, паўстанец, які загінуў у Сібіры. Але гэтая маленькая рэч, якая апраўдвае помсту, апраўдвае забойствы – прыклад таго, як можна выкарыстоўваць для маніпуляцыі людзямі нават самае святое, змушаць іх рабіць жахлівыя рэчы» (паводле інтэрв'ю budzma.by).

Да патлумачанага крытыкам і аўтарам дадам: здымкі, выкананыя з дапамогай дагератыпіі, былі падобныя не на сучасныя фатаграфіі, а на адлюстраванне ў люстэрку, з-за чаго дагератыпы ўмоўна называлі люстэркамі з памяццю. У творы дагератып з выявай бацькі-паўстанца, які беражэ Багуслава, з'яўляецца яе пакутлівай памяццю пра трагедыю бацькоў і адлюстраваннем трагічнасці ўласнага лёсу.

Акрамя таго, звычайна ў залежнасці ад нахілу дагератыпа да святла, выява на ім выглядала то як пазітыў, то як негатыў. У дачыненні да дагератыпа, які належаў гераіні рамана, гэты эфект можна якраз і патлумачыць словамі пісьменніцы наконт выкарыстання святога для апраўдання жахлівых рэчаў – Ніхель выкарыстоўвае памяць Багуславы пра бацькоў як сродак маніпулявання і змушэння да помсты праз забойствы і тэрарызм пад высакапарнымі лозунгамі ўзнаўлення справядлівасці.

Аднак на назву рамана, як на той старадаўні дагератып, можна паглядзець з іншага ракурсу, які дазваляе адысці ад істотнага канкрэтнага ў бок шматзначнага агульнага. У нашым жыцці белае і чорнае – пазітыў і негатыў – дабро і зло існуюць

у неразрыўным спалучэнні, якое мае свой люстэркавы адбітак у творы. Так насамрэч, згодна са словамі, укладзенымі пісьменніцай у вусны Шымона Каганецкага, «любая высакародная справа прыцягвае зашмат паразітаў, якія высмакчуць урэшце яе сутнасць».

Надзвычай цяжка заўважыць і не перайсці мяжу паміж святлом і ценем, не зблытаць адно з другім. Не ўсім героям Людмілы Рублеўскай гэта ўдаецца, калі яны, як і кожны з нас амаль штодня, стаяць перад пэўным выбарам. Аднак трымацца святла дапамагае памяць – гістарычная памяць, якая захоўвае бясцэнны вопыт выдатных дасягненняў і фатальных памылак многіх пакаленняў. Таму, мяркую, і ўтрымлівае «Дагератып» такую думку, выказаную журналісткай Сімкай: «Абыякавасць да гісторыі, у тым ліку ўласнага роду, уважаю за такі недахоп разумовы і душэўны, што чалавек успрымаецца, як інвалід». Інакш кажучы, гісторыя краіны і гісторыя роду – люстэрка з памяццю, у якое трэба час ад часу глядзець, каб не дапусціць сапраўднага «канца эпохі».



Канстанцін Касяк



...у лабірынце
нельга рухацца назад...

# Мінулае заўсёды з табой

***Рэцэнзія на кнігу Алеся Аркуша***

***Алесь Аркуш. Захоп Беларусі марсіянамі. Полацк: Полацкае ляда, 2016. – 140 с.***

Постаць Вацлава Ластоўскага і яго творчая спадчына ўяўляюць для мяне асаблівы інтарэс. Яны бачацца мне актуальнымі і цяпер, нягледзячы на ўсе супярэчнасці. Асобы, падобныя да Ластоўскага, ёсць у кожнага народа, але разам з гэтым нават у вялікіх нацый такіх людзей можна пералічыць па пальцах. Што тут казаць пра беларусаў.

У маім асабістым пантэоне беларускіх герояў ён займае пачэснае першае месца. Але разам з гэтым я разумею (больш за тое, нават ведаю), што ў яго навуковых тэкстах і даследаваннях поўна хібаў ды фантазій. Як навуковец ён, безумоўна, саступаў многім калегам, якія мелі добрую адукацыю і працавалі на карысць сваіх народаў, нашых суседзяў. Але ў літаратурным і культурным плане наўрад ці хто з іх мог дасягнуць ягоных вышынь.




Як шчыры аматар старасвеччыны Ластоўскі быў добра абазнаны ў адпаведнай літаратуры і культурных кодах. Тое, чаго не хапала тагачаснай беларускай літаратуры, што наўпрост адсутнічала ў ёй праз збег неспрыяльных абставін, Власт браўся ствараць сам. Яскравы прыклад такога падыходу – аповесць "Лабірынты", якая ўпершыню пабачыла свет у другім нумары часопіса "Крывіч", што выходзіў у Коўне ў 1923-1927 гадах. Аповесць, дарэчы, так і падпісана – фантазія.

Варта дадаць, што ў гэтым часопісе Ластоўскі друкаваў уласныя тэксты самага рознага кшталту: агляды, апавяданні, успаміны, навуковыя артыкулы і нават вершы. На старонках "Крывіча", хаваючыся пад рознымі псеўданімамі і крыптонімамі, якія, аднак, вельмі лёгка разгадаць, Власт выступае як сапраўдны стваральнік новай беларускай літаратуры. І яго асабісты ўнёсак у скарбонку нашай культуры дагэтуль не ацэнены належным чынам.

Сюжэт "Лабірынтаў" добра вядомы, каб яго цалкам пераказваць, але асноўныя моманты нагадаць варта. Галоўны герой па запрашэнні мясцовага археолага Івана Іванавіча прыязджае ў Полацк з мэтай "апазнаньня роднай старасьвеччыны". Там ён знаёміцца з гуртком інтэлегентаў, якія і цікавяцца гэтай самай мінуўшчынай. Займаюцца краязнаўставам, калі казаць сучаснай мовай. Уночы, пад вакно нумара ў гасцініцы, дзе жыве галоўны герой, прыходзіць Падземны чалавек. Менавіта з яго дапамогай галоўны герой і трапляе ў старажытныя лабірынты, якія нібыта знаходзяцца пад горадам і ў якіх нібыта схаваны скарбы крывічоў. Там, надзейна схаваныя ад чужога вока ў лёхах, яны заходзяцца ў бяспецы і недасягальныя для прыхадняў. У гэтым, дарэчы, можна ўбачыць прамую аналогію з міфам пра Александрыйскую бібліятэку, дакладней, – яе частку, якая, нібыта, ацалела пасля пажару.

У вельмі захапляльнай, але разам з гэтым нязмушанай форме аўтар здолеў актуалізаваць даўнюю легенду пра полацкія лёхі, якая і ў наш час не дае спакою многім навукоўцам, даследчыкам, ды проста неабыякавым да мінуўшчыны. А для многіх сучасных літаратараў гэтая аповесць з'яўляецца літаральна настольнай кнігай, што яны самі адзначаюць на старонках ужо ўласных твораў. Яскравы гэтаму прыклад – раман полацкага пісьменніка Алеся Аркуша "Захоп Беларусі марсіянамі", які летась пабачыў свет, а напісаны быў годам раней. Да выхаду асобнай кнігі ўрывак рамана друкаваўся ў "Дзеяслове" (гл.: №75).

Уласна раман складаецца з дзвюх сюжэтных ліній: гісторыі полацкага пісьменніка Васіля Кроквы, якому аднойчы прысніўся Ластоўскі і які, як герой "Лабірынтаў", трапіў у паддзямелле, а таксама гісторыі Алеся Дудара, які ў 1925 годзе прыехаў у Полацк з мэтай стварэння мясцовай філіі "Маладняка". Абодва сюжэты аб'яднаныя тэмай полацкіх лёхаў.

У першай лініі гаворка ідзе пра пісьменніка-фрылансера Васіля Крокву, які свядома абраў жыццё ў беларускай правінцыі. Засяроджаны на метафізіцы, гэты чалавек шукае адказы на вельмі няпростыя пытанні. Ён рэгулярна бачыць Ластоўскага ў сваіх снах, размаўляе з ім, дыскутуе, спрачаецца. Вядзе перапіску па электроннай пошце з таямнічым палачанінам, які нібыта ведае, дзе знаходзіцца ўваход у лабірынты.

Фактычна гэта гісторыя як бы пост-лабірынтаў, у якой ёсць і свой галоўны герой, і свой Падземны чалавек, і невядомы аўтар лістоў, і нават сам Власт. Марсіяне ж высаджваюцца са сваіх касмічных караблёў на беларускай зямлі хутчэй для фону. Тэма захопнікаў ніколі не страчвае актуальнасці ў нашай літаратуры. Як і "Лабірынты" Ластоўскага, гэтая частка рамана выклікае пасля прачытання больш пытанняў, чым адказаў.

Лінія Алеся Дудара, які ў 1925 годзе прыехаў ствараць полацкі "Маладняк",

больш простая за папярэднюю, але і яна мае свае загадкі і цікавосткі. У ёй аўтар на прыкладзе канкрэтнага чалавека паказаў, якім чынам адбывалася беларусізацыя ў 1920-х гадах. Са школьнай лавы мы ведаем, што нібыта ў адзін цудоўны момант бальшавікі вырашылі, што спрыяць пабудове камунізму можа культура нацыянальная па форме і сацыялістычная па змесце. І ўраз перавялі на беларускую мову перыёдыку, справаводства, адукацыю ды нават войска. Але мала хто задумваецца над тым, якіх высілкаў насамрэч гэта каштавала...

Гісторыя Алеся Дудара ў рамане Алеся Аркуша яскрава гэта паказвае. Як у цалкам зрусіфікаваны горад рабіць беларусізацыю прыязджае з Менску паэт і з якімі цяжкасцямі пры гэтым сутыкаецца. Дудар уладкоўваецца ў мясцовую газету “Полоцкий пахарь” і з вялікімі імпэтам бярэцца за беларускую справу, якая, аднак, не надта спяшаецца рухацца з месца: газета на мову не пераводзіцца, а хаця б больш-менш нармальна арганізаваць працу “маладнякоўскай” філіі не выходзіць. Хаця добрыя знаёмствы ў горадзе і яго ваколіцах Дудар заводзіць, яны не могуць яго стрымаць у жаданні збегчы назад у Менск, каб паступіць ва ўніверсітэт.

І вось ва ўсёй гэтай руціне аднойчы ў рэдакцыі газеты з’яўляецца дзядок, які заяўляе спачатку галоўнаму рэдактару, а потым Дудару, да якога старога скіроўваюць, што ведае, дзе знаходзіцца ўваход у полацкія лабірынты. Дзед, гэта варта адзначыць, працуе вартаўніком у мясцовым Доме культуры імя Леніна. У сутарэннях якога і знаходзіцца ўваход у тыя лёхі.

Разам з дзедам Дудар спрабуе ў іх трапіць, але з першага разу не выходзіць. Яны дамаўляюцца на другі, але за раз’ездамі-камандзіроўкамі Алесь часу на яго не знаходзіць. У гэты час дзед раптоўна памірае, разам з ім знікае і таямніца ўваходу ў лёхі. Дудар, так і не даведаўшыся, што ў тых лёхах, з’язджае ў Менск. Але гэтая тэма, безумоўна, паланіла яго на ўсё жыццё. Якое засталося. У Менску ён распавядае пра гэты выпадак свайму сябру Міхасю Чароту. Але той не дае веры. А далей ужо ўсім вядомыя падзеі з крывавых 1930-х.

У гэтай лініі аўтар добра паказаў тую жудасную сітуацыю, у якой апынуліся беларускія дзеячы пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года. Бальшавіцкая дзяржава сама па сабе, пэўна, да часоў брэжнеўскага застою, уяўляла з сябе суцэльны сацыяльны эксперымент. У пэўным сэнсе ўсталяванне савецкай улады і абвяшчэнне камуністычных ідэалаў мела і будзе мець для нашага рэгіёна значэнне куды большае, чым многія іншыя падзеі першай паловы XX стагоддзя.

Васіль Кроква, жывучы ў сучаснасці, бачыць пэўныя знакі, шукае таямніцы і нават знаходзіць іх. Але знаходзіцца ў лабірынтах небяспечна, цяжка дыхаць, можна страціць прытомнасць і памерці. І чым далей ідзеш па іх, тым цяжэй. Алесь Дудар лёхаў не адшуквае, але ён і так знаходзіцца, па сутнасці, у іх. Метафарычна, вядома ж. І завуцца яны – беларусізацыя.

Сам Дудар, прапагандуючы беларускую пралетарскую культуру, пачынае ў пэўны момант разумець, што носьбіты беларушчыны, якіх ён спрабуе абудзіць, паходзяць далёка не з пралетараў. Іх хутчэй можна сустрэць у цягніку, калі яны па справах выбіраюцца з сваіх вёсак у горад ды гучна гамоняць у вагоне. І гэта спараджае няправільныя думкі. А як вядома, у лабірынце нельга рухацца назад, толькі наперад, нават калі ты і спрабуеш вярнуцца. Таму Дудар і не можа спыніцца, што прыводзіць яго да сумнавядомых падзей.

У выніку мы маем выдатны раман пра адзіноту. Пра асобу, якая засяроджана на нечым большым, чым звычайная штодзённшчына. Прычым такая характарыстыка тычыцца абодвух герояў рамана: і Васіля Кроквы, і Алеся Дудара. Ды і абодва ж літаратары. У кожнага з іх хапае часу на тое, каб у патрэбны момант спыніцца і задумацца пра сваё месца і месца свайго народа ў гэтым свеце. І погляды абодвух звернуты ў мінуўшчыну – сваю, народную, прыдуманую, убачаную ў сне. Як і некалі Ластоўскі, яны зачараваныя мінуўшчынай, носяць яе з сабой.

# Дабравест

### *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*




**Аляксей Арцёмаў. Скрозь кіламетры: вершы і пераклады. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку). – 66 с.**

Аляксей Арцёмаў, дэбютная кніга якога паспела ўжо ўвайсці ў шорт-ліст прэміі "Дэбют" імя Максіма Багдановіча, нарадзіўся і жыве ў горадзе Тула. То бок беларуская мова гучыць для маладога паэта перадусім праз тэкставыя носьбіты. Як тут пазбегнуць паралеляў з Багдановічам, які таксама пісаў на мове, якую *не чуў вакол сябе, а чуў унутры сябе*? Але ж паралелі гэтыя ўзнікаюць не толькі праз знешнія фактары. Як адзначае ў рэцэнзіі на кнігу Наста Грышчук, "тая ж адасобленасць ад культуры, якую паэт узбагачае; тое ж кранальнае пакланенне жанчыне, прыўкраснай нават у ролі мучыцеля; той жа матыў згасання". І, дадамо ад сябе, – аніякага адчування штучнасці паэтычнага наратыву. Вядома ж, і пра іншых вялікіх настаўнікаў згадваецца, чытаючы "Скрозь кіламетры". Кампазіцыйна прадуманая, цэласная, кніга тонкае лірыкі парадуе аматараў сапраўднай паэзіі.




**Бліскавіцы: Анталогія беларускай жаночай паэзіі міжваеннага перыяду / укладанне, каментары Аксаны Данільчык, Віктара Жыбуля. — Мінск: Кнігазбор, 2017. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; выпуск 88). — 448 с.**

Анталогія "Бліскавіцы" – унікальнае выданне. Упершыню пад адной вокладкай змешчаныя творы 61 беларускай паэткі, напісаныя ў "міжваенны" перыяд – з 1918 па 1941 г., што стварае панараму літаратурнага жыцця эпохі. У кнігу ўвайшлі творы і хрэстаматыйныя, і малавядомыя, і нават ніколі не публікаваныя раней. Як адзначыла ў сваёй грунтоўнай прадмове да кнігі Аксана Данільчык, укладальнікі анталогіі "імкнуліся паказаць не толькі найлепшае, але і характэрнае для тых часоў, даць магчымасць прагучаць забытым галасам беларускіх паэтак, а таксама паспрыяць актывізацыі даследаванняў іх паэзіі". Паводле А. Данільчык, сёння актуальная задача вярнуць жаночую паэзію 20–30-х гадоў з небыцця, каб аднавіць гістарычную і мастацкую справядлівасць.




**Вешчуны ідуць на Беларусь: Зборнік твораў выпускнікоў Школы маладога пісьменніка (2014/15, 2015/16 навучальныя гады) / пад рэд. Г. Бутырчык, М. Маляўка, С. Шаматульскага. – Мінск: Кнігазбор, 2016. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 90). – 268 с.**

У трэцім зборніку твораў навучэнцаў Школы маладога пісьменніка сабраныя апавяданні выпускнікоў адразу двух курсаў Школы. Сярод трыццаці маладых празаікаў, чые творы ўвайшлі ў кнігу, ужо ёсць тыя, хто друкавалі свае тэксты ў газетах, часопісах і анталогіях у Беларусі і за мяжой. Аднак для большасці гэта сапраўдная магчымасць упершыню заявіць пра сябе. Смешныя і страшныя, кранальныя і павучальныя апавяданні маладых аўтарак і аўтараў, што толькі пачынаюць свой шлях у літаратуры, напісаныя па-беларуску і руску пра любоў, сталенне, смерць, боль і радасць, будуць добрым чытвом для тых, хто шукае новых галасоў у айчыннай літаратуры.




**Выгнаны патрыцый: Кніга пра Міхася Стральцова / уклад., прадм., камент. Міхася Скоблы. – Мінск: Лімарыус, 2017. – (Беларуская мемуарная бібліятэка). – 432 с.**

Ідэя скласці гэтую кнігі з’явілася, калі Міхась Скобла разам з сябрамі прэзентавалі ў Слаўгарадзе «кнігазбораўскі» том Стральцова. Пасля прэзентацыі гасцям зладзілі экскурсію па нядаўна адкрытым мясцовым краязнаўчым музеі. Госці дарэмна імкнуліся знайсці залу Стральцова. «У Слаўгарадскім краязнаўчым музеі Стральцова не было зусім – ні радка ягонага, ні хоць бы здымка ў шматлюднай галерэі заслужаных слаўгарадцаў», – згадвае Міхась Скобла ў прадмове. Вось тады слынны паэт і нястомны даследчык і папулярызатар беларускай літаратуры паабяцаў слаўгарадцам кнігу пра іх земляка.

Вось жа, кніга як ушанавальны чын. Але, адзначаецца ў той жа прадмове, гэта «не парадны партрэт у залатой раме. Паэты не святыя, ім не патрэбныя салодкагалосыя акафісты і фіміям, ад якога кружацца галовы найперш у саміх кадзільшчыкаў».




**Дабравест: Вершы / уклад., прад. Анатоля Брусевіча. – Гродна: Гродзенская друкарня, 2017. – 92 с.**

У кнігу ўвайшлі вершы ўдзельнікаў літаратурных сустрэч у межах Міжнароднага фестывалю праваслаўных спеваў “Каложскі дабравест”. Сярод аўтараў – як вядомыя беларускія пісьменнікі (Данута Бічэль, Анатоль Брусевіч, Юрка Голуб, Зніч, Андрэй Мельнікаў), так і маладыя творцы, якія толькі робяць першыя крокі ў літаратуры (Вольга Агапонава, Алена Бабіч, Аліна Паўлоўская, Галіна Самойла, Вікторыя Смолка). Аўтар ідэі – вядомы папулярызатар айчыннага літаратурнага працэсу на Гарадзеншчыне іерэй Павел Каспяровіч. Ягоныя вершы таксама прадстаўлены ў анталогіі.

# Нашыя аўтары

**Адамовіч Славамір** — паэт, эсэіст, публіцыст. Аўтар кніг «Кальварыйскія клёны», «Зямля Ханаан», «Турэмны дзённік», «Плавільшчыкі расы» і інш. Нарадзіўся ў 1962 годзе на станцыі Унежма Архангельскай вобласці (Расія). Жыве ў Мінску.

**Бараноўскі Анатоль** – народны мастак Беларусі. Творы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, іншых грамадскіх установах, а таксама ў прыватных калекцыях. Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Мінску. Памёр у 2017 годзе.

**Баторын (Хаймовіч) Фелікс** – паэт, перакладчык. Піша на беларускай і яўрэйскай (ідыш) мовах. Аўтар кніг «Раніца», «Зялёны тралейбус», «Я дрэва пасадзіў» і інш. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Брэшчанка Зміцер** – празаік. Скончыў Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт. Працаваў настаўнікам біялогіі і геаграфіі. Нарадзіўся ў 1975 годзе ў Віцебску, дзе і жыве.

**Варлыга Адам (Язэп Гладкі)** – фальклaрыст, этнограф. У 1920-я гады настаўнічаў у пачатковых школах Барысаўскага павета, потым Лагойскага раёна. У 1930 годзе быў звольнены па палітычных матывах. У час Вялікай Айчыннай вайны настаўнічаў у роднай вёсцы, працаваў у школьным выдавецтве ў Мінску. З 1952 года жыў у ЗША. У Нью-Ёрку аднавіў выдавецтва «Заранка». Выдаў зборнікі «Прыказкі Лагойшчыны», «Краёвы слоўнік Лагойшчыны», «Забабоны Лагойшчыны», «Дудар» (народныя песні з нотамі) і інш. Нарадзіўся ў 1890 годзе ў вёсцы Міхалкавічы. Памёр у 1972 годзе.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гардзіенка Наталля** — гісторык. Вядучы архівіст у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. Галоўная рэдактарка альманаха «Запісы БІНіМ». Аўтарка кніг «Беларусы ў Аўстраліі», «Беларусы ў Вялікабрытаніі», «Рада БНР 1947–1970. Падзеі. Дакументы. Асобы» (разам з Л. Юрэвічам). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гаспадыніч Павал** – паэт, празаік. Аўтар кнігі імпрэсіяў і апавяданняў «Вырай пачуццяў», рамана «Цэзар будзе жыць», кнігі паэзіі «Сляза ляза» (электронная). Лаўрэат 2-й Міжнароднай прэміі ў галіне веб-журналістыкі *Yousmi Media Awards* 2010. Нарадзіўся ў Кіеве ў 1980 годзе. Жыве ў Менску.

**Герасімаў Глеб** – мастак, удзельнік шматлікіх выставаў. Выкладчык ДУА «Рэспубліканскі гімназія-каледж мастацтваў імя І.В. Ахрэмчыка», аспірант Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Дубоўскі Валеры** – паэт, выдавец, фатограф. Працаваў журналістам, кіраўніком у розных беларускіх перыядычных выданнях, дырэктарам выдавецтва «Беларусь». Аўтар кнігі вершаў «На пачатку маўчання». Нарадзіўся ў 1948 годзе ў вёсцы Хацькова на Шклоўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Дубянецкая Ірына** – бібліст, філосаф. Доктар філасофіі, доктар сакральнай тэалогіі. Акадэмічны дырэктар Беларускага калегіюма Нарадзілася ў 1964 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Дубянецкі Міхал** – журналіст, публіцыст, перакладчык, выдавец. Пераклаў на беларускую мову кнігі С. Жаромскага, В. Распуціна, Г. Цюцюніка, Д. Граніна і інш. Нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Востраў на Піншчыне. Памёр у 1990 годзе.

**Зізюк Міхась** – празаік. Піша на беларускай і рускай мовах. Аўтар кніг «Пропавшая свадьба», «Зелянее рунь», «Храм его души», «Оракулы междуречья». Нарадзіўся ў 1967 годзе ў вёсцы Лучыцы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Навагрудку.

**Зуёнак Васіль** – паэт, перакладчык, літаратуразнаўца, крытык. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1982). Аўтар кніг паэзіі «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча наМіншчыне. Жыве ў Мінску.

**Кавафіс Канстандзінас** – паэт. Нягледзячы на тое, што ў XX ст. навагрэцкая паэзія мела сваіх нобелеўскіх лаўрэатаў – Гіёргаса Сеферыса і Адысеаса Элітыса – найбольш вядомым і перакладаным у свеце лірыкам грэцкай мовы застаецца К. Кавафіс, які амаль усё сваё жыццё пражыў па-за межамі гістарычнай радзімы. Нарадзіўся ў 1863 годзе. Памёр у 1933 годзе.

**Карамазаў Віктар** – празаік, публіцыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1990). Аўтар кніг «Падранак», «Спіраль», «Пушча», «Дзень Барыса і Глеба», «Дома», «Дзяльба кабанчыка», «Крыж на зямлі і поўня ў небе», «З вясною ў адным вагоне» і інш. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў Чэрыкаве. Жыве ў Мінску.

**Касяк Канстанцін** – празаік. Скончыў гістарычны факультэт БДУ (спецыяльнасць – гісторыя ўсеагульная і Айчынная), Беларускі калегіюм (аддзяленне «філасофія/літаратура»), Школу маладога пісьменніка. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Кулікоў Ігар** – паэт, перакладчык. Лаўрэат конкурсу Беларускага ПЭН-цэнтру імя К. Шэрмана (2009). Дыпламант прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча (2011). Аўтар паэтычных кніг «Паварот на мора», «Свамова» і «Сівер-гара». Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лундквіст Мары** – шведская паэтка і перакладчыца. Аўтарка кніг «Ліст тым, хто спіць», «Замест успаміну», «Простая гісторыя», «Маналог для самотнай жанчыны», «Кніга мёртвых» і інш. Лаўрэатка шматлікіх літаратурных прэмій. Нарадзілася ў 1950 годзе ў Стакгольме, дзе і жыве.

**Міхно Уладзімір** — празаік, публіцыст. Аўтар кнігі «Горкі зефір». Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Чэрцы на Лепельшчыне. Жыве на Лепельшчыне.

**Плакс Дзмітры** – паэт, перакладчык, мастак. Аўтар некалькіх кніг паэзіі, у тым ліку зборніка «Трыццаць тэкстаў» (Бібліятэчка «Дзеяслова»). Піша на шведскай, беларускай і рускай мовах. Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Мінску. Жыве ў Стакгольме.

**Разанаў Алесь** – паэт, перакладчык, эсэіст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1990). Аўтар кніг паэзіі «Адраджэнне», «Каардынаты быцця», «Шлях-360», «Вастрыё стралы», «У горадзе валадарыць Рагвалод», «Рэчаіснасць», «Гліна. Камень. Жалеза», «Кніга ўзнаўленняў», «З апокрыфа ў канон» і інш. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Снарская Іна** – паэтка. Аўтар кніг «Пацеркі», «Пачакай, мая птушка...», «Лясная панна» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Палтаве (Украіна).

**Спрынчан Аксана** — паэтка, празаік. Пераможца конкурсу «Літаратура — дзецям» (2009). Аўтар кніг «Вершы ад А.», «Хата для Моўчы», «ЖываЯ» і інш. Нарадзілася ў 1973 годзе ў Лунінцы. Жыве ў Мінску.

**Сыс Сяржук** – паэт, журналіст. Аўтар кніг вершаў «Стрэмка» і «Павук». Нарадзіўся ў 1962 годзе ў вёсцы Заспа на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Тышкевіч Канстанцін** — беларускі гісторык, археолаг, географ, краязнаўца, этнограф, фалькларыст. Член навуковых таварыстваў Вільні, Кракава, Масквы, Прагі, Парыжа, Лондана. Аўтар кніг «Вілія і яе берагі ў гідраграфічных, гістарычных, археалагічных і этнаграфічных адносінах», «Гістарычнае паведамленне пра старажытныя замкі, гарадзішчы і могільнікі ў Літве і Русі Літоўскай», «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі», «Помнікі айчыннага гравёрнага мастацтва». Нарадзіўся ў 1806 годзе ў Лагойску. Памёр у 1868 годзе ў Мінску.

**Хатэнка Антаніна** – паэтка, культуролаг. Аўтар кніг «Здзічэлае рэха вясны», «Зніч крыжовых дарог», «Чалавек на далоні Сусвету», «Тры грацыі» і інш. Нарадзілася ў 1956 годзе ў вёсцы Зенькаўцы на Зэльвеншчыне. Жыве ў Мінску.

**Цвірка Кастусь** – паэт, празаік, перакладчык, фалькларыст, этнограф. Аўтар кніг «Рака дарог», «Зялёная Дуброва», «Чарназём», «Слова пра Сыракомлю...», «Лодка долі тваёй», «Лісце забытых алеяў», «Воўчая выспа» і інш. Лаўрэат прэміі «Залаты апостраф» (2011). Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Зялёная Дуброва на Старадарожчыне. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры передруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Юрыя Іванова, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.